# PLATO

## THE REPUBLIC

In Byelorussian

Translation from Greek text
and
Preface
by
John Piatroūski

Gainesville, Florida, USA
1981

# Уводнае слова

Політэя Плятона зьяўляецца ўнівэрсальнаю кнігаю. Разам зь іншымі дыялёгамі яна была сьветачам для чалавецтва. Міналі стагодзьдзі за стагодзьямі, чалавек часта губіўся ў васяродзьдзі розных ідэялягічных напрамкаў і тады зіяньне мудрых выказваньняў прыходзіла яму на помач.

Пасьля доўгае і карпатлівае працы, я нічога іншага не дазнаю, як толькі радасьць з прычыны пераказаньня маім суродзічам, - усюды, дзе яны жывуць,- яшчэ аднаго дыялёгу вялікага старажытнага грэцкага філёзафа.

Паволі на працягу дваццаці гадоў дасьпявала праца, якую Плятон меў на ўвазе і глядзеў на яе,як на найважнейшую задачу свайго жыцьця. Каля году 374 п. н.э. ці крыху пазьней Політэя выйшла ў сьвет, праца, якая ўжо з прычыны свайго абыйма была нечым новым.1/

Політэя /Πολιτεία/ у нашым часе, дзеліцца на дзесяць кнігаў і ўсе яны разам займаюцца пытаньнем характару чалавека і арганізацыяю людзкае супольнасьці. Сам тытул ужо падсоўвае думку, што гэтая кніга, якая мае на ўвазе філязофію, хутка вядзе да спасьцярогі, што гэта будзе кніга і маральнае філязофіі. І гэта праўда, бо філязофія без маралі - наагул не зьяўляецца філязофіяю.

Політэя, як слова, у грэцкім лексыконе,агортвае сабою цэлы рад паняцьцяў: суадносіны грамадзяніна да гаспадарства, права грамадзяніна, грамадзянства, быт /жыцьцё/ грамадзяніна, жыцьцё гаспадарсьцьвенага мужа, урад, канстытуцыя, рэспубліка, гаспадарства, княства.

У Політэі чытаем дыялёг на тэму гаспадарства. Мы прыслухоўваемся да выказваньняў філёзафа і ня можам дастаткова надзівіцца зь ягонае мудрасьці. Як глыбокаю гэтая мудрасьць мусіла быць, калі яна здольнаю сталася даць напрамак нашай цывілізацыі, пацягнуць за сабою пакаленьні людзей на працягу тысячалецьцяў і паказваць духовыя шляхі да што раз большага прагрэсу і лепшае будучыні. Была яна заўсёды нагэтулькі сьвежаю і гэтакаю дайшла да нас. Тут знаходзім протатып нашых гаспадарсьцьвеных

========================

1/ Ульрых Фон Вілямовітц-Моельлендорфф, Platon - sein Leben und seine Werke, Berlin, Frankfurt Am Main, 1948, б. 308.

уладжаньняў, нашае адукацыі і нашага спосабу думаньня, нашага пераймaньня з найлепшых Плятонавых узораў з аднaчасным выкрыцьцем розьніцы тасаваньня філязафічнае думкі калісьці, з частаю адсутнасьцю апошняе сярод сучасных нам народаў. Кажны мінулы этап падзеяў чалавека сьведчыць аб гэтым. І сягоньняшні этап, намі перажываны - чакае на сваё апошняе слова Гісторыі.

Найболей вымоўны манумэнт духа Плятона і найболей важная крыніца для нашага пазнаньня ягонае дактрыны знаходзяцца ў творчасьці самога філёзафа. Ягоная літарацкая дзейнасьць распасьціраецца на найбольшую частку ягонага жыцьця - пэрыяд большы, чымся пяцьдзесят гадоў - і, дзякуючы выняткавай прыхільнасьці долі, сталася гэтак, што ніводная зь ягоных працаў, якія ён хацеў апублікаваць, не прапала ў часе. Гэта ў кажным выпадку зьяўляецца сьцьверджаным выснавам на падставе таго факту, што да нас не дайшоў ніякі, годны нашага давера, сьлед іншых Плятонавых твораў ад тых, якія мы ўжо аддаўна маем упарадкавана выданымі друкам. 1/

Хоць Палітэя мае ў сабе нешта з паэзыі і пропаведзі, усё-ж, у першую чаргу яна зьяўляецца кнігаю філязофіі. Затым, вывучаючы яе, мы мусім зьвярнуць асаблівую ўвагу на самое разважаньне, парадак і мысьлёвае павязаньне. Філёзаф - гэта чалавек большае сілы думаньня, чымся іншыя людзі, чалавек, каторы думаў болей, чымся іншыя адносна прадмету агульнага зацікаўленьня. Уся філязофія мае быць крытычнаю; і, разважаючы адносна падзеяў і зьяваў да канца, філёзаф неабходна прыходзіць да выснаваў іншых ад тых, якія людзі займаюць і часта супярэчных ідэяў, якія займелі ўжо месца ў ягоным асяродзьдзі. Часта, запраўды, выснавы, да якіх ён даходзіць, на першы пагляд, ня розьняцца ад тых, якія ўтрымліваюць звычайныя людзі, і ўсё-ж, розьніца паміж філёзафам і людзкаю масаю астаецца вялікаю, бо, выходзячы з тых самых фактаў і, прыходзячы да падобных выснаваў, у міжчасе ён прайшоў праз працэс думаньня, і праўда, якую ён утрымлівае, зьяўляецца прадуманаю праўдаю. І тое, што на першы пагляд выдаецца тою самаю праўдаю, і нават можа быць выражана тымі самымі словамі, якія ўжывае кажны чалавек, і усё-ж, зьяўляецца вельмі іншаю праўдаю для філёза-

===================

1/ Др. Эдуард Цэльлер, Platon und die ältere Akademie.

фа, якая зьмяшчае ў сабе вялікую частку таго, што не зьяўляецца прысутным у ўмыслах большае часткі людзей. У кажным выпадку, ці высновы, да якіх прыходзіць філёзаф, зьяўляюцца тымі, якія пакрываюцца з нашымі паглядамі, або тымі, якія мы не падзяляем, аднак, першае, што мы маем учыніць - гэта сьледаваць за ягоным досьледам. Мы павінны паўзірацца,як ён дайшоў да сваіх высноваў перад тым, як пачнем крытыкаваць яго.i/

Для студыяў Політэі гэтакі спосаб ёсьць трудным. Плятонавыя ідэі часта выражаныя гэтакім спосабам, што да якога мы не зьяўляемся прызвычаенымі. Гэта часта творыць сабою звычайную труднасьць для ўсіх, хто ўглыбляецца ў філязофію. Бо прыйшоўшы да ідэяў, непадобных да тых, што маюць людзі, філязофія зусім ня розьніцца ад іншых навукаў; але тады,калі элемэнтарныя канцэпцыі навукаў зьяўляюцца бадай-што зафіксаванымі, і значэньне ўжываных тэрмінаў можа быць спасьцярожным зараз-жа або хутка пазнаным, у філязофіі рэч маецца інакш; бо аб'ект філязофіі зьяўляецца, параўнаўча, агульнага характару, астаючыся галоўна аснаўным фактам адносна людзкае веды і людзкае маральнасьці, і ў падобных дыскусыйных аб'ектах ня можа быць абсалютна ўсталенае тэрміналёгіі. Часамі і ў Плятона або іншых грэцкіх філёзафаў, важнасьць таго, што сказаным ёсьць, зараз-жа высьлізґваецца нам, затым, што яно выражана вельмі простым спосабам. Апрача таго, Політэя мае выняткавыя труднасьці, выплываючыя з асаблівасьцяў ейнае хвормы і мэтаду выражэньня ўсіх элемэнтаў у іхным павязаньні. Кажная вялікая кніга мае свае характэрныя рысы, якія маюць быць вывучанымі, падобна як характэрныя рысы чалавека.ii/

Тэма, якою Сакратас займаецца, а яшчэ болей Плятон, - бо тут пачынае ён гаварыць праз Сакратаса, - зусім не зьяўляецца гаспадарства, але справядлівасьць, і яе шукае ён толькі ў таварыстве людзей, каб знайсьці яе ў душы паасобнага чалавека. Тут якраз і ляжыць тое, што паасобны чалавек, які гэтаксама зьяўляецца і суўзьвеньнем грамадзтва, праяўляе гэтую мужнасьць адносна іншага; гэтаксама праз суму справядлівых людзей, якія належаць да сябе і твораць сабою справядлівую групу, якая, зноў, паасобнага чалавека чыніць здольным выконваць акты спра-

========================

i/ Рычард Л. Нэттльшып, Lectures on The Republic of Plato, London, 1962.

ii/ Там-жа.

вядлівасьці. Але існасьць справядлівага гаспадарства, зразумела, разьвіваецца падобна, як мужнасьць адзінкі. Тут ня маем дачыненьня з рэформаю існуючага парадку, але з новапабудоваю, якая ня мае ніякага іншага фундамэнту, як толькі самую натуру чалавека. /Вільямовітц/.

Плятон хацеў быць філёзафам і тых, што вучыліся ў яго – учыніць філёзафамі; але слова, узятае ў ягоным першабытным значэньні, мае быць разуметым, як Сакратас яго разумеў. Яны павінны вучыцца і ніколі ня чуцца змучанымі; тое пазнаньне любіць і шукаць яго, але і гэта яшчэ нічога: каб яны з гэтым пазнаньнем належна абыходзіліся і, каб праз гэта займелі ў жыцьці посьпех, аб чым гэльлены выражаюцца, ужываючы адно і тое самае слова, або каб яшчэ сваю мову прыгажэйшаю зрабіць; каб гэтым эўдаймонію i/ асягнуць – супакой уласнае душы, унутранае шчасьце... Плятон усё гэта мусіў выдатна дасьведчыць. Вось гэтага Плятона і гэтую філязофію паказаць, зьяўляецца маім заданьнем.ii/ Шлях, уздоўж якога ён крочыць і які ён ведае, ёсьць моцнаю і суровую навукаю. Гэта ён прынёс яе на сьвет, і ніхто іншы, як толькі ён; хто гэтым шляхам ня можа ісьці або ісьці не жадае, паводля Плятона, не зьяўляецца філёзафам і не павінен уважаць сябе за гэтакага. І ня гледзячы на ўсё, Плятон астаецца сьведамым, што ўльтыматыўнае і ў найвышэйшай ступені навуковае не знаходзіцца ў сфэры довадаў; яно можа быць увыпукленым толькі на дарозе ўнутранага перажываньня. Але гэтае перажываньне даецца толькі таму, хто ўступіў на шлях пазнаньня, філязофіі ў сэнсе, як Плятон яе разумеў, і ніколі з гэтага шляху ня зыходзіць.iii/

Чалавек – хто ён?

Як мае чалавек жыць, каб пражыць жыцьцё шчасьліва?

Калі чалавек мае жыць грамадзка – якая арганізацыйная хворма найболей адказвае яму?

На шляху да свайго шчасьця – ці ня сам чалавек стаецца найбольшаю праблемаю для сябе?

Шчасьце – што гэта такое?

Вось некалькі з пытаньняў, на якія Плятон, сын Арыстона – найбольшы філёзаф старажытнае Грэцыі –

=====================

i/ Εὐδαιμονία, шчасьце, унутраная радасьць, супакой душы.

ii/ Вілямовітц, там-жа.

iii/Вілямовітц, там-жа.

шукае адказу. Маючы гаспадарсьцьвены камплекс на ўвазе і чалавека, Плятон піша свой дыялёг п.т. Палітэя.

Гаспадарства, кажа Плятон, узьнікае тады, калі кажны з нас не зьяўляецца ў стане абясьпечыць самога сябе, і патрабуе яшчэ шматлікае. Затым, калі нехта мае лічныя патрэбы, тады кліча таго і іншага, каб забясьпечыць гэтыя патрэбы; адзін бярэ сабе памочніка з аднае прычыны, а іншы - зь іншае. І калі гэтыя ўдзельнікі сузграмаджваюцца супольна ў вадно аселішча, тады гэтакую супольнасьць называем гаспадарствам. /Палітэя, 369с/. Затым тое, пра што мы будзем чытаць у Плятона гэтым разам, будзе адносіцца да гаспадарства, ягоных інстытуцыяў, грамадзян...

Гаспадарствам можна назваць кажнае скупішча адзінак дадзенага віду. Адзінкі людзей грамадзяцца ў сваю супольнасьць, кажам мы, - у грамаду, места, поліс, як казалі грэкі, гаспадарства, і працэс гэты дыктуецца неабходнасьцю, выплываючаю зь людзкае натуры. Вілямовітц /там-жа, б. 3II/ гэтак выражаецца: Людзі, цялесныя носьбіты душы, ... ня жывуць паасобку, але ўжо з факту нараджэньня грамадзяцца ў супольнасьць. Супольнасьць, хай сабе ўзьнікае з прычыны сародненасьці крыві, ці з прычыны сэксуальнага акту або з прычынаў радовага сваяцтва, зьяўляецца гаспадарствам.

Гэтакі спосаб жыцьця найболей адказвае чалавеку, паколькі чалавек зьяўляецца homo sapiens - інтэлігэнтнае пачуцьцёвае існаваньне, якое кіруецца розумам. Калі рэч так маецца, тады чалавек шукае гэтакую арганізацыйную хворму, якая будзе найболей адказваць усім вымаганьням рацыянальнага існаваньня.

Калі Плятон займаецца плянам пабудовы гэтакага гаспадарства, у якім людзі жылі-б шчасьліва вычуваецца ў яго павага і стараньне пераканаць прысутных, што тут маецца дачыненьне зь неспатыканым да гэтае пары заданьнем. І, маючы перад сабою вобраз характару чалавека і бегу людзкае гісторыі, ён выражае прароцтва цяжкага шляху людзкасьці і выхад для яе ў хворме адзінае альтэрнатывы:

Пакуль філёзафы ня стануцца каралямі, або каралі і князі на гэтым сьвеце не займеюць духа і моцы філязофіі, і пакуль палітычная велічнасьць і інтэлектуальная мудрасьць ня злучацца ў вадно, і пакуль людзі паспалітыя, якія цяперака імкнуцца да аднаго ці другога паасобку, ня будуць змушанымі адый-

сьці на бок, - да гэтае пары гаспадарствы ніколі ня выратуюцца ад сваіх злыбедаў ані - як я думаю - людзкі род, і да тае пары ўладжаньне нашага гаспадарства, якое мы толькі што апісалі слоўна, ніколі ня прыйдзе да існаваньня, як нешта магчымае і ніколі ня ўбачыць сонечнага сьвятла. Вось чаму я гэтак доўга ня мог адважыцца выказаць свае думкі, бо я бачыў, што ўсё гэта ў сваей цэласьці будзе супярэчыць агульнапрынятаму перакананьню; бо быць чалавекам перакананым, што ні ў якім іншым гаспадарсьцьве ня можа быць шчасьця ў прыватным ці грамадзкім жыцьці, запраўды, ёсьць абцяжваючаю рэчаю для яго. /Пол., V, 473d/.

Тут Плятон выразна гаворыць, што ў вабставінах існуючае мэнтальнасьці кіраўнікоў паасобных гаспадарстваў, якая бачыць толькі сваю нацыянальную гордасьць, свой асабісты дабрабыт, выключную свабоду для сябе і абмежаваную для слабейшага, з тэндэнцыямі панаваньня над сьветам, шчасьлівае гаспадарства ня можа быць пабудаваным. У падобнай атмасфэры адказныя становішчы пазайманымі астаюцца духова маленечкімі людзьмі, але з сільнымі локцямі іхнага спрыту, неадукаванымі і гэтым самым няздольнымі выканаўцамі і вырашальнікамі гаспадарсьцьвенага жыцьця. Усё гэта мае быць спыненым: усе гэтыя паспалітыя людзі маюць адыйсьці на бок і іхныя месцы маюць заняць людзі адукацыі: гэта значыць, людзі, якія ўзгадованы ў філязофіі. Гэтыя толькі,абдораныя веданьнем, дабрынёю, тактам і вычуцьцём абыходжаньня з грамадзянамі і людзьмі, кіруючыся мудрасьцю справядлівасьці - яны вывядуць народы на шлях свабоды праўдзівае, адукацыі і агульнага дабрабыту. Вось гэтакую альтэрнатыву прапануе Плятон і тут-жа дабаўляе - калі не, калі гэтая альтэрнатыва ня будзе прынятаю, тады няма ратунку ад злыбедаў. Вось тут, як чытаю, Плятон выступае перад намі як прарок ува ўсей сваей славе і несьмяротнасьці. У нашым часе, што-найменей тэорэтычна людзі даходзяць да простае праўды ў духу сакратычным, калі яны кажуць, што "ніякі народ на сьвеце не зьяўляецца абясьпечаным што да свае палітычнае свабоды, пакуль усе народы ня станупца свабоднымі". 1/

У добраўладжаным гаспадарсьцьве грамадзяне жывуць у атмасфэры палітычнае свабоды; свабода сло-

=================

1/ Рональд Рэйґэн, "Беларуская Моладзь", №51 - 52, б. 5.

ва для агульнага поступу і дабрабыту стаецца няўхільнаю прадумовінаю. Найвышэйшым аўтарытэтам зьяўляецца права, аўтарамі якога і адміністратарамі будуць філёзафы, гэта значыць людзі, як носьбіты адукацыі, вычуцьця гуманнасьці, шляхэтнасьці і дабрыні, - што́ ў Плятона носіць характар духовае арыстакрацыі.

Пачынаючы ад дня нараджэньня і да дня сьмерці, ніякі грамадзянін не павінен дазнаць голаду; адукацыя, узгадаваньне, школеньне, як падрыхтова да выконваньня абавязкаў і працы ў грамадзе, запэўніваюцца ўсім грамадзянам; кажны грамадзянін бесперашкодна мае доступ да добраслаўленьняў мэдычнага мастацтва.

Плятон ня толькі бачыць велічнасьць свайго гаспадарства, але ён і сьведамым астаецца што да труднасьцяў, якія вяжуцца з рэалізацыяю гаспадарства, якое ён трымае ў сваей сьведамасьці:

Калі для выдатных людзей у філязофіі, кажа Плятон, узьнікла калі-небудзь у бязьмежнасьці мінулых вякоў або ў нашых днях неабходнасьць узяць на сябе абавязак дагляду над гаспадарствам - у якой-небудзь барбарскай краіне, па-за межамі нашага далягляду - або, калі гэтакая неабходнасьць узьнікне пазьней, мы гатовы рашуча бараніць пагляд, што гэтакая гаспадарсьцьвеная канстытуцыя была, ёсьць і будзе, калі ўжо лепшы пагляд выяўляецца валадаром гаспадарства. Урэчаісьненьне гэтакае канстытуцыі зьяўляецца ў межах магчымасьці, а пра немагчымае мы не гаворым. А што гэта трудна - дык і мы прызнае́м. /Пол., 499cd/.

Хворма філязафічнага дыялёгу знаходзіць свой пачатак у Сакратаса, як першапачаткавая грэцкая хворма абсэрвацыі фізычнага сьвету /пытаньні: што такое зямля, чым ёсьць сонца, месяц, трава, вада, агонь, паветра.../, дзе пытаньне і адказ самі напрашваліся на вусны. Сакратас пражыў сваё жыцьцё ў гутарцы. Гэта быў ён, каторы сілаю свайго імпульсу ўзмоцніў Плятона пісаць у хворме дыялёгу. Ён казаў людзям тое, што́ меў казаць, не ў кніжнай хворме, а казаў сваім жыцьцём. Ён разгортваў свае ідэі на дарозе кантакту зь людзьмі і асабліва з маладымі людзьмі. Чыніў ён гэта, дзякуючы таму, што адчуваў у сабе вялікую сілу. Быў ён чалавекам гэтакага калібру, што, калі спаткаў яго хто-небудзь або ён спаткаў каго, праяўляў самога сябе як гаспадар у гутарцы. У ягоным выпадку, затым, ставалася відавоч-

ным, што філязофія зьяўляецца жывою рэчаю, узмоцненаю на шляху супольнасьці з жывымі розумамі. Мы звычайна думаем пра гэта, як пра нешта вельмі неасабовае і абстрактнае, якое нічога ня мае супольнага з намі, але стаецца ясным, што ўся філязофія мае дачыненьне зь нечым, што ляжыць у характары людзей, а розьніцы ў філязофіі зьяўляюцца розьніцамі, што знаходзяцца на дне людзкае натуры. Плятон займае месца паміж Сакратасам і сучасным пісьменьнікам у сфэры філязофіі. і/

На марґінэсе тут трэба адцеміць, што дыялёг, як размова паміж двума або некалькімі людзьмі на паважную тэму, пасьля Плятона, перакінуўся ў Рым, дзе стаўся хвормаю частага філязафічнага разважаньня для многіх ведамых людзей пяра, як Цыцэрон і ін. У часе сярэднявечча як і ў пары Рэнэсансу і Рэфармацыі дыялёгам, як літаратурна-публіцыстычным жанрам, карысталіся ўсе выдатныя людзі. На Беларусі, асабліва ў пары найбольшага насіленьня ўплываў протэстантызму як і контррэфармацыі, дыялёг часта ўжываўся сторанамі.

Дасьледчыкі грэцкае старажытнасьці кажуць нам, што Плятон пісаў свае дыялёгі моваю, якая лучыла ў сабе прозу і верш. Ягоны сказ пабудаваны прозаю, але ў ёй спасьцярожным ёсьць рытм, тыповы для паэзыі, пры адначасным даборы прыгожых словаў і адпаведных выражэньняў з глыбінёю думкі. І гэта ня толькі выплывала зь ягонага характару, як індывідууму, але ставалася гэта загадам апавяшчанае ім філязофіі. Дый сама філязофія ёсьць тым нечым, што, побач праўды, этыкі, клала асаблівы націск на паняцьце прыгожасьці, красы. Тут і той факт яшчэ характэрны трэба браць пад увагу, што сам Плятон перад сустрэчаю з Сакратасам быў паэтам. І толькі супольнасьць з вучыцелем-філёзафам, якім быў Сакратас, Плятон, спальваючы свой паэтычны даробак, назаўсёды парваў з паэзыяю.

Справядлівасьць у Плятона зьяўляецца бусоляю нармальнага, у сэнсе этычным, жыцьця чалавека і гаспадарства; яна ключ да вырашэньня ўсіх спрэчных праблемаў паміж паасобнымі людзьмі як і паасобнымі народамі.

Філёзафы ўсіх народаў і вякоў былі аднадумны, што да важнасьці паняцьця справядлівасьці.

====================

і/ Рычард Л. Нэттльшып, там-жа.

Справядлівасьць /δίκη, δικαιοσύνη/ - нейкі рэфлекс існуючага ў душы чалавека пачатку. Яна, справядлівасьць, распасьціраецца на шматлікія аспэкты ў жыцьці чалавека і стаецца натуральнаю кантралюючаю сілаю. Пра справядлівасьць чытаем бадай-што ўва ўсіх Плятонавых дыялёгах, але ў дыялёгах Політэя і Ґорґіяс яна стаецца цэнтральнаю тэмаю. У першым дыспута вядзецца паміж Сакратасам і Трасімахосам, у другім - паміж Сакратасам і Кальлiклесам. Сама тэма зьяўляецца ўнівэрсальнаю і нагэтулькі фундамэнтальнаю, што яна сярод дыскутуючых выплывае зноў і зноў. Зь мінаньнем тысячагодзьдзяў зьіначваюцца хвормы дыскусыі, тэхніка вядзеньня яе як і людзі, але сама тэма астаецца жывою і заўсёды актуальнаю.

У першай кнізе Політэі Плятон займаецца рознымі аспэктамі справядлівасьці і імкнецца ўдыскусыі вывесьці дэфініцыю яе. i/

У чалавеку маюцца першапачаткі, якія ў супрацоўніцтве між сабою твораць тое, што мы можам назваць актам справядлівасьці. Яно выступае тады, як Плятон кажа, калі кажная частка павінна выконваць працу, прадназначаную ёй да выконваньня.

Плятон кажа, што ёсьць справядлівасьць гаспадарства, ёсьць справядлівасьць чалавека: без справядлівага чалавека ня будзе справядлівага гаспадарства /Пол., 435b/.

Праўдзівую дэфініцыю Плятон кладзе перад чытачом, зь ягоным, як звычайна, нешмананьнем што да прэцызыі і выдатнасьці, але сьцьверджаную пры трох розных нагодах у часе дыскусыі адносна справядлівасьці, як выражэньне дзейнага чыньніка; хай сабе чалавек ці зарганізаванае цела, дзе кажны са складовых элемэнтаў выконвае сваю ўласную працу: ii/

Калі рамесьнік, памочнік і старожа выконваюць ім прадназначаную працу - гэта й будзе справядлівасьць, гэта і места ўчыніць справядлівым. /434c/.

Мы мусім памятаць, затым, - кажа Сакратас, - што кажны з нас выканае свой абавязак, і астанецца справядлівым, калі кажная частка ягоная будзе выконваць свой абавязак.

====================

i/ Да нас дайшла вестка, што Спэўсыппос, грэцкі філёзаф, вучань і пляменьнік Плятона, першы ўводзіць паняцьце дэфініцыі. Ён казаў, што дакладная дэфініцыя дадзенае рэчы ёсьць немагчымаю, пакуль няведамымі астаюцца ўсе характэрныя азнакі гэтае рэчы, якія чыняць яе адменнаю ад усяго іншага.

ii/ Н. Р. Марфі, The Interpretation of Plato's Republic, Oxford, Oxford University Press, 1960, 15.

Ці пойдзе калі-небудзь справядлівы чалавек ці грамадзянін на гэтакі чын, як рабаваньне сьвятынь або крадзежа, або здрада ў вадносінах да свайго сябры ці свае бацькаўшчыны?

Ляпей можна бачыць тое, пра што тут Плятон гаворыць, калі возьмеццапад увагу, што антытэзаю справядлівасьці будзе несправядлівасьць; і ў аналягічным павязаньні пра несправядлівасьць аўтар Політэі /444b/ гаворыць:

Ці не павінна несправядлівасьць выражацца разладзьдзем сярод трох першапачаткаў: уваходжаньнем не ў свае справы, закалотам і падбухторваньнем пэўнае часткі душы супроць цэласьці душы з мэтаю захопленьня беспраўнае ўлады, на дарозе бунту падуладных супроць праўнага князя, пад уладаю якога яна павінна знаходзіцца. - Вось гэта, я думаю, мы будзем цьвердзіць адносна несправядлівасьці, бо яна зьяўляецца сумяціцаю і памылковасьцю розных частак душы, іхнаю разнузданасьцю, баязьлівасьцю і невуцтвам, і кажнаю іншаю хвормаю заганы. І калі будзе, - кажа Плятон далей, - пазнанаю натура справядлівасьці і несправядлівасьці, тады, значэньне несправядлівага паступку і таго, што ў нашым разуменьні несправядлівым ёсьць, або, зноў, паступаць несправядліва, гэтаксама станецца выразна ведамым.

І зноў Плятон паўтарае: прычына гэтага ёсьць тая, што кажная частка, што знаходзіцца ў душы, ведае сваю справу, гэта значыць, у прадмеце кіраваньня або быць кіраваным.

На іншым месцы Плятон знаходзіць дэфініцыю ў словах: Справядлівасьць - гэта мужнасьць, якая заключаецца ў даньні [і адданьні] кажнаму чалавеку таго, што належыцца яму /433e/. Гэта вельмі важнае адкрыцьце, учыненае намі. І ягоная важнасьць будзе ўзрастаць, калі замест слова "чалавек" увядзем слова "народ". Калі ад дадзенага народу іншы народ забраў частку зямлі і жыхароў яе пакрыўдзіў і паняволіў, і ня хоча пусьціць на волю людзей і аддаць натуральнаму і праўнаму ўласьніку зямлю, дык гэта будзе несправядлівасьць. Гэта будзе стан несправядлівасьці. І ўласьнік будзе чуцца пакрыўджаным. І гэтакі стан несправядлівасьці будзе трываць да тае пары, пакуль, у сузгоднасьці з Плятонаваю дэфініцыяю, родная частка зямлі ня будзе вернута пакраўджанаму несправядлівасьцю народу, а жыхары яе знойдуцца на свабодзе; коратка, пакуль не наступіць справядлівасьць або адданьне пакрыўджанаму народу таго, што яму, паводля натуральнага права, належыц-

ца, да гэтае пары трываціме стан варажнечы з пачуцьцём крыўды, які раней ці пазьней прывядзе да напружанае дыскусыі, спрэчкі, вайны. Разумны дыялёг паміж старанамі – гэта адзіная мудрая разьвязка ўпаблытаных сягоньня міжнародных узаемадачыненьнях. Хто гэтак чытае Плятона, зьяўляецца студэнтам першае Плятонавае Акадэміі. Вялікая гэта рэч і вялікі гонар!

У нашым пазнаньні зьместу дыялёгаў мы павінны мець на ўвазе той распашыраны сягоньня сярод людзей памылкавы пагляд, які праяўляецца ў факца зьнеахвочаньня да ўсякага роду справядлівасьцяў як і права. Дзе? што вы, гаспадару? дзе ёсьць гэтакая рэч сягоньня, як справядлівасьць? – чуем мы часта заражаныя цынізмам пытаньні. Бязумоўна, той, хто ня верыць і ня прызнае прысутнасьці таго ці іншага зьявішча на сьвеце, для гэтакага дадзенае зьявішча ня існуе. І той, хто не прызнае справядлівасьці,як гэткае, і ўважае, што яе нямашака на сьвеце,гэтакі чалавек ня будзе шукаць яе, дамагацца і змагацца за яе. І калі гэтакага пагляду трымаецца грамадзкі дзеяч, тады ясным стаецца, што ён ня толькі ня служыць народу свайму, але стаецца перашкодаю ў тым часе,калі народ ягоны шукае і дамагаецца права і справядлівасьці для сябе.

Наша слова "адукацыя" лацінскага паходжаньня і значыць гэтулькі што навука, асьвета, навучаньне; сюды павінна быць дададзена і ўзгадаваньне, як свайго роду ссумаваньне асягненьняў у адукацыйным працэсе з пашырэньнем гарызонтаў інтэлекту і глыбіньняў душы як вынік сукупнасьці асьветы разам з набытым дасьведчаньнем і агладаю свомаю для цывілізаванага чалавека.

Для абазначэньня гэтых паняцьцяў грэкі мелі, сярод іншых тэрмінаў, слова παιδεία, якое адносілася да ўзгадаваньня, навучаньня, навукі, асьветы; Вэрнэр Еґэр дадае сюды яшчэ адно значэньне – першапачаткавая ўнівэрсальная гуманітарная культура.

Адукацыя можа быць фармальнаю або нефармальнаю. Адукацыя нефармальная, ці, як яе агульна прынята называць, <u>свабодная навука</u>, [1] гэта ёсьць той мамэнт у Плятона, на які філёзаф кладзе асаблівы акцэнт,і свабодная навука трывае ў чалавеку ад дня нараджэньня і аж да сьмерці.

Фармальную адукацыю дзеці і моладзь атрымліва-

================

[1] Існуе выражэньне "вышэйшая адукацыя", якая часта нічога ня мае супольнага са свабоднаю навукаю.

юць з мэтаю займеньня агульнае граматы і падрыхтовы іх да абавязкаў і заняткаў у іхным пазьнейшым жыцьці.

Сама ідэя адукацыі вельмі старадаўная, асабліва практыкаваная ў Грэцыі. Яна заключалася ў тым, каб навучыць дзяцей ужываць іхны розум, каб быць найляпей падрыхтаванымі што да справаў, якія адносяцца да сьвету і ўладжаньняў яго. Сакратас падтрымліваў пагляд, што належна трэніраваны розум найбарждзжэй будзе хіліцца ў напрамку мужнасьці і ён усе натугі кіраваў на адукацыю хлапцоў і маладых мужчын, маючы гэта на ўвазе. Грэцкая адукацыя канцэнтравалася пераважна на вывучаньні Гомэра, матэматыкі і музыкі, як і на фізычным практыкаваньні.

Наша тэма, у першую чаргу, мае на мэце вышэйшую адукацыю. Вышэйшая адукацыя знаходзілася ў руках філёзафаў і асабліва сафістых; і было гэта перад пакліканьнем да жыцьця Акадэміі і філязафічных школаў. У адукацыі Плятон бачыць фактар, які вядзе да палепшаньня патрэбнага для гаспадарства чалавека. Лепшы, наўзорны чалавек мае стануць на кіраўнічае становішча ў новапабудаваным і прыкладным гаспадарсьцьве.

Ведама, у Політэі Плятон займаецца гаспадарствам, і перад усім мужнасьцю/ἀρετή/. Тут маецца на ўвазе здаволеных людзей, каб не сказаць, шчасьлівых. Якія трэба мець кампанэнты, каб пабудаваць спраўнае гаспадарства? У Політэі чытаем пра шматлікія праявы, якія вяжуцца з жыцьцём гаспадарства. Але ўсё гэта, узятае разам, узалежніваецца ад таго, што грэкі называлі ἐτική - этыка або маральнасьць. Затым можна і трэба сказаць, што ў гэтай вялікай кнізе, Політэі, Плятон займаецца мужнасьцю або маральнасьцю.

Калі чалавек пашырае свой інтэлектуальны гарызонт, гэта чыніць яго сьведамым шматлікіх рэчаў, якія недаступнымі астаюцца для неадукаванага чалавека. Веданьне чыніць чалавека сьведамым у галіне дабра і зла. Маючы перад сабою да выбару дабро і зло, асьвечаны чалавек, паводля Плятона, заўсёды выбірае дабро. Апрача гэтага адукаваны чалавек стаецца добрым чалавекам; добрым чалавекам стаецца чалавек сільны - у дадзеным выпадку сільны ў сфэры і з прычыны свае адукацыі. Маючы пры гэтым разуменьне патрэбаў, скажам, грамадзян свайго краю, разумны чалавек будзе імкнуцца ісьці на спатканьне гэтым патрэбам. Гэтак паступае ўзгадованы чалавек. Ягоная супроцьлежнасьць - чалавек неўзгадованы, гэтаксама

можа быць добрым, і ён можа мець удачы ў сваей грамадзкай дзейнасьці, аднак ягонае паводжаньне - гэта вынік прыпадкавасьці і Сакратас параўноўвае яго да сьляпога чалавека, які крочыць па правільнай сьцежцы, але выстаўлены на сталую небясьпеку кажнае хвіліны ўпасьці ў памылку. Гэта, натуральна, у лепшым выпадку. Горай бывае, калі неўзгадованы чалавек стаецца брутам, займае публічнае становішча і надужывае яго супроць свайго брата і суродзіча.

Адукаваны чалавек кіруецца прынцыпамі, чалавек неадукаваны кіруецца прыпадкавасьцю, кажучы: нейк там будзе. Чалавек узгадованы кіруецца плянаваньнем наперад, чалавек без узгадаваньня нічога ня ведае пра гэтакае плянаваньне.

Усе намі прыведзеныя выпадкі мужнасьцяў Плятон усуадношвае да гаспадарсьцьвеных кіраўнікоў на адказных становішчах. Гэтакімі кіраўнікамі маюць быць філёзафы. І галоўнае, калі Плятон гаворыць пра адукацыю ён гаворыць пра праўдзівую адукацыю: адукацыю філязафічную.

Трэба падчыркнуць, што філязофія можа быць ахарактэрызаваная як асьвета. У Плятона філязофія зьяўляецца навукаю прынцыпаў /Юбэрвэґ/, яна на сваім узвышшу набліжаецца да пазнаньня Дабра. Дабро, вучыць нас Плятон, зьяўляецца найвышэйшаю мэтаю імкненьняў чалавека, якая на канцы свайго завяршэньня бачыць радасьць і шчасьце чалавека. /Пол., 502 - 509с/.

Паводля Плятона, каторы быў монотэістым, каронаю філязафічнае адукацыі зьяўляецца пазнаньне і асэнсаваньне адукацыі ўсіх адукацыяў, што ў аўтара <u>Політэі</u> выражаецца словамі: ...у сьвеце пазнаньня ідэя Дабра выступае, як апошняя мяжа, і спасьцярожнаю яна можа быць толькі пры наяўнасьці натугі; але, калі і станецца спасьрожнаю, дык толькі ў якасьці высновы, што якраз яна зьяўляецца ўнівэрсальнаю Прычынаю ўсіх рэчаў правільных і прыгожых, і яна зьяўляецца крыніцаю і сьвятла, і ягонага Валадара ў гэтым спасьцярожным сьвеце, і яна зьяўляецца беспасярэднюю крыніцаю, пад уладаю якое знаходзяцца і праўда, і разуменьне. І гэта зьяўляецца магутнасьцю, на якую павінен узірацца кажны той, хто хоча разумна дзейнічаць гэтак у прыватным, як і ў грамадзкім жыцьці. /<u>Політэя</u>, 517с/.

Бог творыць толькі тое, што справядлівым ёсьць і добрым,... Бог не зьяўляецца прычынаю ўсяго, але толькі дабра. Бог ёсьць адзін і той самы, і бязьменны. /Пол., 380е/.

Гэтакаю ёсьць <u>Політэя</u> і яе аўтар; гэтакаю ёсьць

мудрасьць і мужнасьць, справядлівасьць і гуманны падыход да чалавека; гэтакаю ёсьць філязафічная праўда, якая з аддаленасьці мінулых вякоў, прамаўляе да нас сягоньня.

Вілямовітц, зьвяртаючыся да людзей адкрытага сэрца і розуму, калісьці казаў: Прадстаўнікі старажытнае навукі ўсюды там знаходзіліся ў першых радох, дзе гэтага патрэба праяўлялася,... каб выступіць... за сусьветны зьвяз... Усе мы аднолькава працавалі ў напрамку досьледу тае культуры, якая для ўсіх нашых аднолькава праяўленых народных культураў, зьяўляецца супольным форумам дзеля нашага ўзаемнага культурнага дапаўненьня. Гэта зьбліжае нас. У кнізе гэтай i/ ідзе гутарка пра Плятона і ягоную Акадэмію. Паводля гэтага імя мы ўсе называем сябе: ён зьяўляецца нашым Архэґэ́там. ii/ Астаньмася вернымі яму, давайце пераможам усе разгарычэньні, усе болі і ўсе гневы і злосьці там, дзе толькі дабро гэтае можа праявіцца, дабро, якое ўсіх нас аднолькава аздаровіць, калі стаяцімем разам за свабоду досьледу ў кажнай краіне, за адзінасьць навукі і праўды,... і кажны чэсны акадэмік павінен вычуваць гэта. І гэтым кажны з нас найляпей будзе служыць сваей уласнай нацыянальнай культуры.

Ян Пятроўскі

===============

i/ Platon - sein Leben und seine Werke.
ii/ ἀρχηγέτης, першы галоўны лідэр.

калі мы адмовімся і слухаць вас?

— Напэўна не, — адказаў Ґляўкон.

— Тады будзьце пэўнымі, — сказаў ён, — што мы ня будзем слухаць вас.

І Адэімантос дадаў: [328]

— Ці-ж ня ведаеце вы, што калі сьцямнее, пачнецца конны прабег са сьветачамі на чэсьць багіні?

— Конны? — запытаў я. — Гэта зусім нешта новае. Будуць коньнікі ў руках са сьветачамі і перадаваць іх адзін аднаму на конях у бегу? Ці гэтак трэба разумець?

— Так, — сказаў Полемархос, — і ня толькі гэта, але будуць ладзіць начную ўрачыстасьць, якую вы павінны паглядзець. Пасьля вячэры пойдзем пабачым урачыстасьць, там і маладых людзей шмат можна спаткаць дый пагутарыць зь імі. Затым астаньцеся, калі ласка, і ня чынеце нічога іншага.

І Ґляўкон сказаў:

— Як выглядае, мы мусім астацца.

— Калі ты ўжо гэткае думкі, — сказаў я, — тады мы гэтак і зробім.

Пасьля гэтага мы пайшлі з Полемархосам у ягоны дом і засталі там Лісіяса і Эўтыдэмоса, ягоных братоў, гэтаксама халкедонца Трасімахоса, пэанійца Харманцідэса, і Клейтофона, сына Арыстонімоса. Дома гэтаксама быў і бацька Полемархоса Кефалёс, якога я даўно ўжо ня бачыў і які цяперака мне выдаўся вельмі пастарэўшым. Ён сядзеў на мягкім крэсьле, зь вянком на галаве, бо толькі што ён выканаў ахвяразлажэньне ў двары дому. Мы паселі каля яго, бо там навакол былі парастаўляныя розныя крэслы.

Зараз, як толькі Кефалёс убачыў мяне, ён прывітаў мяне і сказаў: —

— Ты, Сакратас, не зьяўляешся частым наведвальнікам нас у Пірэусе. А ты павінен ім быць. Калі-б я быў здольным зь лёгкасьцю, як калісьці, хадзіць у места, дык я не прасіў-бы цябе наведваць нас, але мы прыйшлі-б да цябе туды. Але цяперака ты павінен часьцей адведваць нас. Дазволь мне падзяліцца з табою спасьцярогаю: Чым болей шчазаюць прыемнасьці, зьвязаныя з целам, тым большаю стаецца для мяне патрэба духовых зносінаў зь юдзьмі і дазнаваньня прыемнасьць гутаркі зь імі. Ня ўхіляйся ад супольнасьці з гэтымі маладымі людзьмі

і будзь частым нашым госьцем, мы-ж бо сябры з табою і блізкія сабе людзі.

І я адказаў:

— Гэтаксама і мне, Кефалёс, выдаецца прыемнасьцю дзяліцца думкамі зь людзьмі старшымі векам. Бо мне здаецца, што яны выперадзілі нас на жыцьцёвым шляху, які, магчыма, давядзецца праходзіць і нам; затым, як я думаю, нам трэба распытацца ў іх адносна гэтага шляху, якім ён ёсьць — ці цярністы ён і цяжкі, а мо' лёгкі і выгадны. У вапрычонасьці ад цябе, калі ты ўжо ў гэткіх гадох, як паэты кажуць, "на парозе старасьці", хацеў-бы я даведацца, ці выдаецца табе жыцьцё цяжарам ці мо' маеш ты іншае ўяўленьне пра яго.

— Я скажу табе, Сакратас, — адказаў Кефалёс, — [329] як мне выдаецца. Людзі майго веку, быццам паводля старавечнае прыказкі, грамадзяцца разам. І вось, калі мы зыдземся, большасьць з нас наракае, успамінаючы пажаданыя прыемнасьці юнацтва — любоў, ажыўленыя гутаркі пры чашы віна, адумысная ежа, і ўсё іншае, што́ можа вязацца з гэтым — а цяперака нездаволеныя, быццам сягоньня для нас гэта вялікая страта, а тады пышна жылося; а цяпер? дый, што гэта за жыцьцё! Некаторыя наракаюць з прычыны тае бязуважнасьці, якую дазнаюць яны са староны сваіх сваякоў і будуць апавядаць табе сумную казку пра тое, колькі зла спрычыняе ім іхны стары век. Але мне, Сакратас, выдаецца, што дарэмна яны наракаюць, бо, калі-б старасьць была прычынаю зла, дык і я-б адчуваў на сабе тое самае, калі я ўжо састарэўся дый мае ўсе іншыя аднагодкі. І гэтакае дасьведчаньне не зьяўляецца вылучна маім, ані каго-небудзь іншага з тых, што я ведаю. Тымчасам, я ня раз спатыкаў людзей старшага веку, каторыя не падзяляюць гэтага пункту гледжаньня. Напрыклад, паэту Софоклесу аднойчы пры мне было пастаўлена гэтакае пытаньне: "Як ты думаеш, Софоклес, пра любоўныя ўцехі? Ці можаш ты яшчэ мець дачыненьні з жанчынаю?". — "Змоўкнуў-бы ты, чалавеча, — адказаў той, — я з радасьцю ўцёк ад гэтага, як уцякаюць ад разьюшанага і лютага дэспата". — З гэтае пары ягоныя словы часта прыходзілі мне на ўспамін. Яны яшчэ і сягоньня мне выдаюцца гэтак добрымі, як і тады, калі ён адказваў на пытаньне. Бо ў старасьці ўзьнікае поўны супакой і вызваленьне ад усіх

гэтых рэчаў: моўкне і супыняецца напружанасьць прыцяжэньня, як Софоклес кажа: мы зьяўляемся свабоднымі ад шматлікіх палкаразьюшаных дэспатаў. А ім і хатнім закалотам, Сакратас, прычына адна — ня старасьць, а самы напрамак жыцьця чалавека. Той, хто вёў упарадкаванае жыцьцё і быў чалавекам добрае душы, той у меру дазнаціме цяжар свайго веку. Але хто ня гэтакім быў, таму, Сакратас, і старасьць і юнацтва бывае абцяжэньнем.

Будучы захопленым ягонымі словамі і, жадаючы выклікаць яго на далейшую гутарку, я сказаў:

— Яно так, Кефалёс, але я думаю, што людзі наагул ня будуць перакананымі табою, калі ты будзеш гаварыць ім падобнае; яны прыйдуць да выснаву, што ты лёгка зносіш сваю старасьць не затым, што ты лёгка ўсё прыймаеш у жыцьці, але што ты зьяўляешся чалавекам вялікіх багацьцяў. Яны ўважаюць, што багатыя маюць чым ахарошыць сваю старасьць.

— Ты праўдзіва кажаш, — адказаў ён; — яны не зьяўляюцца перакананымі: — і ў тым, што́ яны кажуць, знаходзіцца нешта, хоць ня гэтак многа, як яны думаюць. Я магу адказаць ім як Тэмістоклес адказаў сэрыфійцу, каторы абразіў яго, кажучы, што ён быў слаўным не з прычыны сваіх заслугаў, але толькі затым, што быў жыхарам Атэнаў: [330] “Кілі-б ты быў грамадзянінам мае краіны, або я твае, ніводзен з нас ня стаўся-б слаўным”. І тым, каторыя не зьяўляюцца багатымі і астаюцца раздражненымі з прычыны свайго старога веку, можа быць дадзены гэты самы адказ; бо для добрага беднага чалавека старасьць ня можа быць лёгкім цяжарам, ані гэтаксама дрэнны багаты чалавек ніколі ня можа мець супакою з самым сабою.

— Магу я запытаць цябе, Кефалёс, — сказаў я, — маемасьць, якую ты маеш, большую частку яе атрымаў ты ў спадку, ці сам здабыў?

— Ды дзе-ж там самому здабыць, Сакратас! — сказаў ён. — Я, як прамысловец, займаю пасярэдняе месца паміж маім дзедам і маім бацькам. Бо дзед мой, якога імя я нашу, атрымаў у спадчыне гэтулькі сама прыблізна, колькі ў мяне цяперака, і некалькікратна пабольшыў сваю маемасьць; але мой бацька Лісаніяс давёў яе да меншых памераў, чымся я маю цяперака. І я буду зада-

воленым, калі пакіну маім сыном ня меней, але крышку болей ад таго, штó сам атрымаў.

— Вось-жа затым я і запытаў цябе, — адказаў я, — бо, як мне здаецца, ты астаешся абыякасным да грошай, штó зьяўляецца характэрным баржджэй для таго, хто атрымаў іх у спадку, чымся для таго, хто сам здабыў. Тыя, што самыя здабылі маемасьць, цэняць яе два разы гэтулькі, як выражэньне ўласнага асягненьня, падобна, як паэты любяць свае ўласныя творы, а бацькі — сваіх дзяцей, — побач натуральнае любові дзеля самога ўжываньня грошай і карысьці зь іх у хворме прыходу, — штó зьяўляецца свомым для іх, як і для ўсіх людзей. Затым і суадносіны з гэткімі людзьмі падтрымоўваць зьяўляецца труднаю рэчаю, бо яны ня ўмеюць пра нішто іншае гаварыць, як толькі пра пахвалы для багацьця.

— Ты маеш рацыю, — сказаў ён.

— Так, гэта вельмі праўдзіва, але ці магу я цябе яшчэ пра нешта запытаць? Пры тваім стане маемасьці, штó ты ўважаеш за найбольшае добраслаўленьне, якое ты пажаў з твайго багацьця?

— Насілу, — сказаў ён, — ці змагу я пераканаць каго-небудзь тым, што скажу. Але ведай толькі, Сакратас, што калі чалавек пачынае думаць, што ён зьбліжаецца да сьмерці, агортвае яго страх і турботы, якія да гэтае пары нават і ў галаву ня прыходзілі. Пераказы пра падзямельны сьвет і вымерваныя пакараньні там за несправядлівыя ўчынкі, дакананыя тут, былі калісьці прычынаю сьмеху для яго, але цяперака ён мучыць сваю душу думкамі, што ўсё гэта, магчыма, і праўдаю ёсьць. Дый сам, няхай сабе з прычыны старэчае немачы, або затым, што набліжаецца да тамтаго сьвету, ён пачынае бачыць гэтыя рэчы ясьней. Нерашучасьць і страх вядуць яго да думкі, і ён азіраючыся на пройдзены шлях, пачынае думаць, ці не пакрыўдзіў каго-небудзь зь людзей. І калі ён прыводзіць на ўспамін шматлікія несправядлівыя свае ўчынкі, ён падобна дзіцяці, што раптам усхапілася спрасонку, палохаецца і ў будучыні сваей бачыць толькі найгоршае. [331] Але той, хто ў сумленьні сваім не адчувае несправядлівых паступкаў, таму заўсёды таварышыць радасная спадзея, як Піндарос далікатна выражаецца, — гэтая добрая карміліца старасьці. Трапна ён гэта сказаў, Сакратас, што

той, хто жыве справядлівым жыцьцём і пабожна, таму

Салодкая, сэрцаакрыльваючая
Даглядчыца старасьці — спадзея;
Зьменнымі думкамі сьмяротных
Пераважна кіруе.

Пераконваюча і цудоўна кажа ён! І вялікія добраслаўленьні багацьцяў, — я не кажу, што могуць быць удзелам кажанага чалавека, але добрага чалавека, — ёсьць, што ён не займеў ніякае нагоды, каб зманіць або ашукаць іншых, сьведама ці нясьведама; і калі ён пераходзіць у іншы сьвет, ён не павінен мець сумнага прадчуцьця вінаватасьці з прычыны незлажэньня ахвяраў багам або нясплаты грошай каму-небудзь зь людзей. Цяпер-жа, да супакою душы ўладаньне багацьцем у значнай меры спрычыняецца. З гэтае прычыны я кажу, што існуе шмат іншых неабходнасьцяў, якія ўзаемна могуць быць параўноўваныя, але я асабіста быў-бы схільным думаць, Сакратас, што пры ўсім гэтым, чалавеку з розумам багацьце мае вялікае значэньне і карысным для яго ёсьць.

— Цудоўна кажаш ты, Кефалёс, — адказаў я, — але вось гэтая — справядлівасьць — чым яна ёсьць? — Ёсьць яна: гаварыць праўду і сплачваць даўгі? — і нічога іншага апрача гэтага? Дый нават гэтае самае дзеяньне раз бывае справядлівым, а іншы раз несправядлівым. Прымем, што нехта атрымаў ад свайго сябры аружжа, калі апошні цешыўся добрым здароўем, а пазьней, калі той псыхічна захварэе і зажадае сваё аружжа назад, ён аддасьць; у гэткім выпадку кажны скажа, што аддаваць ня трэба, і несправядлівым будзе той, хто аддаў-бы або хацеў-бы шчыра сказаць усю праўду чалавеку, які апынуўся ў гэткім стане.

— Ты маеш рацыю, — адказаў той.

— Затым, — сказаў я, — гаварыць праўду і аддаваць тое, што́ пазычыў ня будзе правільнаю дэфініцыяю справядлівасьці.

— Не, якраз гэта, Сакратас, — сказаў Полемархос, каторы ўключыўся ў гутарку, — калі хоць крыху маем верыць Сымонідэсу.

— Мне прыкра, — сказаў Кефалёс, — што я мушу пакінуць вас, бо мне ўжо пара ісьці, каб заняцца ахвяраваньнямі, і я перадаваю гутарку вам.

— Ці Полемархос зьяўляецца тваім спадчыньнікам? —

сказаў я.

— Напэўна, — адказаў усьміхаючыся Кефалёс, і заразжа выйшаў выконваць ахвяраваньні.

— Тады, — сказаў я, — скажы ты мне, спадчыньнік Кефалёса ў нашай гутарцы, — зьвярнуўся я да Палемархоса, — што́ сказаў Сымонідэс, што, паводля твае думкі, трапна сказана адносна справядлівасьці?

— Ён сказаў, што сплочаньне даўгу зьяўляецца справядлівым і, кажучы гэтак, мне выдаецца, што ён трапна сказаў.

— Мне прыкра было-б, калі-б я паддаваў пад сумліў словы гэтакага мудрага і божага чалавека, але значэньне гэтых словаў хоць, магчыма, яснае для цябе, для мяне яно выяўляецца зусім інакш. Бо напэўна ён ня мае на думцы тое, што́ мы перад хвілінаю казалі, што я павінен вярнуць даручанае мне аружжа або якую-небудзь іншую рэч некаму, хто просіць у мяне яе, калі ён не знаходзіцца пры сваіх здаровых змыслах, [332] хоць ён пазычыў нам тое, чым мы карысталіся. Ці не так гэта?

— Так.

— Тады, ні ў якім выпадку ня можна вярнуць рэчы, калі звароту жадае чалавек зь нездаровым розумам.

— Запраўды, — адказаў ён.

— Калі Сымонідэс кажа, што сплочаньне даўгу зьяўляецца прыкладам справядлівасьці, дык ён ня мае на ўвеце нашага выпадку.

— Напэўна не; ён думае, што сябра заўсёды дабро чыніць для сябры і ніколі зло.

— Ты думаеш, што пры звароце з давераных яму грошай, сябра аддае ня тое, што ён павінен вярнуць, калі зварот і атрыманьне спрычыняюць шкоду, дый да гэтага справа маецца паміж сябрамі. Ці ня выходзіць па-твойму, што гэта Сымонідэс мае на ўвазе?

— Але́.

— І ворагі гэтаксама маюць атрымаць тое, што́ мы вінаватыя ім?

— У кажным выпадку, — сказаў ён, — тое, што́ чалавек вінаваты ім. А вінаваты, як я мяркую, вораг ворагу, як гэта і належыцца, крыху зла.

— Выходзіць, тады, — сказаў я, — што Сымонідэс, паводля манеры паэтаў, гаворыць няясна пра натуру справядлівасьці; бо фактычна, як выглядае, ён маніцца

сказаць, што справядлівасьць гэта адданьне кажнаму чалавеку таго, што належыцца яму, і гэта назваў ён даўгом.

— Гэтак, мусіць, трэба разумець яго, — сказаў ён.

— На нябёсы, — сказаў я, — калі-б хто-небудзь запытаў яго: "Сымонідэс, якую належную або павінную рэч дае мэдыцына, і каму?" Які адказ, па-твойму, даў-бы ён на нашае пытаньне?

— Ён-бы напэўна адказаў, што мэдыцына дае лекі, ежу і піцьцё для людзкага цела.

— І якую-ж належную і павінную рэч дае кухарскае мастацтва, і да чаго?

— Прыправы ў ежу.

— Вельмі добра. А чым ёсьць тое, што справядлівасьць дае і каму?

— Калі, Сакратас, — сказаў ён, — мы маем кіравацца раней прыведзенымі намі прыкладамі, тады справядлівасьць зьяўляецца мастацтвам, якое дае дабро для сяброў і шкоду ворагам.

— Значыцца, чыніць дабро сябром і зло ворагам — гэта ён уважае за справядлівасьць?

— Мне гэтак здаецца.

— І хто зьяўляецца найболей здольным чыніць дабро для сваіх сяброў і зло для сваіх ворагаў у часе хваробы?

— Лекар.

— Або калі яны знаходзяцца ў плаваньні сярод небясьпекі на адкрытым моры?

— Стырнічы.

— А той, справядлівы? Якімі дзеяньнямі і ў меркаваньні якога выніку зьяўляецца ён найболей здольным прыяцелям быць карысным і ворагам шкодзіць?

— У вырушэньні на вайну супраць адных, і чынячы супакой зь іншымі, мне здаецца.

— Добра! Але, калі чалавек зьяўляецца здаровым, мой паважаны Полемархос, непатрэбны яму лекар?

— Не.

— І той, хто не адбывае марскога падарожжа, той не патрабуе стырнічага?

— Не.

— Тады, у часе супакою справядлівасьць і справядлівы чалавек ня мае большага значэньня?

— Я далёкі ад таго, каб думаць гэтак.

— З гэтага, справядлівасьць патрэбна і ў часе супакою?

— Патрэбна.

— Земляробства гэтаксама патрэбна? Ці не? [333]

— Патрэбна.

— Каб атрымаць ураджай?

— Але́.

— І шавецтва патрэбна?

— Так.

— Каб заспасобіць нас абуткам, я думаю, ты адкажаш?

— Ведама.

— Тады, дзеля якое неабходнасьці і дзеля якое карысьці, па-твойму, патрэбна ў часе супакою справядлівасьць?

— Дзеля завяршэньня розных справаў, Сакратас.

— Кажучы "розныя справы", ты маеш на ўвазе супольны ўдзел старон у чым-небудзь, ці не?

— Так, супольны ўдзел.

— Ці будзе добрым і карысным удзельнікам гульні ў шашкі той, хто справядлівы, ці мо' той, хто ведае як гуляць?

— Той, хто ведае як гуляць.

— А пры кладзеньні цэглы і каменьняў ёсьць справядлівы болей карысны і лепшы ўдзельнік у працы, чымся той, хто разумее будаўніцтва?

— Ніколі.

— Але ў якім дачыненьні, тады, справядлівы чалавек ёсьць лепшым удзельнікам, чымся кітарысты, як, напрыклад, у іграньні на кітары, дзе адумысловец ігры на кітары, напэўна, зьяўляецца лепшым іграком, чымся справядлівы чалавек?

— У справах грашовых, мне здаецца.

— Так, Полемархос, але з пэўнасьцю за выняткам самога ўжываньня грошай; бо ты-ж не хацеў-бы, каб справядлівы чалавек быў тваім дараднікам у справе куплі або продажы каня; чалавек, каторы ведаецца на конях, будзе лепшым у падобнай справе. Ці ня так гэта?

— Выглядае гэтак.

— А пры куплі вадаплаву, будаўнічы вадаплаву ці стырнічы будзе лепшым?

— Я думаю, першы.

— Калі чалавек у супольнасьці з кім-небудзь іншым

хоча карысна ўжыць серабро ці золата, ці бываюць тады выпадкі, калі чалавек справядлівы будзе болей карысны, чымся іншы?

— Бываюць, Сакратас; і гэта тады, калі чалавек хоча перахаваць іх або пэўным быць.

— Ты думаеш, тады, калі чалавек ня ўжывае іх, але перахоўвае?

— Напэўна.

— Інакш кажучы, калі грошы бескарысна ляжаць, тады карыснаю стаецца справядлівасьць?

— Выглядае гэтак.

— І калі трэба перахоўваць садаўнічы нож, тады карыснаю стаецца справядлівасьць для кажнага чалавека, як і для грамады; але калі трэба ўжываць яго, тады патрэбна кемнасьць вінаградара.

— Гэтак выглядае.

— Калі ты жадаеш перахоўваць шчыт або ліру, і не карыстацца імі, тады ты скажаш, што справядлівасьць ёсьць карыснаю; але, калі ты хочаш карыстацца імі, тады мастацтва гоплітага *) або музыкі?

— Напэўна.

— І гэтак у кажнай іншай рэчы: пры карыстаньні чымнебудзь справядлівасьць ня ёсьць карыснаю, а пры некарыстаньні — карыснаю?

— Гэтак выглядае.

— Тады, дружа мой, справядлівасьць ня мае вялікага значэньня, калі яна стаецца карыснаю пры бескарыснасьці. Давай разгледзім гэтакі выпадак: Ці не зьяўляецца той мастаком, хто ведае як удырыць у змаганьні на кулакі і ў кажным іншым змаганьні, і ён зьяўляецца найболей здольным аберагчы самога сябе ад удырваньняў?

— Напэўна.

— І той, хто найболей здольным ёсьць абясьпечыцца і ўхіліцца ад хваробы, той яшчэ болей здольным ёсьць спрычыніць яе каму-небудзь іншаму?

— Мне здаецца гэтак.

— А вайсковы лягер той будзе ляпей сьцерагчы, [334]
хто здольным акажацца прасачыцца хілком у замеры ворага і прасекчы ягоныя дзеяньні?

— Напэўна.

*) Цяжка азброены жаўнер пяхоты.

— Затым, той хто зьяўляецца добрым ахоўнікам якое-небудзь рэчы, зьяўляецца гэтаксама добрым злодзеем?

— Гэтак выглядае.

— Тады, калі справядлівы чалавек зьяўляецца добрым у перахоўваньні грошай, дык ён здольны і прыклептаманіць *) іх?

— Што найменей да гэткага выснаву вядзе нашае разважаньне.

— Тады, пасьля ўсяго, справядлівы чалавек выяўляецца як злодзей. І гэта ёсьць тая навука, якую, як я здагадваюся, ты пераняў ад Гомэра; бо ён, кажучы пра Аўтолікоса, дзеда Одыссэя па лініі мацяры, сьцьвярджае, што быў ён вышэй за ўсіх людзей у зладзейскасьці і ламаньні зароку. Затым, ты і Гомэр і Сымонідэс зьяўляецеся ў сузгоднасьці, што справядлівасьць — гэта мастацва крадзежы, накіраванае на тое, каб быць добрым для прыяцеляў і шкодным для ворагаў. Ці ёсьць гэта тое, што ты казаў?

— Не, напэўна ня гэта, хоць я ня ведаю цяперка, што я казаў. Аднак мне ўсё яшчэ здаецца, што быць карысным прыяцелям і шкодным ворагам — гэта і будзе справядлівасьць

— А цяперака іншае пытаньне: Як табе здаецца, ці назавеш ты прыяцелямі тых людзей, што выдаюцца толькі добрымі, ці тых, што запраўды зьяўляюцца гэтакімі, хоць-бы гэтакімі і не выдаваліся? Нашае пытаньне гэтаксама распасьціраецца і на ворагаў.

— Натуральна, — адказаў ён, — чалавеку звычайна ёсьць любіць тых, каторыя выдаюцца яму добрымі, і ня любіць тых, якія выдаюцца дрэннымі.

— Так, але ці людзі не памыляюцца ў распазнаваньні добрага і дрэннага? Шматлікія выдаюцца добрымі, але ў запраўднасьці гэтакімі не зьяўляюцца, і наадварот.

— Гэта праўда.

— Тады, добрых людзей яны ўважаюць за ворагаў, а дрэнных — за сяброў?

— Гэтак здараецца.

— У гэткім выпадку, яны будуць апраўданымі ў чыненьні дабра для дрэнных, і дрэннага — для добрых?

— З гэтага, справядлівым будзе прыносіць карысьць

*) Прысабечыць, украсьці; ад гр. клепто — краду, і маніа — манія: манія або нахіл да крадзежы.

дрэнным людзям, а добрым — шкодзіць?

— Выходзіць, што гэта правільна.

— Аднак-жа, добрыя людзі зьяўляюцца справядлівымі, яны няздольныя на несправядлівыя чыны?

— Гэта праўда.

— Дык паводля твае аргумэнтацыі, ёсьць справядлівым спрычыняць зло тым людзям, якія ня твораць несправядлівасьці?

— Не, Сакратас! — сказаў ён, — гэтакая дактрына ёсьць немаральнаю.

— Значыцца, справядліва было-б шкодзіць несправядлівым, і быць карысным для справядлівых?

— Гэтакі выснаў ёсьць ужо лепшым ад папярэдняга.

— Цяпер паўзірайся, Полемархос, які вынік мы атрымалі: Шматлікія зь людзей, што зьяўляюцца нясьведамымі адносна людзкае натуры, маюць прыяцеляў, якія зьяўляюцца дрэннымі прыяцелямі, і ў падобным выпадку, яны павінны чыніць ім шкоду; з другое стараны, яны маюць добрых ворагаў, якім яны павінны чыніць карысьць. Калі гэтак рэч маецца, дык мы выразім нешта супрацьлежнае таму, што́ мы сьцьвердзілі, як Сымонідэсавую думку.

— Так, — сказаў ён, — гэтак часта здараецца; і я думаю, што мы павінны паправіць памылку, у якую мы ўваліліся, памылкова ўжываючы словы “прыяцель” і “вораг”.

— І што гэта за памылка была, Полемархос? — запытаў я.

— Мы вымеркавалі, што той, хто выдаецца нам добрым, ён і ёсьць нашым сябрам.

— Але тады, — сказаў я, — як мы паправім памылку?

— Нашым сябрам, — сказаў ён, — будзе той, хто і выдаецца нам добрым і будзе гэтакім у запраўднасьці; і той, хто выдаецца толькі, але не зьяўляецца [335] добрым, гэта здадуманы, але не запраўдны сябра. У падобны спосаб можа азначыць і ворага.

— У сузгоднасьці з гэтым разважаньнем, добры чалавек будзе нам сябрам, а дрэнны — ворагам?

— Так.

— І замест таго, каб сказаць проста, як мы рабілі гэта спачатку, што справядлівым ёсьць чыніць дабро для нашых прыяцеляў і шкодзіць нашым ворагам, мы павінны

далей гаварыць: справядлівым ёсьць чыні́ць дабро для нашых прыяцеляў, калі яны добрымі зьяўляюцца, і шкодзіць нашым ворагам, калі яны дрэнныя?

— У кажным выпадку, — сказаў ён, — выдаецца гэта мне прыгожа сказаным.

— Але ці выпадае справядліваму чалавеку шкодзіць каму-небудзь зь людзей?

— Бяссумліву, — сказаў ён, — трэба шкодзіць дрэнным людзям і нашым ворагам.

— А коні, калі іх пашкодзіць, стануцца яны лепшымі ці горшымі?

— Горшымі.

— І гэта ў сэнсе годнасьці сабак ці коней?

— Коней.

— І сабакі, калі спрычыніць ім шкоду, губяць сваю годнасьць, як сабакі, але ня як коні?

— Натуральна.

— А людзі, дружа мой, калі яны церпяць шкоду, ці ня скажам мы, што і яны ў падобных выпадках губяць сваю мужнасьць чалавека?

— Напэўна.

— А ці-ж справядлівасьць не зьяўляецца мужнасьцю (арэтэ́) чалавека?

— Гэта ўжо напэўна.

— Тады, дружа мой, людзі, якім спрычыняецца шкода, у сілу няўхільнасьці, стаюцца несправядлівымі?

— Гэтакі вынік ёсьць.

— Але ці могуць музы́кі пры помачы му́зыкі ўчыніць людзей нямузычнымі?

— Напэўна, не.

— Або коньнікі пры помачы мастацтва язды ўчыні́ць дрэннымі ездакамі?

— Немагчыма.

— І справядлівыя людзі пры помачы справядлівасьці ўчыніць людзей несправядлівымі, або кажучы агульна, могуць добрыя людзі, дзякуючы сваей мужнасьці, учыніць іншых людзей дрэннымі?

— Напэўна, не.

— І ня болей, як цяпло можа вытварыць холад?

— Ня можа.

— Або сухасьць вільготнасьць?

— Напэўна, не.

— Ані гэтаксама добры шкоду спрычыніць каму-небудзь?
— Немагчыма.
— І справядлівы ёсьць добры?
— Напэўна.
— Тады, Полемархос, спрычыніць шкоду прыяцелю або каму-небудзь іншаму, не зьяўляецца чынам справядлівага чалавека; гэта справа чалавека супрацьлежнага яму — чалавека несправядлівага.
— Я думаю, — сказаў ён, — што ты, Сакратас, гаворыш зусім праўдзіва.
— З гэтага, калі хто-небудзь утрымлівае пагляд, што адплочваць кажнаму належнае — гэта справядліва, і будзе разумець гэта так, што справядлівы чалавек павінен спрычыняць ворагам шкоду, а сябром — карысьць, дык той, хто гэтак гаворыць, не зьяўляецца мудрацом, затым, што ён сказаў няпраўду: бо, як выясьнілі мы, справядлівым будзе: — ніколі ні ў чым ня шкодзіць.
— Я згаджаюся з табою, — сказаў Полемархос.
— Тады, — сказаў я, — мы супольна, ты і я, падымем аружжа супраць тых, хто пачне падтрымліваць думку, быццам гэтак казаў Сымонідэс, або Біяс, ці Пітакос, або хто-небудзь іншы з мудрых і слаўных людзей.
— За гэтакую рэч я гатоў, — сказаў ён, — змагацца побач цябе.
— А ты ведаеш, — сказаў я, — чыё гэта, як мне здаецца, выказваньне, падтрымліваючае думку, што [336] справядлівасьць заключаецца ў тым, каб спрычыняць карысьць сябром і спрычыняць шкоду ворагам?
— Чыё? — запытаў ён.
— Я думаю, яно належыць да Пэрыяндроса або Пэрдіккаса, або Ксэрксэса, або Ісмэніяса тэбанскага, або да каго-небудзь іншага з багатых людзей, якія зьяўляюцца вялікае думкі адносна самых сябе, як і свае сілы.
— Праўдзіва ты кажаш, — сказаў ён.
— Так, —сказаў я. — Але, калі гэтая дэфініцыя справядлівасьці, як выясьнілася, заключаецца ня ў гэтым, тады якую-ж іншую можна было-б запрапанаваць?
У часе нашае гутаркі, Трасімахос некалькікратна рабіў спробу ўключыцца ў дыскусыю, але яго паўстрымлівалі прысутныя, каторыя былі зацікаўленымі паслухаць да канца. Але, калі Полемархос і я выказаліся і наступіў

кароткі перапынак, Трасімахос ня мог ужо болей паўстрымацца і, усхапіўшыся на роўныя ногі, як зьвер, рынуўся на нас, быццам хацеў пажэрці нас.

Я з Полемархосам са сполаху кінуліся ўбок, а ён, равучы, выкінуў нам:

— Што за бязглузьдзіцу вы чаўпяце, Сакратас, вунь ужо зь якое пары!? Што гэта вы адзін з адным прыкідваецеся і выгінаецеся, як наіўныя прастакі? Я табе скажу: калі ты запраўды хочаш ведаць што гэта такое справядлівасьць, дык ты ня стаўляй толькі пытаньні і ня фанабэрся запярэчаньнем таго, што кажа твой апанэнт, але адкажы сам і скажы, што ты ўважаеш за справядлівасьць. І ты мне толькі не кажы, што гэта нешта належнае, або карыснае, ці мэтазгоднае або выгаднае, або прыдатнае; і да гэтага, калі кажаш, кажы выразна і дакладна, бо я і слухаць перастану, калі ты будзеш бязглузьдзіцу чаўпці.

Я быў зусім зьбянтэжаны ягонымі словамі, і ня мог паўзірацца на яго бяз страху. І запраўды, я быў перакананым, што калі я ня гляну проста яму ў вочы, я зусім анямею. Але цяперака, калі нашая гутарка прывяла яго ў разьюшанасьць, я першы глянуў яму ў вочы, і гэтым займеў здольнасьць адказаць яму.

— Трасімахос, — сказаў я з дрыжэньнем, — ня гневайся на нас. Магчыма мы — Полемархос і я — зрабілі малую памылку ў нашай аргумэнтацыі, але я магу запэўніць цябе, што памылка з нашае стараны ня была сьведамаю. Калі-б мы знаходзіліся ў пошуках куска золата, няўжо ты думаеш, што мы сталі-б адзін аднаму ўступаць, і гэтым самым згубілі-б нагоду знайсьці яго. Тым болей, калі знаходзімся ў пошуках справядлівасьці, рэчы болей вартаснае, чымся некалькі кускоў золата, дык ты гатоў сказаць, што мы зьяўляемся слабымі і паддатнымі адзін другому і ня чынім ўсяго таго, што ёсьць у нашай моцы, каб знайсьці праўду? Не, мой дружа, мы зьяўляемся найболей ахвочымі і зайздроснымі, каб учыніць гэта, але факт астаецца фактам, што мы ня можам гэтага асілець. І калі рэч гэтак маецца, тады вы, каторыя ведаеце ўсе рэчы, павінны пашкадаваць [337] нас і ня быць злоснымі на нас.

— Вось яна, характэрная рыса Сакратаса! — сказаў ён з горкім усьмехам, — вось твой гіранічны стыль! Ці-ж

не прадбачыў я — ці-ж не казаў я ўжо вам, што калі-б вы яго прасілі пра што-небудзь, ён адмовіцца адказваць, прыкінецца прастаком і пачне рабіць усё, што хоча, каб толькі ўхіліцца ад адказу.

— Ты — мудры чалавек Трасімахос, — адказаў я, — і добра ведаеш, што, калі ты запытаеш каго-небудзь, зь якіх лікаў складаецца дванаццаць, але, ставячы гэтакае пытаньне, ты загадзя папярэдзіш: "Ты толькі не адказвай мне, чалавеча, што дванаццаць — гэта два разы шэсьць, або тры разы чатыры, або шэсьць разоў па два, або чатыры разы па тры, а як не, дык я і слухаць цябе ня буду, калі ты мне пачнеш чаўпці гэтакую адсябяціну", дык табе загадзя ўжо будзе ведамым, я думаю, што ніякі чалавек не адкажа табе на гэткае пытаньне. Але калі ён табе скажа: Дык як ты думаеш, Трасімахос? У маіх адказах нічога не павінна быць з таго, чым ты ўжо папярэдзіў мяне. А калі ў вадказе маім знойдзецца што-небудзь з тваіх лікаў, дык што, мой даражэнькі, павінен я гаарыць наўсуперак праўдзе? А мо' маеш ты што-небудзь іншае на ўвазе?" — Як ты-б адказаў?

— Вельмі добра, — сказаў ён. — Гэтак, як калі-б два выпадкі ў кажным разе былі падобнымі.

— І чаму яны ня маюць быць? — сказаў я. — І калі нават яны не падобныя, але выдаюцца гэтакімі таму, каго пытаюць, тады: Думаеш ты, што з гэтае прычыны ён не павінен сказаць таго, штó ён думае, і ўсяроўна, забараняем мы яму сказаць ці не?

— Затым, і ты гэтак паступіш, — сказаў ён, — і ў тваім адказе будзе нешта з таго, штó я забараніў?

— Я зусім ня буду зьдзіўленым, — сказаў я, — калі пры бліжэйшым разглядзе ў мяне гэтакі адказ выпадзе.

— А што, — сказаў ён, — калі я дам табе адказ адносна справядлівасьці іншы і лепшы, чымся ўсе гэтыя? І што тады з табою здарыцца?

— І што-ж іншае, — сказаў я, — як ні тое, што здараецца з кажным нічога-няведаючым? Ён мусіць вучыцца ў таго, хто ведае; і гэта можа са мною здарыцца.

— Ты разумны, — сказаў ён. — Але за навуку трэба яшчэ грошы плаціць.

— Так, я заплачу, як толькі грошы ў мяне будуць, — сказаў я.

— Але яны ўжо ёсьць, Сакратас, — сказаў Ґляўкон, —

і што да грошаў, Трасімахос, ты не патрабуеш турбавацца — усе мы ўчынім наш уклад за Сакратаса.

— І гэта, — сказаў ён, — затым, як я думаю, каб Сакратас мог свабодна ісьці па лініі свайго навыку — не адказваць самому на пытаньні і прычэпліваецца да чужых довадаў і зьбіваць іх.

— І як-жаж, мой паважаны дружа, — сказаў я, — мáе адказваць той, хто па-першае нічога ня ведае і ня цьвердзіць, што ведае, а пасьля, калі і мае нейкую думку на дадзеную тэму, тады са стараны зусім ня дрэннага чалавека ўжо забарона накінута, дык што? наагул, нічога ўжо ня можна сказаць з таго, штó ён думае? [338] Згэтуль, барджджэй табе трэба гаварыць, табе, каторы ўтрымліваеш, што маеш веды, і маеш штó сказаць. Калі ласка, адказвай мне, дый пры нагодзе папоўні веды Ґляўконавыя, і іншых тут прысутных.

Ґляўкон і ўсе прысутныя прылучыліся да мае просьбы. І Трасімахос, як кажны мог гэта заўважыць, здраджваў жаданьне гаварыць, каб паказаць сябе, бо ён быў тае думкі, што мае найлепшы адказ, але тымняменей прыкідваўся, што дамагаецца, каб адказваў я. Нарэшце ён згадзіўся, і сказаў:

— Вось гэта і ёсьць мудрасьць Сакратаса: сам не жадае сабе нікога навучаць, ходзіць усюды, вучыцца ў іншых і нават не адудзячваецца ім за гэта.

— Тое, што я вучуся ў іншых, — адказаў я, — гэта праўда, Трасімахос, але, што, як ты кажаш, я не адудзячваюся, — гэта няпраўда. Я-ж бо плачу як магу. Грошай я ня маю, і затым плачу пахвалаю; і як ахвочым я зьяўляюся хваліць таго, хто выдаецца мне добра гаворачым, ты хутка сам пераканаешся, як толькі пачнеш мне адказваць, і я пэўны, што ты будзеш гаварыць добра.

— Тады слухай. Я ўтрымліваю, што справядлівасьць — гэта тое, што карысна для сільнейшага. Ну, і чаму-ж ты цяперака ня хваліш мяне? Ці ня маеш ты ахвоты да гэтага?

— Дай-жа мне перш зразумець цябе, — адказаў я. — Бо я яшчэ ня ведаю. Ты кажаш, што тое, штó карысным для сільнейшага — гэта і ёсьць справядлівасьць. Ці так гэта, Трасімахос, ты кажаш? Ты хіба ня хочаш гэтым сказаць, што гэтак як Полідáмас, будучы сярод нас найсільнейшым панкратыстым, для здароўя ягонага цела

патрабуе есьці ялавічыну, дык гэтаксама будзе карысным і гэтым самым справядліва вызначыць гэтакую самую ежу і нам, хоць мы і слабейшымі за яго?

— Гэта абрыда з твае стараны, Сакратас, — сказаў ён, — падхопліваць мае словы і надаваць ім найгоршае значэньне.

— Зусім ня гэтак, мой добры дружа, — сказаў я; — усё, што я маю на ўвазе — гэта зразумець іх, затым выкажыся болей выразна.

— Ці ня ведаеш ты, — сказаў ён, — што адны гаспадарствы кіруюцца тыранскім ладам, іншыя — дэмакратычным, а яшчэ іншыя — арыстакратычным?

— Дый як-жаж ня ведаць?

— І што ў кажным гаспадарсьцьве той мае сілу, хто знаходзіцца пры ўладзе?

— Ведама.

— І розныя хвормы ўрадаваньня твораць правы на сваю карысьць: дэмакрацыя — дэмакратычныя правы, тыранія — тыранскія, і падобна ў іншых выпадках. Гэтак, устанавіўшы свае правы, агалошваюць іх справядлівымі для сваіх падуладных — гэта якраз і ёсьць тое, што карысна для ўладаў, а тых, што ломяць іх, караюць як парушальнікаў правоў і справядлівасьці. Дык вось гэта я і кажу, мой вельмі паважаны Сакратас. І гэта ёсьць якраз тое, што́ я думаю, калі я кажу, што ўва ўсіх гаспадарстах пануе тая самая аснова справядлівасьці, якая зьяўляецца карыснаю для ўраду; і затым, што ўрад [339] рэпрэзэнтуе сілу, дык адзіным разумным высновам ёсьць, што ўсюды існуе адзін прынцып, паводля якога, справядлівасьць карыснаю ёсьць для сільнага.

— Цяперака я зразумеў, што́ ты кажаш, — сказаў я. — Але ці правільна гэта ці не, я папробую гэтаксама зразумець. Але дазволь мне заўважыць, Трасімахос, што ў абазначэньні справядлівасьці ты сам ужыў слова “карысную”, якое ты забараніў мне ўжываць. Гэтаксама і тое трэба сказаць, што ў тваей дэфініцыі дададзеныя словы “для сільнага”.

— Гэта толькі адзін малы дадатак, — сказаў ён.

— Малы ці вялікі — гэта нічога: мы мусім перш дасьледзіць, ці тое, што́ ты гаворыш, зьяўляецца праўдаю. У дадзеную хвіліну мы абодва згодны, што справядлівасьць ёсьць нечым карысным, але ты ідзеш далей і ка-

жаш “для сільнейшага”; але што да гэтага, я астаюся няпэўным і затым гэта трэба яшчэ далей разгледзець.

— Разглядай, тады, — сказаў ён.

— Я гэтак і ўчыню, — сказаў я. — Ці ня думаеш ты, што справядлівым ёсьць быць паслухмяным уладам?

— Я думаю.

— А валадары ў тым ці іншым гаспадарсьцьве зьяўляюцца беспамылковымі ці і яны часамі могуць памыляцца?

— Ведама, і яны часамі могуць памыляцца, — сказаў ён.

— Тады, творачы свае правы, адны правы яны створаць правільна, а іншыя — няправільна? Што найменей гэтак я разумею. Правільныя правы выйдуць уладам на карысьць, а няправільныя — на шкоду. А мо’ па-твойму інакш?

— І я гэтак думаю.

— Якіяколечы правы яны выдалі-б, падуладныя павінны іх выконваць, і гэта вось і будзе справядлівым?

— Дый як-жаж інакш?

— З гэтага, паводля таго, як ты кажаш, выконваць ня толькі карыснае сільнейшаму, але і супрацьлежнае, гэта значыць некарыснае.

— Што гэта такое кажаш ты? — запытаў ён.

— Як мне здаецца, я толькі паўтараю тое, што ты кажаш. Але давай разгледзім: Ці-ж не згадзіліся мы, што ўладары, заабавязваючы грамадзян выконваць свае пастановы, часамі памыляюцца ў выбары карыснага для тых-жа самых уладаў і, ня гледзячы на гэта, для самых падуладных будзе справядлівым выконваць любое права створанае ўладамі. Ці-ж не згадзіліся мы ў гэтым?

— Я думаю, што мы згадзіліся, — сказаў ён.

— Тады ты мусіш згадзіцца, што справядлівасьць ня выйдзе на карысьць сільнейшага, калі ўладары ненаўмысьня загадваюць выконваць рэчы, якія дзейнічаюць на іх уласную шкоду. Бо калі, як ты кажаш, справядлівасьць зьяўляецца паслухмянасьцю, якую падуладны выконвае на іхны загад, дык у падобным выпадку, мудры Трасімахос, немагчыма ўхіліцца ад выснаву, што слабейшым загадваецца выконваць тое, што ня ёсьць на карысьць, але што ёсьць на шкоду сільнейшаму.

— Нічога ня можа быць ясьнейшым за гэта, [340] Сакратас, — сказаў Полемархос.

— Асабліва, калі ты пасьведчыш гэта, — заўважыў Клейтофон, забіраючы голас.

— На што патрэбны тут сьведка? Сам Трасімахос згадзіўся, што часамі валадары загадваюць выконваць тое, што выходзіць ім самым на шкоду, тады як для падуладных уважаецца справядлівым выконваць гэтыя загады.

— Так, Полемархос, — Трасімахос сказаў, што для падуладных справядлівым ёсьць выконваць тое, што загадваюць улады.

— Так, Клейтофон, ён гэтаксама ўважаў справядлівым тое, што карысна для сільнейшага. Высказаўшы гэтыя два сьцьверджаньні, ён гэтаксама пацьвердзіў, што тыя, што маюць уладу, часамі загадваюць тое, што ім самым ёсьць шкодным, аднак-жа слабейшыя і падуладныя ўсё-ж павінны гэта выконваць. Згэтуль выснаў робіцца, што справядлівасьць гэтаксама зьяўляецца шкоднаю як і карыснаю для сільнейшага.

— Але, — адказаў Клейтофон, — пад карысным сільнейшаму ён разумеў тое, што сільнейшы ўважаў для сябе карысным — і гэта якраз і было тым, што выконваць павінен быў слабейшы; і гэта ён прызнаў за справядлівасьць.

— Не, ён ня гэтак гаварыў, — сказаў Полемархос.

— Гэта нічога, Полемархос, — сказаў я; — калі цяперака Трасімахос гэтак кажа, дык гэтак мы і будзем разумець яго. Скажы мне, Трасімахос, — казаў я далей, — ці ўтрымліваеш ты за справядлівасьць тое, што сільнейшы ўважае для сябе карысным, незалежна ад таго, будзе яно яму карысным ці не? Ці маем мы ўважаць, што ты гэтак думаеш?

— Зусім не, — сказаў ён. — Няўжо ты думаеш, што я назаву сільнейшым таго, хто памыляецца, нават тады, калі ён памыляецца?

— Што найменей гэтак думаў я, — сказаў я, — што гэтак трэба цябе разумець, калі ты згадзіўся, што ўлады не зьяўляюцца непамылковымі, але часамі могуць і памыляцца.

— Ты гутарку вядзеш, Сакратас, як паклёпнік, — сказаў ён. — Ці думаеш ты, напрыклад, што той, хто памыляецца ў лячэньні хворых, павінен быць названы лекарам з прычыны гэтых сваіх памылак? Або рахункаводам таго, хто памыляецца ў падлічэньні якраз тады,

калі ён памыляецца, і якраз за гэтую ягоную памылку? Гэта праўда, што мы кажам лекар памыліўся, але гэта ёсьць толькі спосаб выражэньня; бо ў грунце рэчы, калі ён запраўды ёсьць тым, чым мы яго называем, тады ён, як я думаю, ніколі не памыляецца. Паводля дакладнасьці слова, калі ты ўжо гэтак дакладна ўсё бярэш, ніякі майстра ў сваім майстэрстве не памыляецца. Бо памыляюцца з прычыны адсутнасьці веды, гэта значыць ад недахопу майстэрства. Затым, хай сабе будзе гэта мастак ці мудрэц або валадар, ён не памыляецца, калі ён ведае сваю справу, хоць у штодзеннай мове кажацца, што лекар памыліўся, валадар памыліўся. У гэтым сэнсе ты маеш і разумець мяне. З акуратнаю дакладнасьцю я магу сказаць, што валадар, як далёка ён валадаром ёсьць, ніколі не памыляецца і, калі ён не памыляецца, дык [341] ён заўсёды загадвае з выгадаю для сябе, а падуладныя павінны гэта выконваць. Затым бо я і казаў з самага пачатку і цяперака паўтараю, што справядлівасьць — гэта тое, што ёсьць карысным для сільнага.

— Дык вось, што, Трасімахос, — сказаў я. — Думаеш ты запраўды, што я паклёпнік?

— У кажным выпадку, — адказаў ён.

— Уважаеш ты, што ў маіх разважаньнях я са злым замерам стаўлю свае пытаньні?

— Не, — адказаў ён, — "уважаеш" ня ёсьць адпаведнае тут слова. Я ведаю вельмі добра, і гэта табе нічога не паможа. Ад мяне ты ня ўтоішся са сваім злым замерам. А калі ты ня ўтоішся, дык і ня ўдасца табе перамагчы мяне ў нашых разважаньнях.

— Я нават і спробы ня буду чыніць у гэтым напрамку, мой даражэнькі, — сказаў я. — Але, каб між намі зноў не прытрапілася непаразумленьне ў далейшай гутарцы, дазволь мне запытаць цябе, у якім значэньні будзеш ужываць ты словы "валадар" або "сільнейшы", калі кажаш, што будзе болей справядлівым, калі слабейшы будзе выконваць карыснае сільнейшаму?

— Я маю на ўвазе валадара ў самым дакладным значэньні гэтага слова, — сказаў ён. — А цяперака перакручвай зласьліва і пацьвяляйся колькі хочаш, я не паддамся. Але і так, ты ніколі не асілееш.

— Ці запраўды думаеш ты, — сказаў я, — што я магу нагэтулькі быць нямудрым, каб рашыцца пробаваць

стрыгчы льва або перамагчы паклёпам Трасімахоса?

— Вось-жа цяперака што найменей ты прабаваў, — сказаў ён, — хоць табе гэта і не ўдалося.

— Хопіць гэтага, — сказаў я. — Скажы мне ляпей, гэты лекар у запраўдным значэньні гэтага слова, пра якога ты толькі што казаў, — турбуецца ён толькі пра грошы, ці пра лячэньне хворых?

— Пра лячэньне хворых, — сказаў ён.

— А стырнічы? Праўдзівы стырнічы — гэта старшыня над веславымі, ці мо' і сам ён веславы?

— Старшыня над веславымі.

— Ня можна браць пад увагу, я думаю, выпадку, што ён гэтаксама плыве на вадаплаве, і з гэтае прычыны ня можна назваць яго веславым. Яго называюць стырнічым не затым, што ён на вадаплаве, але затым, што вырозьніваецца сваім веданьнем і што ён старшынствуе над веславымі.

— Правільна, — сказаў ён.

— З гэтага: кажнае мастацтва карыстаецца якоюнебудзь карысьцю.

— Напэўна.

— Ці-ж ня служыць дзеля гэтае мэты, — сказаў я, — самое мастацтва, каб вынаходзіць тое, што каму карысна?

— Так, — сказаў ён, — гэта і ёсьць мэтаю мастацтва.

— І карысьць мастацтва ёсьць ягонаю дасканаласьцю — гэта і нічога іншага?

— Што ты маеш на ўвазе?

— Я маю на ўвазе тое, — сказаў я, — што́ можна зьілюстраваць на прыкладзе цела. Прымем, што ты пытаеш мяне ці цела ёсьць самаздавальняючым, ці мо' патрабуе яшчэ нешта, дык я адказаў-бы: Бязумоўна патрабуе. Затым, што цела можа хварэць і тады патрабуе лячэньня, і атрымлівае карысьць, дзеля якое і вынайдзеныя спосабы лячэньня, што цела нашае недалужным ёсьць і затым ня можа здаволіць самое сябе. Згэтуль выводзіцца першапачатак і мэтанакіраванасьць мэдыцыны, з чым, як я думаю, ты згодзішся. Ці правільна я кажу?

— Правільна, — адказаў ён.

— Але ці мастацтва мэдыцыны, або якое-небудзь [342] іншае мастацтва, зьяўляецца недасканалым або недастатковым падобна як вока можа быць недастатковым для

зроку, або вуха няздольным чуць, і з гэтае прычыны патрабуе іншае мастацтва дзеля займеньня зроку і слуху? І наагул трэба сказаць — ці кажнае любое мастацтва мае падобную схільнасьць да недасканаласьці і нястойкасьці і затым дамагаецца дапаможнага мастацтва з мэтаю займеньня карысьці, і гэтае зноў патрабуе іншае, а іншае яшчэ іншае і гэтак бяз конца? А мо' кажнае пасобнае мастацтва само азіраецца на тое, што́ карысным для яго ёсьць? Мо' яно не патрабуе ніякае помачы ані з самога сябе, ані са стараны іншага? Бо-ж ня маючы недасканаласьці або недастатковасьці, яму-ж ня будзе да твару шукаць папраўы ў самым сабе, або за межамі самога сябе; яно павінна імкнуцца толькі да асягненьня карысьці ў сваей суцэльнасьці. Бо кажнае мастацтва астаецца чыстым і беззаганным, калі астаецца верным сабе — гэта значыць, калі астаецца дасканалым і некранутым. Развaж гэтыя словы дакладна ў пэўным сэнсе сказанага — будзе гэта так ці інакш?

— Як відаць, так, — сказаў ён.

— Тады лекаваньне, — сказаў я, — ня мае на ўвазе таго, што́ карысна для лекаваньня, але толькі тое, што́ карысна для цела.

— Але́, — адказаў ён.

— Гэтаксама і конная язда ня мае на ўвазе карысьці мастацтва коннае язды, але карысьць коней. І гэтак з кажным мастацтвам — яно ня кіруецца ўласнаю карысьцяю, бо яно ня мае патрэбы; яно кіруецца выключна справаю ўласнае рэчы.

— Гэтак выглядае, — сказаў ён.

— Напэўна, Трасімахос, кажнае мастацтва — гэта ўлада і сіла ў той галіне, у якой яно тасуецца.

— Трасімахос згадзіўся з гэтым, але зь вялікаю неахвочасьцю.

— Затым, — сказаў я, — ніякая навука ці мастацтва ня турбуецца пра карысьць сільнага або ўладарнага, але пра карысьць падуладнага і слабога.

Перш ён рабіў спробу запярэчыць чутаму, але нарэшце згадзіўся, і тады я сказаў:

— Ніякі лекар, як далёка ён зьяўляецца лекарам, ня мае на ўвазе сваё ўласнае дабро ў тым, што́ ён раіць хвораму, але толькі дабро пацыента. Бо, як і згадзіліся мы, праўдзівы лекар у запраўдным сэнсе гэтага слова,

ня мае на ўвазе здабыцьця грошай, але ёсьць загадчыкам над целам. Ці ня так гэта было ўсузгоднена між намі?

Ён пацьвердзіў гэта.

— Ці-ж ня гэтак можна сказаць і пра запраўднага стырнічага, што ён загадчык над веславымі, але сам не зьяўляецца веславым?

— Так, гэта мы ўзгоднілі.

— І гэтакі стырнічы, які і загадчыкам ёсьць, будзе рупіцца і загадваць на карысьць веславых, што знаходзяцца пад ягонымі загадамі, але ніколі на карысьць сваім уласным інтарэсам.

З цяжкім сэрцам і гэта ён пацьвердзіў.

— Тады, Трасімахос, — сказаў я, — кажны, хто кіруе, калі ён толькі запраўдным кіраўнікам ёсьць, ніколі ня мае на ўвазе і ня раіць нічога з таго, штó карысным ёсьць для яго, але толькі тое, штó карысным для ягоных падуладных, для каторых ён і творыць тое, штó творыць. І што-б ён ні казаў, і што-б ён ня чыніў, заўсёды ён мае на ўвазе тое, штó ёсьць карысным падуладнаму і штó апошняму найляпей адказвае.

Калі мы ў нашай гарачай дыскусыі прыйшлі да [343] гэтага месца, і для ўсіх прысутных ясна стала, што папярэдняе вылажэньне справядлівасьці абярнулася ў сваю супрацьлежнасьць, Трасімахос, замест каб адказаць мне, раптам запытаў:

— Скажы мне, Сакратас, ці ёсьць у цябе нянька?

— Як гэта? — сказаў я. — Ці не ляпей табе было-б адказваць, чымся ставіць гэткае пытаньне?

— Бо яна, — сказаў ён, — забывае выцерці табе нос; яна нават не навучыла цябе як адрозьніць пастуха ад авечкі.

— Скуль у цябе гэта бярэцца? — запытаў я.

— Бо ты думаеш, што быццам пастухі і валапасы стараюцца пра валоў і авечак, калі яны іх пасуць, і выкормліваюць і рупяцца пра іх, і што ўсё гэта робяць яны зь нейкаю іншаю мэтаю, а не дзеля дабра ўласьнікаў і свайго асабістага. Ты ўяўляеш сабе, быццам у гаспадарствах валадары, — тыя, каторыя сапраўдна валадараць, — займаюць нейкую іншую паставу адносна сваіх падуладных, чымся пастухі да авечак, і быццам яны дзень і ноч толькі пра нешта іншае думаюць, а не пра тое, як ім займець для сябе найбольшую карысьць. О,

не; ты гэтак далёка зайшоў у сваім памылковым думаньні адносна справядлівага і справядлівасьці, несправядлівага і несправядлівасьці, што нават ня ведаеш, што справядлівасьць і справядлівае — гэта ў сваей сутнасьці дабро некага іншага, гэта нешта, штó ўспамагае сільнейшага, уладара, а для падняволенага выканаўцы — гэта чысьцюсенькая шкода, тады як несправядлівасьць зьяўляецца супрацьлежнасьцю: яна кіруе і загадвае, фактычна, прастакамі, а гэтым і справядлівымі людзьмі; падуладныя-ж выконваюць толькі тое, штó карысным ёсьць загадваючаму, бо ў ягоных руках сіла. І ў выніку іхнага выконваньня і працы ён атрымлівае карысьць, а яны самыя — нічога ня маюць. — Заўваж яшчэ і тое, Сакратас, найбольшы прастак ты, што справядлівы чалавек, у параўнаньні да несправядлівага, заўсёды стратным ёсьць. Перад усім, у прыватных заімадачыненьнях: дзеколечы несправядлівы зьяўляецца хаўрусьнікам справядлівага, ты можаш заўважыць, што калі іхны хаўрус канчаецца, несправядлівы чалавек заўсёды атрымлівае болей, а справядлівы — меней. Па-другое, у гаспадарсьцьвеных заімадачыненьнях: калі трэба плаціць падатак, напрыклад, дык справядлівы чалавек заплоціць болей, а несправядлівы — меняй пры аднолькавай суме прыходу; і калі трэба нешта атрымаць, справядлівы нічога не атрымлівае, а несправядлівы шмат. Заўваж гэтаксама, штó дзеецца, калі яны займаюць якую-небудзь гаспадарсьцьвеную пасаду: справядлівы чалавек з прычыны грамадзкае працы занядбоўвае свае хатнія справы і магчыма мае іншыя страты, не атрымліваючы ніякае карысьці са свае пасады, і гэта затым, што ён чалавек справядлівы. І ня толькі адно гэта — яго ненавідзяць ягоныя сябры і знаёмыя затым, што ён адмаўляецца падтрымліваць іх, калі гэта супярэчным ёсьць справядлівасьці. А вось у чалавека несправвядлівага ўсе справы ўкладваюцца наадварот.

Я гавару гэтак, як казаў нядаўна, пра несправяд- [344|
лівасьць у вагульнасьці, што перанасычанаму ўладаю пакідаецца большая перавага ў карысьці. І значэньне сказанага найболей спасьцярожным стаецца, калі мы возьмем пад увагу наяўнасьць вышэйшае хвормы несправядлівасьці, пры якой крыміналісты ёсьць найболей шчасьлівым сярод людзей, і тых, што церпяць,

інакш кажучы, тых, што ўхіляюцца чыніць несправядлівасьць — яны твораць сабою групу людзей найболей нешчасьлівых. Гэтакаю ёсьць тыранія: раз яна праз ашуканства, іншы раз сіламоцаю забірае ўласнасьць іншых, і ня гэтак, што па крышцы, але ўсё агулам, прыналежную сьвятыні як і непрыналежную, грамадзкую і прыватную маемасьць. З прычыны падобных дзеяньняў, калі выявіцца, што чалавек іх даканаў, тады гэтакі будзе пакараны і паддадзены няславе; — тых, што гэтак паступаюць, у паасобных выпадках, называюць сьвятакрадцамі і рабаўнікамі, узломшчыкамі і ашуканцамі, і зладзеямі. Але калі чалавек, апрача таго, што забраў грошы ад грамадзян, учыніў іх яшчэ і нявольнікамі, тады гэтакага, замест усіх ганебных мянюшак і папрокаў, называюць шчасьлівым і добраслаўленым і ня тольkі ягоныя суродзічы, але гэтаксама і чужынцы затым якраз, што ведаюць, што гэтакі чалавек завяршыў несправядлівасьць. Людзі ганьбуюць несправядлівасьць, бо баяцца, што і яны могуць стацца ахвярамі гэтага самага, але не затым, што яны ўхіляюцца ад чынаў несправядлівасьці.

Гэткім спосабам, Сакратас, я паказаў табе, што несправядлівасьць, у дастатковым засягу, мае болей сілы і свабоды і таемнага прыцяжэньня, чымся справядлівасьць; гэтак як і казаў я напачатку, справядлівасьць — гэта карысьць сільнага, тады як несправядлівасьць зьяўляецца горкім удзелам і прыбыткам іншага.

Трасімахос, як той лазеншчык, хлюснуўшы нам у вушы сваею шматслоўнаю моваю, меў замер выйсьці, але прысутныя ня пусьцілі яго і змусілі астацца і даваць довады на пацьверджаньне таго, што ён гаварыў. Дый сам я меў вялікую патрэбу ў гэтым, затым і сказаў:

— О, шляхэтны Трасімахос! Сказаўшы нам гэтакую праніклівую мову, ты зьбіраешся цяперака выйсьці, нас не пераканаў дый сам ты не разабраўся, так ці мо' інакш справа маецца. А мо' думаеш ты, што спроба вымежаваць шлях людзкага жыцьця зьяўляецца гэтак маленькаю рэчаю? Ці-ж ня было-б гэта добрым паказьнікам у жыцьці, паводля якога кажны з нас жыў-бы жыцьцё з найбольшаю мэтанакіраванасьцю?

— Ці я розьнюся ад цябе, — сказаў Трасімахос, —

што да важнасьці разгляду гэтага?

— Мне здаецца, — сказаў я, — што ты ня турбуешся адносна нас, для цябе абыякасным ёсьць, будзем мы жыць горай ці ляпей ў нясьведамасьці таго, што́ ты, паводля тваіх словаў, ведаеш. Але, добры дружа, не хавай свае веды выключна для самога сябе, адкрый яе і для нас; мы творым тут вялікае зграмаджэньне, [345] дык, калі ты нас абдорыш дабром, будзе гэта нядрэнным укладам з твае стараны. З мае стараны, я адкрыта чыню сьцьверджаньне, што я не зьяўляюся пераканаными, і што я ня веру быццам несправядлівасьць мае быць болей карыснаю, чымся справядлівасьць, нават тады, калі для несправядлівасьці пакідаецца поўная свабода чыну. Бо, прыймаючы магчымасьць, што можа знайсьціся несправядлівы чалавек, які здольным акажацца выканаць несправядлівасьць, хай сабе дарогаю ашуканства ці сіламоцы, але ўсяроўна, гэта не пераконвае мяне, што несправядлівасьць мае перавагу над справядлівасьцю, і, вельмі магчыма, што хто-небудзь іншы з нас, і ня толькі я, займеў гэтакі самы пагляд. Вельмі магчыма, што мы памыляемся; і калі гэта так, тады ты ў сваей мудрасьці павінен пераканаць нас, што мы, аддаючы пяршынства справядлівасьці перад несправядлівасьцю, астаемося ў памылцы.

— І як-жаж я маю пераканаць цябе, — сказаў ён, — калі ты яшчэ непераканы тым, што я толькі што сказаў? Што-ж болей я маю сказаць табе? Маю-ж я ўпіхнуць маю мову ў тваю душу і там замацаваць яе?

— Неба няхай крые! — сказаў я, — толькі ня гэта. Я адно прасіў-бы цябе, каб ты трымаўся выказаных табою паглядаў; калі яны, аднак, у цябе зьшначыліся, скажы пра гэта шчыра і ня зманьвай нас. Бо я мушу адцеміць, Трасімахос, калі ты захочаш прыпомніць сабе, тое, што ты раней казаў: Калі ты пачаў характэрызаваць запраўднага лекара, ты не перасьцерагаў падобнае дакладнасьці, калі ты гаварыў пра праўдзівага пастуха. Ты выкладаў нам, што пастух пасе авечкі, як далёка ён пастухом зьяўляецца, ня маючы на ўвазе дабра, а так, быццам нейкі дармаед, які падрыхтоўваецца добра пачаставацца за сыта застаўленым сталом; або зноў, як гандляр, што ўвіхаецца на рынку, але не як пастух. А тымчасам можна сказаць, што мастацтва пастуха — гэта стараньне пад-

трымліваць апеку над падпарадкаванымі яму авечкамі; ён мае толькі рупіцца пра найлепшае для іх, паколькі дасканаласьць мастацтва ўжо запэўнена і ня мае яно ніякіх недахопаў. Гэта бо якраз і ёсьць тое, што я кажу адносна валадара. Я разумеў, што мастацтва валадара, як далёка ён валадаром зьяўляецца, будзе гэта ў гаспадарсьцьве ці ў прыватным жыцьці, мае на ўвазе памысьнасьць не каго-небудзь іншага, але толькі стада або падуладных; але ты, як выходзіць, думаеш пра валадароў гаспадарсьцьвеных, інакш кажучы — праўдзівых валадароў, якія любяць быць пры ўладзе?

— Ня толькі думаю, я зусім пэўны ў гэтым, — сказаў ён.

— І як, Трасімахос? — запытаў я. — Ці-ж ты не спасьцерагаеш, што ніхто зь іншых валадароў ня хоча правіць дабраахвотна, але ўсе дамагаюцца ўзнагароды, затым, што зь іхнага валадараньня карысьць будзе ня ім самым, але іхным падуладным? І скажы мне яшчэ адно: ці не затым адрозьніваем мы адно мастацтва ад [346] іншага, што кажнае зь іх мае сваё прызначэньне? І, добры мой, толькі не падавай у тваім адказе чаго-небудзь неспадзявана дзіўнага, бо інакш мы ніколі ня скончым.

— Так, — сказаў ён, — з гэтае прычыны мы адрозьніваем іх.

— І кажнае з мастацтваў дае нам нейкую апрычоную карысьць, а не карысьць наагул: мастацтва лячэньня, напрыклад, дае нам здароўе; мастацтва вадаплаваньня — бясьпеку на моры, і гэтак далей?

— Пэўна.

— І мастацтва ўзнагароды за працу мае асаблівую задачу — платы за працу; мы не павінны гэтага зьмешваць зь іншымі мастацтвамі, але бачыць розьніцу, як у выпадку між лячэньнем і вадаплаваньнем. Напрыклад, здароўе вадаплаўніка можа палепшыцца ў часе плаваньня на моры, але з гэтае прычыны ты-ж ня скажаш, што вадаплаваньне зьяўляецца мастацтвам лячэньня, бо што найменей, падобнае цьверджаньне вынікала-б з твайго спосабу разважаньня?

— Ведама, што не, — сказаў ён.

— Або калі здарыцца, што ў часе атрыманьня заработнае платы, чалавек знаходзіцца ў добрым стане зда-

роўя, дык ты-ж ня будзеш цьвердзіць, што мастацтва ўзнагароды за плату зьяўляецца мастацтвам мэдыцыны.

— Ведама, што не.

— Гэтаксама ня скажаш ты, што мастацтва мэдыцыны зьяўляецца мастацтвам атрыманьня платы за працу, калі чалавек, што атрымлівае плату, знаходзіцца ў працэсе лячэньня?

— Не, не скажу, — адказаў ён.

— Значыцца, мы згодны, — сказаў я, — што карысьць кажнага паасобнага мастацтва адносіцца выключна да дадзенага мастацтва?

— Так, — сказаў ён.

— Затым, якуюколечы карысьць супольна маюць майстры ў тым ці іншым мастацтве, гэта трэба аднесьці да нечага таго, у чым яны супольна бяруць удзел і што́ прыносіць ім карысьць.

— Правільна, — адказаў ён.

— Можам-жа мы сказаць, што мастакі, каторыя атрымліваюць плату, маюць праз гэта карысьць для сябе, і тую яшчэ дадатковую карысьць, якую маюць яны з мастацтва ўзнагароды за працу?

Насілу ён згадзіўся з гэтым.

— Тады плата ня выплывае зь іхных, адказваючых ім, мастацтваў. Але праўдаю ёсьць, што, калі мастацтва мэдыцыны дае здароўе і мастацтва будаўлянае — дом, тады іншае мастацтва ўспамагае іх, і ім ёсьць мастацтва ўзнагароды за працу. І гэтак рэч маецца ў кажным іншым мастацтве — кажнае мастацтва чыніць сваю справу і атрымлівае карысьць у вадпаведнасьці да свайго пакліканьня. Калі-ж да дадзенага мастацтва не далучыцца плата, ці будзе тады карысьць для мастака?

— Мусіць, не, — сказаў ён.

— Але, ці не атрымлівае ён ніякае карысьці тады, калі працуе дарма?

— Я так думаю.

— Затым цяперака, Трасімахос, ня існуе болей ніякага сумліву, што аніякае мастацтва, ані ўрад не абясьпечвае карысьці для мастака; але, гэтак як і казалі мы раней, яны кіруюць і абясьпечваюць карысьць для сваіх падуладных, каторыя зьяўляюцца слабейшымі, а не сільнейшымі. Дзеля гэтага, мой паважаны Трасімахос, я і казаў яшчэ перад хвілінаю, што ніхто ня хоча добра-

ахвотна быць урадавым чалавекам і займацца паправаю чужых заганаў, але кажны, наадварот, дамагаецца ўзнагароды. Бо той, хто наўзорна тасуе сваё мастацтва, той ніколі ня дзейнічае і не загадвае з прычыны [347] ўласнага дабра, але загадвае, маючы толькі на ўвазе дабро сваіх падуладных. Затым, каб заахвоціць тых, што хочуць заняцца ўрадаваньнем, яны павінны быць аплочванымі ў хворме аднаго з трох спосабаў — грошы, гонар, або ка́ра для таго, хто адмаўляецца.

— Як ты разумееш гэта, Сакратас? — сказаў Ґляўкон. — Дзьве першыя хвормы ўзнагароды ведамыя мне, але ты і пакараньне ўважаеш за нейкі род узнагароды — гэтага я зусім не разумею.

— Відаць, што ты не разумееш сутнасьці гэткага роду ўзнагароды, якая для найлепшых людзей зьяўляецца найбольшым заахвочаньнем у напрамку выконваньня ўраду. Натуральна, ты ведаеш, што амбіцыя і прагавітасьць уважаюцца, — чым фактычна яны і ёсьць, — за няславу.

— Я разумею, — сказаў ён.

— З гэтае прычыны, — сказаў я, — грошы і гонар не зьяўляюцца сілаю прыцяжэньня для добрых людзей; добрыя людзі ня хочуць займаць урадавых становішчаў ані за грошы, ані з прычыны гонару, яны ня хочуць, каб іх называлі наймітамі, што адкрыта атрымліваюць грошы за ўрадаваньне, ані зладзеямі, якія патайком карыстаюцца грамадзкім дабром. І ня будучы амбітнымі, яны ня дбаюць пра гонары. З гэтае прычыны неабходнасьць прымусу мае быць тасаванаю адносна іх, каб яны пад уплывам страху кары згадзіліся кіраваць. І тут, як я сабе ўяўляю, ляжыць прычына чаму агульна ўважаецца сорамным добраахвотна дабівацца да ўлады, не чакаючы на неабходнасьць. Цяперака — самае найгоршае пакараньне зьмяшчаецца ў тым, што той, хто адмаўляецца ад урадаваньня, можа сам апынуцца пад уладаю некага, хто ёсьць горшым за яго. І як мне здаецца, якраз з прычыны страху перад гэткім пакараньнем, добрыя людзі прыймаюць урадаваньне, не затым, што яны хочуць, але затым, што яны ня могуць пастуціць інакш — не пад уплывам думкі, што яны займеюць нейкую карысьць або знойдуць у гэтым здаволеньне, але як неабходнасьць, ня маючы магчымасьці даручыць гэтую справу каму-

небудзь лепшаму за іх або падобнаму ім. Бо існуе падстава думаць, што калі-б места складалася выключна з добрых людзей, тады-б тых, што змагаюцца за магчымасьць ухіліцца ад улады, было-б гэтулькі сама, колькі цяперака ёсьць тых, што змагаюцца за яе. Тады мелі-б мы выразны довад, што запраўдны валадар мае на ўвазе ня тое, што карысна яму, але тое, што карысна падуладнаму; і кажны, хто разумее гэта, выбярэ баржджэй магчымасьць атрымліваць карысьць ад іншага, чымся клапаціцца самому на карысьць іншага. І на гэтым месцы нашае дыскусыі я зьяўляюся далёкім, каб згадзіцца з Трасімахосам, што справядлівасьць ёсьць карысьцяю для сільнага. Але гэта разважым мы пазьней. Яшчэ болей важным для мяне выдаецца, што́ Трасімахос цяперака кажа, пайменна, быццам жыцьцё чалавека несправядлівага лепшым ёсьць за жыцьцё чалавека справядлівага. А ты, Ґляўкон, — сказаў я, — якое жыцьцё выбіраеш? Якое з двух цьверджаньняў выдаецца табе болей праўдзівым?

— Паводля майго разуменьня, — адказаў ён, — жыцьцё справядлівага чалавека ёсьць болей мэтазгодным.

— А ці чуў ты, — сказаў я, — колькі рознага [348] дабра прымеркаваў Трасімахос да жыцьця чалавека несправядлівага?

— Так, я чуў яго, — адказаў ён, — але ён не пераканаў мяне.

— Тады, ці маем мы спрабаваць знайсьці спосаб пераканаць яго, калі толькі зможам, што ён кажа тое, што́ не адказвае праўдзе?

— І чаму-ж ня спрабаваць! — адказаў ён.

— Аднак-жа, — сказаў я, — калі мы пачнем адказваць яму моваю на мову, пералічваючы дабро справядлівасьці, а пасьля ён зноў будзе гаварыць, а мы за ім, дык спатрэбіцца весьці падлік гэтага дабра дый вымерваць яго; а каб ведаць, колькі з гэтага дабра кажны з нас выказаў у кажным сваім адказе, дык для дакладнасьці нам спатрэбяцца судзьдзі. З другое стараны, калі мы будзем весьці досьлед, як гэта і рабілі мы перад хвілінаю, калі мы ў думках згаджаліся, тады мы адначасна будзем і судзьдзямі, і абаронцамі.

— Вельмі добра, — сказаў ён.

— Які-ж з гэтых двух спосабаў табе ляпей падабаец-

ца? — сказаў я.

— Гэны апошні, — сказаў ён.

— Ну, што-ж, Трасімахос, — сказаў я,— адказвай нам з самага пачатку. Ты ўтрымліваеш думку, што дасканалая несправядлівасьць болей аплачваецца, чымся справядлівасьць?

— Так, — адказаў ён, — гэта я ўтрымліваю, і я падаў табе ўжо маё абаснаваньне.

— І які твой пагляд адносна гэтага? Ці называеш ты адну з гэтых своймасьцяў мужнасьцю, іншую — заганнасьцю?

— І чаму не?

— Я мяркую, што справядлівасьць ты называеш мужнасьцю, а загану — несправядлівасьцю?

— Якое прыгожае ўяўленьне! — адказаў ён, — мусіць і ня інакш, салодзенькі мой, пасьля таго, як я проста сказаў, што несправядлівасьць мэтазгоднаю ёсьць, а справядлівасьць — не!

— Тады, як трэба сказаць?

— Дый якраз наадварот, — сказаў ён.

— Значыцца, што справядлівасьць заганнаю?

— Не, я сказаў-бы барждждэй, што яна — вельмі добрая, грандыёзная тупіца.

— Тады, ці назавеш ты несправядлівасьць шкоднасьцю?

— Не, — сказаў ён, — але барждждэй кемнасьцю.

— Ці здаецца табе, Трасімахос, што несправядлівыя — гэта разумныя і добрыя?

— Так, — сказаў ён; — што найменей тыя, што здольнымі зьяўляюцца давесьці несправядлівасьць да дасканаласьці і быць у стане падпарадкаваць сабе цэлыя гаспадарствы і народы. А мо' ты думаў, што я гавару пра тых, што вырэзваюць кішэні? Што праўда і гэта ёсьць мэтанакіраванасьць, да пары, пакуль ня выкрыецца. Але пра іх няма што гаварыць, яны ня могуць быць параўнованымі з тымі, пра якіх вось я гаварыў.

— Я думаю, — сказаў я, — што я ўхваціў значэньне таго, што ты кажаш, але мне дзіўным выдаецца, што ты несправядлівасьць утаесамліваеш з мужнасьцю і мудрасьцю, а справядлівасьць — з іхнаю супроцьлежнасьцю.

— Так, гэта маё ўтаесамліваньне.

— Гэта, — сказаў я, — празьмерна груба, дружа мой,

і на гэткае ня кажны табе адкажа. Калі-б несправядлівасьць, пра якую ты ўтрымліваеш, што яна аплочваецца, але адначасна, як чыняць гэта іншыя, прызнаў-бы яе заганнаю і сорамнаю, магчыма, тады-б знайшлі мы што сказаць у сузгоднасьці з агульна прынятымі прынцыпамі. Але цяперака, як я разумею, ты пачнеш цьвердзіць, быццам несправядлівасьць ёсьць ганароваю рэчаю і сільнаю, і што несправядліваму чалавеку ты пачнеш прыпісваць усе тыя атрыбуты, якія мы адносім да справядлівасьці, калі ты ўжо бяз хістаньня ўтоесамліваеш [349] несправядлівасьць з мужнасьцю і мудрасьцю.

— Ты зусім добра прадказваеш, — сказаў ён.

— Затым, — сказаў я, — я не павінен адступацца ад падрабязнага разгляду ўсіх нашых аргумэнтаў, калі я ўжо маю падставу думаць, што ты, Трасімахос, фактычна, кажаш тое, што́ думаеш; бо я прыходжу да пераконаньня, што ты цяперака гаворыш паважна, і зусім не пацьвяляешся з намі.

— І якая-ж табе розьніца, — сказаў ён, — кажу я паважна ці не? Усяроўна, ты-ж ня зьб'еш майго цьверджаньня.

— Хоць і няма розьніцы, — сказаў я, — але ты ўсё-ж папробуй адказаць яшчэ на адно пытаньне: Ці справядлівы чалавек хоча мець якую-небудзь перавагу над іншым справядлівым?

— Зусім не, — адказаў ён. — Бо інакш ня быў-бы ён гэтакім далікатным, якім ён цяперака ёсьць, і прастаком.

— Ну, а ў справядлівых справах?

— Нават і ў справядлівых не, — адказаў ён.

— Ці захацеў-бы ён мець перавагу адносна чалавека несправядлівага? І ўважаў-бы ён гэта справядлівым ці несправядлівым?

— Уважаў-бы гэта справядлівым, і прадпрыняў-бы спробу займець перавагу; аднак ён не аказаўся-б здольным да гэтага.

— Акажацца ён здольным ці не, — адказаў я, — гэта ня ёсьць галоўнае. Маё пытаньне зьмяшчаецца ў тым, ці справядлівы чалавек, адкідаючы спробу перавагі над іншым справядлівым чалавекам, уважае патрэбным і хоча мець болей, чымся несправядлівы?

— Так, ён уважае і хоча, — сказаў ён.

— А што адносна несправядлівага чалавека, — ці ён

будзе імкнуцца займець болей, чымся справядлівы чалавек і пастунаць болей чымся справядліва?

— І чаму-ж бы не, — сказаў ён, — ён бо і імкнецца да таго, каб займець болей за ўсіх!

— Адсюль, несправядлівы чалавек будзе імкнуцца, каб займець перавагу над іншым несправядлівым чалавекам і ягонаю дзейнасьцю, і будзе зь ім змагацца, каб захапіць сабе як найболей?

— Пэўна.

— Тады, — сказаў я, — мы можам гэтак зірнуць на справу: справядлівы чалавек ня хоча мець болей за гэтакага, як ён, але болей за непадобнага да яго, у тым часе, як несправядлівы жадае болей, чымся абодва яны — за таго, хто падобны да яго, як і непадобны?

— Нічога ня можа быць ляпей сказаным, — адказаў ён, — як тое, што́ ты цяпер сьцьвердзіў.

— І несправядлівы, — сказаў я, — ёсьць добрым і мудрым, а справядлівы ані тым, ані гэтым?

— І гэта, — заўважыў ён, — ты добра сказаў.

— Дык што? — сказаў я, — несправядлівы чалавек падобным ёсьць да разумнага і добрага, а справядлівы, наадварот, непадобны?

— Як-жаж, — сказаў ён, — чалавек ня можа быць падобны да самога сябе, калі ён гэтакім сам ёсьць? А калі ён ня гэтакі, тады і непадобны.

— Вельмі прыгожа. Адсюль, кажны зь іх ёсьць гэтакім, да каго ён падобны.

— Пэўна, — адказаў ён.

— Добра, Трасімахос. Прызнацімеш ты, што адзін чалавек ёсьць адумыслоўцам у му́зыцы, а іншы — не?

— Так.

— І каторы-ж зь іх разумны, а каторы неразумны?

— Ведама, адумысловец у музыцы разумны, а неадумысловец неразумны.

— Калі ён ужо разумны, дык і добрым чалавекам зьяўляецца, і наколькі ён неразумны, нагэтулькі дрэнны?

— Але́.

— І падобнае можна сказаць адносна лекара?

— Ага́.

— Ці думаеш ты, мой паважаны, што музы́ка, калі ён настройвае сваю ліру, прэтэндуе і ідзе на нешта большае, чымся быць адумыслоўцам у напружваньні і адпружвань-

ні струн?

— Я думаю, што не.

— Але ідзе на нешта большае ад таго, хто не зьяўляецца адумыслоўцам?

— Абавязкава, — адказаў ён.

— А што ты скажаш адносна лекара? [350] Прыпісваючы ежу і піцьцё, ці ідзе ён на нешта большае, чымся быць лекарам або ведаць мастацтва лекаваньня?

— Зусім, не.

— А ці хоча ёнісьці на нешта большае, чымся нялекар?

— О, так.

— І наагул адносна веданьня і няведаньня; ці думаеш ты, што чалавек, які мае веданьне, захочаісьці далей у сваіх выказваньнях і дзеяньнях, чымся іншы чалавек, які гэтаксама мае веданьне? А мо' ён барджджэй кажа і паступае, як і той, яму падобны, у аднолькавых выпадках?

— Я думаю, — сказаў ён, — што тут будзе цяжка запярэчыць.

— А не́вук? Ці-ж і ён ня мае жаданьня мець болей, чымся той, што ведае і чымся невук?

— Вельмі магчыма.

— А рэчазнаўца? Мудры?

— Так.

— І мудры ёсьць добры?

—Але́.

— Тады, мудры чалавек і добры ня будзе хацець займець болей, чымся падобны да яго, але болей, чымся непадобны да яго і ягоная супрацьлежнасьць.

— Гэтак выглядае, — сказаў ён.

— Тады дрэнны чалавек і невук захоча займець болей чымся тыя два.

— Напэўна.

— Тады, Трасімахос, — сказаў я, — ці-ж ня прыйшлі мы да думкі, што несправядлівы ў сваіх жаданьнях ідзе далей за падобнага да яго як і за непадобнага? Ці ня гэтак ты казаў?

— Так, гэтак казаў я, — адказаў ён.

— Дый гэта ты гэтаксама сказаў, што справядлівы ня пойдзе далей у сваіх жаданьнях адносна падобнага да яго, але толькі адносна да непадобнага да яго?

— Так.

— Тады, справядлівы чалавек ёсьць падобны да мудрага і добрага, а несправядлівы — да дрэннага і невука.

— І мне гэтак здаецца.

— Але мы ўжо згадзіліся, што хто да каго пабобны, той і сам гэтакім ёсьць.

— Згадзіліся.

— Тады, справядлівы — гэта чалавек мудры і добры, а несправядлівы — дрэнны і невук.

Хоць Трасімахос і згадзіўся з усім гэтым, але насілу, і ня з гэткаю лёгкасьцю, як я гэта вам цяперака пераказваю. Тут давялося яму добра спацець, ужо хоць-бы і з тае прычыны, што рэч адбывалася летам. І я спасьцярог тое, чаго раней ня бачыў — Трасімахос пачырванеў. Цяпер-жа, калі мы прыйшлі да сузгоднасьці, што справядлівасьць — гэта мужнасьць і мудрасьць, а несправядлівасьць — загана і невуцтва, я сказаў:

— Ну, добра, — сказаў я. — Будзем уважаць, што гэта мы ўжо сьцьвердзілі. Але яшчэ і тое цьвердзілі мы, што несправядлівасьць — гэта сіла. Ці памятаеш ты гэта, Трасімахос?

— Памятаю, — адказаў ён, — але ня думай, што я згадзіўся з тым, штó ты гаварыў або не адказаў. Дый ўрэшце, калі пачну гаварыць, я пэўны, што ты пачнеш казаць, быццам я прамову трымаю. Затым, або дазволь мне выказацца, або калі ты жадаеш пытацца, пытайся, а я, як дзеці, буду падтакваць табе, нібы старым жанчынам, што апавядаюць казкі, раз казаць “так”, а іншым разам — “не”,ківіючы галавою пры гэтым.

— Толькі, — сказаў я, — не наўсуперак свайму ўласнаму перакананьню.

— Так, — сказаў ён, — я ўчыню ўсё, каб здаволіць цябе, калі ты ўжо не дазваляеш мне гаварыць. І што ты яшчэ хочаш?

— Нічога болей, — сказаў я, — калі ты хочаш гэткую паставу заняць — гэта ад цябе залежыць, а я тымчасам пастаўлю табе пытаньне.

— Калі ласка.

— Я пастаўлю табе пытаньне, якое ўжо я ставіў раней, з тою мэтаю, каб нашае разважаньне адносна [351] натуры справядлівасьці і несправядлівасьці праводзілася ў пажаданым парадку. Сьцьверджаньне было вы-

ражана, што несправядлівасьць ёсьць сільнейшаю і болей магутнаю, чымся справядлівасьць, але цяперака ўтоесамілі мы, што справядлівасьць — гэта мудрасьць і мужнасьць, з гэтага лёгка спасьцерагчы, што яна сільнейшаю ёсьць за несправядлівасьць, калі несправядлівасьць — гэта невуцтва. Гэтага ніхто болей ня будзе паддаваць пад сумліў. Я хачу разгледзець гэта, Трасімахос, ня так, як агульна прынята, але знайсьці адумысны падход: Ты ня будзеш пярэчыць, што гаспадарства можа быць несправядлівым і можа несправядліва імкнуцца паняволіць іншыя гаспадарствы або ўжо паняволіла іх, і магчыма трымае шматлікія зь іх у паняволеньні?

— І чаму не? — адказаў ён. — Зусім магчымым ёсьць, што найлепшае і найболей дасканалае ў сваей несправядлівасьці гаспадарства можа ўрэчаісьніць гэта.

— Я ведаю, — сказаў я, — што гэта было тваім цьверджаньнем. Але тое, што мяне далей удырвае, дык гэта: ці гэтая сіла, якую мае да свае дыспазыцыі наймагутнейшае гаспадарства можа існаваць і выконваць сваю ўладу без справядлівасьці ці мо' толькі пры наяўнасьці справядлівасьці?

— Калі існуе аснова для твайго пункту гледжаньня, — сказаў ён, — і справядлівасьць зьяўляецца мудрасьцю, тады толькі пры наяўнасьці справядлівасьці; але калі я маю рацыю — тады без справядлівасьці.

— Я вельмі цешуся, Трасімахос, — сказаў я, — што ты ня кажаш проста "так" або "не", але адказваеш найболей выдатна.

— Гэта, каб табе дагадзіць, — адказаў ён.

— І добра чыніш. А цяперака, будзь ласкавым і скажы мне, ці думаеш ты, што гаспадарства, або армія, або банда грабежнікаў і зладзеяў, або якая-небудзь іншая хэўра злачынцаў можа наагул праяўляць якую-небудзь дзейнасьць, калі яны несправядліва адносяцца адзін да аднаго?

— Ведама, што не, — адказаў ён.

— А калі яны ня чыняць несправядлівасьці адзін аднаму, тады могуць яны праводзіць дзейнасьць ляпей?

— Ведама.

— Ці не затым гэта, Трасімахос, што несправядлівасьць выклікае распадзел, нянавісьць, бойкі, а справядлівасьць — згоду і сяброўства. Ці ня так гэта?

— Я згаджаюся, — сказаў ён, — затым толькі, каб не сварыцца з табою.

— Гэта вельмі прыгожа з твае стараны, мой даражэнькі. А вось скажы мне: ці несправядлівасьць, маючы свомасьць уздымаць нянавісьць, дзеколечы яна праявіцца, будзе гэта сярод нявольнікаў ці сярод свабодных людзей, ці ня ўчыніць яна іх ненавісьнікамі адзін да аднаго, выкліча сярод іх закалот і спрычыніць між імі няздольнасьць дзейнічаць супольна?

— Напэўна.

— І нават калі несправядлівасьць праявіцца толькі ў двох, ці ня будуць яны ўжо сварыцца і стануцца ворагамі сабе як і да справядлівых людзей?

— Пэўна будуць ворагамі, — сказаў ён.

— Уявем сабе, дзіўны ты чалавеча, што несправядлівасьць укарэніцца ў паасобным чалавеку, тады, што? Згубіць яна свомую для сябе сілу? А мо' наадварот, астанецца яна ў такой самай моцы?

— Магчыма яна засьцяражэ сабе такую самую сілу, — адказаў ён.

— Ці-ж ня ёсьць тая сіла, якую несправядлівасьць праяўляе, гэтакае свомасьці, што, дзеколечы яна стаецца наяўнаю, — хай сабе ў гаспадарсьцьве ці ў супольнасьці, у арміі ці ў сям'і, ці ў якім небудзь іншым [352] зарганізованым целе — яна перад усім выклікáе няздольнасьць дзейнасьці гэтых целаў, ужо хоць-бы з тае прычыны, што дзейнасьць гэткая цесна вяжацца зь ёю самою, — бо-ж яна вядзе да сварак, нязгоды, унутранае і вонкавае варожасьці, і нават адносна справядлівага чалавека. Ці ня гэтак рэч маецца?

— Так, ведама.

— Гэтаксама нават, калі несправядлівасьць праяўляецца ў вадным чалавеку, яна ў першую чаргу выкліквае тое, што свомым для яе ёсьць, пайменна, яна чыніць яго няздольным да дзейнасьці, бо яна выкліквае ў ім нязгоду з самым сабою; па-другое, яна чыніць яго ворагам самому сабе і кажнага справядлівага чалавека. Ці ня так гэта ёсьць?

— Так.

— Але дружа мой, — сказаў я, — усе-ж багі справядлівыя?

— Гэтакімі могуць яны быць, — сказаў ён.

— Тады, несправядлівы будзе ворагам для багоў, а справядлівы — прыяцелем для іх?

— Ты сам частуйся гэтакім разважаньнем, — зусім спакойна, сказаў ён. — Я ня буду пярэчыць табе, каб не нажыць сабе ворагаў сярод прысутных.

— Добра, — сказаў я. — Тады працягвай далей свае адказы, каб займець мне дапаўненьне да майго пачастунку. Бо мы ўжо выказалі, што справядлівыя людзі зьяўляюцца мудрэйшымі, лепшымі і болей здольнымі да дзеяньня, чымся несправядлівыя, і, што несправядлівыя не зьяўляюцца здольнымі да супольнага дзеяньня; аднак ня болей, чымся гаворыцца гэта пра людзей, якія энэргічна і дрэнна паступаюць разам у кажным часе і гэта будзе ня зусім правільна, бо калі-б яны былі дасканала дрэннымі, тады-б яны рашуча выступілі адзін супраць аднаго; гэта бо і зьяўляецца доказам, што ў іх знаходзілася нешта са справядлівасьці, якая не дазволіла ім спалучыцца, інакш яны-б пакрыўдзілі адзін аднаго. У іхных прадпрыняцьцях яны былі толькі поўнягоднікамі; бо калі-б яны былі поўнымі нягоднікамі і поўнасьцю несправядлівымі, тады-б яны былі зусім няздольнымі да чыну. Гэта, як я мяркую, і ёсьць сутнасьцю рэчы, а ня тое, што́ ты казаў напачатку. Але ці справядлівыя людзі маюць лепшае і болей шчасьлівае жыцьцё ў параўнаньні да несправядлівых — гэта зьяўляецца наступным пытаньнем, якое мы прапанавалі разгледзець. Я схіляюся да думкі, што яны маюць, і гэта з прычынаў, якія я падаў. Але, ня гледзечы на ўсё пададзенае, я ўсё-ж схільным астаюся, каб выэкзамінаваць гэтае пытаньне, бо-ж ня ідзе пра рэч вельмі простую, але пра тое, як чалавек мае жыць добрае жыцьцё.

— Тады, ідзі наперад, — сказаў ён.

— І гэта я раблю, — адказаў я. — Вось, скажы, як табе здаецца: Мае конь якое-небудзь прызначэньне?

— Так.

— Ці ня будзеш ты тое ўважаць за прызначэньне каня або якое-небудзь іншае рэчы, што ня можа быць выканана, або ня гэтак добра выканана якою-небудзь іншаю рэчаю?

— Я не разумею, — сказаў ён.

— Дазволь мне выясьніць: Ці можаш ты бачыць чым-небудзь іншым, апрача вачэй?

— У ніякім выпадку.

— А чуць чым-небудзь іншым, апрача вушэй?

— Не.

— Падобна можа быць з апраўданьнем сказана адносна мэтаў гэтых ворганаў?

— Можа быць.

— Але галіны вінаграднае лазы ты-ж можаш [353] абрэзаць садовым або простым нажом, або ўжываючы шмат іншых прыладаў?

— І чаму не?

— Але нічым не абрэжаш іх гэтак добра, як адумысным нажом да гэтага?

— Гэта праўда.

— Ці-ж ня можам мы, тады, сказаць, што гэта і ёсьць прызначэньнем садовага нажа?

— Можам.

— Цяперака, я думаю, ты ня меціме труднасьці ў зразуменьні значэньня пастаўленага мною пытаньня, паймення: ці ня будзеш ты тое ўважаць за прызначэньне любое рэчы, чаго ня можа выканаць або гэтак добра выканаць, ніякая іншая рэч.

— Я разумею цяперака, — сказаў ён, — значэньне твайго пытаньня; бо гэта якраз і будзе прызначэньнем кажнае рэчы.

— Добра, — сказаў я. — Ці спасьцерагаеш ты, што тое, да чаго вызначана прызначэньне, абдорана яно гэтак-сама і мужнасьцю? Дазволь мне зноў запытаць, ці маюць вочы сваё прызначэньне?

— Маюць.

— Ці-ж ня маюць вочы свае мужнасьці?

— Так, маюць сваю мужнасьць.

— А вушы маюць сваё прызначэньне?

— Але́.

— Гэтым, і сваю мужнасьць?

— Так, і мужнасьць.

— І гэта самае будзе праўдаю адносна ўсіх іншых рэчаў; усе яны маюць прызначэньне і адумысную мужнасьць?

— Так.

— Пачакай крышку! Ці могуць вочы выканаць сваё прызначэньне, калі яны ня маюць свомае для іх мужнасьці, а замест гэтага — адны толькі недахопы?

— Як яны могуць? — адказаў ён, — калі яны сьляпыя і ня могуць бачыць.

— Хочаш ты сказаць, калі яны згубілі свомую для іх мужнасьць, якая зьяўляецца ўзрокам? Але я яшчэ да гэтага не дайшоў. Я хацеў-бы паставіць пытаньне ў агульным абсягу і даведацца толькі, ці рэчы, якія выконваюць свае прызначэньні, выконваюць іх на дарозе свомае для іх мужнасьці, а не выкананьні прызначэньняў стаюцца ў выніку іхных уласных недахопаў?

— Гэта ты зусім праўдзіва кажаш, — сказаў ён.

— Я магу сказаць гэта самае і пра вушы; калі яны пазбаўлены свомае ім мужнасьці, яны ня могуць выканаць свайго прызначэньня.

— Напэўна.

— І гэтая самая спасьцярога адносіцца да ўсіх іншых рэчаў?

— Мне выдаецца гэтак.

— Добра, а ці-ж душа ня мае свайго прызначэньня, якога нішто іншае на сьвеце ня можа выканаць? — Напрыклад, ахоўваць, загадваць, раіць і гэтак далей. Ці-ж гэтыя функцыі не зьяўляюцца свомымі для душы і ці могуць яны быць папраўдзе пераказанымі чаму-небудзь іншаму?

— Няма ніякага гэтакага іншага.

— А ці-ж ня можна самога жыцьця ўключыць у тое, што ёсьць прызначэньнем душы?

— Напэўна можна, — адказаў ён.

— І ці-ж сама душа не зьяўляецца гэтаксама мужнасьцю?

— Зьяўляецца.

— І можа яна, Трасімахос, ці ня можа выканаць сваіх уласных прызначэньняў, калі адсутнічае ў ёй гэтая мужнасьць?

— Яна ня можа.

— Тады дрэнная душа неабходна мусіць быць дрэнным кіраўнікам і даглядчыкам, а добрая душа — добрым даглядчыкам.

— Так, неабходна.

— Але мы згадзіліся, што справядлівасьць зьяўляецца мужнасьцю душы, а несправядлівасьць — недахопам душы?

— Так, гэта было ўзгоднена між намі.

— Тады, справядлівая душа і справядлівы чалавек будуць добра жыць, але несправядлівы чалавек — дрэнна?

— Твая аргумэнтацыя даводзіць гэта, — адказаў ён.

— Але чалавек, які жыве добра, дабраслаўленым [354] ёсьць і шчасьлівым, а хто нягодна жыве — адваротнае ёсьць ягоным удзелам.

— Напэўна.

— Згэтуль, справядлівы чалавек ёсьць шчасьлівым, а несправядлівы — гэта чалавек годны нашае літасьці.

— Гэта вельмі магчыма.

— І што за папрок, быць жалю годным? Іншая справа — быць шчасьлівым.

— Я разумею.

— Тады, паважаны мой Трасімахос, несправядлівасьць ніколі ня можа быць болей карыснаю, чымся справядлівасьць.

— Тады, Сакратас, — сказаў ён, — няхай гэта будзе тваім пачастункам на Бэндідэях.

— За гэта я астаюся ўдзячным табе, Трасімахос, — сказаў я, — цяперака калі ты стаў болей прыхільным да мяне і перастаў злосьціцца. Ня гледзячы аднак на гэта, я яшчэ не начаставаўся ўдосталь; але гэта з мае віны, а не з твае. Як лізуны склоннымі зьяўляюцца перакідвацца з аднае падаванае ў сваей чарговасьці стравы на чарговую, каб барджджэй скаштаваць, не пакідаючы сабе часу, каб нацешыцца папярэдняю, гэтак і я перакідваюся з аднаго прадмету дыскусыі на іншы бяз знойдзеньня таго, што я шукаў, пайменна, задавальняючага адказу на пытаньне, што такое справядлівасьць. Я пакінуў гэты досьлед і зьвярнуўся да таго, каб ужо даведацца, ці справядлівасьць ёсьць мужнасьцю і мудрасьцю, а мо' злом і заганаю; і калі ўзьнікае далейшае пытаньне што да дадноснасьці карысьцяў справядлівасьці і несправядлівасьці, тады я не магу паўстрымацца, каб не заняцца і гэтым пытаньнем. І ў выніку ўсяе гэтае дыскусыі я нагул ужо нічога ня ведаю. Бо я ня ведаю чым справядлівасьць зьяўляецца; і з гэтае прычыны я ня маю ніякае праўдападобнасьці ведаць, ці яна ёсьць ці ня ёсьць мужнасьцю, гэтаксама, як і не магу я сказаць, ці справядлівы чалавек зьяўляецца шчасьлівым ці нешчасьлівым.

Сказаўшы гэтакія словы, я думаў, што нашая [357] дыскусыя дайшла да свайго канца; але, у запраўднасьці, як аказалася, канец стаўся пачаткам. Бо Гляўкон, каторы перад нічым не ўступае, астаўся нездаволены адказам Трасімахоса; затым ён зьвярнуўся да мяне і сказаў:

— Сакратас, ці хочаш ты нас запраўды перараканаць, ці адно, каб толькі здавалася, быццам ты нас перараканаў, што быць справядлівым заўсёды ёсьць ляпей, чымся быць несправядлівым?

— Я павінен жадаць сабе запраўды перараканаць вас, — адказаў я, — калі-б я толькі мог.

— Дык выходзіць, што ты ня чыніш таго, што хочаш зрабіць, — сказаў ён. — Скажы мне, затым, ці верыш ты, што існуе гэткае дабро, якое хацелі-б мы мець не з прычыны наступстваў яго, але што яно само ў сабе поўнавартасным ёсьць? Як напрыклад, бясшкодная прыемнасьць або радасьць — яны радуюць нас у дадзеным часе, але нямашака ніякіх наступстваў зь іх на прышласьць?

— Мне гэтак выдаецца, — сказаў я, — што нечым такім яно ёсьць.

— Але як гэта? А тое, што мы шануем часткава з прычыны яго наступстваў, як і часткава, што яно поўнавартасным у сабе ёсьць, як напрыклад разуменьне, узрок, здароўе, што зьяўляюцца жаданымі з прычыны іх самых як і наступстваў іх — уважаеш ты за дабро?

— Так, — сказаў я.

— Ці не спасьцерагаеш ты яшчэ нейкае трэйцяе групы дабра, падобна як ґімнастычныя практыкаваньні, дагляд над хворымі і мастацтва лекара, дый іншыя заняткі, зьвязаныя з прыбыткам? Хоць яны і карыснымі для нас уважаюцца, але людзкая апінія разыходзіцца адносна іх. І насілу ці захацелі-б мы займацца імі дзеля іх самых,

калі-б ня пэўная ўзнагарода і вынік, выплываючыя зь іх?

— Існуе гэтаксама і трэйцяя група, — сказаў я. — Але чаму ты пытаесься?

— Бо я хачу ведаць, — сказаў ён, — у якую з трох групаў ты ўмясцовіш справядлівасьць?

— У найвышэйшую групу, — адказаў я, — сярод [358] найпрыгажэйшага дабра, якое і само ў сабе, і з прычыны свае пасьлядоўнасьці павінна быць высокацэнным чалавеку, калі імкнецца ён да шчасьця.

— Але большасьць людзей, — сказаў ён, — падтрымлівае іншы пагляд; яны тае думкі, што справядлівасьць павінна быць аднесена да групы, спрычыняючае клопат і, што ёю можна займацца толькі пры наяўнасьці ўзнагароды, дзеля пашаны ці славы, а што да самое яе, дык людзі разыходзяцца ў паглядах, і ўважаюць ляпей абмінаць яе.

— Мне ведамым ёсьць гэтакі пагляд, — сказаў я, — дый Трасімахос якраз цяперака ўтрымлівае гэта, калі ён наракае на справядлівасьць і выхваляе несправядлівасьць. Але мусіць я цяжкім астаюся ў агортваньні рэчаў, каб быць перакананым ім.

— Пачакай, — сказаў ён, — паслухай гэтаксама і мяне, магчыма ты згодзішся са мною. Бо, як я бачу, Трасімохос, быццам тая вужака, зараз-жа зачараваўся тваім голасам, і ўступіў табе, а для мяне твае довады адносна справядлівасьці і несправядлівасьці ўсё яшчэ астаюцца няяснымі. Пакідаючы наўзбоччу іхныя ўзнагароды і пасьлядоўнасьці, я хачу ведаць, чым яны зьяўляюцца самыя ў сабе, і як яны дзеюць ў васяродзьдзі душы. Вось што хачу я зрабіць, калі ты нічога ня маеш супроць гэтага: я хачу пераглядзець аргумэнтацыю Трасімахоса. — Па-першае, я буду гаварыць пра натуру і першапачатак справядлівасьці ў сузгоднасьці з тым, што людзі думаюць пра справядлівасьць. Па-другое, я пакажу, што ўсе людзі, каторыя практыкуюць справядлівасьць, чыняць гэта супраць свае волі, з прычыны неабходнасьці, а не затым, што гэта дабро. Па-трэйцяе, я зьвярну ўвагу на тое, што падход гэткі мае сваё апраўданьне, бо жыцьцё чалавека несправядлівага ёсьць шмат лепшым, чымся жыцьцё справядлівага чалавека — калі тое, што людзі кажуць, ёсьць правільным, Сакратас, хоць сам я не падзяляю іхнага пагляду. Але ўсё-ж, я мушу сьцьвер-

дзіць, што я зьдзіўленым астаюся, калі чую Трасімахоса і шматлікіх іншых людзей голас, які журчыць у маіх вушах; і, з другога боку, я ніколі ня чуў голасу адносна перавагі справядлівасьці над несправядлівасьцю, голасу, які-б утрымліваў гэта ў сіламоцы перакананьня. Мне хочацца пачуць пахвалу справядлівасьці, як гэткай; тады буду я здаволеным. І мне здаецца, што ты зьяўляешся тою асобаю, з вуснаў якое найболей праўдападобна я пачую гэта. І з гэтае прычыны я наўмысьня пачну хваліць несправядлівае жыцьцё, каб гэткім спосабам падшапнуць табе, як хацелася-б мне пачуць ад цябе асуджэньне несправядлівасьці і пахвалу справядлівасьці. Скажы, ці згаджаешся ты з маею прапановаю?

— Зусім згаджаюся, — сказаў я. — Дый ці-ж можа для разумнага чалавека што-небудзь болей прыемным быць, чымся магчымасьць весьці частыя гутаркі на падобную тэму?

— Я цешуся, — адказаў ён, — чуючы што́ ты кажаш. Затым, паслухай тое, пра што я ўжо ўспомніў, пайменна, пра натуру і першапачатак справядлівасьці.

Кажуць, што чыніць несправядлівасьць, з натуры свае, ёсьць добра; а цярпець несправядлівасьць — дрэнна. Аднак калі чалавек церпіць несправядлівасьць, у гэтым шмат болей дрэннага, чымся добрага, калі яе тварыць. Затым, калі людзі дазналі адно і другое, гэта [359] значыць, тварылі несправядліва і цярпелі з прычыны несправядлівасьці і ня былі здольнымі ўхіліцца ад аднаго і займець другое, тады яны прыйшлі да сузгоднасьці, што ляпей дагаварыцца між сабою: ня чыніць несправядлівасьці ані цярпець з прычыны яе. Згэтуль бяруць свой пачатак правы і ўзаемныя ўмовы; і тое, што прадвызначыцца правам, тэрмінуецца праўным і справядлівым. І гэта яны замацавалі як першапачатак і натуру справядлівасьці — гэта ёсьць сярэдзіна або кампраміс паміж найлепшым з усяго, што ёсьць, гэта тое, што — тварыць несправядлівасьць і ня быць пакараным, і найгоршае за ўсё, што́ ёсьць — цярпець несправядлівасьць і аставацца бяз сілы адплаты; і справядлівасьць, знаходзячыся ў пункце сярэдзіны паміж гэтымі двума, ёсьць талераванаю не затым, што яна дабро, але як найменшае зло, і ганараванаю з прычыны няздольнасьці людзей чыніць несправядлівасьць. Бо ніякі чалавек, годны

імя чалавека, ніколі ня пойдзе на гэтакую ўмову, якая дапускае тварыць або адчуваць несправядлівасьць, калі ён быў здольным супроцьставіцца; ён быў-бы пазбаўлены розуму, калі-б пайшоў на гэта. Гэтакім ёсьць пераказ, Сакратас, пра натуру і пра паходжаньне справядлівасьці.

Цяперака, тыя, што практыкуюць справядлівасьць, чыняць гэта супраць сваеі волі і з прычыны адсутнасьці сілы быць несправядлівымі, што найболей выразна выступіць перад намі, калі мы ўявім сабе наступнае: дайма поўную волю дзеяньня справядліваму чалавеку, як і несправядліваму, рабіць усё чыста, што толькі яны захочуць, і будзем назіраць іх, каб даведацца, куды іх павядуць іхныя схільнасьці. Пры першым чыне, гэтак справядлівага, як і несправядлівага, мы спасьцеражэм, што абодва яны ўзыйшлі на адзін і той самы шлях, шлях іх уласнае прагавітасьці, якая кажнаму жывому існаваньню выдаецца дабром, а калі яны і накіроўваюцца на шлях справядлівасьці, дык стаецца гэта толькі з прычыны сілы права. Поўная свабода дзеяньня для людзей тварыць усё, што яны хочуць, была-б тады, калі-б яна была дадзеная ў хворме, якою, як кажуць, карыстаўся [Ґіґэс], прашчур лідыйцаў. Паводля традыцыі, ён быў пастухом на службе караля Лідыі. Аднойчы ў часе дажджовае навальніцы і землятрусу зямля мясцамі патрэскалася і ўзьнікла нетравая расколіна недалёка ад таго месца, дзе ён пасьвіў сваё стада. Зьдзіўлены гэтакім спазорам, ён спусьціўся ў расколіну зямлі, дзе, сярод іншых цікавасьцяў, спасьцярог пустога каня з бронзы зь дзьверцамі, праз якія ён зірнуў у сярэдзіну і ўгледзіў мерцьвяца большага за чалавека ростам, і ня маючага нічога болей на сабе апрача залатога пярсьцёнка на пальцу. Ён зьняў пярсьцёнак, узяў яго сабе і вылез навонкі. Цяперака, надыйшла пара́ сабрацца пастухам разам, і паводля звычаю, выслаць каралю сваю месячную справаздачу пра стан сваіх стадаў; Ґіґэс гэтаксама прыбыў на зграмаджэньне з пярсьцёнкам на пальцу і, калі ён сядзеў сярод пастухоў, здарылася, што ён павярнуў пярсьцёнак каменем да далоні, і ў гэтую самую хвіліну ён стаўся неспасьцярожным для рэшты прысутных, і яны пачалі [360] гаварыць пра яго, як аб няпрысутным. Гэта яго зьдзівіла, ён зноў дакрануўся да пярсьцёнка, павярнуў яго на вон-

кі, і зноў стаўся бачаным усімі. Спасьцярогшы гэта, ён пачаў пробаваць ці запраўды пярсьцёнак мае гэтакую свомасьць і заўсёды атрымліваў той самы вынік — раз спасьцярожным быў ён, а іншым разам неспасьцярожным — у залежнасьці ад таго, як павяртаў ён свой пярсьцёнак. Зразумеўшы гэта, ён пачаў меркаваць, як-бы гэта папасьці ў лік пасланцоў, якія пасылаліся ў двор караля; атрымаўшы доступ да караля, ён адразу зьвёў ягоную жонку, напаў зь ёю на яго, забіў, і загарнуў валадарства ў свае рукі.

Прымем цяперака, што існавалі два гэтакія чароўныя пярсьцёнкі — адзін на руцэ справядлівага чалавека, а другі на руцэ несправядлівага. Цяжка ўявіць сабе чалавека з гэтакаю жалезнаю натураю, які-б цьвёрда супроцьставіўся несправядлівасьці. Ніякі чалавек ня могбы паўстрымацца ад таго, каб не ўзяць тое, што не зьяўляецца ягонаю ўласнасьцю, калі толькі ён без найменшае небясьпекі для сябе можа ўзяць на рынку ўсё чыста, што толькі яму да спадобы, уваходзіць у дамы і ляжаць з кімколечы яму пакажацца прыемным, або забіць, ці выпусьціць з вастрогу кажнага, каго ён захоча, — і наагул, дзейнічаць сярод людзей, як бог. Затым, дзеяньні справядлівага чалавека будуць падобнымі да паступаваньняў несправядлівага. Іхныя чыны ў вапошнім падсумаваньні зыйдуцца ў вадным супольным для іх пункце. І тут мы можам прыйсьці да запраўднага доваду, што чалавек стаецца справядлівым не паводля свае волі або, што ён думае, што справядлівасьць ёсьць дабром асабістым для яго, але толькі дзякуючы неабходнасьці, бо кажны раз, калі нехта думае, што з усёю для яго бясьпекаю, ён можа быць несправядлівым, тады ён і стаецца несправядлівым. Бо ўсе людзі падтрымліваюць перакананьне ў сваіх сэрцах, што несправядлівасьць далёка болей карыснаю ёсьць для адзінкі, чымся справядлівасьць, а той, хто бароніць гэткі пункт гледжаньня, як я і дапушчаў гэта, скажа, што яны правільна разважаюць. І, калі ты можаш уявіць сабе каго-небудзь, з надзелам гэтакае сілы ставацца неспасьцярожным, і ня чынячага нічога дрэннага або не забіраючага нічога з таго, што зьяўляецца ўласнасьцю іншага, дык гэтакі выдасца ўсім тым, хто гэта заўважыць, мізэрным і жалю годным глупцом, хоць самыя яны, прыкідваючыся, пачнуць у твары

сабе хваліць яго, і ўсё гэта дзеля страху, каб і ім не давялося цярпець з прычыны несправядлівасьці. Вось як гэтая рэч маецца.

Цяперака, калі мы маем ухвармаваць праўдзівы высnaў адносна жыцьця справядлівага чалавека і несправядлівага, мы мусім разьмежаваць іх: іншае магчымасьці нямашака; і ́як гэткае разьмежаваньне мае быць дакanana? І я адказваю: Няхай несправядлівы чалавек астаецца зусім несправядлівым, а справядлівы чалавек — зусім справядлівым; і нічога не адкінуць з прыкметаў справядлівага чалавека як і несправядлівага, і абодва яны маюць быць дасканала заспасоблены для працы, адказваючай іхнаму спосабу жыцьця. Перш, няхай чалавек несправядлівы дзейнічае падобна, як дзейнічаюць выдатныя майстры, напрыклад: здольны стырнічы або лекар, які вычувае сваю ўласную сілу і ведае што́ ў ягоным занятку магчымым ёсьць і што́ немагчымым — адно ён бярэцца зрабіць, а да іншага не датыкаецца; дый апрача гэтага, ён здольным астаецца, ў [361] выпадку памылкі — паправіць яе. Няхай гэтак несправядлівы чалавек чы́ніць свае несправядлівыя замеры ў належны спосаб, і чы́ніць усё патайком, калі ён маніцца быць вялікім у сваёй несправядлівасьці; калі яго выкрыюць — значыць ён нічога: бо найвышэйшае асягненьне ў несправядлівасьці — гэта выдавацца справядлівым тады, калі ім зусім не зьяўляешся. Затым, я кажу, што ў дасканальна несправядлівым чалавеку трэба дашуквацца найболей дасканалую несправядлівасьць, не пазбаўляючы яе ані аднае найменшае часьцінкі, але мы мусім дазволіць яму, у тым самым часе, калі даконвае ён найболей несправядлівыя дзеяньні, асягваць найвышэйшую рэпутацыю справядлівасьці. Калі ён учыніў хвальшывы крок, ён мусіць быць здольным паправіць самога сябе; ён павінен быць валадаром слова, каб пераканаць, калі выкрыецца нешта зь ягоных несправядлівых дзеяньняў; а калі спатрэбіцца, ён мусіць гэтаксама тасаваць гвалт, бо ён мае адвагу і сілу, дый апрача гэтага ён здабыў сабе сяброў і багацьце.

А цяперака, пасьля таго, як мы ўявілі сабе несправядлівага, на гэтым баку мы паставім справядлівага чалавека ўва ўсёй ягонай шляхэтнасьці і прастаце, гэтак, як і Айсхілёс кажа, каб бы́ў, а не здаваўся добрым. Усякая

здань мае быць адкінутаю, бо калі здаецца справядлівым, ён будзе ганараваны і ўзнагароджваны, і тады ён ня будзе ведаць, ці зьяўляецца ён справядлівым з прычыны самое справядлівасьці, ці з прычыны гонараў і ўзнагародаў. Ён павінен быць апранутым толькі ў справядлівасьць і ў нічога іншае, і выяўляць сабою поўную супроцьлежнасьць таго першага чалавека. Няхай ён будзе найлепшым зь людзей, і няхай гавораць пра яго найгоршае, каб гэтым самым стаўся ён паддадзены выпрабаваньню; а мы пабачым тады, ці паддасца ён перад страхам няславы і наступстваў яе. І няхай крочыць ён гэтакім шляхам аж да самае сьмерці: будучы сам справядлівым, а здаваўся несправядлівым. І калі яны абодва дойдуць да свайго кульмінацыйнага пункту: адзін да справядлівасьці, а іншы — несправядлівасьці, тады можна будзе зрабіць выснаў, хто з двух іх ёсьць найболей шчасьлівым.

— Нуй-жаж! даражэнькі мой Ґляўкон, — сказаў я, — як-жаж зацята ты выґлянсаваў іх для нашага вырашэньня, перш аднаго, а пасьля другога, быццам дзьве статуі!

— Так, учыніў я ўсё, што мог, — адказаў Ґляўкон. — І цяперака, калі мы ведаем якімі яны ёсьць, ня мецімем труднасьці шляхам разважаньня высачыць, якое гэта жыцьцё чакае на кажнага зь іх. І пра гэта варта далей гаварыць; калі гэта выйдзе нам крыху за яскрава, дык уважай, Сакратас, што гэта кажу не я, але тыя, што замест справядлівасьці выхваляюць несправядлівасьць. І няхай дазволеным мне будзе ўкласьці ў вусны тых, што выхваляюць несправядлівасьць: яны скажуць табе, што гэтак перакананы справядлівы чалавек будзе выхвастаны, паддадзены катаваньню, накладуць на яго путы, выпаляць яму вочы, і пасьля ўсяго гэтага, пасадзяць яго яшчэ на кол: тады ён зразумее, што ён павінен толькі здавацца справядлівым, але ня быць ім. Словы Айсхілёса магчыма найболей адпаведнымі будуць для [362] чалавека несправядлівага, чымся справядлівага. Бо несправядлівы займаецца рэчаіснасьцю — ён хоча быць запраўды несправядлівым, а не адно здавацца гэтакім:

Ральля узрыхлена, — ягоны думкі,
Зь іх пастановы вырастаюць мудрыя.

Перад усім ён займее ўладу ў сваім месьце, бо ён будзе

здавацца справядлівым; пасьля возьме сабе жонку, якую толькі захоча, і пачне выдаваць замуж каго захоча; ён можа ўступаць у зносіны зь любым чалавекам, і праводзіць розныя справы, але заўсёды з карысьцю для сябе, а гэта затым, што ён не палохаецца несправядлівасьці; і пры кажным непаразумленьні, хай сабе публічным ці прыватным, ён возьме верх і пераможа сваіх ворагаў, і яшчэ займее карысьць для сябе на іхны рахунак, затым багатым ён ёсьць, і зьяўляецца ў стане абдарыць сваіх сяброў і разьбіць дазваньня сваіх ворагаў; і ня толькі гэта — ён можа рабіць ахвяраваньні і прыносіць дарункі багам у вялікай колькасьці і ў яшчэ большай пышнасьці, і можа аддаваць пашану багам як і кажнаму чалавеку, якога хоча ён уганараваць і далёка ў лепшай манеры, чымся справядлівы; затым, вельмі праўдападобна, баржджэй яму, чымся чалавеку справядліваму выпадае займець болей ласкі ў вачох багоў. Затым, Сакратас, багі і людзі злучыліся, як гэта кажацца, каб учыніць жыцьцё несправядлівага чалавека лепшым, чымся жыцьцё справядлівага.

Я якраз меўся нешта адказаць Гляўкону, як у гэтую хвіліну Адэімантос, ягоны брат, зьвярнуўся да мяне:

— Сакратас, — сказаў ён, — ты, хіба, не ўважаеш за здавальняючае тое, штó было сказаным і што нічога ўжо ня можна дадаць?

— Чаму? ёсьць яшчэ нешта? — адказаў я.

— Ня ўзята пад увагу найгалаўнейшага з таго, штó трэба было сказаць, — адказаў ён.

— Тады, — сказаў я, — паводля выслоўя: "Хай брат успаможа брата", — калі ён што-небудзь прапусьціў, дапамажы яму; хоць я мушу прызнацца, што Гляўкон ужо сказаў даволі шмат, каб паваліць мяне і ўчыніць абяздужаным у дапамозе справядлівасьці.

— Гэта нічога, — сказаў ён. — Але дазволь мне дадаць яшчэ болей: Ёсьць яшчэ іншы пункт гледжаньня таго, пра што гаварыў Гляўкон, пайменна, пра выхваляньне справядлівасьці і дакор несправядлівасьці, штó аднолькава ёсьць карысным, каб зразумець, як я думаю. тое, штó ён меў на ўвазе. Бацькі і вучыцялі заўсёды кажуць сваім сынам і гадунцам, што яны маюць быць справядлівымі; і чаму чыняць яны гэта? — ня зусім з прычыны самое справядлівасьці, але з прычыны харак-

тару і рэпутацыі, якія выток свой бяруць зь яе; і гэта ў спадзеі атрыманьня для іх становішчаў у месьце, жанімстваў і падобнага, што́ Ґляўкон вылічыў спасярод выгадаў, прыпадаючых на долю несправядлівых, што́ цешацца славаю справядлівых. [363] Дый яшчэ болей можна сказаць пра групу гэтакіх людзей, якія паклікаюцца і на іншыя прывілеі добрае славы, злучаныя з гэткім зьявішчам, як пашана для іх са стараны багоў, дый яны могуць зьвярнуць увагу і на абцякаючае іх дабро, якое, як яны думаюць, неба арашае людзей пабожных. Пра гэта кажа гэтакі ве́лічны паэта, як Гэзіёдос, дый Гомэр таксама. Паводля першага, багі стварылі для справядлівых дубы, каб

Зьверху дарыць жалудамі іх, і мёд із дупла выбіралі.
Стады на ўзгорках пасуцца ваўністых авечак на радасьць.

І шмат іншым дабром абдарылі яны іх; у гэтым сэнсе і Гомэр выражаецца:

Князь беззаганны, што славу трымае, і богу-падобны —
За справядлівасьць зямля чорназёмная родзіць багата
Жыта, ячмень і пшаніцу; на дрэвах плады угінаюць галіны;
Плодзіцца быдла на полі, і рыбай напоўнены воды.

Яшчэ большымі зьяўляюцца дары неба, якія Мусайёс і ягоны сын прыракаюць справядлівым; яны, паводля іхных словаў, вядуць іх у сьвет падзямельля, дзе пабожныя ўзьлежваюць на ложах падчас баляваньня ў стане заўсёдытрываючага ап'яненьня зь вянцамі на галовах; згэтуль прабіваецца думка, што найпрыгажэйшаю ўзнагародаю за мужнасьць зьяўляецца стан вечнага ап'яненьня. Іншыя распасьціраюць узнагароды багоў яшчэ далей, калі яны кажуць, што дзеці ягоных дзяцей трывацімуць, як і іхныя нашчадкі. Гэтакім ёсьць іхны спосаб, якім яны праслаўляюць справядлівасьць. Але бязбожных і несправядлівых яны пагружаюць у нейкую дрыгву ў Гадэсе і змушаюць іх рэшатам насіць ваду; і нават калі яны яшчэ жывуць, яны ачарняюць іх няславаю, і накладваюць на іх пакараньні, якія нагадвае нам Ґляўкон, калі ён гаворыць пра людзей справядлівых, але якія вядомымі былі, як несправядлівыя, і іншага нічога яны ня ведаюць. Гэтакі ёсьць спосаб праслаўляньня адных і ганьбаваньня іншых.

Зноў-жа, Сакратас, я хацеў-бы цябе прасіць, узяць

пад увагу іншы спосаб разважаньня адносна справядлівасьці як і несправядлівасьці, каторы не абавязкава адносіцца да паэтаў, але спатыканым ёсьць у штодзённай гутарцы. Усе яны ў вадзін голас цьвердзяць, што [364] справядлівасьць і мужнасьць — нешта ганаровае, але адначасна цяжкім ёсьць і трудным; у тым самым часе, аднак, разнузданасьць і несправядлівасьць салодкімі зьяўляюцца і лёгкімі ў займеньні, і толькі, дзякуючы агульнай апініі людзей і правоў, ўважаюцца сорамнымі. Яны кажуць гэтаксама, што справядлівае паступаваньне ў большасьці выпадкаў зьяўляецца меней паплатным, чымся несправядлівае; і яны гатовымі зьяўляюцца нягоднікаў уважаць за шчасьлівых і адносяцца да іх з пашанаю гэтак у грамадзкім, як і прыватным жыцьці, калі яны зьяўляюцца багатымі або якім-небудзь чынам уплывовымі могуць быць, — тады, як ненавідзяць яны і з пагардаю адносяцца да тых, што могуць быць гэтаксама нягоднікамі, але беднымі астаюцца, хоць яны і прызнаюць іх лепшымі за тых першых. Але што тут найболей характэрным выступае, дык гэта той спосаб, якім яны выражаюцца пра багоў і мужнасьць — быццам багі пасылаюць няшчасьце і гора шматлікім добрым людзям, і з другое стараны, дабро і шчасьце для нягоднікаў. Жабруючыя прадказальнікі швэндаюцца каля дзьвераў багатых людзей і пераконваюць апошніх, што яны маюць атрыманую ад багоў сілу і, за малы кошт, дарогаю заклінаньняў і ахвяраў займець для іх або іхным нашчадкам дараваньне грахоў і пашкодзіць ворагам, усяроўна, будуць апошнія справядлівымі ці несправядлівымі; пры помачы чараў і закляцьцяў, як яны кажуць, яны атрымліваюць схільнасьць багоў памагчы ім. І паэты тут зьяўляюцца аўтарытэтамі, на якіх яны пакліква́юцца, пракладваючы сабе сьцежку зла пры помачы слоў Гэзіёдоса:

Дрэннасьць і зло ў багацьці ідуць на сустрэчу людзям
Шляхам прынадным і гладкім, каб жыць із сабою сумесна.
Памятай! Перш чымся мужнасьць, багі гараваньне паклалі,

дый шлях гэты нейкі доўгі і круты на ўзьверх. І на пацьверджаньне таго, што багі могуць паддацца ўплывам, спасылаюцца на Гомэра, як на сьведку, каторы гэтаксама казаў, што —

нават багі паслухмянасьць праявяць.

Гэта —ізьліцьцём віна і духмянасьцю спальваных тлушчаў,
Шчырых малітваў сьмяротных да іх пад узьдзеяньнем чараў —
Нават яны, несьмяротныя, шлюць выбачэньне ад грэху.

Маюць яны аграмаднасьць кнігаў Мусайёса і Орфэуша, нашчадкаў, як кажуць, Месяца /Σελήνης/ і Музаў, і паводля гэтых кнігаў выконваюць свае рытуалы, і пераконваюць ня толькі паасобных людзей, але цэлыя месты, што быццам для тых, што яшчэ жывуць, як і для тых, што ўжо памерлі, можа быць асягнута прабачэньне і ачышчэньне ад грэху на дарозе ахвяраваньняў і |365| вясéльлішчаў, якія яны называюць пасьвятаю і тайніцаю; гэта нібы мáе выбаўляць нас ад пасьмертных мучэньняў, але тых, што занядбалі ахвяраваньні, няведамыя страшэннасьці чакаюць.

Усё гэта, і падобнае, мой дарагі Сакратас, — казаў ён далей, — утрымліваецца адносна мужнасьці і заганнасьці дый да гэтага яшчэ, як яно узважваецца сярод людзей і багоў. Штó ў атмасфэры гэткага ўражаньня маюць пачаць, скажам мы, душы юнакоў? якія пры ўсей сваей першабытнай шляхэтнасьці і жывой даўціпнасьці, быццам тыя пчолкі на скрыдлах лятуць на кажную кветку, і з усяго, што яны чуюць, зараз-жа выснаў для сябе чыняць, якім чалавек, фактычна, павінен быць, і якога напрамку прыхільнікам ён мае быць, калі яны маюць жыць найлепшым жыцьцём? Вельмі магчыма, што малады чалавек у думцы сабе будзе казаць гэтак, як аднойчы Піндарос гаварыў: Маю-ж я праўдай узыйсьці на ўзвышша, ці мо' праз крыўду і хвальш узыходзіць? Паводля таго, што людзі кажуць, калі я запраўды справядлівым зьяўляюся, а мяне за гэткага не ўважаюць, дык ня будзе для мяне ніякае карысьці, адны толькі цяжкасьці і выразная шкода. Але, хай сабе я буду несправядлівым, аднак пры наяўнасьці славы чалавека справядлівага, цудоўнае жыцьцё прыракаецца мне. З гэтага, як мудрыя людзі запэўніваюць, спазорнасьць пануе над праўдаю і зьяўляецца паняю шчасьця: дык да гэтае спазорнасьці я і сябе мушу скіраваць. Дзеля гэтае спазорнасьці я вобразна вырысую навакол сябе праменныя цені мужнасьці ў праддзьверры і ўнутры майго дому; і за гэтаю аслонаю я буду пракладваць пуцьцявіну неспасьцярожнае і хітрае лісы, гэ-

так, як мудры Архілёхос прапануе. Але я чуў, як нехта казаў, што ўтойваньне сваіх недахопаў ёсьць вельмі труднаю рэчаю. Але на гэта я маю адказ, што вялікае ніколі ня ёсьць лёгкім. Ня гледзячы на гэта, калі мы імкнемся да памыснасьці, дык трэба ўзыйсьці на шлях, які вынікае з нашых разважаньняў. І каб утаіцца, мы паклічам да жыцьця тайныя братэрствы і палітычныя клюбы; і прафэсары існуюць беглыя ў мастацтве пераконваньня ў судох і зграмаджэньнях; і гэта, часткава дарогаю пераконваньня і часткава сіламоцаю, і гэтак, беспраўна я буду мець карысьць і ня буду пакараным. Я ўсё яшчэ чую голас: "Але-ж багоў немагчыма ані змануць, ані змусіць". Затым, калі багі ня існуюць, або калі яны існуюць, але ня турбуюцца пра чалавека, дык чаму мы маем турбавацца пра тое, каб утойваць ад іх? Калі-ж зноў, багі існуюць і турбуюцца пра нас, дык гэта пра багоў мы ведаем або чулі пра іх толькі з сівых пераказаў або ад паэтаў, якія стварылі казкі пра іхнае паходжаньне. І гэта якраз яны ўсе, каторыя кажуць, што яны змогуць учыніць уплыў на багоў шляхам ахвяраваньняў, малітвамі сьмяротных і чараваньнямі. Будзьма, тады, пасьлядоўнымі і пачнем верыць адным і другім, або зусім ня верыць. Калі, аднак, паэты кажуць праўду, дык давайце тады несправядлівасьць чыніць, а пасьля з пладоў нашае несправядлівасьці прынясем ахвяру [366] багам. Бо калі мы зьяўляемся справядлівымі, дый хоць і ў сіле ўхіліцца ад помсты багоў, мы можам, аднак, згубіць карысьць, якую атрымліваем зь несправядлівасьці; з другога боку, калі мы зьяўляемся несправядлівымі, мы ўтрымаем нашыя асягненьні, а тасуючы нашыя праступкі і малітвы, малітвы і праступкі, дык мы выклічам у багоў літасьць да нас і мы ня будзем пакаранымі. "Але ў Гадэсе за нашыя тут дакананыя несправядлівыя чыны або мы самыя, або дзеці нашых дзяцей атрымаюць пакараньне." Так, мой дружа, можа сказаць кемны назіральнік, але існуюць містэрыі і выбаўляючыя багі, і гэтыя маюць вялікую сілу. Гэта якраз тое, што́ вялікія месты апавяшчаюць; і дзеці багоў, якія сталіся паэтамі і прарокамі, і яны даюць сьведчаньне гэтаму.

На якім абаснаваньні, тады, маем мы выбіраць сабе справядлівасьць барджджэй, замест найбольшае несправядлівасьці, праз якую мы, — калі мы толькі зможам,

злучым яе з хвальшываю прыстойнасьцю, — а пры помачы багоў і людзей зможам усё ўладзіць паводля нашых меркаваньняў, гэтак у часе нашага жыцьця, як і пасьля сьмерці, як гэта лічныя і найвышэйшыя аўтарытэты пераказваюць нам? Ведаючы ўсё гэта, Сакратас, я́к можа чалавек, абдораны духоваю ці фізычнаю перавагаю, багаты і годны ў грамадзтве, быць ахвочым шанаваць справядлівасьць, а не расхахатацца, чуючы, як яе ўздымаюць у пашане? І нават калі знойдзецца нехта, хто будзе здольным давесьці няправільнасьць маіх словаў, і хто здаволіцца цьверджаньнем, што справядлівасьць ёсьць найлепшаю рэчаю, усё-ж ён астаецца абыякасным да несправядлівых людзей і дараваць ім, бо ён гэтаксама ведае, што людзі не стаюцца справядлівымі са свае волі, хіба-што, знойдзецца хто-небудзь, хто, магчыма, боскую натуру ў сабе ма́е ненавідзець несправядлівасьць або затым, што ён асягнуў дасканалую веду паўстрымліваецца ад яе — але ніякі іншы чалавек. Той толькі наракае на несправядлівасьць, хто, ці то з прычыны адсутнасьці ў ім адвагі, або з прычыны веку ці слабасьці, ня мае ў сабе сілы, каб быць несправядлівым. І гэта даведзена тым простым фактам, што, калі ён дойдзе да сілы, ён зараз-жа стаецца несправядлівым, як далёка ён зьяўляецца ў стане быць гэтакім.

Прычына ўсяго гэтага — нічога іншага, як тое, з чаго пачалося ўсё гэтае нашае разважаньне. І вось гэтак, як мой брат і я, мы абодва скажам табе, Сакратас, наступнае: "Дзівак ты! Колькі-б вас не назьбіралася гэтакіх, што прызнаюць сябе за прыхільнікаў справядлівасьці, ніхто — пачынаючы з найболей старажытных герояў, пра якіх памяць захавалася, уключна да людзей нашага часу — ніхто зь іх ніколі не папракаў несправядлівасьці, або меў у пашане справядлівасьць, хіба-што за выняткам выпадкаў, калі людзі мелі зь іх славу, пашану і карысьць. Ніхто і ніколі яшчэ дастаткова не апісаў ані ў прозе, ані ў вершу праўдзівую існасьць справядлівасьці ці несправядлівасьці як гэткай, і перасьцерагаў у душы, і трымаў неспасьцярожнаю перад ніякім людзкім ці боскім вокам; або выявіў, што ўсе праявы людзкае душы, якія ён тоіць у ім самым зводзяцца да сутнасьці: справядлівасьць ёсьць найлепшым дабром, і несправядлівасьць — найбольшым злом. Калі-б гэта было агульнаю

для людзей характэрнаю для іх схільнасьцю, і пераконвалі-б у гэтым нас усіх, пачынаючы зь юнацкіх гадоў, дык непатрэбным было-б нам перасьцерагаць адзін [367] аднаго перад пагражаючым нам злом, кажны сам для сябе стаяў-бы на стражы з прычыны прысутнае небясьпекі і страху, як-бы ня стацца ўдзельнікам найвялікшага зла — несправядлівасьці".

Падобнае, Сакратас, і магчыма яшчэ болей сказаў-бы Трасімахос, або хто-небудзь іншы, адносна справядлівасьці і несправядлівасьці, як мне здаецца, бясцырымонна зьінначваючы іхнае значэньне. Але я, які ня мае нічога ўтойваць перад табою, хацеў-бы адно вельмі ахвоча пачуць ад цябе супроцьлежны пункт гледжаньня; і я хацеў-бы прасіць цябе, каб ты ня толькі выказаў перавагу справядлівасьці над несправядлівасьцю, але якое наступства спрычыняе ў чалавеку наяўнасьць тае або іншае, як гэткае, што адна зьяўляецца дабром, а іншая — злом. І калі ласка, гэтак як і Ґляўкон ўжо прасіў цябе, абміні пры гэтым ўсялякія славы. Бо калі ты ў абодвух выпадках захаваеш запраўдныя значэньні, дый яшчэ прысупольніш да іх хвальшывыя, дык мы, тады, мецімем нагоду сказаць, што ты не праслаўляеш справядлівасьць, але ейную спазорнасьць; мы будзем думаць, што ты толькі пераконваеш нас, быццам несправядлівасьць ёсьць нечым дрэнным, але ў запраўднасьці ты згаджаешся з Трасімахосам у тым сэнсе, што справядлівасьць ёсьць карысьцю для іншага чалавека — сільнейшага і, што несправядлівасьць зьяўляецца карыснаю для таго, хто яе чыніць, і адначасна шкоднаю для слабейшага. Цяпер-жа, калі ты згадзіўся, што справядлівасьць адносіцца да найвышэйшае групы дабра, якое зьяўляецца пажаданым з прычыны сваіх вынікаў, дый яшчэ ў большай ступені з прычыны свае натуры, падобна, як узрок і слух, веда і здароўе, або нешта іншае запраўднае і натуральнае, а не як нейкае штодзеннае дабро, — дык вось я і прасіў-бы цябе, каб гэтую старану справядлівасьці ты і адцеміў, пайменна: сутнасьць дабра і зла, што справядлівасьць і несправядлівасьць выклікае ў собсьніка іх. А праслаўляць тое, што справядлівасьць пабольшвае ўзнагароды і гонары, пакінь гэта іншым. Калі нехта пад нябёсы ўздымае справядлівасьць і ганьбаю акрывае несправядлівасьць, дык гэта я яшчэ магу сьцярпець бо-ж

гэта ягоны спосаб вядзеньня спрэчкі, але ад цябе, каторы ўсё сваё жыцьцё правёў у разважаньні над гэтым пытаньнем, — хіба што я пачую супроцьлежнае з тваіх уласных вуснаў, — я спадзяюся пачуць нешта лепшае. Затым бо я і кажу, ня толькі давядзі нам, што справядлівасьць ёсьць лепшаю, чымся несправядлівасьць, але паясьні нам, якое дзеяньне выклікáе ў чалавеку прысутнасьць тае або другое, як гэткае,— і ўсяроўна ўтаілася гэта ад багоў і людзей, ці не, — і чаму адна зь іх — дабро, а іншая — зло.

Я заўсёды захопліваўся натуральнымі схільнасьцямі Ґляўкона і Адэімантоса, але цяперака, чуючы штó яны гавораць, я вельмі ўсьцешыўся і сказаў:

— Не без абаснаваньня пра вас, сыны [368] праслаўленага бацькі, захопленьнік Ґляўкона пачатак свае элегіі стварыў, пасьля таго, як ён вас у бітве пад Мэґарамі ўзьняў, кажучы:

О, Арыстона вы дзеці, нашчадкі выдатнага мужа!

Гэта, маé дарагія, выдаецца мне зусім на месцы, бо і запраўды, ёсьць тут нешта з боскасьці, калі вы ня трымаецеся пагляду, быццам несправядлівасьць лепшаю ёсьць, чымся справядлівасьць, і зьяўляецеся здольнымі гаварыць пра гэта, астаючыся адначасна непераканаными сваею ўласнаю аргумэнтацыяю. І я пэўным астаюся, што вы непераканаными — аб гэтым даведваюся з вашых паводзінаў, бо калі-б я хацеў выснаў зрабіць толькі на аснове вашых выказваньняў, дык я-б не паверыў. Але цяперака, калі болей даверра праяўляю да вас, большымі, тады, зьяўляюцца мае труднасьці ў тым, штó вам сказаць. Бо я знаходжуся ў клопаце, апынуўшыся паміж двума: з аднаго боку, я адчуваю, што я не знаходжуся на ўзроўні заданьня; мая няздольнасьць бянтэжыць мяне з прычыны факту, што вы не здаволіліся маімі адказамі, якія я даў Трасімахосу, даводзячы, як я думаў, што справядлівасьць зьяўляецца вышэйшаю, чымся несправядлівасьць. З другога боку, я не магу не бараніць сваіх паглядаў, і адначасна ня ведаю, як я маю не памагчы. І зноў, я баюся, што будзе непабожна, будучы прысутным пры зьнеслаўляньні справядлівасьці, не падняць рукі ў абароне яе, пакуль чалавек яшчэ дыша і захаваў здольнасьць мовы. Тады, самае найлепшае будзе,

калі я памагу вам усім, чым толькі я змагу.

Тут Гляўкон і ўсе іншыя пачалі прасіць мяне памагчы любым спосабам ня кідаць пытаньня, але весьці далей разважаньне. Яны хацелі дабіцца да праўды, перш, адносна натуры справядлівасьці і несправядлівасьці, а пасьля, пра адносную іх перавагу. Я казаў ім, што я ўжо выказаўся, што разгляд гэтага пытаньня — гэта справа паважнага характару і, што само пытаньне можа асілець чалавек толькі з вострым зрокам. Бачыць, затым, сказаў я, што мы не зьяўляемся людзьмі вялікае кемнасьці, я думаю, што будзе ляпей, калі мы прыймем мэтад, які я хацеў-бы зьілюстраваць. Уявем сабе, што мы хацелі-б прасіць кароткаўзрочнага чалавека прачытаць здалёк дробна напісаныя літары; і здарылася пры гэтым, што нехта ўпаў на думку, што гэтыя-ж самыя літары бываюць і буйнейшыя дзе-небудзь у напісаньні большых памераў — калі літары тыя самыя і ён можа чытаць вялікшыя літары перш, а пасьля разабрацца і ў дробных — гэта было-б напэўна, як мне здаецца, вялікаю знаходкаю.

— Напэўна, — сказаў Адэімантос. — Але ў чым ты, Сакратас, бачыш тут падобнасьць з пошукамі, якія адносяцца да нашага пытаньня справядлівасьці?

— Я табе зараз скажу, — адказаў я. — Справядлівасьць, якая зьяўляецца прадметам нашага ўгляду, ёсьць, як табе ведама, свомаю для аднаго чалавека, як і для цэлага гаспадарства.

— Напэўна, — сказаў ён.

— А ці-ж гаспадарства не зьяўляецца большым ад паасобнага чалавека?

— Большым, — сказаў ён.

— Тады, у тым, што большым ёсьць, праўдападобна, і сама справядлівасьць прыймае большыя памеры і затым яе лягчэй там вывучаць. Затым, калі хочаце, мы перш разгледзім, што гэта такое справядлівасьць [369] у гаспадарствах, а пасьля гэтаксама дасьледзім яе ў апрычоным чалавеку, гэта значыць будзем бачыць у ідэі меншага падобнасьць большага.

— Мне здаецца, сказаў ён, — што ты добра гаворыш.

— І калі мы ўявім сабе гаспадарства ў працэсе свайго ўзьнікаиьня, тады мы будзем бачыць справядлівасьць і несправядлівасьць гаспадарства гэтаксама ў працэсе прыходу свайго да быцьця.

— Вельмі магчыма, — сказаў ён.

— Калі гаспадарства ўжо ухвармуецца, тады болей будзе надзеі, што прадмет нашага досьледу можна будзе лягчэй выкрыць.

— Ведама.

— А мо' павінны мы папробаваць збудаваць яго? Бо ідучы ў гэтым напрамку, я думаю, што гэта будзе вельмі паважнае прадпрыняцьце і працы будзе шмат. Вырашэньне ў вашых рукох.

— Ужо вырашана, — сказаў Адэімантос. — Тады пачынай.

— Гаспадарства, — сказаў я, — узьнікае, як я мяркую, тады, калі кажны з нас не зьяўляецца ў стане абясьпечыць самога сябе, і патрабуе яшчэ шматлікае. А мо' ўяўляеш ты сабе які-небудзь іншы першапачатак закладзінаў гаспадарства?

— Не, ніякі іншы, — сказаў ён.

— Затым, калі нехта мае лічныя патрэбы, тады кліча і таго і іншага, каб забясьпечыць гэтыя патрэбы; адзін бярэ сабе памочніка з аднае прычыны, а іншы — зь іншае; і калі гэтыя ўдзельнікі і памочнікі сузграмаджваюцца супольна ў вадно аселішча, тады гэтакую супольнасьць называем мы гаспадарствам. Ці ня гэтак?

— Так, — адказаў ён.

— Яны ўзаемна ўдзельваюцца сабе, адзін дае, а іншы атрымлівае; і атрымліваюць, маючы на думцы, што вымена будзе дабром для іх?

— Ведама.

— Тады, — сказаў я, — давайце займемся ў думцы пабудоваю гаспадарства з самага пачатку. Як выяўляецца, яго твораць нашыя патрэбы?

— Натуральна, — адказаў ён.

— Цяперака, першая і найбольшая з усіх патрэбаў — гэта ежа, неабходная для падтрыманьня існаваньня і жыцьця.

— Бязумоўна.

— Другая патрэба — памешканьне, і трэйцяя — вопратка і падобнае.

— Гэтак яно ёсьць.

— А цяперака паглядзімо, — сказаў я, — як нашае гаспадарства можа абясьпечыць сябе гэтымі вялікімі патрэбамі: ці ня так, што хто-небудзь будзе земляробам,

іншы — будаўнічым, яшчэ іншы — ткачом? Ці маем мы яшчэ дадаць сюды шаўца і яшчэ каго-небудзь з тых, што абслугоўваюць нашае цела?

— Зусім трапна.

— Што найменей, гаспадарства павінна складвацца з чатырох або пяці чалавек.

— Выглядае гэтак.

— Тады, я́к маюць яны паступаць? Ці кажны зь іх павінен выконваць сваю працу з разьлікам на ўсіх нагул? Напрыклад, земляроб, хоць ён і адзін, павінен расьціць хлеб на чатырох, затрачваць учэцьвера болей часу і працы і выдзельваць іншым з таго, што ён выпрадукаваў, а мо', не шманаючы пра іх, павінен здабываць толькі чацьвертую частку гэтага хлеба выключна для самога сябе і затрачваць на гэта адно толькі [370] чацьвертую частку свайго часу, а рэшту ягонага часу — тры часткі — зужыць на пабудову хаты, выраб вопраткі, абутку і не клапаціцца пра іншых, але прадукаваць усё сваімі ўласнымі сіламі і выключна для самога сябе?

— Я думаю, Сакратас, — адказаў Адэімантос, — што ён павінен прадукаваць толькі ежу і не вырабляць нічога іншага.

— Вельмі магчыма, — адказаў я, — што гэта будзе лепшы спосаб; і, чуючы як ты выражаеш сваю думку, я і сам сабе ўсьведамляю, што мы ўсе не зьяўляемся аднолькавымі; існуюць натуральныя розьніцы між намі, і людзі ўспрыймаюць нахіл да розных заняткаў. Ці ня гэтак і ты думаеш?

— Я гэтаксама думаю.

— Затым як? Хто будзе ляпей працаваць — ці той, хто займаецца кажным мастацтвам, ці той, хто толькі адным?

— Той, хто займаецца толькі адным.

— Ясным ёсьць, як мне здаецца, што, калі нехта страціць час над неадпаведным для яго выкананьнем пэўнае рэчы, ён згубіць добрую нагоду.

— Ясным ёсьць.

— Бо, як мне здаецца, ніякая праца не захоча чакаць, пакуль у работніка знойдзецца свабодны час; наадварот, чыніцель павінен праявіць усякае стараньне над тым, што́ ён робіць, і сачыць, каб дадзеная праца была першым аб'ектам ягонае ўвагі.

— Абавязкава.

— І, калі гэтак, дык трэба ўчыніць выснаў, што ўсе рэчы прадукуюцца ў большай колькасьці, лягчэй і лепшае якасьці, калі адзін чалавек выконвае адну рэч у сузгоднасьці са сваім натуральным нахілам і займаецца ёю ў абазначаным часе з канцэнтрацыяю свае ўвагі толькі на ёй.

— Бяссумліву.

— Затым, мы патрабавацімем, Адэімантос, болей як чатырох грамадзян. Бо-ж земляроб ня будзе вырабляць патрэбнае для яго добрае сахі ані гэтаксама матыкі ці іншыя земляробскія прылады. З другое стараны, і будаўляны майстра ня будзе рабіць для сябе інструмэнты працы, бо — і ён патрабуе рознае з гэтага; гэтаксама рэч маецца з ткачом і шаўцом.

— Праўду кажаш.

— Калі, зноў, цесьляры, кавалі і шматлікія іншыя майстры прымуць удзел у нашым маленькім гаспадарсьцьве, дык яно пачне разрастацца.

— Напэўна.

— Але нават калі мы дадамо валапасаў, аўчароў і тых, што даглядаюць быдла на пашы, і іншых пастухоў, каб земляробы мелі валоў да гараньня, а будаўнічыя разам зь земляробамі — упражное быдла для перавозкі цяжа́раў, а ткачы і шаўцы — шкуру і воўну, дык і тады гаспадарства нашае ўсё яшчэ ня будзе вельмі вялікае.

— Гэта праўда; але і ня вельмі малым будзе гаспадарства, калі мецімe ўсё гэта.

— Але, — сказаў я, — закласьці гэтакае гаспадарства ў мясцовасьці, дзе яно не патрабавала-б давозу звонку, бадай-што немагчымым ёсьць.

— Запраўды немагчыма.

— Тады, мусяць быць іншыя людзі, якія будуць увозіць зь іншае краіны тое, што́ патрэбна.

— Мусяць быць.

— Але гэтакі ўвозчык /διάκονος/ толькі тады ня вернецца з парожнымі рукамі, але з тым, што́ тут патрабавалася, калі ён адсюль выйдзе не парожны, [371] з даставаю таго, што́ спадзяюцца там атрымаць.

— Гэтак і мне выдаецца.

— Затым, трэба будзе прадукаваць дома ня толькі тую колькасьць, якая патрэбна для забесьпячэньня самых

сябе, але ўваднолькавай колькасьці і якасьці ўсё тое, што патрабавацімуць тыя, што заспасабляюць іхныя патрэбы.

— Так, трэба будзе.

— Тады, спатрэбіцца болей земляробаў і рамесьнікаў у нашым гаспадарсьцьве.

— Болей, запраўды.

— Гэтаксама трэба ўспомніць тых, што будуць займацца экспортам і імпортам, каторых называюць купцамі. Ці ня так гэта?

— Алé.

— Затым, і купцы нам спатрэбяцца.

— Ведама.

— А калі спатрэбіцца весьці заморскі гандаль, патрэбнымі будуць у значнай колькасьці гэтаксама і вадаплаўнікі, што ведаюць штуку морскага плаваньня.

— О так, у значнай колькасьці.

— Ну, а як рэч маецца ў самым месьце? Як яны будуць праводзіць абмен уласнае прадукцыі? Запэўненьне гэтага абмену і было, як ты напэўна памятаеш, адно з аснаўных мэтаў хвармацыі людзкае супольнасьці, якую мы назвалі гаспадарствам.

— Ясна, — адказаў ён, — дарогаю куплі і прадажы.

— Згэтуль, яны патрабавацімуць рынак і манэту, каб умагчыміць сабе абмену.

— У кажным выпадку.

— Калі земляроб ці хто-небудзь з рамесьнікаў прынясе свой выраб на рынак і прыбудзе ў такім часе, калі ня будзе з кім даканаць абмену, дык ці-ж ня стáнецца, што ён, седзячы на рынку, будзе траціць час, патрэбны яму для працы?

— Зусім не, — адказаў ён, — бо знойдуцца людзі, якія, бачачы гэта, запрапануюць яму свае паслугі. У добра ўладжаных гаспадарствах, гэта звычайна людзі слабыя целам і няпрыдатнымі астаюцца да ніякае іншае працы; іхная задача — быць на рынку, і даць грошы ў замен за тое, штó нехта хоча збыць, і атрымаць грошы ў замен ад таго, хто хоча купіць.

— Гэтая патрэба, — сказаў я, — стварае ў нас у месьце дробных гандляроў. Ці-ж “гандляр” ня ёсьць тое слова, якім мы называем таго, хто сядзіць на рынку і пасярэднічае ў куплі і прадажы, тады як тых, што па-

дарожнічаюць зь места ў места, называем мы купцамі?

— Ведама.

— Гэтаксама ёсьць, як я думаю, яшчэ іншыя службістыя /διάκονοι/, якія, з прычыны іхных духовых вартасьцяў, ня вельмі заслугоўваюць, каб быць уцягнутымі ў супольнасьць, але яны цешацца з прычыны свае фізычнае сілы, дастатковае для выконваньня цяжкіх працаў. Гэтыя прадаюць у на́ймы сваю сілу і называюць узнагародаю цану за наймы; затым, калі я не памыляюся, і называюць іх наймітамі. Ці ня так гэта?

— Так.

— Для дапаўненьня нашага гаспадарства, як відаць, патрэбнымі ёсьць і найміты.

— І мне гэтак здаецца.

— Дык ці-ж не разраслося ў нас, Адэімантос, гэтак ужо гаспадарства, што можна яго ўважаць за дасканалае?

— Бадай-што.

— Тады, дзе-ж у ім ёсьць месца для справядлівасьці і несправядлівасьці? І ў чым з таго, пра што мы гаварылі, яны ўзьнікаюць?

— Я асабіста, Сакратас, ня бачу гэтага, — сказаў [372] ён. — Хіба-што ў нейкіх узаемадачыненьнях самых грамадзян?

— Магчыма, што ты маеш рацыю, — сказаў я; — што найменей, добра будзе прыгле́дзецца жыцьцю гэтых людзей і не адступацца ад нашага досьледу.

Тады разважма, перад усім, спосаб жыцьця людзей, гэтак ужо ўладжаных. Ці-ж ня будуць яны прадукаваць збожжа, і віно, і вопратку, і абутак і будаваць дамы́ для самых сябе? І калі яны ўжо ўладзяцца ў хатах, яны, звычайна, летам будуць працаваць на полі поўразьдзетыя і босыя, але зімою — дастаткова апранутымі і абутымі. Жыві́цца яны будуць, вырабляючы сабе зь ячменю крупы, з пшаніцы муку; кру́пы будуць варыць, цеста мясіць, выпекаючы прыгожыя булкі і хлеб і раскладваючы ўсё на матах з трысьнёгу і чыстых лістоў. Узьлегваючы на падсьцілках, высланых лісьцьцём зь цісу і міртамі, яны самыя, як і іхныя дзеці, будуць піць сабе віно, упрыгожваючы сябе вянкамі і ўслаўляючы багоў, дорачы адзін аднаго ветлівасьцю. Пры гэтым яны будуць рупіцца пра тое, каб сем'і іхныя не перавышалі магчымасьцяў іхнага

дабрабыту, узгадоўваючы пры гэтым дзяцей ў перасьцярозе перад беднасьцю або вайною.

На гэтым месцы Ґляўкон перапыніў мяне:

— Ты, — сказаў ён, — змушаеш гэтых людзей частавацца, як відаць, бязь ніякіх страваў і прысмакаў.

— Ты праўду кажаш, — сказаў я. — Я зусім забыў, што мецімуць яны і стравы і прыправы — соль, і аліўкі, і сыр, і цыбулю, і ўсё тое, што́ расьце на полі прыдатным — карэньні і лісьцё; — будуць яны варыць гэтак, як вараць на вёсках; дамо ім і закуску — хвігі і гарошак, і струкі; яны гэтаксама будуць спажываць печаныя ў гарачым попеле міртавыя ягады, і каштаны, і памяркоўна запіваць вінам. Пры гэтакай пажыве мецімуць яны апраўданую спадзею жыць у супакоі і цешыцца здароўем да познага свайго веку, і пераказваць сваім дзецям і дзецям іхных дзяцей у спадчыне гэтакі спосаб жыцьця.

— Так, Сакратас, — заўважыў Ґляўкон, — а што, калі-б гаспадарства тваё складалася са сьвіней, ці карміў-бы ты іх нечым іншым, а ня гэтым?

— І што-ж яшчэ патрэбна, Ґляўкон? — запытаў я.

— Тое, што звычайна патрэбна, — адказаў ён: — узьлежваць на мягкіх ложах, прыймаць ежу пры стале, спажываць прысмакі, якія маюць цяперашнія людзі — вось што, як я думаю, патрэбна, каб не цярпець з прычыны недахопу.

— Так, — сказаў я, — цяперака я разумею: пытаньне абяртаецца навакол ня толькі, я́к узьнікае гаспадарства, але, я́к узьнікае гаспадарства аплываючае ў дастатку. І, здаецца, гэта нядрэнна, бо ў гэтакім гаспадарсьцьве мы можам найляпей бачыць, як узьнікае справядлівасьць і несправядлівасьць. Як я разумею, запраўднае гаспадарства і здаровае, пабудава́на на асновах, якія мы вось разгле́дзелі. Калі вы, аднак, хочаце, можам разгледзець гэтаксама і гаспадарства, якое знаходзіцца ў гарачцы свае трасцы: нічога не стаіць на перашкодзе. Бо, і запраўды, як я здагадваюся, не шматлікія астануцца [373] здаволенымі пры наяўнасьці гэтак простага спосабу жыцьця: ім падавай і мягкія ложы, і сталы́ і іншыя рэчы ў хату, і асабліва вышуканыя стравы, мазі і духмянасьці, а гэтаксама і гэтэры *), і смачныя пірагі, і гэта ня толькі

*) Куртызаны, дзяўчаты радасьці.

ў вадным гатунку, але ў шматлікіх разнавіднасьцях і як найболей. Выходзіць, што тое, пра што раней гаварылі — дамы, абутак, вапратка, перастала ўжо быць неабходнасьцю, але давай сюды мастацкія вобразы і ўхарошаньні, золата і слановую косьць — усё гэта нам патрэбна. Ці-ж ня так гэта?

— Так, — адказаў ён.

— Затым мы павінны пашырыць межы нашага гаспадарства. Бо першапачаткавае нашае здаровае гаспадарства ўжо недастатковым ёсьць. Цяперака гаспадарства мае быць напоўнена і напухшым безьліччу рознаякіх заняткаў, якія не вымагаюцца ніякімі натуральнымі неабходнасьцямі — напрыклад, цэлыя масы паляўнічых і пераймальнікаў-мастакоў, з каторых ладная частка займаецца хвормамі і колерамі; іншыя — гэта прыхільнікі музыкі — паэты, і іхныя выканаўцы шматлікія рапсоды, выканаўцы сцэнічных роляў, харэўты, кантрактары; гэтаксама майстры розных вырабаў уключна да жаночых апрананьняў. Ці ня думаеш ты, што спатрэбіцца болей паслугуючых людзей /διακόνων/ гэтаксама, як і даглядчыкаў і даглядчыц, карміцеляк дзяцей, узгадавальніц і ўзгадавальнікаў, хатніх дапаможніцаў, цырульнікаў, як і кухараў і пекараў? Спатрэбяцца нам гэтаксама і сьвінапасы, якія непатрэбнымі былі ў нашым першым гаспадарсьцьве, бо нічага гэткага ня трэба было там. Але ў гэтым гаспадарсьцьве спатрэбіцца і гэта, дый шмат іншага быдла, калі людзі маюць есьці яго.

— І чаму-б не?

— Гэтаксама і лекараў пры гэткім спосабе жыцьця, праўдападобна, будзем мы патрабаваць болей, чымся пры папярэднім спосабе?

— Шмат болей.

— Тады і краіна, якая да гэтае пары была дастаткова вялікаю, каб выжывіць насельніцтва, цяперака станецца малою і ня будзе дастаткова вялікаю. Або як маем казаць?

— Якраз гэтак, — сказаў ён.

— Тады нічога іншага нам не застанецца, як толькі займець часткі зямлі ад суседняе краіны, калі маем мы мець дастаткова пашы і ворнае зямлі; а яны, нашыя суседзьдзі, ў сваю чаргу, захочуць захапіць частку нашае зямлі, калі, падобна, як мы, і яны пяройдуць межы сваіх

магчымасьцяў, і кінуцца ў напрамку бязьмежнага награмаджаньня багацьця?

— Гэта, Сакратас, станецца няўхільнасьцю, — сказаў ён.

— У выніку гэтага давядзецца ваяваць, Гляўкон, ці мо' інакш неяк будзе?

— Найболей праўдападобна, — адказаў ён.

— Тады, бяз выснаваў што да таго, ці вайна ёсьць дабром, ці злом, мы ўжо можам сьцьвердзіць, што цяперака мы выкрылі, што вайна выцякае з прычынаў, якія гэтаксама зьяўляюцца прычынамі бадай-што ўсіх няшчасьцяў у гаспадарсьцьве, гэтак прыватных як і публічных.

— Бяссумліву.

— І нашае гаспадарства павінна яшчэ болей узбольшыцца; і гэтым разам узбольшаньне станецца ня меней, як на цэлую армію: яна выйдзе, і будзе змагацца з [374] акупантам і бараніць усё, што́ мы маем, як і ўсе рэчы і людзей, пра якіх мы ўжо раней гаварылі.

— Як гэта? — сказаў ён. — Ці яны не зьяўляюцца дастаткова здольнымі, каб бараніць самых сябе?

— Не, — сказаў я, — яны ня могуць, калі мы маем рацыю адносна прынцыпаў, што да якіх усе мы згадзіліся, калі мы ўладжвалі гаспадарства: а прынцып, ты напэўна памятаеш, быў, што адзін чалавек ня можа выконваць з паводжаньнем некалькі мастацтваў.

— Ты праўду кажаш, — сказаў ён.

— Але, — сказаў я, — ці-ж вядзеньне вайны не зьяўляецца мастацтвам?

— Нават вельмі, — сказаў ён.

— І кажнае мастацтва вымагае гэтулькі сама ўвагі, колькі і шавецкае?

— Напэўна.

— Але шаўцу мы не дазваляем стацца земляробам ані гэтаксама ткачом ці домабудаўнічым — і гэта з тым меркаваньнем, што мы хочам мець добра сшытыя чаравікі, але яму, як і кажнаму іншаму працуючаму, даручаецца толькі адна праца, да якое ён прытарнованы натураю, і ён будзе займацца ўсё сваё жыцьцё і ніякаю іншаю; ён не павінен расьцярушваць свае ўвагі на нішто іншае, і гэткім спосабам ён станецца добрым работнікам, калі ня будзе губіць часу. Цяперака, нічога ня можа быць

болей важным, як спраўнае выкананьне абавязкаў, узложаных на жаўнера. Ці-ж вядзеньне вайны зьяўляецца гэтак лёгкім мастацтвам, што земляроб, шавец або іншы рамесьнік можа быць адначасна і ваяром? Ці можа хтонебудзь добра граць у шашкі ці ў косьці, калі ён займаецца гульнёю толькі дзеля забавы, і не займаўся гэтым зь дзіцячых гадоў? Ніякая прылада ня ўчыніць чалавека здольным працаўніком або майстрам у вабароне, і не станецца карыснаю для таго, хто ніколі не ўдзяляў ніякае ўвагі ёй. Ці-ж можа нехта стацца добрым змагаром у вадзін дзень і змагацца ў бітве цяжка азброеных ці ў якой-небудзь іншай, толькі затым, што ўзяў урукі шчыт або якое-небудзь іншае ваеннае прыладзьдзе і ня ведае як з усім гэтым абыходзіцца?

— Так, — сказаў ён, — інакш прылады гэтыя ня былі-б шмат вартымі.

— Затым, — сказаў я, — чым болей важным зьяўляецца абавязак старожаў, тым болей вымагаціме ён часу, здольнасьці, і мастацтва, і стараньня.

— Бяз сумліву, — сказаў ён.

— Ці-ж да гэтага занятку не спатрэбіцца натуральная здольнасьць і гэтакая-ж схільнасьць?

— Ведама.

— Затым, будзе гэта нашым абавязкам, выбраць, наколькі мы зможам, тых, каторыя паводля сваіх натуральных свомасьцяў, будуць найболей адпаведнымі да аховы гаспадарства.

— Так, гэта наш абавязак.

— І гэтакі адбор ня будзе справаю лёгкаю, — сказаў я, — але мы павінны астацца адважнымі і зрабіць усё магчымае.

— Мы павінны, — адказаў ён. [375]

— Ці ня думаеш ты, — сказаў я, — што ў прадмеце аховы і пільнаваньня шляхэтны юнак вельмі падобны да пародзістага шчаняці?

— Што ты маеш на ўвазе?

— Я маю на ўвазе, што абодва яны павінны хутка спасьцерагаць і прасьледаваць ворага, калі яны бачаць яго і калі насьпеюць, быць сільнымі, каб змагацца зь ім і перамагчы яго.

— Так, — сказаў ён. — Яны мусяць гэтакімі быць.

— І каб добра змагацца, трэба быць адважным.

— Пэўна.

— Ці можа быць харобрым той, хто ня мае духа адвагі ў сабе, хай будзе гэта конь, сабака ці які-небудзь іншы зьвер? Ці, не заўважыў ты як неасіленым і непераможным ёсьць дух, поўны пераканання, і як прысутнасьць ягоная чыніць душу кажнага жывога існаваньня абсалютна бясстрашнаю і ўпорыстаю, і недаступнаю з боку ніякіх перашкодаў?

— Так, заўважыў.

— Цяперака мы маем яснае ўяўленьне што да фізычных якасьцяў, вымаганых ад старожы.

— Так.

— І гэтаксама што да духовых; ягоная душа мае быць загартаваным духам.

— Але́.

— Аднак-жа, Ґляўкон, — сказаў я, — калі старожы маюць быць гэтакімі паводля свае натуры, ці ня будуць яны лютымі адзін да аднаго, і ў адносінах да ўсіх іншых грамадзян?

— Труднасьць, якую цяжка перамагчы, — адказаў ён.

— У тым самым часе, — сказаў я, — яны павінны быць страшнымі для ворагаў і далікатнымі ў адносінах да прыяцеляў; калі не, дык яны зьнішчаць самых сябе перад тым, як ворагі зьнішчаць іх.

— Гэта праўда, — сказаў ён.

— Тады, што маем рабіць? — запытаў я. — Як мы можам знайсьці лагодную натуру з адначасна харобрым духам? Бо-ж лагодны дух зьяўляецца супрацьлежнасьцю лютасьці духа.

— Зусім ясна.

— Ня можа быць той добрым старожам, у каго няма аднаго і другога, спалучаных разам; з другое стараны, спалучэньне гэтых двух якасьцяў ёсьць немагчымым; з гэтага выснаў напрашваецца, што стацца добрым старожам ёсьць немагчымаю рэчаю.

— Баюся, што тое, што́ ты кажаш, праўдаю ёсьць, — сказаў ён.

— Пад уплывам пачуцьця бязраднасьці, каб агарнуць усё сказанае, мой дружа, — сказаў я, — зусім ня дзіва, што трапілі мы ў стан зьбянтэжанасьці; бо-ж мы згубілі спазор таго вобразу, які мы самыя паставілі перад сабою.

— Што ты маеш на ўвазе? — спытаў ён.

— Я маю тое на ўвазе, што існуюць натуры, абдораныя гэтымі супроцьлежнымі свомасьцямі.

— Дзе яны?

— Шматлікія зьверы зьяўляюцца прыкладамі для нас; вазьмем хоць-бы сабаку: ты ведаеш, што добрае пароды сабакі праяўляюць вельмі належную лагоднасьць да ведамых ім асобаў і адваротнае да тых, каго яны ня ведаюць.

— Так, гэта ведаю я.

— Тады нічога няма немагчымага або чаго-небудзь супярэчнага з натураю ў нашых пошуках старожы, у якім падобныя свомасьці праяўляюцца.

— І мне здаецца, што не.

— Ці ня выдаецца табе, што прышлы старожа, апрача свайго гарту духа, павінен мець свомасьці філёзафа?

— Як гэта? — сказаў ён, — я не разумею цябе. [376]

— Гэтая характэрная рыса, пра якую я гавару, — адказаў я, — можа быць спасьцярожнаю ў сабакі, і яна астаецца нечым своеасаблівым у ім.

— Якая характэрная рыса?

— Убачыўшы незнаёмага, сабака зараз-жа злуецца, хоць гэты першы ніколі яму ня спрычыніў ніякае крыўды, а ўгледзіўшы знаёмага — лашчыцца, нават тады, калі апошні не зрабіў яму нічога добрага. Ніколі табе гэта ня выдалося дзіўным?

— Да гэтае пары я ніколі не зьвяртаў асаблівае ўвагі на гэта; але цяперака спасьцерагаю, што ты кажаш да рэчы.

— Гэтая свомасьць ягонае натуры выдаецца мне цудоўнаю, і нават праўдзіва філязафічнаю.

— Як гэта?

— Вельмі проста; ён разрозьнівае твар прыяцеля і ворага толькі на падставе крытэрыі веданьня і няведаньня. І чаму зьвер ня меў-бы мець цягі да пазнаваньня, які пастанаўляе штó для яго блізкім ёсьць і штó чужым дарогаю веданьня і няведаньня?

— Цяжка запярэчыць гэта, — сказаў ён.

— А ці-ж імкненьне да пазнаваньня, — сказаў я, — ня ёсьць мудрасьцю, якая зьяўляецца філязофіяю?

— Так,— сказаў ён, — яны адно і тое самае.

— Ці-ж ня можам мы з упэўненасьцю сказаць гэтае самае і пра чалавека, што, калі ён будзе лагодным да

сваіх блізкіх і знаёмых, тады, дзякуючы сваей натуры, павінен праяўляць імкненьне да мудрасьці і пазнаньня?

— Можам праявіць упэўненасьць, — сказаў ён.

— Тады, той, хто мае быць запраўды добрым і шляхэтным старожам гаспадарства, паводля свае натуры, павінен імкнуцца лучыць у сабе філязофію і дух, імклівасьць і сілу.

— Бяз сумліву, — сказаў ён.

— А цяперака, калі мы знайшлі якімі яны маюць быць, вырысоўваецца пытаньне, як маем мы гадаваць іх і ўзгадоўваць? Ці ня ёсьць гэта нашым досьледам, які можа быць уважаны, як падыход да яшчэ большага досьледу, які зьяўляецца мэтаю нашага разважаньня, пайменна: Як узьнікаюць у людзкай супольнасьці справядлівасьць і несправядлівасьць? Каб нам толькі ня згубіць з вачэй нашае дыскусыі і не расьцягваць яе без патрэбы.

На гэта брат Гляўкона сказаў:

— У кажным выпадку я спадзяюся, што разважаньні над гэтым мецімуць для нас вялікае значэньне.

— Дарагі мой Адэімантос, — сказаў я, — мы не павінны кідаць нашага разважаньня, нават калі-б яно аказалася за доўгім.

— Запраўды, не павінны.

— Давай, тады, не сьпяшаючыся, як чыняць гэта апавядальнікі пра сівую мінуўшчыну, займемся выказваньнем адносна ўзгадаваньня гэтых мужоў.

— Так, трэба гэта ўчыніць.

— І якое-ж мае быць узгадаваньне? Ці можам мы знайсьці лепшае, чымся тое, што́ было знойдзена на працягу даўжэйшага часу? Для цела — ґімнастыка, і для душы — му́зыка.

— Гэтак яно, запраўды.

— Ці маем мы распачаць узгадаваньне му́зыкаю, а пазьней перайсьці да ґімнастычнага?

— І чаму-б не?

— Калі гаворыш ты пра му́зыку, маеш ты на ўвазе літаратуру, ці не?

— Я — так.

— Але літаратура можа быць дзьвюх якасьцяў: запраўдная і хвальшывая.

— Але́.

— Тады, моладзь павінна ўзгадоўвацца ў [377]

абедзьвюх якасьцях, і перш у хвальшывай?

— Я зусім не разумею, — сказаў ён, — пра што ты гаворыш.

— Ты не разумееш, — сказаў я, — што мы пачынаем расказваць дзецям апавяданьні, якія, калі і ня зусім не адпавядаюць праўдзе, усё-ж знаходзяцца ў сфэры казак. І, маючы дачыненьне зь дзяцьмі, мы апавядаем ім казкі, калі яны не дайшлі яшчэ да веку ґімнастычных практыкаваньняў.

— Так, гэта праўда.

— Вось гэта і меў я на ўвазе, калі казаў, што мы мусім перш вучыць мўзыкі, а пасьля ўжо ґімнастыку.

— Зусім трапна, — сказаў ён.

— Гэтаксама і тое ты ведаеш, што пачатак зьяўляецца найболей важнаю часткаю кажнае працы, і асабліва ў выпадку маладога і далікатнага дзіцячага існаваньня. Бо гэта якраз адбываецца ў часе, у якім пачынаецца хвармавацца характар і пажаданыя ўражаньні найболей успрыймаюцца.

— Зусім правільна.

— Ці-ж павінны мы гэтак безадказна дазваляць дзецям слухаць міты, якія толькі натрапяцца, выдуманыя прыпадковымі людзьмі і ўспрыймаць думкі, якія ў бальшыні выпадкаў узаемна супярэчнымі сабе бываюць і тымі, якія, як мы ўважаем, павінны быць у іх, калі яны падрастуць?

— Ніколі не павінны мы дазваляць гэтага.

— Перад усім, мы павінны, найболей праўдападобна, мець нагляд над стваральнікамі мітаў: тое, што зь іхных твораў добрым ёсьць, мы павінны дапусьціць, а тое, што не — адкінуць. А ўзгадавальніц і матак мы пераканаем, каб яны апавядалі дзецям тое толькі, што дапушчаецца, каб пры дапамозе іх хвармаваць барджджэй душы дзяцей, чымся целы — пры помачы рук. Але большасьць мітаў, якія цяперака апавядаюцца дзецям — трэба адкінуць.

— Якія гэта? — запытаў ён.

— На падставе вялікіх казак, — сказаў я, — мы можам урабіць сабе паняцьце адносна малых. Бо і вялікія, і малыя павінны мець тыя самыя характэрныя рысы і аднолькавую сілу ўзьдзеяньня. Ці ня думаеш і ты гэтак?

— Так, вельмі магчыма, — сказаў ён, — але я не разу-

мею, пра якія вялікія казкі ты гаворыш.

— Пра тыя, — сказаў я, — пра якія апавядалі Гомэр і Гэзіёдос дый іншыя паэты. Уклаўшы для людзей хлусьлівыя апавяшчэньні, яны пачалі расказваць іх ім, і да гэтае пары ўсё яшчэ расказваюць.

— Але якія маеш ты на ўвазе, — сказаў ён, — і за што папракаеш ты іх?

— За тое, за што́ перад усім і з прычыны таго галоўна трэба дакараць іх, і ў вапрычонасьці за хлусьню, якая найболей брыдка ім выйшла.

— Як гэта?

— Калі хто-небудзь у сваей мове няправільна выражаецца пра багоў і герояў, дык гэта падобна да таго, калі-б артысты-маляр намаляваў зусім непадобнымі да сябе тых, чые падабенствы ён хацеў намаляваць.

— Гэтакі дакор мае пад сабою грунт. Але як гэта трэба разумець, і пра што́ ты гаворыш?

— Перад усім, — сказаў я, — найбольшую хлусьню і пра найболей важную рэч нязграбна выдумаў той, хто сказаў, пра тое, што́ зьдзеяў Уранос, аб чым [378] успамінае Гэзіёдос і, што быццам Кронос адпомсьціў яму. Пра справы-ж Кроноса і пра ягоныя мучэньні, якія са свайго боку спрычыніў яму ягоны сын, нават калі-б гэта і праўдзівасьцю было, дык я не ўважаў-бы за неабходнасьць з гэтакаю безадказнасьцю расказваць тым, хто яшчэ маладым і недасьведчаным астаецца; шмат ляпей было-б, калі-б гэтакія рэчы былі пахаванымі ў маўчаньні. Але, калі ўжо ўзьнікае неабходнасьць успамінаць пра гэта, дык няхай вельмі нешматлікія стануцца сьведкамі гэтага, прыносячы, як ахвяру, не парсюка, але даканаць нейкае вялікае і маладаступнае ахвяраваньне; і гэтым лік тых, што чулі, запраўды, будзе вельмі малым.

— Запраўды, гутаркі падобныя выклікаюць супраціў.

— Так, — сказаў я, — дый іх, Адэімантос, ня варта распаўсюджваць у нашым гаспадарсьцьве. Ня трэба расказваць юнаку, што, даконваючы найгоршае праступства, ён ня прыймае ўдзелу ў нічым асабліва дрэнным, нават тады, калі ён у які-небудзь спосаб кара́е свайго бацьку, калі апошні ўчыніць што-небудзь дрэннае, і, што ён будзе ісьці толькі за прыкладам першага і найбольшага спасярод багоў.

— Я зусім згаджаюся з табою, — сказаў ён, — і мне

самому выдаецца, што падобнага роду апавяданьні нягрыгоднымі зьяўляюцца, каб іх перапаўтараць.

— Дый наагул, — сказаў я, — гутарка пра тое, як багі ваююць з багамі, вядуць інтрыґі і вайну між сабою — гэта само ў сабе няпраўдаю ёсьць; бо-ж тыя з нашых прышлых старожаў, што стаяцімуць на стражы гаспадарства, павінны ўважаць сабе за найбольшы сорам, што гэтак лёгка можа ўзьнікáць ўзаемная варажнеча. Не, мы ніколі не павінны ўспамінаць і размалёўваць бітвы паміж асілкамі; і маўчаньнем павінны мы асланяць бязьлікія іншыя спрэчкі паміж багамі і героямі зь іхнымі сябрамі і сваякамі. — Наадварот, калі нашым замерам ёсьць узгадоўваць у пераканаьні, што ніколі і ніхто з грамадзян ня меў пачуцьця варожасьці адзін да аднаго і, што падобнае пачуцьцё — гэта нягоднасьць, дык вось пра гэта якраз і павінны безадкладна і як найболей расказваць дзецям і старэйшыя апавядальнікі, і старэйшыя жанчыны і пазьней, калі дзеці падрастуць; гэтаксама і паэтам трэба сказаць, каб і яны тварылі ў гэтым-жа духу. А пра тое, што на Гэру наклаў путы яе сын, Гэфаістос, каторы быў скінутым з Олімпу ягоным бацькам за тое, што хацеў заступіцца за пабітую маці, або пра ўсе бітвы багоў, выдуманыя Гомэрам, — гэтакія апавяданьні ня могуць быць дапушчаны ў нашым гаспадарсьцьве, і гэта ўсяроўна, маюць гэтакія творы пераносны сэнс ці не. Бо падрастаючае дзіця не зьяўляецца ў стане вымеркаваць, калі гаворыцца ў пераносным сэнсе, а калі даслоўна; кажная рэч, якую яно ўспрыймае ў свой розум у гэтым веку, звычайна астаецца зь ім назаўсёды і бяз зьмяненьняў. З гэтае прычыны, і гэта бадай-што найважнейшым ёсьць, што тое, штó яно ў пяршыню чуе, павінна быць старанна выпрацавана ў духу мужнасьці і дабрадзейнасьці.

— Гэта мае сваё абаснаваньне, — сказаў ён. — Але, калі хто-небудзь далей нас пра гэта запытае, штó гэтым мае быць, і якія апавяданьні ты маеш на мэце — штó маем мы адказаць?

— На гэта адказаў я: Ты, Адэімантос і я, у дадзеным часе не зьяўляемся паэтамі, але асновапаложнікамі гаспадарства. Цяпер-жа, да закладнікаў гаспадарства [379] не належыць задача тварыць міты, але яны павінны ведаць агульныя асновы, паводля якіх паэты апавядаць му-

сяць, і не адступацца, і межы, якіх яны трымацца маюць.

— Правільна, — сказаў ён, — але чым зьяўляюцца гэтыя асновы тэолёгіі, якія ты маеш на ўвазе?

— Нешта вось гэтакае, — адказаў я: — Бог заўсёды павінен быць выяўляны гэтакім, якім ён у запраўднасьці ёсьць, будзе гэта ў эпічнай паэзыі, у песьнях ці ў трагэдыі.

— Запраўды, гэтак павінна быць.

— І вось, у сваей існасьці Бог ёсьць добры? І ці-ж ня гэта трэба пра яго гаварыць?

— Напэўна.

— Але-ж ніякае дабро ня прыносіць шкоды; ці ня так гэта?

— Не, запраўды.

— А тое, што ня ёсьць шкодным, ня шкодзіць?

— Напэўна, не.

— А тое, што ня прыносіць шкоды, ці-ж можа тварыць якое-небудзь зло?

— Гэтаксама, не.

— А тое, што ня творыць ніякага зла, ня можа быць і прычынаю якога-небудзь зла?

— Дый як-бы гэта магло быць?

— Дык што? Дабро ёсьць карысным?

— Але.

— І гэтым стаецца прычынаю дабрадзеяньня?

— Так.

— З гэтага выснаў, што дабро не зьяўляецца прычынаю ўсіх дзеяньняў, але толькі дзеяньняў добрых. І са злом яно ня мае нічога супольнага?

— Добрых, запраўды, — сказаў ён.

— Тады, Бог, калі ён ёсьць добрым, не зьяўляецца прычынаю ўсяго, наўсуперак агульна прынятае людзьмі думкі, але толькі адно ў нешматлікіх, а не ў многіх рэчах, якія маюць дачыненьні зь людзьмі. Бо ў людзкім жыцьці меней добрага, чымся дрэннага; і прычыны дабра ня трэба шукаць ні ў кога іншага; але для зла трэба шукаць нейкія іншыя прычыны, а ня ў Богу.

— Тое, што ты гаворыш, — сказаў ён, — выдаецца мне як найболей правільным.

— Затым, не павінны мы слухаць Гомэра або якога-небудзь іншага паэты, калі ён гэтак нямудра памыляецца адносна багоў, кажучы, што

Доляў зьмяшчальнікі два на парозе у Зэўса:
Доля спагаднасьці ў першым, ў другім — неспагады,

і каго Зэус абдорвае сумесьсю з двох зьмяшчальнікаў,

Той у чарговасьці шчасьце знаходзіць ў жыцьці як і гора,

але той, каму ён падасьць чару нязьмешанае злыбяды,

Лютая прогаладзь гоніць яго па зямлі дакучліва.

І зноў-жа не адказвае праўдзе, быццам Зэус

Дорыць дабром нас і злом гэтаксама.

І, калі хто-небудзь казаціме, што нарушэньне зарокаў і згодаў было даканана Пандаросам пад уплывам Атэны і Зэуса або, што бітвы багоў і іхныя сваркі былі выкліканыя Тэмісаю і Зэусам, той ніколі не павінен атрымаць нашага ўзнаньня. [380] Гэтаксама як і ня можна дазволіць, каб нашыя юнакі чулі тое, што́ Айсхілёс кажа:

Прычыну Бог заўсёды знойдзе,
Калі ён хоча зьнішчыць хату да зямлі.

Калі паэта піша пра цярпеньні Ніобы, — аб чым успамінаецца ў творах трагічнага характару ў ямбічнай хворме, — або пра дом Пэлёпідаў, або пра здарэньні Троянскае вайны, або пра што-небудзь на падобную тэму, тады мы або не паінны дазволіць гаварыць яму, што ўсё гэта божыя чы́ны, або, калі яны зьяўляюцца божымі, ён мусіць увыпу́кліць той зьмест, які мы цяперака шукаем, і выразіць пагляд, што Бог творыць толькі тое, што́ справядлівым ёсьць і добрым, а ка́ра, якую дазнаюць людзі — ім на карысьць. Але ня можна дазволіць паэту падтрымліваць думку, быццам тыя, што́ нясуць пакараньне, нешчасьлівымі зьяўляюцца і, што прычына іхнага няшчасьця — Бог. Аднак-жа, калі ён хоча сказаць, што заганныя зьяўляюцца няшчаснымі, бо яны знаходзяцца ў стане вымаганага пакараньня, і гэтым атрымліваюць для сябе выгаду ад Бога — гэта можна дазволіць. Але, калі кажуць, што Бог, будучы дабром, зьяўляецца для каго небудзь прычынаю зла, дык гэта павінна быць энэргічна запярэчаным. І ніхто, ані юнак, ані дарослы, калі ён знаходзіцца ў супольнасьці на праве абаснованай, не павінен гаварыць пра гэта, ані пяяць у гымнах або слухаць падобнае ў вершаванай хворме ці ў прозе. Бо гэтакае вы́хлушанае цьверджаньне сьмерцяносным ёсьць, зьнішчальным, бязбожным.

— Я згаджаюся з табою, — сказаў ён, — даю згоду сваю на гэткае права, бо яно падабаецца мне.

— Няхай, тады, — сказаў я, — гэта будзе адным з нашых пра́ваў і прынцыпаў адносна багоў, у сузгоднасьці з чым нашыя паэты і тыя, што дэклямуюць абнадзеена будуць падтрымліваць думку, што Бог не зьяўляецца прычынаю ўсяго, але толькі дабра́.

— Гэта будзе добра, — сказаў ён.

— І што ты думаеш адносна другога прынцыпу? Думаеш ты, што Бог чараўнікoм зьяўляецца, і карыстаецца свомасьцю, быццам, знарок зьяўляцца раз у вадным відзе, а іншым разам — у іншым? — часамі сам зьіначваецца, пераходзячы ў іншыя хвормы, часамі зманьвае нас, змушаючы нас думаць пра сябе адзін раз гэтак, а іншы раз — інакш? А мо' думаеш ты, што Бог ёсьць адзін і той самы і бяззьменны і ніколі ня выходзіць са свае постаці?

— Нічога я не магу цяперака адказаць на гэта, — сказаў ён.

— А на гэта: — сказаў я, — калі што-небудзь выходзіць за межы свае хвормы, ёсьць гэта неабходнасьцю, каб яно зьінaчвалася само сабою, ці пад узьдзееньнем чаго-небудзь іншага?

— Найболей праўдападобна.

— І рэч, якая знаходзіцца ў найлепшым стане, меней за ўсё зьінaчваецца пад узьдзеяньнем чаго-небудзь іншага? Напрыклад, калі найболей здаровае і найболей сільнае цела людзкае найменей паддаецца зьінaчаньням пад узьдзеяньнем ежы, піцьця і натугаў? Гэтаксама і расьліны, калі ў поўным расьцьвеце, найменей церпяць з прычыны вятроў, або сонечнае сьпякоты, ці [381] падобных узьдзеяньняў?

— Ведама.

— І ці-ж не павінна найболей мужная і мудрая душа быць найменей зьведзенаю і растроенаю якімі-небудзь вонкавымі ўзьдзеяньнямі?

— Так.

— І гэты самы прынцып, як мне выдаецца, можа быць затасаваны адносна ўсіх рэчаў — мэблі, дамы́, вопратка: калі добра і дакладна выкананыя, яны найменей паддаюцца ўзьдзеяньню часу і іншым абставінам.

— Гэтак яно і ёсьць.

— Затым, кажная рэч, якая добраю зьяўляецца, і ўсяроўна, дзякуючы натуры ці мастацтву, або таму і другому разам, найменей паддадзена зьначаньню прычынам звонку.

— Выглядае гэтак.

— Але-ж Бог і ўсё тое, што Божае, у кажным выпадку зьяўляецца дасканалым?

— Напэўна.

— Тады, насілу ці можа быць ён змушаным пад уплывам вонкавых прычынаў прыймаць розныя хвормы?

— Напэўна не, — адказаў ён.

— Але магчыма ён сам сябе зьмачвае іператворвае?

— Вельмі магчыма, — адказаў запытаны, — калі наагул ён прыймае інакшы від.

— А мо' зьначвае ён сябе ў нешта лепшае і прыгажэйшае або ў нешта дрэннае і брыдкае?

— Калі ён зьначваецца наагул, — сказаў ён, — дык у дрэннае. Бо-ж мы ня можам сказаць, каб Бог адчуваў недахоп у прыгожасьці і мужнасьці.

— Вельмі трапна выказаўся ты, Адэімантос! — сказаў я. — Але ці захоча хто-небудзь, хай сабе Бог ці чалавек, учыніць сябе горшым у якой-небудзь ступені?

— Гэта немагчыма, — адказаў ён.

— Тады, зьяўляецца немагчымасьцю, каб Бог праявіў жаданьне зьначыць самога сябе; але кажны зь іх, будучы гэтакім, якім ён ёсьць, гэта значыць, да найвышэйшае ступені прыгожым і добрым, як выглядае, астаецца абсалютна і назаўсёды ў сваей уласнай постаці.

— Паводля мае думкі, гэта выступае як неабходнасьць, — сказаў ён.

— Тады, няхай ніхто з паэтаў, дружа мой, — сказаў я, — не расказвае нам, —

> Быццам з краінаў далёкіх багі, замяніўшы адзеньне,
> Ходзяць па вуліцах места і ў хаты людзей заглядаюць.

І няхай ніхто не абгаварвае Протэуса і Тэцісу, і ў трагэдыях, ды іншых творах няхай ня выяўляюць Гэру, я́к яна, у сьвятарку перайначылася і

> Для жыцьцядайных дачок аргейскай ракі Інахоса

пада́чкі зьбірала, і няхай наагул ня выдумляюць падобнае хлусьні. Гэта і да мацярок адносіцца, яны не павінны, паверыўшы ім, палохаць дзяцей апавяданьнямі, быццам

нейкія багі блукаюць ноччу ў выглядзе розных чужынцаў; — няхай яны праявяць асьцярожнасьць, каб дзеці не пачалі зьнеслаўляць багоў ды ня сталіся дзецьмі пужлівага сэрца.

— Запраўды, не, — сказаў ён.

— А мо', хоць багі і не зьінацваюцца самыя, усё-ж пры помачы чараў і зману выклікваюць у нас уражаньне, што яны, як зьявы, выступаюць у розных хвормах?

— Магчыма, — адказаў ён.

— Дык што? Можаш ты сабе ўявіць, што Бог [382] можа быць схільным хлусіць — хай сабе ў слове ці ў чыне — або праяўляць сябе ў відзе зьявы?

— Я ня ведаю, — адказаў ён.

— Ня ведаеш ты, — сказаў я, — што праўдзівую хлусьню, — калі гэтак можна сказаць, — ненавідзяць усе багі і людзі?

— Як ты разумееш гэта? — запытаў ён.

— Я разумею гэтак, што ніхто не зьяўляецца ахвочым увесьці каго-небудзь у зман, або самому ашукацца ў самых важных рэчах для яго; бо тутака, перад усім, ён найболей баіцца, каб хлусьня не агарнула яго.

— Я ўсё яшчэ, — сказаў ён, — не магу зразумець цябе.

— Бо ты думаеш, — сказаў я, — што я гавару пра нешта сваеасаблівае. Я гавару толькі, што ўводзіць душу сваю ў зман адносна таго, штó ёсьць, гэта значыць — рэчаіснасьці, трымаць яе ў памылцы і самому аставацца нéвукам і прасякнутым хлусьнёю — гэта ёсьць тое, штó людзкасьць найменей любіць: для ўсіх, махлярства — абрыдласьць.

— І вялікая нават, — сказаў ён.

— І як я вось толькі што адцеміў, гэтая някультурнасьць у душы таго, хто ёсьць ашуканы, можа быць названа праўдзівою хлусьнёю; бо хлусьня ў словах зьяўляецца толькі пэўным родам насьледаўніцтва і заімглёнаю постацьцю ранейшага ўхвармаваньня душы, і гэта ўжо ня будзе беспрыдамешанаю ілжывасьцю. Мо' ня гэтак рэч маецца?

— Якраз гэтак.

— І праўдзівая хлусьня астаецца зьненавіджанаю ня толькі багамі, але гэтаксама і людзьмі.

— І мне гэтак здаецца.

— Зноў-жа, хлусьня ў слове, у пэўных выпадках, бы-

вае карыснаю, і з гэтае прычыны ня трэба яе ненавідзець; часамі ў дачыненьнях з ворагамі, для прыкладу, або з тымі, каго мы называем сябрамі? Калі яны ў злосьці або ў безразважнасьці знаходзяцца на дарозе да ўчыненьня чаго-небудзь дрэннага, ці-ж ня будзе тады хлусьня карысным сродкам, каб супакоіць іх? Дый у тых старавечных пераказах, пра каторыя мы толькі што гаварылі, ці-ж ня чынім мы зман карысным, упадабняючы яго як найболей да праўды, а да таго яшчэ мы і ня ведаем, як усё гэта адбывалася ў старажытнасьці?

— Так, гэта вельмі магчыма, — сказаў ён.

— Але ў якіх-жа з усіх гэтых суадносінаў магла-б быць хлусьня карыснаю Богу? Ці-ж можам мы дапусьціць думку, што ён нагэтулькі нясьведамым быў адносна старажытных часоў, што хапаўся за нешта падобнае?

— Было-б гэта сьмехатворным, — сказаў ён.

— Тады, хлусьлівы паэта не знаходзіць месца ў нашай ідэі Бога?

— І мне выдаецца, што не.

— А ці пачаў-бы Бог уводзіць у зман з прычыны страху перад ворагамі?

— Гэтага ніяк ня можна дапусьціць у думцы.

— А мо' з прычыны бязмыснасьці ці ашалеласьці сваіх блізкіх?

— Ніякі бязмысны ці ашалелы, — сказаў ён, — ня можа быць блізкім Бога.

— Тады, няма ніякае прычыны, дзеля якое Бог мог-бы ўводзіць у зман.

— Не, няма.

— Тады, для кажнага звышчалавека як і боскасьці хлусьня няведамаю астаецца.

— Напэўна няведамаю, — сказаў ён.

— З гэтага, Бог — бясспрэчна, зьяўляецца простым і праўдзівым гэтак у слове як і ў чыне; ён не зьіначваецца, ён нікога ня ўводзіць у зман ані словам, ані пасыланьнем знаменьняў — ані на яве, ані ў сьне.

— Пад уплывам тваіх словаў, — сказаў ён, — мне [383] і самому становіцца ўсё ясным.

— Тады, ты згаджаешся са мною, — сказаў я, — што абавязкавым ёсьць другі наўзор, паводле якога будзе гаварыцца і пісацца ўсё тое, штó адносіцца да багоў: багі не зьяўляюцца чарадзеямі, якія зьіначваюць самых

сябе, каб зманьваць людзкасьць гэтак словам як і чынам?

— Згаджаюся.

— Тады, калі мы нават шматлікае падзіўляем у Гомэра, мы, аднак, ня можам згадзіцца з тым, калі Зэус пасылае Аґамэмнону махлярскі сон; не пахвалім мы і таго месца ў Айсхілёса, дзе Тэціса кажа, што Апольлён на яе вясельлі выражаў радасныя пажаданьні шчасьця ў дзецях, кажучы:

Сыноў тваіх хваробы не даткнуць навек;
Сказаўшы гэта ён акрыліў сэрца мне —
І тым: мой лёс займеў прыхільнасьць між багоў.
Я думала, што для багоў чужым ёсьць зман,
Што Фойбос боскі шчасьця й долі наш прарок,
Ён сам пяяў, той самы, што да нас казаў;
Цяпер-жа, ён, — калісьці на вясельлі госьць, —
Забойцам майго сына ёсьць.

Калі хто-небудзь падобнае пачне гаварыць пра багоў, ён выклікае сярод нас гнеў; і гэтакаму не павінны мы даваць хору; і не дазваляць вучыцелям карыстацца творамі гэткага характару дзеля навучаньня моладзі, бо нашыя старожы, — як далёка людзям магчымым ёсьць, — павінны быць праўдзіва богабойнымі і богападобнымі.

— Я зусім згаджаюся з гэтымі прынцыпамі, — сказаў ён, — і прыракаю ўчыніць іх маім правам.

[386] — Гэтакім вось зьяўляецца наш погляд адносна багоў, — сказаў я, — некаторыя з апавяданьняў не павінны быць пераказванымі, а іншыя могуць быць пераказваныя нашым вучням, пачынаючы з самых раньніх гадоў, калі мы маем узгадаваць іх у духу пашаны да багоў і бацькоў і не паменшваць значэньня сяброўства паміж людзьмі.

— І я думаю, — сказаў Адэімантос, — што гэтакі пагляд правільным ёсьць.

— Зноў-жа, калі яны адважнымі маюць быць, дык ці-ж не павінны яны быць абазнанымі зь іншымі павучэньнямі, пайменна, з гэтакімі павучэньнямі, якія выжануць зь іх страх сьмерці? Ці можа чалавек быць адважным, які мае ў сабе страх сьмерці?

— Напэўна не, — адказаў ён.

— І ці можа быць бясстрашным перад сьмерцю, або выбярэ сабе баржджэй сьмерць на полі бітвы, чымся паразу і няволю той, хто верыць у існаваньне Гадэсу ды яшчэ жахлівага?

— Ніколі.

— Тады, мы мусім мець дагляд над пераказчыкамі мітаў, гэтаксама, як і над тымі іншымі, каб яны ня ганілі ўсё тое, што́ ў Гадэсе, але баржджэй усхвалялі, бо-ж у сваіх ганьбах яны ня маюць абаснаваньняў, дый не карысным будзе гэта для прышлых ваяроў.

— Так, хай гэта будзе нашым абавязкам, — сказаў ён.

— Тады, — сказаў я, — выкінем перш гэтакія пасусы, як:

> Лепш я жадаў-бы сабе, як батрак, пасабляці на полі
> Беднаму мужу, і гэтым атрымліваць хлеб свой штодзенны,
> Чымся ўладарыць сярод няжывых, і сам будучы мертвым;

і —

> Каб несьмяротным і людзям ня ўгледзіць ягоных сялібаў

Страшных і поўных суцэньняў — багі іх пужаюцца нават;
і —
Неба! але, у Гадэсавым доме ў нетрах глыбокіх
Дух чалавека у хворме душы бесьцялеснай замкнуты;
і —
Ён адно з розумам, — іншыя-ж постацю ценяў лунаюць;
і —
Выйшаўшы зь цела, душа у напрамку Гадэсу імкнецца,
Лямантам лёс свой ачысьціць імкнецца, бяз моцы юнацтва;
і— [387]
і душа усяроўна, як воблака подых,
што западае у прорву;
і —
як кажаны у таёмных пустэчах пячоры —
Хай хоць адзін із шнура зь іх з скалы абарвецца крыкліва,
Гэтак, адзін за другога схваціўшысь, лятуць у прадоньне:
Так, вось, з пранізьлівым піскам, яны паляцелі.

Мы мусім прасіць Гомэра, гэтаксама як і іншых паэтаў, даравацъ нам, калі мы выкінем гэтыя і падобныя пасусы, не затым, што адсутнічае ў іх паэтыцкая краса, але затым, што — чым больш паэтыцкі чар выступае ў іх, тым меней прыдатныя яны для слуху дзяцей і дарослых, калі чалавек мае быць свабодным і болей чымся сьмерці баяцца няволі.

— У кажным выпадку трапна сказана.

— Апрача таго, мы павінны адкінуць усе страшэнныя і палохаючыя імёны, якія вяжуцца з апісаньнем падзямельнага сьвету, як Кокітос і Стыкс, падзямельныя духі, і касьцістыя нябошчыкі, і ўсе падобныя словы, на ўспамін якіх, чалавека пранізваюць дрыжыкі да самае глыбіні душы. Я ня хочу гэтым сказаць, што гэтыя страшэнныя апавяданьні зусім ня маюць ніякае карысьці; але існуе небясьпека, што, дзякуючы гэтакім казкам, нашыя старожы могуць стацца празьмерна ўзбуджанымі і расчуленымі.

— Запраўды, існуе небясьпека, — сказаў ён.

— Тады, мы не павінны мець іх?

— Так.

— Іншыя і болей шляхэтныя паэтычныя творы павінны быць ужываныя для нашага сьпеву.

— Ведама.

— Значыцца, мы павінны выключыць песьні наракань-няў і лямэнтаваньні праслаўленых людзей?

— Гэта неабходна, — сказаў ён, — калі маем мы быць у сузгоднасьці з ужо сказаным.

— Паўзірайся, — сказаў я, — ці будзем мы апраўданымі, выключаючы гэтакія рэчы? Падумай: мы ўтрымліваем, што годны чалавек не ўважае за нешта жудаснае сьмерць іншага чалавека, нават годнага чалавека, хоцьбы гэты апошні быў ягоным сябрам.

— Але́, падобнае мы ўтрымліваем.

— Затым, ён не пачне сумаваць з прычыны адыходу ягонага прыяцеля, быццам здарылася нешта зь ім страшэннае.

— Ведама, што ня будзе.

— Гэтакі чалавек, як і далей мы ўтрымліваем, здаволеным астаецца сам у сабе, з прычыны годнага і шчасьлівага жыцьця, і затым найменей адчувае патрэбу ў іншых людзях.

— Правільна, — сказаў ён.

— З гэтае бо прычыны, страта сына або брата, ці маемасьці свае, выдаецца для ўго найменей жудаснаю.

— Зусім ня жудаснаю.

— І з гэтае прычыны ён найменей будзе наракаць, і будзе зносіць з найбольшаю лагоднасьцю кажнае непаводжаньне, якое можа прытрапіцца яму.

— Запраўды, з найбольшаю лагоднасьцю.

— Затым, мы апраўдана выключылі-б для слаўных мужоў лямэнтаваньні, пакідаючы іх жанчынам, дый не абавязкава найлепшым спасярод іх, [388] дый хіба-што нікчэмным мужчынам. Каб гэткім чынам тыя, каторых мы адукавалі дзеля абароны роднага краю, уважалі-б за абразу для сябе хапацца за падобнае.

— Правільна, — адказаў ён.

— Затым мы зноў будзем прасіць Гомэра і іншых паэтаў, ня змушаць Ахільлеса, калі ён ужо сынам багіні зьяўляецца па́даць на бок або кідацца ніцма, на плечы лажыцца, то зноў, усхапіўшыся з ложа, бегчы ўздоўж узьбярэжжа; і яшчэ — нячыстага попелу ў прыгаршчы схваціўшы, пасыпаў ім галаву. Або плачучага і енчачага ў розных абставінах, як гэта Гомэр выдумляе; гэтаксама і Прыямос, калі ён ужо стаўся блізкім да багоў, няхай ён ня енчыць, як гэта і кажацца пра яго:

з бруднага гною
Кажнага мужа, ён енчачы, зваў і прасіў па іменьні.

І яшчэ болей паважна будзем прасіць яго ў кажным выпадку, не прадстаўляць багоў кленчачых і кажучых, —

Гора мне беднай, няшчаснай і стужанай матцы героя.

Але калі наагул ён мусіць вывесьці багоў, дык ён не павінен прадстаўляць у неадпаведным сьвятле найбольшага з багоў, каторы быццам кажа —

Гора! маімі вачыма я бачу любімага сябру
У бегу навокал аселішча — і боль мне пранізвае сэрца;

і —

Гора! узрок мой агортвае суднага мне Сарпэдона —
Паў із рукі Патраклёса, Мэноіцiяд'вага сына.

Бо калі нашыя юнакі, мой дарагі Адэімантос, паважна прыслухоўваюцца да гэтакіх нявартых нашае ўвагі выказваньняў пра багоў і ня высьмеюць іх, як нешта нягоднае, дык насілу ці хто-небудзь, астаючыся чалавекам, уважаціме ніжэй за сваю годнасьць, калі ўпадзé ён на думку сказаць або завяршыць нешта падобнае, — тады наадварот, без якога-колечы сораму ці самапанаваньня над сабою, ён заўсёды будзе рабіць з сябе плаксу і ляманетаваць.

— Шчырая праўда, — сказаў ён.

— Так, — сказаў я, — але гэта і ёсьць якраз тое, чаго не павінна быць, як нашае разважаньне давяло; і на гэтым довадзе трэба стаяць, пакуль не заспасобяць нас лепшымі довадамі.

— Трэба стаяць.

— Ані гэтаксама нашыя старожы павінны быць рагатунамі. Бо напад сільнага рогату часта вядзе да супроцьлеглага настрою.

— І мне гэтак здаецца, — сказаў ён.

— Затым, людзі з годнасьцю, нават калі яны і сьмяротнымі зьяўляюцца, не павінны выяўляцца як людзі сьмеху, тым болей ня можна дазволіць гэтага багам.

— Тым болей, — адказаў ён. [389]

— Затым, мы ня можам дазволіць сабе на гэтыкія выражэньні, якія чыніць Гомэр, калі ён кажа пра багоў:

Рогат бязмысны узвысілі ў небе шчасьлівыя ў богу,
Бачачы там як Гэфаістос з конаўкай ходзіць на месцы.

гэтага, паводля тваё думкі, мы не павінны дазваляць?

— Так, калі цябе цікавіць мой пункт гледжаньня, дык гэтага ня можна дапускаць.

— Але праўду мы мусім высака цаніць сабе. Калі, як мы казалі, хлусьня бескарыснаю астаецца для багоў, і карыснаю зьяўляецца для людзей у відзе леку, дык, зразумела, што ўжыцьце гэтакага леку павінна быць пакінута лекарам, а нясьведамыя людзі не павінны датыкацца да яго.

— Ясна, — сказаў ён.

— Затым, калі хто-небудзь і можа мець прывілей махляваць, дык кіраўнікі гаспадарства былі-б першымі зь іх; і ім, у іхных дачыненьнях хай-сабе з ворагам, ці зь іхнымі ўласнымі грамадзянамі, дазволена было-б гаварыць няпраўду дзеля грамадзкага дабра. Але ніхто іншы зь людзей не павінен займацца гэтым. І хоць людзі на адказных становішчах маюць падобны прывілей, тымняменей прыватны чалавек, калі ён адка́зваціме ім падобным, будзе абцяжаны гэтакім-жа праступкам — і магчыма яшчэ горшым — чымся хлусьня хворага лекару, або таго, хто займаецца фізычнымі практыкаваньнямі і ня кажа праўды адносна стану свайго цела вучыцелю, або калі вадаплаўнік утойвае перад капітанам, што́ сталася з вадаплавам і рэштаю вадаплаўнікаў і як ён маецца або ягоныя сябры.

— Зусім правільна, — сказаў ён.

— Калі кіраўнік зловіць каго-небудзь, апрача самога сябе, на махлярстве зь ліку тых, што

выконваюць мастацтвы,
Хай сабе лекар, сьвятар, а мо' майстра будынкаў,

дык ён пакара́е яго за тое, што апошні ўводзіць разбуральную практыку гэтак для гаспадарства, як і для вадаплаву.

— Асабліва тады, — сказаў ён, — калі словы падмацоўваюцца чынам.

— І далей, наша моладзь павінна адзначацца паўстрыманасьцю.

— Дык як-жаж інакш?

— Ці-ж не зьяўляецца, агульна кажучы, галоўнаю прыкметаю паўстрыманасьці, паслухмянасьць камандзерам і самакантроля ў прадмеце змысловых прыемнасьцяў?

— І я гэтак думаю.

— Тады мы мусім прыняць мову Дзіёмэдэса ў Гомэра:

Стой супакойна, мой дружа, маей паслухмяны будзь радзе,

і далей адпаведныя выражэньні:

Дыхаючы ціха, з адвагаю крочылі грэкі
Поўны жаўнерскай пашаны перад сваім камандзерам,

і падобнае ў гэтым родзе.

— Мы мусім.

— А як гэтае:

Сэрца аленя, віном адурэлы, з вачыма сабакі!

і далейшыя радкі? Ці мог-бы ты сказаць, што гэтыя радкі ці якія-небудзь падобныя нахабнасьці, [390] якія быццам прыватная адзінка мае выказваць пад адрысам свайго старшыні, хай сабе ў вершу ці прозе, добра сказаныя ці дрэнна?

— Дрэнна выражаныя.

— Я думаю, што гэткія рэчы могуць зьмяшчаць у сабе мамэнт сьмехатворства, але яны ня спрычыняцца да паважнасьці. І з гэтае прычыны вельмі праўдападобна, што яны стануцца шкоднымі для нашых юнакоў. Ці згодзішся ты са мною ў гэтым?

— Так, — адказаў ён.

— Тады, зноў, у вершу наймудрэйшаму зь людзей дазваляецца цьвердзіць, што найболей слаўнаю рэчаю ёсьць, калі:

сталы перад ім паддаюцца ад хлеба і мяса,
А віначэрпі наўкола разносіць амшалыя пенай
Кубкі наліты віном із кратэра падпіўшым ўжо людзям.

Ці думаеш ты, што, слухаючы гэтакія словы, павядзе гэта маладога чалавека да самакантролі? Або гэта:

Жах і найгоршаю рэчаю ёсьць — лёс галоднае сьмерці?

І што-б ты сказаў адносна апавяданьня пра Зэуса, каторы быццам, калі іншыя багі і людзі былі пагружанымі ў сьне і толькі ён адзін ня спаў, упаў на думку адумыснага пляну, але ўсё забыў у хвіліну любоўнае пажадлівасьці і гэтак быў апанаваны ёю на спазор Гэры, што ён нават не ўвайшоў у супачывальню, але хацеў легчы зь ёю тутжа на зямлі, прызнаючыся, што ён ніколі перад гэтым ня быў у гэтакім захопленьні, нават тады, калі яны першы раз спаткаліся, “патайком ад іхных мілых бацькоў”, або

адносна апавяданьня, як Гэфаістос з гэтакае самае прычыны скаваў ланцугом разам Арэса і Афродыту?

— Запраўды, — сказаў ён, — я рашуча падтрымліваю думку, што яны не павінны чуць пра падобнага роду рэчы.

— Але чы́ны стойкасьці, якія былі дакананымі або апавяданымі слаўнымі людзьмі, яны павінны бачыць і чуць, хоць-бы гэта для прыкладу:

У грудзі ўдырыў сябе і зьвярнуўся з адвагай да сэрца:
Вытрывай сэрца! У іншых выпадках ты-ж горшае зьнесла!

— Пэўна, — сказаў ён.

— І далей, мы ня можам дазволіць, каб нашыя людзі былі прагнымі грошай і хабарнікамі.

— Пэўна, што не.

— Ня можна дапусьціць, каб яны чулі, як выхваляецца, што:

Дары лагодзяць усіх — каралёў і багоў найсільнейшых.

Гэтаксама немагчыма хваліць і Фэнікса, узгадавальніка Ахільлеса, які быццам меў рацыю, калі раіў Ахільлесу прыняць гасьці́нцы і памагчы ахайцам; [1]) але без гасьцінцаў не адступацца ад свайго гневу. Мы не паверым, і ня згодзімся, быццам Ахільлес быў гэткім хабарнікам, што прыняў дарункі ад Аґамэмнона, або што ён, атрымаўшы плату, аддаў цела памершага, [2]) а без заплаты, не хацеў зрабіць гэтага. [391]

— Бяз сумліву, — сказаў ён, — гэткага роду паступкі ня знойдуць нашага ўзнаньня.

— З усёю пашанаю маею для Гомэра, — сказаў я, — насілу адважуся сказаць, што гэта неганарова гэтак прадстаўляць Ахільлеса, або, калі нават і іншыя гэтак кажуць, верыць, што быццам ён Апольлёну казаў:

Так, ашукаў ты мяне, між багамі найболей зласьлівы.
О, я-б адпомсьціў табе, каб займеў неабходную сілу.

І ягонае непадпарадкаваньне богу-ракі, якое выражаецца бадай-што падняцьцем рукі супраць боскасьці; і пра ягонае ахвяраваньне памершаму Патроклёсу сваіх уласных ку́драў, якія раней былі прысьвечаныя для іншае

---

[1]) Грэкам.

[2]) Гэктора.

ракі-бога Спэрхэйёсу. Немагчыма паверыць, каб ён [1]) выканаў гэта; або, каб ён валачыў Гэктора навакол магілы Патроклёса, і мардаваў палонных каля паховіннага вогнішча; з усяго гэтага — я не магу паверыць, каб ён быў у чым-небудзь вінаваты, гэтаксама як ня мог-бы я дазволіць нашым грамадзянам паверыць, што ён, вучань найболей мудрага Хэйрона, сын багіні і Пэлеоса, які быў найболей шляхэтным сярод людзей, дый да гэтага яшчэ, трэйцім патомкам Зэуса, каб нагэтулькі знаходзіўся пад уплывам сумяціцы свайго розуму, каб стацца ў вадным і тым самым часе нявольнікам двух з спазору супрацьлежных, але сільных пачуцьцяў — самапаніжэньня, праз нетаймаваную прагавітасьць і пагарды адносна багоў і людзей.

— Ты маеш рацыю, — сказаў ён.

— Мы павінны перастаць верыць, як і не дапусьціць пераказваньні пра Тэсэуса сына Посэйдона, або пра Пэйрытооса, сына Зэуса, быццам яны запушчаліся ў загадзя плянаваныя і падступныя грабе́жы, дый наагул быццам хто-небудзь з сыноў бога ці герояў адважыўся на страшныя і непабожныя пастулкі, якія хвальшыва вяжуцца цяперака зь іхнымі імёнамі. Дый ня толькі гэта: мы змусім паэтаў цьвердзіць, што, або гэтыя пастулкі былі дакананыя іншымі людзьмі, або, калі імі, дык яны ня былі сынамі багоў — бо апавядаць-жа наўсуперак таму і гэтаму немагчыма. Мы не праявім схільнасьці для іх у спробе перакканаць нашых юнакоў, быццам багі зьяўляюцца крыніцаю зла і што героі не зьяўляюцца лепшымі ад людзей — пераконаньне, якое мы ўжо выразілі перад гэтым, якое не зьяўляецца ані пабожным, ані праўдзівым, бо мы ўжо давялі раней, што зло ня можа выводзіцца ад багоў.

— Напэўна, не.

І далей, яны напэўна мецімуць дрэнны ўплыў на тых, што слу́хацімуць іх; бо кажны пачне апраўдваць сваё ўласнае зло, у перакананьні, што падобную слабасьць праяўлялі і праяўляюць

тыя, што выводзяцца з багоў,
Нашчадкі Зэуса; сярод Ідайскіх гор
Ахвярнік там, іх бацьку, на ўзьверсе.

---

[1]) Ахільлес.

і —

І кроў багоў яшчэ цячэ у жылах іх.

З гэтае прычыны, давайце паложым канец падобным мітам, каб яны ня выкліквалі сярод нашага юнацтва нахілу да заганаў. [392]

— Шчырая праўда, — сказаў ён.

— Цяперака, калі мы ўжо займаемся, пра якога роду прадметы і як трэба або ня трэба гаварыць, паглядзімо, ці не прамінулі мы чаго-небудзь. Як мае быць гаворана пра багоў, гэта ўжо ўсузгоднена, гэтаксама і адносна іншых вышэйшых існасьцяў, як і пра герояў і пра Гадэс.

— Але.

— А што маем сказаць пра людзей? Гэта і ёсьць яшчэ рэштаю нашае тэмы.

— Ведама.

— Але і тое нам ведама, дружа мой, што мы не зьяўляемся ў стане адказаць на гэтае пытаньне, што найменей у дадзеную хвіліну.

— Чаму?

— Бо, калі я не памыляюся, мы змушаны будзем сказаць, што паэты і тыя, што пераказваюць апавяданьні, зьяўляюцца абцяжаныя віною з прычыны ствараньня паважна памылковых цьверджаньняў, калі яны кажуць нам, што слабыя людзі часта шчасьлівымі зьяўляюцца, а добрыя — нешчасьлівымі; і, што несправядлівасьць аплочваецца, калі нявыкрытаю астаецца, але што справядлівасьць зьяўляецца ўласнаю стратаю чалавека і карысьцю іншага [1]) — усё гэта маем забараніць ім выказваць словамі, і загадаем ім пяяць і апавяшчаць супроцьлежнае. Або думаеш ты інакш?

— Не, — сказаў ён, — у гэтым і я пераканаfamы.

— Калі ты згаджаешся з тым, што я маю рацыю ў гэтым, дык я буду ўважаць, што ты згодным астаешся з прынцыпамі, увыпукленымі ў нашых папярэдніх разважаньнях?

— Тваё меркаваньне, — сказаў ён, — трапным ёсьць.

— Што гэтакія рэчы маюць быць выказванымі ці не адносна людзей, астаецца пытаньнем, якое ня можа быць вырашаным, пакуль мы ня выясьнім, чым справядлівасьць зьяўляецца і якая карысьць для таго, хто прытрымлі-

[1]) Гл. І, 343-344.

ваецца яе, і ўсяроўна, лічаць людзі яго справядлівым ці не.

— Гэта найболей праўдзіва, — сказаў ён.

— Хопіць з паэтыцкім саматворствам: давайце зьвернемся цяперака да самога стылю выражэньняў; і калі гэта будзе разгледжаным, тады дзьве рэчы — прадмет і манера возьмуцца намі пад увагу.

— Я не разумею, штó ты маеш на ўвазе? — сказаў Адэімантос.

— Аднак-жа ты павінен разумець, — сказаў я. — І магчыма я буду болей зразумелым, калі я гэтак прадстаўлю справу: Ты напэўна здадумваешся, я мяркую, што ўся міталёгія і паэзія зьяўляюцца апавяданьнем пра здарэньні мінуўшчыны, сучаснасьці, або будучыні?

— Напэўна, — адказаў ён.

— І пераказ можа быць простым пераказам або насьледаваньнем, або адным і другім разам.

— Гэтага, зноў, — сказаў ён, — я не разумею дакладна.

— Я баюся, што я зьяўляюся сьмешным вучыцелем, калі я напатыкаю гэтакія труднасьці ў зразуменьні мяне самога. І як дрэнны выкладчык, я не вазьму ўсяго прадмету нараз, але разаб'ю яго на кускі, каб зьілюстраваць тое, штó я мáю на ўвазе. Ты ведаеш першыя радкі "Іліяды", у якіх паэта кажа, што Хрысэс прасіў Аґамэмнона, каб звольніў ягоную дачку, і як апошні разгневаўся і як Хрысэс, не асягнуўшы нічога, прасіў бога адпомсьціць ахайцам? [393]

— Так, я ведаю.

— А цяперака што да гэтых радкоў,

ён вельмі прасіў усіх чыста ахайцаў,
Двух асабліва — сыноў Атрэуса, у народзе вядучых,

у якіх паэта сам ад сябе гаворыць; ён зусім ня праяўляе натугаў, каб накіраваць нашую думку ў іншы напрамак. А далей ён бярэ асобу Хрысэса, і тады чыніць усё, што можа і ў меру магчымасьці імкнецца змусіць нас уявіць сабе, што гэта ня Гомэр гаворыць, а сівы ў веку сьвятар. І гэтак ў падвойнай хворме ён вядзе ўсё апавяданьне пра здарэньні, якія займелі месца ў Іліёне, у Ітацы, і скрозь у "Одыссэі".

— Так, — сказаў ён.

— І апавяданьне астаецца падвойным: калі ён пера-

казвае апавяданьні трэйціх людзей ці між імі гаворыць сам ад сябе, для яго гэта ўсяроўна будзе апавяданьне?

— І чаму не?!

— Але калі паэта гаворыць ад імя іншае асобы, ці ня кажам мы тады, што ён упадабняецца сваім стылем да асобы, адносна якое ён ужо папярэдзіў нас, што гаварыцьме?

— Але́, мы кажам гэтак.

— І гэтае ягонае ўпадабненьне да іншага, хай сабе дарогаю ўжыцьця голасу або ґэстыкуляцыі, ці не зьяўляецца гэта насьледаўніцтвам асобы, характар якое ён прыймае на сябе?

— І што з гэтага?

— Бо ў падобным выпадку, як выглядае, апавяданьне паэты, можна сказаць, адбываецца на дарозе насьледаўніцтва.

— Ведама.

— Або, калі-б паэта ўсюды і ніколі ня ўкрываў самога сябе, тады, зноў насьледаўніцтва зьнікла-б, і ягоная паэзыя сталася-б простым пераказам. Аднак-жа, каб учыніць значэньне гаворанага мною ясным і, каб ты болей не казаў "я не разумею", я пакажу на прыкладзе, як зьмена можа быць урэчаісьнена. Калі Гомэр сказаў, што "сьвятар прыйшоў, маючы ў сваіх руках выкуп за дачку, просячы ахайцаў і перад усім каралёў", і тады, каб замест гаварыць у васобе Хрысэса, гаварыў у сваей уласнай, тады ягоныя словы ня былі-б перайманьнем, але звычайным апавяданьнем. Апавяданьне бегла-б гэтак (я не зьяўляюся паэтам, затым праміну памер верша): "Прыйшоў сьвятар і пачаў маліцца, каб багі даравалі ахайцам здабыць Трою, астацца самым жывымі, і прасіў, каб засароміўшыся бога, за выкуп вярнулі яму дачку. Калі ён гэта сказаў, усе іншыя ахайцы аказалі яму пашану і далі сваю згоду. Але Аґамэмнон упаў у гнеў і загадаў яму зараз-жа адыйсьці і ніколі болей ня прыходзіць, а як не, дык не абароніць сьвятара ані па́ліца, ані божы вянец. А пра ягоную дачку сказаў, перш чымся пусьціць яе, яна састарэецца разам зь ім у Арґосе. Пасьля гэтага сказаў ён сьвятару, каб гэты зараз-жа адыйшоў і ня злосьціў яго, калі ён хоча цэлым вярнуцца дамоў. [394] Пачуўшы гэта, стары спалохаўся, змоўк і аддаліўся; а выйшаўшы зь лягеру, ён скіраваў малітву

да Апальлёна, клічучы да яго ўсенькімі ягонымі імёнамі і ў духу дамаганьня прыгадаў яму пра свае, калісьці ўчыненыя дзеля ягонае спадобы, да́ры — гэтаксама, як і на пабудову сьвятынь, і злажэньня ахвяраў. У зварот за гэта ён прасіў, каб Апольлён за гэтыя сьлёзы адпомсьціў ахайцам сваімі стрэламі"... Вось якім, дружа мой, бывае ў сваей цэласьці простае апавяданьне.

— Я разумею, — сказаў ён.

— Дык зразумей і тое яшчэ, — сказаў я, — што́ можа быць супроцьлежнае гэтаму — калі абмінаюцца прамежныя пассусы, тыя, дзе паэта гаворыць ад сябе, тады астаецца дыялёг.

— Гэтаксама і гэта я разумею, — сказаў ён, — гэтак, як у трагэдыях.

— Ты вельмі добра агарнуў маю думку; і калі я не памыляюся, тое, чаго ты ня мог сьцяміць раней, цяпераака стаецца ясным для цябе, пайменна, што паэзыя і міталёгія, у пэўных выпадках, у сваей суцэльнасьці, пераймальнымі астаюцца — і прыклады гэтага пастарчаюць нам трагэдыі і камэдыі; гэтаксама існуе і супроцьлежны стыль, у якім паэта зьяўляецца адзіным моўцам — чаго дытырамб зьяўляецца найлепшым прыкладам, а прыклад злучэньня абодвух іх можна знайсьці ў эпічных творах і ў некаторых іншых стылях паэзыі, калі ты мяне зразумеў.

— Так, — сказаў ён, — цяперака я разумею, што́ ты маеш на ўвазе.

— Я хачу прасіць цябе, каб ты прыпомніў сабе гэтаксама, аб чым я пачаў раней гаварыць, кажучы, што мы агарнулі паэзыю і можам перайсьці да стылю яе.

— Так, прыгадваю.

— Кажучы гэта, я ма́ю замер дамовіцца, што мы мусім прыйсьці да сузгоднасьці разуменьня пераймальнага мастацтва — ці паэтам, пераказваючым свае апавяданьні, павінны мы дазволіць пераймаць, і калі так, дык у цэласьці ці часткава, і калі гэтае апошняе, дык у якіх частках; а мо' насьледаваньне наагул не павінна быць дапушчаным?

— Я здагадваюся, — сказаў ён, — што́ ты маеш на ўвазе, ці трагэдыя і камэдыя наагул маюць быць дапушчанымі ў нашае гаспадарства.

— Так, — сказаў я, — але магчыма, што яшчэ болей

з гэтага ёсьць: пакуль што я яшчэ ня ведаю, але куды гутарка нашая панясе нас, туды і ісьці давядзецца.

— Зусім трапна ты кажаш, — сказаў ён.

— Тады, Адэімантос, дазволь мне запытаць цябе, ці нашыя старожы павінны быць пераймальнікамі? Або барждджэй, ці-ж пытаньне гэтае ня было ўжо вырашана на шляху вылажанага прынцыпу, што адзін чалавек можа добра выконваць толькі адну рэч, а ня некалькі іх; і што, калі ён пачне брацца за шматлікія, не асягне мэты ні ў якім зь іх і нічым ня вы́разьніцца?

— Дый ці можа быць інакш?

— І ці ня ёсьць гэта праўдзівым адносна пераймання? Ніякі чалавек ня можа пераймаць некалькі рэчаў гэтак добра, як пры пераймані ім толькі аднае рэчы?

— Запраўды, ня можа. [395]

— Тады адзін і той самы чалавек насілу ці здольным быў-бы заняць паважнае месца ў жыцьці і адначасна быць пераймальнікам і пераймаць некалькі рэчаў. Бо нават у выпадку, калі, здавалася-б, дзьве разнавіднасьці пераймання блізка суродненымі да сябе, дык і тады, адны і тыя самыя людзі ня могуць асягнуць пастаўленае перад сабою мэты — напрыклад, тым, што пішуць камэдыі і трагэдыі. Ці-ж не назваў ты толькі-што адно і другое пераймальнем?

— Так, і праўдзіва ты кажаш, што адна і тая самая асоба ня можа праявіць здольнасьці да аднаго і другога.

— Гэтаксама і рапсоды ня могуць быць адначасна артыстамі?

— Але́.

— Адны і тыя самыя артыстыя не тарнуюцца да трагічных і камічных паэтаў, хоць усе гэтыя рэчы зьяўляюцца пераймальнем. Ці ня так гэта?

— Так, гэта пераймальне.

— Дый сама людзкая натура, Адэімантос, як мне здаецца, складаецца з маленькіх частачак, і зьяўляецца няздольнаю ў шматлікіх выпадках адтварыць або вы́канаць добра ўсё тое, падабенствам чаго служыць пераймальне.

— Гэта зусім правільна, — сказаў ён.

— Затым, калі мы астанемся пры нашым пачатковым разважаньні, і будзем мець на ўвазе нашых старожаў, адхіляючы на бок кажны іншы занятак, і засяродзімся

суцэльна, на прадмеце захаваньня свабоды гаспадарства — чынячы гэтым дакладны абавязак старожаў, і не займаючыся ніякаю іншаю справаю, якая ня мае гэтае мэты, дык яны не павінны займацца нічым іншым. Калі наагул яны і маюць пераймаць, дык яны павінны пераймаць пачынаючы змалку і ў пастулаючых гадох, толькі тыя характары, якія адпавядацімуць іхным абавязкам — адважным, разважным, пабожным, шляхэтным і падобным. А таго, што́ нясвомым ёсьць свабоднаму чалавеку і што́ наагул сорамным ёсьць, яны і насьледаваць не павінны, — ды яны і здольнымі ня будуць пераняць гэта, — каб з прычыны пераймањня падобнага не прабудзілася ў іх схільнасьць, і запраўды, быць гэткімі. Ці ніколі ты не спасьцерагаў, як пераймањні, пачынаючы з раньніх гадоў з працягам у глыбіню жыцьця, з часам заменьваюцца ў нахіл і стаюцца другою натураю, уплываючы на цела, голас і духовы склад інтэлекту?

— О так, — адказаў ён.

— Тады, — сказаў я, — мы не дазволім, каб тыя, пра якіх мы кажам, што мы турбуемся пра іх, і якія павінны стацца добрымі людзьмі, пераймалі жанчыну, хай сабе маладую ці старую, якая сварыцца змужам ці спрэчкі вядзе з багамі, фанабэрыста выяўляе сябе шчасьліваю, або, наадварот, бядуе і вылівае сваю горыч у сумных песьнях, і ўжо напэўна ня хворую, або закаханую ці ў радзільных болях, дый ўсяго-ж не прадбачыш.

— Напэўна, — сказаў ён.

— Не павінны яны гэтаксама насьледаваць нявольнікаў як і нявольніц, выконваючых абавязкі, свомыя нявольнікам.

— Яны не павінны.

— Гэтаксама не пераймаць манераў дрэнных людзей, будуць гэта баязьлівыя ці якія-небудзь іншыя, якія вырозьніваюць адзін аднаго, кажуць брыдкія словы, будучы ў п'яным стане або і цьвярозыя, і чым толькі яшчэ, словам ці чынам абражаюць яны сябе ўзаемна. [396] Яны не павінны імкнуцца пераймаць ані чынаў, ані словаў мужчын ці жанчын, якія праяўляюць сябе бадай што шалёнымі або дрэннымі; бо шалёнасьць, гэтаксама як і заганнасьць, могуць быць ведамымі, але ня могуць быць пераймаными ані практыкаванымі.

— Шчырая праўда, — сказаў ён.

— І далей, — яны не павінны насьледаваць кавалёў або іншых рамесьнікаў, ці весьляроў на трыерах або іхных камандзіраў, ці наагул каго-небудзь зь людзей пры падобным занятку?

— Дый як-жа могуць яны? — сказаў ён, — калі ім не дазволена ўдзеляць свае ўвагі на падобныя заняткі?

— І яшчэ. Яны не павінны насьледаваць іржаньне коней, муканьне быкоў, журчаньне ручаёў, гул мора, і водгульле грому і ўсе іншыя падобныя рэчы.

— Не, — сказаў ён. — Калі шалёнасьць ім забаронена, дык ня могуць яны пераймаць паводзінаў бязглуздых людзей.

— Ты думаеш, — сказаў я, — калі я цябе трапна разумею, што існуе гэтакі род апавядальнага стылю, які можа быць тасаваны запраўды добрым чалавекам, калі ён мае нешта сказаць, і той іншы род, які будзе ўжыты чалавекам супроцьлежнага характару і адукацыі?

— І што-ж гэта за два такія рады? — запытаў ён.

— Прымем, — сказаў я, — што справядлівы і добры чалавек у працэсе свайго пераказу прыйдзе да якога-небудзь перакананьня або дзеяньня іншага добрага чалавека: я ўяўляю сабе, што ён будзе зычліва пераймаць яго і ня будзе засаромленым з прычыны гэтакага роду перайманьня: ён будзе найляпей адтвараць ролю добрага чалавека, калі ён асілены хваробаю або з прычыны безузаемнае любові, або п'янства ці якога-небудзь іншага непаводжаньня. Але, калі ён наблізіцца да чалавека, які нявартым ёсьць яго, дык ён не зацікавіцца бліжэй ім; ён будзе пагарджаць гэтакаю асобаю, і можа ўспрыняць ягоную падобнасьць, калі наагул захоча гэтым заняцца, але не надоўга, калі той выконвае нейкі добры чын. Апавядальнік не практыкаваўся ў перайманьні гэтакіх людзей, і яму будзе сорамна і адначасна пачуе ён абрыдласьць, каб выракчыся самога сябе і ўспрыняць вобліч горшых людзей, чымся ён, якіх ён з прычыны свайго духовага складу не зьяўляецца ў стане паважаць, — хіба што жартуючы.

— Гэтак я і думаў, — адказаў ён.

— Ён будзе ў сваім пераказе карыстацца тымі заўвагамі, пра якія мы толькі што гаварылі на аснове паэтычных радкоў Гомэра, гэта значыць, што апавяданьне

ў яго будзе праводзіцца ў двух стылях — пераймальнага і апавядальнага; але вельмі мала будзе са стылю пераймальнага, і ў большай частцы апавядальны. Ці ня ўсё сказана?

— Зусім добра, — сказаў ён, — гэта і будзе наўзорам, які прамоўца зь неабходнасьцю мусіць прыняць. [397]

— Але існуе яшчэ іншы тып чалавека, які будзе пераказваць бадай кажную рэч, і, чым горшы ён сам зьяўляецца, тым болей бяссумленным ён будзе; для яго нічога ня будзе за дрэнным. І ён будзе гатовым пераймаць кажную рэч, і не як жарт, але зусім паважна і перад вялікім сходам людзей. І, як я толькі што сказаў, ён будзе хацець вытварыць водгульле грому, посьвіст ветру і граду, або скрып калёсаў і восяў, і розныя гукі: флейтаў, трубаў і жалейкаў — і кажных іншых музычных інструмэнтаў. Ён будзе нават брахаць, як сабака, бляяць, як авечка, або кукарэкаць, як певень. Усенькія ягоныя натугі будуць зводзіцца да перайманьня голасу і руху, а калі будзе пераказ — будзе яго мала і будзе ён бяз зьместу.

— Гэта будзе, — сказаў ён, — ягоны няўхільны спосаб выяўленьня.

— Гэта і будуць, — сказаў я, — два роды стылю, якія я меў на ўвазе.

— Гэтак бо рэч маецца ў запраўднасьці, — сказаў ён.

— І ты згодзішся са мною, што адзін зь іх ёсьць простым зь нязначнымі адхіленьнямі, і калі гармонія і рытм тасуюцца дзеля гэтае самае мэты, тады вынік ёсьць такі, што пераказальнік, калі выказваецца ён правільна, астаецца заўсёды ў тым самым стылю, і будзе аставацца ў межах аднолькавае гармоніі (бо адхіленьні зьяўляюцца не вялікімі), і ў гэтакі самы спосаб ён будзе ўжываць бадай што той самы рытм.

— Як відаць, — сказаў ён, — рэч запраўды гэтак маецца.

— Тады як іншы праяў вымагае розныя спосабы гармоніі і розныя адменнасьці рытмаў, калі му́зыка і рытм маюць быць усузгодненымі, бо стыль мае розныя магчымасьці зьменаў.

— Так, гэтакае ўсуадношаньне назіраем, — адказаў ён.

— І ці-ж гэтыя два стылі, або сумесь іх двух, не агортвае ўсю паэзыю і кажную хворму выражэньня ў слове?

Ніякі чалавек нічога ня можа сказаць, ня ўжываючы аднаго зь іх або два разам.

— Ніхто ня можа ўхіліцца ад гэтага, — сказаў ён.

— І якую мы маем паставу заняць? — запытаў я. — Маем мы дапусьціць у нашае гаспадарства ўсе тры стылі, ці мо' толькі два нязьмешаныя? А мо' дапусьціш ты яшчэ і зьмешаны?

— Калі-б я мог правесьці сваю думку, — сказаў ён, — тады дапусьціць трэба было-б нязьмешаны стыль, у якім паэта выражаў-бы перайманьне чалавека годнага і мужнага.

— Аднак-жа, Адэімантос, заахвочваючым гэтаксама астаецца і зьмешаны стыль. Для дзяцей і іхных узгадаваўцаў болей прыемны спазор, супроцьлежны таму, які ты выбраў, як і бальшыні людзей наагул.

— Так, болей прыемны спазор.

— Магчыма ты скажаш, што падобны стыль неадпаведным зьяўляецца для нашага гаспадарства, у якім няма месца для дваістага чалавека або множнага, бо адзін чалавек выконвае толькі нейкую адну частку творчасьці.

— Так, неадпаведным зьяўляецца.

— І гэта ёсьць чаму ў нашым гаспадарсьцьве, і толькі ў нашым, мы знойдзем, што шавец — ёсьць толькі шавец, а не стырнічы гэтаксама; што земляроб — гэта земляроб, а не судзьдзя гэтаксама; і жаўнер — ёсьць жаўнерам, а не купцом гэтаксама, і гэтак скрозь.

— Зусім правільна, — сказаў ён. [398]

— І затым, калі які-небудзь пантомімічны *) чалавек, які з прычыны свае здольнасьці і кемнасьці можа пераняць кажную рэч, зьявіцца ў нашым асяродзьдзі і падасьць прапазыку выявіць самога сябе і сваю паэзыю, мы пахілімся перад ім ў выражэньні нашае яму пашаны, як чалавеку прыемнаму, магчыма сьвятому і цудоўнаму; але мы гэтаксама мусім сказаць яму, што ў нашым гаспадарсьцьве гэтакім людзям, як ён, не дазваляецца жыць; права не дазваляе ім. І пасьля гэтага, намасьціўшы яму галаву духмянасьцямі і ўзлажыўшы яму на галаву вянец ваўняны, мы вышлем яго ў іншае гаспадарства. Бо дзеля здароўя нашых характараў мы цешымся хоць і суворым, але прыемным паэтам ці апавядальнікам, які будзе пе-

---

*) пантомімічны — усё пераймальны

раймаць стыль чалавека добрага і мужнага, і будзе мецъ наўвеце тыя наўзоры, якія выпрацавалі мы на пачатку яшчэ, калі мы дыскутавалі справу ўзгадаваньня нашых ваяроў.

— Мы, — сказаў ён, — і паступілі-б гэтак, калі-б мелі неабходную сілу.

— Тады, дружа мой, — сказаў я, — тую частку музычную літаратурнае адукацыі, якая адносіцца да апавяданьня ці міту, мы можам уважаць як закончаную; бо дзьве рэчы — сам прадмет і спосаб правядзеньня яго ў жыцьцё ужо абгавораны.

— І я гэткае думкі, — сказаў ён.

— Тады, — сказаў я, — на парадку дня ў нас знаходзіцца яшчэ мэлёдыя і песьня?

— Выглядае гэтак.

— Ці ня можам мы ўсе і кажны паасобку знайсьці, што́ маем пра гэта сказаць і якімі яны маюць быць, калі мы будзем у пасьлядоўнасьці з тым, што́ ўжо раней пра гэта сказана?

На гэта Ґляўкон усьміхнуўся.

— Асабіста я, Сакратас, — сказаў ён, — хіба не належу да гэтых усіх, бо недастаткова агортваю ў дадзеную хвіліну, што́ якраз павінны мы мець на ўвазе; хоць я магу здагадвацца.

— У кажным выпадку, — сказаў я, — што песьня ці ода складаецца з трох частак — словы, мэлёдыя і рытм. Гэтак шмат хіба ты ўжо ведаеш?

— Так, — сказаў ён, — гэтак многа я магу сьцьвердзіць.

— Адносна словаў, дык напэўна няма розьніцы паміж словамі, якія зьяўляюцца прытарнованымі або непрытарнованымі да музыкі; абодва віды іх падпарадкаваны тым самым правам, якія былі ўжо намі пастаноўлены.

— Правільна, — сказаў ён.

— Зноў-жа, мэлёдыя і рытм будуць залежнымі ад словаў?

— Напэўна.

— І мы сказалі, калі мы гаварылі на агульную тэму, што мы ня маем патрэбы лямэнтаваць і жаласна заводзіць?

— Так, мы ня маем патрэбы.

— І якія-ж гармоніі выражаюць жаласнасьць і сум?

Ты-ж сьведамы ў му́зыцы, дык і сказаць мне можаш.

— Гармоніі, якія ты маеш на ўвазе, зьяўляюцца: зьмешаны або тэнар лідыйскі, і поўнатонны або бас лідыйскі, і іншыя падобныя.

— Значыць, — сказаў я, — яны павінны быць вылучаны; яны нават не надаюцца для жанчын, якія маюць падтрымліваць свой характар, а для мужчын, дык і гаварыць нямашака пра што.

— Ведама.

— І далей, п'янства, расьпешчанасьць і нічоганяробленасьць зьяўляюцца зусім неадпаведнымі для характару нашых старожаў.

— Зусім неадпаведнымі.

— І якія-ж гармоніі спрычыняюцца да расьпешчанасьці або піцьця?

— Іёнская, — адказаў ён, — і лідыйская; іх называюць абясьсільваючымі. [399]

— Ці маюць яны, дружа мой, якую-небудзь карысьць для ваенных людзей?

— Зусім наадварот, — адказаў ён, — але ў цябе яшчэ астануцца дорыйская іфрыгійская гармоніі.

— Пра гармоніі, — сказаў я, — я нічога ня ведаю; але пакінь мне тую, якая ў найболей адпаведны спосаб пераймала-б гук і мэлёдыю чалавека харобрага, таго, каторы знаходзіцца ў самым гушчары ваеннага змаганьня і змушаным астаецца перамагаць markdown рознавідныя перашкоды, тады, калі ён церпіць непаводжаньні, ранены або крочыць на пэўную сьмерць, або засьпела яго якоенебудзь іншае гора — ён стойка, як у шчыльных радох, зносіць свой удзел. І іншая яшчэ гармонія павінна быць ужыванаю ім у часох міру і пазытыўнае працы, тады, калі ня цяжыць над ім ніякая неабходнасьць гвалту, калі ён пераконвае ў чым-небудзь сваімі малітвамі Бога або чалавека на дарозе навучаньня і папярэджаньня; або, з другога боку, калі ён выражае сваю дабраахвочасьць усузгодніць са сваею волею уважна чутыя просьбы іншых людзей, навучаньні і довады, і, паступаючы разумна ў дадзеных абставінах, чыніць поступ у напатканым здарэньні. — Вось гэтыя дзьве гармоніі — гармонію неабходнасьці і дабраахвотнасьці — я прашу цябе пакінуць мне; гэтак і гармонію непаводжаньня і паводжаньня, адвагі і паўстрыманасьці — гэтыя, прашу, пакінь мне.

— Але гэтыя, — адказаў ён, — і зьяўляюцца дарыйскаю і фрыгісейскаю гармоніямі, пра якія я толькі што гаварыў.

— Тады, — сказаў я, — калі гэтыя толькі і зьяўляюцца тымі, якія маюць быць ужываныя намі ў нашых песьнях і мэлёдыях, дык мы не патрабуем ані шматгу́кавасьці ані пангарманічнасьці? [1])

— Не, — сказаў ён, — як мне выдаецца, мы не патрабуем.

— Тады мы ня будзем падрыхтоўваць майстроў, якія выраблюць трыґоны, пэктыды [2]) і розныя іншыя музычныя інструмэнты з шматлікімі струнамі і дзіўна згарманізаваныя.

— Напэна, не.

— А што ты скажаш адносна майстроў флейты і тых, што іграюць на флейце? Ці дапусьціш ты іх у нашае гаспадарства, калі возьмеш пад увагу, што ў гэтым павязаньні ўжываньня гармоніі, флейта зьяўляецца найгоршаю з усіх струнных інструмэнтаў узятых разам, пры чым нават пангарманічная му́зыка зьяўляецца толькі пераймаьнем флейты?

— Гэта зусім ясна, — адказаў ён.

— Астаюцца, тады, толькі ліра і кітара, якімі карыстаюцца ў месьце, а на абшары вясковым, пастухі могуць мець якія-небудзь жалейкі.

— Да гэткага выснаву вядзе нашае разважаньне, — сказаў ён.

— Нічога асаблівага, — сказаў я, — мы ня творым, калі Апольлёна і ягоныя інструмэнты ставім вышэй за Марсыяса зь ягонымі інструмэнтамі.

— Зусім не, — адказаў ён.

— І на пса паклікваюся, — сказаў я, — мы і не спасьцераглі, якім чыстым учынілі мы нашае гаспадарства, якое данядаўна ўважалі за выдаліка́тненае.

— І ўчынілі мы гэта мудра, — адказаў ён.

---

[1]) — пангарманічнасьць — агорненьне ўсяе разнавіднасьці гармоніяў.

[2]) — трыгон, музычны інструмэнт у хворме трыкутніка.

— пэктыда; старажытны від гарфы з дваццацьцю струнамі, пераважна ўжываны сярод лідыйцаў.

— Давай, тады, ачысьцім усё іншае, — сказаў я. — Пасьля гармоніяў узьнікае ў нас пытаньне адносна рытмаў, пайменна, што ня трэба гнацца за разнавіднасьцю іх і рознымі памерамі іх, але наадварот, трэба выявіць, якія рытмы найболей адказваюць харобраму і гарманійнаму жыцьцю. [400] А знайшоўшы гэта, мы павінны ўчыніць гэтак, каб рытм і мэлёдыя сьледавалі за адпаведнымі словамі, а ня словы — за рытмам і мэлёдыяю. І сказаць, што́ гэта за рытмы маюць быць, будзе тваім абавязкам — ты маеш навучыць мяне пра іх, як навучыў ты ўжо мяне адносна гармоніяў.

— Але, запраўды, — сказаў ён, — я не магу ўчыніць гэтага. Усё, што я ведаю — гэта, што існуюць пэўныя тры прынцыпы рытму, з каторых творыцца мэтрычная сыстэма верша, падобна, як у гуках існуюць чатыры ноты, з каторых творацца ўсе гармоніі; і гэта здабыў я на шляху назіраньня. Але якое жыцьцё і якія зь іх пераймаюць — гэтага я не магу сказаць.

— Тады, — сказаў я, — мы мусім прасіць у лік нашых райцаў Дамона, і ён параіць нам, якія рытмы выражаюць подласьць або нагласьць, або разьюшанасьць, або іншую нягоднасьць, і якія рытмы трэба пакінуць дзеля выражэньня супроцьлежных пачуцьцяў. Я цьмяна прыгадваю сабе ягоны ўспамін пра камплекс эноплíскага рытму, адначасна пра дактылічны ці гэраічны, і ён упарадкаваў іх у спосаб, які я ня зусім разумеў, чынячы рытмы роўнымі ў іхным павышэньні і паніжэньні ў радку, і ўдакладніваючы кароткасьцямі і доўгасьцямі; і, калі я не памыляюся, успамінаў ён і пра ямб гэтаксама, як і пра трохайскі рытм, надаючы ім кароткія і доўгія колькасьці гуку. У некаторых выпадках, як здавалася, ягоныя пахвалы, як і ганьбаваньні адносіліся гэтак да рухаў, як і рытмаў, або аднаго і другога разам; дый, наагул, я ня быў пэўны, што́, фактычна, ён меў на ўвазе. Усе гэтыя меры, як я і казаў, ляпей прадлажыць самому Дамону, бо аналіза гэтага прадмету можа быць труднаю. Што ты думаеш?

— Барджджэй я сказаў-бы, што і я гэтак думаю.

— Але зусім ня трудна спасьцерагчы, што ґрацыя або адсутнасьць ґрацыі зьяўляецца пасьлядоўнасьцю добрага або дрэннага рытму.

— Зусім ня трудна.

— І гэтаксама, што добры і дрэнны рытм прытарноўваецца да добрага і дрэннага стылю; і што гармонія, як і адсутнасьць яе падобным спосабам сьледуюць за стылем; бо нашае залажэньне ёсьць: рытм і гармонія рэгулююцца словамі, а ня словы імі.

— Якраз гэтак, — сказаў ён, — яны павінны сьледаваць за словамі.

— А ці-ж спосаб выражэньня і сама мова не ўзалежніваюцца ад духовага складу душы?

— Ведама.

— І ўсё іншае адносна мовы?

— Але́.

— Затым, прыгожасьць стылю, гармонія і ґрацыя, і добры рытм залежаць ад дабрыні настрою — я маю на ўвазе простую дабрыню правільнасьці, і шляхэтна ўпарадкаваныя інтэлект і характар, але ня тое прастацтва, якое гэтак часта ўжываецца намі дзеля дурасьці.

— Вельмі правільна, — адказаў ён.

— І, калі нашыя юнакі маюць выконваць сваю працу ў жыцьці, ці-ж не павінны яны ўчыніць гэтыя ґрацыі і гармоніі вечнымі сваімі мэтамі?

— Павінны. [401]

— Тады мастацтва артысты-маляра і кажнае іншае творчае і канструктыўнае мастацтва напоўнена гэтым — ткацтва, вышы́ўка, архітэктура, і кажны род вытворчасьці; і да гэтага, нават натура, зьверы і расьліны — ўва ўсім гэтым можа быць ґрацыя або адсутнасьць ґрацыі. Пачварнасьць і разладзьдзе, і няўсусгодненыя рухі знаходзяцца ў блізкім сваяцтве з дрэннымі словамі і дрэнным характарам, гэтак, як ґрацыя і гармонія зьяўляюцца блізьняткамі дабрыні і мужнасьці, і выражаюць іхнае падабенства.

— Гэта зусім правільна, — адказаў ён.

— Але ці маем мы толькі дагляд мець над паэтамі і заабавязваць іх да ўцелесьняньня ў сваіх творах адно таго, што́ ёсьць добрым, а калі не, дык адмовіцца ад творчае працы ў нас? А мо' гэты самы дагляд мае быць распасьцерты і на іншых стваральнікаў і ім павінна быць забаронена ўвыпукляць у вобразах жывых існаваньняў пры ўздыме будынкаў і ў кажных іншых сваіх стварэньнях нешта амаральнае, як неапанаванасьць, подласьць і няпрыстойнасьць? І той, хто не зьяўляецца ў стане пад-

парадкавацца гэтым нашым вымаганьням, гэтакі не павінен быць дапушчаны да выконваньня свае дзейнасьці ў нашым гаспадарсьцьве, каб ён не псаваў смаку нашых грамадзянаў. Мы не дазволім, каб нашыя старожы ўзгадоўваліся ў васяродзьдзі твораў маральнага зьвіхненьня, быццам на дрэннай пашы, дзе шмат гэткага набяруцца і напасьвяцца, дзень па дні, маленечкімі, але шматлікімі лісткамі і кветкамі свайго зьнішчэньня; і з гэтага, неспасьцярожнага для іх ліхазельля, узьнікне ў іхнай душы нейкае суцэльнае і вялікае зло. Не, няхай барджджэй нашыя майстры будуць гэтакімі, якія, дзякуючы сваей здольнасьці, знойдуцца на адпаведным духовым узвышшы, каб распазнаць праўдзівую натуру прыгожасьці і ветлівасьці, і паўніні ґрацыі. Тады наша моладзь будзе жыць у краіне здароўя, у васяродзьдзі прыгожых спазораў і гукаў і займее дабро ў кажнай рэчы; і прыгожасьць, і заможнасьць чэснае працы будуць плысьці вобразнасьцю для вока і прыгожым гукам для вуха, падобна здароўе-нясучаму павеву з чыстых абшараў і неспасьцярожна зь дзіцячых гадоў хіліць душу ў напрамку сязгоднасьці і прыхільнасьці да прыгожасьці розуму.

— Нямашака болей шляхэтнага ўзгадаваньня, як гэтае, — адказаў ён.

— Затым, Ґляўкон, — сказаў я, — музычнае ўзгадаваньне зьяўляецца болей галаўнейшаю прыладаю, чымся якое-небудзь іншае, і гэта з тае прычыны, што рытм і гармонія знаходзяць свой доступ у глыбінныя месцы душы, у якіх яны замацоўваюцца, прышчапляючы ветлівасьць, чынячы ласкаваю душу таго чалавека, каторы належна адукаваны, або як нявеглівасьць у таго, хто дрэнна адукаваны; яшчэ і затым, што той, хто атрымаў належнае ўзгадаваньне ўнутранага быцьця, вельмі востра распазнаціме розныя занядбаньні і недахопы ў мастацтве і натуры, і з праўдзівым смакам, выхваляючы і радуючыся з прычыны дапушчэньня ў сваю душу дабра і, стаючыся шляхэтным і добрым, ён будзе апраўданым у ганьбаваньні і ненавіджаньні зла, [402] цяперака, у днях ягонага юнацтва, і нават перад тым, як станецца здольным пазнаць прычыну гэтага; зноў-жа, калі надыйдзе разумная здольнасьць, ён пазнаціме і аддаціме пашану свайму прыяцелю, зь якім ягонае адукацыя учыніла яго сьведамым гэтых рэчаў.

— Так, — сказаў ён, — я зусім згаджаюся з табою, што нашыя юнакі павінны ўзгадоўвацца ў музыцы на тым абаснаваньні, якое ты вылажыў.

— Падобна як са штукаю чытаньня, — працягваў я далей, — мы ставáліся здаволенымі, калі пазнавалі літары абэцэды, якія адносна не зьяўляюцца шматлікімі, і пачародна выступаюць перад намі ў сваім памеры і камбінацыі; і ўсяроўна займаюць яны большае месца ці меншае, мы не пагарджаем імі, быццам ня варта і спасьцерагаць іх, але ўсюды імкнемся распазнаць іх; і мы не ўважаем самых сябе за дасканалых у штуцы чытаньня, да тае пары́, аж пакуль мы не пазнáем іх дзеколечы спасьцеражэм іх.

— Гэта праўда.

— Або, гэтаксама калі мы распазнáем адбіцьцё літар у вадзе, напрыклад, ці ў люстэрку — станецца гэта толькі затым, што мы ведаем самыя літары; і асягваецца гэта пры помачы тае самае штукі і дасьведчаньня?

— У кажным выпадку правільна.

— Але якраз гэта, запраўды і ўтрымліваю я, што мы не пазнацімем, ані нашыя старожы, якіх мы маем адукаваць, ніколі не пазнацімуць музычнага мастацтва, пакуль мы не агорнем веды існасьцявых хвормаў, якія ўсюды спатыкаюцца — разважнасьці, мужнасьці, шляхэтнага способу думаньня, велічнасьці характару і ўсяго таго, што́ ідзе ў пáры зь імі, гэтаксама і іхных супроцьлежнасьцяў; і пакуль мы не спасьцеражэм усяго гэтага там, дзе яно існуе — само ў сабе або ў хворме ўяўленьня; ані ў малым, ані ў вялікім ня будзем гэтым пагарджаць, але будзем уважаць, што ў гэтай сфэры вымагаецца тое самае — штука і дасьведчаньне.

— Неабходным гэта ёсьць, — сказаў ён.

— І калі прыгожая гармонія душы, — сказаў я, — і прыгожая хворма — і гэтыя абедзьве вывьюцца ў вадно, будзе гэта найпрыгажэйшым спазорам для таго, хто мае вочы бачыць гэта?

— Напэўна.

— І, што ёсьць найпрыгажэйшым у вышэшай ступені — зьяўляецца любым і прывабным?

— Можна і гэта прыняць.

— І чалавек, каторы мáе зразуменьне гармоніі, будзе ў найбольшай любові зь любым і прывабным; але ня

будзе ён у падобных суадносінах з тым, у каго адсутнічае гарманійнасьць душы.

— Гэта праўда, — адказаў ён, — калі душа меціме гэтакі недахоп. Але, калі гэта будзе толькі фізычны недахоп у іншым чалавеку, тады ён знойдзе ў сабе даволі зразуменьня гэтага і будзе любіць ня меней.

— Я разумею, — адказаў я, — што ты маеш або меў дасьведчаньне ў гэтым дачыненьні, і я згаджаюся з табою. Але няхай мне дазволена будзе паставіць табе іншае пытаньне: Ці надмернасьць прыемнасьці мае якую-небудзь блізкасьць з паўстрыманасьцю?

— Як гэта магчыма? — адказаў ён. — Прыемнасьць гэтаксама стаецца перашкодаю тасаваньня ўмысловых здольнасьцяў, як і боль.

— Або якую-небудзь блізкасьць да мужнасьці наагул?

— Ані ў я́кім выпадку. [403]

— І анія́кае блізкасьці да нагласьці і разнузданасьці?

— Так, найбольшую.

— А ці існуе якая-небудзь большая або гвалтаўнейшая прыемнасьць, чымся змысловая любоў?

— Не, дый няма болей шалёнае.

— Затым праўдзівая любоў зьяўляецца любоўю прыгожасьці і парадку — яна паўстрыманая і гарманічная?

— У кажным выпадку, — адказаў ён.

— Затым разнузданасьць і шалёнасьць не павінны меці доступу да праўдзівае любові?

— Ведама, што не.

— Тады дурная або непаўстрыманая прыемнасьць ніколі не павінны наблізіцца да таго, хто лю́біць, гэтаксама як і да таго, каго лю́біць; ніхто зь іх ня можа меці удзелу ў дурной прыемнасьці, калі іхная любоў мае быць правільнаю ў жыцьці?

— Запраўды, Сакратас, — сказаў ён, — чалавек не павінен яе дапусьціць.

— Тады, як я мяркую, у нашым гаспадарсьцьве, на дарозе пабудовы якога мы знаходзімся, ты даглé́дзіш, каб уведзеным было права і перасьцераганае ў тым сэнсе, што сябра не павінен ўводзіць ніякіх іншых сяброўскіх суадносінаў да таго, каго ён любіць, але барджджэй гэтакія, як ба́цькі да сына, дый толькі з шляхэтнаю мэтаю, пры згодзе супроцьлежнае стараны; і гэтая пастанова абмяжоўвае яго ўва ўсіх ягоных сэксуальных су-

адносінах, і ён ніколі не павінен быць спасьцярэжаным, што ідзе далей за гэта. Бо ў іншым выпадку, ён сьцягне на сябе папрок у грубасьці і ў дрэнным смаку.

— Я зусім згодны з гэтым, — адказаў ён.

— Гэтулькі пра музыку, якая знайшла ў нас свой прыгожы канец; бо і які можа быць канец музыкі, калі ня любоў прыгожасьці?

— Я згаджаюся, — сказаў ён.

— Пасьля музыкі прыходзіць ґімнастыка, у якой нашае юнацтва павінна ўзгадоўвацца.

— Напэўна.

— Ґімнастыка, падобна як музыка, павінна пачынацца з раньніх гадоў і старанна практыкавацца на працягу ўсенькага жыцьця. Цяперака, маім перакананьнем ёсьць — і гэта справа, адносна якое я хацеў-бы пачуць твой пагляд і пацьверджаньне майго ўласнага, але маім паглядам ёсьць — не што добрае цела ў кажным добрым стане палепшвае душу, але, наадварот, што добрая душа, сваею ўласнаю мужнасьцю, палепшвае цела, як далёка гэта магчымым можа быць. І што ты скажаш на гэта?

— І мне гэтак выдаецца, — сказаў ён.

— Калі мы дастаткова падрыхтуем духовую вартасьць нашых старожаў, знойдземся тады ў моцы перайсьці да апрычонага стараньня над целам; і каб ухіліцца ад шматмоўнасьці, абмяжуемся цяперака толькі да агульнага вырысаваньня прадмету; думаеш ты, што, чынячы гэтак, паступім мы трапна?

— Вельмі добра.

— Што ад ап'яненьня яны павінны паўстрымлівацца, мы ўжо гаварылі. З-пасярод усіх людзей, старожа павінен быць апошнім напіцца гэтак, каб ня ведаў дзе ён знаходзіцца.

— Так, — адказаў ён, — запраўды, гэта болей, чымся сьмешна, калі старожа патрабуе старожу, каб заапекаваўся ім.

— І далей, а што мы скажам адносна харчаваньня? Яны-ж бо людзі і ўдзельнікі найбольшых спаборніцтваў. Ці ня так гэта?

— Так. [404]

— Ці ня будзе для іх болей адпаведным спосаб жыцьця атлетаў?

— Вельмі магчыма.

— Я баюся, — сказаў я, — што гэта вядзе да санлівасьці з пагрозаю для здароўя. Ці не заўважыў ты, што гэтыя атлеты праводзяць усё жыцьцё ў сьпячцы і, калі зьменьваецца прадугледжаны для іх парадак, яны зараз-жа стаюцца аб'ектам паважных хваробаў?

— Так, я гэта спасьцерагаю.

— Тады, — сказаў я, — нашыя ваенныя атлеты павінны быць паддадзены лепшым фізычным падрыхтаваньням, каб яны сталіся чуйнымі, як сабакі, адзначацца асабліва вострым узрокам і слухам. У васяродзьдзі частых зьменнасьцяў вады, як і харчаваньня, спатканьня летняе сьпякоты і зімовых халадоў — што выпадзе ім спаткаць у паходах — яны не павінны пахіснуцца і заламацца з прчыны здароўя.

— Гэта якраз пакрываецца з маім паглядам.

— Фактычна, дасканалае ґімнастычнае ўзгадаваньне знаходзіцца ў сваяцтве з тым музычным, якое толькі што мы разглядалі.

— Як ты разумееш гэта?

— Я ўяўляю сабе, што існуе ґімнастыка, якая, як нашая му́зыка, зьяўляецца простаю і добраю; і асабліва ваенная ґімнастыка.

— Што ты маеш на ўвазе?

— Тое, што́ я маю на ўвазе, можна пазнаць у Гомэра. Ён, як табе ведама, у часе паходу ня корміць сваіх герояў на банкетах ані рыбаю, хоць і знаходзяцца яны на ўзьбярэжжах Гэльлеспонту, ані вараным мясам, а толькі смажаным, што́ для ваяроў найболей выгадным зьяўляецца, бо-ж вымагае толькі агню і няма патрэбы вазіць з сабою пасуды.

— Гэта праўда.

— Дый, пра прыправы і пра салодкасьці, калі я толькі не памыляюся, Гомэр нічога ня прыгадвае. І ў сваіх загадах ён не зьяўляецца адзіным; усе прафэсыянальныя атлеты ведаюць, што, калі чалавек мае ўтрымаць сваё цела ў добрым стане, павінен устрымлівацца ад усякіх ласункаў.

— Так, — сказаў ён, — і ведаючы гэта, яны правільна паступаюць, не спажываючы іх.

— Тады ты, дружа, не пахваліш мабыць сыракузскага харчаваньня і сыцылійскае разнавіднасьці страваў, калі,

як ты кажаш, што гэта правільна?

— Я думаю, што не.

— Ты гэтаксама не пахваліш чалавека, каторы мае мець моцнае цела, і будзе падтрымліваць сяброўства з карынтскаю дзяўчынаю?

— Напэўна не.

— Ані пахваліш ты аттыцкага пе́чыва, дале́ка ведамага са свайго смаку?

— Ведама.

— Падобнае харчаваньне і спосаб вядзеньня жыцьця апраўдана маглі-б мы параўнаць з мэлёдыяю і песьняю, створанымі ў пангарманічным стылю і ўва ўсіх рытмах.

— Напэўна.

— Там яскравасьць выкліквае разнузданасьць, а тут — хваробу; а просты падход у музыцы быў крыніцаю паўстрыманасьці душы, а прастата́ ў ґімнастыцы — здароўе цела.

— Зусім правільна, — сказаў ён. [405]

— Але, калі ў гаспадарсьцьве распашыраецца распуста і хваробы, ці-ж не ствараецца неабходнасьць адчыняньня судовых будынкаў і шпіталяў? І ці-ж ня будуць куражыцца мастацтва лекара і праўніка, бачучы, як моцна цікавяцца імі ня толькі нявольнікі, але і свабодныя людзі?

— Дый як можа быць інакш?

— Які-ж яшчэ можа быць прыведзены большы довад дрэннага і сорамнага ўзгадаваньня грамадзян, калі патрэбу ў добрых лекарах і кемных судзьдзях адчуваюць ня толькі горшыя людзі і рамесьнікі, але нават і тыя, што прэтэндуюць на тое, што яны ўзгадованы ў найболей шляхэтных паглядах? Ці-ж ня ёсьць гэта сорамам і не зьяўляецца жахліваю азнакаю няўзгадованасьці, калі чалавек мусіць ісьці ў замежжа, з мэтаю пазнаньня права і лекаваньня, бо нічога з гэтага ня мае ён дома, і з гэтае прычыны мусіць падпарадкаваць самога сябе іншым людзям, быццам яны зьяўляюцца нейкімі валадарамі для яго і судзьдзямі над ім?

— Усё гэта найбольшаю ганьбаю ёсьць, — сказаў ён.

— Ці не выдаецца табе, — сказаў я, — яшчэ болей ганебнаю тая атмасфэра, у якой чалавек ня толькі праводзіць большую частку свайго жыцьця ў судох, як пазваны або як абвінавацель, але яшчэ і пахваляецца гэтым

у перакананьні, што ён здольны тварыць несправядлівасьць, ведае ўсякія выкрутасы і пралазы, каб ухіліцца ад пакараньня, і ўсё гэта з прычыны дробных, нявартых успаміну справаў? Сукрытым для яго тое, наколькі прыгажэй і ляпей пабудаваць сваё жыцьцё гэтак, каб зусім ня мець патрэбы ў знуджаным справамі судзьдзі. Ці-ж ня выдаецца табе гэта яшчэ болей ганебным?

— Так, — адказаў ён, — гэта яшчэ болей ганебным ёсьць.

— І калі ўзьнікае неабходнасьць у лячэньні, — сказаў я, — не з прычыны параненьня або якіх-небудзь хваробаў эпідэмічных, што час ад часу наведваюць, але проста ад нічоганяробленьня і таго способу вядзеньня жыцьця, пра які мы ўжо ўспаміналі. Вада і выпарэньні ў целе застойваюцца, быццам у балоце, будзячы гэтым вынаходных Асклепіядаў знайсьці новыя назовы хваробам, як: дрэнныя вятры і сьцякоміны; ці-ж ня сорамна гэта?

— І запраўды, — сказаў ён, — гэта новыя і нячуваныя назовы хваробаў.

— Так, — сказаў я, — і я думаю, што ў часох Асклепіёса ніхто ня чуў пра гэтакія хваробы. І выснаў свой я абапіраю на абставінах, калі герой Эўрыпілёс, пасьля таго, як ён быў ранены, выпівае гарачае прамнійскае віно, [406] ладна пасыпанае ячнаю крупою і нацертым сырам, што павінна было, праўдападобна, выклікаць сьлізістае запаленьне, і ўсё-ж сыны Асклепіёса, якія бралі ўдзел у Троянскай вайне, зусім не наракаюць на жанчыну, якая дае яму гэткае піцьцё, ані папракаюць Патроклёса, пад даглядам якога рэч адбываецца.

— Ну, і запраўды, — сказаў ён, — дзіўнае піцьцё для чалавека ў гэткім стане.

— Ня вельмі і дзіўнае, — адказаў я, — калі ты будзеш мець на ўвазе, што ў тым даўнейшым часе, перад пароюГэродікоса, як чуваць, ня ведалі як кіраваць прабег хваробы і нашая мэдычная сыстэма ня была ўведзена ў практыку. Сам Гэродікос, быў вучыцелем ґімнастыкі, і фізычна кволым быў: калі-ж занядужаў, пры тасаваньні камбінацыі ґімнастычнага практыкаваньня і лекаваньня, вынайшоў шлях мукаў перш галоўна для самога сябе, а пасьля для шматлікіх іншых.

— Як гэта? — запытаў ён.

— Праз вынахад адвалаканьня сьмерці; бо ён меў

сьмяротную хваробу, і як старанна ён не назіраў яе, усё-ж, як я думаю, вылячыцца ня мог, затым і правёў ён усё сваё жыцьцё ў стане хілкага здароўя і жыў, нічым іншым не займаючыся, як толькі лечачыся і астаючыся ў заўсёдашнім цярпеньні, адно каб не нарушыць аддаўна ўкладзенага спосабу жыцьця. І гэтак сувора паступаючы, пры дапамозе свае мудрае штукі лячэньня, прабіўся ён аж да глыбокае старасьці.

— Прыгожа, — сказаў ён, — узнагародзіла яго ягоная штука лячэньня!

— Гэтак, як і належыцца, — адказаў я, — узнагарода, якое чалавек апраўдана можа спадзявацца, асабліва, калі ён ня ведаў, што Асклепіёс не з прычыны няведаньня або адсутнасьці дасьведчаньня нічога не пераказаў сваім нашчадкам аб падобным способе лячэньня хілкага здароўя, але затым, што ён ведаў, што ў добра абўладжаным гаспадарсьцьве кажная асоба мае занятак, які мае выканаць, а не павольна займацца ўсё сваё жыцьцё пустым лячэньнем сваіх хваробаў. Вельмі характэрна, што пацьверджаньне гэтага знаходзім сярод людзей фізычнае працы, але, даволі сьмешна, не назіраем гэтага сярод багатых і тых, што дабром аплываюць.

— Як ты разумееш гэта? — запытаў ён.

— Калі цесьля захварэе, — сказаў я, — зьвяртаецца ён да лекара па лек, што выкліквае ваніты або радыкальнае ачышчэньне жывата, каб гэткім спосабам выбавіцца ад хваробы, а калі не, дык просіць зрабіць яму прыпяканьне або разкрой. І калі хто-небудзь прыпісвае яму зацяжное лячэньне, і кажа яму, што ён мусіць абкручваць галаву і выконваць падобнае, дык ён тут-жа скажа, што ён ня мае часу хварэць, і што ён ня бачыць ніякага сэнсу ў жыцьці, калі ўся ўвага ў ім мае кіравацца на хваробу і занядбоўваць працу, да якое ён пакліканы. Разьвітаўшыся з гэткага роду лекарам, ён прыступае да сваіх абавязкаў, і, або ён папраўляецца і жыве і аддаецца творчай працы, або, калі ягонае цела ня выкажа належнага супраціву хваробе, тады ён паміpае і клопаты ягоныя супыняюцца.

— Так, — сказаў ён, — чалавеку з гэтакім станам здароўя якраз выпадае гэтак карыстацца лекаваньнем.

— Ці-ж не затым, — сказаў я, — што ён мае нейкую працу; [407] і калі-б ён ня быў у стане выконваць яе,

дык якую-ж вартасьць для яго мела-б ягонае жыцьцё?

— Ведама, — сказаў ён.

— Але з багатым чалавекам, як казалі мы, рэч маецца зусім інакш; пра яго мы ня кажам, што ён мае нейкую вызначаную працу, якую ён павінен выканаць, калі-б ён меў жыць.

— Агульна ўважаецца ён за чалавека, які нічога ня робіць.

— Ты мусіць ніколі ня чуў, — сказаў я, — адносна выказваньня Фокілідэса, што, як толькі чалавек запэўніць сабе сродкі да жыцьця, тады павінен ён практыкаваць мужнасьць.

— У кажным выпадку, — сказаў ён, — я думаю, што гэта можна пачаць практыкаваць і раней.

— Але ня будзем, — сказаў я, — пра гэта спрачацца зь ім; барджджэй запытаем самых сябе: Ці павінен багаты чалавек практыкаваць мужнасьць, а мо' можа ён жыць і без яе? І калі ён павінен, тады пастаўма сабе далейшае пытаньне: Ці ўся гэтая лекарская працэдура дзеля здароўя якая стаецца псыхалягічнаю перашкодаю для разумо́вых здольнасьцяў людзей у цесьлярстве і іншых мастацтвах, ці не стаецца яна гэтакаю самаю перашкодаю на шляху Фокілідэсавае сэнтымэнтальнасьці?

— За́праўды, — сказаў ён, — што да гэтага ня можа быць ніякага сумліву; гэтакае празьмернае стараньне адносна цела, калі яно выходзіць па-за межы ґімнастыкі, ёсьць найболей няпрыхільным для практыкаваньня мужнасьці ў хатніх справах, як і ваенных, і сярод людзей, займаючых месныя ўрады.

— Так, запраўды, — адказаў я, — гэтакае празьмернае стараньне стаецца перашкодаю дзеля займеньня якіх-небудзь ведаў, для разважаньняў і працы над сабою. Бо-ж заўсёды людзі мяркуюць, што, дзякуючы гэтаму, ста́ла выклікваецца нейкае празьмернае напружаньне думкі і галавакружэньне і ўсё гэта прыпісваюць філязофіі, што быццам зь яе пачатак бярэ мужнасьць і ёю кіруецца, і быццам яна зьяўляецца перашкодаю ўсяго, і што нібыта яна змушае чалавека ўважаць сябе заўсёды хворым, і што апошні без перапынку тузаецца з прычыны стану свайго здароўя.

— Выглядае гэта зусім натуральна, — сказаў ён.

— Вельмі магчыма, што наш палітык Асклепіёс меў у

замеры выявіць сілу свайго мастацтва толькі тым людзям, якія будучы наагул здаровага фізычнага складу і этычнага жыцьця, мелі якую-небудзь асаблівую хваробу і ім даў прыклад, як трэба лячыцца; лекамі і апэрацыямі выганяць хваробы, пакідаючы ім звычайнае штодзеннае жыцьцё, бяручы пры гэтым пад увагу дабро гаспадарства. У выпадку ўнутраных і зацяжных хваробаў, ён нават не прадпрыймаў спробаў палепшыць стану здароўя хворага рознымі павольнымі працэсамі апаражненьня і суґэстыі: ён не хацеў працягваць няпрыдатных існаваньняў, або мець слабых сыноў ад гэтакіх-жа бацькоў — калі чалавек ня быў у стане весьці нармальнае жыцьцё, — ён ня быў зацікаўленым, каб лячыць яго; бо лячэньне ў падобным выпадку ня мела-б ніякае карысьці гэтак для яго самога, як і для гаспадарства.

— Тады, што? — сказаў ён, — ты ўтрымліваеш, што Асклепіёс быў дзяржаўным мужам?

— Ясна, — адказаў я. — Дый ягоныя сыны выразна гавораць, што ён быў гэтакім. [408] Вазьмі пад увагу, што яны былі героямі ў тых старых днях і практыкавалі мэдыцыну, пра якую ідзе гутарка, з часу аблогі Троі. Я думаю, што ты памятаеш, калі Пандарос раніў Мэнэляоса, яны

Кроў выціскалі із раны і гаячу мазь накладалі, [1])

але яны ніколі ня прыпісвалі штó пасьля гэтага ранены меў есьці і піць, і далі яму ані крышку ня болей, чымся ў выпадку Эўрыпілёса; самога леку, як яны разумелі, хапіла, каб аздаравіць любога чалавека, які перад ранéньнем быў здаровым і вёў упарадкаванае жыцьцё, хоць цяперака і давялося яму выпіць сумесь прамнійскага віна. Але хто з натуры быў хваравіты, дый да гэтага яшчэ непаўстрыманы, каго жыцьцё ня было карысным ані для яго, ані для ягонага асяродзьдзя, для гэтакага, як яны думалі, мэдычнае мастацтва ня было плянаваным, і нават, калі ён і быў гэтак багатым, як Мідас, сыны Асклепіёса адмаўлялі яму свае ўвагі.

— Сыны Асклепіёса, — сказаў ён, — былі вельмі кемныя.

— Гэтак і належыцца, — адказаў я. — Аднак-жа, ані

---

[1]) Іліяда, IV, 218

траґікі, ані Піндарос ня згодзяцца з намі, хоць яны запэўніваюць, што Асклепіёс быў сынам Апольлёна, як і тое, што дазволіў падкупіць сябе з мэтаю аздараўленьня аднаго багатага чалавека, блізкага да сьмерці, і з гэтае прычыны ўдырам маланкі быў абернуты ў попел. Але мы, у сузгоднасьці з залажэньнямі ўжо пацьверджанымі намі, ня будзем верыць ім у двух выпадках; але скажам — калі ён быў сынам бога, дык ён ня мог быць прагавітым; або, калі ён быў прагавітым, дык ён ня быў сынам бога.

— Усё гэта вельмі добра, Сакратас, — сказаў ён, — але я хацеў-бы паставіць табе пытаньне: Ці-ж нашае гаспадарства не патрабуе добрых лекараў, і ці не зьяўляюцца найлепшымі тыя, праз рукі якіх прайшло як найболей здаровых людзей і хворых? і ці-ж не зьяўляюцца ў гэткі-ж самы спосаб тыя найлепшыя судзьдзі, каторыя здабылі практыку ў распазнаваньні ўсіх разнаводнасьцяў маральных характараў?

— Так, — сказаў я, — я гэтаксама маю на ўвазе добрых. Але ці ведаеш ты каго я ўважаю за гэтакіх?

— Буду ведаць, калі ты скажаш, — адказаў ён.

— Я скажу, калі толькі магчыму, — адказаў я. — Аднак-жа, дазволь мне заўважыць, што ў пастаўленым табою пытаньні, ты злучыў дзьве рэчы, якія не зьяўляюцца адным і тым самым.

— Як гэта? — запытаў ён.

— А вось так гэта, — сказаў я; — ты лучыш у вадно лекароў і судзьдзяў. Цяпер-жа, найболей здольнымі лекарамі зьяўляюцца тыя, каторыя, пачынаючы ўжо змалку і далей, злучылі зь ведаю свайго мастацтва найбольшае дазнаньне сярод найбольшага ліку зусім безнадзейна хворых, дый на сабе дазналі ўсякага роду хваробы. Бо цела, як я разумею, не зьяўляецца тым інструмантам, пры помачы якога яны аздараўляюць цела, — бо ў падобным выпадку быў-бы немагчымым дрэнны стан цела самога лекара. Не, яны лечаць цела душою, і душа, якая сталася хвораю і хвораю астаецца, ня можа аздаравіць нікога і нічога.

— Гэта вельмі правільна, — сказаў ён. [409]

— А судзьдзя, дружа мой, — сказаў я, — гэта нешта іншае, бо ён душою валадарыць над душамі. З гэтае прычыны ён не павінен змалку ўзгадоўвацца ў васяродзь-

дзі заганных душаў і лучыцца зь імі, праходзіць праз розныя несправядлівасьці і самому паступаць гэтак — і ўсё гэта затым, каб паводля ўласнага дасьведчаньня ўзважваць чужыя паступкі, гэтак як пра чужыя хваробы рабіць выснаў на падставе ягонага ўласнага сумленьня. Тым болей, павінен ён змалку стацца бязвінным і нескспольненым з дрэннымі звычаямі, бо яму давядзецца выдаваць беззаганны і здаровы суд. І гэта ёсьць прычына, чаму добрыя маладыя людзі выдаюцца простымі і гэтак лёгка стаюцца аб'ектам ашуканства са стараны людзей несправядлівых, бо ў сваіх душах яны ня маюць нічога супольнага з сугучнасьцю са злом.

— Так, — адказаў ён, — яны за надта паддатнымі для ашуканства.

— Затым, — працягваў я далей, — добры судзьдзя ня можа быць юнаком. Ён мае пазнаць зло, але не праз сваю ўласную душу, але праз пазьнейшае і доўгае назіраньне натуры зла ў іншых: веда ма́е быць ягоным кіраўніком, а не асабістае дазнаньне.

— Так, — сказаў ён, — гэта будзе наўзорны судзьдзя.

— Так, — адказаў я, — ён будзе добрым чалавекам, што́ і будзе маім адказам на тваё пытаньне. Бо той ёсьць добры, хто мае добрую душу. Але чалавек спрытны, які глядзіць на ўсё з падозраньнем, які сам даканаў цімала несправядлівасьці і які ўважае сябе здольным на ўсё і разумным, абяртаючыся ў васяродзьдзі людзей да сябе падобных, выдаецца сваеасаблівы ў справах, якія прадпрыймае, бо ён судзіць іншых паводля свайго наўзору. Але калі ён знойдзецца ў прысутнасьці людзей добрых з дасьведчаньнем веку, тады ён выдаецца зноў глупцом, і гэта з прычыны ягонае ўласнае западозранасьці што да добрых звычаяў; ён ня можа спасьцерагчы ані воднага чэснага чалавека, бо ён ня мае наўзору чэснасьці ў самым сабе. З другое стараны, калі дрэнных ёсьць болей, чымся добрых і ён спатыкаецца зь імі пры частых нагодах, тады ён думае, пра сябе і іншыя гэтаксама думаюць пра яго, што ён барджджэй мудрым зьяўляецца, чымся не́вукам.

— Зусім трапна, — сказаў ён, — зусім правільна.

— Затым ня гэткага судзьдзю нам трэба шукаць, калі мы хочам, каб ён быў і добрым, і мудрым, але гэтакага, якога мы ўжо ўспаміналі раней; бо заганнасьць ніколі

ня можа распазнаць ані мужнасьці, ані самое сябе, тады як мужнасьць людзкае натуры, якая ў вадпаведным часе атрымлівае ўзгадаваньне, атрымлівае веду адносна самое сябе, гэтаксама як і адносна свае заганнасьці. Якраз гэтакі чалавек, як мне здаецца, і стаецца мудрым, а ня той заганны.

— І мне гэтак здаецца, — адказаў ён.

— Гэтакае мэдычнае мастацтва, у выглядзе намі ўспомнутым, як і судовае, ты ўвядзеш у нашае гаспадарства. [410] Абодва яны будуць мець стараньне адносна грамадзян, гэтак паўнавартасных у адносінах да цела, як і да душы, а хто не падыйдзе пад гэтую катэгорыю, з прычыны хворасьці цела, гэтым яны пакінуць магчымасьць памерці; што датычыцца людзей з сапсутаю і зь невылячальнаю душою, дык гэтых яны самыя ўтаймуюць.

— Ведама, — сказаў ён, — гэтакі падыход да справы найлепшым ёсьць для абедзьвюх старон — для цярпячых і для гаспадарства.

— А тыя з нашых юнакоў, — працягваў я далей, — якія былі ўзгадованымі толькі ў той простай музыцы, якая, як і сказалі мы ўжо, заахвочвае да памяркоўнасьці, будуць асьцярожнымі, каб аглядацца на помач у праве.

— Ведама, — сказаў ён.

— Ідучы па гэтай лініі разважаньня, чалавек, абазнаны з музычным мастацтвам, калі выкажа жаданьне практыкаваць звычайную ґімнастыку, не захоча карыстацца з мэдычнае помачы, хіба што ў выпадку неабходным.

— І я гэткае думкі.

— Ґімнастычныя практыкаваньні і высілак, якім ён будзе паддадзены, кіруюцца на тое, каб узьняць духовы элемэнт ягонае натуры, але не затым, каб пабольшыць ягоную сілу. Ён ня будзе, як звычайныя атлеты, ужываць фізычныя практыкаваньні, дзеля разьвіцьця ягоных мускулаў.

— Зусім правільна, — сказаў ён.

— Гэтаксама, Ґляўкон, — сказаў я, — ніякае з двух мастацтваў музычнага і ґімнастычнага, фактычна, не прадназначаецца, як гэта часта кажацца, першае на ўзгадаваньне душы, а іншае на ўзгадаваньне цела.

— Якое-ж, тады, праўдзівае прадназначэньне іх? — запытаў ён.

— Я думаю, — сказаў я, — што вучыцялі абодвух мастацтваў маюць на ўвазе галоўна палепшаньне душы.

— Як гэта? — запытаў ён.

— Ніколі ты не заўважыў, — сказаў я, — узьдзееньня на мэнтальнасьць тых, каторыя суцэльна прысьвяцілі сябе ґімнастыцы, або супроцьлежнае ўзьдзеяньне на тых, што прысьвяцілі сябе музыцы?

— У якім дачыненьні? — запытаў ён.

— Адзін, праяўляе характар лютасьці і зацятасьці, іншы — мягкасьць і раздалікáтненасьць, — адказаў я.

— Так, — сказаў ён, — я спасьцярог, што звычайны атлета стаецца болей сіберным, а звычайны музы́ка — празьмерна ла́скавым, што ня ўпрыгожвае яго.

— Напэўна, — сказаў я, — гэтая лютасьць зьяўляецца вынікам натуральных вартасьцяў, якія, калі правільна ўзгадованы, могуць абярнуцца ў адвагу; але, ведама, празьмерная грубасьць і ўзмоцненая, стаецца цяжкаю і брутальнаю.

— Гэтак і мне здаецца, — сказаў ён.

— З другога боку, філёзаф будзе характэрным са свае далікатнасьці. Але гэта таксама, калі за шмат аддавацца ёй, абернецца ў мяхкасьць, але калі належна ўзгадованы, будзе далікатным і памяркоўным.

— Так, запраўды.

— І мы ўтрымліваем, што нашыя старожы павінны мець дзьве гэтыя натуральныя свомасьці.

— Так, павінны.

— І абедзьве яны павінны быць згарманізаванымі між сабою?

— Напэўна. [411]

— І згарманізаваная душа зьяўляецца адначасна адважнаю і памяркоўнаю?

— Так.

— А незгарманізаваная зьяўляецца трусьліваю і грубою?

— Напэўна.

— І, калі чалавек дазваляе, каб му́зыка ўзьдзейвала на яго і ўлівала ў душу ягоную праз вушы, быццам праз лейку, гэтыя салодкія, далікатныя і сумназаводзячыя тоны, пра якія мы толькі што гаварылі; калі ён праводзіць усё сваё жыцьцё, раз жаласна стогнучы, а іншы раз, радуючыся пад узьдзеяньнем чару песьні, дык тады,

у працэсе гэткага ўзьдзейваньня, калі ў ім знаходзіцца дух лютасьці, дык гэты спачатку стаецца мягчэйшым, падобна таго, як коўкім стаецца раскаленае жалеза, і раней бескарысная і хрупкая ягоная натура цяперака можа стацца карыснаю для яго. Але, калі ён бесперапынна і далей працягвае гэты зьмякчальны і раздалікáтніваючы працэс, тады ў наступнай стадыі ён пачынае растопліавацца і заняпадáць, аж пакуль зусім занепадзé ягоны дух, быццам вырываючы дазваньня са свае душы ўсенькае сухажыльле, і гэтым, тады, "няґеґлым стаецца жаўнерам".

— Вельмі трапна выражана, — сказаў ён.

— І калі гэтакі чалавек крые ў сабе натуральную і слабую складовую частку свайго духа, зьмена даконваецца хутка, але, калі ён творыць сабою лютасную паставу, тады сіла мýзыкі, паслабляючы лютасны дух, творыць яго запальчывым, у тым сэнсе, што кажная дробязь узбударажвае яго, хоць хутка і астывае. Гэткім чынам, з палкіх такія людзі стаюцца дражлівымі, цяжкімі ў дагоджаньні і зусім непрактычнымі.

— Зусім гэтак.

— Падобна рэч маецца і ў ґімнастыцы. Калі чалавек губіць шмат высілку на фізычныя практыкаваньні і празьмерна харчуе сябе, але ня прыймае ўдзелу ані ў музычным мастацтве, ані ў філязофіі, дык ці-ж не перанапоўніцца гэтакі фанабэрыстасьцю і пышнасьцю і ці не перавысіць сам сябе ў мужнасьці?

— Напэўна.

— І што-ж дзеіцца? Калі ён нічым іншым не займаецца, і ня мае ніякае супольнасьці з Музамі, ці-ж ня гібее ў ім нават і тая інтэлігэнцыя, якая, магчыма, ёсьць у ім? і, ня маючы ніякага імкненьня да навукі, да досьледу, або творчае думкі ці культурнага ўздыму, стаецца глухою і сьляпою, астаецца непрабуджанаю; і пры адсутнасьці духовае пажывы, і змыслы ягоныя не ачышчаюцца з імглістае рэчаіснасьці?

— Так, — сказаў ён.

— Гэтакі чалавек, я думаю, стаецца ненавісьнікам мудрага слова, нецывілізаваным, ніколі не карыстаецца дарам пераконваньня, — ён падобны да дзікага зьвера, які да мэтаў сваіх даходзіць дзікасьцю і гвалтам, і ня ведае ён іншых шляхоў у абыходжаньні зь людзьмі; і

жыве ён у цемры і глупоце, і ня мае ніякага ўяўленьня пра такт і ветлівасьць.

— Гэта зусім правільна, — сказаў ён.

— Відаць існуюць два прынцыпы людзкае натуры: адзін бадзёры і другі філязафічны, нейкі Бог, я сказаў-бы, падараваў іх людзям, як адпаведнік двум мастацтвам: музычнаму мастацтву і ґімнастычнаму, — што непасрэдна толькі адносяцца да душы і цела — з тым меркаваньнем, што гэтыя два прынцыпы, [412] падобна як струны ў музычным інструманце, могуць быць адпружваныя або напружваныя, пакуль не асягнецца поўная іхная гармонія.

— Запраўды, гэтак выглядае, — сказаў ён.

— Але той, хто найпрыгажэй тасуе му́зыку і ґімнастыку ў належнай сумернасьці, і найляпей прытарноўвае іх да душы, таго апраўдана называюць асягнуўшым дасканаласьць у музычным мастацтве і ўрэчаісьніўшым поўную зладжанасьць шмат болей, чымся той, хто прыводзіць у сугучнасьць струны.

— Зусім натуральна, Сакратас, — сказаў ён.

— І гэтакі, Гляўкон, гэніі, які трымае вядучую ролю, заўсёды будзе патрэбным у нашым гаспадарсьцьве, калі нашая канстытуцыя мае знайсьці сваю астою.

— Так, ён будзе абсалютна неабходным.

— Гэтакімі, тады, зьяўляюцца нашыя асновы ўзгадаваньня і асьветы. Няма патрэбы заглыбляцца ў дробязі адносна таго, якімі будуць у нашых грамадзян харавадныя скокі, або іхныя паляваньні ці нагонкі з сабакамі, іхная ґімнастыка, або конныя спаборніцтвы і з калёсьніцамі. Бо ўсё гэта мае быць усузгоднена з агульнымі прынцыпамі і, гэтак упарадкаваўшы, мы ня мецімем труднасьцяў знайсьці вырашэньня для таго, што́ яшчэ можа выявіцца.

— Вельмі магчыма, — сказаў ён, — цяперака ня будзе ніякіх труднасьцяў.

— Вельмі добра, — сказаў я; — якое, тады, наступнае пытаньне маем разгле́дзець? Ці не павінны мы запытаць, якія людзі маюць быць кіраўнікамі, і тыя, што падпарадкаваны ім?

— Ведама.

— Ня можа быць сумліву адносна таго, што старшыя векам людзі павінны быць кіраўнікамі над малодшымі.

— Ясна.

— І, што кіраваць павінны найлепшыя зь іх?

— І гэта ясна.

— А з пасярод земляробаў, ці ня будуць лепшыя тыя, што найляпей адзна́чыліся ў земляробстве?

— Але́.

— І, калі нашым замерам ёсьць займець найлепшых старожаў для нашага места, дык ці-ж не павінны яны быць тымі, каторыя маюць найлепшыя прыкметы старожаў?

— Так.

— І, маючы на ўвазе нашую мэту, ці-ж не павінны яны быць мудрымі і здольнымі, і асабліва мець на ўвазе дабро гаспадарства?

— Зусім правільна.

— І праўдападобна той чалавек будзе даглядаць найболей тое, што́ ён любіць?

— Гэта, пэўна.

— І найболей праўдападобна лю́біць ён тое, што́ ўважае як маючае тую самую карысьць для яго самога, як і тое, што ягоная ўласная карысьць пакрываецца з дабрабытам іншага, а як не — тады рэч маецца наадварот.

— Гэтак бо і ёсьць, — сказаў ён.

— Затым, мусіць быць выбар. Трэба з-пасярод старожаў вырозьніваць тых, каторыя ўсё сваё жыцьцё адзначаюцца запалам чыненьня таго, што́ зьяўляецца найлепшым для іхнае краіны і найбольшую абрыдласьць да ўсяго таго, што́ зьяўляецца шкодным для яе памыснасьці.

— Гэта наболей адпаведныя людзі, — сказаў ён.

— І яны павінны быць аб'ектам нашае ўвагі на кажным этапе іхнага жыцьця з тою мэтаю, каб мы маглі бачыць, ці яны захоўваюць прыналежны ім характар, і ў ніякім выпадку не знаходзяцца пад уплывам ані спакусы, ані гвалту, ані ачараваньня, каб усё гэта ня змусіла іх забыць або адкінуць вычуцьцё абавязку перад гаспадарствам.

— Як можна адкінуць? — запытаў ён.

— Я адкажу табе, — сказаў я. — Пераконаньне можа выпасьці са сьведамасьці чалавека ~~або~~ ў сузгоднасьці зь ягонаю воляю тады, калі ён, разважыўшы ў сабе, адкідáе хвальшывы пагляд і пазнае́ нешта лепшае, [413] а супроць ягонае волі — калі ён, пад узьдзееньнем вон-

Гл. ЗАЎВАГУ А, б. 386.

кавых чыньнікаў, пазбаўляецца веданьня праўды.

— Я разумею, — сказаў ён, — калі страта наступае ў сузгоднасьці з нашаю воляю; але як гэта здараецца супроцьвольна, гэтага я яшчэ не разумею.

— Як гэта? — сказаў я. — Ці-ж ты не спасьцерагаеш, што людзі губяць сваё дабро супроць іхнае волі, а дрэнныя рэчы — дабраахвотна? Ці-ж згубленьне праўды не ўважаецца за зло, а мець яе на ўласнасьць — за дабро? І я думаю, што ты згодзішся, што мець зразуменьне рэчаў гэтакімі, якімі яны існуюць — гэта і ёсьць мець праўду на ўласнасьць?

— Так, — адказаў ён. — Я згаджаюся з табою ў тым, што людзкасьць аграбленаю ёсьць з праўдзівага пераконаньня супраць свае волі.

— Значыцца, гэтае супроцьвольнае пазбаўленьне спрычынена або абакражаю, або чараваньнем, або сіламоцаю?

— Цяпераka я зноў не разумею цябе, — сказаў ён.

— Баюся, — сказаў я, — што я выражаюся цьмяна, як у трагэдыях. Абакрадзенымі я называю тых, што дазволілі пераканаць сябе або тых, што хутка забываюцца: адных неспасьцярожна для іх абакрадвае час, а іншыя губяць сваё сэрца, дзякуючы вуснай аргумэнтацыі. Цяпераka ты разумееш?

— Так.

— Тыя, зноў, што паддаліся сіламоцы — гэта тыя, каго цярпеньні ці гора змусілі зьмяніць сваё пераконаньне.

— Гэта я спасьцярог, — сказаў ён, — і ты праўдзіва кажаш.

— І ты гэтаксама прызнацімеш, я думаю, што зачараваныя — гэта тыя, што зьмянілі сваё перакананьне пад уплывам зачараваньня прыемнасьцямі або з прычыны няміласэрнага ўплыву страху.

— Так, — сказаў ён, — усё, што выдаецца ачараваным, вядзе да зману.

— Затым, гэтак як і сказаў я толькі што, мы мусім шукаць людзей, каторыя зьяўляюцца найлепшымі старожамі з уласнага пакліканьня і каторыя ведаюць, што тое, што зьяўляецца найважнейшым для гаспадарства, зьяўляецца гэтаксама прынцыпам іхнага жыцьця. Мы маем кіраваць на іх нашую ўвагу, пачынаючы ўжо зь іхных дзіцячых гадоў, кіруючы іх да актыўнасьці, на-

зіраючы пры гэтым, у чым і хто зь іх мае схільнасьць забывацца і паддатным ёсьць для зману. А кемлівых памятаць і не паддавацца зману трэба выдзельваць, а хто ня ёсьць гэтакім, такога трэба пакінуць на ўзбоччу. Ці ня гэтак мае быць?

— Гэтак.

— Гэтаксама павінна накладацца на іх напружаная праца, цяжары і спаборніцтвы, чым створыцца для іх далейшы довад вылічаных намі якасьцяў.

— Вельмі правільна, — сказаў ён.

— І тады, — сказаў я, — мы мусім паддаць іх пад выпрабаваньне і трэйцяга віду, гэта значыць спраўдзіць пры помачы чараваньняў і назіраць іхныя паводзіны: падобна, як жарабят праводзяць пад шум і крыкі, каб пазнаць ці палохлівыя яны, гэтак і нашых юнакоў трэба паддаваць пад выпрабаваньне ў абставінах нейкага страху, а пасьля ў зьначанай атмасфэры, нечаму прыемнаму, выпрабоўваючы іх шмат мацней, чымся золата ў вагні, каб гэткім спосабам даведацца, ці зьяўляюцца яны даволі загартаванымі супроць спакусаў, ці заўсёды астаюцца шляхэтнымі, ці добрымі зьяўляюцца стражамі для самых сябе, гэтак як і для музычнага мастацтва, у якім яны ўзгадоўваліся, ці праявяць яны сябе ў любых абставінах памяркоўнымі і гарманічнымі, здольнымі, быць як найболей карыснымі для самых сябе, як і для гаспадарства. І той, хто ў кажным веку свайго жыцьця — дзіцячым, юнацкім і дарослым, адзначыў сябе пераможным і чыстым, [414] той мусіць быць вызначаны на становішча кіраўніка і старожу гаспадарства, яму трэба аддаваць належную пашану гэтак у жыцьці, як і пасьля сьмерці, ушанаваўшы яго паховінамі з гонарамі і выняткава ўвекавечыўшы ягоную памятку. Але тыя, што ня будуць гэткімі, павінны быць адкінутымі. Я зьяўляюся тае думкі, Гляўкон, — сказаў я, — што гэтакім мае быць той спосаб, паводля якога нашыя кіраўнікі і старожы маюць быць выбіранымі і вызначванымі на становішчы. Ведама, я гавару тут вельмі агульна, без уваходжаньня ў дробязі.

— Гэтаксама і мне выдаецца, — сказаў ён, — што гэтак павінна быць.

— І вельмі магчыма, што слова "старожа" ў поўным ягоным значэньні павінна распасьцірацца на тую вы-

шэйшую групу людзей, каторыя баранілі-б гаспадарства ад вонкавых ворагаў, і ўтрымлівалі-б супакой сярод нашых грамадзян дома, каб у гэтых ня было патрэбы, а ў тамтых — дастатковае сілы спрычыняць зло. А нашыя юнакі, каторых мы раней называлі старожамі, барджджэй вызначаліся-б памочнікамі для высокапастаўленых кіроўнікоў і выканаўцамі іхных паглядаў.

— Я зусім згаджаюся з табою, — сказаў ён.

— Але я́к, — працягваў я далей, — маглі-б мы вынайсьці адно з тых неабходных махлярстваў, пра якія нядаўна мы гаварылі [1]) — хоць-бы аднае толькі высокапастаўленае асобы хлусьня, якая можа змануць кіраўнікоў, калі гэта магчыма, а як не, дык у кажным выпадку, хоць-бы ўсю рэшту места?

— Што гэта за хлусьня? — запытаў ён.

— Нічога новага, — адказаў я, — толькі стары фінікійскі пераказ пра тое, што́ часта здаралася перад тым на іншых мясцох — як апавядаюць паэты, і людзі вераць ім, — хоць ня мела гэта месца ў нашым часе; і я ня ведаю, ці гэтакае здарэньне можа паўтарыцца зноў, або можа быць праўдападобным, калі наагул яно было.

— Як выглядае, ты ня маеш рашучасьці сказаць тое, што маеш на ўвазе! — азваўся ён.

— Ты ня будзеш зьдзіўленым, — адказаў я, — з прычыны мае нерашучасьці, калі толькі пачуеш далей.

— Тады кажы, — сказаў ён, — ня бойся.

— Добра, я скажу, хоць я ня ведаю, скуль мне набрацца адвагі і якія словы ўжыць пры гэтым пераказе, які, я думаю, перш апавясьціць самым кіраўнікам і ваярам, і напасьледак усім іншым грамадзянам. Трэба сказаць ім, што іхная маладосьць была мроею і, што адукацыя і ўзгадаваньне якое яны атрымалі ад нас — гэта толькі зьява. У рэчаіснасьці-ж яны знаходзіліся ў улоньні зямлі, дзе яны хвармаваліся і гадаваліся, гэтаксама, як і іхнае аружжа і ўсё іхнае прыладзьдзе. Калі яны былі ўжо зусім удакладненымі, тады зямля, іхная маці, выдала іх на сьвет. Гэтым, іхная родная зямля, сталася іхнаю роднаю маткаю і іхнаю ўзгадавальніцаю, а яны павінны аж па сяньняшні дзень праяўляць усякое стараньне і рупнасьць адносна яе, і бараніць яе, калі

[1]) Гл. 389 в-d.

хто-небудзь нападае на яе, і грамадзян яе яны павінны ўважаць, за дзяцей свае роднае зямлі і сваіх братоў.

— Нездарма-ж, — сказаў ён, — ты гэтак доўга саромеўся раскрыць перад намі гэты пераказ. [415]

— Зусім натуральна, — сказаў я, — але выслухай і апошнюю частку паданьня, бо я толькі палову сказаў табе. Грамадзяне, — зьвéрнемся мы да іх у нашым апавяданьні, — вы зьяўляецеся братамі, хоць Бог ухвармаваў вас розна. Некаторыя з вас маюць сілу загадваньня, і пры хвармаваньні гэтых, ён дамяшаў золата, і з гэтае прычыны яны маюць найбольшую пашану; іншых учыніў ён з серабра, каб сталіся памочнікамі; іншых зноў, тых, што маюць быць земляробамі і рамéсьнікамі ўхвармаваў зь медзі і жалеза; усе вы зродненыя, і ў большай частцы родзіце падобных да сябе. Але, хоць усе і зьяўляюцца аднолькавага паходжаньня, тымняменей, здараецца, што залатыя бацькі родзяць сярэбраных нашчадкаў, або сярэбраныя бацькі — залатых; падобнае здараецца і ў іншых выпадках. Бог апавяшчае кіраўнікоm, — як першы прынцып і найвышэйшы за ўсё іншае, — што нічога няма такога, што-б яны мелі гэтак старанна ахоўваць, або чаго-б яны мелі быць добрымі старожамі, як ахоўваць сваю нашчаднасьць. Яны павінны ўважна назіраць, якія складовыя часткі прымешаныя да душаў іхных нашчадкаў; і, калі дзіця родзіцца з прымешкаю медзі або жалеза, дык яны ў ніякім выпадку не павінны праяўляць да яго жалю, але абыходзіцца зь ім у сузгоднасьці з вымогамі натуры, гэта значыць — уключыць яго ў лік рамесьнікаў або земляробаў. Калі-ж, з другое стараны, родзіцца хто-небудзь з прыдамешкаю золата або серабра, дык і гэта трэба ўважаць як вартасьць і з пашанаю трэба пераключыць яго ў старожы або памочнікі. Існуе прадказаньне, што гаспадарства не астоіцца ў сваіх асновах, калі ахоўваць яго будзе медны старожа ці жалезны. Гэтакі ёсьць пераказ; ці ёсьць якая-небудзь магчымасьць змусіць нашых грамадзян паверыць гэтаму?

— Не грамадзян сучаснага пакаленьня, — адказаў ён; — няма магчымасьцяў дакананьня гэтага; але іхныя сыны, магчыма, павераць ў гэта а пасьля сыны іхных сыноў і наступныя пакаленьні.

— Так, я бачу перашкоды, — адказаў я; — аднак-жа, ўзгадоўваньне ў гэтым перакананьні, учыніць іх болей

стараннымі адносна гаспадарства, як і адносна самых сябе.

Але хопіць гэтага сівога пераказу, які на скрыдлах чуткі, можа цяперака ляцець далёка за межы, а мы ў міжчасе ўзброім нашых землярородных сыноў, і рушым зь імі наперад пад даглядам кіраўнікоў. Прыйшоўшы на месца, няхай яны разгледзецца, дзе найляпей для іх у месьце разгарнуць лягер, каб выгадней было трымаць жыхароў у паслухмянасьці, у выпадку, калі хто-небудзь не захоча падпарадкавацца правам, і адбіваць атакі ворагаў звонку, калі захопнік нападзе, быццам воўк на гурт. Раскінуўшы лягер і выканаўшы ахвяраваньні, няхай яны займуцца падрыхтоваю сабе жыльля. Ці ня так гэта?

— Так, — адказаў ён.

— І іхнае жыльлё мусіць быць гэтакім, якое будзе аслонаю для іх супроць зімовых халадоў і сьпякоты лета.

— Я здагадваюся, што ты гаворыш пра дамы́, — сказаў ён.

— Так, — сказаў я, — але гэта маюць быць дамы для жаўнераў, а не для людзей гандлю.

— І якая-ж тут розьніца? — запытаў ён. [416]

— Я спробую паясьніць табе, — сказаў я. — Самае страшэннае і агіднае — гэта, калі пастухі гадуюць сабак дзеля аховы гурту, а тыя, ці гэта з прычыны не паслухмянасьці, ці з голаду або з прычыны дрэннага навыку, пачынаюць авечкам спрычыняць зло, і гэтым стаюцца падобнымі не да сабак, але да ваўкоў.

— Запраўды, жахлівае зьявішча, — сказаў ён.

— Дзеля гэтага кажнае стараньне мусіць быць прадузята, каб нашыя памочнікі, астаючыся сільнейшымі, чымся нашыя грамадзяне, гэтаксама не пачалі тварыць падобнага адносна сваіх суродзічаў, але каб аставаліся добразычлівымі саюзьнікамі іх і не ставаліся разьюшанымі і лютымі дэспатамі.

— Так, кажнае стараньне мусіць быць прадузята.

— А ці-ж асаблівая асьцярожнасьць у запэўненьні запраўды добрага ўзгадаваньня ня створыць найлепшае аховы?

— Але яны ўжо зьяўляюцца добраўзгадованымі, — сказаў ён.

— Я не зьяўляюся зусім пэўны адносна гэтага, мой дарагі Ґляўкон, — адказаў я. — Але я зьяўляюся болей

упэўнены, што яны павінны быць гэтакімі, і, што праўдзівае ўзгадаваньне, — штоколечы пад гэтым словам разумеем, — павінна насіць у сабе схільнасьць у напрамку цывілізаваньня і гуманітарызаваньня іх у іхных суадносінах адзін да аднаго, і да тых, што знаходзяцца пад іхнаю аховаю.

— Вельмі трапна ты кажаш, — адказаў ён.

— І ня толькі іхнае ўзгадаваньне, але і іхнае жыльлё, і ўсё тое, што належыць да іх, павінна быць гэтакім, якое ня будзе пагоршваць іхную мужнасьць як старожаў, ані спакушаць іх да грабежы іншых грамадзян. Кажны чалавек з здаровым розумам прызнаціме правільнасьць гэтага.

— Вельмі правільна, — адказаў ён.

— Дык уважайма, — казаў я далей, — якім спосабам яны павінны жыць, калі яны маюць быць сьведамымі нашых ідэяў адносна іх. У першую чаргу, ніхто зь іх не павінен мець свае ўласнасьці, [1]) па-за выняткам таго, што зьяўляецца абсалютна неабходным. І далей, ні ў кога зь іх не павінна быць прыватнага дому, ані гэтакае кладоўкі, у якую ня мог-бы ўвайсьці кажны, хто ўвайсьці жадае сабе. Іхныя жыцьцёвыя неабходнасьці павінны быць гэтакімі толькі, якія вымогамі зьяўляюцца дасьведчаных у ваенных справах ваяроў, якія зьяўляюцца людзьмі паўстрыманасьці і адвагі. І яны павінны атрымліваць ад грамадзян абазначаную ўзнагароду за ахову іх, у высокасьці дастатковай пакрыцьця іхнага гадавога расходу, і ня болей. Яны будуць спажываць сваю ежу ў сталоўках і жыць сумесна, як жаўнеры ў часе ваенных выправаў. Золата і серабро, мы скажам ім, яны маюць ад Бога — і золата ад Бога яны заўсёды маюць у сваей душы, і з гэтае прычыны яны ня маюць патрэбы ў людзкім золаце, дый ня прыгожа было-б для іх, маючы божае золата, апаганьваць яго прыдамешкаю золата сьмяротнага; [417] і яно ў іх мае быць чыстым, ня гэтакім, як манэта ў людзкім абыходзе, якую, з паніжэньнем для сябе, людзі часта хвальшуюць і зь якою вяжацца шмат нягодных учынкаў. З-пасярод усіх грамадзян, яны не павінны ў нашым гаспадарстве карыстацца

[1]) Гл. Дз. сьв. Апосталаў, 2:44-45.

золатам і сэрабром, нават дакранацца да яго або быць зь ім пад супольным дахам, упрыгожвацца ім або піць з залатога ці сярэбранага пасудзьдзя. І гэта будзе іхным выбаўленьнем, і стануцца яны выбавіцелямі гаспадарства. Хай сабе хоць крышку завядзецца ў іх уласная зямля, дамы, грошы, як зараз-жа стануцца яны гаспадарамі і земляўласьнікамі, замест астацца старожамі; яны стануцца ворагамі і дэспатамі, замест быць саюзьнікамі сваіх грамадзян. Ненавідзячы і будучы ненавіджанымі, плянуючы дрэнныя замеры і баючыся падобных супроць сябе, яны будуць усенькі час жыць у яшчэ большым жаху перад унутранымі ворагамі, чымся перад ворагамі звонку, і гэтым гадзіна іхнае супольнае загубы, гэта значыць для іх і для іхнага гаспадарства, няўхільна наблізіцца. Вось дзеля гэтых прычынаў, гэтак як і казаў я, ці-ж ня трэба і нам сказаць, што гэтак павінна быць уладжана нашае гаспадарства і, што гэта павінна стацца вызначаным намі правам для нашых старожаў адносна іхных дамоў і ўсіх іншых справаў?

— Так, — сказаў Ґляўкон.

[419] На гэтым месцы забраў голас Адэімантос:

— Што ты скажаш на тое, Сакратас, — сказаў ён, — калі-б хто-небудзь пачаў цьвердзіць, што ты ня чыніш гэтых людзей вельмі ўжо шчасьлівымі і, што яны самыя зьяўляюцца прычынаю свайго няшчасьця; у запраўднасьці-ж гаспадарства належыць да іх, але яны ня маюць ніякае карысьці з таго дабра, якое гаспадарства творыць сабою, тады як іншыя людзі здабываюць сабе землі, на якіх будуюць вялікія і прыгожыя дамы і ўсё адпаведна са смакам уладжваюць у іх, складаючы багам асаблівыя ахвяраваньні дзеля свае ўласнае памыснасьці, і праяўляючы гасьціннасьць перад чужынцамі; яшчэ болей, маюць на сваю ўласнасьць тое самае золата і серабро, пра якое ты толькі што гаварыў, і наагул усё тое, што патрэбна для шчасьлівага жыцьця. Але нашыя бедныя грамадзяне не знаходзяцца ў лепшым палажэньні, чымся наёмныя старожы, якія кватаруюцца ў местах з сталым заданьнем нясеньня службы пільнаваньня.

— Так, — сказаў я; — і ты можаш дадаць, [420] што яны, у адрозьненьні ад іншых, нясуць гэтую службу толькі за ежу, не атрымліваючы болей ніякае платы; і з гэтае прычыны яны ня могуць, калі-б яны і хацелі, карыстацца прыемнасьцю падарожнічаньня; і яны ня могуць сабе пазволіць на гасьцінцы для гэтэраў, як думаюць тыя, што жывуць у дастатку. Усё гэта і шмат іншага падобнага ты абмінуў, чынячы супроць мяне абвінавачаньні.

— Тады, — сказаў ён, — дабавім гэта да абвінавачаньняў.

— Гэта значыць, ты думаеш запытаць, — сказаў я, — які будзе наш адказ?

— Але.

— Калі мы цяперака, — сказаў я, — пойдзем далей

тым самым шляхам, тады мы знойдзем адказ. І нашым адказам будзе, што, калі нашыя старожы астануцца гэтакімі, якімі яны зьяўляюцца, яны ўсё-ж будуць найболей шчасьлівымі людзьмі; пры гэтым пакліkваючы да жыцьця нашае гаспадарства, мы ня маем на ўвазе шчасьця нейкае групы людзей, але найбольшае шчасьце ўсенькае цэласьці. Бо мы і з залажэньня выходзілі, што ў гаспадарсьцьве, у якім маецца на ўвазе дабро цэласьці, мы мецімем нагоду знайсьці справядлівасьць, а ў гаспадарсьцьве дрэнна ўладжаным — несправядлівасьць: і, знайшоўшы гэта, мы можам тады вырашыць, якое з гэтых двух ёсьць болей шчасьлівым. У дадзеную хвіліну, як я ўяўляю сабе, мы творым шчасьлівае гаспадарства, а не асобна ўзятую нейкую частку ягоную зь некалькі шчасьлівымі грамадзянамі, але гэтакае, якое было-б шчасьлівым ува ўсей сваей цэласьці; а пасьля па крышцы, паступаючы наперад, мы разгледзім супроцьлежнае гаспадарства. Прымем, што мы малюем статую і нехта, падыйшоўшы да нас, сказаў-бы: Чаму гэта вы не кладзеце найпрыгажэйшыя колеры на найболей прыгожыя часткі цела — напрыклад, вочы маюць быць пурпуровыя, а вы робіце іх чорнымі, — дык гэткаму бадай-што апраўдана адказалі-б мы: "Дзіўны ты, чалавеча, ты хіба ня думаеш, што мы маем упрыгожваць вочы да гэтакае ступені, каб яны зусім перасталі быць падобнымі да вачэй; мей на ўвазе барджэй, што дарогаю наданьня тых і іншых характэрных рысаў у адпаведнай прапорцыі, мы цэласьць чынім прыгожаю." Гэтаксама і я адказваю вам — ня змушайце нас лучыць з абавязкамі старожаў гэтакі род шчасьця, якое ўчыніць іх чым хочаце, толькі не старожамі. Бо-ж гэтаксама і землjаробаў маглі-б мы апрануць у найпрыгажэйшыя вопраткі і ўзьдзець залатыя кароны на іх галавы і даць ім магчымасьць упраўляць ральлю для іхнае ўласнае прыемнасьці, і ня болей. Нашым ганчаром гэтаксама павінна быць дазволена разьлегчыся навакол вогнішча і частавацца, і піць сабе віно колькі хто хоча і банкетаваць, падсунуўшы бліжэй ганчарскае кола, і займацца сваею ганчарскаю працаю колькі яны толькі хочуць. Гэтакім спосабам мы можам учыніць кажную грамадзкую групу шчасьліваю, — і тады, як ты сабе гэта ўяўляеш, усё гаспадарства будзе шчасьлівым. Не, не намаўляй нас да

гэтага, бо, калі мы цябе паслухаем, тады земляроб перастане быць земляробам, і ганчар — ганчаром, [421] дый наагул, ня будзе людзей з характарам, якія твораць сабою гаспадарства. Цяперака, гэта ня творыць сабою вялікага гора, калі карупцыя ў супольнасьці праяўляецца і прэтэнсыі быць тым, чым ты не зьяўляешся, адносяцца толькі да шаўцоў. Аднак, калі старожы права і ўрад адно толькі навонкі выдаюцца, а ў запраўднасьці старожамі не зьяўляюцца, тады ты станешся сьведкам, як яны разваляць гаспадарства да асноваў; і толькі яны адны мецімуць нагоду добра ўладзіцца і яшчэ ляпей чуцца. Мы маем на ўвазе, што нашыя старожы маюць быць праўдзівымі старожамі, а не зьнішчальнікамі гаспадарства, тады як наш апанэнт думае пра сялян, якія радуюцца гуляшчым жыцьцём, а не пра тых грамадзян, што выконваюць свае абавязкі для гаспадарства. І калі гэтак рэч маецца, тады мы маем на ўвазе іншыя рэчы, і ён гаворыць пра нешта, што́ не зьяўляецца гаспадарствам. Затым мы мусім разважыць, ці пры вызначаньні нашых старожаў, маем мы браць пад увагу іхнае найбольшае шчасьце кажнага паасобку, а мо' гэты прынцып павінен распасьцерціся на цэлае гаспадарства. І калі гэтае апошняе мае быць праўдаю, тады старожы і іхныя памочнікі і ўсе іншыя падобныя ім, мусяць супрацоўнічаць і трэба іх пераканаць, каб яны сталіся як найлепшымі майстрамі ў выкананьні свайго мастацтва. І гэтым цэлае гаспадарства будзе разрастацца і квітнець, а ўсім групам насельніцтва створацца ўмовы займець свой удзел у вагульным расьцьвеце ў вадпаведнасьці да іхных натуральных здольнасьцяў.

— Я думаю, — сказаў ён, — што ты добра гаворыш.

— Я астаюся зацікаўленым, — сказаў я, — ці ты згодзішся гэтаксама і зь іншаю заўвагаю, якая прытрапілася мне?

— Што ёсьць ёю?

— Існуюць дзьве прычыны пагоршаньня мастацтва майстроў.

— Што гэта за прычыны?

— Багацьце, — сказаў я, — і беднасьць.

— Як яны ўзьдзейваюць?

— Працэс тут адбываецца гэтак: Ці захоча, па-твойму, ганчар, які разбагацеў, дасканаліцца ў сваім мастацтве?

— Зусім не, — сказаў ён.
— Ён будзе барджджэй болей павольным у працы і неахайным?
— І вельмі нават.
— І вынік гэтага будзе такі, што ён станецца горшым ганчаром?
— Так; ён станецца горшым майстрам.
— І зноў-жа, у іншым выпадку, калі ён з прычыны свае беднасьці не зьяўляецца ў стане прыдбаць сабе патрэбнае прыладзьдзе да працы, дык вырабы ягоныя будуць горшымі, і ён ня зможа навучыць гэтага мастацтва сваіх сыноў і іншых чаляднікаў.
— Напэўна, не.
— Значыцца, з тае прычыны і іншае — з прычыны беднасьці, як і з прычыны багацьця — горшымі стаюцца гэтак ганчары як і іхныя вырабы.
— Гэта зусім зразумела.
— І тут мы падыйшлі да новага выкрыцьця зла, — сказаў я, — якога павінны высьцерагацца нашыя старожы, бо інакш яно неспасьцярожна пракрадзецца ў нашае гаспадарства.
— Якое-ж гэта зло?
— Зло багацьця, — сказаў я, — і беднасьці; [422] першае вядзе да раскошы, ляноты, навізнаў, а другое, апрача навізнаў, — да цемры, нікчэмнасьці і злачынстваў.
— Так, гэта праўда, — сказаў ён; — але ўсё-ж, я хацеў-бы ведаць, Сакратас, наколькі нашае гаспадарства будзе моцным, каб весьці вайну тады, калі яно ня мае ніякага грашовага скарбу, асабліва, калі пойдзе супроць ворага, які зьяўляецца багатым і магутным?
— Ведама, — сказаў я, — ваяваць з адным гэтакім гаспадарствам было-б яму цяжка, але з двума — лёгка.
— Як гэта? — запытаў ён.
— Перад усім, — сказаў я, — калі мы ўжо маем змагацца, дык нашая старана меціме падрыхтаваных ваяроў, якія будуць змагацца з арміяю багатых людзей.
— Так, гэта праўда, — сказаў ён.
— Ці-ж не здаецца табе, Адэімантос, — сказаў я, — што аднаму кулачнаму змагару, які добра падрыхтаваны ў сваім мастацтве, будзе лягчэй змагацца з двума добра выпасенымі і багатымі спадарамі, але не падрыхтаваны-

мі да падобнае бойкі?

— Цяжка, — сказаў ён, — калі два нападуць аднначасна.

— Зусім не, — сказаў я, — калі ён будзе здольным адбегчы, а тады, адвярнуўшыся, удырыць таго, хто першы набяжыць. А калі паўторыць гэтакі рух некалькікратна, ды яшчэ ў сонечнай сьпякоце парнага дня, дык што? хай сабе ён і ня будзе экспэртам, але ён пакоціць болей чымся аднаго гэтакага таўстуна.

— Напэўна, — сказаў ён, — і ў гэтым нічога ня будзе своеасаблівага.

— А ўсё-ж, багатыя людзі праўдападобна маюць большую перавагу ў пазнаньні і практыкаваньні ў кулачным змаганьні, чымся ў якасьці ваенных справаў.

— Напэўна, — сказаў ён.

— Затым мы можам меркаваць, што нашыя атлеты будуць здольнымі змагацца з двойчым і нават з тройчым лікам праціўнікаў.

— Я згаджаюся з табою, — сказаў ён, — бо мне здаецца, што ты да рэчы кажаш.

— І далей. Прымем, што перад тым як уступіць у змаганьне, нашыя грамадзяне вышлюць сваіх прадстаўнікоў у вадно з двух гаспадарстваў і скажуць ім праўду: "Золатам і серабром мы не карыстаемся — гэта забараняецца нам, але вам — можна; затым хадзеце да нас і змагайцеся разам з намі і вазьмеце нашую долю здабычы іншага гаспадарства": — Хто, чуючы гэтакія словы, захоча змагацца супроць худых, жылістых сабакаў, а не барджджэй зь імі — супроць атлусьцелых і мяхкацелых авечак?

— Думаю, што ніхто, — сказаў ён. — А ўсё-ж, магчыма, крыецца небясьпека для беднага гаспадарства, калі багацьці некалькіх гаспадарстваў будуць сузграмаджаны ў вадным.

— Ты вельмі наіўны, — адказаў я, — калі ўжываеш слова "гаспадарства" ў аднясеньні да якога-небудзь іншага, апрача нашага ўласнага!

— Чаму? — запытаў ён.

— Ты павінен гаварыць, — сказаў я, — пра іншыя гаспадарствы ў множным ліку; ані адно зь іх не зьяўляецца местам, але некалькі местаў, як ігракі выражаюцца ў часе гульні. Бо і запраўды, кажнае места, бяз розьніцы, як малым яно ёсьць, фактычна падзелена на два, [423]

адно — гэта места бедных, а другое — багатых; і яны зьяўляюцца адно супроць другога ў стане вайны; і ў кажным існуе некалькі распадзяленьняў, і ты разыйдзешся з запраўднасьцю, калі ты ўважацімеш іх як адно непадзельнае гаспадарства. Але калі ты ўваходзіш зь імі ў дачыненьні, як з шматлікімі, і перакажаш багацьце або сілу, або людзей аднае часткі да іншае, заўсёды здабудзеш сабе шматлікіх прыяцеляў і ня многіх ворагаў. І тваё гаспадарства, калі яно ўпраўляецца разумнымі пастановамі, якія нядаўна былі намі ўведзены, будзе найбольшым гаспадарствам; я не кажу пра славу або пра вонкавы выгляд, але пра запраўдную магутнасьць, нават тады, калі лік яго абаронцаў будзе ня большым аднае тысячы. Гаспадарства, падобнае да гэтага насілу ці можа быць знойдзеным сярод гэльленаў або барбараў, хоць здадумана вялікіх аграмадная колькасьць і яны некалькікратна большыя за нашае гаспадарства. А мо' думаеш ты інакш?

— Напэўна не, — сказаў ён.

— І якое, — сказаў я, — будзе найлепшым вымежаваньнем для нашых кіраўнікоў у прадмеце плянаваньня памеру і колькасьці тэрыторыі, якую яны маюць уключыць у нашае гаспадарства, па-за межы якое яны ня пойдуць далей?

— Якое абмежаваньне ты прапануеш? — запытаў ён.

— Я дазволіў-бы ўзрастаць гаспадарству да межаў, усузгодненых зь ягонаю адзінасьцю; гэта, я думаю, зьяўляецца адпаведнаю мяжою.

— Вельмі добра, — сказаў ён.

— Тут затым, — сказаў я, — знаходзіцца іншы загад, які мае быць дадзены нашым старожам: яны павінны ўважаць, каб нашае гаспадарства ня было ані вялікім, ані малым, яно павінна быць у межах самадастатковасьці і адным.

— Напэўна, — сказаў ён, — гэта ня вельмі цяжкі загад, які мы ўскладваем на іх.

— Іншы загад, — сказаў я, — пра які мы ўжо гаварылі раней, ёсьць яшчэ лягчэйшым: я маю тут на ўвазе абавязак перамяшчэньня на іншыя становішчы нашчадкаў старожаў з прычыны ґенэтычнае спадчынасьці і ўзьняцьця да ранґі старожаў нашчадкаў ніжэйшае клясы на дарозе натуральнае вышэйшасьці. Замер тутака гэтакі,

каб — у аднясеньні да ўсіх грамадзян, — кажны індывідуум быў пастаўлены да аднае чыннасьці, да якое натура вызначыла яго, адзін чалавек да аднае працы, і тады, кажны будзе выконваць сваё заданьне, і ў сваей суцэльнасьці гаспадарства станецца адным і не шматлікім.

— Так, — сказаў ён, — гэта ня выдаецца трудным.

— Вымаганьні, якія мы ўводзім, мой добры Адэімантос, не зьяўляюцца, як-бы хто-небудзь думаў, лікам вялікіх прынцыпаў, але, як той казаў, калі ўзятыя разам, выражаюць сабою вялікую рэч — рэч, якую я барджджэй назваў-бы не вялікаю, але дастатковаю для нашае мэты.

— Што ёю можа быць? — запытаў ён.

— Навучаньне, — сказаў я, — і ўзгадаваньне. Калі нашыя грамадзяне будуць добра навучанымі і стануцца разумнымі людзьмі, яны ясна будуць бачыць шлях, што раскрываецца перад імі, і будуць ведаць як пступіць зь іншымі рэчамі, якія мы цяпераka прамінаем, напрыклад, справа знойдзеньня сабе жанчыны і жанімства, прокрэацыя дзяцей, і ўсё гэта будзе адбывацца ў межах [424] выслоўя, якое кажа, што ў сяброў усе рэчы супольныя.

— Я думаю, — сказаў ён, — што гэтак было-б найляпей.

— Гэтаксама, — сказаў я, — рэч маецца і з гаспадарствам, калі ўчыніцца добры першапачатак, тады яно кранецца наперад, набіраючы сілы, як калясо. Бо добрае ўзгадаваньне і адукацыя стаюцца вытокам добрых натуральных пачаткаў чалавека, і гэтыя добрыя натуральныя пачаткі, зноў-жа, дзякуючы ўзгадаваньню і навуцы стаюцца яшчэ лепшымі і пераказваюцца сваей нашчаднасьці, што назіраем у навакольным жывым сьвеце.

— Вельмі магчыма, — сказаў ён.

— Коратка кажучы: Важным тут стаецца, і перад усім, увага нашых старожаў павінна быць накіравана на тое, што мўзыка і ґімнастыка маюць быць захаванымі ў іхнай першабытнай хворме, ня ўводзячы ніякіх навізнаў. Яны павінны дакладаць усякае стараньне, каб яны асталіся недаткнутымі. І калі нехта будзе цьвердзіць, што людзі

паважаюць найболей той верш новамодны,
Што слухачам мілагучны й нядаўна паэты ўклалі,

дык яны павінны найболей высьцерагацца, што ён можа выхваляць ня новыя песьні, але новы спосаб песьні; і

гэтага ня трэба выхваляць, або разумець, што гэта ёсьць думка паэты. Бо кажная музычная іннавацыя выяўляе сабою небясьпеку для цэлага гаспадарства, і павінна быць забароненаю. Гэтак бо кажа мне Дамон — і я зусім веру яму — што калі музычная напеўнасьць зьменьваецца, гэтаксама і фундамэнтальныя правы гаспадарства зьіначваюцца разам зь ёю.

— Так, — сказаў Адэімантос, — далучы і мяне да ліку тых, што вераць яму.

— Тады, — сказаў я, — нашыя старожы, павінны тут закладаць абаронныя пасты дзеля іхных крэпасьцяў у музыцы.

— Так, — адказаў ён; — бо бясправўнасьць, пра якую ты гаворыш, можа лёгка пранікнуць.

— Так, — сказаў я, — пад дайманом нявіннае забавы.

— У запраўднасьці, — сказаў ён, — гэтакае праніканьне спрычыняе шкоду; ці-ж ня гэтак, што крышку па крышцы прасочваецца дух разбэшчанасьці, знаходзячы сабе паддашша, а пасьля неспасьцярожна пранікае ў навыкі і звычаі; згэтуль, выцякаючы ўжо з большаю сіламоцаю, залівае дамоўленасьць паміж чалавекам і чалавекам, і далей, з гэтае дамоўленасьці паміж людзьмі ўваходзіць у дзялянку праваў і канстытуцыяў, і ў найвышэйшай бесцэрэмоннасьці, канчае нарэшце, Сакратас, тым, што разбурвае ўсе правы гэтак прыватныя, як і грамадзкія.

— Ці-ж запраўды рэч гэтак маецца? — сказаў я.

— Гэтак мне выдаецца, — адказаў ён.

— Тады, як я ўжо і сказаў, нашыя дзеці з самага пачатку павінны прывучацца, нават пры гульнях, да здысцыплінаванае сыстэмы, бо, калі забавы будуць адбывацца ў бязладзьдзі і дзеці не перасьцерагацімуць правілаў, [425] тады яны ніколі ня выростуць у грамадзян з добрымі манерамі і мужнымі.

— Вельмі праўдзіва, — сказаў ён.

— Калі дзеці мецімуць добры пачатак у сваіх гульнях, і пры помачы музыкі здабудуць вычуцьцё парадку, тады гэты навык прывядзе іх да вычуцьця права і, у супроцьлежнасьць да дзяцей без перасьцераганьня парадку, гэтыя навыкі будуць, стала ўзрастаючы, весьці іх ўва ўсім, нават у кірунку палепшаньня гаспадарсьцьвенага строю, калі выявіцца што-небудзь з хібаў у ім.

— Вельмі праўдзіва, — сказаў ён.

— Затым, будучы адукаванымі, яны вынайдуць для самых сябе нормы для рэчаў, якія ўважаюцца за нязначныя, і што іхныя папярэднікі аднак занядбалі.

— Што ты маеш на ўвазе?

— Я маю на ўвазе вось якія рэчы: калі дзецям належыцца маўчаць у прысутнасьці старшых; як яны маюць выказаць сваю пашану для іх, устаючы і ўступаючы ім месца; які гонар належыцца бацьком; якую вопратку ці абутак яны маюць насіць; як яны чэшучы, маюць укладваць свае валасы; манера і ўменьне трымаць сябе належна. Ці згаджаешся ты са мною?

— Так, згаджаюся.

— Я, аднак, думаю, што ня было-б вялікае мудрасьці ў тым, каб падобныя рэчы рэгуляваць правам — я сумняваюся, ці гэта наагул калі-небудзь практыкавалася; дый гэтакія пастановы так ці інакш — ня ўтрымаюцца, хоць-бы яны нават і на пісьме былі вылажаны.

— Чаму?

— Гэта выглядае, Адэімантос, што напрамак, у якім адукацыя пачынае весьці чалавека, будзе вырашаць ягонае будучае жыцьцё. Ці-ж падобнае ня выклікваецца падобным?

— Я думаю, што так.

— І гэтак прыймае постаць, як сказалі-б мы, дасканалы і ўхвармаваны вынік: або дабро, або ягоная супроцьлежнасьць.

— Гэтага ня можна запярэчыць.

— З гэтае прычыны, — працягваў я далей, — я нават і ня пробаваў-бы пакуль што тварыць правы ў гэтай галіне.

— Натуральна, — сказаў ён.

— Ну, добра, — сказаў я; — а што, калі заходзіць патрэба праўна выказацца адносна аґоры, гэта значыць адносна ўсіх гандлёвых справаў, якія могуць займець месца на рынку, калі чалавек з чалавекам дамаўляецца пра нешта, або дамоўленасьцяў паміж рамесьнікамі, сварак, бойкаў, або адносна падаваньня ў суд, вызначаньня лаўнікаў; і што ты скажаш? Гэтаксама могуць узьнікнуць пытаньні і адносна рынкавых аплатаў як і партовых, інакш кажучы, адносна ўсяго, што адносіцца да справаў рынку, места і порту, і падобнага?

— Я думаю, — сказаў ён, — што нямашака патрэбы распасьціраць правы на людзей добра ўзгадаваных; у бальшыні выпадкаў яны самыя зразумеюць, якія тут вымігацімуцца правы.

— Так, мой дружа, — сказаў я, — калі толькі Бог дазволіць ім утрымаць тыя правы, якія мы ўжо далі ім.

— А калі не, — сказаў ён, — дык усё іхнае жыцьцё будзе мінаць у тварэньні шматлікіх правоў і папраўак да іх, зь меркаваньнем, што гэткім спосабам яны асягнуць дасканаласьць.

— Ты можаш параўнаць іх, — сказаў я, — да таго хворага чалавека, каторы з прычыны разбэшчанасьці, не жадае сабе зыйсьці са свайго дрэннага шляху жыцьця.

— Якраз гэтак. [426]

— Так, — сказаў я, — і што за прыгожае жыцьцё мецімуць яны! Яны заўсёды лечаць сябе і гэтым толькі ўскладняюць сваю нядужасьць, і адначасна спадзяюцца выздаравець, калі толькі хто-небудзь прыраіць ім новы лек.

— Падобныя выпадкі здараюцца вельмі часта, — сказаў ён, — дый хворыя падобнага роду прытрапляюцца.

— Так, — адказаў я; — і вельмі забаўным ёсьць тое, што сваім найболей лютым ворагам яны ўважаюць таго, хто кажа ім праўду, простая сутнасьць якое ў тым, што, пакуль яны не перастануць напівацца і наядацца, аддавацца любоўным уцехам і гультайству, не памогуць ім ніякія лекі, ані прыпальваньні, ані раскрої, загаворы ці амулеты і іншыя падобныя рэчы.

— Нічога ня бачу ў гэтым забаўнага, — адказаў ён. — Дый што можа быць забаўным, калі трапныя выказваньні выклікваюць злосьць у людзей?

— Здаецца, — сказаў я, — што гэтыя людзі не знаходзяць у цябе добрае ласкі?

— Напэўна, не.

— Гэтаксама ня мецімеш ты ласкі і для гаспадарства, якое ў сваей суцэльнасьці паступае як вунь тыя людзі, якіх ты вырысоўваў. Бо ці-ж нямашака падобна дрэнных гаспадарстваў, у якіх забараняецца грамадзянам пад караю сьмерці крытыкаваць і папраўляць канстытуцыі? А той, хто стараецца быць прыемным і дагаджаць грамадзянам, што знаходзяцца пад гэтакім кіраўніцтвам, падлабуньваецца перад імі, забягае наперад іхным жаданьням і ахвочым зьяўляецца выканаць іх, гэтакі добра

ўладжваецца, будзе ўважацца за добрага чалавека, станецца мудрым у важных справах, а грамадзяне дарыцімуць яго высокімі гонарамі. — Ціж гэтакія гаспадарствы не прыпамінаюць табе тых людзей, пра якіх ты нядаўна казаў?

— Так, — сказаў ён; — гэтыя гаспадарствы зьяўляюцца гэтакімі-ж дрэннымі, як і тыя людзі.

— Але ты не захопліваешся, — сказаў я, — супакоем і спрытам тых міністраў, якія праяўляюць палітычную карупцыю?

— Так, — сказаў ён, — я захопліваюся, але ня ўсімі, бо між імі знаходзяцца гэтакія, у каторых апляуз натоўпу вытварыў веру, што яны зьяўляюцца праўдзівымі гаспадарсьцьвенымі мужамі; і гэтымі няма чаго шмат захопліваца.

— Што ты маеш на ўвазе? — запытаў я. — Ці-ж ты не згаджаешся зь імі? Калі чалавек ня можа мерыць, і вялікая колькасьць людзей гэтаксама ня ўмее мерыць, тады яны пераконваюць яго, што ён вышынёю ў чатыры локці; ён-жаж усё яшчэ ў стане думаць, што не зьяўляецца гэтакім?

— Не, — сказаў ён, — ня ў гэтакім выпадку.

— Тады няма чаго злавацца на іх. Яны зьяўляюцца найлепшымі людзьмі на сьвеце, каторыя стала выдаюць правы, і ўсенькі час папраўкі да іх уносяць, з замерам скончыць з ашуканствамі ў гандлёвых справах, і з усімі злачынствамі, якія ўжо ўспаміналіся; але вось як і сказаў я, яны не здаюць сабе справы, што ў запраўднасьці яны ўпадабняюцца да людзей, каторыя расьсякаюць гідру.

— Так, — сказаў ён; — гэта і ёсьць якраз тое, што́ яны чыняць. [427]

— Я разумею, — сказаў я, — што запраўдны правадаўца ў дрэнна ці добра ўладжаным гаспадарсьцьве, ня будзе шмат турбавацца пра гэтакі род праваў, бо, папершае, яны бязвартасныя, а па-другое, кажны чалавек можа ўвесьці, бяз розьніцы кім ён зьяўляецца, а ў іншых выпадках, яны вынікаюць натуральна з нашых папярэдніх праваў.

— Што-ж яшчэ, — запытаў Адэімантос, — астаецца для нас з галіны правадаўства?

— Нічога для нас, — адказаў я; — але для Апольлёна, што ў Дэльфах, астаецца ўвядзеньне права адносна най-

большых і найболей шляхэтных і важнейшых з усіх рэчаў.

— І што імі ёсьць? — запытаў ён.

— Імі зьяўляюцца: устанаўленьне сьвятыняў і ахвяраваньняў, і суцэльная служба багам, гэніям і героям; гэтаксама ўладжаньне паховінаў памершых, і тое, што трэба рабіць таму, хто хоча ласку прыдбаць сабе тых, што знаходзяцца ў сьвеце нізоў. Гэта ўсё рэчы, адносна якіх мы самыя астаемося ў няведаньні, але, як заснавальнікі гаспадарства, ня будзе з нашае стараны мудрым, даручыць падобныя справы якому-небудзь іншаму вучыцелю, апрача прабацькаўскаму. Ён зьяўляецца богам, які пасад свой мае ў цэнтры на зямлі і ёсьць найлепшым райцам, і выказвае ў гэтых справах свае словы для ўсяе людзкасьці.

— Вельмі прыгожа выражана, — сказаў ён, — гэтак і паступім.

— Але, — сказаў я, — у васяродзьдзі ўсяго гэтага, дзе-ж знаходзіцца справядлівасьць? Сын Арыстона, скажы мне — дзе? Цяперака, калі мы ўжо паклікалі да жыцьця гаспадарства, годнае для жыцьця, запалі сьветач і шукай, і вазьмі на помач свайго брата і Полемархоса і іншых, і давайце паглядзімо, дзе ў ім знойдзем мы справядлівасьць і дзе — несправядлівасьць, і чым яны розьняцца адна ад другое, і каторую частку зь іх трэба чалавеку займець, каб быць шчасьлівым, і ўсяроўна, хаваецца ён ад багоў і людзей ці не хаваецца.

— Глупства, — азваўся Ґляўкон, — ці-ж ня ты гэта быў, каторы прырок знайсьці яе сам, кажучы, што для цябе, не дапамагчы справядлівасьці, калі яна патрабуе помачы, будзе роўназначна бязбожнасьці?

— Зусім трапна, — сказаў я, — ты прыгадаў мне, і я пастараюся быць гэтак добрым, як маё слова; але ты мусіш памагчы мне.

— Калі ласка, — сказаў ён, — мы гатовы.

— Тады, я спадзяюся, — сказаў я, — правесьці пошукі гэтак: я маю на ўвазе выйсьці з залажэньня, што наша гаспадарства добра ўладжана і дасканалым ёсьць.

— Абавязкава, — сказаў ён.

— Калі яно дасканалым ёсьць, тады яно мудрым ёсьць, харобрым, разважным і справядлівым.

— Ведама.

— Цяпер, пры наяўнасьці таго, штó мы знойдзем, усё іншае будзе нязнойдзеным?

— Што ты маеш на ўвазе? [428]

— Калі-б мы мелі на ўвазе чатыры рэчы, і калі-б мы шукалі адну зь іх, і хацелі ведаць, дзе яна ёсьць, і ўгледзелі-б яе, дык яна была-б ведамаю для нас як першая; але, калі пазнацімем першыя тры, тады мы знойдзем і пазнáем адну, якую шукаем, бо-ж яна будзе рэчаю нязнойдзенаю.

— Ты правільна кажаш, — сказаў ён.

— Ці-ж не павінны мы шукаць мужнасьцяў, якія гэтаксама твораць лік чатыры?

— Ясна.

— Першая з пасярод знойдзеных мужнасьцяў у гаспадарсьцьве, выступае мудрасьць, хоць зь ёю справа прадстаўляецца крыху дзіўна.

— Чаму? — запытаў ён.

— Гаспадарства, якое мы вырысавалі, здаецца, мае быць гэтак мудрым, як добраю зьяўляецца ягоная рáда?

— Алé.

— А добрая рада выразна выступае, як свайго роду веданьне, бо-ж не ігнаранцыя, але веданьне чыніць раду добраю?

— Ведама.

— І ў гаспадарсьцьве можна сустрэць шматлікія і рознаякія веды?

— Ведама.

— Існуе веданьне цесьлі. Але ці-ж гэтакае веданьне дае гаспадарству права называцца мудрым з добраю радаю?

— Зусім не; бо інакш трэба было-б назваць яго цесьлярскім.

— Тады, гаспадарства ня можа быць названа мудрым затым толькі, што мае веданьне, я́к практычна тасаваць драўляны матэрыял?

— Напэна не.

— Ані гэтаксама з прычыны веданьня, на падставе якога раіць як карыстацца бронзаю, — сказаў я, — ані з прычыны здабыцьця іншых падобных ведаў?

— Гэтаксама і не з прычыны гэтых ведаў, — сказаў ён.

— Ані гэтаксама веданьня спосабу выдабываньня пладоў з зямлі, бо гэта дало-б прыкмету гаспадарству, як

земляробскага?

— І мне гэтак выдаецца.

— І што-ж? — сказаў я, — ці існуе ў нашым новазбудаваным гаспадарсьцьве сярод грамадзян гэтакае веданьне, якое раіць, але не адносна якое-небудзь апрычонае рэчы ў гаспадарсьцьве, але адносна суцэльнасьці, і паддае пад развагу, як гаспадарства можа найляпей кіравацца само ў сабе і мець дачыненьні зь іншымі гаспадарсвамі?

— Напэўна існуе.

— Якое-ж гэта веданьне? — запытаў я, — і сярод якіх людзей можна знайсьці яго?

— Гэта веданьне старожаў, — адказаў ён, — і можа быць знойдзеным сярод тых кіраўнікоў, якіх нядаўна назвалі мы дасканалымі старожамі.

— І што-ж гэта за імя, якое гаспадарства атрымлівае з гэтакага роду веданьня?

— Імя добрага ў сваей радзе і запраўды мудрага, — сказаў ён.

— І што ты думаеш, — сказаў я, — будзе ў нашым гаспадарсьцьве болей кавалёў ці болей запраўдных старожаў?

— Кавалёў, — адказаў ён, — шмат болей.

— Ці ня будуць старожы тварыць сабою крыху меншую групу з-пасярод тых, што атрымліваюць сваё імя зь якога-небудзь веданьня ў межах свае прафэсыі?

— Так, крыху меншую.

— Згэтуль вынікае, што, з прычыны найменшае групы насельніцтва і з прычыны веданьня, якое ўмясцоўлена ў гэтай групе, што ачольвае і кіруе, — цэлае гаспадарства, гэтак утворанае ў сузгоднасьці з натураю, будзе мудрым. [429] І тое, што мае толькі веданьне, з прычыны якога стаецца годным, каб было названа мудрым, прадназначылася натураю з усіх групаў быць найменшаю.

— Найболей праўдзіва ты кажаш, — сказаў ён.

— Гэтым, — сказаў я, — свомасьць і месца ў гаспадарсьцьве аднае з чатырох мужнасьцяў, ня ведаю нават якім спосабам, знайшлі мы.

— Мне здаецца, — сказаў ён, — што мы яе знайшлі і дастаткова паясьнілі.

— І зноў-жа, — сказаў я, — характар адвагі ня гэтак ужо і трудна паясьніць, і ў якой частцы вартасьць яе

ўмясцоўлена, якая надасьць імя адважнага гаспадарства.

— Як ты разумееш гэта?

— Чаму, — сказаў я, — кажны чалавек, які называе гаспадарства адважным або безадважным, мае на ўвазе тую частку грамадзян, якія ваююць і змагаюцца за яго?

— Ніякі чалавек, — сказаў ён, — ня будзе зьвяртаць увагі на нішто іншае.

— Рэшта грамадзян можа быць баязьліваю або адважнаю; але іхная адвага або баязьлівасьць ня мецімуць, як мне здаецца, рашаючага ўплыву на гаспадарства, каб учыніць яго такім або гэтакім.

— Напэўна не.

— Гаспадарства будзе адважным праз лепшую частку самога сябе, якая захаваецца і будзе перасьцераганаю ў кажных абставінах, што пагляд адносна натуры рэчаў, якіх трэба баяцца і тых, што ня трэба баяцца, у якіх наш правадаўца ўзгадаваў іх. Ці ня гэта ты называеш адвагаю?

— Я хацеў-бы, — сказаў ён, — паслухаць яшчэ раз тое, штó ты сказаў, бо я ня вельмі зразумеў цябе.

— Я думаю, — сказаў я, — што харобрасьць ёсьць нейкім родам захаванасьці.

— Захаванасьці чаго?

— Думкі пашаны рэчаў, якіх маюць людзі баяцца, — што яны такое і якое яны натуры. Узьнікае гэтакая думка з прычыны ўзгадаваўчага ўплыву права; і, кажучы "ў кажных абставінах", я маю на думцы, што ў здаволеньні ці ў цярпеньні, пад уплывам жаданьня або страху, чалавек павінен захаваць і ня згубіць гэтае думкі. Ці маю я зьілюстраваць гаворанае?

— Калі ласка.

— Як табе ведама, — сказаў я, — хварбавальнікі, хочучы выхварбаваць воўну на пурпурны колер, перш з агульнае колькасьці і розных адценяў воўны, выбіраюць самы белы колер; пасьля старанна выпрацоўваючы, падрыхтоўваюць яе гэтак, каб яна найляпей успрыня́ла пурпурны колер, і нарэшце хварбуюць. Выхварбаваная гэтакім спосабам воўна ўжо ня ліняе, і мыцьцё, хай сабе з лугам ці безь яго, ня ўзьдзейвае на колер. Бо інакш, ты сам ведаеш, штó здараецца, калі хварбуюць — усяроўна на гэты колер ці іншы, — бяз грунтоўнае падрыхтовы.

— Ведаю, — сказаў ён, — як хварба змываецца і як сьмешна яна выглядае.

— Дык вось цяперака, — сказаў я, — ты будзеш разумець, штó мы маем на ўвазе ў даборы нашых ваяроў і іхнае адукацыі ў музыцы і ґімнастыцы. [430] Мы знаходзімся ў пошуках тых уплываў, якія падрыхтавалі-б іх да ўспрыняцьця — калі можна гэтак сказаць, — у дасканаласьці хварбы права і колеру іхнае ацэны што да небясьпекаў, і ў іншых выпадках стануць рашучымі, дзякуючы натуральным свомасьцям і атрыманаму ўзгадаваньню, і гэтае хварбы ня можна будзе змыць ніякім моцным лугам, як прыемнасьць, напрыклад, якая дзейнічае мацней, чымся халестрыйская сода і попел; ані турботаю, страхам ці жаданьнем — гэтым найбольшым з усіх іншых (хэмічных) распушчальнікаў. Вось гэты нейкі род сілы сусьветнае захаванасьці праўдзівае думкі ў сузгоднасьці з правам адносна рэчаіснае і здадуманае небясьпекі, я называю і ўтрымліваю як харобрасьць, калі ты не запярэчыш.

— Згаджаюся, — сказаў ён, — бо, як і здагадваюся я, ты адхіляеш набок толькі простую неадукаваную адвагу, гэтакую, якую назіраем у сьвеце зьвярыным або сярод нявольнікаў — і гэта, паводля тваё думкі, не зьяўляецца харобрасьцю, наказванаю правам, і мае мець іншы назоў.

— Ты трапна кажаш, — сказаў я.

— Тады я выснаў раблю, што харобрасьць мае быць гэтакаю, як ты апісаў яе.

— Дзеля лепшага разуменьня, — сказаў я, — згадзіся яшчэ і з тым, што тут гутарка ідзе пра грамадзкую харобрасьць. Пазьней, калі ты хочаш, мы можам яшчэ болей гаварыць на гэтую тэму, але цяперака мы досьледвядзем адносна справядлівасьці; і дзеля памыснасьці нашага досьледу, пра адвагу гаварыць, пакуль што спынімся.

— Вельмі прыгожа кажаш ты, — адказаў ён.

— Яшчэ дзьве свомасьці нашага гаспадарства, — сказаў я, — трэба выкрыць, — перш разважнасьць, а пасьля тое, што сталася прычынаю нашага досьледу — справядлівасьць.

— Вельмі добра.

— Як можам мы перш знайсьці справядлівасьць, каб не турбавацца нам разважнасьцю?

— Я ня ведаю, — сказаў ён, — як гэта можа быць асягнута і не хацеў-бы, каб справядлівасьць была ўвыпуклена, а разважнасьць згублена з спазору нашага; затым, я жадаў-бы сабе, каб ты ўчыніў мне ласку і выказаўся перш адносна разважнасьці.

— Калі я не памыляюся, — сказаў я, — дык я і хачу, і павінен гэта ўчыніць.

— Тады пачынай, — сказаў ён.

— Так, — адказаў я; — я пачну. Гэтак далёка, як я магу цяперака бачыць, разважнасьць ма́е болей у сабе са свомасьцяў гармоніі і сугучнасьці, чымся тыя папярэднія.

— Як гэта?

— Разважнасьць, — адказаў я, — зьяўляецца загадам або кантролям пэўных прыемнасьцяў і жаданьняў, і з гэтае прычыны цікавым выступае выслоўе, якое кажа, што "Чалавек зьяўляецца панам самога сябе", і іншыя падобныя выражэньні можна сустрэць у штодзеннай мове.

— Зусім правільна, — сказаў ён.

— У выражэньні "панам самога сябе" ёсьць нешта са сьмехатворнасьці, [431] бо тут пан зьяўляецца слугою і слуга — панам; і ўва ўсіх гэтых спосабах выражэньня гутарка ідзе пра аднаго і таго самага чалавека.

— Ведама.

— Значэньне гэтага, як мне выдаецца, ляжыць у тым, што ў душы людзей знаходзіцца нейкі першапачатак добрага і дрэннага: і калі лепшае пераймае ўладу над дрэнным, тады чалавек зьяўляецца панам над самым сабою; і гэта ёсьць пахвалаю; калі-ж з прычыны дрэннага ўзгадаваньня або гэтакага-ж асяродзьдзя, лепшы першапачатак зьяўляецца меншым, і тады апаноўваецца ён большаю масаю дрэннага — у гэтакім выпадку яго папракаюць і называюць нявольнікам самога сябе або чалавекам беспрынцыповым.

— Так, гэта знаходзіць сваё апраўданьне, — сказаў ён.

— А цяперака, — сказаў я, — паўзірайся на нашае новастворанае гаспадарства і ты знойдзеш тамака гэтыя дзьве абумоўленасьці. Бо гаспадарства, як ты і згодзішся з гэтым, з апраўданьнем можа быць названа панам самога сябе, калі выражэньні " разважнасьць" і "саманаваньне" запраўды выражаюць панаваньне лепшае

часткі над горшаю.

— Цяперака я бачу, — сказаў ён, — што ты кажаш праўду.

— Няхай мне будзе дазволена далей адцеміць, што шматлікасьць і скамплікаванасьць прыемнасьцяў, жаданьняў і цярпеньняў галоўна можна знайсьці ў дзяцей і жанчын, у слугаў і ў гэтак званых свабодных людзей, штó твораць сабою ніжэйшы пласт і лічнымі зьяўляюцца.

— Напэўна.

— Але простыя і памяркоўныя жаданьні, якія прадумана кіруюцца розумам і яснаю думкаю, знаходзяцца пад уплывам мудрага пагляду і праўдзівае разважнасьці, і сустрэць іх можна толькі ў нешматлікіх людзей, лепшых паводля свае натуры і ўзгадаваньня.

— Праўдзіва, — сказаў ён.

— Гэтыя два зьявішчы, як ты магчыма і спасьцярог, знаходзяць для сябе месца ў нашым гаспадарсьцьве: малыя і вартыя жалю жаданьні большасьці падпарадкваюцца тамака разумным жаданьням меншасьці, гэта значыць — шляхэтным.

— Гэта я спасьцярог, — сказаў ён.

— Затым, калі існуе якое-небудзь гаспадарства, якое можа быць панам сваіх уласных прыемнасьцяў і жаданьняў, і панам самога сябе, дык гэта будзе нашае гаспадарства.

— Напэўна, — адказаў ён.

— Яно можа быць названа разважным, і гэта з тых самых прычынаў?

— Зусім магчыма, — сказаў ён.

— І зноў-жа, калі мае быць якое-небудзь гаспадарства, у якім кіраўнікі як і падуладныя згодзяцца што да пытаньня, хто мае кіраваць, дык гэта і будзе нашае гаспадарства. А мо' ты інакш думаеш?

— Зусім гэтак, — адказаў ён.

— І калі грамадзяне ўжо згадзіліся што да таго, у якой групе будзе знойдзена разважнасьць, — дык штó ты думаеш, сярод кіраўнікоў ці падуладных?

— Як мне здаецца, у абедзьвюх, — адказаў ён.

— Бачыш, — сказаў я, — мы трапна здагадваліся, што разважнасьць падобна да нейкага роду гармоніі?

— Чаму гэта?

— Чаму? — Гэта затым, што разважнасьць ня тое што

харобрасьць і мудрасьць, кажная зь якіх умясцоўваецца ў дадзеным часе ў якой-небудзь адной частцы гаспадарства, [432] і тады, адпаведна да гэтага, адна чыніць гаспадарства мудрым, а другая — адважным; разважнасьць-жа, якая распасьціраецца на суцэльнасьць гаспадарства дазваньня, праходзіць праз усю ґаму нотаў і творыць гармонію са слабых і сільных, з сярэдняе групы, і ўсяроўна, уважаеш ты іх за сільных ці слабых у мудрасьці або ў моцы, ці ў колькасьці або ў багацьці, ці ў чым-небудзь іншым. І затым, найболей трапна мы можам сказаць, што разважнасьць — гэта сузгоднасьць — у большай ці меншай ступені натураю абдораных, — што да права кіраваць для кажнага гэтак у гаспадарсьцьве, як і ў кажным паасобным чалавеку.

— Я зусім згодны з тваім выснавам, — сказаў ён.

— Добра. Затым, — сказаў я, — мы можам уважаць, што тры з чатырох свомасьцяў нашага гаспадарства мы ўжо ўвыпуклілі. Апошняя з гэтых свомасьцяў, якая чыніць гаспадарства прыналежным да мужнасьці ,
што яна сабою творыць? Дый сам адказ напрашваецца, што гэта — справядлівасьць.

— Ясна.

— Цяперака, Ґляўкон, наступіла пара́, калі мы падобна да паляўнічых, абкружым гэты гушчар і будзем зырка сачыць, каб справядлівасьць неўзнарок не прашмыгнулася нам і ня шчэзла з нашага кругазору і прапала; бо-ж яна напэўна недзе тут знаходзіцца ў гэтай краіне: глядзі і старайся заўважыць яе, а калі спасьцеражэш першым, зараз-жа накажы мне.

— Каб я адно толькі мог, — сказаў ён. — Барджджэй мне сьледаваць за табою, узіраючыся на тое, што́ пакажуць мне. — Гэта хіба і будзе ўсё тое, на што здольным я зьяўляюся.

— Дык уздымі малітву разам са мною і сьледуй, — сказаў я.

— Гэтак і ўчыню я, — сказаў ён, — а ты вядзі мяне.

— І запраўды, — сказаў я, — тутака непраходны гушчар, і цяжка што-небудзь разгле́дзець. Але ня гледзячы на гэта, мы мусім крочыць наперад.

— Тады, ідзем наперад.

Пасьля таго, як я нешта спасьцярог, я крыкнуў: Гэй, Ґляўкон, што за радасьць! Здаецца, мы напалі на яе

сьлед. Як відаць недалёка яна ўцякла ад нас!

— Гэта добрая вестка, — сказаў ён.

— І запраўды — разявякі-ж мы, — сказаў я.

— Чаму?

— Таму, мой даражэнькі, што яна з самага пачатку, ужо перад вякамі, круціцца пад нашымі нагамі, і мы на яе не зьвяртаем увагі; нічога ня можа быць болей сьмешным. Гэта падобна да таго чалавека, які якраз шукае тое самае, што́ трымае ў сваіх руках — і гэта самае здарылася з намі — мы глядзелі не на тое, што́ мы шукалі, але некуды ў далечыню. І затым, як мне здаецца, мы і не заўважылі яе.

— Што ты маеш на ўвазе? — запытаў ён.

— Я маю на ўвазе тое, што ў рэчаіснасьці праз доўгі час мінулага мы ўсё гаварылі пра справядлівасьць, але ня былі здольнымі распазнаць яе.

— Я стаюся зьнецярпліўленым, — сказаў ён, — з прычыны тваіх доўгіх уводзінаў.

— Тады, — сказаў я, — слухай і скажы, [433] ці ёсьць сэнс у тым, што́ мы на пачатку пастанавілі, — пры закладзінах нашага гаспадарства, — што кажны чалавек наагул павінен выконваць тое ці іншае мастацтва для цэласьці — і гэта, як мне здаецца, і ёсьць справядлівасьць. Тады ў васнову палажылі мы прынцып і часта гаварылі, калі ты толькі прыпамінаеш сабе, што адзін чалавек наагул павінен выконваць толькі адну рэч для гаспадарства, да чаго, пайменна, ягоная натура прытарнавала яго найляпей. *)

— Так, мы гаварылі гэтак.

— І далей, мы сьцьвердзілі, што справядлівасьць займаецца толькі сваею справаю і ня ўмешваецца ў чужыя; і пра гэта гаварылі мы і гэта перапаўтаралі, дый ад іншых чулі гэта самае.

— Так, гаварылі.

— Дык вось, мой дружа, — сказаў я, — займацца сваім абавязкам — гэта, бадай-што, і будзе справядлівасьць. Ці можаш ты мне сказаць, скуль я выводжу свой высnaў?

— Не, — сказаў ён. — але буду рад пачуць.

— Бо я думаю, што гэта зьяўляецца адзінаю свома-

*) Гл. б. 62 і далей.

сьцю, якая трывае ў гаспадарсьцьве, калі іншыя свомасьці, якія мы разглéдзелі — разважнасьць, харобрасьць і мудрасьць абмінаюцца; — і ў ім астаецца яшчэ тое, штó стварае магчымасьць прысутнасьці іх тамака і захаваньня; і мы казалі, што, калі гэтыя тры былі знойдзеныя намі, дык чацьвертая — будзе справядлівасьцю.

— Абавязкава, — сказаў ён.

— Калі-б трэба было вырашыць, якая з чатырох свомасьцяў, дарогаю свае прысутнасьці, уносіць найбольшую дасканаласьць у нашае места, ці будзе гэта сузгоднасьць кіраўнікоў і падуладных, або захаваньне ў старожах думкі ў сузгоднасьці з правам адносна праўдзівае натуры небясьпекі, або мудрасьць чуйнасьці ў кіраўніках, а мо' тое нешта іншае, штó я ўспамінаў, штó знаходзіцца ў дзіцяці і ў жанчыне, у нявольніку і ў свабодным чалавеку, у рамесьніку, у кіраўніку, у падуладным — тыя свомасьці, я маю на ўвазе, у кажным чалавеку, выконваючым сваю працу і які ня ўмешмаецца ў справы іншых — і ўсё гэта справы, на якія ня лёгка адказаць.

— Напэўна, — адказаў ён, — будзе цяжка сказаць, каторая з гэтых свомасьцяў.

— Затым, пытаньне адносна мужнасьці гаспадарства, выражанае ў хворме выкананьня грамадзянінам свае працы, як відаць, спаборнічае з мудрасьцю, разважнасьцю і харобрасьцю.

— І нават вельмі, — адказаў ён.

— З гэтага выходзіць, што і справядлівасьць уваходзіць у спаборніцтва зь імі за дасканаласьць гаспадарства?

— Напэўна.

— Давай паглядзімо на справу зь іншага пункту гледжаньня: Ці не зьяўляюцца гэта кіраўнікі гаспадарства, якім ты даручыш урад судовых провадаў?

— Дый як-жаж інакш?

— А ці-ж судовыя провады ня будуць апірацца на нішто іншае, але на тое, каб чалавек ня ўзяў нічога з таго, што належыць да іншага, і каб ён ня быў пазбаўлены таго, штó зьяўляецца ягонаю ўласнасьцю?

— Так; гэта ёсьць іхным прынцыпам.

— Бо гэта ёсьць прынцып справядлівасьці?

— Так.

— Значыць, на гэтым прыкладзе можна пераканацца,

што справядлівасьць заключаецца ў тым, каб кажны меў і чыніў тое, што́ ёсьць ягонаю ўласнасьцю і належыць да яго?

— Так гэта ёсьць. [434]

— Падумай цяперака і скажы, ці згодзішся ты са мною ці не. Прымем, што цесьляр выконвае працу шаўца або шавец — цесьляра; і далей, што яны замяніліся сваім прыладзьдзем або сваімі абавязкамі, або адзін і той самы чалавек выконвае працу за двух, або майстры памяняюцца месцамі; ці думаеш ты, што гаспадарства праз гэта дазнаціме большую шкоду?

— Ня вельмі вялікую, — адказаў ён.

— Цяперака, калі рамесьнік або які-небудзь іншы работнік, дзякуючы сваім натуральным здольнасьцям і свайму багацьцю як і чысьленымі сувязкамі, сіле і колькасьці сваіх прыхільнікаў пачне праяўляць натугі, каб перайсьці ў групу ваяроў, або хто-небудзь з ваяроў будзе чыніць стараньні, каб перайсьці ў лік сяброў праваўчае калегіі і старожаў, да чаго ён ня мае здольнасьцяў, дый да гэтага яшчэ памяняецца сваімі прыладамі і абавязкамі; або, калі адзін чалавек стаецца рамесьнікам, правадаўцам і ваяром і, калі ўсё гэта захоча выконваць у вадным і тым самым часе, тады, я думаю, што ты згодзішся са мною і скажаш, што гэтакае чарадаваньне ў зьмене і праніканьне аднаго чалавека ў справы іншага — зьяўляюцца руінаю для гаспадарства.

— Поўны заняпад.

— Затым, уваходжаньне адзін аднаму ў дарогу гэтых трох розных сабе групаў і пераход з аднае групы ў іншую — гэта вялікая шкода для гаспадарства і апраўдана можа быць ўважацца за аграмадны праступак.

— Зусім правільна.

— Зноў-жа, ці аграмадны праступак супраць свайго гаспадарства не называеш ты несправядлівасьцю?

— І чаму не?

— Вось гэта і ёсьць несправядлівасьць. І з другога боку, калі рамесьнік, памочнік і старожа выконваюць працу ім прадназначаную — гэта і будзе справядлівасьць, і гэта і места ўчыніць справядлівым.

— Я думаю, што гэтакі пагляд зусім абаснаваным ёсьць.

— Мы ня будзем, — сказаў я, — тымчасам цьвердзіць

гэтага з усёю рашучасьцю; але калі, бяручы пад усестароньнюю развагу, гэтая канцэпцыя справядлівасьці будзе пацьверджана ў кажным паасобным чалавеку як і ў гаспадарсьцьве, тады ня будзе ніякае падставы да сумліву. Калі, зноў-жа, ня будзе гэтакага пацьверджаньня, тады мы мусім пачаць наш досьлед нанова. А тымчасам давайце закончым наш папярэдні досьлед, які мы пачалі, калі ты памятаеш, пад уражаньнем, што, калі мы пачнем дасьледваць справядлівасьць у шырэйшым абсягу, тады напаткаем меней перашкодаў для спасьцеражэньня яе ў паасобным чалавеку. І гэтым шырэйшым абсягам мелася быць гаспадарства, і ў сузгоднасьці з гэтаю мэтаю, мы і пабудавалі гэтак добрае гаспадарства, якое толькі і магчымым ёсьць пабудаваць чалавеку, ведаючы добра, што ў добрым гаспадарсьцьве справядлівасьць можа быць знойдзенаю. Цяперака, хай будзе тое, што́ мы выкрылі, затасавана да кажнага паасобнага чалавека — і калі гэта знойдзе сваё апраўданьне, астанемся здаволенымі; зноў-жа, калі выкрыецца ў паасобным чалавеку нешта іншае, тады зноў вернемся да гаспадарства, і пачнем усё нанова з нашаю тэорыяю. [435] Два прадметы, калі церці разам, могуць выклікаць агонь, у сьвятле якога зазіхаціць справядлівасьць, і выяўлены спазор якое, мы замацуем на скрыжалях нашых душаў.

— Прыгожа і правільны ты вырысаваў шлях, — азваўся ён; — гэтак, як ты сказаў, і пастулім мы.

— Працягваючы гутарку, я запытаў: Калі дзьве рэчы — адна большая, а другая меншая, — будуць называны адным і тым самым імем, ці зьяўляюцца яны падобнымі або непадобнымі, калі ідзе пра тое, як іх называюць?

— Падобнымі, — сказаў ён.

— Тады, справядлівы чалавек гэтаксама ня будзе розьніцца ад справядлівага гаспадарства паводля самое свае ідэі справядлівасьці і будзе падобным да яго.

— Падобным, — сказаў ён.

— І гаспадарства, паводля таго, як мы думалі, будзе справядлівым, калі кажная з трох групаў, у гаспадарсьцьве, паводля свае натуры, будзе выконваць сваю працу; і гэтаксама мы думалі, што разважным, харобрым і мудрым будзе яно ў выніку адпаведнага стану і свомасьцяў прадстаўнікоў гэтых-жа групаў.

— Зусім праўдзіва, — сказаў ён.

— Гэтаксама, мой дружа, рэч маецца і з паасобным чалавекам; мы можам меркаваць, што і ён у сваей душы мае тыя самыя тры прынцыпы, якія мы знаходзім у гаспадарсьцьве; і затым, што абодва яны знаходзяцца ў тым самым стане, будзе зусім правільным тасаваць да іх тыя-ж самыя імёны.

— Няўхільна гэта, — сказаў ён.

— Тады, яшчэ адна рэч, мой дружа, — сказаў я; — мы падыйшлі да простага пытаньня: ці душа мае ў сабе гэтыя тры прынцыпы ці не?

— Добра простае пытаньне! — адказаў ён. — Барджджэй не, Сакратас, бо як і выслоўе кажа: добрае — труднае.

— Добра, — сказаў я. — І мне здаецца, Гляўкон, што мэтад, які мы затасавалі да нашага досьледу, не абавязкава трапным зьяўляецца і ня хопіць яго, каб знайсьці акуратны адказ на наша пытаньне; праўдзівы мэтад зьяўляецца болей доўгім і патрабуе болей часу. І ўсё-ж мы можам асягнуць нашую мэту, але на ўзроўні не ніжэйшым ад папярэдняга досьледу.

— Ці ня можам мы здаволіцца гэтым? — адказаў ён, — бяручы пад увагу абставіны, што да якіх я зусім здаволены.

— І для мяне, — адказаў я, — зусім здавальняючымі астаюцца.

— Тады, ня турбуйся, — сказаў ён, — і пачынай досьлед.

— Ці не павінны мы, — сказаў я, — аднесьціся з узнаньнем да факту, што ў кажным з нас знаходзяцца тыя самыя першапачаткі і звычаі, якія назіраем і ў гаспадарсьцьве і, што з паасобных людзей яны перайшлі ў гаспадарства? — дый скуль-жа ім там знайсьціся? Вазьмем для прыкладу зацятасьць духа — было-б гэта сьмешным уявіць сабе, што гэтая якасьць, якую знаходзім у гаспадарствах, не бярэ свайго вытоку з паасобных людзей, каторыя, як мяркуем мы, маюць яе ў сабе. Гэтак рэч маецца з жыхарамі Тракіі, Скітыі і бадай-што ўсіх паўночных земляў; і падобнае можна сказаць адносна любові і цягі да ведаў, што́ зьяўляецца асабліва характэрнаю рысаю нашага сьвету, [436] або прагнасьці да грошай, што можна, з роўнаю трапнасьцю, аднесьці да

фінікійцаў і жыхароў Ягіпту.

— Зусім гэтак, — сказаў ён.

— І нямашака ніякае труднасьці, каб даведацца, што рэч гэтак маецца.

— Зусім не.

— Нашае пытаньне стаецца трудным тады, калі мы далей пытаемся, ці маем мы дачыненьне з трыма першапачаткамі ці з адным; і гэта інакш можна выразіць: ці мы пазнаем адною часткаю нашае натуры, а злосьцімся — іншаю, а, зноў, трэйцяю часткаю імкнемся заспакоіць нашыя натуральныя апэтыты; або, ці ўся душа бярэ ўдзел у кажнай паасобнай чыннасьці — вось гэта вырашыць і зьяўляецца труднасьцю.

— І мне гэтак выдаецца, — сказаў ён.

— Давайце, тады, папробуем выгашыць, ці тоесамныя яны, ці мо' існуе між імі розьніца.

— І як гэта можна зрабіць? — запытаў ён.

— Ясным ёсьць, што тоесамнае ня можа ў вадным і тым самым часе выконваць або дазнаваць тое самае, што зьяўляецца ягонаю супроцьлежнасьцю і быць накіраванаю супраць яго. Затым, калі мы спасьцеражэм, што падобнае зьявішча мае тут месца, дык мы будзем ведаць, што перад намі не адно і тое самае, а шматлікае.

— Няхай будзе гэтак.

— Уважай гэтаксама, што́ я скажу.

— Гавары толькі, — сказаў ён.

— Напрыклад, — сказаў я, — ці можа адна і тая самая рэч тою самаю сваею часткаю быць у стане супачынку і руху ў вадным і тым самым часе?

— Гэта немагчыма.

— Трэба яшчэ дамовіцца, — сказаў я, — што да намі ўжываных словаў, каб не апынуцца пазьней у сьляпым завулку. Уяві сабе выпадак з чалавекам, які стаіць, але парушае свае рукі і сваю галаву, а іншы, бачучы гэта, кажа, што адзін і той самы чалавек і стаіць, і адначасна парушаецца — вось гэтакага роду гутарку мы павінны адкінуць, а трапна трэба сказаць, што адна частка ягоная знаходзіцца ў руху, а іншая ў супачынку. Ці ня гэтак?

— Зусім гэтак.

— Уяві сабе, што той, хто гэтак гаворыць, мог-бы прывесьці яшчэ болей сьмешны і даўціпны, але адначасна моцны, прыклад з круцёлкаю, якое ня толькі част-

кі, але ўся яна дазваньня, калі нехта яе закруціць, стаіць на вастрыні калка́ на адным месцы і рухаецца — яна знаходзіцца ў руху. І ён можа прывесьці шмат іншых прыкладаў, калі дадзенае цела абяртаецца намесцы. Але мы адкінем ягонае запярэчаньне, бо ў падобных выпадках рэчы не знаходзяцца ў супачынку і ў руху ў тым самым часе і тымі самымі часткамі сваімі; мы барджджэй сказалі-б, што дадзеная рэч мае вось і пэрыфэрыйную лінію ў сфэрычным руху; і што вось стаіць супакойна, бо тут нямашака адхіленьня ад пэрпэндзікуляру або адвесу; і гэтая пэрыфэрыйнасьць абяртаецца навакол. Але, калі ў часе кругавароту, вось праяўляе тэндэнцыю схільнасьці направа або налева, наперад ці назад, тады ўжо аніяк ня можна цьвердзіць, што прадмет знаходзіцца ў стане супачынку.

— Гэта правільна, — сказаў ён.

— Тады, няхай ніякае з гэтых запярэчаньняў ня ўводзіць нас у зьбянтэжанасьць або змушае нас паверыць, што тая самая рэч, у тым самым часе, у тэй самай сваей частцы або ў суадносінах да гэтае самае рэчы, [437] можа дзейнічаць або выконваць нешта супроць свае тоесамнасьці.

— Напэўна, мяне ў гэтым не пераканаюць, — сказаў ён.

— І ўсё-ж, — сказаў я, — каб мы ня былі змушанымі рабіць разбор усіх падобных запярэчаньняў і доўгімі выснавамі даводзіць іхную няправільнасьць, давайце сьцьвердзім іхную абсурднасьць, і пойдзем далей, умовіўшыся, што, калі ўся справа прыйме іншы напрамак, дык і адпадуць усе наступствы, выведзеныя намі з падобнага ўкладу рэчаў.

— Так, — сказаў ён, — і гэта будзе тое, найлепшае, што́ можна ўчыніць.

— Але, — сказаў я, — ці ня схілішся ты да думкі, што згода і нязгода, жаданьне і абрыдласьць, прыцяжэньне і адпіханьне, усё гэта супроцьлежнасьці сабе, і ўсяроўна — будуць яны ў стане чынным ці пасыўным, дый з прычыны факту іхнае супроцьлежнасьці?

— Так, — сказаў ён, — яны зьяўляюцца супроцьлежнымі сабе.

— Добра, сказаў я, — а голад і смага, і жаданьні нагул, і зноў, пажадлівасьць і хаценьне — ці не аднясеш

ты ўсяго гэтага да тых клясыфікацыяў, пра якія ўжо ў нас была гутарка? Ці-ж ня скажаш ты, напрыклад, што душа таго, хто праяўляе пажадлівасьць, тужыць да аб'екту свае пажадлівасьці? або што яна прыцягвае да сябе рэч, якую яна хоча мець на ўласнасьць? Або іншы прыклад: калі чалавек хоча, каб яму было што-небудзь падаравана, ці-ж ня будзе ён у думцы зноў і зноў вяртацца да рэалізацыі свайго жаданьня, а іншым разам дае зразумець пра сваё жаданьне дарогаю ківаньня на знак згоды, так, быццам яго нехта пытаецца пра гэта?

— Так, скажу.

— І што-б ты сказаў пра неахвочасьць і нялюбасьць, і пра адсутнасьць жаданьня; ці-ж не аднясем мы ўсяго гэтага да супроцьлежнае групы, як: адпіханьне і адкіненьне?

— Напэўна.

— Прыймаючы гэта як трапна выражанае ў вадносеньні да жаданьня наагул, затрымаймася над асаблівым відам жаданьняў, а зь іх выдзелім гэтакія, як голад і смага, з прычыны іхнае неабходнасьці.

— Затрымаймася над асаблівым відам, — сказаў ён.

— Першым жаданьнем ёсьць харч, іншым — піцьцё; ці ня так гэта?

— Так.

— І тут прыходзіць тое галоўнае, аб чым ідзе гутарка: Ці не смага гэта выклікае ў душы жаданьне піць, і толькі піць? Ня толькі піцьцё, прыпраўленае; напрыклад халоднае або цёплае, шмат яго або крышку, або, каротка кажучы, адумысна прыпраўленае піцьцё. Але, калі смага выступае ў абставінах жары, тады пажаданым ёсьць халоднае піцьцё; або, калі ў абставінах холаду — тады гарачае піцьцё; або, калі прага праяўляецца ў вялікай ступені, тады піцьця павінна быць болей; але, калі не ў вялікай, тады — піцьцё ў меншай колькасьці: але, калі смага зьяўляецца чыстаю і простаю, тады і піцьцё павінна быць чыстым і простым, што і зьяўляецца натуральным здаволеньнем смагі, гэтак як харч — голаду?

— Гэтакім спосабам, — сказаў ён, — кажная пажадлівасьць, як і выразіў ты, сама ў сабе накіравана з тым меркаваньнем, каб у кажным паасобным выпадку здаволіць ейную натуру. Пажадлівасьць-жа, прытарнаваная да паасобных выпадкаў — гэта нічога іншага, як пры-

дабаўленьне.

— Але на гэтым месцы, — сказаў я, — [438] можа ўзьнікнуць нам непрадбачлівасьць; затым, трэба стаяць на варце супроць якога-небудзь апанэнта, які пачне, для прыкладу, казаць, што ніякі чалавек не жадае проста піцьця, але хоча мець добрае піцьцё, або ня толькі харчы, але добрыя харчы, бо добрае зьяўляецца пажадлівасьцю ўсяго на сьвеце; і калі смага зьяўляецца пажадлівасьцю, тады яна ўжо неабходна будзе смагаю добрага піцьця; і гэта зьяўляецца праўдаю адносна кажнага жаданьня.

— Вельмі магчыма, — сказаў ён, — што наш апанэнт меціме нешта сказаць.

— Але гэта адносіцца толькі да тых рэчаў, — сказаў я, — якія бяруцца толькі ў суадносінах да чаго-небудзь: у іх, напрыклад, наяўнымі выступаюць свомасьці, затым толькі, што гэтакія-ж свомасьці назіраем у тым, з чым іх усуадношваюць, але будучы самымі, як гэткімі, яны ўсуадношваюцца з самымі сабою.

— Я не разумею, штó ты маеш на думцы, — сказаў ён.

— Ты не разумееш, — сказаў я, — што большае зьяўляецца большым толькі ў суадносінах да меншага?

— Ведама.

— І шмат большым у вадносінах да шмат меншага?

— Так.

— І болей вялізарнае да болей меншага. Ці-ж ня так гэта?

— Так.

— І тое, што некалі было большым — да таго, што некалі было меншым? І будучае большым — будучага меншым?

— Напэўна, — сказаў ён.

— І гэтак будзе шматлікае да малое колькасьці, двайное да палавіннага, або зноў — цяжэйшае да лягчэйшага, болей хуткае да болей павольнага; і гарачае да халоднага, і гэтак рэч маецца з шматлікімі ўсуадношваньнямі. Ці-ж ня так гэта?

— Так.

— Ці-ж ня гэтак рэч маецца і з нашымі веданьнямі? Веданьне, як гэтакае ўсуадношваецца да вывучанага прадмету — прыймаючы, што гэта будзе трапная дэфініцыя — але аб'ект адумыснага веданьня зьяўляецца аду-

мысным родам веданьня. Тут я маю на ўвазе, для прыкладу, што веданьне пабудовы дому зьяўляецца адумысным веданьнем, якое вырозьніваецца адумысным родам і з гэтае прычыны называецца архітэктураю.

— І што-ж?

— Затым, што яно мае сваеасаблівыя свомасьці, якіх ня мае ніякае іншае.

— Так.

— І яно мае гэтыя сваеасаблівыя свомасьці, бо яно займаецца прадметам, сваеасаблівага роду. І ці маецца рэч гэтак зь іншымі ведамі?

— Але́.

— Затым, — сказаў я, — гэта і хацеў я тады сказаць, калі гаварыў пра суадносіньні рэчаў. Тое, што́ я меў на ўвазе — гэта, калі адно суадносіньне рэчы бярэцца асобна, дык і іншае бярэцца асобна; калі адна рэч характэрызуецца свомасьцю, дык і іншая гэтак характэрызуецца. Я ня хочу гэтым сказаць, што ўсуадносіньні ў сваей аснове розьняцца — напрыклад веданьне здароўя зьяўляецца здаровым, або веданьне хваробы зьяўляецца хворым, або веданьне дабра і зла зьяўляецца добрым і дрэнным. Веданьне не стаецца тым самым, што і ягоны аб'ект, яно ўсуадносіваецца са свомасьцямі аб'екту — у дадзеным выпадку са свомасьцямі здароўя або хворасьці — і гэтая свомасьць характэрызуе яго: і з гэтае прычыны яно не называецца адно веданьнем, але веданьнем мэдыцыны. [439]

— Я разумею, — сказаў ён, — і думаю, што мой пагляд цяперака пакрываецца з тваім.

— А смагу, — сказаў я, — ці-ж ты не прытарнуеш да гэтакіх рэчаў, якія ў сваей існасьці, усуадносіваюцца зь нечым іншым? У дадзеным выпадку смага.

— Так, — сказаў ён, — да піцьця.

— Гэтаксама нейкая асаблівая смага ўсуадносіваецца да нейкага асаблівага піцьця; але смага, як гэткая, гэта значыць, ані вялікая, ані малая, ані добрая або дрэнная, ані якая небудзь асаблівага роду, усуадносіваецца проста да піцьця?

— Напэўна.

— Значыцца, душа смагнучага чалавека, як далёка ён смагнучым зьяўляецца, адчувае толькі жаданьне піць: да гэтага яна імкнецца і гэта стараецца асягнуць?

— Ясна.

— I калі існуе нешта, што ня гледзечы на тое, што душа адчувае смагу, утрымлівае яе ад піцьця, тады гэтае нешта мае быць нечым іншым ад першапачатку самое смагі, які цягне яе, як таго зьвера, да піцьця, бо, як і сказалі мы, што тая самая рэч ня можа ў тым самым часе, тою самаю сваею часткаю дзейнічаць супроцьлежна сябе самое.

— Гэта немагчыма.

— Падобнае можна зьілюстраваць страляньнем з луку, — магчыма ня будзе гэта дакладна выражана, — дзе рукі лучніка цягнуць лук адначасна ад сябе і да сябе. Інакш кажучы — адна рука цягне да сябе, а другая — ад сябе.

— Зусім дакладна, — адказаў ён.

— Ці можна сказаць, што чалавек адчувае смагу, і ўсё-ж ня хоча піць?

— Так, — адказаў ён, — і гэта здараецца вельмі часта.

— Што можна сказаць у падобным выпадку? Ці не вядзе цябе гэта на думку, што ў душы чалавека знаходзіцца нешта такое, што заахвочвае яго да піцьця і нешта, што забараняе яму рабіць гэта, і гэтае апошняе зьяўляецца сільнейшым ад першапачатку, які заахвочвае яго да піцьця.

— Што найменей, выдаецца і мне гэтак, — сказаў ён.

— I гэты першапачатак, што забараняе чыніць, выводзіцца са здольнасьці думаньня, а той, што прапануе і прываблівае, выводзіцца зь цярпеньня і хваробы?

— Яно, відаць, гэтак, — сказаў ён.

— Тады, мы не памылімся, калі прымем, што існуюць гэтыя два, і, што яны розьняцца адзін ад аднаго; адзін. якім чалавек думае, мы можам назваць рацыянальным прынцыпам душы, другі, пры помачы якога ён любіць. адчувае голад і смагу, і бывае агорнуты іншымі пажадлівасьцямі, можа быць названы ірацыянальным або інстынктным прынцыпам, свайго роду блізкім сябрам розных прыемнасьцяў і здаволеньняў?

— Так, — сказаў ён, — прыймаючы гэта пад ўвагу, мы ня толькі не памылімся, але і вылушчым запраўднасьць.

— Тады, — сказаў я, — давайце ўчынім апошняе падсумаваньне ў тым сэнсе, што ў душы існуюць два прын-

цыпы. А што да цярпеньня або запалу духа? Ці ёсьць ён трэйцім, або ёсьць ён аднародны аднаму з двух папярэдніх?

— Я барждж эй, — сказаў ён, — склонным быў-бы цьвердзіць, што аднародны з другім прынцыпам — спакрэўненым з пажадлівасьцю.

— Існуе апавяданьне, — сказаў я, — якое мне давялося калісьці чуць, і я веру яму. Апавяданьне кажа, што Лявонціёс, сын Аґляйёна, вяртаючыся аднойчы з Пірэусу, па дарозе навонкі пад паўночнаю сьцяною, заўважыў, што там, на месцы экзэкуцыі, ляжаць на зямлі трупы. Ён адчуваў у сабе пачуцьцё цікавасьці паглядзець іх і адначасна ўяўленьне страху і абрыдласьці. Але колькі ён ні бараніся і не закрываў сваіх вачэй, [440] усё-ж пажадлівасьць перамагла яго, — ён хутка падбег да трупаў, шырока адчыняючы вочы, кажучы: “Вось вам, няшчасныя, узірайцеся і насычайцеся прыгожым відовішчам!”

— І я чуў гэтае апавяданьне, — сказаў ён.

— Мараль гэтага апавяданьня, — сказаў я, — заключаецца ў тым, што часамі гнеў выступае з вайною супроць пажадлівасьцяў, быццам яны зьяўляюцца дзьвюма рознымі рэчамі.

— Так, гэтакая мараль выступае, — сказаў ён.

— І ці-ж няма болей падобных выпадкаў, у якіх мы назіраем, што, калі жаданьні чалавека наўсуперак ягонаму розуму перамагаюць яго, тады ён пачынае наракаць на самога сябе і гневацца на гвалтаўнікоў, якія знаходзяцца ў ім; і, што ў гэтым змаганьні, падобным да змаганьня двух фракцыяў у гаспадарсьцьве, ягоны дух знаходзіцца на старане розуму. Зноў-жа, каб гэты гнеў ішоў у сузгоднасьці з жаданьнямі, калі розум не дазваляе — гэтакага выпадку, я думаю, ты ніколі не назіраў, прызнайся, ані на самым сабе, ані на іншых людзях.

— І запраўды, ніколі не назіраў, — сказаў ён.

— Прымем, што чалавек сьведамым ёсьць, што ён паступіў зь іншым несправядліва, тады — чым болей ён ёсьць шляхэтным, тым меней абураецца на таго, хто, паводля ягонае думкі, давёў яго да стану голаду, холаду і іншых падобных цярпеньняў, і гэта, я кажу, ня выкліча ў ім гневу.

— Гэта, праўда, — сказаў ён.

— Але, калі ён тае думкі, што зь ім паступаюць не-

справядліва, тады ён кіпіць і злосьціцца, і пераходзіць на старану таго, што́ выдаецца яму справядлівым; і затым, што ён церпіць голад або холад, ён яшчэ болей стаецца рашучым у вытрыманьні і стойкім. Ягоны шляхэтны дух ня ўсупакоіцца да тае пары, пакуль або яго не заб'юць або ён заб'е; або пакуль ён не пачуе голасу ўласнага розуму, падобна як пастух адкліквае свайго сабаку і дае знак яму не брахаць болей.

— Тваё параўнаньне ёсьць вельмі трапным, — сказаў ён. — І ў нашым гаспадарсьцьве, як і сьцьвердзілі мы ўжо, памочнікі мелі быць тымі сабакамі, і чуць голас кіраўнікоў, якія зьяўляюцца іхнымі пастухамі.

— Ты вельмі добра зразумееў мяне, — сказаў я, — і ведаеш, што́ я хачу гэтым сказаць; аднак-жа, тут выступае новая думка, на якую, я хацеў-бы, каб ты зьвярнуў увагу.

— Якая думка?

— Ты памятаеш, якое ўяўленьне ў нас склалася адносна цярпеньня або запалу духа: на першы спазор — гэта жаданьне, але цяперака мы гаворым пра нешта супроцьлежнае, бо ў часе змаганьня, якое адбываецца ў душы чалавека, запал духа ўздымае аружжа дзеля абароны рацыянальнага прынцыпу.

— Бязумоўна, — сказаў ён.

— Тады, ці розьніцца ён ад яго, або гэта толькі нек іншы від рацыянальнага першапачатку; пры гэтай апошняй магчымасьці, узьнікала-б, што наяўнымі будуць у душы толькі два віды першапачаткаў — рацыянальны і жадобны? [441] Або гэтак барджджэй, як назіраем у гаспадарсьцьве тры рады першапачаткаў: гандлёвы, памочны і дарадчы, гэтак і ў душы, існуе гэтаксама і трэйці першапачатак — запал духа. Паводля свае натуры, ён, калі не сапсаваны дрэнным узгадаваньнем, выконвае службу абароны рацыянальнага першапачатку.

— Так, — сказаў ён, — мусіць быць трэйці першапачатак.

— Так, — адказаў я, — калі цярпеньне, якое — як выявілася ўжо — не пакрываецца з жаданьнем, тады з гэтага вынікае, што яно розьніцца ад рацыянальнага першапачатку.

— Гэта, — сказаў ён, — лёгка давесьці. — Мы можам заўважыць сярод малых дзяцей: — насілу яны народзяц-

ца, як ужо праяўляюць паўніню духа, тады як некаторыя зь іх ніколі не даходзяць да ўзроўню належнага развbooжаньня, а бальшыня зь іх даходзіць даволі позна.

— Так, запраўды, дасканала выражана, — сказаў я. — Дый, мы нават можам падобнае заўважыць на зьверах, што было-б далейшым довадам праўды таго, аб чым ты гаворыш. Апрача гэтага і Гомэр словамі, якія мы ўжо аднойчы цытавалі, кажа:

У грудзі ўдырыў сябе і зьвярнуўся з адвагай да сэрца...*)

бо ў гэтым радку Гомэр выразна дапушчае сілу, якая здольнаю ёсьць разважáць адносна лепшага і горшага і, што яна розьніцца ад першапачатку неразважнага, які яна папракае.

— Твая заўвага вельмі правільнаю ёсьць, — сказаў ён.

— Затым, пасьля шматлікіх натугаў, мы ўсё-ж перамаглі і прыйшлі да прыгожага выснаву, што тыя самыя прынцыпы, якія назіраем у гаспадарсьцьве, назіраем гэтаксама і ў кажным паасобным чалавеку і, што лік іхны аднолькавы.

— І гэтак ёсьць.

— Дык ці не павінны мы прыйсьці да сьцьверджаньня, што ў паасобным чалавеку праяўляецца тая самая мудрасьць, і мае ён мужнасьць тае самае якасьці, якая чыніць мудрым ґаспадарства?

— Напэўна.

— Значыцца, тая самая якасьць, якая творыць сабою харобрасьць у гаспадарсьцьве, творыць гэтаксама адвагу і ў паасобным чалавеку і, што абодва яны, гэта значыць, гаспадарства і чалавек, носяць у сабе тое самае ўсуадношаньне адносна іншых мужнасьцяў?

— Гэта няўхільна.

— І я думаю, Ґляўкон, што паасобны чалавек будзе ўзнаны намі справядлівым у той ступені, у якой справядлівым ёсьць гаспадарства?

— Гэта ёсьць лягічны выснаў.

— Але мы ня можам забыць, што справядлівасьць гаспадарства зьмяшчаецца ў кажнай з трох групаў, кажная зь якіх выконвае сваю працу?

— Я думаю, што мы не забылі, — сказаў ён.

---

*) Бач. 89.

— Мы мусім памятаць, затым, што кажны з нас выканае свой абавязак, і астанецца справядлівым, калі кажная частка ягоная будзе выконваць свой абавязак у ім.

— І гэта трэба памятаць, — сказаў ён.

— І ці-ж не павінен гэта быць рацыянальны прынцып, які мудрым ёсьць і апекуецца над усенькаю душою, і падпарадкуе сабе руплівы дух і ўчыніць яго сваім саюзьнікам?

— Напэўна.

— І гэтак, як сказалі мы ўжо, сумесны ўплыў му́зыкі і ґімнастыкі прывядзе іх да сугучнасьці, [442] дадасьць ім бадзёрасьці і падтрыма́е шляхэтнымі словамі і павучэньнямі разважаньне, спрычыняючы памяркоўнасьць і адпружаньне на дарозе гармоніі і рытму?

— Зусім правільна, — сказаў ён.

— І гэтыя два, гэтак падтрымліваныя і ўзгадованыя, і запраўды навучаныя, я́к разумець свае ўласныя прадназначэньні, будуць панаваць над жадобнасьцю, якая ў кажным з нас зьяўляецца найбольшаю часткаю душы і з натуры найболей імкнецца да матэрыяльнае нажывы. Над гэтым яны будуць трымаць старожу, каб яна не памнажалася і ня ўздужвалася, як гэта кажацца, на кошт прыемнасьцяў цела, і ня спынілася выпаўняць сваіх абавязкаў у межах, вызначаных ёй: інакш яна можа прадпрыняць спробу таго, што не зьяўляецца сyродным ёй, і гэтым зьнішчыць жыцьцё чалавека?

— Вельмі трапна, — сказаў ён.

— Разам яны ня будуць найлепшымі абаронцамі цэлае душы і цэлага цела супроць атакаў вонкавых ворагаў; адзін зь іх — сваімі ра́дамі, а іншы — збройнаю абаронаю пад ягоным кіраўніцтвам, адважна выконваючы пастановы і ягоныя ра́ды.

— Гэта так.

— І харобрым, думаю я, мы назавем кажнага паасобнага чалавека, якога дух запалу ў прыемнасьцях як і ў цярпеньнях перасьцерагацiме загады розуму адносна таго, чаго ён павінен і не павінен баяцца.

— Правільна, — сказаў ён.

— І мудрым таго назавем, хто мае ў сабе тую малую частку, якая кіруе і якая выдае загады; гэтая частка гэтаксама кіруецца ведаю таго, што́ карысным ёсьць для кажнага паасобнага чалавека, як і ўсіх трох частак, узя-

тых у сваей цэласьці.

— Ведама.

— А ці ня скажаш ты, што той зьяўляецца разважным, хто мае тыя самыя складовыя часткі ў сяброўскай гармоніі, у якой гэты кіруючы прынцып розуму, і гэтыя дзьве складовыя часткі — адна дух запалу, а другая — жаданьне, зьяўляюцца аднолькава сузгоднымі, што розум павінен панаваць, і ня можна бунтавацца супроць яго?

— Напэўна, — адказаў ён; — гэта і ёсьць найболей трапная ацэна разважнасьці — хай сабе будзе ў гаспадарсьцьве ці ў паасобным чалавеку.

— І зноў-жа, — сказаў я, — мы ўжо некалькікратна паясьнілі, як і пры помачы якіх вартасьцяў мужнасьці чалавек можа быць справядлівым.

— Абавязкава.

— І як-жа? — працягваў я далей. — Ці не стаецца справядлівасьць болей цьмянаю ў паасобным чалавеку, і ці зьяўляецца яе хворма іншаю, а мо' ёсьць яна тою самаю, якую мы знайшлі ў гаспадарсьцьве?

— Я думаю, што няма розьніцы паміж імі, — сказаў ён.

— Бо, калі яшчэ якісьці сумніў і праблісквае ў нашых умыслах, — сказаў я, — дык маем нагоду разьвеяць яго, беручы прыклады з штодзеннага жыцьця.

— Якія гэта?

— Калі-б сустрэлі мы неабходнасьць прыйсьці да сузгоднасьці адносна нашага гаспадарства і падобнага да яго паводля свае натуры паасобнага чалавека, узгадованага ў прынцыпах гэтага-ж гаспадарства, ці будзе меней праўдападобным, што гэтакі прысабечыць сабе золата або серабро, якое мы далі яму на перахаваньне? Ці ёсьць хто-небудзь, хто дапусьціць падобную думку, што гэтакі чалавек можа пайсьці на гэта? [443]

— Не, няма гэтакага, — адказаў ён.

— Ці пойдзе калі-небудзь справядлівы чалавек ці грамадзянін на гэтакі чын, як рабаваньне сьвятынь або крадзежа, або здрада ў адносінах да свайго сябры ці свае бацькаўшчыны?

— Ніколі.

— І ніколі ня будзе ён вераломным у прысягах або ў дамоўленасьцях?

— Ніколі.

— І ён ня будзе знойдзеным у пралюбадзействе ці ў непашане адносна свайго бацькі або маці, або ў занядбаньні багоў.

— Ня будзе, — сказаў ён.

— І прычына гэтага ўсяго ёсьць тая, што кажная частка, што знаходзіцца ў ім, ведае сваю справу, гэта значыць, у прадмеце кіраваньня або быць кіраваным?

— Якраз гэтая і ніякая іншая.

— Тады, зьяўляешся ты здаволеным, што вартасьць, якая творыць гэтакіх людзей і гэтакія гаспадарствы зьяўляецца справядлівасьцю, ці мо' думаеш ты знайсьці іншую?

— Не, напэўна ня я.

— Тады, збылося нашае лятуценьне; і тая няпэўнасьць, якую мы адчувалі напачатку нашае працы пабудаваньня, што нейкая боская сіла мусіць весьці нас да першапачаткавае хвормы справядлівасьці, цяперака пацьвéрдзілася.

— Напэўна.

— І тое гэтаксама, Гляўкон, што ў галіне працы, якая вымагае, каб цесьля і шавец і рэшта грамадзян, выконвалі кажны сваю працу, а нé працу іншага, было праблескам справядлівасьці, штó і карысным зьяўляецца.

— Ведама.

— Але ў запраўднасьці справядлівасьць і была гэтакаю, якою мы ўяўлялі яе сабе, аднак маючая на ўвазе, ня вонкавага чалавека, але ўнутранага, штó зьяўляецца праўдзівасьцю ў сабе, і важнасьцю чалавека. Бо справядлівы чалавек не дазволіць ані воднай з частак, што знаходзяцца ў ім, умешвацца ў справы кажнае іншае часткі, або якой-небудзь адной выконваць працу іншых; ён прыводзіць у парадак сваё ўласнае ўнутранае жыцьцё, і зьяўляецца сам сабе гаспадаром і сваім уласным правам, і ў гармоніі з самым сабою. І калі ён лучыць разам тры прынцыпы, што знаходзяцца ў ім, якія могуць быць параўнаны з высокаю, нізкаю і сярэдняю нотаю сугучнасьці, дый яшчэ з прамежнымі тонамі — калі ўсё гэта лучыць ён у вадно, і гэтакім чынам не зьяўляецца ўжо шматлікасьцю, але стаецца адною суцэльнаю ўмеркаванаю і дасканала ўсуадноўшанаю натураю, тады ён пераходзіць да чыну, калі ён мае выканаць чын, будзе гэта ў галіне матэрыяльнае ўласнасьці, або ў даг-

лядзе цела, або ў васяродзьдзі справаў палітычных, або прыватнага прадпрыняцьця. І ўва ўсім гэтым ён заўсёды ўважае і называе тое, штó ўспамагае і захоўвае вартасьці, і супрацуе ў гэтых згарманізаваных умовах, са справядлівым і добрым дзеяньнем, і ведаю, якая старшынствуе над гэтым, і імя якой ёсьць мудрасьць; але ўсё тое, штó можа стануць упопярак гэтым прадмовам, ён называе несправядліваю дзейнасьцю, і той пагляд, які старшынствуе падобнаму дзеяньню, ён называе нéвуцтвам. [444]

— Ты, Сакратас, праўду кажаш, — сказаў ён.

— Вельмі добра, — сказаў я. — Калі-б мы мелі пацьвердзіць, што выкрылі мы справядлівага чалавека і справядлівае гаспадарства, і натуру справядлівасьці ў кажным зь іх, дык ня выявіцца нам, як я думаю, быццам маем мы дачыненьне з памылковасьцю?

— Напэўна, не, — сказаў ён.

— Тады, што? можам мы казаць гэтак?

— Можам.

— Цяперака, — сказаў я, — мы можам перайсьці да разгляду несправядлівасьці.

— Ясна.

— Ці не павінна несправядлівасьць выражáцца разладзьдзем сярод трох першапачаткаў: ўваходжаньнем не ў свае справы, закалотам і падбухторваньнем пэўнае часткі душы супроць цэласьці душы з мэтаю захопленьня бяспраўнае ўлады, на дарозе бунту падуладных супроць праўнага князя, пад уладаю якога яна павінна знаходзіцца. — Вось гэта, я думаю, мы будзем цьвердзіць адносна несправядлівасьці, бо яна зьяўляецца сумяціцаю і памылковасьцю розных частак душы, іхнаю разнузданасьцю, баязьлівасьцю і нéвуцтвам, і кажнаю іншаю хвормаю заганы.

— Якраз гэтак, — сказаў ён.

— І калі, — сказаў я, — будзе пазнанаю натура справядлівасьці і несправядлівасьці, тады значэньне несправядлівага паступку і таго, штó ў нашым разуменьні несправядлівым ёсьць, або, зноў, паступаць справядліва, гэтаксама станецца выразна ведамым?

— Што ты маеш на ўвазе? — запытаў ён.

— Што? — сказаў я, — яны ўсяроўна як здароўе і хвароба; адно толькі, што тыя знаходзяцца ў душы, а

гэтыя — у целе.

— Як гэта? — запытаў ён.

— Ну так, — сказаў я; — бачыш, здаровае спрычыняе здароўе, а хворае — хваробу.

— Так.

— Справядлівыя дзеяньні выклікваюць справядлівасьць, і несправядлівыя чы́ны — несправядлівасьць.

— Напэўна.

— Стварэньне здароўя зьяўляецца ўрэчаісьненьнем натуральнага парадку і супрацоўнага гаспадараньня паміж усімі часткамі цела, тады як спрычыненьне хваробы зьяўляецца вы́клікам да быцьця стану разладзьдзя ў гэтым натуральным парадку.

— Правільна.

— Ці-ж не зьяўляецца тварэньне справядлівасьці ўрэчаісьненьнем натуральнага парадку і супрацоўнага гаспада́раньня паміж усімі часткамі душы, — запытаў я, — а тварэньне несправядлівасьці зьяўляецца вытворам стану разладзьдзя ў гэтым натуральным парадку?

— Зусім трапна, — сказаў ён.

— Тады, мужнасьць зьяўляецца здароўем, прыгожасьцю і духовым дабрабытам душы, а загана — хваробаю. і немаччу, і звырадненьнем.

— Гэтак і ёсьць.

— А ці-ж выконваньне добрых дзеяньняў не вядзе да мужнасьці, а дрэнных — да заганы?

— Напэўна.

— І ўсё-ж на наша старое пытаньне, адноснае переваґі справядлівасьці і несправядлівасьці, [445] адказу мы не знайшлі: Што можа быць болей выгадным, быць справядлівым і дзейнічаць справядліва і пастулаць мужна — і ўсяроўна будзе чалавек бачаным ці нябачаным багамі і людзьмі, ці мо' быць несправядлівым і пастулаць несправядліва, калі толькі можна астацца непакараным і непапраўленым?

— Мне здаецца, Сакратас, — сказаў ён, — што гэтакае пытаньне цяперака стаецца сьмешным. Мы ведаем, што, калі аснова цела заламалася, жыцьцё стаецца нязносным, хоць чалавек і напіхаецца рознаю ядою і піцьцём, і мае ўсе багацьці і рознае ўлады пад дастаткам; бо і якое-ж жыцьцё будзе ён мець, калі разладжана і пашкоджана ў яго самая існасьць прынцыпу, якім мы жывем? калі па-

кідаецца яму толькі магчымасьць чыніць тое, што чыніць ён любіць, за выняткам таго, што можа яму памагчы ўхіліцца ад заганы і несправядлівасьці і здабыць справядлівасьць і мужнасьць? Пад умоваю, што мы добра разабраліся ў чым заключаецца сутнасьць таго, як і гэтага?

— Так, — сказаў я, — пытаньне ёсьць, як ты кажаш, сьмешным, але, калі мы ўжо наблізіліся да месца, зь якога можам назіраць праўду найболей ясна нашымі ўласнымі вачыма, тады нельга нам адступацца.

— Запраўды, — сказаў ён, — адступацца — гэта найгорай за ўсё.

— Тады, хадзі сюды, — сказаў я, — і паўзірайся на рознародную колькасьць самое заганы, на тыя, зь іх, ведама, на якія варта яшчэ глядзець.

— Я сьледую за табою, — адказаў ён; — ідзе наперад.

— Згэтуль, — сказаў я — быццам з абсэрвацыйнае вежы, на якую мы ўзыйшлі ў выніку нашае дыскусыі, перада мною вырысоўваецца вобраз толькі аднае існуючае мужнасьці, але хвормы заганы — шматлікімі; існуюць чатыры адумысныя зь іх, на якія варта зьвярнуць увагу.

— Што ты маеш на ўвазе? — запытаў ён.

— Я маю на ўвазе, — сказаў я, — што існуе гэтулькі хвормаў душы, колькі існуе хвормаў гаспадарсьцьвенага ўладжаньня.

— І колькі-ж іх?

— Існуе, — сказаў я, — пяць гаспадарсьцьвеных і пяць душы.

— Паясьні, якія яны, — сказаў ён.

— Я ўтрымліваю, — сказаў я, — што хворма гаспадарсьцьвенага ўладжаньня, пра што мы ўжо гаварылі, можа быць дваякаю, у залежнасьці ад абставінаў: калі ўлада будзе засяроджана ў руках аднаго чалавека, тады будзе гэта манархія, а калі ўлада будзе выконвацца некалькімі людзьмі — тады арыстакрацыя.

— Правільна, — сказаў ён.

— Але гэтыя два ўладжаньні, — сказаў я, — я абазначаю як толькі адну хворму; бо, ня гледзячы на тое, ці ўрад супачывае ў руках аднаго чалавека, ці ў некалькіх, калі прадстаўнікі яго будуць працягваць тую адукацыю і тое ўзгадаваньне, якія мы прадбачылі ў нашай

гутарцы, тады аснаўныя правы ў гаспадарсьцьве ня згубяць свае моцы.

— Напэўна, не, — адказаў ён.

[449] — Гэтакім добрым і правільным зьяўляецца гаспадарства і канстытуцыя як і чалавек гэтакага наўзору ёсьць добрым і правільным; дрэнным, аднак, і мінаецца з мэтаю кажнае іншае, калі гэтае гаспадарства правільным ёсьць што да ўладжаньня гаспадарства як і да ўзгадаваньня паасобнага чалавека і хвармаваньня ягонае душы; і дрэннасьць гэтая спасьцярожнаю стаецца ў чатырох розных хвормах.

— Пайменна, у якіх гэта? — запытаў ён. [1])

Я зьбіраўся ўжо гаварыць пра тую чарговасьць, у якой, паводля майго разуменьня, чатыры хвормы дрэннасьці пераходзяць адна ў вадну, як у міжчасе Полемархос, каторы сядзеў крышку далей ад Адэімантоса, працягнуўшы руку, схапіў яго за плашч на плячу, прыцягнуў яго да сябе і, нахіліўшыся, пачаў нешта шаптаць яму на вуха, з чаго я толькі мог ухапіць словы: "Пакінем яго самому сабе, ці штó маем рабіць?"

— Зусім не пакінем яго, — сказаў ужо голасна Адэімантос.

— Хто гэта такі, — сказаў я, — каго вы ня хочаце пакінуць?

— Ты, — сказаў ён.

— І чаму гэта так важна для вас? — сказаў я.

— Бо ты, як нам выдаецца, — казаў ён далей, — не бярэш паважна справы і ўпатой абмінаеш цэлы разьдзел — і немалы — нашае гутаркі, ухіляючыся ад разгляду яго. А мо' думаеш ты, што мы ўжо забылі пра тое, як ты, сярод іншага, казаў адносна жанчын і дзяцей, што ў сяброў усе рэчы будуць супольнымі? *)

— І ці-ж няправільна я гаварыў, Адэімантос?

---

[1]) Ґляўкон.

*) Гл. б. 135.

— Так, — сказаў ён, — але правільнасьць гэтага, як і ў іншых выпадках, вымагае паясьненьня; бо супольнасьці могуць быць рознага роду. Затым, калі ласка, скажы, якога роду шлях ты маеш на ўвазе. Мы даўно ўжо спадзеямося, што ты скажаш нешта пра жыцьцё сям'і нашых грамадзян — пра тое, як яны будуць прыводзіць на сьвет дзяцей, а радзіўшы, узгадоўваць іх, і наагул, што гэта мае быць за супольнасьць, як ты кажаш, дзяцей і жанчын. Бо ці правільна гэта адбываецца ці не — ма́е гэта, як уважаем мы, аграмаднае, а нават першараднае важнасьці значэньне для гаспадарства на дабро яму ці зло. І выходзіць цяперака, што ты, не разгледзіўшы да канца гэтага пытаньня, ужо пераходзіш даісьледваньня іншага гаспадарсьцьвенага ладу. Затым бо, як і чуў ты, мы прыйшлі да выснаву, што няма чаго табе ісьці далей, пакуль ты ня вырашыш гэтага, як і ўсё іншае.[450]

— Адносна гэтага выснаву, — сказаў Гляўкон, — вы можаце ўважаць мяне, як сузгоднага зь ім.

— Уважай, затым, Сакратас, — сказаў Трасімахос, — што адносна гэтага выснаву мы ўсе тут аднолькавае думкі.

— І што гэта вы чыніце, — сказаў я, — калі вы затрымліваеце мяне, — і адначасна ўздымаеце новае пытаньне адносна гаспадарства і ўладжаньняў яго! І якраз тады, калі я думаў, што я ўжо скончыў з гэтым і цешыўся ўражаньнем, што вы здаволіліся раней ужо сказаным, а цяперака просіце мяне, каб я пачаў усё з самага пачатку, не здагадваючыся зусім, што за асінае гняздо словаў вы ўзбударажваеце! Прадбачучы гэты клопат, я ўжо тады ўхіліўся ад яго.

— Як гэта, — сказаў Трасімахос, — думаеш ты, што зграмадзіліся мы сюды, каб золата шукаць, а не затым, каб паслухаць разважаньня?

— Так, — сказаў я, — але разважаньне ма́е свае межы.

— Але мераю, Сакратас, для слуханьня гэтакага разважаньня сярод разумных людзей зьяўляецца ўсё жыцьцё, — сказаў Гляўкон. — І тут ня ідзе пра нас; вазьмі паважна справу і адкажы нам на пытаньне тваім уласным спосабам: Што гэта за супольнасьць жанчын і дзяцей, якая мае быць распаўсюджана сярод нашых старожаў? і як мы маем уладзіць прамежжа часу паміж народзінамі

і пачаткам ўзгадаваньня, якое вымагае найбольшага стараньня? Скажы нам, як гэтыя рэчы маюць быць.

— Вылажыць усё гэта не зьяўляецца рэчаю лёгкаю, шчасьлівы мой, — сказаў я, — бо існуе тут зусім вялікая колькасьць непраўдападобнасьцяў, значна болей, чымся ўжо раней было выказана. Бо практычнасьць таго, што́ ўжо было сказана, можа быць паддадзена пад сумліў; а бачанае зь іншага пункту гледжаньня, ці гэткая схэма, калі-б і была калі-небудзь практычнаю, і ці будзе найлепшым дабром, гэтаксама зьяўляецца сумліўнаю. З гэтае прычыны я чуюся неахвочым у падыходзе да прадмету, і баюся, каб нашае разважаньне, дарагі мой дружа, не абярнулася ў лятуценьне.

— Ня бойся, — адказаў ён, — бо твае слухачы ня будуць гневацца на цябе, яны поўны даверра і добразычлівасьці.

І тут я запытаў:

—Ці ня маеш ты, добры мой дружа, на ўвазе заахвоціць мяне тваімі словамі?

— Так, — адказаў ён.

— Тады, дазволь мне сказаць табе, што чы́ніш ты якраз адваротнае; заахвочаньне, якое ты праявіў, для мяне было-б вельмі трапным, калі-б я сам верыў, што я ведаю аб чым я гавару: каб апавясьціць праўду адносна рэчаў вышэйшага зацікаўленьня, якія чалавек шануе і любіць у васяродзьдзі мудрых людзей, каторыя любяць яго, няма патрэбы хістацца або баяцца; але працягваць свае пошукі, калі чалавек зьяўляецца хісткім дасьледчыкам, [451] як гэта рэч у дадзеным выпадку маецца са мною, зьяўляецца небясьпечнаю і няпэўнаю справаю; і небясьпека ня ў тым заключаецца, што я магу быць вы́сьмеяным (было-б гэта проста дзяціньлівасьцю), але, што я магу разьмінуцца з праўдаю і ўпасьці там, дзе я найболей патрабую быць пэўным у крочаньні, цягнучы за сабою сваіх прыяцеляў, а справу мы гэтакую маем на ўвазе, адносна якое найменей належыць хістацца. І я пахіляюся перад Адрастэ́яю, Гляўкон, каб яна не ўзяла мне за дрэннае таго, што́ маю я выразіць словамі. Бо і запраўды, я перакананы, што стацца ненаўмысным забойцам зьяўляецца меншым праступкам, чымся стацца ашуканцам у прадмеце прыгожага або добрага, ці справядлівага ў галіне права. І гэта ёсьць тая рызыка, якую я барджд-

жэй узяў-бы на сябе сярод ворагаў, чымся ў васяроддзі прыяцеляў, затым, добра ты чыніш, што падбадзёрваеш мяне.

Тут Ґляўкон засьмяяўся і сказаў:

— Добра, Сакратас, калі ты і твая арґумэнтацыя спрычыняць нам паважную шкоду, мы апраўдаем цябе, падобна, як гэта чыніцца ў выпадку забойства і ня будзем уважаць цябе за ашуканца; будзь, затым, добрае думкі і кажы тое, што́ маеш сказаць.

— Добра, — сказаў я; — права кажа, што апраўданы чалавек зьяўляецца свабодным ад віны. І тое, што ёсьць добрым для права — добрым можа быць і для арґумэнту.

— Тады гавары, — сказаў ён, — маючы гэта на ўвазе.

— Цяперака, — сказаў я, — даводзіцца вярнуцца на пачатак маіх выказваньняў і сказаць тое, што́ я павінен быў сказаць у вадпаведным часе. Пасьля таго як роля мужчын была вызначана, вось-жа, трэба вызначыць ролю жанчын, тым болей, што гэта будзе ў сузгоднасьці з тваім запрошаньнем гаварыць.

Бо для мужчын народжаных і ўзгадаваных, як нашыя грамадзяне, адзіным шляхам, паводля майго меркаваньня, дайсьці да правільных выснаваў адносна займеньня і правільнага абыходжаньня з жанчынамі і дзяцьмі — гэта ісьці сьледам па шляху, на якім мы пачалі, калі мы сказалі, што мужчыны маюць быць старожамі і даглядчыкамі над стадам.

— Але́.

— Пойдзем, тады, далей, і прымем, што да нашых жанчын будуць тасавацца гэтакія самыя або бадай-што гэтакія самыя нормы што да нараджэньня і ўзгадаваньня; і тады мы паглядзімо, ці вынік ўзгадняецца з нашым наўзорам.

— Што ты маеш на ўвазе? — сказаў ён.

— Тое, што́ я маю на ўвазе, можа быць выражана ў хворме пытаньня, — сказаў я: — ці не ўважаем мы, што сабакі-старожы дзеляцца на аўчароў і аўчарак, або, што абодва яны прыймаюць роўны ўдзел у паляваньні, у догляданьні і ў іншых абавязках, якія стаюцца іхным удзелам? А мо' мы даручаем аўчарам усенькі і выключны догляд над гуртамі, тады як аўчарак пакідаем дома, з тым меркаваньнем, што прыводжаньне на сьвет і догляданьне сваіх шчанят зьяўляецца дастатковым занят-

кам для іх?

— Не, — адказаў ён, — усё гэта яны павінны рабіць сумесна; адзіная розьніца паміж імі ёсьць тая, што аўчары зьяўляюцца сільнейшымі, а аўчаркі — слабейшымі.

— Але ці магчымым ёсьць ужываць розных зьвераў да аднаго і таго самага занятку, калі яны не гадуюцца і не ўзгадоўваюцца аднолькава?

— Немагчыма.

— Затым, калі жанчыны маюць мець тыя самыя абавязкі, што і мужчыны, дык яны павінны мець тое самае ўзгадаваньне і адукацыю.

— Так. [452]

— І адукацыя, якая была прадназначана мужчынам — гэта музыка і ґімнастыка.

— Але́.

— Тады, і жанчыны мусяць займацца музыкаю і ґімнастыкаю, як і мастацтвам ваеннае справы, падобна, як мужчыны гэта практыкуюць.

— Так, гэта пасьлядоўна выплывае з тваіх словаў, — сказаў ён.

— Магчыма, — сказаў я, — што шматлікае з таго, пра што мы цяперака гаворым, выдасца сьмешным, і гэта затым, што яно будзе супярэчыць пануючым звычаям. калі пачне ўводзіцца ў жыцьцё.

— І нават вельмі, — адказаў ён.

— Так, — сказаў я; — і што, на твой пагляд, найболей сьмешным будзе? Праўдападобна тое, што распранутыя жанчыны разам з мужчынамі ў палестрах будуць праводзіць фізычныя практыкаваньні, дый ня толькі маладыя, але нават і тыя, што ў гадох ужо — падобна да таго, як гэта выконваюць у ґімназыях старыя мужчыны: хоць і паморшчаныя і няпрывабныя на позірк, а ўсё-ж ахвотна практыкуюцца.

— І запраўды, — сказаў ён: — у сьвятле сучасных паглядаў гэта выдалося-б сьмешным.

— Калі мы ўжо і наважыліся выказаць сваю думку, — сказаў я, — тады няма чаго баяцца тых, што будуць строіць кепікі, бяз розьніцы на тое колькі-б яны і якімбы спосабам не жартавалі з уводжаньня інавацыі— гэта-ж не жартачкі! — ґімназыі для жанчын і му́зыка для іх, дый апрача гэтага, насіць аружжа і езьдзіць вярхом на кані!

— Ты трапна кажаш, — адказаў ён.

— Але калі мы ўжо пачалі крочыць наперад, тады трэба выступіць супроць суворасьці сучаснага звычаю; і адначасна прасіць тых, што насьмяхаюцца, каб яны паўстрымаліся ад кепікаў і хоць раз у жыцьці сталіся паважнымі. Мы мусім прыгадаць ім, што ня гэтак і даўно, калі ў гэльленаў, падобна як сягоньня сярод барбараў, уважалася сорамным і сьмешным для мужчын паказацца голымі і, што калі жыхары Крэты першыя ўвялі ў сябе ґімназыі, а за імі і лякедаймонцы, дык і тады знаходзіліся гэтакія, што абкідвалі жартамі і кпінамі падобную інавацыю. Ці ня так гэта?

— Няма сумліву ў гэтым.

— Але калі дасьведчаньне выявіла, што болей вы́гадна і свабодна практыкавацца бяз вопраткі, чымся акрываць ёю ўсе часткі цела, дык тады гэта перастала быць сьмешным для вока, дый разумныя довады пераконвалі, што гэтак шмат ляпей. І гэта выявіла, што парожным чалавекам зьяўляецца той, хто ўважае кажную іншую рэч сьмешнаю, апрача дрэннае; і калі ён чыніць спробу вы́сьмеяць што-небудзь, дык ён бачыць у чым-небудзь іншым праяў сьмешнасьці, але не ў глупоце і загане. І зноў-жа. калі ён гэтак старанна імкнецца ў напрамку прыгожага, дык і тут ён ставіць перад сабою нейкую іншую мэту, але не дабро.

— У кажным вылічаным табою выпадку гэта правільна, — адказаў ён.

— Тады, у першую чаргу, будзе пытаньне пастаўлена жартабліва ці паважна, [453] мы павінны прыйсьці да сузгоднасьці што да натуры жанчыны: Ці зьяўляецца жанчына здольнаю браць удзел ўва ўсіх дзеяньнях мужчыны, а мо' толькі ў некаторых, ці наагул у ніякіх? Ці штука вядзеньня вайны зьяўляецца адным з тых мастацтваў, у якім яна ня можа або не павінна прыймаць удзелу? Ці ня будзе гэта найлепшы спосаб пачаць досьлед, які, вельмі магчыма, прывядзе да найлепшых высноваў?

— Я думаю, што гэта будзе найлепшы спосаб, — сказаў ён.

— Ці маем мы, — сказаў я, — перш узяць старану іншую і тады пачаць спрэчку супроць самых сябе? Гэтакім спосабам пастава супроцьлежнае стараны не аста-

нецца безабароннаю.

— Я ня бачу ніякае перашкоды, — сказаў ён.

— Тады, уложым гутарку ў вусны нашых апанэнтаў. Яны скажуць: "Сакратас і Ґляўкон, вы не патрабуеце ніякіх апанэнтаў, каб вас пераконваць, бо-ж вы самыя, пры першых закладзінах асноваў гаспадарства, прынялі прынцып, што кажны чалавек, хтоколечы ім ёсьць, выконвае адну працу, якая адказвае ягонай ўласнай натуры".

— Так, я думаю, мы прынялі. Дый як-жаж не маглі мы прыняць?

— "І ці-ж паводля свае натуры, мужчыны і жанчыны, запраўды, ня розьняцца між сабою?"

— Ведама; дый як-жаж ім ня розьніцца?

— "Дык ці-ж ня будзе, тады, і праца розная для мужчын і жанчын у сузгоднасьці з прызнанаю намі натуральнаю розьніцаю сярод іх?"

— Дый як-жаж інакш?

— "Але калі гэтак, ці-ж не ўваліліся вы ў паважную супярэчнасьць думкі, калі вы цяперака зноў пачынаеце цьвердзіць, што мужчыны і жанчыны, натуры якіх гэтак выразна рознымі сабе зьяўляюцца, павінны выконваць тыя самыя чыннасьці?" — Ці знойдзешся ты, цудоўны, на ўзроўні адказаць каму-небудзь, хто ўздыме гэтакія закіды?

— На гэта, — сказаў ён, — ня лёгка адразу адказаць, асабліва, калі пытаньне ставіцца зьнічэўку. Але я буду прасіць цябе, дый цяперака прашу, каб ты падаў да ведама усё, што магчыма, з мэтаю абароны нашае стараны.

— Існуюць, Ґляўкон, запярэчаньні, — сказаў я, — і ёсьць цэлы рад іншых, якія я прадбачыў раней; затым бо я і баяўся і не сьпяшаўся закрануць права адносна таго, як займець і ўзгадоўваць жанчын і дзяцей.

— І запраўды, на Зэуса! Праблема, якую маем разьвязаць, не належыць да лёгкіх!

— Ведама, што не, — сказаў я. — Але факт астаецца фактам, што калі чалавек мае выйсьці са свае глыбіні, хай сабе ён упаў у малую сажалку ці на сярэдзіну мора, ён аднолькава мусіць старацца выплысьці.

— Зусім правільна.

— Ці-ж не павінны і мы пачаць плысьці, каб дабрацца да ўзьбярэжжа нашага разважаньня, спадзяючыся, што

мо' і нас які-небудзь дэльфін падхопіць або нейкае іншае цудоўнае здарэньне прынясе нам ратунак.

— Вельмі магчыма, — адказаў ён.

— Давай, тады, — сказаў я, — паглядзімо, ці можна знайсьці які-небудзь выхад. Мы сьцьвердзілі, розныя натуры павінны мець розны занятак і, што натуры мужчын і жанчын зьяўляюцца рознымі. А цяперака што́ мы кажам? — што розныя натуры павінны мець той самы занятак — гэта і ёсьць тая нясузгоднасьць думкі, якою абвінавачваюць нас?

— Якраз гэтак. [454]

— Запраўды, Ґляўкон, — сказаў я, — аграмаднаю сілаю зьяўляецца мастацтва нелягічнага выказваньня!

— Як гэта?

— Бо я думаю, — сказаў я, — што не адзін зь людзей па́дае ў звычку практыкаваньня падобнага наўсуперак сваей волі. Бо гэтакі думае, што разважа́е тады, калі ён вядзе адно спрэчку, а гэта затым, што ён не зьяўляецца ў стане ўстанавіць значэньня гаворанага і спасьцерагчы распадзяленьня тэмы, і гэтым самым ня ведае таго, аб чым ён гаворыць. І будзе ён чапляцца за словы, вышукваючы супярэчнасьці ў тым, што́ сказаў ягоны апанэнт, і тады пачынаецца не разважаньне, але заядлая спрэчка.

— Так, — адказаў ён. — Гэты нахіл свомым ёсьць для шматлікіх. Але што гэта мае супольнага з намі і нашаю арґумэнтацыяю?

— Шматлікае, — адказаў я. — Бо існуе пэўная небясьпека нясьведама і няхочучы ўпасьці ў слоўную супярэчнасьць.

— Як гэта?

— Калі мы адважна і зацята трымаемся слоўнае праўды ў тым сэнсе, што розныя натуры павінны мець розныя заняткі, і адначасна мы ніколі зусім не бярэм пад увагу значэньня тоесамнасьці або розьніцы натуры, або вырозьніваем іх, калі мы вызначаем розны занятак для розных натураў і той самы для тых самых натураў.

— І запраўды, мы ніколі не разглядалі гэтага, — сказаў ён.

— Прымем, — сказаў я, — што на дарозе ілюстрацыі мы паставім сабе пытаньне, ці няма супроцьлеглае свомасьці ў натуры паміж лысымі людзьмі і валасатымі? І

калі гэта будзе сьцьверджана намі, тады, калі лысыя людзі зьяўляюцца шаўцамі, ці маем мы забараніць валасатым людзям быць шаўцамі, і наадварот?

— Сьмешна нават і пытаць пра гэта, — адказаў ён.

— Гэтаксама сьмешна і ў іншым дачыненьні, — казаў я далей. — Бо мы ніколі ня бралі пад увагу, калі клалі падваліны для нашага гаспадарства, што супроцьлежнасьць натураў мае быць распасьцертая на кажную розьніцу, а ня толькі да тых розьніцаў, якія закраналі заняткі, у якіх удзел браў асобны чалавек; мы казалі, напрыклад, што лекар, і той, хто адно ў душы можа быць лекарам, маюць адны і тыя самыя натуральныя своmасьці. А мо' думаеш ты інакш?

— Гэтак і я думаю.

— А ці лекар і цесьля маюць розныя натуры?

— Ведама.

— Тады, — сказаў я, — калі мужчына і жанчына розьняцца ў сэнсе палавым у valнясеньні да іхных прытарнаванасьцяў да заняткаў ці мастацтваў, дык мы і павінны даручыць той ці іншы занятак або мастацтва ў вадпаведнасьці да полу. Але калі розьніца выступае толькі ў тым, што жанчына родзіць, а мужчына апладняе, дык мы скажам, што гэта ня творыць сабою доваду, што жанчына розьніцца ад мужчыны ў ваднясеньні да роду адукацыі, якую яна можа атрымаць. І з гэтае прычыны мы павінны і надалей падтрымліваць перакананьне, што нашыя старожы, гэтаксама як і іхныя жонкі, павінны мець тыя самыя заняткі.

— І правільна будзем думаць, — сказаў ён.

— І далей, мы папросім нашага апанэнта, хай ён нас навучыць, у чым, у ваднясеньні да заняткаў або мастацтваў, [455] што адносяцца да грамадзкага жыцьця, натура жанчыны розьніцца ад натуры мужчыны.

— І гэта будзе зусім справядліва.

— І вельмі магчыма ён, гэтаксама як і ты крыху раней, пачне гаварыць, што ня лёгка адразу адказаць, але, калі падумаць добра над гэтым, дык і адказ знойдзецца.

— Магчыма, і скажа ён гэтак.

— Прымем, тады, што мы запрашаем яго сьледаваць у нашай арґумэнтацыі, у тым меркаваньні, што нам удасца пераканаць яго, што нічога няма сьмешнага ў фізычнай пабудове жанчыны, што́ адмоўна магло-б ад-

біцца на кіраваньні гаспадарствам.

— Можна запрасіць.

— Давай скажам яму: Хадзі сюды, і мы нешта запытаем цябе: — Па́мятаеш, як ты казаў пра абдораных і пра неабдораных натураю, што адзін радзіўся здольным, а іншы — няздольным; ці хацеў ты гэтым сказаць, што адзін чалавек цяміць рэч на ляту, а іншы — ледзь-ледзь пасьпявае; адзін зь невялікаю навукаю даходзіць да вялікіх вынахадаў у тым, што́ пазнаў, а іншы — хоць і вучыўся даўжэйшы час і практыкаваўся, насілу пасьпее што-небудзь навучыцца, як зараз-жа забывае. Або зноў, уважаеш ты, што адзін чалавек мае гэтакі фізычны склад свайго цела, якое ўспамагае ягоны духовы рост, тады як іншаму, наадварот, яно перашкаджае? — Ці ня тут, па-твойму, ляжыць тая прыкмета, якая адрозьнівае чалавека абдоранага здольнасьцю ад чалавека няздольнага?

— Ніхто ня будзе пярэчыць гэтаму, — сказаў ён.

— А ці ведамым табе ёсьць які-небудзь людзкі занятак, у якім мужчыны ня мелі-б усіх тых дараваньняў і здольнасьцяў у вышэйшай ступені, як жанчыны? Ці варта нам разводзіцца пра тое, як жанчыны умеюць ткаць, займацца пячывам і варкаю, у чым род жаночы найляпей засьведчыў пра сябе да такое ступені, што бадай-што сьмешным магло-б выдасца, каб хто-небудзь захацеў перавысіць яго тут?

— Ты маеш рацыю, — адказаў ён, — калі ўтрымліваеш, што гэты пол уступае та́мтаму. Аднак шматлікія жанчыны ў чысьленых выпадках перавышаюць мужчын; наагул-жа, усё, што́ ты кажаш, правільным ёсьць.

— Тады калі гэтак, мой дружа, — сказаў я, — няма ніякае такое штукі кіраваньня ў гаспадарсьцьве, якая магла-б быць даручана жанчыне затым толькі, што яна жанчынаю зьяўляецца, або мужчыне — затым толькі, што ён мужчына. Не, усе дараваньні натуры зьяўляюцца аднолькавымі для тых і гэтых; і паводля свае натуры гэтак жанчына, як і мужчына можа выконваць любыя заняткі, аднак, агульна бяручы рэч, жанчына слабейшаю ёсьць за мужчыну.

— Ведама.

— Дык што? — маем мы даручыць усе справы мужчынам і нічога жанчынам?

— Як гэта?

— Тут мы можам сказаць, як я думаю, што адна жанчына мае дар аздараўляньня, а іншая — не; яшчэ іншая мае схільнасьць да му́зыкі, а іншая з натуры ня мае зацікаўленьня да музыкі.

— А як іншыя? [456]

— Ці-ж не здараецца, што адна жанчына мае цягу да ґімнастыкі, і ваенных практыкаваньняў, а іншая з натуры супакойная і ня любіць ґімнастычных практыкаваньняў?

— Я думаю, што гэта так.

— І што-ж? Адна мае схільнасьць да філязофіі, а іншая зьяўляецца ворагам філязофіі; адна мае дух запалу ў сабе, а іншая поўная супакою.

— І гэтак часамі здараецца.

— Тады, здараецца, што адна жанчына мае ахвоту стацца старожам, а іншая не. Ці-ж наш выбар мужчын у старожы ня быў абаперты на прызнаньні гэтакае розьніцы сярод іх?

— У кажным выпадку, на прызнаньні розьніцы.

— Затым, мужчыны, як і жанчыны маюць тыя самыя кваліфікацыі, якія чыняць іх здольнымі стануць на варце гаспадарства; розьніца паміж імі ляжыць толькі ў іхнай адноснай сіле або слабасьці.

— Гэтак выглядае.

— І жанчыны, якія адказваюць гэтакім вымаганьням, павінны быць выбраныя, як сяброўкі для мужчын, якія маюць гэтыя самыя якасьці, каб разам жылі і стаялі на варце, калі яны выяўляюць тую самую здольнасьць і гэтакі-ж самы характар.

— Бязумоўна.

— Ці-ж не павінны людзі з тымі самымі натуральнымі своемасьцямі выконваць тыя самыя абавязкі?

— Тыя самыя.

— Тады, завяршыўшы кола нашых разважаньняў, мы зноў вярнуліся да выходнага пункту і кажам, што нічога нямашака ненатуральнага ў тым, калі жанкі старожаў будуць займацца і му́зыкаю, і ґімнастыкаю.

— Нічога тут нямашака ненатуральнага.

— Тады, права, якое мы ўвялі ў жыцьцё, было ў суззгоднасьці з натураю, і гэтым самым ня было яно немагчымым або парожным пажаданьнем. Затое супярэчная гэтаму практыка, якая тасуецца ў нашым часе, у рэчаіс-

насьці зьяўляецца нарушэньнем натуры.

— Выглядае, што гэта правільна.

— Аднак, наш досьлед быў скіраваны, каб узяць пад увагу, па-першае, ці нашыя прапановы былі магчымымі, і па-другое, ці былі яны найболей карыснымі?

— Так.

— І гэтакая магчымасьць была прызнанаю?

— Але́.

— І трэба прыйсьці да сузгоднасьці, што яны будуць карыснымі?

— Ясна.

— Ты прызнацімеш, што тая самая адукацыя, якая чыніць мужчыну добрым старожам, учыніць гэтаксама добрым старожам і жанчыну; бо іхная першапачаткавая натура зьяўляецца тою самаю?

— Ніякаю іншаю.

— І што ты думаеш адносна?..

— Адносна чаго?

— Ці ня думаеш ты, што адзін чалавек ёсьць лепшым, а іншы горшым; або выдаюцца яны ўсе табе роўнымі?

— Зусім не выдаюцца.

— А вось у гаспадарсьцьве, якое мы заснавалі, я́к ты думаеш, якія людзі зьяўляюцца лепшымі: старожы, якія былі ўзгадованымі паводля нашае найлепшае сыстэмы, каб быць дасканалымі людзьмі, ці шаўцы, навучаньне якіх зводзілася да таго, каб быць добрым майстрам у сваім мастацтве?

— І што за сьмешнае пытаньне! — адказаў ён.

— Разумею, — сказаў я. — Але я́к? Ці-ж нашыя старожы не зьяўляюцца найлепшымі спасярод грамадзян?

— Ведама, найлепшымі.

— І як? Ці-ж іхныя жанкі ня будуць найлепшымі жанчынамі?

— Ведама, гэтаксама і яны, — адказаў ён.

— Ці-ж можа што-небудзь быць лепшым для памыснасьці гаспадарства, як прысутнасьць у ім самых лепшых мужчын і жанчын?

— Нічога няма лепшага.

— І гэта ёсьць тое, што́ мастацтва му́зыкі і ґімнастыкі могуць учыніць, калі будуць тасавацца прадбачаным намі спосабам. [457]

— Дый як мае быць інакш?

— З гэтага, мы ўявілі праўную пастанову ня толькі магчымую, але і ў найбольшай ступені карысную для гаспадарства.

— Так, толькі гэтак.

— Затым, няхай жанкі нашых старожаў здымаюць адзежыны, калі яны маюць замест іх апрануцца ў мужнасьць і няхай яны прыймаюць удзел у вайне і ў вабароне свае краіны, і няхай не зьвяртаюць увагі на нічога іншага. Пры распадзеле фізычнае працы, лягчэйшая мае быць выдзелена барждждэй жанчынам чымся мужчынам, і гэта з прычыны іхнае натуральнае слабасьці, але ў іншым дачыненьні, іхныя абавязкі маюць быць гэтакімі самымі. А хто з мужчын пачне сьмяяцца з распранутых жанчын, выконваючых дзеля высокіх мэтаў ґімнастычныя практыкаваньні, дык гэтакі сваім сьмехам, зрываючы плод свае нясьпелае мудрасьці, сам мусіць ня ведае з чаго сьмяецца і што ён чыніць. Бо-ж трапна кажуць і заўсёды будуць казаць, як адно з найлепшых выслоўяў: Карыснае — прыгожым ёсьць, а шкоднае — агідным.

— Вельмі правільна.

— Але тут уздымаецца адна хваля, што да якое мы можам быць гордымі, што нам шчасьліва ўдалося ўхіліцца ад яе ў часе абароны права жанчын і не праглынула яна нас, калі мы вырашылі, што старожы-мужчыны і старожы-жанчыны павінны ўсё выконваць супольна; што да карыснасьці і магчымасьці гэтакага ўладжаньня пасьлядоўнасьць арґумэнту нясе сама ў сабе сьведчаньне.

— І запраўды, — сказаў ён, — была гэта не малая хваля, ад якое табе ўдалося ўхіліцца.

— Ты зараз болей пераканаешся, — сказаў я, — што яна не зьяўляецца вялікаю, калі пабачыш наступнае.

— Кажы толькі, каб я мог пабачыць, — сказаў ён.

— З права, — сказаў я, — якое зьяўляецца сваім працягам і таго, якое папярэдзіла, выцякае наступная пасьлядоўнасьць...

— Якая?

— Што жанкі гэтых мужоў маюць быць агульнымі, і прыватна няхай ніякая ні з кім ня жыве; і дзеці гэтаксама маюць быць агульнымі, і няхай бацька ня ведае свайго дзіцяці і дзіця ня ведае свайго бацьку.

— Так, — сказаў ён, — гэтая хваля ёсьць значна большаю, чымся папярэдняя; і магчымасьць гэтакага права,

як і ягонае карыснасьці зьяўляюцца вельмі няпраўдападобнымі.

— Я ня думаю, — сказаў я, — што адносна карыснасьці чалавек можа ўздымаць пытаньне, што быццам агульнасьць жанок і дзяцей не зьяўляецца вялікім дабром, але што датычыцца магчымасьці гэтага, я думаю, што ўзьнікнуць вялікія супярэчнасьці.

— Я думаю, — сказаў ён, — што шмат сумніву ўзьнікне гэтак адносна першага, як і другога.

— Ты даеш зразумець, — сказаў я, — што два пытаньні маюць быць павязаныя з сабою. А я думаў, што ты згаджаешся што да карыснасьці, і гэткім спосабам, як мне здавалася, я ўхілюся ад аднаго зь іх, займаючыся толькі пытаньнем магчымасьці.

— І твой замер ухіліцца выкрыты, — сказаў ён; — затым, калі ласка, пачынай абарону абодвух пытаньняў.

— Тады я мушу падпарадкавацца няўхільнасьці, — сказаў я. — Але праяві для мяне хоць малую далікатнасьць: дазволь мне духова пачаставацца з самым сабою, як звычайна частуюцца людзі на самоце ў часе дзенных спацыраў; [458] бо перад тым, як знойдуць яны сродкі завяршэньня сваіх жаданьняў — гэта значыць справы, якою яны ніколі ня турбуюць сябе — яны на дзіва няўтомнымі стаюцца, на дарозе абмяркоўваньня магчымасьцяў; але прыймаючы пад увагу, што тое, што́ яны жадаюць сабе, ужо маюць, паступаюць яны далей паводля свайго пляну і цешацца ў разважаньні над тым, што́ маюць яны чыніць далей, калі жаданьне іхнае завяршылася — гэта значыць, уступаюць на шлях нічоганя-робленьня, стаючыся яшчэ болей бяздзейнымі. А цяперака я сам паддаюся гэтай слабасьці, і жадаў-бы сабе, заручыўшыся тваім дазволам, адкласьці пытаньне магчымасьці на пазьней. Але, выходзячы з залажэньня магчымасьці прапазыкі, цяперака я буду працягваць досьлед, я́к кіраўнікі будуць ажыцьцяўляць гэтыя арґумэнты; пры чым я ўвыпу́клю, што наш плян, калі правядзецца ў жыцьцё, будзе найболей карысным гэтак для гаспадарства, як і для старожаў. Затым, перш, калі ты ня маеш засьцярогаў, я папробую, карыстаючыся тваею помаччу, узяць пад увагу ўсе выгады мераў прадпрыняцьця, і гэтым самым — пытаньне магчымасьці.

— Я ня маю засьцярогаў, — сказаў ён; — калі ласка,

ідзі наперад.

— Я думаю, — сказаў я, — што калі нашыя кіраўнікі і іхныя памочнікі зьяўляюцца вартымі імя, якое яны носяць, дык гэтыя апошнія пачнуць выконваць загады, а тыя — загадваць; бо і старожы самыя павінны быць падпарадкаваны правам, як і часткава насьледаваць нашыя загады.

— Ведама, — сказаў ён.

— Гэтаксама і ты, як правадаўца, — сказаў я, — выбраўшы мужчын, пачнеш цяперака выбіраць жанчын і дасі іх ім — ведама, яны павінны быць, наколькі гэта магчыма, тае самае натуры што і яны. І яны павінны жыць у супольных дамох і спатыкацца пры супольным прыняцьцю ежы. Ніхто зь іх ня будзе мець нічога, штó магло-б быць названа ейным або ягоным. Яны заўсёды будуць разам і разам будуць узгадоўвацца; спатыкаючыся сумесна ў часе фізычных практыкаваньняў і пры іншых нагодах, яны будуць, я думаю, на дарозе прыроджанае неабходнасьці злучацца між сабою. А мо' здаецца табе, што слова неабходнасьць зьяўляецца тут за моцным выражэньнем?

— Так, — сказаў ён. — Тут гутарка ідзе не пра ґеомэтрычную, а пра эротычную неабходнасьць, якая хіба магутней, чымся тая пераконвае і цягне за сабою масу людзей.

— Пэўна, — адказаў я. — Але далей, Ґляўкон, у гаспадарсьцьве годных людзей, як усё іншае, мае сьледаваць сваім устаноўленым парадкам, а на распушчанасьць і іншае падобнае, як нячыстую рэч, кіраўнікі не дазваляць.

— Так, — сказаў ён, — і гэта не павінна быць дазволеным.

— Тады ясным ёсьць, што наступнаю рэчаю павінен быць шлюб і ў найвышэйшай ступені сакральны, а сакральным ёсьць тое, штó ў найвышэйшай ступені карысным зьяўляецца.

— Бязумоўна. [459]

— І як можна ўчыніць жанімствы найболей карыснымі? — гэта ёсьць пытаньне, якое я стаўлю табе, Ґляўкон, бо ў тваім доме я бачу гончых сабак і ня мала шляхэтнае пароды розных птушак. Цяперака, я заклінаю цябе на Зэуса, скажы мне, ці здарылася табе бачыць, як

яны спарваюцца і размножваюцца?

— Што, фактычна? — запытаў ён.

— У першую чаргу тое, што хоць яны і лепшых пародаў, ці не зьяўляюцца некаторыя зь іх лепшымі за іншых?

— Здараюцца гэтакія.

— Ці разводзіш ты ўсіх бяз розьніцы, ці мо' выбіраючы найлепшыя зь іх.

— Найлепшыя зь іх.

— І ці выбіраеш ты найстарэйшых, ці наймаладзейшых, ці мо' гэтакія, што знаходзяцца ў найболей адпаведным да гэтага расьцьвеце?

— Тых, што знаходзяцца ў адпаведным расьцьвеце.

— Калі ў разводжаньні не перасьцерагаць гэтага, ці не пагоршыцца парода сабак і птушак?

— Я думаю, што пагоршыцца, — адказаў ён.

— І ці не здарыцца гэтае самае з коньмі і зь іншаю жывёлаю? А мо' тутака рэч маецца інакш?

— Не, гэтаксама, — сказаў ён.

— О, дарагі дружа мой, — сказаў я, — бачыш, якімі выняткава здольнымі людзьмі павінны быць нашыя кіраўнікі, калі людзкі род падпарадкаваны гэтым самым прынцыпам!

— Рэч запраўды гэтак маецца, — сказаў ён; — але што гэта мае супольнага з выняткаваю здольнасьцю?

— Бо ім, — адказаў я, — часта давядзецца мець дачыненьне з тасаваньнем лекаў да людзкага цела. Табе. пэўна, ведама, што калі цела не патрабуе лекаў і чалавек ахвотна падпарадкваецца гігіенічным пастановам, тады хопіць і заступніка лекара. Але ў выпадку тасаваньня лекаў, мы ведаем, што спатрэбіцца праўдзівы лекар.

— Гэта праўда, — сказаў ён; — але, штó ты маеш на ўвазе?

— Я маю на ўвазе, — адказаў я, — што нашым кіраўніком спатрэбіцца час ад часу тасаваць хлусьню і ашуканства, і гэта дзеля карысьці тых, каторыя падпарадкаваны ім. Мы ўжо казалі, што тасаваньне падобных рэчаў зьяўляецца карысным у хворме лекавага сродка.

— І мы правільна гаварылі, — адказаў ён.

— І ўзгодненае тасаваньне гэтага найболей адпаведным будзе пры шлюбах і нараджэньнях.

— Як гэта?

— З таго, у чым мы ўжо згадзіліся, выцякае, што лепшыя мужчыны павінны бельшаю часткаю зносіцца зь лепшымі жанчынамі, а горшыя з горшымі, і гэтак рэдка, як толькі магчыма; і што нашчадкі першых трэба ўзгадоўваць, але гэтых — не, калі наш невялікі гурт мае быць утрыманы ў найлепшых умовах. Але што гэта так практыкуецца, ніхто не павінен ведаць, апрача самых кіраўнікоў, каб ня ўносіць ніякага разладзьдзя ў рады нашых старожаў.

— Зусім правільна, — сказаў ён.

— Гэтаксама павінны быць праўна ўведзеныя ўрачыстасьці, на якіх мы будзем уладжваць спатканьні новых маладых і жаніхоў; дый устаноўленымі павінны быць пры гэтым ахвяраваньні, [460] як і адпаведныя вясельныя песьні, створаныя нашымі паэтамі. А колькасьць шлюбаў будзе залежаць ад вырашэньня кіраўнікоў, якія, у меру магчымасьцяў, будуць мець на ўвазе захаваньне сярэдняга стану жыхарства. Пры гэтым яны павінны браць пад увагу страты ў народзе з прычыны войнаў, хваробаў і падобных здарэньняў з мэтаю трыманьня гаспадарства ў роўнавазе: каб ня было ані за вялікім, ані за малым.

— Правільна, — сказаў ён.

— І тады, думаю я, мы павінны вынайсьці нейкі від лёсаваньня, каб пры кажным завяршэньні няшчаснага шлюбу чалавек вінаваціў сваю долю, а не кіраўнікоў.

— Абавязкава, — сказаў ён.

— А юнакам нашым, каторыя выразьніліся адвагаю на вайне або якім-небудзь іншым дзеяньнем, апрача ведамых гонараў і ўзнагародаў, трэба стварыць магчымасьць жыць з жанчынамі, каб гэткім спосабам яны займелі як найболей дзяцей.

— Правільна.

— І далей, усіх народжаных дзяцей, зараз-жа перайма́юць адумысна да гэтага пакліканыя ўрадоўцы, і ўсяроўна — мужчыны ці жанчыны, або тыя і гэтыя, бо ўрадавыя становішчы займаюць аднолькава мужчыны і жанчыны.

— Але́.

— Дзяцей, што́ радзіліся ад лепшых бацькоў, гэтыя ўрадоўцы перададуць у дзіцячы жолаб да карміліц, якія жывуць у якой-небудзь частцы места; але нашчадкаў ад

дрэнных, або тых ад лепшых, але з азнакамі дэфармацыі, як і належыцца, забяруць асобна і схаваюць да пэўнае ступені ў таёмным і няведамым месцы.

— Так, — сказаў ён, — гэтак павінна быць учынена, калі род нашых старожаў мае астацца чыстым.

— Там будуць клапаціцца пра іхнае гадаваньне, і маткі будуць мець доступ у дзіцячы жолаб, калі мецімуць поўныя грудзі малака, але ўчынена будзе ўсякае стараньне, каб ані адна зь іх не магла распазнаць сваё дзіця. Калі матчынага малака ня хопіць, тады дагляд пераймуць іншыя жанчыны, якія маюць малако, і будзе стараньне праяўлена, каб тыя кармілі адно праз вызначаны час, а ночны дагляд і іншыя цяжкія абавязкі будуць несьці даглядчыцы і нянькі.

— Я думаю, — сказаў ён, — што ты ствараеш добры час для маладзіцаў нашых старожаў ў пэрыядзе радоў.

— Гэтак і павінна быць, — сказаў я. — Але ідзем далей у сузгоднасьці з нашым плянам. Мы сказалі, што бацькі нашчадкаў павінны быць у пары́ расьцьвету іхнага жыцьця.

— Правільна.

— І што́ гэта ёсьць расьцьвет жыцьця? Ці ня думаеш ты, што час расьцьвету для жанчыны будзе дваццаць гадоў, а для мужчыны — трыццаць?

— І да якое пары? — запытаў ён.

— Жанчына, — сказаў я, — няхай родзіць дзяцей для гаспадарства, пачынаючы з дваццатага і да саракавога году; а мужчына — тады калі найлепшая пара́ да бегу будзе ўжо за ім — пачынаючы з гэтага часу, няхай ён выдае гаспадарству нашчадкаў пакуль ня споўніцца яму пяць і пяцьдзесят гадоў. [461]

— Так, — сказаў ён. — гэтак у тых, як і ў гэтых, успомнутыя гады, зьяўляюцца найлепшаю парою фізычнага і інтэлектуальнага разьвіцьця.

— Гэтаксама, калі хто-небудзь з мужчын, будучы ў маладзейшым ці старэйшым ад успомнутага веку, бярэ публічна ўдзел у гімэна́ях, тады трэба сказаць, што дакананы пагрэшны і несправядлівы чын; бо дзіця, якога ён зьяўляецца бацькам, пачатак свой узяло не пад знакам ахвяраваньняў і малітваў, у якіх пры кажным шлюбе сьвятаркі і сьвятары дый суцэльнае гаспадарства моляцца, каб у добрых і карысных людзей нашчадкі былі заў-

сёды яшчэ лепшымі і болей карыснымі, чымся пад ас-лонаю цемені плод жудаснага юру.

— Правільна, — сказаў ён.

— І гэтае самае права будзе распасьціравца на кажнага мужчыну, — казаў я далей, — у межах прадбачанага расьцьвету, каторы ўвойдзе ў суадносіны з жанчынаю, хоць-бы нават і шлюбнага веку, але бяз згоды кіраўнікоў; мы скажам у гэткім выпадку, што ўзгадоўвае ён для гаспадарства пазашлюбнае дзіця — бо ня было ані заручынаў, ані пасьве́нчаньня.

— Найболей правільна, — сказаў ён.

— Аднак, як мне здаецца, калі жанчыны і мужчыны пераступяць век плоднасьці, мы дазволім мужчынам свабодна сходзіцца з кім яны хочуць, але не з дачкою або маткаю, або з адною з дачок дачкі і са старшымі сваякамі па лініі маці; з другое стараны, і жанчынам не дазваляецца ў ваходзіць у шлюбныя зносіны зь ніякім зь яе сыноў або з бацькам, ці з сынам сына або бацькам бацькі і гэтак далей. Хоць мы і выразім наш дазвол на ўсё гэта, але з асаблівым загадам перасьцерагаць, каб ніякі зародак не пабачыў дзеннае сьвятло; а калі ўжо зь якіх-небудзь прычынаў і родзіцца дзіця, тады бацькі павінны разумець, што нашчадак гэтакі ня можа быць падтрымліваны, і адпаведнае ўладжаньне мае быць праведзена.

— Гэтаксама і гэта, — сказаў ён, — зьяўляецца правільным. Толькі, як яны маюць ведаць хто іхныя бацькі, дочкі і гэтак далей?

— Яны ніколі ня будуць ведаць, — сказаў я. — Але кажны жаніх будзе называць сваімі сынамі дзяцей мужчынскага полу, што радзіліся ў дзесятым і сёмым месяцы ад дня ўступленьня ў шлюб, а тыя, зноў, будуць называць яго сваім бацькам, а дзяцей жаночага полу — сваімі дочкамі, і яны яго будуць называць бацькам; а іхных дзяцей ён будзе называць унукамі і ўнучкамі, а яны старэйшае пакаленьне, у залежнасьці ад полу, будуць называць дзедам і бабаю. Усе, што радзіліся ў часе, калі іхныя бацькі і маткі выдавалі на сьвет нашчадкаў, яны будуць называць сваімі братамі і сёстрамі, а гэтыя, як я ўжо і казаў, будуць знаходзіцца пад забаронаю ўступленьня ў шлюб. Гэтага, аднак, ня трэба разумець, як суцэльную забарону шлюбаў паміж братамі і сёстрамі; ка-

лі цягненьне лёсаў будзе памысным і аракул Пытыі пацьвердзіць гэта, тады шлюб іхны будзе правамоцным.

— Зусім правільна, — сказаў ён.

— Вось гэтакім, Гляўкон, ёсьць абрысаваньне паводля якога старожы нашага гаспадарства твораць супольнасьць з жонкамі і сем'ямі. У якіх суадносінах гэтая супольнасьць знаходзіцца з рэштаю гаспадарсьцьвенае ўладжанасьці і як добраю яна ёсьць — гэта мусім мы адпаведна засьведчыць на дарозе нашае дыскусыі. Або, як маем гэта ўчыніць?

— Так, — адказаў ён, — і толькі гэтак. [462]

— Ці не павінны мы знайсьці перш агульную аснову на шляху запытаньня самых сябе: што можам назваць мы галоўнаю мэтаю правадаўцы ў хвармуляваньні праваў і ў арганізаваньні гаспадарства, і штó называем мы найбольшым дабром і найбольшым злом? Пасьля гэтага, зусім свомым будзе, разва́жыць, ці нашае папярэдняе апісаньне носіць знаменьні дабра або зла?

— Абавязкава, — сказаў ён.

— Ці існуе яшчэ большае зло для гаспадарства, чымся разладзьдзе і распадзел на шматлікія часткі, там, дзе павінна панаваць адзінства? І ці можа існаваць яшчэ большае дабро, чымся тое, штó лучыць гаспадарства і спрычыняецца да ягонае еднасьці?

— Не, ня можа быць.

— А ці-ж ня існуе адналітасьць там, дзе назіраем супольнасьць радасьці і суму — дзе амаль усе грамадзяне радаюцца і перажываюць прыгнобленьне з прычыны нагоды радасьці або суму?

— Няма сумліву адносна гэтага, — адказаў ён.

— І наадварот, там, дзе адсутнічае пачуцьцё лучнасьці і верх бярэ прыватная прагнасьць, ці тады нарушаецца сувязь між грамадзянамі — калі адна палова кідаецца ў захопленьне, а іншая ў прыгнобленасьць з прычыны таго самага здарэньня, якое наведала гаспадарства або грамадзян, што жывуць у ім?

— Дый як можа быць інакш?

— Гэтакая нясузгоднасьць сярод грамадзян карэньне сваё знаходзіць у факце, калі пачынаюць выражэньне выказваць: "маё" і "не маё", "ягонае" і "не ягонае".

— Трапна сказана.

— А ці-ж ня ёсьць найляпей уладжанае тое гаспадар-

ства, у якім большая колькасьць людзей у аднолькавы спосаб і пра тую самую рэч ужывае тое самае выражэньне "маё" і "не маё"?

— Так, найляпей.

— А ці-ж зноў, гаспадарства ў прадмеце свайго перажываньня ня можа быць блізкім да стану паасобнага чалавека: для прыкладу, калі хто-небудзь з нас скалечыць палец, тады ўся сумесная сыстэма цела напружваецца ў напрамку душы, як да асяродзьдзя нібы княства, падпарадкаванага прысутнай сіле ў ёй, адчувае боль і суцэльна спаўчувае пашкоджанай частцы, якая церпіць; тады мы кажам, што чалавек адчувае боль у пальцу; і гэтае самае выражэньне ўжываецца адносна кажнае іншае часткі цела, якая дазнае ўспрыймо болю ў часе цярпеньня або прыемнасьці ў працэсе аздараўленьня.

— Зусім гэтак рэч маецца, — адказаў ён. — І я згаджаюся з табою, што ў найляпей упарадкаваным гаспадарсьцьве спасьцерагаецца вельмі блізкі і агульны падход да апісанага табою пачуцьця.

— Затым, як я ўважаю, калі каму-небудзь з грамадзян штосьці прытрапіцца, хай сабе нешта добрае ці дрэннае, тады гаспадарства ягонае пераживаньне ўчыніць сваім дазнаньнем, і будзе разам зь ім радавацца або сумаваць.

— Гэтак абавязкава станецца, — сказаў ён, — калі ў гаспадарсьцьве пануюць добрыя правы.

— А цяперака пара́ нам вярнуцца, — сказаў я, — да нашага гаспадарства і паўзірацца, ці гэтакая хворма ўладжаньня, ці іншая зьяўляецца ў сузгоднасьці з нашымі фундамэнтальнымі прынцыпамі.

— Так, мы мусім, — сказаў ён.

— Як тады? [463] Нашае гаспадарства, як кажнае іншае, мае кіраўнікоў і народ?

— Мае.

— І ўсе яны называцімуцца грамадзянамі?

— Ведама.

— Але ці няма шака іншага імені, якое народ дае сваім кіраўнікам у іншых гаспадарствах?

— Наагул у шматлікіх гаспадарствах яны называюцца гаспадарамі, але ў дэмакратычных — проста кіраўнікамі.

— І ў нашым гаспадарсьцьве? Апрача звароту грамадзянін, я́к народ называе кіраўнікоў?

— Яны называюць апякунамі і памочнікамі, — адказаў

ён.

— А як кіраўнікі называюць народ?

— Платнікамі і жывіцелямі.

— А як у іншых гаспадарствах кіраўнікі называюць народ?

— Нявольнікамі, — сказаў ён.

— А кіраўнікі між сабою як называюцца?

— Сукіраўнікамі, — сказаў ён.

— А ў нашым?

— Сустарожамі.

— Ці ведамым ёсьць табе прыклад у якім-небудзь гаспадарсьцьве, каб кіраўнік, які зьвяртаецца да сваіх сукіраўнікоў, да аднаго зь іх зьвярнуўся як да свайго, а да іншага — як да чужога?

— Так, вельмі часта.

— Блізкага чалавека ён уважае за свайго і гэтак называе яго, а чужога ня лічыць за свайго?

— Так.

— А як-жаж рэч маецца з тваімі старожамі? Ці знойдзецца хто-небудзь у іхным асяродзьдзі, хто гэтак думаў-бы і называў-бы каго-небудзь з сустарожаў чужым?

— Ані ў якім выпадку, — адказаў ён. — Бо кажны, каго яны сустрэнуць, будзе ўважаны імі або за брата ці сястру, бацьку ці матку, або за сына ці дачку, або за дзіця каго-небудзь з бацькоў, якія гэткім спосабам знаходзяцца ў сваяцтве зь ім.

— Дасканалы адказ! — сказаў я. — Але дазволь мне яшчэ раз спытаць цябе: Ці маюць яны быць людзьмі, якія ўжывацімуць толькі асабістыя звароты, свомыя для сваякоў, а мо' і трымацімуць сябе ўва ўсіх сваіх зваротах у адпаведнасьці да імёнаў? Напрыклад — ужываючы слова "бацька", ці будзе праяўлена належная апека бацьку і пашана, належная з выражэньнем пачуцьця абавязку і паслухмянасьці для яго, як наказвае права? Зноў-жа, калі яны ня будуць паслухмянымі праву, тады будуць яны залічаны да бязбожнікаў і несправядлівых людзей, каторыя найболей праўдападобна не атрымаюць дабра ані з рук Бога, ані ад людзей? Ці мае ўсё гэта, як і іншае, з вуснаў усіх грамадзян напаўняць слух дзяцей адносна іхных бацькоў, на каторых ім пакажуць, гэтаксама, як і на іншых сваякоў?

— Гэтакія, і ніякія іншыя, — сказаў ён; — бо што мо-

жа быць найболей сьмехатворным для іх, як выказваныя вуснамі гукі, свомыя для сваякоў і адначасна пазбаўленьня чыну ў духу гэтага самага сваяцтва?

— Тады, у нашым гаспадарсьцьве мова гармоніі і сузгоднасьці будзе найчасьцей чутна, чымся ў якім-небудзь іншым. Гэтак, як я ўжо і адцеміў раней, у нашых грамадзян гучэла-б гэта ў вадзін голас: "Мне ўсё ўдаецца!" або "у мяне ўсё дрэнна йдзе", калі ў каго-небудзь аднаго з грамадзян "усё ўдаецца" або "ўсё ідзе дрэнна".

— Абсалютна правільна, — сказаў ён. [464]

— І ў сузгоднасьці з гэтакім звычаем думаць і гаварыць, ці немагчыма было-б сказаць, што ўсе свае радасьці і сумы яны будуць пераживаць супольна?

— Так, і гэтак яны будуць паступаць.

— Затым, нашыя грамадзяне мецімуць супольнае зацікаўленьне ў той самай рэчы, адносна якое яны будуць рады сказаць: "мая ўласная", і, маючы гэтае самае супольнае зацікаўленьне, яны дазнацімуць супольнае вычуцьцё прыемнасьці і болю?

— Ведама, і ў большай ступені, чымся ў іншых гаспадарствах.

— І прычына гэтага, пасьля ўсіх пастановаў канстытуцыі гаспадарства, будзе тая, што старожы будуць мець супольнасьць жанок і дзяцей.

— Так, гэта будзе галоўнаю прычынаю, — сказаў ён.

— І гэтая адзінасьць, што да якое мы згадзіліся, што яна будзе найбольшым дабром, была азнаменавана ў нашым уласным параўнаньні добра-ўладжанага гаспадарства ў аднясеньні да цела і ягоных частак, калі яно адчувае і прыемнасьць і боль.

— Так, — сказаў ён, — мы згадзіліся і правільна.

— Адсюль, супольнасьць жанок і дзяцей у васяродзьдзі нашых грамадзян, зьяўляецца найбольшым дабром для гаспадарства.

— Бязумоўна, — сказаў ён.

— І гэта ўсузгадняецца з нашымі іншымі прынцыпамі, якія мы пацьвердзілі, пайменна, што старожы не павінны мець сваіх уласных дамоў, ані свае ўласнае зямлі і наагул ніякае іншае маемасьці; іхная плата — гэта харчаваньне, якое яны атрымліваюць ад іншых грамадзян, і яны не павінны мець прыватных выдаткаў, бо замерам нашым ёсьць захаваць у іх запраўдны характар старожаў.

— Правільна, — адказаў ён.

— Вось затым бо я і гавару, што абодва зьявішчы — супольнасьць уласнасьці і супольнасьць сем'яў, маюць на мэце ўчыніць іх яшчэ лепшымі старожамі; яны ня будуць разьдзіраць гаспадарства на кавалкі з прычыны выплываючае розніцы з "маё" — і — "не маё"; адзін чалавек цягне ў свой дом усё, што толькі пападзецца пад руку, зусім ня лічачыся з патрэбамі іншых людзей, а ў доме свая жонка і дзеці, і свае прыватныя прыемнасьці і турботы. З другое стараны, пры адным ува ўсіх аднолькавым паглядзе адносна таго, што́ трэба ўважаць сваім, усе яны маюць адну і тую самую мэту, і ў меру магчымасьці дазнаюць аднелькавае ўспрыймо гэтак радасьці, як і суму.

— Бясспрэчна, — сказаў ён.

— І калі яны ня меціМуць нічога апрача сваіх уласных асобаў, якія яны могуць называць сваімі ўласнымі, ходаньні і нараканьні ня меціМуць месца сярод іх; яны будуць вызвалены са сварак, якіх прычынаю зьяўляюцца грошы або дзеці ці сваякі.

— Гэтага зусім ня меціМуць яны, — сказаў ён.

— І ня будуць яны ўшчынаць судовых працэсаў з прычыны зьневажэньняў ці гвалту. Бо, што аднагодкі павінны бараніць самых сябе перад аднагодкамі, мы павінны падтрымліваць як зьявішча ганаровае і справядлівае; мы павінны ўчыніць паняцьце абароны справаю неабходнасьці.

— Правільна, — сказаў ён. [465]

— І гэта яшчэ правільным ёсьць, — сказаў я; — у праве, што, калі хто-небудзь пасварыцца з кім-небудзь, хай гэтая асоба здаволіць сваё пачуцьцё крыўды ў межах самое крыўды і не пашырыць свае сваркі ў бясконцасьць.

— Ведама.

— Для старшых няхай будзе вызначаны абавязак кіраваньня і трыманьня маладых у паслухмянасьці.

— Ясна.

— Гэтаксама і малодшы, ніколі ня спрычы́ніць крыўды старшаму ані падыйме рукі на яго, і не зьняважыць яго за выняткам выпадкаў калі загадваюць кіраўнікі. Бо існуюць два здольныя старожы, якія перашкодзяць яму ў гэтым: страх і сорам. Звычаёвы сорам забараняе да-

кранацца тых, што знаходзяцца ў бацькаўскім сваяцтве да іх, а страх выклікае сьведамасьць, што пакрыўджанаму могуць прыйсьці на помач ягоныя сыны, браты або бацькі.

— Могуць прыйсьці на помач яму, — адказаў ён.

— Затым, у кажным выпадку, правы дапамогуць грамадзянам жыць спакойна і разам.

— І вельмі нават.

— І калі старожы ніколі ня будуць сварыцца між сабою, тады ня будзе небясьпекі распадзелу гэтак у гаспадарсьцьве, як і сярод паасобных людзей.

— Ня будзе зусім.

— Мне нават няпрыемна ўспамінаць пра тыя, нібы-та неспасьцярожныя, але паніжаючыя годнасьць чалавека зьявы, якіх яны ня мецімуць: напрыклад, лісьлівасьць беднага перад багатым, пра труднасьці і цяжкасьці, зьвязаныя з узгадаваньнем дзяцей і пра знойдзеньне матэрыяльных сродкаў, каб абясьпечыць неабходным сям'ю, пра пажычаньне грошай, і адмаўляць іх іншым, або здабываць грошы за ўсякую цану, перахоўваць іх у жонкі або ў каго-небудзь з хатніх, паручаючы ім весьці хатнія справы — усё гэта, дружа мой, бясконцыя клопаты і турботы, з прычыны якіх людзі церпяць, і гэта відавочна, пра што і гаварыць ня варта.

— Так, гэта ясна і сьляпому, — сказаў ён

— І яны будуць выбаўлены з усяго гэтага зла, і жыцьцё іхнае будзе добраслаўленым, як жыцьцё олімпійскіх пераможнікаў, дый болей яшчэ шчасьлівым.

— Як гэта?

— Бачыш, олімпійскі пераможнік чуецца шчасьлівым, атрымліваючы адно частку з тых добраслаўленьняў, што запэўнены нашым грамадзянам, якія здабылі значна большую перамогу і маюць большыя сродкі да існаваньня на грамадзкі кошт. Бо перамога, якую яны здабылі, зьяўляецца выбаўленьнем для ўсенькага гаспадарства; дый карона, якою яны і іхныя дзеці ўкаранаваныя, зьяўляецца паўнінёю ўсяго, што́ жыцьцё вымагае. Жывучы тут, яны атрымліваюць узнагароду з рук свае ўласнае краіны, а пасьля сьмерці яны атрымліваюць годныя паховіны.

— Так, — сказаў ён, — дый яны зьяўляюцца праслаўленаю ўзнагародаю.

— Памятаеш ты, — сказаў я, — як у бегу нашага папярэдняга разважаньня [1]) — нехта, (хай імя ягонае ня будзе тут названым), [466] высунуў супроць нас абвінавачаньне, што мы ня чынім нашых старожаў шчасьлівымі, і гэта з тае прычыны, што яны нічога ня маюць, хоць і зьяўляюцца ў стане займець сабе ўсю маемасьць грамадзян, — на што́ адказвалі мы тады, што, калі падобнага роду вытварыцца сытуацыя, тады, магчыма, мы разгледзім падобнага роду пытаньне, а пакуль-што, чым мы цяперака і займаемся, мы маем нашых старожаў учыніць праўдзівымі старожамі; а тымчасам мы хвармуем гаспадарства з пункту гледжаньня найбольшае памыснасьці, не з пункту гледжаньня аднае якое-небудзь групы людзей, але з пункту гледжаньня цэласьці.

— Так, я памятаю, — адказаў ён.

— І як рэч маецца цяперака, калі жыцьцё нашых памочнікаў далёка прыгажэйшым і болей шляхэтным зьяўляецца, чымся алімпійскіх пераможнікаў? Ці могуць быць яны параўнаны з жыцьцём шаўцоў або іншых рамесьнікаў ці земляробаў?

— Я думаю, што не, — адказаў ён.

— Адначасна я мушу паўтарыць тут тое, што́ я ўжо казаў на іншым месцы, што калі які-небудзь з нашых старожаў прыйдзе да пераконаньня, што шчасьце ягонае ў тым, каб ня быць старожам і ня цешыцца пэўным і сузгодным жыцьцём, якое, паводля нашага меркаваньня, зьяўляецца найлепшым жыцьцём, але прасякнецца бязглуздым і недасьведчаным перакананьнем пра шчасьце, якое будзе пхаць яго на тое, каб прысабечыць сабе сіламоцаю ўсю маемасьць гаспадарства, тады няхай ён сьцяміць, якім запраўды быў мудрацом Гэзіёдос, калі казаў: “палова ёсьць болей, чымся цэлае”.

— Калі-б гэтакі параіўся са мною, — сказаў ён, — дык ён астаўся-б пры нашым спосабе жыцьця.

— Тады ты згаджаешся, — сказаў я, — з агульнасьцю жанок у гэтых мужоў, аб чым мы ўжо гаварылі — супольнасьць адукацыі, супольнасьць дзяцей. Ці астаюцца жанчыны ў месьце або ідуць разам на вайну, яны сумесна з мужчынамі нясуць адказнасьць за ахову гаспадарства; яны маюць пільнаваць разам, і выходзіць на ловы разам,

---

[1]) Гл. б. 129.

як сабакі; у кажнай рэчы і заўсёды, як далёка магчымым ёсьць для іх, жанчыны маюць выконваць сваю долю абавязкаў з мужчынамі. І паступаючы гэтак, выконвацімуць яны як найляпей сваю дзейнасьць і гэтым ня знойдуцца ў супярэчнасьці з натуральным правам суадносінаў між жанчынамі і мужчынамі?

— Я згаджаюся з табою, — адказаў ён.

— А цяперака, — сказаў я, — астаецца зрабіць угляд у тое, ці гэтакая супольнасьць, якую назіраем сярод іншых жывых існаваньняў, зьяўляецца магчымаю, каб урэчаісьніць сярод людзей — і калі гэта магчыма, да якое ступені гэта магчымым ёсьць?

— Ты якраз заняўся пытаньнем, — сказаў ён, — якое я меўся ўзьняць?

— Што да вядзеньня вайны, — сказаў я, — дык, як мне здаецца, для іх ня будзе ніякіх труднасьцяў.

— Як гэта?

— Разам з мужчынамі яны будуць браць удзел у ваенных выправах; і возьмуць з сабою тых са сваіх дзяцей, якія зьяўляюцца дастаткова дужымі, зь меркаваньнем, што яны, як і ўсе іншыя дзеці рамесьнікаў, будуць прыглядацца дзеяньням, якія аднойчы яны пераймуць на сябе, як толькі вырастуць. І апрача назіраньняў, яны будуць даглядаць бацькоў і матак, і памагаць ім, і стануцца карыснымі ў ваенных дзеяньнях. [467] Ці-ж не давялося табе бачыць, як, напрыклад, дзеці ганчара сочаць за працэсам ганчарскіх вырабаў і памагаюць, перад тым, як самыя прысядуць да кола?

— Ды колькі яшчэ.

— Ці-ж маюць быць ганчары болей стараннымі ў навучаньні сваіх дзяцей, у ствараньні нагоды прыглядацца. і паказваць ім, як вырабляць пасуду, чымся нашыя старожы будуць гэта рабіць?

— Гэта было-б сьмешным, — адказаў ён.

— Тут знаходзіцца гэтаксама і ўплыў на бацькоў, падобна як рэч маецца з кажным жывым існаваньнем, калі яны маюць побач сябе тых, каго яны радзілі: тады праяўляюць яны найбольшую адвагу да харобрага змаганьня.

— Гэта так. Але існуе большая небясьпека, Сакратас, бо ў выпадку паразы, што часта здараецца на вайне, дзеці могуць загінуць гэтаксама як і іхныя бацькі, і га-

спадарства ніколі ня верне гэтакае страты.

— Ты праўду кажаш, — сказаў я. — Але ці думаеш ты, што ў першую чаргу трэба старацца пра тое, каб яны ня трапілі ні ў якую небясьпеку?

— У ніякім выпадку.

— Добра. Але калі яны маюць ісьці на рызыку, ці не павінны часам ісьці на яе? і калі ўхіляцца ад паразы, тады стануцца яны лепшымі?

— Ясна.

— А ці-ж ня мае гэта важнасьці і ці ня варта зарызыкаваць, каб тыя, каторыя ў будучыні стануцца ваярамі, ўжо ў зараньні сваіх гадоў ўзіраліся зблізка на вайну?

— Так, гэта мае важнасьць, асабліва для тае мэты, пра якую ты гаворыш.

— Каб дзеці маглі прыглядзецца зблізка на вайну — гэта павінна быць нашым першым крокам; але ў пáры з гэтым мы мусім учыніць усё, каб стварыць для іх ахову перад небясьпекаю; тады ўсё будзе добра; ці ня так гэта?

— Так.

— Перад усім, — працягваў я далей, — ужо іхныя бацькі, наколькі гэта магчымым ёсьць для людзей, ня будуць нясьведамымі ў ваенным мастацтве, але ведацімуць, якія выправы крыюць у сабе небясьпеку, а якія — не.

— Ведама, — сказаў ён.

— І яны будуць браць іх з сабою на бясьпечную выправу, і будуць асьцярожнымі адносна небясьпечнае.

— Правільна.

— І не найгоршыя старшыні, як мне здаецца, будуць вызначаныя над імі, але гэтакія, якія мецімуць ваеннае дазнаньне — яны будуць для іх і камандзерамі, і вучылямі.

— Гэтак, як і належыцца.

— І ўсё-ж мы можам сказаць, што небясьпекі не заўсёды могуць быць прадбачанымі; здараюцца розныя неспадзеўкі.

— І шмат іх.

— Дзеля гэткіх выпадкаў, дружа мой, трэба іх акрыляць з маленства, каб, калі надыйдзе небясьпечная гадзіна, яны маглі паляцець і гэтым ухіліцца ад гора.

— Што ты маеш на ўвазе? — запытаў ён.

— Тое, маю на ўвазе, што ўжо з самых раньніх гадоў

мы павінны садзіць дзяцей на коней, і калі яны навучацца езьдзіць вярхом, браць іх з сабою на конях дзеля назіраньня бітвы; але коні ў іх не павінны быць гарачыя і баёвыя, але найхутчэйшыя і паслухмяныя ў вуздэчку. Гэткім спосабам дзеці мецімуць найлепшую нагоду прыглядзецца штуцы змаганьня, якое пазьней станецца іхным удзелам. І калі заіснуе небясьпека, напэўна ўратуюцца, ідучы сьледам за старшымі кіраўнікамі.

— Мне здаецца, што ты трапна гаворыш, — сказаў ён. [468]

— Дык што-ж, — працягваў я далей, — можам мы сказаць адносна вайны? Як будуць усуадношвацца адзін да аднаго самыя ваяры і якую паставу яны зоймуць адносна ворага? Правільна мне выдаецца ці не?

— Скажы, — дабавіў ён, — што́ ты маеш на ўвазе.

— А вось што: калі хто з жаўнераў пакіне сваю шэрэнґу, або кіне аружжа, або станецца вінаватым у якім-небудзь падобным чыне баязьлівасьці, ці не павінны мы гэтакага перавесьці ў земляробы або ў рамесьнікі?

— Павінны.

— А таго, хто дазваляе быць узятым жывым у палон ворагамі, ці-ж не павінны мы ўважаць яго за гасьцінец для ворагаў? Гэтакі зьяўляецца іхнаю праўнаю здабычаю і няхай яны чыняць зь ім як ім падабаецца.

— Ведама.

— Але той, хто найболей адзначыўся харобрасьцю, што́ з гэтакім мае быць учынена? Усе ягоныя маладыя сябры, што прыймалі сумесны ўдзел у выправе, павінны ўганараваць яго; кажны зь іх па чарзе павінен увенчыць яго. Ці-ж ня так гэта?

— Я думаю, так.

— А што ты думаеш адносна прыняцьця ім по́ціску правае рукі на знак сяброўства?

— І з гэтым я згадджаюся.

— Але з тым, што́ наступіць, — сказаў я, — насілу ці згодзішся ты.

— З чым, гэта?

— Каб ён усіх пацалаваў і каб яго ўсе пацалавалі.

— З гэтым найболей я згаджаюся, — сказаў ён. І да гэтага права хацеў-бы я і тое яшчэ дадаць, што, калі гэта мае месца ў той самай выправе, нікому ня будзе дазволена адказваць адмоваю, калі гэтакі жаўнер захоча

каго-небудзь цалаваць, — бо калі яму давядзецца ўлюбіцца ў юнака ці ў дзяўчыну, дык гэта тым болей падбадзёрыць яго ў напрамку праяўленьня чынаў харобрасьці.

— Прыгожа, — сказаў я. — Бо харобры чалавек мае мець болей жанок, чымся іншыя, вызначаныя дзеля гэтакае мэты; і сярод іншых ён мецíме пяршынства ў падобных справах, каб ён займеў як найболей нашчадкаў.

— Так, пра гэта мы ўжо гаварылі, — сказаў ён.

— Зноў-жа, паводля Гомэра, існуе іншы спосаб аддаваньня гонару змагарным юнакам. Бо Гомэр пераказвае нам, што Айас, пасьля таго, як ён адзначыўся харобрасьцю ў бітве, быў узнагароджаны "выцягнутаю на ўсю даўжыню хрыбетнаю часткаю". Гэта была не абыякая пашана для адважнага чалавека на расьцьвеце свайго жыцьця, будучы ня толькі выражэньнем гонару, але гэтаксама і крыніцаю праяўляньня большае сілы дзеля завяршэньня гераічных чынаў.

— Зусім трапна, — сказаў ён.

— У дадзеным выпадку, — сказаў я, — няхай Гомэр станецца нашым вучыцелем; і мы, са свае стараны, у часе складаньня ахвяраў і пры іншых нагодах, будзем аддаваць пашану харобрым у суразьмернасьці, адказваючай адвазе іхнай змагарнасьці, і ўсяроўна, мужчынам ці жанчынам, з гымнамі і іншымі адзначэньнямі, пра якія мы ўжо толькі-што гаварылі, дый:

Зь месцам пяршынства, і мясам, і чары налíты да ўзьверху,

каб разам з пашанаю замацоўваць дух змаганьня ў гэтых адважных мужох і жанчынах.

— Цудоўна ты гаворыш, — адказаў ён.

— Добра. А пра памершых у часе выправы? Калі некаторыя палі на полі хвалы, ці-ж ня скажам мы пра гэтакіх, што яны належаць да залатога пакаленьня?

— Перад усім.

— Ці-ж ня можам мы паверыць Гэзіёдосу, каторы запэўнівае нас, што, калі некаторыя з гэтага пакаленьня памруць, дык яны:

Будуць зьбіначаны ў дэманаў добрых, каб стражамі стацца, [469]
Роду, людзей, бараніці прыгожай абдораных мовай?

— Паверым яму.

— Затым, мы мусім даведацца ад бога, як урачыста

маюць адбывацца паховіны гэтакіх боскіх і харобрых людзей і зь якім асаблівым вырозьненьнем, і паводля дадзенага нам знаменьня, мы будзем хаваць іх?

— І чаму-б не?

— І ў вякох, што надыйдуць, — затым што яны гэніі, — мы будзем шанаваць іхныя магілы і кленчыць перад імі. І ня толькі ім, але ўсім тым, што былі ўважанымі за асабліва выдатных у жыцьці, памерлі яны са старасьці ці іншае якое прычыны, павінны быць аказваны тыя самыя гонары.

— Гэта вельмі справядліва, — сказаў ён.

— І далей. Як маюць нашыя ваяры абыходзіцца з ворагам?

— У якім сэнсе?

— Перад усім у сэнсе нявольніцтва. Ці думаеш ты, што будзе гэта справядліва, калі гэльлены будуць панявольваць гэльленістычныя гаспадарствы, або, наадварот дазваляць іншым панявольваць іх, калі яны могуць перашкодзіць гэтаму? Ці не павінна гэта стацца іхным звычаем ашчаджаць род гэльленаў, маючы на ўвазе, каб і ён не папаў у нявольніцтва барбараў?

— Ашчаджаць род гэльленаў ёсьць найболей важнаю рэчаю.

— Тады, і нашым гэльленам ня можна мець гэльлена, як нявольніка; гэта трэба перасьцерагаць і гэта самае раіць іншым гэльленам.

— Ведама, — сказаў ён. — Гэткім спосабам яны аб'ядноюцца супроць барбараў, і перастануць сварыцца міжсобку.

— І далей. Ці павінны, — сказаў я, — пераможнікі забіраць з забітых што-небудзь, апрача зброі? Ці-ж ня стаецца практыка абіраньня ворага прыкрываю, каб ухіліцца ад сустрэчы з ворагам у бітве. Баязьліўцы, абшукваючы забітых прыкідваюцца быццам выконваюць свой абавязак; і з прычыны падобнага грабежніцтва шмат ужо загінула войска.

— І вельмі шмат.

— Ці-ж не зьяўляецца гэта подласьцю і прагавітасьцю, каб грабіць забітага? Толькі жаночаму, драбязговаму спосабу думаньня свомым ёсьць уважаць за ворага нават цела памершага, хоць запраўдны вораг ужо ўцёк, пакідаючы адно тое толькі, пры помачы чаго ён змагаўся —

ці-ж не зьяўляецца гэта бaржджэй падобным да сабакі, які са злосьцю кідаецца на камень, замест таго, каб кінуцца на таго хто б'е яго ка́менем?

— Вельмі падобны да сабакі, — сказаў ён.

— Тады, трэба адмовіцца ад аграбленьня памершых і не перашкаджаць пахаваньню іх?

— Ведама, — адказаў ён, — мы бязумоўна мусім адмовіцца.

— Ані прынясем мы як ахвярны дар аружжа ў сьвятыню, і ў вапрычонасьці аружжа гэльленаў, [470] калі нам хоць колькі-небудзь залежыць, каб падтрымліваць добрапачуцьцёвыя суадносіны зь іншымі гэльленамі. І запраўды, яшчэ большае існуе апраўданьне высьцерагацца, каб не апаганіць сьвятыні, уносячы рэчы, забраныя ад нашых суродзічаў, — хіба-што бог загадвае інакш.

— Зусім правільна, — сказаў ён.

— А што адносна апусташэньня зямлі гэльленаў або спальваньня дамоў — як па-твойму ў падобных выпадках маюць паступаць жаўнеры?

— Я з прыемнасьцю, — сказаў ён, — хацеў-бы паслухаць, што ты думаеш пра гэта.

— У маім разуменьні, — сказаў я, — адно і другое павінна быць забаронена; я-б згадзіўся на тое, каб забраць адно гадавы ўраджай і болей нічога. Ці маю я паясьніць табе чаму?

— Калі ласка, скажы.

— Мне здаецца, што не бяз прычыны існуюць два выражэньні — сварка і вайна. І як я разумею, гэтаксама існуе розьніца ў іхным характары; адно выражае сабою тое, што́ зьяўляецца ўнутраным і хатнім, тады як іншае адносіцца да вонкавага і чужацкага. І першае з двох абазначваецца, як сварка, тады як другое — вайною.

— Ты падае́ш вельмі свомую розьніцу, — аддказаў ён.

— І ці-ж не магу я зьвярнуць увагі на гэтакую самую свомасьць, што ўвесь гэльленістычны род знаходзіцца ў аб'еднаньні на дарозе супольнасьці крыві і сяброўства, але для барбараў яны людзі іншае краіны і чужынцы.

— Вельмі трапна сказана, — пацьвердзіў ён.

— Затым, калі гэльлены змагаюцца з барбарамі і барбары з гэльленамі, тады мы скажам, што яны ваююць, і паводля свае натуры яны зьяўляюцца ворагамі, і гэта-

кая хворма антаґанізму павінна быць названа вайною. Але калі гэльлены ваююць між сабою, тады мы скажам, што гэльлены знаходзяцца ў стане нязгоды і сваркі, бо ў грунце рэчы яны зьяўляюцца прыяцелямі; і гэтакую няпрыязнасьць мы называем сваркаю.

— Што да мяне, — сказаў ён, — дык тут я бачу трапнае ўняцьце суадносінаў.

— Вазьмі пад увагу, — сказаў я, — што здарыцца тое, што́ згадзіліся мы назваць сваркамі і гаспадарства падзялілася, і дзьве стораны апусташаюць зямлю і паляць да грунту дамы́ адзін аднаго, — бачыш, як згубнаю акажацца гэтакая сварка і як мала любові да свае бацькаўшчыны праяўляюць стораны! Бо ў іншым выпадку яны не адважыліся-б разьдзіраць на кавалкі сваю карміцельку і сваю маці. Магчыма была нейкая прычына, калі пераможнікі забіраюць у пераможаных плады іхнае працы, але няхай яны не забываюць, што апошняя іхная мэта — гэта супакой у іхных сэрцах і няхай яны ня думаюць змагацца без перапынку.

— Так, — сказаў ён, — апошні пагляд лепшы, чымся першы.

— І як? Ці гаспадарства, якое ты асноўваеш, ня мае быць гэльленістычным?

— Яно павінна быць гэтакім, — адказаў ён.

— І ці-ж ягоныя грамадзяне не павінны быць добрымі і цывілізаванымі?

— Нават вельмі.

— І ці-ж ня будуць яны любіць Гэльляду і ўважаць, што Гэльляда зьяўляецца іхнаю ўласнаю зямлёю і сумесна зь іншымі прыймаць удзел у сакральных урачыстасьцях у сьвятынях?

— Найболей праўдападобна.

— І кажная розьніца паглядаў, якая можа ўзьнікнуць сярод іх, [471] будзе ўважацца толькі як сварка між імі — сварка між прыяцелямі, якую не назавуцімуць яны вайною?

— Гэтак не назавуцімуць.

— І ў часе сваркі яны ўсё яшчэ будуць памятаць пра той дзень, калі яны пагодзяцца?

— Ведама.

— Сваім праціўнікам яны будуць добразычліва раіць; і ня будуць панявольваць іх або нішчыць — яны будуць

разумнымі райцамі, і ня ворагамі.

— Правільна, — сказаў ён.

— І калі яны самыя зьяўляюцца гэльленамі, дык яны ніколі ня будуць апустошваць Гэльляду, ані гэтаксама паліць аселішчы, ані ўважацімуць, што цэлае жыхарства, — гэта значыць, мужчыны, жанчыны і дзеці, — зьяўляюцца іхнымі ворагамі, бо яны ведаюць, што вінаватымі ў сварцы пераважна бывае некалькі чалавек, а пераважаючая рэшта людзей зьяўляецца іхнымі прыяцелямі. І дзеля ўсіх гэтых прычынаў яны ня будуць ахвочымі апустошваць іхныя землі і разбураць іхныя дамы́; іхная варожасьць трываціме толькі да тае пары́, пакуль тыя, што непавінна це́рпяць, ня змусяць вінаватых сваркі, даць выраз задаваленьня.

— Я згаджаюся, — сказаў ён, — што нашыя грамадзяне гэ́так павінны адносіцца да сваіх гэльленістычных праціўнікаў, але да барбараў — гэтак, як цяперака гэльлены адносяцца адзін да аднаго.

— Тады, давайце пастановім гэтакае права для нашых старожаў: — не апустошваць зямлі гэльленаў і ня спальваць іхных аселішчаў.

— Так, пастановім, — сказаў ён; — дый мы ўважаем, што ўсе нашы ранейшыя пастановы добрыя.

Але я ўсё яшчэ, Сакратас, мушу сказаць, што калі дазволена будзе табе гаварыць і далей у гэткі спосаб, ты зусім забудзеш пра іншае, пытаньне магчымасьці, *) якое было ўспомнутым на пачатку, паймена: ці можа быць гэтакае гаспадарства ўрачаісьнена і, калі так, — якім спосабам гэта магчыма. Бо я зьяўляюся гатовым сьцьвердзіць, што плян, які ты прапануеш, калі толькі можа быць урэчаісьненым, будзе бязумоўным дабром для гаспадарства. І я хацеў-бы дадаць, аб чым ты ня ўспомніў, што грамадзяне гэтакага гаспадарства былі-б найболей адважнымі жаўнерамі і ніколі не пакінулі-б сваіх шарэнґаў, бо яны ўсе ведалі-б адзін аднаго і кажны клікаў-бы адзін аднаго бацькам, братам, сынам; і калі жанчыны мелі-б браць удзел у ваенных выправах — у той самай шарэндзы, ці ідучы з-заду, каб наводзіць страх на ворагаў, ці, у выпадку патрэбы, як памочніцы — я пэўны, што, дзякуючы ўсяму гэтаму, нашыя грама-

*) Бач. 182.

дзяне ня будуць пераможанымі. Ня буду ўжо гаварыць пра хатняе дабро, магу толькі сабе ўявіць колькі яго будзе. І затым, што я згодны з табою што да ўсіх выгадаў, выцякаючых згэтуль, калі толькі гэтакае твaё гаспадарства прыйдзе ў стан быцьця, тады мы ня маем патрэбы гаварыць болей пра гэта. А цяперака, выходзячы з перакананьня, што гэтакае гаспадарства магчымым ёсьць, вярніся да пытаньня магчымасьці і растлумач нам, якім гэта спосабам або шляхам ці сродкамі можна яго зьдзейсьніць, а пра ўсё іншае тым часам пакінем думаць.

— Толькі на хвілінку я заглядзеўся, [472] як ты ўжо зрабіў бязьлітасны наскок на мяне, — сказаў я. — Ты, мусіць, не спасьцерагаеш, што насілу я ўхіліўся ад першае і другое хвалі, як ты цяперака насылаеш на мяне трэйцюю, найбольшую і самую небясьпечную. Калі ты пабачыш яе і пачуеш ейнае водгульле, ты праявіш болей зразуменьня і прызнацімеш мне рацыю, што я, рэч зразумелая, не сьпяшаўся з гэтакаю своеасабліваю прапазыкаю, як тая, якую цяперака хацеў-бы я падáць да ведама і перайсьці да разважаньня над ёю.

— Чым болей ты будзеш гэтак гаварыць, — адказаў ён, — тым меней дазволім мы табе ўхіляцца ад пытаньня: як гэтакае гаспадарства з падобнаю канстытуцыяю можа быць магчымым. Калі ласка, гавары зараз-жа і безадкладна.

— Перш трэба прыпомніць, — сказаў я, — што да гэтага пытаньня мы прыйшлі тады, калі затрымліваліся над тым, у чым заключаецца справядлівасьць і несправядлівасьць.

— Так, трэба. Але дзеля чаго гэта? — запытаў ён.

— Ды так сабе. Я хацеў-бы адно запытаць, калі мы ўжо выкрылі ў чым справядлівасьць заключаецца, тады мы апраўдана можам дамагацца, каб справядлівы чалавек быў зусім справядлівы, а мо' павінны мы здаволіцца тым, што чалавек у межах свае магчымасьці наблізіцца да яе і будзе мець у большай ступені ўдзел у справядлівасьці, чымся іншыя людзі?

— І гэтым здаволімся, — сказаў ён.

— Мы хочам дасьледзіць, — сказаў я, — сутнасьць абсалютнае справядлівасьці і характар дасканала справядлівага чалавека, і гэтаксама несправядлівасьці, як і дасканала несправядлівага чалавека, каб гэткім спаса-

бам займець ідэал. Мы маем прыглядзецца ім з мэтаю, каб мы знайшліся ў стане судзіць адносна нашага ўласнага шчасьця і няшчасьця адпаведна да меры, якую яны выявілі і ступені, у якой мы падобныя да іх, але ніколі, каб паказаць, што яны фактычна могуць існаваць.

— Тутака, — сказаў ён, — ты правільна гаворыш.

— Ці думаеш ты, што добры мастак-маляр стаецца горшым, — пасьля таго, як ён зь неспатыканаю здольнасьцю намаляваў ідэал дасканала прыгожага чалавека, — затым толькі, што ён не зьяўляецца ў стане давесьці, што гэтакі чалавек можа існаваць у запраўднасьці?

— Запраўды, — сказаў ён, — маляр ня станецца горшым.

— А ці-ж мы не стварылі ідэал дасканалага гаспадарства ў словах?

— Ведама.

— Ці-ж зьяўляецца нашае выказваньне затым горшае, што мы не знайшліся на ўзроўні давесьці магчымасьці пабудовы гэтакага гаспадарства, у спосаб намі выражаны?

— Напэўна, не, — сказаў ён.

— Гэта праўда, — сказаў я. — Але, калі на тваё жаданьне я маю прадпрыняць спробу паказаць, як і пры якіх абставінах існуе найбольшая гэтакая магчымасьць, тады я мушу, маючы гэта на ўвазе, прасіць цябе пацьвердзіць тваё ранейшае прызнаньне.

— Якое?

— Я хацеў-бы ведаць, [473] ці ідэалы гэтак завяршаюцца ў рэчаіснасьці, як у мове? Або ці зьяўляецца гэта натуральным, што завяршэньне меней мае ў сабе праўды, чымся слова сказанае, нават тады, калі іншы і ня думае гэтак? Ці згаджаешся ты з гэтым?

— Згаджаюся.

— Тады, ты не павінен дамагацца ад мяне доваду, што фактычнае гаспадарства ў кажным суадношаньні будзе зыходзіцца з ідэалам. Калі мы толькі знойдземся ў стане выкрыць, як гаспадарства мае быць кіраваным хоць-бы у прыбліжэньні, як мы прапанавалі, тады ты згодзішся, што мы выкрылі магчымасьць, якое ты дамагаешся, і ты будзеш здаволеным. І я асабіста быў-бы здаволеным.

— Гэтаксама і я, — адказаў ён.

— Пасьля гэтага мы, праўдападобна, паспрабуем вы-

лушчыць, што́ зьяўляецца дрэнным у сучасных гаспадарствах і стаецца прычынаю дрэннага ў ім кіраўніцтва і якім зьяўляецца найменшае зьначаньне, што ўмагчыміць гаспадарству перайсьці ў праўдзівую хворму; і зьначаньне, калі гэта магчыма, няхай будзе толькі адно або, калі не — два; у кажным выпадку, няхай зьначаньняў будзе гэтак мала і недалёкасяжных, як толькі гэта магчымым ёсьць.

— Напэўна, — адказаў ён.

— Я думаю, — сказаў я, — што няхай толькі адно зьначаньне знойдзе сабе месца, як мы ўжо будзем у стане выявіць, што тады зьначыцца ўсё гаспадарства; што праўда, зьначаньне гэтае не малое і ня лёгкае, але ўсё-ж яно магчымым ёсьць.

— Чым яно ёсьць? — запытаў ён.

— Вось цяперака, — сказаў я, — я пайду на сустрэчу таму, што́ параўналі мы з найболей небясьпечнаю хваляю; цяперака няхай будзе вы́казана слова, і нават тады, калі хлыне хваля і агорне мяне пырскамі сьмеху і бясслаўнасьці. Будзь уважным, бо я пачынаю гаварыць.

— Дык гавары-ж ужо, — азваўся ён.

І я сказаў:

— Пакуль філёзафы ня стануцца каралямі, або каралі і князі на гэтым сьвеце не займеюць духа і моцы філязофіі, і пакуль палітычная велічнасьць і інтэлектуальная мудрасьць ня злучацца ў вадно, і пакуль людзі паспалітыя, якія цяперака імкнуцца да аднаго ці другога паасобку, ня будуць змушанымі адыйсьці на бок, — да тае пары гаспадарствы ніколі ня выратуюцца ад сваіх злыбедаў — ані, як я думаю, людзкі род — і да тае пары ўладжаньне нашага гаспадарства, якое мы толькі што апісалі слоўна, ніколі ня прыйдзе да існаваньня, як нешта магчымае і ніколі ня ўбачыць сонечнага сьвятла. Вось чаму, мой паважаны Ґляўкон, я гэтак доўга ня мог адважыцца выказаць свае думкі, бо я бачыў, што ўсё гэта ў сваей цэласьці будзе супярэчыць агульна прынятаму перакананьню; бо быць чалавеку перакананым, што ні ў якім іншым гаспадарсьцьве ня можа быць шчасьця ў прыватным ці грамадзкім жыцьці, запраўды, ёсьць абцяжваючаю рэчаю для яго.

І тут Ґляўкон сказаў:

— Сакратас, што́ ты маеш на ўвазе? Я ўважаю, што

ты кінуў нам у твар гэтакае слова і гэтакую думку, што цяперака, толькі і спадзявайся, што з усіх бакоў, [474] у адзін момант накінуцца на цябе вельмі шматлікія і нават нядрэнныя людзі, якія, скінуўшы з сябе верхнюю вопратку і зусім абдзертыя, схопяць першае лепшае аружжа, якое ім пападзецца пад рукі і будуць гатовы на ня ведама што. І калі ты ня будзеш гатовым з адказам для іх і кінешся на ўцёкі, яны са зьдзекамі, — і ў гэтым няма сумліву, — пакараюць цябе.

— І ці-ж ня ста́нецца гэта з твае прычыны? — сказаў я.

— І тут я буду мець рацыю, — сказаў ён. — Але я ўчыню ўсё, што змагу, каб абараніць цябе — сваею зычлівасьцю да цябе і добраю радаю, і, магчыма, я магу знайсьціся на адпаведным узроўні ў старанным адказваньні на пастаўленыя табе пытаньні ляпей, чымся хто-небудзь іншы. І цяперака, маючы пад рукою гэтакага памочніка, учыні натугу, каб давесьці ўсім няверуючым, што рэч запраўды маецца гэтак, як ты кажаш.

— Так, я мушу ўчыніць спробу, — сказаў я, — калі ты ўжо прапануеш мне гэтакую бясцэнную помач. І мне здаецца, што, калі існуе нагода ўхіліцца ад напору з боку тых людзей, пра якіх ты ўспамінаеш, тады мы мусім вытлумачыць ім, каго мы маем на ўвазе, калі мы кажам, што філёзафы маюць кіраваць гаспадарствам; тады мы магчымем абараніць самых сябе. І гэта на шляху выкрыцьця, што некаторыя людзі з натуры маюць нахіл да зацікаўленьня філязофіяю і вывучаньня яе, каб стацца кіраўнікамі ў гаспадарсьцьве; а іншыя, каторыя не радзіліся, каб стацца філёзафамі, павінны барджджэй сьледаваць за імі, чымся быць кіраўнікамі.

— Так, — сказаў ён, — і цяперака час прыступіць да дэфініцыі.

— Тады, хадзем разам, — сказаў я, — магчыма нам удасца да пэўнае ступені здавальняюча растлумачыць гэта.

— Тады вядзі, — сказаў ён.

— Я думаю, што ты сам памятаеш, — сказаў я, — і ня трэба прыпамінаць табе, што калі мы кажам, што чалавек што-небудзь любіць, дык ён павінен, калі толькі правільна кажуць пра гэткага, праяўляць любоў не да аднае якое-небудзь часткі таго, што́ ён любіць, астаючыся абыякасным да іншае, але, наадварот, — да цэлась-

ці?

— Ты мусіш прыпомніць мне, — сказаў ён, — бо для мяне гэта ня зусім зразумела.

— Каму-небудзь іншаму, магчыма, і можна было-б гэтак гаварыць, Ґляўкон, — сказаў я, — але не табе. Чалавек з дазнаньнем у любоўных справах, якім ты і зьяўляешся, павінен ведаць, што ўсе, што знаходзяцца ў расьцьвеце свае маладосьці спрычыняюць або выклікаюць вострую боль або хваляваньне ў грудзях каханага, выклікаючы сьведамасьць быць годным ягонае далікатнае пашаны. Ці-ж ня гэтакае пачуцьцё жы́віце ўсе вы да маладое прыгожасьці? Аднаго вы будзеце выхваляць за тое, што ён кірпаты і называць яго ла́скавым, а пра іншага з арліным носам вы будзеце гаварыць, што ў ім ёсьць нешта з каралеўскасьці, а ў яшчэ іншага, што знаходзіцца паміж гэтымі, вы бачыце нешта з шляхэтных рысаў рэгулярнасьці. У чарнявых — мужчынскі выгляд, сьветлавалосыя — дзеці багоў; што да салодкага "бледна-мядовага", як гэта завуць іх — думаеш ты, што гэтае выражэньне стварыў хто-небудзь іншы, а не закаханы, які выражаецца ў памяншальнай хворме і яго не адпіхае нават бледнасьць, калі шчокі гавораць пра цьвітнеючую маладосьць? [475] Коратка кажучы, пад ніякім дайманом і пры ніякай прычыне вы не адпіхаеце нікога, каб ня згубіць ані воднае кветкі з тых, што цьвітуць напрывясьне свае маладосьці.

— Калі ты чыніш мяне рэчазнаўцам у справах любові, тады, з увагі на нашае разважаньне, я згаджаюся.

— А што ты скажаш адносна аматараў віна? — запытаў я. — Ці не спасьцерагаеш ты, як яны практыкуюць тое самае? Яны цешацца з кажнае нагоды, каб толькі пачаставацца вінnetworkом.

— І нават вельмі.

— Падобнае адносіцца гэтаксама і да славалюбаў. Магчыма ты спасьцярог, што калі яны ня могуць камандаваць арміяю, яны здавальняюцца камандаю над трыцьціяю; калі яны не дазнаю́ць гонараў з боку асабістасьцяў, запраўды вялікіх і важных, дык здавальняюцца гонарамі людзей маленькіх і без значэньня, але да гонараў дабіваюцца за ўсялякую цану.

— Якраз гэтак.

— Дазволь мне яшчэ раз запытаць: калі мы кажам

пра некага, што ён жадае мець нешта, ці жадае ён мець усю рэч, — што-колечы ёю можа быць, — ці толькі частку яе?

— Усю, — адказаў ён.

— Ці-ж ня можам мы сказаць пра філёзафа, што ён зьяўляецца любіцелем ня толькі часткі мудрасьці, але мудрасьці ў яе суцэльнасьці?

— Гэта праўда.

— Той, хто чуе абрыдласьць да навукі, і асабліва ў сваіх юнацкіх гадох, калі ён не здае сабе справы з таго, што́ для яго ёсьць карысным і што — не, пра гэтакага мы ня будзем казаць, што ён зьяўляецца філёзафам або любіцелем навукі, гэтак як і не ўважацімем мы чалавека галодным і ахвочым да ежы, калі ён чуе абрыдласьць да яе; і ў дадзеным выпадку можна сказаць, што ён мае дрэнны апэтыт і на спазор самае ежы судрыгаецца.

— Калі мы гэтак скажам, мы скажам правільна.

— З другога боку, хто мае смак да кажнае навукі і хто праяўляе зацікаўленьне ў напрамку пазнаньня і ніколі ня супыняе яго, ці-ж ня будзем мы мець рацыі назваць гэтакага філёзафам?

На гэта Гляўкон адказаў:

— Калі наяўнасьць зацікаўленьня творыць філёзафа, тады ты знойдзеш шмат людзей гэткага роду дый даволі недарэчных з прэтэнсыямі да гэтага імяні. Было-б зусім недарэчна далучаць да філёзафаў і аматараў слухаць: іх нічога ня цягне да гэткага роду філязафічных разважаньняў, затое, быццам іх хто-небудзь наняў, яны бягуць слухаць усе хоры, сьпяшаючыся на ўрачыстасьці, ладжаныя на чэсьць Дыёнізоса, не абмінаючы ані ме́сных Дыёнісіяў, ані вясковых. Няўжо-ж усіх гэтакіх і іншых, што імкнуцца даведацца што-небудзь з падобнага або пазнаць які-небудзь нікчэмны занятак, мы назывецімем філёзафамі?

— Напэўна не, — сказаў я; — яны толькі насьледава́льнікі іх.

— Тады, — сказаў ён, — каго ты называеш запраўднымі філёзафамі?

— Тых, — адказаў я, — што любяць бачыць праўду.

— Гэта правільна, — сказаў ён; — але я хацеў-бы ведаць, як ты гэта разумееш?

— Каму-небудзь іншаму, — сказаў я, — магчыма, я

меў-бы труднасьці паясьніць; але ты, я думаю, згодзішся са мною вось у чым...

— У чым?

— Дзелятаго, што прыгожае зьяўляецца супроцьлегласьцю брыдкаму, затым яны ёсьць два.

— Напэўна. [476]

— І калі яны ўжо зьяўляюцца два, тады кажнае зь іх адно?

— І гэта правільна.

— Падобна можна сказаць пра справядлівае і несправядлівае, добрае і дрэннае і пра ўсе іншыя паняцьці: кажнае зь іх у самым сабе зьяўляецца адно, але кажнае выяўляецца, як шматлікасьць, выступаючы ўсюды, дзе ўзаемадачыненьні знаходзяць сабе месца, гэтаксама і ў павязаньні з рознымі дзеяньнямі і людзьмі.

— Ты правільна кажаш, — сказаў ён.

— І тут ляжыць розьніца, якую я назіраю паміж аматарамі відовішчаў, рамесьніцтваў і практычных людзей, гэта значыць усіх тых, пра каго ты гаварыў — з аднаго боку, а з другога — тых, пра каго я гавару і каторыя толькі астаюцца годнымі імя філёзафаў.

— Як ты разрозьніваеш іх? — запытаў ён.

— Аматары гуку і спазору, — адказаў я, — як я разумею, цікавяцца прыгожымі тонамі і колерамі, гэтак як і хвормамі і кажнаю артыстычнаю прадукцыяю, якая ўзьнікае зь іх, але іхныя сілы духовыя нял здольнымі зьяўляюцца бачыць або любіць абсалютную прыгожасьць.

— Гэтак запраўды рэч маецца, — сказаў ён.

— Але тыя, што зьяўляюцца здольнымі ўзьняцца да самое прыгожасьці і бачыць яе самую, як гэткую, гэтакіх ня шмат ёсьць.

— Вельмі мала.

— Той, хто, маючы вычуцьцё прыгожых рэчаў, але ня можа асэнсаваць абсалютнае прыгожасьці, або калі нехта іншы вядзе яго да пазнаньня таго, чым прыгожасьць зьяўляецца і ня здольным зьяўляецца сьледаваць — пра гэтакага, я пытаюся: ёсьць ён прабуджаным ці мо' жыцьцё ягонае — гэта сон? Вазьмі пад увагу: ці-ж лятуценьне не зьяўляецца тым — усяроўна, ёсьць нехта ў сьне або прабуджаным — калі нехта прыпадобнівае непадобныя рэчы, той, хто адбітку рэчы прыймае за самую рэч?

— Што найменей, я-б сказаў, — выразіў ён у вадказе, — што гэтакі чалавек мроіць.

— Але вазьмем супроцьлеглы выпадак. Чалавек, які прызнае існаваньне абсалютнае прыгожасьці і зьяўляецца ў стане адрозьніць ідэю ад прадмету, які прыймае ўдзел у ідэі, не прыймаючы прадмету замест ідэі, ані ідэю замест прадмету — як ты думаеш: ёсьць гэтакі чалавек у сьне, ці зьяўляецца прабуджаным.

— Бяз сумліву, ён ёсьць прабуджаным, — адказаў той.

— Ці не маглі-б мы, затым, сказаць, што ягоны стан разумовы ёсьць пазнаваньне, а стан разумовы іншага — меркаваньне, бо ён толькі мяркуе.

— Напэўна.

— Але прымем, што гэты апошні пачаў-бы спрачацца з намі і аспрэчваць нашыя цьверджаньні, ці не маглі-б мы яго як-небудзь па-сяброўску супакоіць і параіць яму, без зьвяртаньня ягонае ўвагі на тое, што нешта дрэннае ёсьць зь ягонаю кемнасьцю?

— Мы павінны мець гэта на ўвазе, — сказаў ён.

— Хадзі, тады, і давай падумаем, што-б мы мелі сказаць яму. Ці не павінны мы запэўніць яго, што мы добразычліва адносімся да ўсяго таго, што́ ён можа ведаць і, што мы цешымся з прычыны асягненьня ім гэткага стану? Але мы-б хацелі паставіць яму пытаньне, пайменна: Чалавек, які мае веду, ведае нешта, ці мо' нічога ня ведае? — Замест яго ты мне адказвай.

— Я адкажу, што ён нешта ведае.

— Нешта, што́ існуе ці ня існуе?

— Тое, што́ існуе; [477] бо як можна пазнаць тое, што́ ня існуе?

— Пасьля разгляду з усіх пунктаў гледжаньня, мы прыходзім да пераконаньня, што тое, што́ зусім існуе, ёсьць або можа быць пазнаным, а тое, што́ зусім ня існуе, зусім непазнавальным ёсьць.

— Так, гэтага хопіць.

— Добра. Але калі ёсьць што-небудзь гэтакае сво-масьці, што яно то існуе або ня існуе, ці-ж яно не знаходзіцца ў прамежжы паміж чыстым быцьцём і тым, што́ зусім ня існуе?

— Так, між імі.

— І калі пазнаньне зьяўляецца адказьнікам таго, што́ існуе, а няведаньне — таго, што́ ня-існуе, дык для таго,

штó адказвае прамежнаму паміж імі, трэба шукаць нешта пасрэднае паміж веданьнем і няведаньнем, пад умоваю, што нешта падобнае існуе.

— Ведама.

— Ці існуе гэтакая рэч, як меркаваньне?

— І чаму не?

— Ці гэта такая самая рэч, штó веданьне, ці мо' іншая здольнасьць разумаваньня?

— Іншая здольнасьць разумаваньня.

— Тады, меркаваньне і веданьне маюць дачыненьне зь іншым гатункам справаў, адказваючым гэтай розьніцы здольнасьці разумаваньня?

— Алé.

— І веданьне, паводля свае натуры, накіравана на быцьцё, з мэтаю агарнуць яго, і пазнаць якое яно? — Але пачакай, перад тым, як я пайду далей, перш я мушу ўвыпукліць распадзяленьне.

— Якое распадзяленьне?

— Мы можам падтрымліваць думку, што здольнасьці разумаваньня самі сабою распадзяляюцца на пэўныя групы: яны зьяўляюцца сіламі ў нас, як і ўва ўсіх іншых рэчах, пры помачы якіх, мы чы́нім тое, штó чы́нім. Возьмем для прыкладу зрок і слух, якія я назаву здольнасьцямі разумаваньня. Ці ясна я вырысаваў групу, якую я меў на ўвазе?

— Я разумею, — сказаў ён.

— Цяперака, дазволь мне выразіць мой пагляд адносна іх. Я не назіраю ў здольнасьцях ані колеру, ані абрысаваньня і наагул ніякіх свомых для іншых рэчаў асаблівасьцяў. Кажучы пра здольнасьці разумаваньня, я маю на ўвазе толькі іхны засяг і іхныя асягненьні; і тое, што мае той самы засяг і той самы вынік, я называю тою самаю здольнасьцю разумаваньня. Але тое, што мае іншы засяг і іншае асягненьне, я называю іншаю здольнасьцю. Ці і ты думаеш гэтаксама?

— Так, — адказаў ён.

— Але вярнемся, — сказаў я, — яшчэ раз і, калі ласка, адкажы мне, мой паважаны, яшчэ на адно пытаньне: Ці можаш ты сказаць, што веданьне — гэта нейкая здольнасьць разумаваньня, або ў якую групу ты ўмясцовіш яе?

— У гэтую групу, — адказаў ён, — як у найсільнейшую з усіх здольнасьцяў.

— А меркаваньне гэтаксама зьяўляецца здольнасьцю разумаваньня?

— Ведама, — сказаў ён; — бо-ж меркаваньне зьяўляецца тым, пры помачы чаго мы атрымліваем здольнасьць меркаваць.

— І ўсё-ж, перад хвілінаю ты згадзіўся, што веданьне і меркаваньне не зьяўляюцца адным і тым самым.

— Дый як-жаж можна, астаючыся пры здаровым розуме, — сказаў ён, — уважаць за адно і тое самае тое, што́ беспамылковым ёсьць, і тое, што́ перанасычана памылкамі.

— Добра, — сказаў я. — Адказ твой даводзіць, што мы з табою сузгодны: веданьне і меркаваньне — розныя рэчы. [478]

— Розныя.

— Тады, веданьне і меркаваньне, кажнае зь іх паводля свае натуры, мае іншы засяг і іншую здольнасьць разумаваньня?

— Напэўна.

— Быцьцё зьяўляецца засягам або аб'ектам веданьня, а веданьне — гэта ведаць натуру быцьця?

— Так.

— І меркаваньне, як цьвердзім мы, накіроўваецца адно на тое, каб меркаваць?

— Так.

— Ці меркаваньне пазнае тое самае, што веданьне? А мо' пазнанае і меркава́нае будзе тою самаю рэчаю? А наагул ёсьць гэта магчымым?

— Немагчымым, — адказаў ён. — У гэтым мы прыйшлі ўжо да сузгоднасьці. Калі натуральная розьніца ў прадмеце здольнасьці разумаваньня мае свой ўласны засяг, і калі, як мы згадзіліся, меркаваньне і веданьне зьяўляюцца рознымі здольнасьцямі разумаваньня, тады засяг веданьня і меркаваньня ня могуць быць тым самым.

— Затым, калі быцьцё можа быць пазнава́ным, тады меркаваньне павінна адрозьнівацца нечым ад яго.

— Павінна адрозьнівацца.

— Тады, што? Можна паддаваць меркаваньню нябыцьцё? Або, як можа быць меркаваньне, наагул, адносна нябыцьця? Падумай: калі чалавек мае меркаваньне, ці ня мае ён тады меркаваньня пра нешта? Ці можа ён мець меркаваньне, якое зьяўляецца меркаваньнем пра нічога?

— Немагчыма.
— Той, хто мае меркаваньне, мае меркаваньне пра нешта?
— Так.
— І нябыцьцё не зьяўляецца нечым, але, праўдзіва кажучы, нічым?
— Ведама.
— Затым, зь нябыцьцём зь неабходнасьцю мы лучым няведаньне, а з быцьцём — веданьне.
— Правільна, — сказаў ён.
— З гэтага, меркаваньні не адносяцца ані да быцьця, ані да нябыцьця.
— Ані да аднаго зь іх.
— Згэтуль, выснаў, што меркаваньне — гэта ані веданьне, ані няведаньне?
— Выглядае, што гэта правільна.
— Ці трэба, тады, меркаваньне бачыць зь імі і па-за імі, у большай яснасьці чымся веданьне, а мо' ў большай цемры, чымся няведаньне?
— Не, ані ў тым, ані ў гэтым выпадку.
— Тады, я здагадваюся, што меркаваньне выяўляецца для цябе цямнейшым, чымся веданьне, але сьвятлейшым, чымся няведаньне?
— Адно і другое; і ня ў меншай ступені, — адказаў ён.
— І знаходзіцца паміж гэтымі двума?
— Так.
— Значыцца, меркаваньне — гэта нешта сярэдняе паміж імі?
— Якраз гэтак.
— Але гэтак, як і сказалі мы ўжо раней, што, калі якаянебудзь рэч выявіцца, як нейкі гатунак, якая ў вадным і тым самым часе ёсьць і ня ёсьць, гэтакага роду рэч, знойдзецца, як тая, што знаходзіцца ў прамежжы паміж чыстым быцьцём і абсалютным нябыцьцём; і, што адказваючая здольнасьць разумаваньня, не зьяўляецца ані веданьнем, ані няведаньнем, але знойдзецца пасярэдзіне паміж імі?
— Правільна.
— І ў прамежжы паміж імі, мы выкрылі нешта, што называем меркаваньнем?
— Так, выкрылі.
— Тады, што нам астаецца — гэта выкрыць нейкую

рэч, якая прыймае аднолькавы ўдзел, свомы быцьцю і нябыцьцю, але якая ня можа быць дакладна названа ані чыстаю ані простаю; гэты няведамы назоў для рэчы, калі будзе знойдзеным, мы з праўдзівасьцю можам назваць рэчаю меркаваньня, вызначаючы кажную да свомых ёй здольнасьцяў разумаваньня — скрайнасьць да скрайнасьцяў скрайнасьці і прамежжа да здольнасьці прамежжа. Ці-ж ня так гэта?

— Так.

— Выходзячы з гэтае прадумовы, няхай, скажу я, [479] вядзе са мною дыскусыю і адкажа мне той добры чалавек, які падтрымлівае думку, што абсалютная або нязьменная ідэя прыгожасьці ня існуе. Ён утрымлівае, што прыгожага множасьць у рознароднай хворме; ты, я скажу яму, твой аматар прыгожых спазораў, які ня можа зьнесьці, калі яму кажуць, што прыгожасьць ёсьць толькі адна і, што справядлівае ёсьць адно, або адно ёсьць кажнае рэчы. Гэтакаму я магу сказаць: Мой даражэнькі, з гэткае шматлікасьці прыгожых рэчаў, ці-ж нічога ня знойдзецца, што-б ня было брыдкім; або сярод справядлівага нічога ня будзе несправядлівым, або сярод усіх пабожных рэчаў, ці-ж ніякая ня знойдзецца непабожнаю?

— Не, — сказаў ён; — прыгожае з пэўнага пункту гледжаньня можа быць знойдзеным, як брыдкае; і падобнае можа адносіцца да ўсіх іншых успомнутых выпадкаў.

— І зноў-жа, сярод лічных падвойных рэчаў, ці-ж у пэўных выпадках, ня могуць знайсьціся палавічныя?

— Зусім трапна.

— І рэчы вялікія і малыя, цяжкія і лёгкія, як называюць іх, ці-ж ня могуць яны быць абазначанымі гэтымі імёнамі, гэтаксама, як і супроцьлежнымі?

— Могуць, — адказаў ён. — І кажнае знойдзе свой удзел у дзьвюх супроцьлежнасьцях.

— Тады, ёсьць-жа кажная з гэтых шматлікіх рэчаў запраўды тым, чым мы назвалі яе, або ў гэтай самай роўніцы не зьяўляецца тым, чым называем?

— Гэта, — сказаў ён, — быццам двузначнасьць з тых, што практыкуюцца ў корчмах, падпітымі людзьмі або быццам дзіцячая загадка, якая выражаецца пытаньнем: Як еўнух забіў кажана? — Тут трэба здагадацца, чым

ён кінуў і на чым кажан сядзеў. І тутака ўсё мае два значэньні, і пра ніякую рэч ня можна сказаць афірматыўна, што яна гэтакая або іншая, або, што да яе падходзяць абодва абазначэньні, або — ніводнае зь іх.

— І што ты ўчыніш з гэткімі абазначэньнямі? — запытаў я. — Ці могуць быць яны ўмясцоўлены паміж быцьцём і нябыцьцём? Бо яны выразна не знаходзяцца ў большай цемры або нэгацыі, чымся нябыцьцё, або ў большай паўніні сьвятла і існаваньня, чымся быцьцё.

— Гэта найболей праўдзіва, — сказаў ён.

— Мы знайшлі, тады, як выглядае, што агульнае перакананьне большасьці адносна прыгожага і падобнага хістаецца паміж чыстым быцьцём і нябыцьцём?

— Мы знайшлі.

— Але мы ўжо згадзіліся, што калі гэтакага роду перакананьне выступіць на сьвятло, яно мусіць быць названа меркаваньнем, а ня ведамым, за тым, што тое, што́ хістаецца ў гэтым прамежжы, улоўліваецца прамежнаю здольнасьцю разумаваньня.

— Так, мы згадзіліся.

— Затым, тыя, што бачаць шмат прыгожага, і ўсё-ж ня бачаць ані абсалютнае прыгожасьці, ані гэтаксама сьледуюць за тым, хто вядзе ў гэтым напрамку; гэтаксама як і той, хто спасьцерагае многа справядлівасьці, але ня бачыць абсалютнае справядлівасьці і гэтак далей — пра гэтакіх людзей мы можам сказаць, што яны маюць меркаваньне, але ня веданьне?

— Гэтак павінна быць, — сказаў ён.

— А што мы скажам адносна тых, што бачаць сам абсалют і вечную тоеснасьць, і нязьменнасьць, ці-ж ня скажам, што яны ведаюць, а ня толькі мяркуюць?

— Гэтага ня можна запярэчыць.

— Мы гэтаксама скажам, што яны паважаюць і абдымаюць прадмет пазнаньня, [480] што яны любяць тое, што́ яны пазнаюць, а тыя — тое, што́ яны мяркуюць. Бо-ж мы памятаем, што яны любяць і спасьцерагаюць — прыемныя гукі і прыгожыя колеры, але не дапушчаюць існаваньня прыгожага, як гэткага.

— Так, мы гэта памятаем.

— Ці маем мы адчуваць віну з прычыны недалікатнасьці з нашага боку, называючы іх аматарамі меркаваньня барджджэй, чымся філёзафамі, і ці будуць яны гневацца

на нас за тое, што мы гэтак ахарактарызавалі іх?

— Не, калі яны паслухаюцца мяне, — сказаў ён; — ніякі чалавек ня будзе гневацца з прычыны таго, што зьяўляецца праўдаю.

— Але тыя, што любяць праўду ў кажнай рэчы, павінны быць названы філёзафамі і ніколі аматарамі меркаваньня (філёдоксамі).

— Ведама.

Глядзі-ж, не акрый сорамам самога сябе; не наракай на людзей затое, што яны перапынілі тваю працу; бо калі-б ня было людзей, дык каму-б ты мог служыць, дый нашто трэба было-б чытаць кнігі пра тое, як ляпей служыць людзям?

Эпіктэтос

прыгожасьці, дабра і справядлівасьці або захоўваць існуючыя ўжо - ці-ж гэтакія, пытаюся я, не зьяўляюцца сьляпымі?

- Запраўды, - сказаў ён, - яны не зьўяляюцца шмат лепшымі за сьляпых.

- Дык ці-ж яны маюць быць нашымі старожамі, калі ёсьць іншыя, каторыя, - будучы ані крышку горшымі ад іх у кажнай іншай частцы мужнасьці, - пазналі праўду адносна кажнае рэчы быцьця?

- Было-б вельмі нямудра, - сказаў ён, - выбіраць якіх-небудзь іншых, калі гэтыя не зьяўляюцца горшымі, дый, апрача гэтага, вырозьніваюцца сваею вялікаю перавагаю.

485 - Прымем, - сказаў я, - што мы цяпераках высьнім, якім спосабам пры гэтых самых абставінах яны могуць спалучыцца - гэтыя і тыя мужнасьці?

- Абавязкава трэба гэта ўчыніць.

- На пачатку нашага разважаньня мы гаварылі,што перад усім трэба пазнаць натуру філёзафаў. Мы павінны займець зразуменьне адносна іх і, калі мы асягнем гэта, тады, калі толькі я не памыляюся, мы павінны згадзіцца, што гэткае злучэньне якасьцяў зьяўляецца магчымым і, што тыя, каторыя між сабою ўзгоднены, тыя толькі маюць быць кіраўнікамі ў гаспадарсьцьве.

- Як ты разумееш гэта?

- Прымем, што натура філёзафаў заўсёды зь любасьцю імкнецца да пазнаньня, якое адсланяе перад імі вечна існуючае і нязьменьлівае ўзьніканьнем і зьніштажэньнем быцьцё.

- Добра, прыймем гэтакае залажэньне.

- І далей, - сказаў я, - прымем, што яны імкнуцца да ўсенькага быцьця ў суцэльнасьці, не адкідаючы ніякае часткі, хай сабе вялікае ці малое,болей або меней ганаровае; гэтак, як і сказалі мы раней пра тых, што любяць людзей годнасьці.

- Ты правільна гаворыш, - сказаў ён.

- І калі яны зьяўляюцца гэтакімі, якімі мы іх бачым, ці няма тады іншае вартасьці, якую яны гэтаксама павінны мець?

- Якую гэта?

- Праўдзівасьць: рашуча няпрыймо ў сваей думцы ніякага хвальшу, да якога яны адчуваюць сільную абрыдласьць, і любоў да праўды.

- Так, - сказаў ён, - гэта павінна быць іхнаю пракметаю.

- "Павінна быць", дружа мой, - сказаў я, - гэта ня тое слова; ты мусіш сказаць барджджэй "мусіць

быць": бо чыя натура зьяўляецца агорнута любоўнасьцю цаніць кажную рэч, ня зможа паўстрымацца ад любові да ўсяго таго, што належыць або ёсьць зродненым з аб'ектам ягонае любові.

– Правільна, – сказаў ён.

– Ці ёсьць-жа якая-небудзь рэч болей зродненаю з мудрасьцю, чымся праўда?

– Дый як гэта можа быць? – запытаў ён.

– Ці-ж можа адна і тая самая натура любіць і мудрасьць, і хвальш?

– Ніколі.

– Затым, чалавек праўдзівае любові пазнаньня, мусіць зь ягонага найранейшага юнацтва, гэтак далёка, як свомым для яго, імкнуцца да праўды?

– Напэўна.

– Тады зноў-жа, як далёка мы ведаем з дасьведчаньня, той, каго жаданьні зьяўляюцца сільнымі ў вадным напрамку, будзе іх мець слабейшымі ў іншым – быццам той паток ракі, скіраваны ў іншае ложа.

– Як?

– Той, чые жаданьні кіруюцца ў напрамку пазнаньня ў кажнай хворме, будзе, думаю я, уцягнуты ў прыемнасьці душы, як гэткае, і насілу ці адчуваціме цялесныя прыемнасьці, калі ён ёсьць толькі праўдзівым філёзафам, а не зманлівым.

– Так, гэта няўхільным астаецца.

– Памяркоўным зьяўляецца гэтакі і ні ў якім выпадку прагавітым; бо прычыны, якімі кіруецца іншы чалавек, каб займець грошы і траціць, зьяўляюцца чужымі для ягонага характару.

– Так бо і ёсьць.

– Гэтаксама іншы падыход павінен быць браны пад 486
увагу адносна пазнаньня натуры філёзафа...

– Які, гэта?

– Як-бы ўтоенымі ад цябе не засталіся нешляхэтныя рысы ягонага характару; бо-ж драбязговасьць – гэта найболей люты вораг душы, прадназначэньнем якое ёсьць імкнуцца гэтак да боскае, як і людзкае суцэльнасьці.

– Шчырая праўда, – адказаў ён.

– Затым, як можа той, хто мае ўзьнёслы помысел і агарненьне духовым узрокам суцэльнасьці часу і існаваньня, думаць, што жыцьцё зьяўляецца вялікаю рэчаю?

– Гэта немагчыма, – сказаў ён.

– Дык гэтакі чалавек і сьмерці ня будзе ўважаць за нешта страшэннае?

– Запраўды, не.

– Тады, для баязьлівае і драбязговае натуры, няма ніякага доступу да праўдзівае філязофіі?
– Я думаю, што не.
– Дык што? Ці можа чалавек згарманізаваны сам у сабе, каторы не зьяўляецца прагавітым або драбязговым, або схільным пахваляцца і ня пужлівым – ці-ж можа гэтакі чалавек, пытаюся я, заўсёды быць несправядлівым або адпіхаючым у сваіх дачыненьнях зь людзьмі?
– Ня можа.
– І тут зноў ёсьць нешта, што ты мусіш узяць пад увагу з мэтаю ўвыпукленьня праўдзівае ці здадуманае філязафічнае душы – ці чалавек ужо зь юнацкіх гадоў зьяўляецца справядлівым і далікатным, ці мо' нязносным і сіберным.
– Пэўна, вазьму.
– Падобна, я думаю, ты і гэтага не пакінеш абмінутым.
– Што гэтым ёсьць?
– Здольны ён да навукі ці не. Ці-ж ёсьць аснова спадзявацца, што з часам чалавек можа знайсьці зацікаўленьне ў тым, над чым мучыцца і з чым насілу дае сабе раду.
– Напэўна, не.
– А што, калі ён нічога не ўтрымае ў галаве з таго, што навучыўся, будучы незапамятлівым? – Ці-ж ня будзе гэтакі пустою судзінаю адносна навукаў?
– Будзе.
– Дарэмна трудзячыся, ці-ж ня скончыць ён, патвойму, тым, што зьненавідзіць самога сябе і свой безрэзультатны занятак?
– Напэўна.
– Затым, душа, якая забывае, ня можа быць залічанаю да ліку тых, што шчыра любяць мудрасьць, і будзем шукаць гэтакую, якая мае добрую памяць.
– Абавязкава.
– І зноў-жа, мы павінны сказаць, што чужая для культуры і з дрэннымі манерамі натура, будзе толькі хінуцца да дрэннае дыспрапорцыі.
– Напэўна.
– І як ты думаеш, праўда зьяўляецца зродненаю з дрэннаю прапорцыяю ці мо' з добраю прапорцыяю?
– З добраю прапорцыяю.
– Тады, апрача іншых вартасьцяў, мы мусім імкнуцца знайсьці натураю абдораны і з далікатным вычуцьцём ласкавы розум, які стыхійна будзе імкнуцца ў на прамку праўдзівага быцьця кажнае рэчы.
– Гэтак і павінна быць.
– І бачыш? Ці-ж не павінны ўсе гэтыя маральныя

вартасьці, якія мы разгледзелі, ісьці сумесна, і ці-ж не зьяўляюцца яны ў сваей манеры неабходнымі для душы, якая мае ўзяць поўны і дасканалы ўдзел у быцьці?

- Яны зьяўляюцца абсалютна неабходнымі, - адказаў ён. 487

- Ці-ж ня можа быць беззаганным гэтакае стараньне, якое той толькі можа асілець, хто мае добры дар памяці, і чыніць хуткі поступ у навуцы - шляхэтны, ласкавы, прыяцель праўды, справядлівасьці, адвагі, паўстрыманьня, якія зьяўляюцца ягонымі суродзічамі?

- Нават сам Момос, - сказаў ён, - ня будзе дакараць гэтакае стараньне.

- І ці-ж ня гэтакім людзям, як ён, - сказаў я, - дасьпелым у жыцьці, што асягнулі дасканаласьць і адукацыю, - ім толькі даручыў-бы ты гаспадарства?

На гэтым месцы ў гутарку ўключыўся Адэімантос:

- На твае цьверджаньні, Сакратас, ніхто ня можа даць адказу. Бо кажны раз, калі ты разважаеш, вось хоць-бы, як цяперака, дзіўнае пачуцьцё дазнаюць твае слухачы: з прычыны няпрывычнасьці ставіць пытаньні і адказваць на іх яны думаюць, што арґумэнтацыя пры кажным тваім пытаньні вельмі мала пацягвае іх; аднак-жа, калі гэтых "вельмі мала" панасабіраецца шмат, тады на канцы дыскусыі спасьцярожным стаецца адхіленьне і супярэчнасьць што да першапачатковых залажэньняў і выглядае, што ўсё абярнулася да гары нагамі. І падобна, як недасьведчаныя ігракі ў шашкі на канцы астаюцца пабітымі болей здольнымі іхнымі праціўнікамі, і ўжо ня ведаюць куды ім падзецца, гэтак і твае слухачы напрыканцы апынаюцца ў сьляпым завулку і ня ведаюць што казаць у гэтай, свайго роду, гульні, у якой замест шашак ужываюцца словы. А ў запраўднасьці справа зусім гэтым не вырашаецца. Я гавару, маючы на ўвазе наш выпадак. Бо-ж цяперака чалавек можа прызнацца, што на кажнае пастаўленае табою пытаньне, ён не зьяўляецца ў стане запярэчыць табе. Аднак варта было-б зірнуць, як у запраўднасьці ў дадзеным выпадку рэч маецца. Бо-ж тыя, што зьвяртаюцца да філязофіі ня з мэтаю адукацыі, як гэта і здараецца, але наадварот, правялі ў ей даўжэйшы час, тыя ў бальшыні выпадкаў стаюцца вельмі дзіўнымі, каб не сказаць зусім няпрыдатнымі, і нават лепшыя зь іх, пад уплывам стараньняў, якія ты гэтак расхвальваеш, усё-ж астаюцца бескарыснымі для гаспадарства.

Выслухаўшы Адэімантоса, я сказаў:

- Выходзіць, па-твойму, што тыя, што гэтак ка-

жуць, памыляюцца?

– Ня ведаю, – адказаў ён, – але я хацеў-бы пачуць, што ты на гэта скажаш.

– І ты пачуеш, што, паводля мае думкі, яны кажуць шчырую праўду.

– Тады, як-жаж ты апраўдаеш тваё выказваньне, што гаспадарствы да тае пары ня выратуюцца са сваіх злыбедаў, пакуль ня будуць у іх правіць філёзафы, што да якіх мы толькі што згадзіліся, што яны бескарыснымі зьяўляюцца?

– Ты паставіў пытаньне, – сказаў я, – на якое можна адказаць толькі ў хворме вобразнай.

– А ты, – адказаў ён, – мусіць з вобразнаю хвормаю не абазнаны?

– Няхай будзе гэтак. Ты ўцягнуў мяне ў труднае разважаньне, дый яшчэ жарты строіш! Затым паслухай
488 маё вобразнае апавяданьне, каб яшчэ болей пераканацца, як бедным маё ўяўленьне зьяўляецца: бо спосаб, паводля якога найлепшыя людзі трактуюцца ў іх уласным гаспадарсьцьве зьяўляецца на гэтулькі жахлівым, што нямашака ніякае рэчы на зямлі, зь якою ён можа быць параўнаны. Затым, калі я маю выступіць у іхнай абароне, я мушу зьвярнуцца да выдумкі і ўкласьці разам хвігуру, учыненую з розных рэчаў, падобную да таго мастацкага і казачнага малюнку, які прадстаўляе сабою аленяў, падобных да казлоў. Уяві сабе, затым, вадаплаў або некалькі вадаплаваў. Стырнік зьяўляецца і вышэйшым, і сільнейшым ад усіх на вадаплаве, але крыху прыглухаваты з гэтакім-жа недахопам зроку, і ягоная веда адносна навіґацыі ня шмат лепшаю ёсьць. Веславыя сварацца між сабою адносна стырнаваньня – кажны зь іх астаецца перакананым, што толькі ён найляпей можа стырнаваць, хоць гэтакі ніколі ня вучыўся штукі навіґацыйнае і не зьяўляецца ў стане сказаць, хто і калі вучыў яго. Дый апрача гэтага ён проста цьвердзіць, што тут і вучыцца няма чаго, і гатоў пасекчы на часткі кажнага, хто пачне казаць супроцьлежнае. Яны стоўпіліся навакол стырніка і дамагаюцца, каб ён перадаў ім стырно. Іншыя ня шмат слухаюць яго, а то і зусім нічога, і тады тыя пачынаюць забіваць гэтых і выкідаць іх за борт. Перамогшы шляхэтнага стырніка пры помачы мандраґоры, віна ці якога-небудзь іншага падобнага сродка, яны захопліваюць уладу на вадаплаве і пачынаюць распараджацца ўсім, што маецца на вадаплаве; яны ядуць, п'юць і гуляюць, і, зразумела, пачынаюць кіраваць вадаплаў у манеры, своймай для падобнага роду людзей. Да гэтага ўсяго, я-

ны хваляць і называюць мараплаўнікам, стырнікам, сьведамым у стырнаваньні вадаплавам таго, хто здольным зьяўляецца захапіць уладу сіламоцаю або ўгаварыць стырніка, а хто ня гэтакі, таго лаюць і ўважаюць за нішто. Але пра тое, што праўдзівы стырнік мусіць браць пад увагу поры году, неба, зоры, вятры і ўсё іншае, што належыць да мастацтва стырнаваньня, калі ён мае быць запраўды кваліфікаваным капітанам вадаплаву, і што ён мусіць і павінен быць стырнікам, і ўсяроўна, падабаецца гэта іншым людзям ці не – магчымасьць гэтага злучэньня аўтарытэту з мастацтвам стырніка ніколі ня прыходзіла ім на думку, або магчымасьць здабыцьця гэтакіх ведаў. Дык вось, калі на вадаплавах, якія знаходзяцца ў стане бунту і пры наяўнасьці мараплаўнікаў, якія зьяўляюцца бунтарамі, каго можна тады ўважаць за праўдзівага стырніка? Ці-ж не назавуцімуць яго баўбатуном, зараглядам або проста нічым? 489

– Напэўна, – адказаў Адэімантос.

– Ня трэба думаць, – сказаў я, – каб ты, бачучы гэтакі вобраз, меў патрэбу тлумачыць тое, у чым ягонае падабенства з суадносінамі да запраўднага філёзафа ў гаспадарсьцьве, – я здагадваюся, што ты разумееш тое, пра што я гавару.

– Разумею, – сказаў ён.

– Затым, перад усім ты растлумач гэты вобраз таму, хто дзівіцца, чаму філёзафы ня цешацца ў гаспадарствах пашанаю, і пастарайся пераканаць яго, што шмат болей трэба было-б дзівіцца, калі-б іх там шанавалі.

– Гэта я растлумачу яму, – адказаў ён.

– І скажы яму, што ён мае рацыю, калі ён кажа, што для большасьці бескарыснымі выдаюцца людзі, якія сталіся выдатнымі ў філязофіі. Але ў бескарыснасьці гэтай загадай яму вінаваціць тых, што ня могуць знайсьці ніякае магчымасьці выкарыстаньня іхных вартасьцяў, а ня тых выдатных людзей. Бо не зьяўляецца гэта рэчаю натуральнаю, калі стырнік просіць мараплаўнікаў падпарадкавацца яму, або, каб мудрацы мелі абіваць парогі багачоў. Не, памыляўся той жартаўнік, які апавядаў хлусьню. Бо праўдаю астаецца, што хворы чалавек мусіць зьвярнуцца да лекара, і ўсяроўна, будзе ён багаты ці бедны; і кожны чалавек, які патрабуе быць кіраваным, павінен чакаць ля дзьвераў таго, хто здольным зьяўляецца кіраваць ім. Бо сутнасьць рэчы ня ў тым, каб кіраўнік прасіў, але каб падуладныя падпарадкаваліся яму, калі толькі запраўды можа ён аказацца карысным

на сваім становішчы. Але не ўпадзі ў памылку, упадабняючы сучасных дзяржаўных дзеячоў да мараплаўнікаў, якіх я толькі што ўвыпукліў, і тых, каторых яны называюць нікчэмнымі і зараглряднымі баўбатунамі – да праўдзівых стырнікаў.

– Гэта зусім правільна, – сказаў ён.

– Затым, з гэтых прычынаў і ў падобных абставінах не зьяўляецца рэчаю лёгкаю для найлепшага занятку атрымаць пашану сярод тых, што якраз займаюцца супроцьлежным заняткам. Найболей за ўсё і наймацней заўдзячвае філязофія непашану для сябе з прычыны тых, што выстаўляюць сябе як філёзафаў. Бяз сумліву, гэтае меў на ўвазе ўспомнуты табою абгаворшчык, калі ён казаў, што большасьць студэнтаў, якія зьвяртаюцца да філязофіі, зьяўляюцца бязвартаснымі, і найлепшыя зь іх – бескарысныя, і я згадзіўся тады, што гаворыш ты правільна. Ці-ж ня так гэта?

– Так.

– Добра. Мы ўжо разгледзелі прычыну бескарыснасьці шляхэтных людзей?

– Так.

– Ці маем мы цяперака разгледзець прычыну няўхільнае заганнасьці большасьці, і папробаваць, калі мы зможам, высьніць, што гэтак павінна быць і, што філязофію ня можна вінаваціць у гэтым.

– Калі ласка.

– Будзем, тады, слухаць і адказваць, маючы заўсёды на ўвазе наш выходны пункт адносна натуральных свомасьцяў чалавека, неабходных, каб ён быў без-
490 заганным. Калі памятаеш, ён перад усім павінен кіравацца праўдаю, мае быць прыгожым і добрым, шляхэтным. Першаю і кіруючаю рэчаю ў ім, калі ты памятаеш, была праўда, за якою ён крочыў у кажным выпадку: і калі ён гэтак не паступаў, тады ён толькі прыкідваўся, і ня меў ніякага ўдзелу ў праўдзівай філязофіі.

– Так, гэта тое, што мы казалі.

– Ці-ж ужо не адна толькі гэтакая пастава выразна пярэчыць сучасным ягоным уяўленьням адносна гэтых рэчаў?

– І нават вельмі, – сказаў ён.

– І ці-ж ня мецімем мы абаснаваньня выказаць абароны, што праўдзівы любіцель веды заўсёды будзе імкнуцца да пазнаньня быцьця – гэта значыць натуры; ён ніколі ня супыніцца на шматлікасьці і граннасьці рэчаў, якія выступаюць толькі ў уяўленьні, але стала будзе крочыць наперад, і жадобнасьць ягоная

не ўтаймуецца да тае пары, пакуль ён не займее пазнаньня праўдзівае натуры тым у сваей душы, чаму свомым ёсьць пазнаваць гэтакія рэчы, а свомым гэта зьяўляецца прыроджанаму ў ім пачатку. Зьбліжыўшыся, затым, пры помачы яго і злучыўшыся з запраўдным быцьцём, зрадзіўшы рацыянальныя здольнасьці і праўду, ён займее веду, і будзе праўдзіва жывіцца і ўзрастаць, і гэткім спосабам уратуецца ад цяжару, але раней гэта аніяк ня станецца.

– Так, – сказаў ён, – гэтакае апісаньне ёсьць вельмі на месцы.

– І што-ж? Ці станецца любоў да хлусьні ў якой-небудзь меры ўдзелам натуры філёзафа. Ці-ж ня будзе ён ненавідзець махлярства?

– Будзе ненавідзець, – адказаў ён.

– Калі праўда кіруе, я думаю, мы ніколі ня скажам, што за ёю цягнецца процьма злыбедаў.

– Дый як гэта магчыма!?

– Справядлівасьць і аздароўлены змысл будуць саправаджаць яе, а паўстрыманасьць будзе сьледаваць.

– Правільна, – адказаў ён.

– Затым, як я думаю, няма ніякае прычыны, чаму я зноў маю распасьцірацца над мужнасьцямі філёзафа, бо, як ты напэўна і прыпамінаеш сабе, што адвага, велічнасьць душы, кемнасьць, памяць – гэта ягоныя натуральныя дары. І ты запярэчыў мне ў тым сэнсе, што кажны павінен згадзіцца з тым, што мы кажам, пакідаючы, аднак-жа, на баку разважаньні і замест таго назіраць тых, пра каго ідзе гутарка; і кажны гэтаксама мог-бы сказаць, што сярод іх ён назірае бескарысных, а ў шматлікіх выпадках нават зусім няпрыдатных людзей; аналізуючы прычыну гэтае дрэннае іхнае рэпутацыі, мы зараз-жа сустрэліся з пытаньнем, чаму шматлікія зь іх зьяўляюцца проста нікчэмнымі, і гэта зноў прывяло нас да разгляду прыроджаных свомасьцяў праўдзівых філёзафаў, і змусіла нас гэта шукаць фактычных абазначэньняў для іх.

– Гэтак яно і ёсьць, – сказаў ён.

– Затым, – сказаў я, – мы мусім разгледзець сапсутасьці гэтае натуры, і чаму шматлікія паддаюцца сапсутасьці і гэтак мала ўхіляецца ад сапсутасьці – я гавару пра тых, пра якіх кажуць, што яны зьяўляюцца бескарыснымі, але не няпрыдатнымі, і калі мы 491
скончым зь імі, тады пачнем гаварыць пра тых, што насьлядуюць філязофію – мы мусім дасьледзіць натуру гэтых душаў, калі яны ўступаюць у здагонку за нечым, што зьяўляецца за добрым і за вялікім для іх; якраз з прычыны гэтых і замацавалася ўсюды за

філязофію і ўсімі філёзафамі тая слава, пра якую ты ўспамінаеш.

– Якія сапсутасьці маеш ты на ўвазе? – запытаў ён.

– Пагляджу, – сказаў я, – ці ўдасца мне растлумачыць іх табе. Кажны прызнаціме нам, што чалавек, які мае ўсе вымаганыя намі вартасьці для дасканалага філёзафа, рэдка родзіцца сярод людзей – адно, як вынятак. Ці і ты ня думаеш гэтак?

– Запраўды, рэдка.

– І супроць гэтых выняткавых людзей, падумай, якая безьліч небясьпекаў кіруецца, каб зьнішчыць іх.

– Якія небясьпекі?

– Чалавек да скрайнасьці будзе зьдзіўленым, калі пачуе, што кажная вартасьць, з прычыны якое мы захопліваліся ў падобных людзях, яна якраз і губіць душу ўласьніка яе і аддзельвае яе ад філязофіі: тут я маю на ўвазе мужнасьць, разважнасьць і наагул усё іншае, над чым мы ўжо засяроджваліся.

– Гэта гучыць непраўдападобна, – сказаў ён.

– І яшчэ болей, – сказаў я; – апрача гэтых, псуюць і адцягваюць усе іншыя добрыя рэчы, як прыгожасьць, багацьці, фізычная сіла ў чалавеку і ўплывовая зродненасьць у гаспадарсьцьве, і ўсё тое, што з гэтымі вяжацца. Тут маеш у вагульных абрысаваньнях тое, што я маю на ўвазе.

– Разумею, – сказаў ён. – Але я ахвоча хацеў-бы болей дакладна даведацца, што ты думаеш пра гэта.

– Агарні праўду ў яе суцэльнасьці і правільна, – сказаў я, – і ты ня мецімеш ніякіх труднасьцяў, каб зразумець папярэдня выказаныя заўвагі, і яны ня будуць болей выдавацца тады непраўдападобнымі.

– І як я магу ўчыніць гэта? – запытаў ён.

– Мы ведаем, – сказаў я, – што кажнае семя або зародак, хай сабе ў хворме расьліны ці жывёлы, калі яны пазбаўлены неабходнага і свомага для іх жывеньня, клімату або глебы, тым болей астаюцца чулымі што да патрэбаў свайго асяродзьдзя: бо зло зьяўляецца большым ворагам для таго, што ёсьць добрым, чымся для таго, што ім не зьяўляецца.

– Вельмі правільна.

– Існуе абаснаваньне здагадвацца, што чым лепшая натура, калі знойдзецца ў неспрыяльных абставінах, дазнае болей шкоды, чымся горшая, затым, што розьніца між імі ёсьць большая.

– Напэўна.

– Дык ці-ж ня можам мы сказаць, Адэімантос, што, чым болей абдораныя розумы, калі яны дрэнна адука-

ваныя, стаюцца асабліва дрэннымі? Ці ня думаеш ты, што вялікія праступкі і дух чыстага зла выбухаюць паўнатою натуры, зруйнаванае адукацыяю барждзэй, чымся з прычыны нізкае свае таленавітасьці, тады, як слабыя натуры астаюцца ледзьве здольнымі на вельмі вялікае дабро ці вельмі вялікае зло?

– Тут, я думаю, ты маеш рацыю.

– І я думаю, што да натуры нашага філёзафа тарнуецца гэтая самая аналёгія: яна зьяўляецца падобнаю да расьліны, якая, маючы свомую для сябе натуру, з прычыны неабходнасьці, мусіць расьці і дасьпяваць у поўную мужнасьць, але, калі пасеена і перасаджана ў не адпаведную для яе глебу, станецца найболей нездароваю зёлкаю, хіба што ацалее, дзякуючы пэўнай боскай сіле. А мо' і ты тае думкі, якую многія падтрымліваюць – ты думаеш, што сафістыя псуюць нязначную колькасьць маладых людзей, або некалькі малаведамых сафістаў псуюць гэтакую малую колькасьць маладых людзей, і быццам толькі пра іх і варта гаварыць? А ці ня думаеш ты, што якраз тыя, што гавораць пра гэтыя рэчы, і зьяўляюцца самымі сафістымі? І ці-ж яны не вядуць сваею адукацыяю да дасканаласьці і ўсяроўна маладых ці старых, мужчын, як і жанчын і ўрабляюць іх у духу сваіх паглядаў. 492

– Калі-ж яны завяршаюць гэта? – запытаў ён.

– Тады, – адказаў я, – калі яны зыйдуцца разам у васяродзьдзі паседжаньня ў народных зграмаджэньнях, або ў судох, ці ў тэатрах, у ваенных лягерох, або ў якіх-небудзь іншых агульных сходах, і зь вялікім гоманам, адны рэчы, якія абгаварваліся ці выконваліся, яны ўсхваляюць, а іншыя ганьбяць і пры гэтым зь вялікаю перабольшанасьцю ў двух выпадках, з крыкам і пляскацьнем рукамі, так, што гулкім рэхам адбіваецца ад скалаў і сьценаў, у залежнасьці, дзе гэта адбываецца, затым бо і гулкасьць іхнае аклямацыі ці ганьбаваньня стаецца двойчы мацнейшаю. Ці-ж у падобных абставінах, як гэта кажацца, трудна зразумець што творыцца ў сэрцы юнака? І якое-ж прыватнае ўзгадаваньне можа супроцьставіцца гэтаму? І ці-ж ня будзе яно змыта сілаю патоку ганьбаваньня і пахвалаў? Ці-ж зможа юнак ня прызнаць добрым або дрэнным тое самае, што і яны, і не пачне практыкаваць тое самае, што і яны? І нарэшце, ці-ж ня станецца ён гэтакім самым, як яны?

– Напэўна, Сакратас, – адказаў ён, – гэта няўхільна.

– І ўсё-ж, – сказаў я, – існуе найбольшая неабходнасьць пра якую мы яшчэ ня ўспомнілі.

– Што за неабходнасьць? – запытаў ён.
– Тая, якую "ўзгадаваўцы" і "сафістыя" тасуюць
дарогаю чыну, калі яны не зьяўляюцца ў стане пера-
канаць словам. Ці-ж ня ведаеш ты, што яны караюць
непаслухмяных ганьбаю, грашоваю караю і сьмерцю?
– Так, я ведаю, – адказаў ён.
– Тады, які-ж іншы сафісты, па-твойму, або скі-
раваныя супроць іх довады прыватных адзінак, мо-
гуць перамагчы іх у гэткім няроўным спаборніцтве?
– Ніхто, думаю я, – адказаў ён.
– Запраўды, ніхто, – сказаў я. – Нават прадпры-
няцьце падобнае спробы, было-б рэчаю безразважнаю.
Гэтакі ня існуе, ня існаваў, і праўдападобна ня бу-
дзе існаваць супроцьлежны тып характару, які атры-
маў іншае ўзгадаваньне адносна мужнасьці, акрамя
тае, якую накідвае публічная апінія – і тут, мой
дружа, я гавару выключна і толькі пра людзкую муж-
насьць; і што болей ад людзкае, як і выслоўе кажа,
у гэта не ўваходзіць. Бо ты можаш быць зусім пэў-
493 ным, што, калі што-небудзь і ёсьць уратаваным, і
стаецца тым, чым яно мае быць у сучасным стане су-
польнасьці, дык ты можаш сказаць, што ўратавана я-
но толькі боскаю Прадбачнасьцю, і ты будзеш мець
рацыю.
– Гэтак і мне здаецца, – сказаў ён.
– Тады, – сказаў я, – пераканайся яшчэ і ў тым...
– У чым гэта?
– А ў тым, што ўсе гэтыя прыватныя адзінкі, я-
кія прыймаюць плату, і каторых большасьць называе
сафістымі і сваімі праціўнікамі, фактычна нічога
іншага не навучае, як тыя самыя пагляды большасьці
і пераканаваньне, якое яна выражае на сваіх зграмад-
жэньнях. І гэта яна называе мудрасьцю. Я гэта магу
параўнаць да таго чалавека, які даглядае аграмад-
нага і сільнага зьвера. Ён вывучаў-бы наровы зьве-
ра і жаданьні, ведаў-бы, зь якога боку можна па-
дыйсьці да яго, якім спосабам можна дакрануцца да
яго, у якую пару і зь якое прычыны ён кідаецца ў
злосьць і стаецца рахманым, пры якіх абставінах
прывык выдаваць тыя ці іншыя гукі і якія гукі звон-
ку супыняюць або зноў кідаюць яго ў разьюшанасьць.
Цяперака, пазнаўшы ўсё гэта шляхам абыходжаньня са
зьверам і здабытага з часам на́выку, ён называе гэ-
та мудрасьцю і, быццам уклаўшы праграму свайго па-
гляду, бярэцца навучаць іншых, нічога, фактычна, ня
ведаючы адносна паглядаў і прынцыпаў большасьці і
яе жаданьняў – што́ ў ёй ёсьць прыгожае або што́ брыд
кае, добрае ці дрэннае, справядлівае або несправяд-

ліве, і ўсё ў сузгоднасьці са смакам і норавам
гэтага вялікага брута: тое, што таму прыемным, ця-
перака ён называе дабром, а тое, што яму не пада-
баецца – злом, ня маючы ніякага паняцьця пра гэта,
пачынае называць справядлівым і прыгожым тое, што
зьяўляецца неабходным; а як далёка розьніцца нату-
ра неабходнага і добрага, ён ня бачыць і няздоль-
ным астаецца вытлумачыць гэтага іншаму чалавеку. І,
калі ён зьяўляецца гэтакім, якім ён ёсьць, на ня-
бёсы, скажы мне, ці ня выдасца табе ён дзіўным уз-
гадавальнікам?
– Запраўды, ён выдасца мне гэтакім, – сказаў ён.
– У чым-жа розьніца ад яго той, хто за муд-
расьць уважае і тое, калі ён прыкмеціў што не па-
дабаецца, а што падабаецца сузграмаджэньню большa-
сьці самых найболей featурodных людзей – хай сабе
будзе гэта ў малярстве, музыцы або нават у палітыцы?
Калі, падтрымліваючы лучнасьць зь імі, ён выстаў-
ляе напаказ свае паэтычныя ці іншыя творы або сваю
службу для гаспадарства, дык ён чыніць гэтую боль-
шасьць сваею валадарніцаю болей магутна, чымся гэ-
та выклікаецца патрэбаю, і тады на моцы гэтак зван-
нае Дзіёмэдэсавае неабходнасьці ён выконвае тое,
што хваліць гэтая большасьць. І запраўды, ці бу-
дзе гэта добра або прыгожа – ці даводзілася табе
чуць калі-небудзь, каб хто-колечы зь людзей здаваў
сабе справу з гэтага і гэта ня выклікала-б сьмеху?
– Не, ніколі ня чуў, – адказаў ён, – і праўда-
падобна не пачую.
– Бяручы ўсё гэта пад увагу, прывядзі сабе на
ўспамін тое, пра што мы раней гаварылі: ці магчыма,
каб натоўп дапусьціў і прызнаў існаваньне прыго-
жасьці, як гэткае, а не шматлікіх прыгожых рэчаў?
або самое існасьці кажнае рэчы, а не шматлікасьці 494
паасобных рэчаў?
– Напэўна не, – сказаў ён.
– Тады, – сказаў я, – натоўп ня можа быць філё-
зафам.
– Не, ня можа.
– Тады, станецца гэта няўхільнасьцю, што тыя,
што будуць займацца філязофіяю сьцягнуць на сябе
ягонае нараканьне.
– Гэта няўхільна.
– А нараканьне з боку тых прыватных адзінак, я-
кія, падтрымліваючы сувязь з натоўпам, імкнуцца да-
гадзіць яму?
– Ведама.
– Маючы ўсё гэта на ўвазе, у чым ты бачыш рату-

нак для філязафічнае натуры, каб ёй не зьнеаувочвацца да свайго занятку і асягнуць сваю мэту? Памятай, вырашэньне тут мае прыйсьці на абаснаваньні таго, пра што мы гаварылі раней, паймена, што для гэтакае натуры свомымі павінны быць: добрыя здольнасьці, запамятнасьць і харобрасьць, і шлахэтнасьць думкі.

– Але.

– Гэтакі чалавек ужо зь дзіцячага веку будзе першым сярод усіх, асабліва, калі разьвіцьцё ягонага цела будзе ісьці ў пары зь ягонаю душою?

– Напэўна, – сказаў ён.

– І ягоныя блізкія, і суродзічы, калі ён падрасьце, захочуць насьлядаваць яго ў сваіх чынах дзеля свайго ўласнага дабра.

– Дый як-жаж інакш?

– Упаўшы да ягоных ног, яны будуць прасіць яго і будуць аддаваць яму гонары і падлізвацца, бо яны загадзя хочуць атрымаць зь ягоных рук тую сілу, да якое ён аднойчы дойдзе.

– Так, гэта часта здараецца, – сказаў ён.

– І што-ж ты думаеш мае рабіць гэтакі чалавек сярод гэтакіх людзей, – сказаў я, – асабліва, калі ён будзе належаць да ліку грамадзян вялікага гаспадарства і будзе ў ім багатым і шляхэтным, дый да гэтага яшчэ юнаком статнае паставы? Ці-ж не ўпадзе ён у пачуцьцё вялікіх прэтэнсыяў? Ці-ж не пачне ён уважаць сябе за здольнага кіраваць справамі і гэльленаў, і барбараў, і ці-ж ня ўздымецца ён высака, напоўніўшыся ганарлівасьцю і парожнаю самаўпэўненасьцю наўсуперак розуму?

– І вельмі нават, – сказаў ён.

– А цяперака, калі хто-небудзь, ня гледзячы на стан, у якім ён знаходзіцца, супакойна падыйдзе да яго і скажа яму праўду, гэта значыць, што ў яго няма розуму і, што нічога не перашкаджала-б мець яго, і што здабыць яго можна тады толькі, калі падпарадкаваць самога сябе гэтай мэце – здабыцьцю розуму, дык, што? лёгка яму будзе ўсё гэта выслухаць сярод гэтакіх абставінаў?

– Зусім ня лёгка, – сказаў ён.

– І калі-б нават хто-небудзь, – сказаў я, – дзякуючы сваей прыроджанай дабрыні і быў-бы здольным падпарадкавацца праву разумнасьці і адчыніў-бы крышку свае вочы і праявіў-бы схільнасьць да філязофіі, дык як, тады будуць адносіцца блізкапастаўленыя да яго людзі, калі яны толькі ўсьведамяць сабе, што яны губяць ягоную прыхільнасьць? Ці-ж аста-

нуцца яны бясчыннымі і ня скажуць ані слова, каб перашкодзіць ямуісьці за голасам ягонае лепшае натуры і абясьсіліць ягонага вучыцеля, ужываючы ў гэтым напрамку іхныя прыватныя інтрыґі, гэтаксама як і публічна, паддаючы яго пад судовую адказнасьць?

- Няма сумліву адносна гэтага, - сказаў ён. 495

- Тады, як можа неута, астаючыся ў падобных абставінах, стацца філёзафам?

- Гэта немагчыма.

- Бачыш, - сказаў я, - мы мелі рацыю, калі казалі, што нават гэтыя самыя асаблівасьці, якія чыняць чалавека філёзафам, могуць, калі ён дрэнна адукаваны, адвесьці яго ад філязофіі, ня горай, чымся багацьці і ўсё, што зь іх выплывае, як і ўсякага роду дабро ў жыцьці?

- Так, мы мелі рацыю, - сказаў ён.

- Гэтакім вось спосабам, - працягваў я далей, - дарагі мой дружа, руйнуюцца лепшыя натуры, якія прадназначаліся для найболей шляхэтнага дзеяньня. Яны зьяўляюцца, як і ўтрымлівалі мы, тымі натурамі, якія рэдка спатыкаюцца ў кажным часе. Яны твораць сабою групу, зь якое выходзяць і тыя людзі, якія зьяўляюцца прычынаю найбольшага зла, гэтак гаспадарствам, як і паасобным людзям; гэтаксама і тыя выходзяць, што твораць дабро, калі толькі маюць яны нахіл да яго; але малая натура ніколі ня створыць нічога вялікага для паасобных адінак, ані для гаспадарства.

- Шчырая праўда, - сказаў ён.

- І гэткім спосабам ад філязофіі адпадаюць тыя людзі, якім найболей належалася-б займацца ёю, і яна астаецца асамотненаю і незавершанаю, а самыя яны вядуць нягоднае і неадпаведнае для іх жыцьцё. Тымчасам іншыя безвартасныя людзі, бачучы, што філязофія пазбаўлена суродных ёй людзей і апякуноў, прыступаюць да яе. Яны акрываюць дызгонарам яе і сьцягваюць на яе папрок у тым, за што якраз і ганьбяць яе, як ты кажаш, яе паклёпнікі, якія кажуць, быццам маюць зь ёю нешта супольнае людзі, якія нічога нявартыя, або ў сваей большасьці заслугоўваюць на належную ім кару.

- Запраўды, - сказаў ён, - пра гэта кажуць іншыя.

- І апраўдана, - сказаў я.- Бо-ж іншыя маленечкія людзі ледзь пабачаць, што тэрыторыя гэтая апусьцела хоць і напоўнена прыгожымі імёнамі і крыклівымі тытуламі - як крыміналістыя, што ўцяклі з

вастрогу ў ахоўваючую іх сьвятыню, як найхутчэй скачуць прэч ад свайго рамяства проста да філязофіі – і асабліва тыя, што зьяўляюцца найбольшымі спрыцягамі ў сваіх гнусных справах. І хоць філязофія знаходзіцца ў гэткім палажэньні, усё-ж, яна астаецца ў большай пашане, у параўнаньні зь іншымі мастацтвамі, што і зьяўляецца прычынаю прыцяжэньня да яе для шматлікіх людзей, недасканалых ў сваей натуры, душы якіх акалечаныя з прычыны іхнае духовае беднасьці, падобна, як іхныя целы, зломленыя цяжкою працаю – бо-ж гэта няўхільнасьцю ёсьць?

– Так, няўхільнасьцю, – сказаў ён.

– Паўзірайся на іх, – сказаў я, – ці-ж не прыпамінаюць яны табе малога прысадзістага і лысага каваля, які нядаўна выйшаў з вастрогу, памыўся ў лазьні, прыкрыўся новым плашчом і прыстроіўся – праўдзівы жаніх. Дый у грунце рэчы, ён сквапны і зьбіраецца жаніцца на дачцы свайго гаспадара, які абяднеў і знаходзіцца ў бязраднасьці.

496 – Вельмі трапнае параўнаньне, – сказаў ён.

– І што можа радзіцца з гэтакіх людзей? Ці-ж ня будуць іхныя нашчадкі непраўнароджанымі і нягоднымі?

– Няма сумліву адносна гэтага.

– І як? Калі людзі нявартыя ўзгадаваньня набліжаюцца да філязофіі і пачынаюць за пан-брата свае паводзіны зь ёю, якая перавышае іх гэтак значна, дык якія-ж тады думкі і замеры могуць нарадзіцца? Ці-ж ня будуць гэта сафізмы, палонячыя вуха, нямаючыя ў сабе нічога з праўдзівасьці, або быць вартымі праўдзівае мудрасьці?

– Зусім правільна, – сказаў ён.

– Затым, Адэімантос, – працягваў я далей, – вельмі мала месца астаецца для тых, каторыя годна абыходзяцца з філязофіяю: прыпадкава толькі некаторыя шляхэтныя і добра адукаваныя асобы, на дарозе выгнаньня і, будучы здаля ад уплываў сапсуцьця, астануцца вернымі ёй; або можа гэта быць вялікая душа, народжаная ў малым месьце, якая з пагардаю адносіцца да месных справаў, як неганаровых, або, магчыма, нейкі малы лік здольных людзей з рамесьніцтва і іншых заняткаў апраўдана пагарджаюць гэта і прыходзяць да філязофіі, з прычыны яе прыгожае натуры. Часамі выступае сумліў, які дзейнічае, як тая аброць нашага сябры Тэаґэса; бо кажная рэч у жыцьці Тэаґэса ставалася перашкодаю для яго ў набліжэньні да філязофіі; а слабое здароўе трымала яго здаля ад палітыкі. Пра мой уласны выпадак – духовы знак,

насілу ці варта ўспамінаць, бо, я думаю, што падоб-
ны праяў перасьцярогі рэдка з кім-небудзь здараўся,
калі наагул здараўся раней. Тыя, што належаць да
гэтага малога гуртка, мелі нагоду дазнаць асалод-
нае шчасьце багацьця філязофіі, як і пабачыць хва-
роблівы нахіл большасьці; і яны ведаюць, што ніякі па-
літык у грамадзкіх справах не зьяўляецца чэсным, і
насілу ці можа знайсьці аднаго змагара за справяд-
лівасьць, побач якога яны могуць змагацца і ацалець.
Наадварот, гэтакага можна параўнаць да чалавека, я-
кі апынуўся сярод зьвераў, ён ня будзе хацець ра-
зам зь імі тварыць несправядлівасьць, як і не ўма-
гату будзе яму ўправіцца аднаму з усімі дзікімі
сваімі супраціўнікамі, і, раней, чымся ён пасьпее
прынесьці карысьць гаспадарству ці сваім прыяцелям,
ён загіне без карысьці для самога сябе і для іншых.
Прыймаючы ўсё гэта пад увагу, ён астаецца супакой-
ным і крочыць сваім шляхам. Ён падобны да таго ча-
лавека, які, у часе дажджлівае непагадзі зь ветрам,
хаваўся за сьцяну. Бачучы, як усе іншыя перапоў-
ніліся беспраўем, ён здавальняецца тым, што пражы-
ве гэтае жыцьцё чыстым ад няпраўды і зла або не-
справядлівасьці, а напрыканцы жыцьця адыйдзе ў су-
пакоі, спадзяючыся на лепшае.

– І напэўна, – сказаў ён, – не зьяўляецца малою 497
рэчаю тое, што ён асягнуў, адыходзячы ў гэтакім
стане.

– Вялікае асягненьне – так, – сказаў я, – але
не найбольшае, калі ў сваім гаспадарсьцьве ён не
знайшоў канстытуцыі, якая найляпей адказвала-б яму;
бо ў гаспадарсьцьве, якое адказвала-б яму, ён займеў-
бы большы духовы рост і стаўся-б ратаўнікам свае
краіны, як і самога сябе.

Прычына, дзеля якое філязофія займела гэтакае
ўпярэджаньне да сябе, цяперака была дастаткова вы-
сьнена – і несправядлівасьць абвінавачаньняў су-
проць яе ўвыпуклілася – ці ёсьць яшчэ нешта, што
хочаш ты сказаць?

– Нічога болей што да гэтага прадмету, – сказаў
ён; – але я хацеў-бы ведаць, якое з-пасярод існую-
чых цяперака гаспадарсьцьвеных уладжаньняў ты ўва-
жаеш для яе найболей адпаведным?

– Аніякае зь іх, – сказаў я; – і гэта якраз
ёсьць тое абвінавачаньне, якое я ўздымаю супроць
іх, ані адно зь іх не зьяўляецца вартым філязафіч-
нае натуры, згэтуль натура гэтая дэфармуецца і гу-
біць сваё аблічча – падобна як чужаземнае се́мя, я-
кое пасаджана на чужую для яго глебу, губіць свае

натуральныя свомасьці і прысвойвае сабе характэр-
ныя рысы месных расьлінаў, астаючыся няздольным
супроцьставіцца сілам чужанецкае зямлі, гэтак і ўс-
помнутыя натуры ў падобных абставінах, замест су-
процьставіцца, дэгэнэруюцца і ўспрыймаюць іншы ха-
рактар. Але трэба толькі гэткай натуры апынуцца ў
дасканала ўладжаным гаспадарсьцьве, як яна зараз-
жа і выявіцца сама, што яна ў запраўднасьці зьяў-
ляецца боскаю і, што ўсе іншыя рэчы, будуць гэта
натуры людзей ці ўстановаў, зьяўляюцца толькі
людзкімі – і цяперака я ведаю, што ты запытаеш: Ка-
торае з гэтых зьяўляецца найлепшым гаспадарсьцьве-
ным уладжаньнем?
– Не, – ён сказаў, – ты тут памыліўся, бо я ма-
нюся інакш запытаць цябе, найменна: Ці мае быць гэ-
та тое гаспадарства, якога мы зьяўляемся закладчы-
камі, або нейкае іншае?
– Агульна выражаючыся, – адказаў я, – нашае з
шматлікіх кутоў гледжаньня; але ты мусіш мець на
ўвазе маё папярэдняе выказваньне ў тым сэнсе, што
нешта мусіць быць у гаспадарсьцьве што́ меціме тую
самую ідэю канстытуцыі, якая кіравала табою тады,
калі ты, як правадаўца, укладваў правы.
– Гэта было сказана, – адказаў ён.
– Так, – сказаў я, – але ня было дастаткова і
выразна вытлумачана; і гэта затым, што вы, агорну-
тыя страхам, думалі, што разгляд гэтага пытаньня
будзе зацяжным і трудным. Дарэчы, усе іншыя гэтак-
сама ня былі лёгкімі да разгляду.
– Што гэтым ёсьць?
– Пытаньне было, я́к тасаваць філязофію, каб га-
спадарства ад гэтага не дазнала шкоды. Бо-ж усё вя-
лікае вяжацца з рызыкаю, а прыгожае, паводля вы-
слоўя – фактычна трудным ёсьць.
– Аднак-жа, – сказаў ён, – наш доказ адно тады
будзе даведзеным да канца, калі і гэта высьніцца.
– Перашкодаю станецца не адсутнасьць жаданьня,
але барджджэй недахоп сілаў, – сказаў я. – Ты хут-
ка сам пабачыш маё стараньне; і, калі ласка, за-
знач сабе, як рашуча, настырліва і бяз хістаньня я
дэклярую, што гаспадарствы павінны падыйсьці да фі-
лязофіі ня гэтак, як да гэтае пары, але зусім у
іншым духу.
– Як?
– У цяперашнім часе, – сказаў я, – студэнтамі фі-
498 лязофіі зьяўляюцца пераважна юнакі, якія толькі што
выйшлі зь дзіцячага веку: перад тым, як уладзіць
свой дом і заняцца належнымі справамі, яны, насілу

приступіўшы да труднейшае часткі філязофіі, кідаюць яе, і адначасна выстаўляюць сябе, як рэчазнаўцаў; з гэтага найболей трудным я знаходжу ў ёй тое, што адносіцца да доказаў, гэта значыць да словаў, [дыялектыкі]. У выніку, з прычыны рады іншых – тых, што займаюцца філязофіяю, яны жадаюць сабе стацца іхнымі слухачамі, дык уважаюць гэта вялікаю заслугаю для сябе, хоць і думаюць, што займацца гэтым трэба адно сярод іншага: напасьледак, калі яны старэюцца, у большасьці выпадкаў яны зьяўляюцца ўжо вычарпанымі болей, чымся Гэраклітосавае сонца, затым, што яны ўжо ніколі не запальваюцца зноў.

– Але як павінны яны займацца філязофіяю? – запытаў ён.

– Зусім інакш. У сваіх дзіцячых, як і юнацкіх гадох іхнага ўзгадаваньня, як і тое, што яны навучацца з філязофіі, павінны адказваць іхнаму далікатнаму веку: у часе гэтага пэрыяду, калі яны ўзрастаюць у напрамку мужнасьці, галоўнае і адумыснае стараньне павінна быць зьвернута на разьвіцьцё іхных целаў, каб яны памысна маглі ўжываць іх для філязофіі; калі жыцьцё крочыць наперад і інтэлект пачынае дасьпяваць, трэба спрыяць разьвіцьцю гімнастычных практыкаваньняў душы; але, калі сіла веку нашых грамадзян пачынае малець, а грамадзкая служба і вайсковыя абавязкі ўжо за імі, тады няхай наступіць для іх достань жыцьця, – нічым ня будуць займацца, хіба што сярод іншага, – а адыйшоўшы ў вечнасьць, укаранаваць пражытае існаваньне шчасьлівым пазасьветным удзелам.

– У грунце рэчы, – сказаў ён, – ты, Сакратас, знаходзішся ў праўдзівай павазе! Што да гэтага – я пэўны; і ўсё-ж, бальшыня з нашых слухачоў, калі я не памыляюся, пачынаючы з Трасімахоса, яшчэ з большым захопленьнем пачалі-б пярэчыць табе – ты-ж бо іх ні ў чым не пераканаў.

– Ты толькі не ўшчынай спрэчкі, – сказаў я, – паміж Трасімахосам і мною, каторыя нядаўна сталіся прыяцелямі, хоць, што праўда, мы ніколі ня былі ворагамі; я не пакіну ані воднага невыпрабаванага сродка, пакуль я не пераканаю яго і іншых людзей, або ўчыню нешта, што можа прынесьці ім карысьць у тым іхным жыцьці, калі, як народжаныя нанова, яны зноў сустрэнуцца з падобнаю дыскусыяю, як гэтая.

– Ты гаворыш пра час, які не зьяўляецца вельмі блізкім, – сказаў ён.

– Барджэй, – сказаў я, – пра час, які зьяўляецца нічым у параўнаньні зь вечнасьцю. Тым ня меней,

я ня буду зьдзіўленым, калі большыня людзей не паверыць словам іншага. Бо-ж яны ніколі ня бачылі таго, пра што́ мы цяпер гаворым – яны бачылі толькі агульнапрынятае насьледаўніцтва філязофіі, якое складаецца адно са словаў, знарок датарнаваных адно да другога, а не, як нашыя словы, якія цяперака выцякаюць адно з другога і маючыя на ўвазе стан рэчы натуральнае адзінасьці. Але людзкае існаваньне, якое ў слове і чыне зьяўляецца, як далёка яно можа быць, дасканала ўўвармаваным у правільную прапорцыю мужнасьці – гэтага чалавека, кіруючага гаспадарствам, якое выяўляла-б падобны воблік, яны ніколі ня бачылі і ані воднага або некалькі такіх лю-
499 дзей. – А мо' думаеш ты, што даводзілася ім бачыць гэтакага?

– Ніколі ім не даводзілася.

– Не, мой дружа, яны ніколі не стараліся пачуць з належнаю ўвагаю прыгожых словаў і шляхэтных разважаньняў, якія старанна і ўсімі сродкамі імкнуцца пранікнуць праўду дзеля самога пазнаньня, і якія нічога супольнага ня маюць з хітраю сафістыкаю, якая нікуды не вядзе адно да глыбокіх спрэчак, мэтаю якіх апінія і разладзьдзе і ўсёроўна, мешіме гэта месца ў судох ці ў прыватных гутарках.

– Так, – сказаў ён, – яны зьяўляюцца чужынцамі для словаў, пра якія ты кажаш.

– Гэта і ёсьць тое, – сказаў я, – што́ мы прадбачылі, і гэта было прычынаю, чаму праўда змусіла нас, ня гледзячы на страх і хістаньні, прызнацца, што ніякае гаспадарства, ані ягонае канстытуцыя, гэтаксама як і паасобны чалавек, ніколі ня станецца дасканалымі, да тае пары пакуль ня здарыцца нейкая неабходнасьць, якая змусіць гэтых нешматлікіх філёзафаў – якіх мы назвалі бескарыснымі, але не сапсутымі – прыняць на сябе стараньне адносна гаспадарства, жадаюць яны сабе гэтага ці не, – і гаспадарству давядзецца слухацца іх; – або пакуль з прычыны нейкага боскага натхненьня ня будуць агорнуты запраўдным запалам да праўдзівае філязофіі каралі, або калі не каралі, тады іхныя сыны або князі. Уважаць, што якая-небудзь адна з гэтых двух магчымасьцяў або абедзьве яны – гэта рэч немагчымая, я асабіста не знаходжу ніякіх абасноўваньняў. Інакш справядліва пасьмяяліся-б над намі за тое, што мы займаемся сьмешнымі лятуценьнямі і неапраўданымі пажаданьнямі. Ці-ж ня маю я рацыі?

– О, так!

– Калі для выдатных людзей у філязофіі ўзьнікла

калі-небудзь у бязьмежнасьці мінулых вякоў або ў нашых днях неабходнасьць узяць на сябе абавязак дагляду над гаспадарствам – у якой-небудзь барбарскай краіне, па-за межамі нашага далягляду – або, калі гэтакая неабходнасьць узьнікае пазьней, мы гатовы рашуча бараніць пагляд, што гэтакая гаспадарсьцьвеная канстытуцыя была, ёсьць і будзе, калі ўжо пайменна гэтая Муза выяўляецца валадаркаю гаспадарства. Урэчаісьненьне гэтакае канстытуцыі зьяўляецца ў межах магчымасьці, а пра немагчымае мы не гаворым. А што гэта трудна – прызнаем і мы.

– Мая думка зусім пакрываецца з тваею, – сказаў – ён.

– Але, ці манішся ты сказаць, што большасьць людзей не згаджаецца з гэтым?

– Я думаю, што не, – адаказаў ён.

– Дарагі мой дружа, – сказаў я, – ты не павінен займаць да большасьці гэтакую няпрыхільную паставу. Людзі зьіначаць сваё перакананьне, калі ты без зласьлівасьці і далікатна, і з належным падыходам пакажаш на няправільнасьць іхнага пагляду на славу нібыта найлепшае іхнае адукацыі, ты пакажаш ім якімі, па-твойму, філёзафы зьяўляюцца і выявіш іхную натуру і занятак, каб большасьць людзей ня думала, быццам ты гаворыш пра тых, каго яна сама ўважае за філёзафаў. Калі большасьць гэтак цяперака будзе 500
глядзець на іх, дык ты скажаш, што ў яе ўжо скрышталізаваўся іншы пагляд і, што яна ўжо інакш адзываецца пра іх. Хто-ж можа адносіцца з раздражненасьцю да таго, хто астаецца спакойным, выражаецца далікатна і без зайздрасьці? Не, няхай мне дазволеным будзе сказаць табе, гэтакі цяжкі падыход спатыкаецца ў некаторых паасобнах людзей, але не сярод большасьці людзей.

– Ты толькі ня турбуйся, я падзяляю твой пагляд, – сказаў ён.

– І ці ня думаеш ты гэтаксама, як і я, што цяжкое пачуцьцё, якое шматлікія праяўляюць адносна філязофіі, пачатак свой бярэ з асяродзьдзя тых, што прыкідваюцца толькі – яны гурмам валяць туды, ня будучы запрошанымі, зьневажаюць людзей, праяўляючы варожасьць да іх, і, чынячы барджэй людзей, чымся рэчы тэмаю сваіх гутарак – інакш кажучы, гэтакую прыймаюць паставу, якая зусім няпрыгоднаю ёсьць для філёзафа?

– Я зусім згаджаюся з табою, – сказаў ён.

– Бо той, Адэімантос, хто запраўды скіраваў сваю думку ў напрамку быцьця, ня мае часу ўзірацца

ўніз на справы гэтае зямлі і змагацца зь людзьмі, напаўняючыся нядобразычлівасьцю і зайздрасьцю; але бачучы і разважаючы над рэчамі, якія гэтак прыгожа ўпарадкаваны і ніколі нязьменныя, – і кажная рэч ня творыць несправядлівасьці і зь яе прычыны ніхто ня церпіць, – але ўсе рэчы знаходзяцца ў сузгоднасьці і кіруюцца розумам, а мы з нашага боку, насьледуем гэтыя рэчы, упадабняючыся ім як найболей. Ці можа чалавек паўстрымацца ад насьледаваньня таго, з чым ён утрымлівае найболей вялебную сувязь?

– Ня можа, – адказаў ён.

– І філёзаф, падтрымліваючы сувязь з боскім упарадкаваньнем, стаецца ўпарадкаваным і боскім, як далёка натура чалавека дазвалае; абкінуць паклёпам можна ўсё на сьвеце.

– Натуральна.

– А калі ў філёзафа ўзьнікне неабходнасьць хвармаваць, і ня толькі самога сябе, але і людзкую натуру наагул, хай сабе гэта будзе ў гаспадарсьцьве ці сярод прыватных адзінак, тое, што ён мае на ўвазе, дык, думаеш ты, што выйдзе зь яго дрэнны майстра ў прадмеце справядлівасьці, разважнасьці і наагул у кажнай грамадзкай мужнасьці?

– Усё іншае, толькі ня дрэнны, – сказаў ён.

– І калі сьвет зразумее, што тое, што мы гаворым пра яго, зьяўляецца праўдаю, ці-ж будзе сьвет злавацца на філязофію? Ці-ж людзі ня будуць верыць нам, калі мы скажам ім, што ніякае гаспадарства ня будзе шчасьлівым, калі яно ня будзе пабудаваным на падставе ўкладзенага пляну мастакамі паводля боскага наўзору?

– Яны ня будуць злавацца, калі яны зразумеюць, – сказаў ён. – Але як накрэсьляць яны плян, пра які
501 мы гаворым?

– Яны пачнуць з таго, – сказаў я, – што возьмуць гаспадарства і манеры людзей, з чаго, як на таблііцы, пачнуць сьціраць існуючы вобраз, і пакінуць чыстую паверхню. Заданьне гэтае ня ёсьць лёгкім. Але будзе гэтая задача лёгкаю ці не, тут будзе знаходзіцца розьніца паміж імі і кажным іншым прававаўцам – яны не крануць пальцам ані гаспадарства, ані чалавека, і не пачнуць пісаць права, пакуль яны ня ўчыняць дошку чыстаю або атрымаюць яе скульнебудзь.

– І правільна, – сказаў ён.

– Даканаўшы гэта, яны пачнуць працу над абрысаваньнем канстытуцыі.

– Дый як-жаж інакш?

– Распрацоўваючы гэтае абрысаваньне, як мне здаецца, яны ўважна будуць сачыць за тым, што творыца наўзьверсе і ўнізе: за тым, што паводля натуры справядліва, прыгожа, разумна і гэтак далей, і за тым, якім усё гэта выяўляецца ў людзях. Зьмешваючы і бяручы пад увагу навык людзей, яны створаць прототып чалавека, вызначаны тым, чым ужо Гомэр называў – боскім і богападобным.
– Правільна, – сказаў ён.
– І некаторыя характэрныя рысы яны будуць сьціраць, а іншыя будуць наносіць, пакуль ня створаць чалавечныя рысы, наколькі гэта магчымым ёсьць, усузгодненыя з рысамі Бога.
– Запраўды, – сказаў ён, – быў-бы гэта найболей прыгожы вобраз.
– А цяперака, – сказаў я, – пачнем пераконваць тых, што, паводля тваіх словаў, шчыльнымі радамі і гурмам ішлі супроць нас. Ці-ж не пераканаем іх, што якраз гэтакі мастак і каторы стварыў абрысаваньне канстытуцыі гаспадарства, і каторага мы ім хвалілі раней, а яны абурваліся за тое, што мы даручылі яму гаспадарства. Няўжо-б яны крышку не супакоіліся, калі-б яны паслухаліся нас?
– Ведама, – сказаў ён, – калі толькі яны маюць здаровы глузд.
– І якія-ж яны могуць яшчэ ўздымаць пярэчаньні? Ці будуць яны яшчэ сумнявацца, што філёзафы зьяўляюцца прыхільнікамі праўды і быцьця?
– Гэта было-б ня мудра, – сказаў ён.
– Або, што натура, якую мы маем на ўвазе, не знаходзіцца ў сваяцтве з найвышэйшым дабром?
– Насілу ці могуць яны сумнявацца ў гэтым.
– І зноў-жа, могуць яны сказаць нам, што гэтакая натура, калі знойдзецца ў спрыяльных абставінах, ня будзе дасканала добраю і мудраю, як толькі гэта магчымым ёсьць? Амо' будуць яны ўважаць за лепшых тых, якіх мы адкінулі?
– Напэўна, не.
– І ці-ж усё яшчэ яны будуць гневацца на нас за тое, што мы казалі, што, як доўга філёзафы не знаходзяцца на кіраўнічых становішчах, гэтак доўга ані гаспадарствы, ані паасобныя людзі ня мецімуць супакою ад зла, ані гэтаксама гэтае нашае ўяўленьне гаспадарства ня прыйдзе да быцьця?
– Магчыма і гневаюцца, але цяперака меней.
– Ці-ж ня можам мы прыняць думку, – сказаў я, – што яны ня толькі меней злуюцца, але зусім абрахманелі, і дазволілі сябе пераканаць хоць-бы нават з 502

прычыны адно сораму, калі ўжо на ніякіх іншых умовах?

– У кажным выпадку, – сказаў ён.

– Тады прыймем, – сказаў я, – што мы пераканалі іх у гэтым. Ці-ж знойдзецца гэтакі, хто будзе аспрэчваць наступны пункт, пайменна, што магчыма знойдуцца сыны каралёў або князі, каторыя з натуры свае будуць філёзафамі?

– Адносна гэтага ніхто ня будзе спрачацца, – сказаў ён.

– А калі гэтакія заіснуюць, дык што? – можа хтонебудзь сказаць, што яны маюць быць зьнішчанымі [διαφθαρῆναι]. Тое, што яны напаткаюць труднасьці ў ацалені сябе, дык і мы згадзіліся ў гэтым. Дый на працягу ўсіх пэрыядаў часу ані водзен зь іх ня здолеў ухіліцца?

– Дый як?

– Але, – сказаў я, – хопіць, калі будзе адзін; няхай гэтакі чалавек займее паслухмянасьць гаспадарства, і ён завяршыць усё тое, што цяперака выдаецца неправўдападобным.

– Так, – сказаў ён, – хопіць аднаго.

– Калі кіраўнік, – сказаў я, – выдасьць правы і наладзіць практыкі, якія мы ўжо разьбіралі – тады станецца гэта зусім магчымым, і грамадзяне будуць выконваць іх.

– Напэўна.

– А тое, што іншыя могуць згадзіцца з тым, з чым мы згадзіліся, ня будзе ані цудам, ані немагчымасьцю?

– Я думаю, што ня будзе, – сказаў ён.

– І далей, мы дастаткова паказалі, як мне здаецца, што выяўленае намі зьяўляецца найлепшым, калі наагул магчымым ёсьць.

– Так, мы дастаткова паказалі.

– А цяперака мы цьвердзім, што ня толькі нашыя правы, калі толькі будуць уведзенымі ў жыцьцё, будуць найлепшымі, але гэтаксама, што ўрэчаісьненьне іх, хоць і трудным ёсьць, не зьяўляецца немагчымым.

– Выглядае гэтак, – сказаў ён.

– Пасьля таго, як мы зь вялікімі цяжкасьцямі дайшлі да канца з гэтым пытаньнем, трэба сказаць, што яшчэ шмат асталося прадыскутаваць – для прыкладу: Якім спосабам і пры помачы якіх навукаў і стараньняў атрымліваюцца людзі, на якіх абапіраецца ўся гаспадарсьцьвеная канстытуцыя, і ў якім веку кажны зь іх прыступае да кажнага з гэтах абавязкаў?

– Так, трэба сказаць, – згадзіўся ён.

– Я нічога не здабыў, стараючыся абмінуць будзя-
чае несупакой пытаньне адносна дабору жанок, зай-
меньня дзяцей і вызначэньня на ўрадавыя становішчы,
– працягваў я далей, – бо ведамым мне было, што
поўная праўда ў аднясеньні да нашага гаспадарства
сустрэнецца з зайздрасьцю і з труднасьцямі ў зьдзей-
сьненьні яго; але, як бачыце, неабходнасьць разгля-
ду гэтага пытаньня цяперака ані крышку ня згубіла
са свае важнасьці. Што да жанок і дзяцей – гэта мы
ўжо выканалі, але што да кіраўнікоў, дык тутака да-
водзіцца пачынаць дыскусыю спачатку. Калі ты памя-
таеш, мы казалі, што яны павінны быць сьведамымі
любові свае да бацькаўшчыны; у вабліччу радасьці і 503
гора, у часе цяжкіх перажываньняў як і ў небесьпе-
цы або іншых крытычных хвілінаў яны павінны праяў-
ляць свой патрыятызм. Хто тут акажацца слабым, та-
го прыдзецца адкінуць, але той, хто чыстым выйдзе
з гэтага дазнаньня, як тое золата з ачышчаючага аг-
ню, таго трэба паставіць у ролі кіраўніка, праяў-
ляць да яго асаблівую пашану і прысуджваць яму на-
гароды, гэтак у часе жыцьця, як і пасьля адыходу ў
вечнасьць. Вось пра што прыблізна гаварылася, калі
нашая гутарка між іншым закранула гэта, але зараз-
жа схавалася дзеля боязі выклікаць тое, што цяпе-
рака перад намі ўзьнікла.
– Шчырую праўду ты кажаш; я памятаю гэта, – сказаў
ён.
– Так, мой дружа, – сказаў я; – тады я ўстрымаў-
ся сказаць цьвярдыя словы, але цяперака зарызыкую:
станьмася адважнымі і скажэм, што ў ролі найлепшых
старожаў і кіраўнікоў мы мусім паставіць філёзафаў.
– Так, – сказаў ён, – хай гэта будзе пацьверд-
жана.
– І ня трэба спадзявацца, што знойдзецца іх шмат;
бо натуральныя дары, якія мы мелі на ўвазе, рэдка
выступаюць разам. У бальшыні выпадкаў яны спатыка-
юцца расьцярушана.
– Што ты маеш на ўвазе? – запытаў ён.
– Ты праўдападобна сьведамы таго, – сказаў я, –
што жывая інтэлігэнцыя, памяць, кемнасьць, разум-
насьць і іншыя падобныя якасьці, не заўсёды рас-
туць разам, і людзкія адзінкі, якія абдораны імі і
выступаюць у тым самым часе юнацка адухоўленымі і з
вышуканым розумам, не зьяўляюцца ўкладзенымі нату-
раю, каб жыць упарадкаваным жыцьцём і ў супакоі, і
весьці аселы быт; наадварот, з прычыны свае палкась-
ці яны перабіраюцца зь месца на месца, і прынцыпы
сыстэматычнасьці адыходзяць ад іх.

- Вельмі праўдзіва, - сказаў ён.

- З другога боку, тыя, што вырозьніваюцца сталасьцю характару і ня маюць нічога ў сабе са зьменнасьці, на іхную стойкасьць можна спадзявацца, і на вайне ня хутка агортвае іх страх, але гэтыя самыя іхныя своясасьці ў аднолькавай меры выступаюць і астаюцца сталымі і тады, калі яны займаюцца навукаю: яны заўсёды астаюцца ў зьмярцьвелым стане, а перад інтэлектуальным заняткам праяўляюць схільнасьць да пазяханьня і сну.

- Гэта правільна, - сказаў ён.

- І ўсё-ж, мы сказалі, што абедзьве якасьці зьяўляюцца неабходнымі ў тых, хто павінен атрымаць вышэйшую асьвету і заняць высокае кіраўнічае становішча.

- Правільна, - сказаў ён.

- Ці ня думаеш ты, што будзе гэта вельмі рэдкае зьявішча?

- Так, запраўды.

- Тады, трэба гэтага чалавека іспытваць ня толькі ў штодзенных абавязках і небясьпеках, і прыемнасьцях, пра што мы ўспаміналі раней, але існуе іншы від іспыту, пра які мы не ўспаміналі - ён павінен практыкавацца гэтаксама ў рознавідных навуках, каб даведацца, ці зьяўляецца ён здольным вытрываць у самых вышэйшых навуках, ці мо' ягоная душа спалохаецца гэтак, як палохаюцца тыя людзі, што спа-
504 тыкаюцца тварам у твар з вымаганьнямі іншага роду.

- Так, - сказаў ён, - ты маеш рацыю, калі кажаш, што трэба яго іспытваць. Але, што ты маеш на ўвазе, кажучы, ў самых вышэйшых навуках?

- Магчыма ты памятаеш, - сказаў я, - што мы разьдзялілі душу на тры часткі, і разрозьнілі ў адняседньні да справядлівасьці, разважнасьці, хаяобрасьці і мудрасьці, абазначыўшы, што кажнае зь іх.

- І запраўды, - сказаў ён, калі-б я забыў, я ня меў-бы права слухаць далей.

- А ці памятаеш ты тое слова перасьцярогі, якое папярэдзіла дыскусыю іх?+/

- На якое слова спасылаешся ты? - запытаў ён.

- Мы нейк гаварылі, калі я не памыляюся, што той, хто хоча найляпей разгледзець іх у іхнай поўнай прыгожасьці, мусіць узяць даўжэйшы і болей навакольны шлях, на канцы якога яны выявяцца; але ўжо і на падставе нашае ранейшае адкрытае дыскусыі мы маглі-б зрабіць патрэбныя высновы. Але вы адказалі, што гэтакае выяўленьне зусім дастатковым зьяўляецца для

+/ Кн. IV, 435.

вас, і гэткім спосабам асягнутымі былі высновы, але, як мне здаецца, ня зусім дакладныя; ці здаволіліся вы гэтым, ці не, гэта толькі вы можаце сказаць.

– Так, – сказаў ён, – я думаю, і іншыя гэтаксама са мною думаюць, што ты ў меру выявіў нам праўду.

– Але, мой дружа, – сказаў я, – мера ў гэтакіх рэчах, хай сабе хоць крышку адхіляецца ад праўднасьці, не зьяўляецца добраю мераю. Бо-ж недасканалае ня можа служыць мераю якое-колечы рэчы, хоць некаторым людзям часамі і гэтага хопіць, і тады думаюць яны, што далей ня варта заглыбляцца.

– Так, запраўды, – сказаў ён, – гэтакае ўражаньне ўзьнікае сярод многіх, дзякуючы іхнай абыякавасьці.

– Так, – сказаў я; – але найменей за ўсё павінен паддавацца гэтаму старожа гаспадарства і праваў.

– Ведама, – сказаў ён.

– Старожа гэтаксама, – сказаў я, – мусіцьісьці цаўжэйшым шляхам, і выканаць свой абавязак, гэтак у навуцы, як і ў выконваньні фізычных практыкаваньняў; бо інакш, як мы і сказалі ўжо, ён ніколі не асягне тое найбольшае веданьне, якое зьяўляецца своым для ягонага пакліканьня.

– Як гэта! – ажыўлена сказаў ён, – ці існуе яшчэ веданьне вышэйшае, чымся гэтае – вышэйшае, чымся справядлівасьць і іншыя мужнасьці, якія мы ўжо разглядалі?

– Так, – сказаў я, – існуе нешта болей важнае, і гэта трэба разглядаць ня толькі ў вагульных зарысаваньнях, як чынім мы гэта цяперака – наадварот, нічога там ня можна прапусьціць, усё павінна здаволіць нас завяршэньнем паўніні вобразу. Ці-ж гэта не выдаецца сьмешным, што ў рэчах другараднага значэньня гэтулькі прыкладваюць стараньня, каб усё ўдалося дакладна і з большаю чысьцінёю, а ў справе першараднага значэньня быццам і зусім не вымагаецца найбольшае дакладнасьці!?

– Шляхэтная думка, – сказаў ён; – але думаеш ты, што мы адступімся і не паставім табе пытаньня: Чым зьяўляецца гэтае важнейшае веданьне і пра што́ яно, як ты́ ўважаеш? А мо' думаеш ты, што мы цябе гэтак і пусьцім, не паставіўшы гэткага пытаньня?

– Не, – сказаў я, – калі ты хочаш, калі ласка, пытай. У кажным выпадку, я пэўны, што ты чуў адказ неаднакратна, і цяперака, або ты не разумееш мяне,

або, і гэта, я думаю, найболей магчымым ёсьць, - ты
505 наўмысьня хочаш перада мною перашкоды ўздымаць; бо
ты часта чуў, што ідэя дабра зьяўляецца найвышэй-
шаю навукаю, і, што ўсе іншыя рэчы стаюцца нагэ-
тулькі карыснымі і прыдатнымі, наколькі яны маюць
на ўвазе дабро. Ты бадай-што і цяперака ведаў на-
пэўна, што я якраз гэтак скажу, і яшчэ болей, што
ідэю гэтую мы недастаткова ведаем. А калі ня веда-
ем, дык безь яе, нават калі ў нас і будзе награмад-
жана вялікая колькасьць зьвестак пра ўсё іншае, ні-
чога ня выйдзе нам на карысьць. Гэта падобна да зда-
быцьця сабе пэўнае рэчы, ня думаючы пра тое дабро,
якое гэтая рэч мае прынесьці. Або, ці думаеш ты,
што са́мае галоўнае ў тым, каб займець маемасьць, ня
думаючы пра тое, ці добрая яна, або веду пра шмат-
лікія рэчы, ня маючы ніякага ўяўленьня пра прыго-
жасьць і дабро?

- Запраўды, я ня думаю гэтак, - сказаў ён.

- І далей, ты ведаеш, што большасьць людзей ду-
мае, што прыемнасьць зьяўляецца дабром, а болей
кемныя кажуць, што разуменьне.

- Пэўна.

- І ты ведаеш гэтаксама, дружа мой, што гэтыя а-
пошнія не зьяўляюцца ў стане паясьніць нам, што́ за-
мыкае ў сабе гэтае разуменьне, затым бо і бываюць
змушанымі сказаць, быццам яно - разуменьне таго,
што́ добра.

- Гэта сьмешным ёсьць, - сказаў ён.

- Сьмешным яно ёсьць,-сказаў я, - калі, папра-
каючы нас у няведаньні дабра, яны пазьней вя-
дуць гутарку з намі, як з тымі, што ведаюць гэта,
называючы дабром тое, што́ добра - быццам нам стане
зразумелым пра што яны гавораць, асабліва тады, ка-
лі яны пачнуць часта вымаўляць слова "дабро".

- Шчырая праўда, - сказаў ён.

- І што-ж? А тыя, што чыняць прыемнасьць сваім
дабром, ці-ж меней знаходзяцца ў памылцы ад тых ін-
шых? Бо яны самы́я прызнаюцца, што здараюцца дрэн-
ныя як і добрыя прыемнасьці.

- Няма сумліву аднасна гэтага.

- Згэтуль выходзіць, думаю я, што яны самыя
цьвердзяць, што дабро і зло - гэта адно і тое са-
мае. Ці-ж ня гэтак?

- Якраз гэтак.

- І няма сумліву, адносна таго, што пытаньне гэ-
тае напатыкае шмат труднасьцяў.

- Ведама.

- І далей. Ціж не спасьцярожна і тое, што ў я-

касьці справядлівага і прыгожага шматлікія выбралі-б тое, што выдаецца ім гэтакім, хоць-бы яно і ня было ім у запраўднасьці, і дзейнічалі-б адпаведна, а здабываючы, выражалі-б свае пагляды; а што да самога дабра, дык тутака ніхто не адчувае здаволеньня, займаючы на ўласнасьць здадуманае, але ўсе шукаюць запраўднае дабро, а здадуманым кажны пагарджае.

– Вельмі трапна, – сказаў ён.

– Гэтае, затым, да чаго кажная людзкая душа імкнецца і чыніць мэтаю ўсіх сваіх дзеяньняў, маючы прадчуцьцё, што існуе нешта гэтакае, але астаецца ў нерашучасьці з прычыны адсутнасьці веданьня натуры гэтага, як і пэўнасьці, якую яна мае адносна іншых рэчаў; і праз гэта чалавек губіць усё тое дабро, якое можа знаходзіцца ў рэчы. Ці-ж маем мы, 506
затым, сказаць, што гэтакая рэч, гэтак вялікая рэч, мае быць трыманаю ў няведаньні, нават ад найлепшых людзей нашага гаспадарства, у чые рукі мы маем пераказаць тое, што найважнейшым для нас выдаецца?

– Напэўна не, – сказаў ён.

– І мне здаецца, – сказаў я, – што справядлівасьць і прыгожасьць, калі няведама ў якіх суадносінах яны зьяўляюцца дабром, ня знойдуць для сябе годнага старожы ў васобе чалавека, якому гэта няведамым астаецца. І я здагадваюся, што бяз гэтага ніхто ня можа іх пазнаць.

– Ты зьяўляешся добрым прадказальнікам, – сказаў ён.

– Калі-б мы займелі гэтакага старожу, які мае гэтае веданьне, ці-ж нашае гаспадарства ня было-б дасканала ўладжаным?

– Натуральна, – адказаў ён. – Але я хацеў-бы, каб ты сам, Сакратас, сказаў мне, ці ты ўважаеш гэты найвышэйшы прынцып дабра за веданьне ці прыемнасьць? Або за нешта іншае, трэйцяе?

– Мне здаўна ўжо ведамым, – сказаў я, – што гэтакі акуратны чалавек, якім ты зьяўляешся, не здаволіцца толькі думкамі іншых людзей у гэтых справах.

– Гэта праўда, Сакратас, – сказаў ён, – але я мушу сказаць, што чалавек, як ты, напрыклад, які прайшоў праз жыцьцё ў пазнаваньні філязофіі, не абавязкава павінен паўтараць думкі іншых і ня выказваць сваіх уласных.

– Як гэта? – сказаў я. – Ці гэта прыгожа для чалавека гаварыць пра нешта, чаго ён ня ведае, быццам ён ведае?

– Не, – адказаў ён, – калі быццам ён ведае; ён

ня мае права чыніць гэтага: але ён можа сказаць тое, што ён думае, як свой пункт гледжаньня.

– Як? – працягваў я далей. – Ці-ж ты яшчэ не заўважыў, што ўсе неабаснаваныя пункты гледжаньня зьяўляюцца дрэннымі паглядамі, і нават найлепшыя зь іх – сьляпыя? Ты-ж ня будзеш пярэчыць, што тыя, што маюць нейкія правільныя пагляды, але не абаснованыя на разуменьні, падобныя толькі да сьляпых людзей, каторыя крочаць па правільнай сьцежцы?

– Не, ня буду, – сказаў ён.

– Ці хочаш ты бачыць толькі сьляпое, крывое і брыдкае, калі іншыя будуць гаварыць табе пра зіхацістае і прыгожае?

– На нябёсы, Сакратас, – успыхнуў Ґляўкон, – ня ўхіляйся цяперака, калі ты ўжо блізка перад мэтаю. Мы здаволімся, калі ты гэтак вытлумачыш паняцьце дабра як вылажыў ты нам справядлівасьць і разважнасьць і іншыя мужнасьці.

– Так, мой дружа, – сказаў я, – што найменей я гэтаксама буду здаволеным, але я баюся, што я магу праміНуцца з мэтаю і тады маё нямудрае стараньне выкліча адно сьмех. Але, мае паважаныя, ня пытайма пакуль-што, што творыць сабою фактычную натуру дабра, бо мне здаецца, што яно вышэйшым ёсьць за тыя мае думкі, якія можна было займець пры сучасным нашым разважаньні. Але пра дзіця, што родзіцца з дабра і зьяўляецца падобным да яго, пра гэта я з прыемнасьцю рад гаварыць, калі вы жадаеце сабе гэтага, а калі не, тады пакінем гэта.

– Калі ласка, – сказаў ён, – скажы нам пра дзіця, а пра ягонага родзіча ты астанешся ў даўгу і вылажыш нам іншым разам.

– Мне хацелася-б, – сказаў я, – быць у стане
507 цалікам сплаціць вам мой доўг, а ня толькі працэнты, як вось цяперака. Але вазьмеце пакуль-што адно працэнты, гэта значыць тое, што родзіцца ад самога дабра; і аднačасна ўважайце, каб я вас не ашукаў, прадкладваючы ня хочучы памылковае падлічэньне, хоць, што-праўда, я ня маю замеру зманіць вас.

– Паводля нашых сілаў, – сказаў ён, – мы будзем чуйнымі: калі ласка, гавары.

– Так, – сказаў я, – але перш я мушу прыйсьці да сузгоднасьці з вамі і прыпомніць вам тое, пра што мы ўжо гаварылі ў прабегу нашае дыскусыі, як і пры іншых нагодах.

– Пра што, пайменна? – запытаў ён.

– Пра тое, што мы ўважаем, што існуе шмат прыгожых і добрых рэчаў, гэтаксама, як і шмат іншых

рэчаў, якія мы апісваем і паддаем пад дэфініцыю; і да ўсіх іх мы тасуем тэрмін "шмат".

- Правільна, - сказаў ён.

- Гэтаксама існуе прыгожае, як гэткае, і дабро, як гэткае і гэтак далей у ваднясеньні да шматлікіх усіх рэчаў, хоць мы і прызнаем, што іх шмат; бо ўсе яны могуць быць падведзенымі пад адно паняцьце, паняцьце ідэі, якая можа быць названаю, як існасьць рэчы.

- Гэта правільна.

- Але гэтае шматлікае, як мы кажам, можна бачыць, але ня думаць, ідэі, аднак, можна думаць, хоць ня бачыць.

- Ведама.

- Цяперака, - сказаў я, - якою часткаю нас самых мы бачым рэчы?

- Зрокам, - адказаў ён.

- І пры помачы слуху, - сказаў я, - мы чуем, і іншымі змысламі дазнаем успрыймо іншых рэчаў?

- Дык што?

- Цяперака, ці заўважыў ты, - сказаў я, - што зрок, дадзены нам стварыцелем, зьяўляецца найболей дарагацэннаю здольнасьцю бачыць і ўспрыймаць?

- Не, ніколі ня прыходзіла мне на думку, - сказаў ён.

- Паўзірайся гэтак на справу: ці патрабуе слух або голас яшчэ нейкую дадатковую натуру, каб першы быў здольным чуць, а другі, каб быць чутым, з тым, што калі яна адсутнічае, слух ня будзе чуць, і голас ня будзе чутым?

- Не, не патрабуе, - адказаў ён.

- І запраўды, не, - сказаў я; - і гэтае самае можна сказаць бадай-што пра ўсе змыслы ўспрыняцьця - і ты-ж ня скажаш, што які-небудзь зь іх вымагае нешта падобнае?

- Не, не скажу, - адказаў ён.

- А ці-ж не заўважыў ты, што бяз гэтага дадатковага элемэнту ня можна бачыць і ня можна быць бачаным?

- Як ты разумееш гэта?

- Якімі-б зыркімі і здольнымі на ўспрыйманьне колеру ня былі-б вочы чалавека, як ведама табе, ён нічога ня ўбачыць і не разрозьніць, калі паспрабуе карыстацца сваім зрокам бяз прысутнасьці трэйцяга элемэнту, адумысна для гэтага прадназначанага.

- Пра якое такое рэчыва ты гаворыш?

- Пра тое, што ты называеш сьвятлом, - адказаў я.

- Ты праўдзіва кажаш, - сказаў ён.

– Як вялікім, тады, зьяўляецца разуменьне, дзя-
508 куючы якому, змысл бачаньня і сіла быць бачаным злу-
чыліся на дарозе яшчэ болей дарагацэннай сувязі,
чымся кажная іншая; бо іхным злучвом зьяўляецца
сьвятло, якое ня можа быць нешляхэтным.
– Дый як-жаж яму ня быць гэтакім? – сказаў ён.
– І каго-ж з багоў ня нябёсах, – сказаў я, – можаш ты прызнаць гаспадаром гэтага элемэнту? І чыё гэта сьвятло, якое магчымым чыніць нашаму зроку ляпей за ўсё бачыць і прадметам выявіцца бачанымі?
– Таго самага, якога і ты прызнаеш, – сказаў ён, – і ўсе іншыя людзі; ясным ёсьць, што ты маеш на ўвазе сонца.
– Ці маю я выразіць думку ў якім суадношаньні сонца астаецца да гэтае боскасьці?
– У якім?
– Ані зрок, ані вока, у якім зрок умясцоўлены – нішто з гэтага не зьяўляецца сонцам.
– Ведама, што не.
– Аднак-жа з усіх ворганаў нашага успрыйманьня, вока зьяўляецца найболей падобным да сонца.
– Так, найболей.
– І сіла, якая дадзена воку, зьяўляецца да пэўнае ступені вытокам, які пачатак свой бярэ ў сонцы?
– Якраз гэтак.
– Тады сонца не зьяўляецца зрокам, але прычынаю зроку, і сам зрок бачыць яго.
– Але, – сказаў ён.
– І гэта ёсьць тое, што я называю дзіцем дабра, – сказаў я; – бо дабро нарадзіла яго падобным да самога сябе, каб знаходзілася ў спасьцярожным сьвеце, у суадносінах да зроку і рэчаў у вабсягу зроку, падобна, як дабро знаходзіцца ў сьвеце інтэлекту ў ваднясеньні да розуму і рэчаў у вабсягу розуму.
– Як гэта? – сказаў ён, – ці не захацеў-бы ты крышку болей тут высказацца?
– Ты-ж ведаеш, – сказаў я, – што вочы, калі чалавек скіруе іх на аб'ект, на які сьвятло дзеннае ня сьвеціць, але толькі сьвятло месяца і зораў, бачаць цьмяна і зьяўляюцца бадай-што сьляпымі, быццам у іх адсутнічае чысты зрок.
– Так, – сказаў ён, – гэта праўда.
– Але калі яны зьвернуцца на аб'ект, на які сьвеціць сонца, тады яны бачаць выразна і зрок знаходзіцца ў іх.
– Ведама.
– Падобна як з вокам, гэтаксама рэч маецца і з

душою: кажны раз, калі яна кіруе свой зрок туды, дзе зіяе праўда і быцьцё, яна ўспрыймае іх і пазнае, і прамянюе інтэлігэнцыю. Але, калі яна накіроўваецца ў вабшар прыцемку, узьніканьня і зьніканьня, тады яна бянтэжыцца, стаецца паддатліваю думкам іншых, зьначвае іх, хістаючыся, і выглядае, быццам яна згубіла сваю інтэлігэнцыю.

– Гэтак выглядае.

– Тады, тое, што перказвае даступным пазнаньню рэчам запраўднасьць, а чалавека чыніць здольным пазнаваць, гэта ты і ўважаў за ідэю дабра – прычынаю веданьня і пазнавальнасьці праўды. Як ні прыгожае тое і гэтае – пазнаньне і праўда, але калі ідэю дабра ты будзеш уважаць нечым яшчэ болей прыгожым, ты мецімеш рацыю. Як трапным было ўважаць сьвятло 509
і зрок падобнымі да сонца, але прызнаць іх сонцам, было-б памылкаю, гэтаксама і тутака: правільным ёсьць уважаць пазнаньне і праўду, як тымі, што маюць воблік дабра, але ўважаць каго-небудзь зь іх за дабро, было-б няправільнаю рэчаю: бо дабро з прычыны ягонае свомасьці павінна быць цэнена яшчэ вышэй.

– Якім-жа ты ўважаеш яго нячувана прыгожым, калі, паводля тваіх словаў, ад яго залежаць і пазнаньне, і праўда, – сказаў ён, – і ўсё-ж перавышае іх сваею прыгожасьцю; ты-ж бо напэўна ня манішся сказаць, што прыемнасьць зьяўляецца дабром?

– Хай Бог крые, – адказаў я; – але ці магу я прасіць цябе паўзірацца на ягоную сутнасьць зь іншага пункту гледжаньня?

– Зь якога пункту гледжаньня?

– Ці-ж ня гэтак яно ёсьць, што сонца, як мне здаецца, дае ўсяму, што мы назіраем, ня толькі магчымасьць быць бачаным, але і нараджэньне і рост, і выжывеньне, хоць само яно не зьяўляецца пачаткам.

– Дый як-жаж інакш?

– У падобны спосаб можа быць сказана, што дабро не зьяўляецца толькі прычынаю пазнаньня ўсіх ведамых рэчаў, але іхным быцьцём і існасьцю, і ўсё-ж дабро не зьяўляецца існасьцю, але шмат перавышае існасьць у сваей годнасьці і моцы.

На гэтым месцы Ґляўкон з гіранічным воклікам і павагаю кінуў:

– О, Апольлён! Як задзіўляюча высака мы ўзьняліся!

– Так, – сказаў я, – ты сам вінаваты ў перабольшаньні, бо ты змушаеш мяне выказвацца адносна дабра.

– Калі ласка, не затрымлівайся на гэтым месцы, – сказаў ён; – і ў кажным выпадку, дазволь мне пачуць, ці ёсьць яшчэ што-небудзь, што можа быць сказаным адносна падабенства з сонцам.

– Так, – сказаў я, – ёсьць яшчэ шмат чаго, пра што можна гаварыць.

– Тады не прапусьці нічога, усё роўна як малым яно можа быць, – сказаў ён.

– Я баюся, – сказаў я, – што шматлікае павінна быць прапушчана, але, наколькі гэта магчымым ёсьць, я пастараюся нічога не прапусьціць.

– Абавязкава пастарайся, – сказаў ён.

– Ты павінен уявіць сабе, тады, – сказаў я, – што існуюць дзьве правячыя сілы, і, што адна зь іх пастаўлена над сьветам інтэлекту, а другая – над сьветам спасьцярожным. Я не называю гэта небам, каб табе не здавалася, што я нек мудрагелю са словамі. Я спадзяюся, што ты агарнуў гэтую розьніцу адносна спасьцярожнага і інтэлектуальнага?

– Агарнуў.

– Цяперака, вазьмі лінію і падзялі яе на дзьве няроўныя часткі, і кажную з гэтых частак падзялі зноў у такой самай прапорцыі, і ўяві сабе першыя два галоўныя распадзелы, як адказваючыя: адзін спасьцярожнаму сьвету, а другі інтэлектуальнаму сьвету, і тады параўнай наступна распадзел што да іхнае яснасьці і цьмянасьці, і ты пабачыш, што першая сэкцыя ў полі спасьцярожнага будзе замыкаць у
510 сабе вобразы. І, кажучы вобразы, я маю на ўвазе,
на першым месцы цені, а пасьля адлюстраваньні ў вадзе і на сталых прадметах – гладкіх і выпаліраваных і падобных. Ці ты разумееш?

– Так, я разумею.

– Уяві сабе другую частку, з каторых гэтая зьяўляецца толькі падабенствам, памяшчаючы сюды жывыя існаваньні, якія мы бачым, і кажную рэч, што расьце або мы вырабляем.

– Гэтак я і разьмяркую, – сказаў ён.

– І ці-ж ня згодзішся ты, – сказаў я, – што абедзьве сэкцыі гэтага распадзелу маюць рознае насіленьне праўды і няпраўды, і, што копія гэтак маецца да свайго арыгіналу, як сфэра апініі да сфэры пазнаньня?

– З гэтым я згаджаюся, – сказаў ён.

– Затым цяперака разваж той спосаб, у які сфэра інтэлектуальнага мае быць падзеленаю.

– У які спосаб?

– Гэткім спосабам: – Тут знаходзяцца два распа-

дзелы, у дольным зь якіх душа змушанаю ёсьць ужываць прадумовы, дадзеныя папярэднім распадзелам, як вобразы; досьлед можа быць толькі гіпатэтычны, і замест узыходу наверх у напрамку прынцыпу яна зыходзіць у кірунку завяршэньня. Між тым, з двух распадзелаў у другім, душа мінае гіпатэзы і ідзе наўзьверх да прынцыпу, які знаходзіцца вышэй за гіпатэзы, ня чынячы ўжытку зь ніякіх вобразаў, як гэта мае месца ў папярэднім выпадку, але пасьпявае наперад і праз самыя ідэі.

– Я ня зусім разумею значэньня таго, што́ ты кажаш, – сказаў ён.

– Тады я спробую зноў, – сказаў я. – Табе будзе лягчэй зразумець, калі я выкажу некаторыя ўступныя заўвагі. Я думаю, што табе ведама, што студэнты ґэомэтрыі, арытмэтыкі і іншых падобных навукаў выходзяць з залажэньня, што яны ведаюць што́ гэта такое цот і лішка, хвіґуры і тры рады кутоў і іншае ў іхных розных галінах навукі. Гэта ўсё зьяўляецца іхнымі гіпатэзамі, якія яны ведаюць, і ня лічаць і не ўважаюць за патрэбнае сабе здаваць справаздачу ці перад кім-небудзь іншым, быццам для ўсіх гэта зьяўляецца самазразумелым. Выходзячы з гэтых залажэньняў, яны праводзяць аналізу ўсяго іншага, і ў выніку даводзяць да канца тое, што́ было прадметам іхнага разважаньня.

– Гэта дык я ведаю, – сказаў ён.

– А ці-ж ня ведама табе, што хоць яны і выкарыстоўваюць спасьцярожныя хвормы і паддаю́ць пад развагу іх, усё-ж яны ня думаюць пра іх, але пра ідэалы, якія яны выражаюць; не пра хвіґуры, якія яны вырысоўваюць, але пра абсалютны квадрат, пра абсалютныя дыяґоналі і гэтак далей – хвормы, якія яны рысуюць або вылепліваюць, і якія выражаюць цені або адлюстраваньні ў вадзе, але самы́я яны фактычна служаць адно дзеля вобразных выражэньняў таго, што́ можна бачыць толькі вокам розуму. 5II

– Ты праўду кажаш, – сказаў ён.

– І ў гэтым сэнсе я гаварыў, як аб зразумелым, хоць у пошуках яго душа змушанаю ёсьць ужываць гіпатэзы, затым не ўздымаецца да першапачаткавага прынцыпу, бо яна не зьяўляецца здольнаю ўзьняцца вышэй за межы гіпатэзаў, і карыстаецца адно вобразнымі падабенствамі, цені каторых ў сваю чаргу зьінячваюцца ўнізе ў падабенствы ніжэйшых рэчаў і асабліва тых, у якіх яна знаходзіць і паважае болей выразнае іхнае выражэньне.

– Я разумею, – сказаў ён, – ты гаворыш пра тое,

што вывучаюць пры помачы ґэомэтрыі і зродненых зь ёю мастацтваў.

– Тады зразумей гэтаксама, што пад другою часткаю аб зразумелым я тое маю на ўвазе, што наш розум агортвае пры помачы дыялектычнае здольнасьці, пры тым ужываючы гіпатэзы не як першыя прынцыпы, але толькі як гіпатэзы – інакш кажучы, як крокі і пункты адыходу ў сьвет, які знаходзіцца па-за межамі гіпатэзаў, у спадзеі, што ён зможа, высака лунаючы, перайсьці над імі ў першы прынцып цэлага, і моцна трымаючыся гэтага, а пасьля таго, што залежыць ад гэтага, пры помачы памыснага крочаньня, ён апускаецца зноў ужо без дапамогі ніякага спасьцярожнага аб'екту, з ідэяў, праз ідэі, і ў ідэях ён знаходзіць сваё завяршэньне.

– Я разумею цябе, – адказаў ён, – хоць і не ў пажаданай ступені, бо, як мне выдаецца, ты апісваеш заданьне, якое фактычна своеасаблівым зьяўляецца; але, у кажным выпадку, я зразумеў, што ты кажаш, што веданьне і быцьцё, над чым навука дыялектычная засяроджваецца, зьяўляюцца яснейшымі, чымся ідэі мастацтваў, як іх называюць, якія выток свой бяруць толькі з гіпатэзаў: яны гэтаксама бяруцца пад увагу разуменьнем, а не змысламі: і ўсё-ж, затым, што яны пачатак бяруць свой з гіпатэзаў і ня ўзыходзяць да прынцыпу, тыя, каторыя разважаюць над імі, здаюцца табе, як тыя, што не праяўляюць адносна іх высокага розуму, хоць калі першы прынцып дадаецца да іх, яны зьяўляюцца як пазнаныя вышэйшым розумам. І звычай, які займаецца ґэомэтрыяю і сусроднымі навукамі, я думаю, ты называеш разуменьнем, але не розумам, які пасярэднічае паміж апініяю і розумам.

– Ты добра агарнуў маю думку, – сказаў я. – Цяперака, у вадпаведнасьці да гэтых чатырох распадзелаў, няхай адказваюць чатыры станы душы: на вышэйшай ступені – розум, на другой – разуменьне, вера /або перакананьне/ трэба ўмясцовіць на трэйцім месцы, і на апошнім месцы – падабенства ценяў – і распадзялі іх адпаведна, уважаючы, што, наколькі той або іншы стан зьяўляецца прыналежным да праўды, гэтулькі-ж у ім знаходзіцца і верагоднасьці.

– Я разумею, – адказаў ён, – і я выражаю маю згоду і прыймаю тваё распадзяленьне.

– А цяперака, – сказаў я, – параўнай людзкую натуру ў ваднясеньні да асьвечанасьці і неасьвечанасьці пры дапамозе гэтакага вобразу: Глядзі! вунь людзі знаходзяцца ў падзямельнай пячоры з адчыненым горлам, празь якое сьвятло пранікае ўздоўж ейнае глыбіні; жывуць яны тут змалку; на іхных нагох і на шыі відны ланцугі, затым бо яны і крануцца ня могуць зь месца, і бачаць адно толькі тое, што ў іх перад вачыма, бо з прычыны ланцугоў, яны ня могуць павярнуць галавою. Высака і з-заду іх, далёка гарыць агонь і яркім зіхаценьнем кідае сваё сьвятло; паміж агнём і запалоненымі праходзіць узьнятая дарога; і калі ты будзеш узірацца, ты ўбачыш нізкую сьцяну, пабудованую ўздоўж дарогі быццам тая заслона, за якою марыянэтачныя выканаўцы па-паўзьверх яе паказваюць лялькі. 514

– Бачу, – сказаў ён.

– Ты бачыш, – сказаў я, – людзі ідуць уздоўж сьцяны, нясуць розныя вытвары гэтак, што яны відны паўзьверх сьцяны; нясуць яны статуі і падабенствы 515
розных зьвераў, выкананых з каменя і дрэва, і з рознага матэрыялу. Адны, як гэта і бывае, гутараць між сабою, іншыя мінаюць моўчкі.

– Дзіўны ты мне рысуеш вобраз, – сказаў ён, – як і дзіўных запалоненых.

– Зусім падобных да нас, – адказаў я. – Бо перад усім, думаеш ты, што людзі гэтыя бачаць што-небудзь іншае апрача сваіх уласных ценяў або ценяў адзін аднаго, якія агонь кідае на супроцьлежную перад імі сьцяну пячоры?

– Дый як-жаж яны могуць бачыць што-небудзь іншае апрача ценяў? – сказаў ён, – калі ўсё сваё жыцьцё яны змушанымі былі трымаць сваю галаву непарушна?

– Гэтаксама і з прадметамі, якія праносяць тамака за сьцяною, яны бачаць толькі іхныя цені?

– Як гэта?

– Калі-б зьняволеныя мелі магчымасьць весьці гутарку між сабою, ці думаеш ты, яны не ўважалі-б,

што яны называюць рэчаіснымі імёнамі тое, што фактычна бачылі?

– Абавязкава.

– І ўяві сабе далей, што ў вастрозе адбіваецца рэхам усё тое, што хто-небудзь кажа з тых, што мінаюць уздоўж, ці ня думаеш ты, што яны аднесьлі-б усе гэтыя гукі да чаго-небудзь іншага, але не да мінаючага ценю?

– Запраўды, я ня думаю гэтак, – адказаў ён.

– Для іх, – сказаў я, – поўнаю праўдаю будзе ні што іншае, як цені міма парушаных прадметаў.

– І гэта зусім правільна, – сказаў ён.

– А цяперака, – сказаў я, – паўзірайся зноў і паглядзі што фактычна здарыцца, калі зьняволеныя спасьцерагуць сваю памылку. Перш, калі хто-небудзь зь іх будзе вызвалены з ланцугоў і змушаны ўстаць і павярнуць сваю шыю, прайсьціся крыху і паўзірацца ў напрамку сьвятла, яму будзе балюча выканаць усё гэта; пры ясным зіяньні сьвятла ён ня будзе ў стане ўзірацца на рэчы, цені якіх ён бачыў на сьцяне перад гэтым. І як ты думаеш, што ён скажа, калі яму пачнуць гаварыць, што тое, што ён раней бачыў – гэта адно зман, але цяперака, набліжыўшыся да быцьця і скіраваўшы свае вочы ў напрамку запраўднага існаваньня і, што ён цяперака можа здабыць правільны пагляд? Дый уяві сабе яшчэ і тое, што пачнуць зьвяртаць ягоную ўвагу на тую ці гэтую рэч, што мінае перад ім і ставіць яму пытаньні, што гэта такое? дый яшчэ змусяць яго адказваць! Ці ня думаеш ты, што ўсё гэта зьбянтэжыць яго і пачне ён думаць, што шмат болей ёсьць праўды ў тым, што ён бачыў раней у пячоры, чымся ў тым, на што яму зьвяртаюць увагу цяперака?

– Ведама, ён падумае гэтак.

– А калі змусяць яго ўзірацца проста на сьвятло, ці не дазнаціме ён боль у вачох і ці ня вернецца ён бягма да таго, што лягчэй яму бачыць, уважаючы, што гэтыя зьяўляюцца болей рэальнымі рэчамі, чымся тыя, што паказваюць яму цяперака?

– Зусім правільна, – адказаў ён.

– Прымем яшчэ і тое, – сказаў я, – што яго нехта сіламоцаю цягне ўздоўж крутога і ўзьвілістага
праходу на ўзвышша і трымае яго моцна, аж пакуль
ён не апыніцца ў прысутнасьці самога Сонца, ці-ж не
516 дазнаціме ён цярпеньня і не абурыцца з прычыны гэ-
такага ґвалту? І калі-б ён наблізіўся да сьвят-
ла, ягоныя вочы былі-б асьлепленыя і ён ня быў-бы ў
стане бачыць ані воднае рэчы з таго, што цяперака

называюць рэчаіснасьцю.

– Зусім не, – сказаў ён, – што найменей не адразу.

– І тут ён павінен будзе прывыкнуць да спазору ўзьверхняга сьвету. І шлях гэты на дарозе эвалюцыі: перш ён павінен глядзець на цені, а пасьля – на адлюстраваньне людзей і розных прадметаў у вадзе, і толькі пасьля гэтага – на самыя рэчы; тады будзе ён узірацца на тое, што на небе, а на самое неба яму будзе лягчэй узірацца ня днём, але ноччу, гэта значыць, сузіраць зорачнае неба і сьвятло Месяца ляпей, чымся сонечнае сьвятло і самое Сонца ў часе дня.

– Напэўна.

– І напасьледак, я думаю, чалавек будзе здольным узірацца ўжо на самое Сонца, якое знаходзіцца на свомым для яго месцы, аддаючыся развазе над тым, чым яно ёсьць і, не абмяжоўваючыся адно да назіраньня зманьваючага спазору ў вадзе або ў чужым для яго асяродзьдзі.

– Ведама.

– І тады меціме ён магчымасьць учыніць выснаў, што гэта яно ёсьць, Сонца, якое вызначае поры году, як і самыя гады, і зьяўляецца старожам усяго таго, што назіраем у спасьцярожным сьвеце, і да пэўнае ступені зьяўляецца прычынаю ўсіх рэчаў, якія ён і тыя паняволеныя раней бачылі ў пячоры.

– Напэўна, – сказаў ён, – гэтакі чалавек першы ўбачыць Сонца і пачне думаць пра яго.

– І як? Калі ён цяперака прывядзе на ўспамін сваё старое жыльлё і мудрасьць свомую для пячоры, і сваіх сяброў-запалоненых, ці ня думаеш ты, што ён перапоўніцца пачуцьцём шчасьця з прычыны зьінячаньня ў ім, і пашкадуе сваіх сяброў?

– І вельмі нават.

– І калі ў іх там быў звычай ганараваць адзін аднаго, узнагароджваючы тых, што мелі найболей вострыя зрок пры назіраньні мінаючых ценяў і ляпей за іншых умелі запамятаць якія зь ценяў мінаў першы і які пазьней, і якія адначасна; і тых, што ўмелі на падставе гэтага рабіць выснавы адносна будучыні, дык як табе здаецца, ці праявіў-бы гэтакі асвабоджаны зацікаўленьне адносна іхных гонараў і славы або зайздросьціў-бы тым, каго паважаюць нявольнікі і тых, што сярод іх маюць уплывы? А мо' барджджэй сказаў-бы ён разам з Гомэрам,

> Лепш я жадаў-бы сабе, як батрак, пасабляці на полі
> Беднаму мужу, і гэтым атрымліваць хлеб свой штодзенны,

і зносіць кажную і ўсякую рэч барджэй, чымся думаць гэтак, як яны думаюць і жыць гэтак, як яны жывуць?

– Так, – сказаў ён, – я думаю, што ён выбраў-бы барджэй цярпець з прычыны кажнае рэчы, чымся гэтак жыць.

– І яшчэ ўяві сабе, – сказаў я, – што калі-б гэтакі чалавек зноў зьнічэўку спусьціўся з сонцасьветласьці ў абставіны старога жыцьця, ці-ж не агарнула-б ягоныя вочы цемра?

– Што да гэтага няма сумліву, – сказаў ён.

– І калі-б узьнікла спаборніцтва паміж ім і гэ-
517 тымі адвечна палоннымі ў прадмеце значэньня тых це-
няў у пячоры, і пакуль ягоны зрок ня прытупіцца і
вочы ня прывыкнуць да цемры /і на гэта спатрэбіўся-б даволі доўгі час/, ці-ж ня выдаўся-б ён ім сьмешным? Пра яго пачалі-б гаварыць, што ад часу ягонага ўзыходу на ўзвышша і павароту назад, ён вярнуўся з сапсутымі вачыма, а з гэтуль ужо і выснаў, што нават і натугі ня варта прадпрыймаць, каб дайсьці да ўзвышша. А калі-б хто-небудзь і пачаў асвабаджаць паняволеных і весьці іх у напрамку да Сонца, дык ці-ж гэтакага не забілі-б яны, калі-б толькі папаўся ён ім у рукі?

– Абавязкава забілі-б, – сказаў ён.

– Дык вось, – сказаў я, – гэтую алеґорыю, дарагі мой Ґляўкон, можна прыроўнаць да папярэдняе нашае арґумэнтацыі: Дом-вастрог – гэта сьвет, які агортваецца зрокам, сьвятло, што зыходзіць з агню, прыраўноўваецца да сілы Сонца. І ты не памылішся ў агарненьні мае думкі, калі ты будзеш разумець, што ўзыход на ўзьверх зьяўляецца ўздымам душы ў сьвет інтэлектуальны; і гэта паводля мае абмежаванае веры, якую, у сузгоднасьці з тваім жаданьнем, я выразіў; і ці будзе яна правільнаю ці няправільнаю – Бог ведае. Але будзе яна праўдзіваю ці хвальшываю, я думаю, што ў сьвеце пазнаньня ідэя дабра – выступае як апошняя мяжа, і спасьцярожнаю яна можа быць толькі пры наяўнасьці натугі; але калі і станецца спасьцярожнаю, дык толькі ў якасьці выснаву, што якраз яна зьяўляецца ўнівэрсальнаю прычынаю ўсіх рэчаў правільных і прагожых, і яна зьяўляецца крыніцаю і сьвятла, і ягонага валадара ў гэтым спасьцярожным сьвеце, і яна зьяўляецца беспасярэднюю крыніцаю, пад уладаю якое знаходзяцца і праўда і разуменьне. І гэта зьяўляецца магутнасьцю, на якую павінен узірацца кажны той, хто хоча разумна дзейнічаць гэтак у прыватным, як і ў грамадзкім жыцьці.

– Я згаджаюся, – сказаў ён, – гэтак далёка, як
далёка я зьяўляюся ў стане зразумець цябе.
– Тады падзялі маю думку і ў тым, – сказаў я, –
і ня дзівуйся, што тыя, што дайшлі да ўсяго гэта-
га, ня хочуць пагрузіцца ў людзкія справы; бо іх-
ныя душы заўсёды імкнуцца да ўзьверхняга сьвету;
дый нахіл іхны ў гэтым кірунку зьяўляецца натураль-
ным, паколькі ён адказвае выяўленаму вышэй вобразу.
– Так, гэта натуральным ёсьць, – сказаў ён.
– Дык што? – сказаў я, – ці думаеш ты, што за-
дзіўляючым гэта ёсьць, калі хто-небудзь, перайшоў-
шы з боскіх сузіраньняў да людзкае духовае галечы,
чыніць сябе мізэрным і сьмехатворным, калі ён усё
яшчэ мружыць вочы, ня будучы прызвычаеным да агорт-
ваючае яго цемры, і калі яго змушаюць выступаць у
судох або на іншых мясцох і змагацца за цені спра-
вядлівасьці або за постаці, што твораць сабою цені
і спрачацца адносна паняцьцяў справядлівасьці ся-
род тых, якія ніколі ня бачылі самую справядлі-
васьць?
– Зусім ня ёсьць гэта задзіўляючым, – сказаў ён.
– Кажны чалавек са зразуменьнем, – сказаў я – па-
вінен памятаць, што закалоты зроку бываюць двух радоў 518
і ўзьнікаюць з дзьвюх прычынаў: або з прычыны выхаду
са сьвятла, або з прычыны ўваходу ў сьвятло; і гэта ста-
ецца праўдзівым у ваднясеньні да вока розуму, як і да
вока цела. І кажны, хто памятае пра гэта, і калі ён
бачыць каго-небудзь з цьмяным і слабым зрокам, ня
будзе хуткім да сьмеху; ён перш запытае самога ся-
бе, ці гэтая душа чалавека выйшла са сьветлага
жыцьця і не зьяўляецца ў стане бачыць, бо не прызвыча-
еная да цемры, або яны выйшла з глыбокае нясьведа-
масьці і павярнулася тварам да зіяючага сьвятла. І
гэтую ён будзе ўважаць за шчасьлівую ў гэтакіх аб-
ставінах і ў гэтакім стане, а тую толькі шкадава-
ціме. Або, калі ён будзе схільным сьмяяцца з тае
душы, якая прыходзіць зь нізіны на ўзьверх да сьвят-
ла, тады болей будзе апраўданы сьмех, які вітае та-
го, хто вяртаецца з сонцам асьвечанага ўзьверху ў
пячору.
– Гэта, – сказаў ён, – зьяўляецца вельмі трап-
ным вырозьненьнем.
– Тады, – сказаў я, – калі правільным ёсьць тое,
што я кажу, дык напэўна вучыцялі адукацыі мусяць па-
мыляцца, калі яны кажуць, што яны ўкладваюць веды
ў душу, у якой ня было іх перад гэтым, падобна та-
му, як можна ўкласьці зрок у сьляпыя вочы.
– Бяз сумліву, яны ўтрымліваюць гэта, – сказаў ён.

– Нашыя разважаньні паказваюць на тое, – сказаў
я, – што сіла і здольнасьць навучаньня існуе ўжо ў
кажнай душы; і, што падобна, як вока было няздоль-
ным выканаць рух зь цемры на сьвятло бяз удзелу цэ-
лага цела, гэтаксама і прылада веды можа быць ску-
ткоўнаю толькі пры руху ўсяе душы, каб адвярнуцца
ад сьвету таго, што стаецца, да рэчаіснага сьвету
быцьця; і на шляху да паступовага пазнаньня душа
зможа зьнесьці спазор быцьця, найболей зіхацістага
і найлепшага быцьця, а гэта, як утрымліваем мы, і
ёсьць дабро. Ці-ж ня так гэта?
– Так.
– Тады, гэтая прылада, – працягваў я далей, –
мусіць мець нейкае сваё мастацтва для ваколпавяр-
неньня, каб паказаць, як само павярненьне можа ад-
быцца ў найлягчэйшы і хуткі спосаб; не мастацтва
ўлажэньня зроку ў вока, якое, як мы і сказалі, мае
ўжо яго, але абернута ў памылковы кірунак, затым бо
і глядзіць яно ня туды, куды трэба; вось тут трэба
дапамагчы яму.
– Выглядае, што трэба, – сказаў ён.
– Нават калі іншыя гэтак званыя мужнасьці душы і
зьяўляюцца суроднымі з вартасьцямі цела – бо калі
яны і не зьяўляюцца першапачаткава ўкладзенымі, я-
ны могуць быць уфлянсаванымі пазьней на дарозе звы-
чаю і практыкі, – мужнасьць разуменьня, болей чымся
якая-небудзь іншая замыкае ў сабе боскі элемэнт, я-
кі ніколі ня губіць свае сілы, але ў залежнасьці ад
накіраванасьці бывае раз карыснаю і прыдатнаю, а
519 іншым разам ня прыдатнаю і нават шкоднаю. Ці ніко-
лі не даводзілася табе назіраць неразгорнутую ін-
тэлігэнцыю, якая навылет бачыць вострым вокам хіт-
рага нікчэмніка – як прагавітым ён зьяўляецца, і як
выразна ягоная агідная душа сочыць за пуцьцявінамі,
што вядуць да свае мізэрнае мэты; значыць зрок у я-
го нядрэнны, і востры ягоны позірк прабіваецца ў
сфэру службы зла, і ён зьяўляецца нагэтулькі шкод-
ным, наколькі астаецца кемным.
– Пэўна, што даводзілася, – адказаў ён.
– А што, – сказаў я, – калі-б яшчэ адразу ў дзі-
цячыя гады спыніць першапачаткавыя схільнасьці гэ-
такіх натураў? Яны адвярнуліся-б ад гэтакіх змыс-
ловых прыемнасьцяў, як празьмернае прыняцьце ежы і
піцьця, што, быццам валавянае грузіла, якое было
ўжо прымацаванае да іх у часе іхнага нараджэньня, і
якое цягнула іх уніз і адварочвала іхны зрок ад рэ-
чаў, што знаходзяцца ўнізе – калі-б, я кажу, былі
яны асвабоджанымі ад усіх гэтых перашкодаў і, каб

павярнуліся ў супроцьлежны кірунак, тады-б гэтая самая ўнутраная здольнасьць у іх, угледзела-б праўду гэтак выразна і ясна, як бачаць яны тое, на што глядзяць цяперака.

– Натуральна, – сказаў ён.

– І як? – сказаў я.–Ці-ж з таго, што было ўжо раней намі сказана, не выцякае неабходна і натуральна, што дзеля кіраваньня гаспадарствам няпрыдатнымі зьяўляюцца гэтак тыя, што астаюцца неўзгадаванымі і нясьведамымі ў праўдзе, як і тыя, каму зь іх не давялося працаваць над самаадукаванасьцю: першыя затым, што ў іхным жыцьці нямашака ані воднае мэты, імкнучыся да якое, яны павінны былі-б праявіць сябе дзейнасьцю, і ўсяроўна, што-б яны не прадпрыймалі – у грамадзкім ці прыватным жыцьці; а другія – добраахвотна яны не пачнуць дзейнічаць, уяўляючы сабе, што яны ўжо перасяліліся на Абтокі Добраслаўленых.

– Правільна, – сказаў ён.

– Тады, – сказаў я, – нашым абавязкам, як заснавальнікам гаспадарства, зьяўляецца, змусіць гэтыя лепшыя натуры займець тую веду, якую мы ўжо ўвыпуклілі як найбольшую за ўсе іншыя – яны мусяць працягваць свой узыход пакуль не асягнуць дабро; але, калі яны ўздымуцца на ўзвышша, і ў дастатковай меры ўбачаць дабро, мы не павінны дазволіць ім рабіць таго, што выконваюць яны цяперака.

– Што ты маеш на ўвазе? – запытаў ён.

– Я маю тое на ўвазе, – сказаў я, – што яны астаюцца на ўзвышшы, але аставацца там не павінна быць ім дазволена; яны павінны зноў зыйсьці ўніз да тых паняволеных, і – на дабро для іх ці не на дабро – прыняць удзел у іхных труднасьцях гэтаксама як і ў гонарах.

– Але ці-ж не зьяўляецца гэта несправядлівасьцю? – запытаў ён. – І чаму яны павінны мець горшае жыцьцё тады, калі яны могуць мець лепшае?

– Ты зноў забыў, мой дружа, – сказаў я, – што
права мае на мэце дабрабыт не аднаго якога-небудзь сэґмэнту насельніцтва, але дабро ўсяго гаспадарства. Шчасьце мае быць удзелам усяго гаспадарства, і права трымае грамадзян разам на дарозе пераконваньня і неабходнасьці, чынячы карысным іх для
супольнасьці, і гэтым самым карысным для іншых. Дзе- 520
ля гэтае мэты яно творыць іх не затым, каб дагаджаць ім, але каб яны сталіся прыладаю ў прадмеце цэмэнтаваньня гаспадарства.

– Гэта праўда, – сказаў ён, – я зусім забыў.

– Заўваж, Ґляўкон, яшчэ і тое, – працягваў я далей, – што мы ня будзем несправядлівымі адносна тых, што стаюцца ў нас філёзафамі; наадварот, мы толькі выразім перад імі апраўданае вымаганьне, змушаючы іх даглядаць іншых і стаяць на стражы іхных інтарэсаў; мы вытлумачым ім, што ўва ўсіх іншых гаспадарствах людзі, якія дайшлі да стану філёзафаў, маюць абаснаваньне ня прыймаць удзелу ў палітыцы, бо яны сталіся гэтакімі самі сабою, наўсуперак гаспадарсьцьвенай канстытуцыі. І, тое, што выгадоўваецца само сабою, перад нікім ня мае даўгу за сваё жывеньне, і ў выпадку падобным ня можа ўзьнікнуць жаданьне адудзячыцца за выдаткі. А вас мы радзілі на сьвет, каб былі вы кіраўнікамі ў вульлі, каралямі для самых сябе і іншых, і мы ўзгадавалі вас шмат ляпей і болей дасканала, чымся тыя філёзафы, і вы зьяўляецеся болей здольнымі займацца і гэтым, і іншым. Затым вы, калі дойдзе да кажнага з вас чарга, мусіце зыйсьці ў аселішча іншых людзей і прызвычаіць самых сябе да бачаньня ў іхнай цемрадзі. А дайшоўшы да гэтага, вы будзеце бачыць тысячу разоў ляпей ад тых, што жывуць у падзямельнай пячоры, разглядзіце і распазнаеце, што прадстаўляе сабою кажны цень і вобраз, які ён творыць, бо вы ўжо бачылі прыгожае, справядлівае і добрае ў праўдзе. І гэтым нашае гаспадарства, якое і вашым зьяўлаецца, станецца рэчаіснасьцю, а не адно толькі лятуценьнем, як гэта назіраем у іншых гаспадарствах, і будзе кіравацца ня гэтак, як іншыя гаспадарствы, у якіх людзі змагаюцца між сабою за цені толькі і распадзельваюцца ў калатні за ўладу, у якой яны бачаць найбольшае дабро. А ў грунце рэчы, праўда заключаецца ў тым, што гаспадарства, якое кіруецца людзьмі, якія найменей гоняцца за ўладаю, заўсёды зьяўляецца найлепшым і працэс кіраваньня адбываецца найболей спакойна пры адсутнасьці сварак; з другога боку, гаспадарства, якое кіруецца тымі, што пхаюцца да ўлады, найгорай выходзіць.

– Напэўна, – сказаў ён.

– Ці думаеш ты, што нашыя гадунцы, чуючы гэта, стануцца непаслухмянымі нам і не жадацімуць узяць удзелу ў стараньнях над гаспадарствам, калі ім дазволена будзе праводзіць вялікую частку свайго часу сумесна ў чысьціні?

– Гэта немагчыма, – адказаў ён; – бо яны зьяўляюцца справядлівымі людзьмі, і загады, якія мы выдаем ім, гэтаксама зьяўляюцца справядлівымі. І няма сумліву, што кажны зь іх абыйме пасаду як няў-

уільную неабходнасьць - і не паводля наўзору нашых
сучасных гаспадарсьцьвеных кіраўнікоў.
- Так, мой дружа, - сказаў я; - і тут знаходзіц-
ца сутнасьць справы. Ты мусіш вынайсьці для прыш-
лых кіраўнікоў іншае і лепшае жыцьцё, чымся займе-
ньне ўлады, і тады ты будзеш мець добра ўладжанае 521
гаспадарства. Бо толькі ў такім гаспадарсьцьве, я-
кое створыць гэтакія прадумовы, будуць кіраваць лю-
дзі, каторыя запраўды будуць багатымі, не золатам і
срабром, але мужнасьцю і мудрасьцю, якія зьяўля-
юцца праўдзівымі добраслаўленьнямі жыцьця. Калі-ж
бедныя і нічоганямаючыя дабіваюцца да грамадзкага
дабра зь меркаваньнем ухваціць сабе нешта з гэтага,
тады парадку ніколі ня будзе; бо яны будуць змагац-
ца за ўрадавыя пасады, і затым падобнага роду хат-
нія і ўнутраныя закалоты губяць і тых, што прыйма-
юць удзел у іх, як і цэлае гаспадарства.
- Зусім праўдзіва, - адказаў ён.
- І адзіным жыцьцём, - сказаў я, - якое глядзіць
з пагардаю на жыцьцё палітычных амбіцыяў, зьяўляец-
ца жыцьцё праўдзівае філязофіі. Ці ведаеш ты іншае
якое-небудзь?
- Запраўды, я ня ведаю іншага, - сказаў ён.
- І зноў-жа, - сказаў я, - не павінна быць, каб да
ўлады даходзілі тыя, што проста закаханыя ў ёй. Бо
інакш зь імі будуць спрачацца тыя, што рывалямі вы-
ступаюць у гэткай любові.
- Бяз сумліву.
- Дык каго-ж іншага змусіш ты стануць на варце
гаспадарства, як ня тых, што зьяўляюцца зусім сьве-
дамымі ў прадмеце найлепшага гаспадарсьцьвенага кі-
раўніцтва, і адначасна маюць і іншыя годнасьці і
жыцьцё вядуць болей мужнае, чымся іншыя ў палітыцы?
- Нікога іншага, - адказаў ён.
- Ці хочаш ты цяперака, каб разгледзелі мы, я-
кім спосабам атрымліваюцца людзі і пры помачы чаго
можна іх вывесьці зь цемрадзі на ўзвышша да сьвят-
ла, як і кажацца гэта, што некаторыя ўзыйшлі з Га-
дэсу да багоў?
- Дый як я магу не хацець? - запытаў ён.
- Працэс гэты, - сказаў я, - гэта ня тое што пе-
равярнуць чарапок; тутака трэба душу павярнуць ад
дня, які крышку лепшым ёсьць за ноч да дня праўдзі-
вага быцьця, гэта значыць, ёсьць ім уздым, які мы
называем праўдзівай філязофіяю.
- Ведама.
- І ці не павінны мы дасьледзіць, што гэта за
навука, якая мае гэтакую сілу выклікаць гэтакае

зьінaчаньне?

– I чаму-б не?

– Што гэта за навука, Ґляўкон, якая магла-б быць гэтакаю сілаю цягі для душы са сьвету ставацца ў сьвет быцьця? – I яшчэ адно, што́ вось цяперака прыйшло мне на думку: ці не казалі мы, што нашыя кіраўнікі абавязкава павінны ў свае юнацкія гады ставацца ваеннымі атлетамі?

– Казалі.

– Тады, гэтая навука, якую мы шукаем, павінна мець дадатковыя свомасьці?

– Якія свомасьці?

– Яна не павінна быць бескарыснаю для жаўнераў у вайне.

– Так, калі толькі магчымым гэта ёсьць, – сказаў ён.

– Гэтак, як і казалі мы раней, іхнаму ўзгадаваньню служаць у нас ґімнастыка і му́зыка.

– Так, было гэтак, – сказаў ён.

– Сярод іншага, ґімнастыка мае дачыненьне з тым, што́ стаецца як і з тым, што́ мінаючым ёсьць, бо ад яе залежыць рост і заняпад сілаў цела.

– Ведама.

– Але гэта ня тая навука, якую мы шукаем.

522 – Не.

– Магчыма ёсьць ёю му́зыка, якую мы раней разглядалі?

– Але, калі ты памятаеш, – сказаў ён, – музыка была супроцьстаўленьнем ґімнастыцы, і ўзгадоўвала старожаў дарогаю ўплываў на іхныя звычаі: праз гармонію яны стаюцца гарманійнымі, праз рытм – рытмічнымі, хоць і не атрымліваючы навукі. Але словы песьні, хай сабе казачныя ці магчыма праўдзівыя, замыкаюць у сабе зродненыя элемэнты рытму і гармоніі для іх. Але навукі, што вядзе да дабра, якога ты цяперака шукаеш, мастацтва му́зыкі зусім ня мае.

– Ты вельмі акуратным зьяўляешся што да прыпамінаньня, – сказаў я; – у музыцы запраўды нічога няма з таго, пра што ты гаворыш. Але якая галіна навукі зьяўляецца тою, мой паважаны Ґляўкон, якую можна было-б назваць пажаданаю? Бо-ж усе карысныя мастацтвы браліся пад увагу намі?

– Натуральна; але калі му́зыка і ґімнастыка вылучаюцца з гэтага, гэтаксама як і мастацтвы дык што-ж тады астаецца?

– Паўзірайся, – сказаў я, – калі мы ўжо нічога ня маем пад рукою, тады мусім узяць нешта такое, што ня будзе адумысным, але меціме ўнівэрсаль-

нае затасаваньне.

– І што-ж гэтым мае быць? – запытаў ён.

– Нешта такое, чым усе мастацтвы і навукі як і інтэлігэнцыя карыстаюцца, і што кажны чалаек перад усім мае навучыцца з таго, што складаецца на паняцьце навукі.

– І што-ж гэтым ёсьць? – запытаў ён зноў.

– Ды нічога, – сказаў я; – трэба толькі адрозьніваць што гэта такое адзін, два і тры – я разумею гэта, як лік і калькуляцыя: ці-ж не стаецца неабходнасьцю для ўсіх мастацтваў і навукаў прыймаць удзел у іх?

– Дый вялікаю, – сказаў ён.

– Тады, – сказаў я, – ваеннае мастацтва прыймае ўдзел у іх?

– І яно мусіць, – сказаў ён.

– Што найменей, – сказаў я, – Палямэдэс усякі раз, калі ён зьяўляецца ў трагэдыях, павядзе гэтак справу, што Аґамэмнон выяўляецца сьмешным і няздольным стратэґам. Ці не зьвярнуў ты ўвагу, што ён сам кажа, што ён вынайшоў лікі, што якраз ён устанавіў у парадак баявыя аддзелы пад Іліёнам і панумэраваў вадаплавы і ўсё іншае; з гэтага ўжо выснаў сам напрашваецца, што да гэтае пары яны ня былі зьлічаныя, і, што Аґамэмнон нават ня ведаў колькі ў яго самога ёсьць ног – дый як ён мог ведаць, калі ня ведаў лікаў? І калі ўсё гэта ёсьць праўдаю, дык якім стратэґам мысіў ён быць?

– Я сказаў-бы, нейкім дзіваком, калі толькі ўсё было гэтак, як ты кажаш.

– Ці можам мы запярэчыць, – сказаў я, – што ваяр павінен мець веданьне арытмэтыкі?

– Пэўна, што ён павінен, – сказаў я, – калі ён мае хоць найменшае ўяўленьне ваеннае тактыкі, або, я гатоў барждзэй сказаць, калі ён наагул мае быць чалавекам.

– Мяне цікавіць, – сказаў я, – ці ты спасьцерагаеш у гэтай навуцы тое самае, што я?

– Што, пайменна? 523

– Мне выдаецца, што паводля свае натуры яна адносіцца барждзэй да таго, што мы шукаем і вядзе чалавека да разважаньня, але ніхто ніколі не карыстаўся ёю. Бо праўдзівае карыстаньне ёю – гэта проста цягненьне нас у напрамку быцьця.

– Што ты маеш на ўвазе, – запытаў ён.

– Папробую вытлумачыць гэта, – сказаў я; – і я хацеў-бы, каб ты прыняў удзел у досьледзе разам са мною і кажны раз казаў "так" або "не", калі я буду

прадпрыймаць спробу ўдакладніць маім спосабам думаньня, якія галіны веды маюць гэтую сілу прыцяжэньня, з мэтаю займеньня ясьнейшага доваду, што арытмэтыка зьяўляецца, як і здагадваюся я, адною зь іх.

– Калі ласка, вытлумачы, – сказаў ён.

– Я манюся сказаць, – працягваў я далей, – што некаторыя рэчы, успрыйманыя нашымі змысламі, не пабуджаюць нашую інтэлігэнцыю даісьледваньня іх, бо выглядае, што сам змысл зьяўляецца дастатковым судзьдзём іх; але ў іншых выпадках змысл зьяўляецца нагэтулькі ненадзейным, што далейшы досьлед стаецца абавязкавым імпэратывам.

– Здаецца, – сказаў ён, – што ты выразна маеш на ўвазе выпадак, калі змыслы ўспрыймаюць на адлегласьць і тое, што намалявана ў сьвятле і ценю.

– Не, – сказаў я, – гэтым разам ты не агарнуў таго, што я маю на ўвазе.

– Тады, пра што ты гаворыш? – запытаў ён.

– Не заахвочвае да досьледу, – сказаў я – тое, што ня выклікае адначасна супроцьлежнае сэнсацыі, а тое, што выклікае гэтакую сэнсацыю, я ўважаю за пабуджаючую да досьледу, паколькі сэнсацыя выкрывае адно зусім ня болей, чымся другое, супроцьлежнае яму, і гэта ўсё роўна, адносіцца гэтая сэнсацыя да аб'ектаў, што знаходзяцца блізка ці далёка. Вось ілюстрацыя, якая ўчыніць думку маю ясьнейшаю: тут маем тры пальцы – малы палец, другі палец і сярэдні палец.

– Добра, – сказаў ён.

– Уважай, што я гавару пра іх як пра аб'екты, на якія мы глядзімо зблізка. І тут выступае тое, што я хачу сказаць.

– І што ёсьць гэтым?

– Кажны зь іх у ваднолькавай меры выяўляецца як палец, і ўсё роўна, глядзімо на ягоную сярэдзіну ці на скрай, будзе ён белы ці чорны, тонкі ці тоўсты – гэта ня творыць сабою розьніцы; палец астаецца пальцам. У гэткім выпадку няма для чалавека панукі зьвяртацца да думаньня з пытаньнем: што гэта такое палец? бо зрок ніколі не пераказвае змыслу, што палец ёсьць нечым іншым, чымся палец.

– Ведама, што не пераказвае, – сказаў ён.

– І затым, – сказаў я, – гэтак як і можам мы спадзявацца, ня існуе тут нічога, што-б заахвочвала інтэлігэнцыю чалавека.

– Напэўна не.

– Але ці ўсё гэта астаецца аднолькава правіль-

ным што да вялікасьці і меншасьці пальцаў? Ці мо-
жа зрок у дастатковай меры ўспрыняць іх? І ці для
зроку ўсё роўна каторы палец знаходзіцца ўсярэдзі-
не і каторы на скраю? Ці падобным спосабам дотык у
аднолькавай меры ўспрыймае таўшчыню пальца або тон-
касьць, мяхкасьць або цьвёрдасьць? Падобна можна
сказаць і пра іншыя змыслы; ці выяўляюць яны ўсё
гэта? Ці-ж ня гэтак рэч маецца з кажным зь іх: 524
змысл, які займаецца пераказаньнем якасьці цьвёр-
дасьці ў сілу няўхільнасьці займаецца гэтаксама і
пераказаньнем сэнсацыі мяхкасьці, і адначасна пе-
раказвае вестку душы, што тая самая рэч вычуваецца
і як цьвёрдая, і як мяхкая?

– Так гэта ёсьць, – сказаў ён.

– Ці-ж ня будзе, – сказаў я, – душа зьбянтэжана зьдзіўленаю, што змысл пераказвае ёй сэнсацыю цьвёрдага, якое зьяўляецца адначасна мяхкім? Як-жаж, тады, трэба разумець паняцьці лёгкага і цяжкага, калі тое, што́ зьяўляецца лёгкім гэтаксама ёсьць і цяжкім, і тое, што́ зьяўляецца цяжкім, ёсьць лёгкім?

– Дык гэтыя пераказваньні, – сказаў ён, – якія душа атрымлівае, зьяўляюцца вельмі цікавымі і вымагаюць далейшага разгляду.

– Натуральна, – сказаў я; – у гэткай зьбянтэжанасьці душа прыкліквае на помач калькуляцыю і інтэлігэнцыю, каб даведацца ёй, ці пра адзін прадмет пераказвае вестку ёй у тым ці іншым выпадку дотык, ці пра два.

– Ведама.

– І, калі выявіцца, што гэта два прадметы, тады кажны зь іх будзе і іншым, і адным і тым самым?

– Але́.

– І, калі кажны зь іх адзін, а разам іх два, дык гэтыя два будуць разуметыя як два, што знаходзяцца ў стане распадзелу, бо, калі два зьяўляюцца не падзеленыя, тады яны могуць быць успрынятымі, як адно.

– Правільна.

– Бо напэўна зрок бачыць абодва, малое і вялікае, але толькі сумліўна і ня выразна. Ці-ж ня так гэта?

– Так.

– Для высьненьня гэтага зьявішча, думаючы змысл у сваю чаргу змушаным ёсьць разгле́дзець малое і вялікае, не ў іхнай злучанасьці, але ў іхнай разлучанасьці; тут маем поўную супроцьлежнасьць таго, што́ бачыць зрок.

– Ці-ж не зьяўляецца гэта пачаткам, калі мы ста-

вім пытаньне: што гэта такое вялікае? і чым зьяўляецца малое?

– Так, тут знаходзіцца пачатак.

– І тут выступае розьніцца паміж спасьцярожнасьцю і ахопленасьцю розумам.

– Зусім правільна, – сказаў ён.

– Гэта і ёсьць якраз тое, што я меў на ўвазе, калі казаў пра сэнсацыі, якія заахвочвалі інтэлект да актыўнасьці, або пра адваротнасьць – тыя, што зьяўляюцца адначаснымі з супроцьлежнымі сэнсацыямі, заахвочваючымі думку; зноў-жа, тыя, якія не зьяўляюцца адначаснымі, не заахвочваюць.

– Я разумею, – сказаў ён, – і я згаджаюся з табою.

– Тады як? Да якое з двух групаў лік і адзінка належаць?

– Я ня ведаю, – адказаў ён.

– Пачні з таго, што ўжо было сказана, і падумай пра гэта. Калі нешта адзінае дастаткова і добра агортваецца само ў сабе, хай сабе зрокам або якімнебудзь іншым змыслам, тады нямашака патрэбы вырасьняць ягоную існасьць падобна, як я гэта зьілюстраваў на прыкладзе пальца. Але, калі ў ім заўсёды выяўляецца нейкая супроцьлежнасьць, гэтак, што яна раз выступае адзінкаю і ня болей, чымся яе супроцьлежнасьць, тады зараз-жа спатрэбіцца крытычны ўгляд дзеля высьненьня; у гэткім выпадку душа будзе змушана дзівіцца і сумнявацца, займацца пошукамі і бянтэжыцца ў самой сабе, і ставіць сабе пытаньне: чымжа, пасьля ўсяго, гэтае адно зьяўляецца ў самым сабе? Гэткім чынам, разважаньне над гэтым адным, сталася-б
525 досьледам і прывяло-б, і заахвочвала-б душу да агарненьня запраўднага быцьця.

– Пэўна, – сказаў ён, – гэтае супроцьлежнае вельмі выяўляецца ў прыведзеным намі выпадку аднаго, асабліва, калі яно экзамінуецца зрокам; бо мы можам у тым самым часе бачыць тую самую рэч як адно і як бясконца шматлікае.

– Так, сказаў я; – і калі гэта правільным ёсьць з адным, дык яно мусіць быць гэтаксама правільным з усімі лікамі?

– Дый як можа быць інакш?

– І ўся навука адносна лікаў і мастацтва калькуляцыі займаюцца выключна лікамі?

– Так.

– Тады выглядае, што лікі вядуць розум у напрамку праўды?

– Так, дый да гэтага ў своеасаблівы спосаб.

– Тады гэтая навука зьяўляецца гэтакага роду, я-

кую мы шукаем і якая мае падвойную карысьць, вайсковую і філязафічную; бо чалавек змаганьня мусіць пазнаць штуку лікаў, каб ведаць, як упарадкаваць рады сваіх аддзелаў, а філёзаф – затым, што ён мусіць узьняцца вышэй за тое, што стаецца і спасьцярожным ёсьць, і агарнуць існасьць праўдзівага быцьця, бо інакш ён ніколі ня станецца беглым у думаньні.

– Так, – сказаў ён.

– Але наш старожа адначасна ёсьць і ваяром і філёзафам?

– Напэўна.

– Затым, гэтая навука, Ґляўкон, ёсьць свомаю для намэтнасьці, каб увесьці права і пераканаць усіх тых, што маюць заняць вышэйшыя пасады ў гаспадарсьцьве, каб яны заняліся вывучэньнем штукі рахаваньня дый пры гэтым не як давядзецца, але мусяць працягваць студыі да тае пары, пакуль не пазнацімуць натуры лікаў пры помачы самога думаньня; і зноў, ня гэтак як купцы або дробныя гандляры зь меркаваньнем купіць або прадаць, але з увагі на ваенныя мэты, і з прычыны самое душы; затым, што гэта будзе лягчэйшаю дарогаю для яе перайсьці са стану ставаньня да стану запраўднага быцьця.

– Выдатна выражана гэта, – сказаў ён.

– Так, – сказаў я, – і цяперака, калі мы ўжо дайшлі да гэтага, я мушу дадаць, якою-ж чароўнаю гэтая навуа ёсьць! і як шматлікімі шляхамі яна вядзе да нашых мэтаў, калі сьледаваць за ёю ў духу філёзафа, а не крамніка!

– Як гэта? – запытаў ён.

– Ды так, як я і казаў, што яна мае вельмі вялікі ўплыў на душу і ўзвышаны, і змушае яе разважаць адносна абстрактных лікаў, і ні ў якім выпадку не дапускаючы, каб хто-небудзь падставіў на іх месца спасьцярожныя і рэальныя аб'екты. Ты-ж бо ведаеш, што рэчазнаўцы ў гэтай навуцы, высьмеюць і адкінуць спробу ў дыскусыі распадзяліць абсалютную адзінку, і калі ты распадзеліш, аны зноў памножаць часткі, баючыся, каб адно хаця-б ня сталася адным, але шматлікімі часткамі аднаго.

– Зусім правільна, – сказаў ён.

– Прымем, Ґляўкон, што нехта скажа ім: "О, годныя пашаны людзі, чым-жа зьяўляюцца гэтыя цудоўныя лікі, пра якія вы разважаеце і кажаце, што існуе адзінка гэтакая, за якую вы яе ўважаеце – гэта значыць, што кажная адзінка зьяўляецца роўнаю кажнай іншай адзінцы, і нічым ня розьніцца ад яе, астаец- 526

ца непадзельнаю?" – як ты думаеш, што яны адкажуць?
– Яны адкажуць, як я сабе ўяўляю, што яны маюць на ўвазе тыя лікі, якія могуць быць толькі даступнымі думцы.
– Таму і бачыш ты, мой дружа, – сказаў я, – што і запраўды, навука гэтая неабходнаю ёсьць для нас, калі, як выходзіць, яна змушае душу карыстацца самым думаньнем дзеля чыстае праўды.
– Так; гэта ёсьць характэрнаю азнакаю яе, – сказаў ён.
– І як? Ці не спасьцярог ты далей, што тыя зь людзей, каторыя маюць натуральныя здольнасьці да рахаваньня, хутка вырозьніваюцца як здольныя да ўсякага іншага роду навукі; і нават тыя павольныя, калі яны практыкуюцца ў арытмэтыцы, дык хоць-бы і ня мелі для сябе з гэтага ніякае карысьці, усё-ж стаюцца болей кемлівымі, чымся раней былі.
– Гэтак ёсьць, – сказаў ён.
– Дый апрача гэтага, я думаю, што ты нялёгка і няшмат знойдзеш гэтакіх навукаў, якія тварылі-б сабою для студэнта, нават стараннага, болей труднасьцяў, чымся гэты прадмет.
– Запраўды не.
– І дзеля ўсіх гэтых прычынаў, навука гэтая зьяўляецца гэтакім родам веды, у якой найлепшыя натуры павінны заглыбляцца і ісьці наперад.
– Я згаджаюся з табою, – сказаў ён.
– Няхай, затым, – сказаў я, – гэта станецца прадметам нашае адукацыі. Гэтаксама і наступнае павінна быць разгледжана, што цесна вяжацца з першым, якраз менна: ці адказвае нам гэта?
– Што? – запытаў ён;-маеш ты на ўвазе ґэомэтрыю?
– Так, – адказаў я.
– Ведама, – сказаў ён, – мы зацікаўлены тою часткаю ґэомэтрыі, якая вяжацца з ваенным мастацтвам; дзеля ўзьняцьця лягеру або заняцьця пазыцыі, сьцягваньня або разгортваньня войскаў і розных іншых ваенных рухаў, хай сабе будзе гэта ў фактычнай вайне або ў маршах, і тут увыпукліцца розьніца, паміж тым, хто ведае ґэомэтрыю і тым, хто ня ведае яе.
– Так, – сказаў я, – але дзеля гэтых мэтаў хопіць і малое веды з ґэомэтрыі або рахаваньня. Пытаньне адносіцца барджэй да большае і болей заавансаванае часткі ґэомэтрыі: ці накіравана яна ў якой-небудзь ступені, каб умагчыміць агарнуць ідэю дабра? Так, у той бок, як і казаў я, куды кіруюцца ўсе рэчы, каб змусіць душу абярнуць яе зрок у напрамку таго месца, дзе знаходзіцца поўная дасканаласьць

быцьця, якую яна павінна ўбачыць любым спосабам.
– Правільна выражана, – сказаў ён.
– Калі, затым, ґэомэтрыя змушае нас сузіраць быць-
цё, тады яна стаецца адпаведнаю для нас, калі-ж
толькі ставаньне – неадпаведнаю для нас.
– Так, гэта тое, што́ мы ўтрымліваем.
– Затым, – сказаў я, – той, хто хоць і крышку 527
абазнаны з ґэомэтрыяю, ня будзе аспрэчваць, што на-
вука гэтая знаходзіцца ў простай супроцьлежнасьці
з тымі мудрагельскімі выражэньнямі, якія ўжываюцца
тымі, што ведаюць яе.
– Як гэта? – сказаў ён.
– Яны маюць на ўвазе практычны бок толькі, і заў-
сёды выражаюцца ў абмежаванай і сьмешнай манеры,
для прыкладу: пабудуем чатурохкутнік, працягнем лі-
нію і іншыя затасаваньні – яны блытаюць неабход-
насьці ґэомэтрыі зь неабходнасьцямі жыцьця; у тым
часе, як веданьне зьяўляецца праўдзівым аб'ектам у-
сенькае навукі.
– Напэўна, – сказаў ён.
– Але, ці не павінны мы і з тым згадзіцца далей?
– З чым гэта?
– Што веданьне, да якога ґэомэтрыя кіруецца,
зьяўляецца веданьнем вечнага, а не таго, што ўзьні-
кае і шчазае.
– Гэтым, – адказаў ён, – можна лёгка выразіць:
што ґэомэтрыя зьяўляецца пазнаньнем вечнага быцьця.
– Тады, мой шляхэтны дружа, ґэомэтрыя будзе весь-
ці душу ў напрамку праўды, уплываць дадатна на фі-
лязафічную думку і ўздымаць тое, што́, з сумам трэ-
ба сказаць, сягоньня хіліцца ўніз.
– Нічога іншага ня можа гэтак дадатна ўплываць,
як яна,–адказаў ён.
– Тады, у меру магчымсьці трэба праўна загадаць
грамадзянам Прыгожагаместа, каб за ўсякую цану вы-
вучалі ґэомэтрыю. Бо навука ма́е пасрэдны ўплыў, які
не зьяўляецца малым.
– Які? – запытаў ён.
– Той, пра які ты ўжо гаварыў, – сказаў я, – у
галіне мілітарнай хоць-бы; дый ўва ўсіх прадметах
навучаньня, як практыка паказвае, кажны чалавек,я-
кі вывучае ґэомэтрыю, зьяўляецца бязьмежна хутчэй-
шым у праяўленьні зразуменьня, чымся той, хто не вы-
вучае.
– Так, запраўды, – сказаў ён, – існуе бязьмеж-
ная розьніца паміж імі.
– Дык што? маем гэта прыняць як другі прадмет
навучаньня для нашых юнакоў?

– Прыняць, – адказаў ён.
– І што ты скажаш, калі астраномія будзе ў нас
трэйцім прадметам?
– Я рашуча за яе, – сказаў ён; – бо назіраньне по-
раў часу, месяцаў і гадоў ёсьць гэтаксама важнаю
рэчаю для стратэґаў, як і для земляробаў і вадаплаў-
нікаў.
– Цудоўным ты зьяўляешся, – сказаў я – са сваім
страхам перад людзкаю масаю, быццам ты накідваеш
каму-небудзь бескарысныя навукі; я зусім згаджаюся,
што можа выступіць труднасьць, спалучаная зь верай,
што ў кажным чалавеку знаходзіцца вока душы, якое
пры іншых занятках губіцца і сьлепне, але пры гэтай
навуцы зноў ачышчаецца і ажывае; і зьяўляецца бо-
лей каштоўным, чымся тысячы цялесных вачэй, бо то-
лькі ім адным праўда можа быць сузіранаю. Цяперака,
існуюць дзьве групы людзей: адна група – гэта тыя,
што згаджаюцца з табою і прыймаюць твае словы як за-
дзіўляюча добра сказаныя; іншая група – гэта група
недалёкасяжных людзей, якія будуць думаць, што ты
прапануеш ім бязглузьдзіццу, з прычыны якое яны ня
мецімуць ніякае карысьці і пра якую няма патрэбы
528 гаварыць нават. І з гэтае прычыны, ты тут-жа на мес-
цы вырашай, зь якою зь дзьвюх групаў ты хочаш весь-
ці гутарку. Вельмі магчыма, што ты скажаш, зь ні-
якаю і, што тваею галоўнаю мэтаю ёсьць працягваньне
дыскусыі дзеля твайго ўласнага палепшаньня, і адна-
часна ты ня маеш нічога супроць каго-колечы, хто
зможа зь іх займець для сябе карысьць.
– Болей за ўсё, – сказаў ён, – я люблю весьці
разважаньні пры помачы пытаньняў і адказаў, маючы
самога сябе на ўвазе.
– Тады, зрабі рух назад, – сказаў я, – бо мы па-
мыліліся ў прадмеце парадку навукаў, бяручы астра-
номію пасьля ґэомэтрыі.
– У чым-жа мы памыліліся? – запытаў ён.
– Пасьля плоскасьцяў, – сказаў я, – мы ўзяліся
за цьвярдыя целы, якія знаходзяцца ў кругавароце,
замест таго, каб раней вывучыць іх саміх, як гэт-
кіх; бо-ж болей трапным было-б пасьля другога вы-
мярэньня разглядзець трэйцяе, якое адносіцца да вымя-
рэньня кубаў і ўсяго таго, што мае вымярэньні глы-
біні.
– Гэта правільна, Сакратас, – сказаў ён, – але,
выдаецца мне, што мы зьяўляемся мала абазнанымі ў
гэтым прадмеце.
– І гэта, – сказаў я, – зь дзьвюх прычынаў: – У
першую чаргу, няма гэтакага гаспадарства, якое апе-

кавалася-б гэтаю навукаю; і гэта вядзе нас да другое прычыны - да сьцьверджаньня, што дасьледчыкі патрабуюць кіраўніка, без якога яны не зьяўляюцца ў стане дайсьці да выкрыцьцяў. А пасьля, і кіраўніка цяжка знайсьці, а калі нават і ўдасца знайсьці, дык пры сучасным стане рэчаў тыя, што займаюцца досьледам, ня слухаліся-б яго, бо-ж яны занадта ўжо высокае думкі пра сябе. Гэта, аднак, выглядала-б інакш, калі-б дырэктарам сталася ўсё гаспадарства, тады-б іхны досьлед выкрыў-бы свомасьці вывучанага прадмету. Бо-ж нават і цяперака, калі бальшыня людзей ня выказвае пашаны да гэткага роду працы, і перашкаджае ёй, дый самыя дасьледчыкі не здаюць сабе справы з карыснасьці яе; і ўсё-ж, ня гледзячы на перашкоды, яна разьвіваецца, як азнака, наколькі яна знаходзіць зацікаўленьне для сябе.Затым і дзіву няма, што навука гэтая выступіла на дзеннае сьвятло.

- Так, - сказаў ён, - запраўды, у ёй ёсьць шмат чароўнасьці. Але я ня зусім ясна бачу зьмены ў парадку. Ты толькі што гаварыў пра вывучэньне ґэомэтрыі плоскасьцяў.

- Так, - сказаў я.

- А пасьля гэтага, - сказаў ён, - ты увапіўся за астраномію, але пазьней адступіўся.

- Але́, - сказаў я; - зноў-жа, мой пасьпех, як найхутчэй усё разгледзець, стаўся прычынаю нашае павольнасьці; аднак сьмешны ў нас стан навукі вымярэньня глыбіні, які, па лініі натуральнага парадку, павінен быў сьледаваць, змусіў мяне пераскочыць праз яе і пасьля ґэомэтрыі я загаварыў пра астраномію, гэта значыць пра рух целаў, якія маюць кубамэтрыю.

- Ты правільна кажаш, - сказаў ён.

- Згэтуль, - сказаў я, - чацьвертым прадметам пазнаньня мы назавем астраномію, якая ў дадзеным часе быццам забытаю астаецца, але яна выплывае на ўзьверх, калі гаспадарства займаецца ёю.

- Правільны парадк, - сказаў ён. - І цяперака, Сакратас, калі ты ўжо папракнуў мяне за тое, што мая пахвала астраноміі была трывіяльнаю, тады ня- 529
хай мая пахвала будзе выражана ў тваім духу - бо-ж кажнаму чалавеку, як я думаю, ясным стаецца, што астраномія змушае душу глядзець наўзьверх і вядзе нас з гэтага сьвету ў іншы.

- Магчыма, што кажнаму гэта ясна, - сказаў я, - апрача мяне, бо мне здаецца, што гэта ня так.

- Тады, як? - запытаў ён.

– Я барждзэй сказаў-бы, што тыя, што ставяць астраномію на ўзроўні філязофіі, зьяўляюцца тымі, каторыя кіруюць наш зрок уніз.
– Што ты маеш на ўвазе? – запытаў ён.
– Ты маеш вельмі высачэзны пагляд адносна нашае навукі пра рэчы ўзьверхнія, – сказаў я. – І я адважуся сказаць, што, калі хто-небудзь, задраўшы галаву, пачаў разглядаць наўзорнасьць на столі, і нешта бачыць там, дык ты ўсё яшчэ думаеш, што ён успрыймае пры помачы думаньня, а не вачыма. Вельмі магчыма, што ты думаеш правільна, а я магу быць прасьцяком і затым не магу ўважаць, што ўзіраецца наўзьверх нашую душу змушае нейкая іншая навука, чымся тая, што пазнае быцьцё і рэчы неспасьцярожныя. Ці ўзіраецца хто-небудзь наўзьверх або, прыжмурыўшыся, уніз, калі пробуе пры помачы дотыку штонебудзь распазнаць, усё роўна, і тады я пярэчу – ён ніколі гэтага не займее, бо для падобнага роду даходжаньня нямашака пазнаньня; і я цьверджу, што ягоная душа пры гэтым не глядзіць наўзьверх, але ўніз: нават калі ён ляжыць на сваей сьпіне на зямлі ці плыве на моры.
– Я сьцьвярджаю, – сказаў ён, – што я атрымаў тое, на што заслужыў. І ўсё-ж, я хацеў-бы ўпэўніцца, як і якім спосабам трэба вывучаць астраномію, каб дайсьці да веды, што да якое мы вядзем нашую гутарку?
– Вось гэтак: – сказаў я. – Гэтыя найболей прыгожыя ўзорнасьці нябёсаў зьяўляюцца ўпрыгожаньнем у спасьцярожным для нас сьвеце, затым трэба іх уважаць за як найболей прыгожыя і спасьцярожныя рэчы; але ўсё-ж яны значна ўступаюць рэчам праўдзівым зь іх усуадношваючым узаемным рухам, які адбываецца з запраўднаю хуткасьцю і павольнасьцю, у запраўднай колькасьці і ў рознародных запраўдных хвормах, пры чым усё знаходзіцца ў руху з тым, што творыць сабою іхны зьмест. Цяперака, усё гэта агортваецца розумам і інтэлігэнцыяю, але ня зрокам. А мо' думаеш ты, што ім?
– Ані ў якім выпадку, – адказаў ён.
– Тады, – сказаў я, – высыпаныя зорамі нябёсы чалавек павінен ужываць як дапаможны матэрыял дзеля вывучэньня запраўднага быцьця; бо прыгожасьць нябёсаў падобна да прыгожасьці дыяґрамаў або рысункаў, дасканала выкананых рукою Дайдалёса ці якоганебудзь іншага вялікага мастака, якія могуць трапіцца нам. Хто сьведамым зьяўляецца ў ґеомэтрыі, той, зірнуўшы на іх, выкрыў-бы прыгожае іх выка-

наньне , але было-б сьмешным уважаць іх за крыніцу
праўдзівага пазнаньня роўнасьці або праўдзівае двой-
насьці ці якіх-небудзь іншых праўдзівых прапорцы- 530
яў.

– Запраўды, гэта было-б сьмешным, – сказаў ён.

– Ці ня думаеш ты, – сказаў я, – што праўдзівы астраном будзе мець тое самае пачуцьцё, калі ён назіраціме рух зораў? Ён астанецца перакананым, што неба і ўсе рэчы на небе ўувармаваныя іхным Архітэктарам гэтак дасканала як толькі гэта магчымым ёсьць; і калі ён возьме пад увагу ўсуадносшаньні ночы і дня, або іх разам да месяца, або месяца да году, або зораў да ўсяго гэтага і іх самых да сябе, ці ня будзе ён думаць, што глупствам ёсьць падтрымліваць думку, быццам гэтыя рэчы, якія маюць целы і астаюцца спасьцярожнымі, існуюць на сьвеце гэтакімі, якімі яны зьяўляюцца, непадпарадкаваны ніякім зьіначаньням, і, што бязглузбдзіцаю ёсьць, даходзіць да ўсяго гэтага сваею ўласнаю сілаю, каб агарнуць у гэтым рэчаіснасьць?

– Я згаджаюся з табою, – сказаў ён, – хоць да гэтае пары я ніколі ня думаў пра гэта.

– Затым, – сказаў я, – у астраноміі, гэтак як і ў ґеомэтрыі, будзем мець дачыненьні з праблемамі, а ўзоранае неба пакінем самому сабе, калі мы запраўды хочам зглыбіць астраномію і ўчыніць карыснаю замест бескарыснаю натуральную сілу думаньня ў душы.

– Ты крыху камплікуш заданьне астраноміі, – сказаў ён, – у параўнаньні да таго, як яе цяперака вывучаюць.

– Так, – сказаў я; – і існуюць яшчэ іншыя рэчы, якім гэтаксама мае быць удзелена падобная ўвага, калі ад нас, як ад правадаўцаў маюць спадзявацца якое-небудзь карысьці. Але ці можаш ты мне сказаць яшчэ пра якую-небудзь іншую навуку?

– Так адразу цяперака не магу, – сказаў ён.

– Рух, – сказаў я, – прыймае рознавідныя хвормы, а ня толькі адну. Дзьве зь іх зьяўляюцца дастатковымі нават для нашае кемнасьці, а іншыя, як я думаю, могуць быць пакінутымі мудрэйшым людзям.

– Якія-ж гэта?

– Існуе другая, – сказаў я, – якая зьяўляецца супроцьлежнасьцю тае аднае, ужо ўспомнутае намі.

– Якая?

– Другая, – сказаў я, – будзе адносіцца гэтак да вушэй, як першая – да вачэй; бо, як я разумею, задача вачэй ёсьць глядзець на зоры, а вушы – ухоп-

ліваць згарманізаваныя сугучнасьці руху: і гэтыя дзьве навукі зьяўляюцца роднымі сёстрамі, як утрымліваюць пітаґорэйцы, і мы з табою, Ґляўкон, згодзімся зь імі. Так?

– Так, – адказаў ён.

– Прадмет гэты скамплікаваны, – сказаў я, – затым ляпей мы пойдзем і распытаемся ў іх пра яго; і яны скажуць нам, ці існуюць якія-небудзь іншыя затасаваньні гэтых навукаў. І адначасна мы павінны памятаць пра нашую ўласную высокую мэту.

– Якую?

– Тыя, каторых мы ўзгадоўваем, няхай нават і ня думаюць вывучваць што-небудзь недасканалае і накіраванае не да тае мэты, што да якое заўсёды павінна быць накіравана ўсё, як мы толькі-што і казалі адносна астраноміі. Бо і ў навуцы пра гармонію, як ты праўдападобна і ведаеш, здараюцца гэтыя самыя

531 рэчы. Вучыцялі гармоніі параўноўваюць гукі і сугучнасьці, якія яны толькі чуюць, і іхная праца, падобна як сярод астраномаў, ідзе намарна.

– На нябёсы! – сказаў ён; – у іх гэта выходзіць сьмехатворна – нешта яны называюць ушчыльненьнем і падстаўляюць вушы, быццам ловяць гукі са сьцяны суседняга дому; адны кажуць, што адрозьніваюць нейкае адзвучча якраз у сярэдзіне, паміж двума гукамі, і, што якраз тутака знаходзіцца найменшае прамежжа, якое трэба прыймаць за аснову для далейшых вымерваньняў; але іншыя аспрэчваюць іх, даводзячы, што тут нямашака розьніцы ў гуках – і адначасна адны як і другія цэняць вушы вышэй за розум.

– Ты маеш на ўвазе тых добрых людзей, – сказаў я, – што дакучаюць струнам і паддаюць іх мучэньням, накручваючы на колікі. Пра гэта можна апавядаць і апавядаць далей, кажучы пра ўдары плектронам, і пра тое, як абвінавачваюць струны ў іхнай адсталасьці як і ревеньні наперад, але я супыню гэтую вобразнасьць і скажу, што я меў на ўвазе ня гэтых людзей, але пітаґорэйцаў, да якіх нядаўна я прапанаваў зьвярнуцца, распытаць адносна гармоніі. Бо-ж яны паступаюць гэтаксама як і астраномы: яны шукаюць лікі ў сугучнасьцях, якія яны ўспрыймаюць на слух, але не ўздымаюцца да разгляду пытаньняў агульнага характару, і, затым, не высьняюць, якія лікі сугучнымі зьяўляюцца, а якія – не і чаму.

– Гэта зьяўляецца цудоўнаю рэчаю, – сказаў ён.

– Вельмі карыснаю ў кажным выпадку, – сказаў я, – дзеля дасьледваньня прыгожасьці і дабра, а інакш бескарысна і клапаціцца.

- Ведама, - сказаў ён.

- Цяпер-жа, - сказаў я, - што найменей мне здаецца, калі досьлед усіх намі разгледжаных прадметаў даходзіць да пункту сьцьверджаньня іхнае ўзаемнае суроднасьці і вядзе да высnаву адносна таго, у якіх, пайменна, суадносінах яны зьяўляюцца блізкімі адзін да аднаго, дык яно станецца дапаможным матэрыялам у напрамку асягненьня пастаўленае перад намі мэты, і нашая праца, затым, ня выявіцца бескарыснаю.

- І мне гэтак здаецца, - сказаў ён. - Але ты гаворыш пра вельмі аграмадную працу, Сакратас.

- Што ты маеш на ўвазе? - запытаў я, - уступ ці што іншае? Ці ня ведаеш ты, што ўсё гэта зьяўляецца нічым іншым, як толькі ўступам да фактычнага напеву, зь якім мы маем абазнацца? Ты-ж бо не ўважаеш, што рэчазнаўцы ў гэтых рэчах ведаюць нешта з дыялектыкі?

- Пэўна, што не, - сказаў ён. - Насілу некалькі зь іх мне давялося спаткаць, якія здольнымі былі думаць.

- Але, ці ўяўляеш ты сабе, што людзі, якія зьяўляюцца няздольнымі правесьці разумны довад або згадзіцца зь ім, будуць мець тую веду, якое мы дамагаемся ад іх?

- Нічога падобнага ня можна дапусьціць, - сказаў 532
ён.

- І так, Ґляўкон, - сказаў я, - нарэшце дайшлі мы да самага гымну дыялектыкі. Гэта ёсьць тым напевам, які зьяўляецца толькі прадуктам інтэлекту, міжтым, здольнасьць зроку хацела-б яго насьлядаваць; але спробы зроку разгледзець што-небудзь скіраваныя, як і казалі мы, адно на зьвераў, як гэтакіх, на зоры, як гэткія, і нарэшце, на Сонца, як гэткае; калі-ж хто-небудзь пачынае пашукі абсалюту на шляху толькі сьвятла розуму, і бязь ніякае дапамогі змыслу і ўпорыста працягвае пошукі аж пакуль дарогаю чыстага інтэлекту ён ня дойдзе да абсалютнага дабра, тады толькі знаходзіць самога сябе на самым узвышшы інтэлектуальнага сьвету, падобна, як рэч маецца з узыходам на вяршыню бачанага сьвету.

- Бязумоўна, - сказаў ён.

- Дык што? Ці не назавеш ты шлях гэты дыялектычным?

- Натуральна.

- Але вызваленьне вязьняў з ланцугоў, - сказаў я, - і іхны пераход зь ценяў да постацяў і да сьвятла, і ўздым іхны з падзямельнае пячоры да Сонца,

хоць у ягонай прысутнасьці ўсё яшчэ дарэмна стараюцца яны глядзець на зьвераў і расьліны, і на сонечнае сьвятло, але зьяўляюцца здольнымі ўспрыймаць нават сваімі слабымі вачыма адлюстраваньне боскіх постацяў у вадзе, і цені праўдзівага існаваньня, створаныя вытокам сьвятла, якое само ня большым ёсьць, чымся цень у параўнаньні да Сонца - гэтая сіла ўзьняцьця найвышэйшага прынцыпу ў душы да разважаньня над тым, што зьяўляецца найлепшым у існаваньні, з чым мы далей можам параўнаць уздым тае здольнасьці, якая зьяўляецца якраз тою сілаю цела, да зроку таго, што ёсьць найясьнейшым у матэрыяльным і спасьцярожным сьвеце - гэтая сіла ёсьць дадзенаю, як і казаў я, на дарозе ўсяе гэтае навукі і імкненьня да мастацтваў, аб чым мы ўжо гаварылі.

- Я згаджаюся з тым, што ты гаворыш, - адказаў ён, - хоць цяжка дапусьціць гэта, і ўсё-ж, зь іншага пункту гледжаньня, цяжка ёсьць і запярэчыць гэтаму. І гэта не зьяўляецца тэмаю, якую можна разглядаць на хаду толькі, дыскусыя над ёю будзе зноў і зноў вяртацца. Затым, будзе наш высnаў правільным ці няправільным, мы прыймем усё гэта, і пойдзем далей ад уступу да самога гымну, і разьбярэм яго гэтакім самым спосабам, як разьбіралі мы ўводзіны. Скажы, тады, чым зьяўляецца характар і чым розьніцца дыялектыка або разважаньне, і якімі зьяўляюцца шляхі, што вядуць да яе? Яны, відаць, вядуць да мэты, асягненьне якое сталася-б супачынкам
533 для падарожнага і завяршэньнем ягонага вандраваньня.

- Дарагі мой Ґляўкон, - сказаў я, - ты ня будзеш у стане сьледаваць тут за мною, хоць я і пастараюся ўчыніць усё, што магу, і ты ўгледзіш ня толькі постаць, але абсалютную праўду, што наймей гэтакаю, якою яна мне выдаецца. Ці рэч у запраўднасьці гэтак маецца, на гэта ня трэба пакуль што класьці націску. Але ўгледзець нешта падобнае абавязкава трэба - гэтага трэба дамагацца. Што да гэтага, я пэўны.

- Бяз сумліву, - адказаў ён.

- Я хачу зьвярнуць тваю ўвагу на тое, - сказаў я, - што толькі сіла разважаньня можа выявіць гэта, і толькі для таго, хто зьяўляецца студэнтам разгледжаных цяперака намі навукаў.

- Што да гэтага, - сказаў ён, - ты можаш быць пэўным.

- У кажным выпадку, - сказаў я, - ніхто ня будзе пярэчыць нам, калі мы скажам, што існуе нейкая

мэтода досьледу, якая розьніцца ад гэтае, і запэўнівае крок за крокам адносна кажнае рэчы, чым яна сабою зьяўляецца. Бо мастацтвы наагул займаюцца жаданьнямі або паглядамі людзей, або пакліканьнем да быту і тварэньнем, або падтрымкаю таго, што расьце і спалучаецца. А што датычыцца матэматычных навук, якія, як і казалі мы, маюць пэўнае ўяўленьне адносна праўдзівага быцьця – ґэомэтрыя, для прыкладу, і іншыя – яны толькі мрояць адносна быцьця і ніколі ня могуць бачыць крочучае рэчаіснасьці гэтак доўга, пакуль яны не пакінуць гіпатэзаў, якія яны ўжываюць бяз досьледу і не здаюць сабе справы зь іх. Бо, калі чалавек ня ведае свайго першапачаткавага прынцыпу, і, калі ягоны выснаў і міжзлучэньні пабудованы з гэтага самага няведамага, як-жаж, тады, гэтакая нясузгоднасьць можа стацца навукаю?

– Гэта немагчыма, – сказаў ён.

– Тады, дыялектычная мэтода, – сказаў я, – і толькі яна крочыць проста да першага прынцыпу і зьяўляецца адзінаю навукаю, якая адкідае гіпатэзы з мэтаю ўчыненьня пэўнага апорышча; вока душы, якое даслоўна пахована ў нейкім барбарскім балоце, пры яе далікатнай дапамозе пачынае ўздымацца наўзьверх; і яна ўжывае памочнікаў і работнікаў у працы над зьначаньнем навукаў, якія мы разьбіралі. – Часта называюць іх навукамі, але тут павінен быўбы быць ужыты іншы назоў, выражаючы большую яснасьць, чымся апінія і меншую, чымся навука, што ў нашым папярэднім вырысаваньні было выражана як разуменьне. Але дзеля чаго павінны мы паддаваць дыскусыі назовы, калі мы маем перад сабою рэчаіснасьць гэтак вялікае важнасьці?

– Пашто, запраўды! – сказаў ён, – хопіць аднаго назову, які-б ясна выражаў тое, што пад ім трэба разумець.

– У кажным выпадку, – сказаў я, – мы здаволімся, як і перад гэтым, мець чатыры распадзяленьні: два для інтэлекту і два для пагляду; і называць першую групу – навука, другую – разуменьне, трэйцюю – перакананьне, чацьвертую – успрыняцьце ценяў +/. Па- 534
гляд займаецца тым, што стаецца, тады як інтэлект – быцьцём; і гэта творыць усуадношаньне: Як быцьцё маецца да таго, што стаецца, гэтак чысты інтэлект маецца да пагляду. І як інтэлект маецца да пагляду, гэтак навука да перакананьня, і разуменьне да ўспрыняцьця ценяў. Але пакінем, Ґляўкон, на ўзбоччу далейшае усуадношаньне і распадзел прадмету пагля-

+/ Або здагадаў.

ду і інтэлекту, бо гэта быў-бы доўгі досьлед, шмат даўжэйшы ад тых, якія мы ўжо прарабілі.

– Але я згаджаюся і з рэштаю, – сказаў ён, – як далёка зьяўляюся здольным сьледаваць за табою.

– І ты згодзішся, – сказаў я, – назваць дыялектыкам кажнага таго, хто мае разуменьне існасьці кажнае рэчы. А той, хто ня мае гэтага разуменьня, гэтым самым зьяўляецца няздольным усприняць і пераказаць іншым у той самай ступені, у якой, ты можаш сказаць, адсутнічае ў яго інтэлігэнцыя для гэтага?

– Так, – сказаў ён, – дый як я магу пярэчыць гэтаму?

– Гэтаксама рэч маецца і з паняцьцем дабра. Калі чалавек не зьяўляецца ў стане пры помачы разважаньня акрэсьліць ідэю дабра, вылушчыўшы яе з усяго іншага, дык ты скажаш пра гэтакага, што ён наагул нічога ня ведае пра абсалютнае дабро. Гэтакі мусіць трымацца як жаўнер на полі змаганьня – прабівацца праз усе перашкоды, імкнучыся да ўхіленьня іх не на дарозе пагляду, але праз разуменьне абсалютнае праўды і, праходзячы праз усе гэтыя рэчы, ён не павінен заламацца ў сваім разважаньні. Калі-ж ён ня вытрывае, тады мецімеш ты апраўданьне сказаць, што ён ня ведае ані самога дабра, ані наагул якое-небудзь дабро; а калі ён і даткнецца да якога-небудзь ценю, дык толькі пры помачы здагаду, а ня веданьня. Гэтакі чалавек праводзіць сучаснае жыцьцё ў дрымоце і лятуценьні, і, калі перад тым, чымся ён тут прачхнецца, ён, прыйшоўшы ў Гадэс, назаўсёды пагрузіцца ў сон.

– Запраўды, – сказаў ён, – гэта і ёсьць якраз тое, што я скажу.

– І далей, калі-б ты меў сваіх уласных дзяцей узгадоўваць і адукаваць – калі-б гэтакі ідэал стаўся рэчаіснасьцю – ты-ж бы не дазволіў ім, пакуль яны бязмоўныя, быццам тая лінія на шкіцу, займаць у гаспадарсьцьве адказныя становішчы і кіраваць найболей важнымі справамі?

– Напэўна не, – адказаў ён.

– Тады, – сказаў я, – ты паклічаш да жыцьця правы, у сузгоднасьці зь якімі яны мецімуць гэтакае ўзгадаваньне, якое дазволіць ім займець найвышэйшы стан здольнасьці, ставіць пытаньні і адказваць на іх?

Так, – сказаў ён, – ты і я – мы разам увядзем гэтакія правы.

– Тады, ты згодзішся, – сказаў я, – што дыялектыка зьяўляецца карнізам завяршэньня ўсіх навукаў

і было-б памылковаю рэчаю ўздымаць якое-небудзь веданьне вышэй за яе – натура веды ня можа ісьці далей? 535
– Я згаджаюся, – сказаў ён.
– Але каму, – сказаў я, – маем мы даручыць гэтыя веданьні, і якім спосабам яны маюць быць пераказаны – гэта пытаньні, якія маюць быць разгледжанымі.
– Ясна, – сказаў ён.
– Памятаеш ты, якіх кіраўнікоў мы выбіралі, калі раней гаварылі пра іхны выбар?
– Так, – сказаў ён.
– Гэтыя самыя натуры наагул павінны быць выбіраныя, і пяршынствы павінны быць дадзены самым надзейным, харобрым і, калі магчыма, тым, што навонкі рэпрэзэнтуюць сябе належна; і, маючы шляхэтныя і вялікамужныя характары, яны павінны гэтаксама мець натуральныя абдараваньні, якія ўспамагацімуць іхную адукацыю.
– І якія-ж абдараваньні маюць яны мець?
– Вострая кемнасьць, мой добраслаўлены, – сказаў я, – і навукаў хуткае ўспрыймо. Бо-ж душы з поласху нямеюць перад велічнасьцю навукаў шмат болей, чымся перад ґімнастычнымі практыкаваньнямі: натуга тут болей адносіцца да ўмыслу і ня дзеліцца яна зь целам.
– Гэта праўда, – сказаў ён.
– Чалавек, якога мы шукаем, павінен мець добрую памяць, непахісна загартаваным і ў кажных абставінах ахвочы да працы; інакш бо ён ніколі ня будзе здольным зносіць усе фізычныя практыкаваньні і прайсьці ўсе інтэлектуальныя дысцыпліны і пазнаньні, якія мы вымагаем ад іх.
– Ведама, – сказаў ён, – ён мусіць мець натуральныя здольнасьці.
– У кажным выпадку, – сказаў я, – памылкаю нашых дзён ёсьць, што не назіраем пакліканьня да філязофіі, і гэта, як і казаў я раней, зьяўляецца прычынаю чаму яна знаходзіцца ў непашане: верныя сыны павінны ўзяць яе пад руку, але ня дрэнныя.
– Што ты маеш на ўвазе? – запытаў ён.
– Перад усім, – сказаў я, – яе прыхільнік не павінен кульгаць на ахвочасьць да працы, што здараецца, калі чалавек ахвочым бывае толькі на палову, і ўхіляючыся пераважна ад натужнасьці; назіраем гэта ў выпадках, калі хто любіць ґімнастыку і кажнае іншае фізычнае практыкаваньне, якое разьвівае цела, але ня любіць вучыцца, праводзіць досьлед на-

вуковы, ня цікавіцца пазнаць: у такім выпадку вычувае ён зьнеахвочаньне. Або занятак, якому ён аддаецца, можа быць супроцьлежнага парадку, і ён можа праяўляць іншы гатунак кульгавасьці.

– Вельмі трапна кажаш, – сказаў ён.

– І калі ідзе пра праўду, – сказаў я, – дык мы будзем уважаць душу пакалечанаю гэтаксама, калі-б яна, ня гледзячы на сваю абрыдласьць да сьведамае хлусьні – гэтага яна і ў сябе ня зносіць і абурваецца з прычыны махлярства іншых людзей – усё-ж паблажліва дапускае нясьведамае махлярства і не саромеецца, калі ёй зьвернуць увагу на някультурнасьць у якую яна выпэцкалася, быццам тая сьвіня ў балоце.

536 – Усё гэта праўдзіва, – сказаў ён.

– А што датычыцца памяркоўнасьці, – сказаў я, – адвагі, вялікадушнасьці і іншых частак мужнасьці, дык мы павінны розьніцу чыніць паміж тым, хто праяўляе шляхэтнасьць, а хто – подласьць. Бо там, дзе адсутнічае розьніца ў якасьці гаспадарства і прыватнага чалавека, там падсьведама выступае памылка; тымчасам гаспадарства кліча на становішча кіраўніка, а прыватная асоба – сябру, з тых, што ў той ці іншай ступені кульгаюць на адну нагу ў мужнасьці або подлымі зьяўляюцца.

– Вельмі трапна выражана, – сказаў ён.

– Затым, усе гэтыя рэчы, – сказаў я, – маюць быць зь вялікаю разважнасьцю дасьледжанымі намі; і, калі толькі тыя, каго мы ўвядзем у гэтую разьлеглую сыстэму адукацыі і навучаньня, знойдуцца на адпаведным узроўні гэтак з увагі на іх фізычны стан, як і на іхную мэнтальнасьць, тады сама справядлівасьць ня меціме нічога сказаць супроць нас, і мы тады знойдземся ратаўнікамі канстытуцыі, як і гаспадарства. Але, калі нашыя гадунцы акажуцца людзьмі іншага штампу, тады прыйдзе на нас нешта іншае, і гэтым выльем мы яшчэ большы паток пасьмешчышча на філязофію, чымся звальваецца на яе сягоньня.

– Было-б гэта бясслаўным, – сказаў ён.

– Напэўна не, – сказаў я; – але, здаецца зноў тут мне прытрапілася сьмешная рэч!

– Якая гэта? – запытаў ён.

– Я забыў, – сказаў я, – што мы ня былі дастаткова паважнымі і гаварылі з усхваляваньнем. Бо калі я ўгледзеў філязофію, незаслугоўваюча таптанаю пад людзкімі нагамі, я ня мог паўстрымацца ад пачуцьця абурэньня пад адрысам тых, што бясчэсьцяць яе – нагэтулькі злосьць учыніла мяне настырлівым.

– І запраўды, – сказаў ён. – Я вось слухаю цябе

і зусім не атрымлівалю гэтакага ўражаньня.

– Але я, як прамоўца, атрымаў гэтакае ўражаньне, – казаў я далей. – І цяперака дазволь мне прыпомніць вам, што, хоць раней і выбіралі мы старэйшых людзей, цяперака мы не павінны гэтага рабіць. Солён знаходзіўся пад уплывам зману, калі ён казаў, што чалавек, калі ён старэецца, можа шматлікае пазнаць і навучыцца – не, ён ня можа болей навучыцца гэтаксама, як і болей бегаць; маладосьць зьяўляецца крыніцаю для кажнага своеасаблівага чыну.

– Бязумоўна, – сказаў ён.

– З гэтае прычыны, калькуляцыя, ґэомэтрыя і розныя іншыя прадметы ўступнага пазнаньня, якія зьяўляюцца падрыхтоваю да дыялектыкі, павінны быць праддожаныя нашым старожам з раньніх дзіцячых гадоў, ня чынячы, аднак, прымусоваю нашую сыстэму адукацыі.

– Як гэта?

– А так, – сказаў я; – свабодны чалавек ня можа быць нявольнікам пры здабыцьці якое-колечы навукі. Фізычныя практыкаваньні, калі адбываюцца прымусова, не зьяўляюцца шкоднымі для цела; але навука, якая атрымліваецца пад прымусам, ня імаецца душы.

– Вельмі трапна выражана, – сказаў ён.

– Затым, мой добры дружа, – сказаў я, – ніколі ня ўжывай прымусу пры навучаньні дзяцей, але няхай раньняя адукацыя станецца свайго роду забаваю; та- 537
ды ты лепей спасьцеражэш натуральнае лучво паміж навукаю і ўспрыйманьнем яе.

– Гэта вельмі рацыянальная спасьцярога, – сказаў ён.

– Ці памятаеш ты, – сказаў я, – калі мы казалі, што дзеці гэтаксама павінны бачыць бітву на конях, і, што, калі адсутнічае пагроза для іх, яны павінны назіраць зблізка, каб, як маладыя псы, запазналіся з крывёю?

– Так, я памятаю, – сказаў ён.

– Гэты самы падыход, – сказаў я, – мусіць быць тасаваны ў натужлівай працы, у навуках і небясьпеках – і тыя, што будуць найболей абазнанымі з усім гэтым, павінны быць унесены на адумысны сьпісак.

– У якім веку? – запытаў ён.

– У веку, – сказаў я, – калі яны ўжо будуць звольненымі ад фізычных практыкаваньняў. Бо-ж на працягу гэтага часу, хай сабе трывае ён два ці тры гады, яны ня маюць ніякае магчымасьці займацца чым-небудзь іншым; а зноў-жа, сон і змучанасьць зьяўляюцца ворагамі навукі, дый апрача гэтага, як яны выявяць самых сябе ў гэтых практыкаваньнях, зьяў-

ляецца адным з галоўных нашых іспытаў.
– Пэўна, – пацьвердзіў ён.
– Пасьля гэтага, – сказаў я, – юнакі, выдзеленыя зь ліку дваццацілетніх, будуць абдораны высокімі гонарамі, а навукі, якія прайшлі яны бяз большага парадку ў іхнай ранейшай адукацыі, цяперака будуць унятыя ў вадну цэласьць гэтак, каб умагчыміць ім зразумець натуральнае павязаньне гэтых навукаў між сабою і іхныя суадносіны да праўдзівага быцьця.
– Так, сказаў ён, – навука толькі тады будзе моцнаю, калі яна здабудзецца гэткім спосабам.
– Абавязкава, – сказаў я; – і разьлегласьць гэтае навукі зьяўляецца найбольшым паказьнікам дыялектычных здольнасьцяў, бо ўсебакова агортваючы розум заўсёды зьяўляецца дыялектычным.
– Я згаджаюся з табою, – сказаў ён.
– Гэта ёсьць, – сказаў я, – тыя вытычныя пункты, якія ты мусіш браць пад увагу; і тыя юнакі, каторыя найболей маюць усебакова агортваючае кемнасьці, і тыя, каторыя зьяўляюцца найболей хуткімі ў навуцы, і стараннымі ў сваіх вызначаных ім вайсковых і іншых абавязках і, калі яны дойдуць да веку трыццаці гадоў, яны павінны быць вылучанымі з гэтае групы і ўзьнятымі да вышэйшых гонараў; і ты, пры помачы дыялектыкі, дасьведчыш іх, з мэтаю пазнаньня, хто зь іх зьяўляецца здольным, не зьвяртаючы ўвагі на зрок або іншыя змыслы, і падняцца да запраўднага быцьця. І тут, дружа мой, вымагацімецца вялікая асьцярожнасьць.
– Чаму вялікая асьцярожнасьць? – запытаў ён.
– Ці-ж не заўважыў ты, – сказаў я, – якое аграмаднае зло з сабою неся дыялектыка?
– Якое зло? – запытаў ён.
– Людзі, што займаюцца гэтым, – сказаў я, – перапоўнены бясправўнасьцю.
– І вельмі нават, – сказаў ён.
– Думаеш ты, – запытаў я, – што нічога няма ў гэтым ненатуральнага або недаравальнага ці заслугоўваючага на дараваньне?
– На якое дараваньне? – запытаў ён.
– Я выражу табе гэта, – сказаў я, – прыповесьцю: уяві сабе сына, падкінутага ў веку маленькага дзі-
538 цяці, і ўзгадованага ў багатай і вялікай сям'і; ён стаўся адным вялікае і ведамае сям'і, абкружаны лісьліўцамі, якія яму дагаджаюць. Калі ён стаўся дарослым юнаком, даведаўся ён, што ягоныя здаданыя бацькі не зьяўляюцца ягонымі запраўднымі бацькамі;

але ягоных натуральных бацькоў яму не ўдаецца знайсьці. Ці можаш ты здагадацца, як будзе ён адносіцца да сваіх лісьліўцаў і сваіх здадуманых бацькоў, перад усім, у пэрыядзе ягонае нясьведамасьці што да ягонага сваяцтва ў сям'і, а пасьля, зноў, калі ён пазнаў сваё палажэньне? А мо' хочаш ты, каб я табе сказаў, што я́ маю на ўвазе?

– Калі ласка, скажы, – згадзіўся ён.

– Я здагадваюся, – сказаў я, – што ў часе, калі ён астаецца ў нясьведамасьці што да акружаючае яго рэчаіснасьці, ён будзе адносіцца з пашанаю да сваіх здадуманых бацькоў, да свайго бацькі і маткі, і да свае блізкае радні – болей, чымся да тых, што лісьліва яму дагаджаюць; ён будзе праяўляць меней схільнасьці да занядбаньня сваіх бацькоў у часе патрэбы, або праяўляць сябе ў чыне ці ў слове дрэнна адносна іх; ён будзе меней ахвочым быць непаслухмяным ім у важнейшых справах.

– Гэта вельмі праўдападобна, – сказаў ён.

– З другога боку, калі ён пазна́е праўду, – я ўяўляю сабе, – ягоная пашана і ўвага да здадуманых бацькоў і сваякоў паслабне, а да тых, што лісьлівяць яму, узбольшыцца; іхны ўплыў на яго значна ўзмоцніцца; цяперака ён будзе жыць паводля іхнага спосабу жыцьця, і публічна пачне праяўляць сяброўства зь імі, а пра здадуманага свайго бацьку і гэтакіх-жа сваякоў зусім перастане клапаціцца, хіба што, паводля свае натуры, будзе ён добрым чалавекам і ахвочым.

– Усё гэта вельмі праўдападобным можа быць, – сказаў ён. – Але якое гэта мае дачыненьне да людзей, якія займаюцца разважаньнем?

– Вось якое: ты ведаеш, што існуюць прынцыпы адносна справядлівасьці і гонару, якія пазналі мы ў часе нашае навукі яшчэ ў дзіцячых гадох, і пад даглядам бацькоў, якіх слухаемся мы і шануем.

– Гэта праўда.

– Але ім супроцьпастаўлены іншыя клічы і звычаі, зьвязаныя з прыемнасьцямі, і яны сваімі прыцяжэньнямі цешаць нашую душу, але ня маюць уплыву на тых з нас, хто хоць крышку захоўвае стойкасьць, і далей астаецца паслухмяным і мае ў пашане запаветы бацькоў.

– Правільна.

– І далей, – сказаў я; – калі чалавек знаходзіцца ў гэтакім стане, і калі схільны да пытаньняў дух пытаецца: што гэта такое прыгожае? – чалавек адказа гэтак, як правадаўца навучыў яго, аднак, далей-

шае разважаньне запярэчыць гэтаму. Пры частых і рознародных запярэчаньнях, ён зьніжыцца ўжо да пагляду, што нічога не зьяўляецца ані крышку болей ганаровым, чымся неганаровае, або справядлівае ці добрае ані крышку болей, чымся іхныя супроцьлежнасьці. І гэтак рэч маецца з усім іншым, што́ ён мае ў пашане. Пасьля ўсяго гэтага, як ты думаеш, што станецца зь ягонаю паслухмянасьцю і аддаваньнем пашаны?

– Ня будзе ўжо ў яго гэтакае пашаны і гэтакага пераканаṅньня, – сказаў ён.

– Калі-ж ён перастане ўважаць усё гэта важным для яго і цэнным, як раней, – сказаў я, – а праўды
539 знайсьці ня будзе ў стане, тады ўзьнікае пытаньне, да якога-ж іншага спосабу жыцьця ён абернецца, калі не да таго, які будзе для яго лісьлівым?

– Кажны іншы спосаб немагчымым будзе, – сказаў ён.

– І са стану перасьцерагаṅньня права абернецца ён у чалавека, які ломіць яго.

– Напэўна.

– Выходзіць тады, што падобны стан ёсьць звомым для тых, што прыймаюць удзел у разважаньнях, і, як і гаварыў я раней, гэтакія людзі годнымі зьяўляюцца нашага спаўчуваньня.

– І нашае літасьці, – дадаў ён.

– Затым, каб твае пачуцьці не кіраваліся літасьцю адносна нашых грамадзян, што знаходзяцца ў веку трыццацілетнім, мы мусім прадпрыняць усякае стараньне пры ўводжваньні іх у дыялектыку.

– Напэўна, – сказаў ён.

– Дык ці-ж ня будзе адною са сталых перасьцярогаў, не дапусьціць, каб праяўленьне смаку да разважаньняў выступала за́малада? Бо юнакі, як магчыма і заўважыў ты, насілу скаштаваўшы смак гэтакіх разважаньняў, пачынаюць спрачацца дзеля самое забавы, а захапіўшыся супярэчнасьцямі і, ідучы сьледам за тымі, каторыя іх аспрэчваюць, самыя пачынаюць зьбіваць іншых, дазнаючы пра гэтым прыемнасьць з тае прычыны, што сваімі довадамі яны, быццам тыя шчаняты, рвуць на часткі ўсіх тых, хто толькі ім пападзецца.

– Так, тутака яны ня ведаюць сабе меры, – сказаў ён.

– І калі яны, – сказаў я, – дазна́юць шмат перамогаў і гэтулькі-ж паразаў з боку іншых, тады хутка хіляцца да поўнага запярэчаньня таго, што́ яны ўпапярэдніх сваіх цьверджаньнях утрымлівалі, а гэта, зноў, у вачох іншых людзей апаганьвае іх самых ды

адначасна ўсё тое, што адносіцца да сьвету філязофіі.

– Гэта правільна, – сказаў ён.

– Але, калі чалавек з гадамі стаецца болей сталым, ён ня будзе болей прыймаць удзелу ў падобнай дурніцы; ён будзе насьлядаваць тых дыялектыкаў, каторыя шукаюць праўду, а ня спрэчкі і ўпадаць у супярэчнасьць дзеля самое забавы. Рысы паўстрыманасьці ягонага характару, замест паніжацца, будуць узрастаць з гонарам ягонае дзейнасьці.

– Зусім правільна, – сказаў ён.

– І ці-ж не адносіцца да прадбачаных перасьцярогаў, аб чым мы ўжо раней гаварылі, што да абстрактных разважаньняў павінны дапускацца адно толькі ўраўнаважаныя і стойкія натуры, а ня так, як цяперака бяруцца за гэта як папала, у тым ліку і людзі, зусім неадпаведныя да гэтага.

– Я зусім згаджаюся, – сказаў ён.

– Прымем, – сказаў я, – што вывучаньне мастацтва разважаньня зойме месца фізычных практыкаваньяў і будзе праводзіцца старанна і паважна ў межах падвойнага ліку гадоў патрэбных для ґімнастыкі – ці хопіць гэтага часу?

– Маеш ты на ўвазе шэсьць гадоў ці чатыры гады? – запытаў ён.

– Гэта без значэньня. Скажам, пяць гадоў, – адказаў я. – Пасьля заканчэньня гэтага пэрыяду яны мусіцімуць зыйсьці зноў у тую пячору +/ і заняць ваенныя ці іншыя становішчы, свомыя для маладых людзей: гэткім спосабам яны займеюць жыцьцёвае дасьведчаньне. Апрача гэтага тут знойдзецца нагода сьцьвердзіць, ці, у вабліччу разнаякіх уплываў знойдуцца яны ўва ўсім стойкімі ці хілкімі. 540

– Колькі часу даеш ты на гэта? – запытаў ён.

– Пятнаццаць гадоў, – адказаў я. – І калі яны дойдуць да веку пяцідзесяці гадоў, тады тых зь іх, што асталіся пры жыцьці і адзначыліся ў кажнай дзейнасьці іхнага жыцьця, як і ў кажнай іншай галіне навукі, павінны перайсьці да часу апошняе мэты. Цяперака надыйшла пара, калі яны павінны ўзьняць вочы душы ў напрамку сусьветнага сьвятла, якое пасылае сваё зіяньне на ўсе рэчы, і агарнуць зрокам абсалютнае дабро; бо яно зьяўляецца наўзорам, паводля якога яны маюць упарадкаваць гаспадарства, жыцьцё паасобных людзей, як і сваё ўласнае. Маючы філязофію, як сваю галоўную мэту, цяперака, калі прый-

+/ Гл. б. 253.

дзе чарга на іх, яны павінны заняцца палітыкаю, кіруючыся грамадзкім дабром – не затым, каб мець на ўвазе нейкі гераічны чын, але проста, як свой абавязак. Гэтым, яны заўсёды будуць узгадоўваць людзей, падобных да іх самых, пакідаючы іх на сваіх мясцох з мэтаю далейшага кіраваньня гаспадарствам, а самыя яны адыйдуць на Абтокі Добраслаўленых, каб жыць там. Гаспадарства-ж уздыме на іхную памятку і гонар манумэнты, і увядзе аувяраваньні на іхны гонар, калі аракул Пытыі пацьвердзіць гэта, а калі не, дык, як у кажным іншым выпадку – як добраслаўленым і боскім людзям.

– Ты, Сакратас, скульптурам зьяўляешся, – сказаў ён, – прыгожа вылепліваючы створаных табою дзяржаўных кіраўнікоў.

– Так, Ґляўкон, – сказаў я, – і кіраўніц; усё, што я казаў, гэтаксама адносіцца і да жанчын, ані крышку меней, чымся да мужчын: ведама, да тых жанчын, каторыя абдораны на гэта натуральнымі здольнасьцямі.

– Тут правільна ты выражаешся, – сказаў ён, – калі жанчыны мецімуць аднолькавы ўдзел з мужчынамі, гэтак, як і казалі мы.

– Дык што? – сказаў я. – Вы згаджаецеся з тым, што ўсё, што было сказана адносна гаспадарства і ягонага ўраду, не зьяўляецца адно лятуценьнем. Ведама, усё гэта трудным ёсьць, але магчымым, і магчымым толькі пры перасьцераганьні таго, пра што гаварылася, інакш кажучы, калі ў гаспадарсьцьве кіраўнікамі стануцца запраўдныя філёзафы,+/ – хай сабе адзін ці будзе іх некалькі, – якія будуць пагарджаць тым, што сягоньня ўважаецца за гонары, у перакананьні, што яны зьяўляюцца нешляхэтнымі і безвартаснымі, кіраўнікі, якія трымацімуць у найбольшай пашане правільнасьць, і ўважацімуць справядлівасьць за як найвялікшую і найболей неабходную рэч, якое найвышэйшымі ўрадоўцамі яны зьяўляюцца, каторых прынцыпы будуць узбольшваць яе і каторыя прывядуць сваё ўласнае гаспадарства ў поўны парадак.

– Але як гэта станецца? – запытаў ён.

– Яны пачнуць з таго, – сказаў я, – што вышлюць
541 зь места ўсіх, каму болей як дзесяць гадоў, а дзяцей, што астануцца, адмежаваўшы ад узьдзеяньня нароваў свомым іхным бацькам, узгадуюць у духу сваіх звычаяў і правоў, гэта значыць у тых правох, пра якія мы гаварылі ўжо. Гэткім спосабам найлягчэй і

---

+/ Гл. б. 205.

найбарджджэй устабілізуецца лад, пра які мы гаварылі, гаспадарства расьцьвіце, а нацыя, якая будзе гэтак кіравацца, займее для сябе вялікую карысьць.

– Так, – сказаў ён, – аграмадную. А я́к гэта дойдзе да быцьця, калі наагул калі-небудзь урэчаісьніцца, дык ты, Сакратас, як мне здаецца, вельмі добра вырысаваў нам.

– Затым, – казаў я далей, – адносна гаспадарства і адказваючага яму чалавека, нагаварыліся мы цяпер ака даволі? Ясным ёсьць гэтаксама якім ён, паводля нашае думкі, мае быць.

– Ясным ёсьць, – адказаў ён. – І тое, адносна чаго ты ўзьняў пытаньне, як мне здаецца, дайшло да свайго завяршэньня.

543 – Вельмі добра. Мы з табою прыйшлі да выснав
Ґляўкон, што магчыма ў найляпей уладжаным гаспада
сьцьве жанкі павінны быць супольнымі, гэтаксама
і дзеці, дый усё іхнае ўзгадаваньне мае быць агул
ным; гэтаксама агульнымі будуць справы вайны і с
пакою; і каралямі будуць у іх найлепшыя ў філяз
фіі і найболей адзначаныя ў ваенным змаганьні.
– Так, да гэтага выснаву прыйшлі мы,– адказаў
– Так, – сказаў я, – гэтаксама і далей прыйш
мы да сузгоднасьці думкі, што вызначаныя кіраўні
возьмуць сваіх ваяроў і распадзеляць іх у тых п
мяшчэньнях, што да якіх мы ўжо раней гаварылі, ш
будуць агульнымі для ўсіх; і ніхто ня меціме ні
га ўласнага, але ўсё ў іх будзе агульнае. А якая і
ная ўласнасьць мае быць, дык ты памятаеш, мы і ў
тым згадзіліся? +/
– Ведама, памятаю, – сказаў ён; – мы трымаліс
таго пункту гледжаньня, што ніхто не павінен ме
уласнасьці, як гэта ўсе людзі робяць цяперака, а
будучы атлетамі ваеннага змаганьня і нашымі стар
жамі, яны маюць атрымліваць ад усіх іншых грамад
гадавую ўзнагароду ў хворме харчоў дзеля іхнага
ўтрыманьня, і абавязкам іхным будзе, клапаціцца
самых сябе і даглядаць усё гаспадарства.
– Ты правільна кажаш, – сказаў я. – І цяперак
калі распадзел нашых абавязкаў дакананы, варта зн
сьці тое месца нашае дыскусыі, дзе мы завярнулі
пуцьцявіну, якая прывяла нас сюды, каб згэтуль зн
вярнуцца на стары шлях разважаньня.
– Гэта нятрудна, – сказаў ён. – Ты закончыў св
разважаньне пра ўладжаньне гаспадарства прыблiз
гэтакімі-ж самымі словамі, як і цяперака: ты ск
заў, што гэтакае гаспадарства было добрым і, ш
чалавек, які адпаведным быў для яго, гэтаксама б
544 добрым, хоць вось як і цяперака выглядае, ты мо
бы мець на ўвазе яшчэ болей дасканалыя рэчы, як
адносяцца гэтак да гаспадарства, як і да чалавек
І ты сказаў далей, што, калі гэтакая гаспадарс

+/ Гл. бб. 127, 128.

цьвеная хворма правільнаю зьяўляецца, тады ўсе іншыя зьяўляюцца заганнымі. І наколькі я памятаю, адносна заганных хвормаў ты сказаў, што існуюць чатыры віды заганнага гаспадарсьцьвенага ладу і, што варта было-б іх разгледзець, каб пабачыць і дасьледзіць іх. Калі мы разгледзелі ўсе характары і нарэшце прыйшлі да сузгоднасьці што да таго, хто быў найлепшым зь іх і хто найгоршым, тады пачалі мы разважаць, ці праўдаю ёсьць, што найлепшы чалавек – гэта шчасьлівы чалавек, а найгоршы – самы мізэрны; а мо' рэч маецца інакш? І калі я паставіў пытаньне, пра якія гэта хвормы гаспадарсьцьвенага ладу ты гаворыш, тут нас перапынілі Полемархос з Адэімантосам і ты павёў зь імі гутарку, аж пакуль мы не апынуліся на гэтым месцы.

– Ты дакладна прыпамінаеш, – сказаў я.

– Дык вось, падобна, як барэц, – сказаў ён, – займе зноў тую самую паставу, дазволь і мне паставіць табе тое самае пытаньне, і ты дасі мне той самы адказ, які меўся ты мне даць тады.

– Добра, – сказаў я, – калі толькі змагу.

– І я вельмі жадаю сабе, – сказаў ён, – пачуць ад цябе, што сабою прадстаўляюць гэтыя чатыры канстытуцыі.

– На гэтае пытаньне, – сказаў я, – няцяжка адказаць: я гавару пра тыя канстытуцыйныя хвормы, якія зьяўляюцца агульна ведамымі, зь іх у першую чаргу трэба назваць крэтскую і лякедаймонскую, якія цешацца агульным узнаньнем; на другім месцы, меней папулярнаю, зьяўляецца аліґархія, якая зьяўляецца ўрадам невялікае групы людзей і перанасычанаю ёсьць злом. Наступная, пасьля гэтае, выступае дэмакрацыя, якая выток свой бярэ з аліґархіі, хоць вельмі розьніцца ад яе. І напасьледак, прыходзіць тыранія, вялікая і ведамая, якая сваею хвормаю значна розьніцца ад усіх папярэдніх і зьяўляецца чацьвертаю і найбольшаю хворасьцю гаспадарства. Магчыма маеш ты якую-небудзь іншую хворму гаспадарсьцьвенага ладу, якая болей выразна выступала-б у сваіх абрысаваньнях? Можа праявіцца якая-небудзь улада на прынцыпе спадкабернасьці або тая, якая прадаецца ці купляецца за грошы, або якая-небудзь іншая ўлада пераходнага часу, але ўсе гэтыя зьяўляюцца нявыразнага характару, якія спатыкаюцца гэтак сярод гэльленаў, як і барбараў.

– Так, – адказаў ён, – шмат чуваць пра дзівосныя хвормы ўрадаў, якія існуюць сярод людзей.

– І ведаеш ты, – сказаў я, – што розныя людзі

праяўляюць гэтулькі відаў духовага складу, колькі існуе разнавідных хвормаў гаспадарсьцьвенага ладу. І ты не павінен думаць, быццам кастытуцыі радзяцца з дуба або са скалы; не, яны выток свой бяруць з нароваў людзей у гаспадарсьцьве, і якія, быццам на шалі вагі, перацягваюць на свой бок іншых.

– Так,–сказаў ён. – Гаспадарствы зьяўляюцца вытворам людзей і носяць у сабе людзкі характар.

– Цяперака, калі гаспадарсьцьвеных канстытуцыяў ёсьць пяць, дык і нароваў людзкіх адзінак павінна быць гэтаксама пяць?

– Дык што?

– Таго, хто адпаведным зьяўляецца для арыстакрацыі, мы ўжо разглядзелі і слушна прызналі яго добрым і справядлівым.

545 – Так, мы ўжо яго разглядзелі.

– Цяперака трэба нам апісаць горшага прадстаўніка натуры, ведамага, як задзірысты і ганарысты, які найболей адказвае лякедаймонскаму канстытуцыйнаму ладу; а пасьля чалавека аліґархічнага, дэмакратычнага і тыранскага. Затым, давай паставім найболей справядлівага чалавека побач найболей несправядлівага, каб гэткім спосабам прыгледзіўшыся ім, сталіся мы здольнымі параўнаць адноснае шчасьце і няшчасьце таго, хто вядзе жыцьцё чыстае справядлівасьці і чыстае несправядлівасьці. І гэтым даведаемся, ці павінны мы апавясьціцца за несправядлівасьцю, гэтак як Трасімахос раіць нам, ці баржджэй, у сузгоднасьці з выснавам нашага арґумэнту, перасьцерагаць справядлівасьць.

– Напэўна, – адказаў ён, – мы мусім учыніць гэтак, як ты кажаш.

– Найляпей ісьці паводля нашага старога пляну, які мы прынялі, з тае прычыны, што ён болей выразны, бяручы перш пад развагу гаспадарства, а пасьля пераходзячы да асобы, і распачаць з ураду гонару. [У грэцкай мове] я не магу знайсьці адпаведнага слова для абазначэньня гэтакага ўраду – хай сабе будзе ім цімакрацыя або цімархія. І ў лучнасьці зь ім мы разгледзім характар у паасобным чалавеку; пасьля гэтага, мы затрымаемся над аліґархічным чалавекам; а тады, зноў, пяройдзем да дэмакрацыі і дэмакратычнага чалавека, і напасьледак, паўзіраемся на гаспадарства, якое кіруецца тыраніяю, і яшчэ раз учынім угляд у тыранскую душу, каб гэткім спосабам дайсьці да здавальняючага нас выснаву.

– Я мушу сказаць, – адцеміў ён, – што гэтакі ўгляд быў-бы пасьлядоўным і адпаведным.

– Перад усім, – сказаў я, – трэба спробаваць высьніць, якім спосабам цімакрацыя ўзьнікла з арыстакрацыі. Ясна, што ўсе палітычныя зьмены пачатак свой бяруць з распадзелу дадзенае кіруючае ўлады; урад задзіночаны, і гэта бяз розьніцы, як малым ён можа быць, астанецца непахісным.

– Гэта правільна.

– І што́-ж, Ґляўкон, можа пахіснуць нашае гаспадарства, – сказаў я, – і аб чым могуць спрачацца між сабою ўспамагатыя і кіраўнікі? А мо', калі хочаш, мы можам, як Гомэр, зьвярнуцца з просьбамі да Музаў, каб яны прадвесьцілі нам, як упяршыню ўзьнік закалот? Ці маем мы ўявіць сабе, як яны пачнуць адказваць нам, прыняўшы паважную паставу, на манер трагічны і быццам з належнаю павагаю, а ў грунце рэчы, будзе гэта толькі жарт зь іхнага боку, і яны будуць пацьвяляцца з намі, як зь дзяцьмі.

– І з чым яны зьвернуцца да нас? 546

– А вось, зь нечым падобным: Цяжка пахіснуць гаспадарства гэтак пабудаванае. Але бачучы, што кажная рэч, якая мела свой пачатак, гэтаксама меціме свой канец, затым, нават гэтакая канстытуцыя, як твая, ня будзе існаваць на векі вечныя, але ў вадпаведным часе распусьціцца. І вобраз распушчэньня гэтакі ёсьць: – У расьлінах, што растуць на зямлі, гэтаксама і ў зьверах, што рухаюцца па твару зямлі, плоднасьць як і бясплоднасьць душы і цела знаходзіць месца тады, калі кругаварот даходзіць да поўнага завяршэньня дадзенага цыклю, які ў кароткажывучых існаваньнях зьяўляецца кароткім, а ў доўгажывучых – доўгім. Але ўсяго веданьня людзкага плоданошаньня як і бясплодзьдзя ўся мудрасьць разам з адукацыяю вашых гаспадарсьцьвеных кіраўнікоў ніколі не асягне. Правы, якія рэгулююць іх, ня будуць вынайдзенымі на дарозе інтэлекту, які лучыцца са змысламі, і высьлізнуцца ім, і яны будуць радзі́ць на сьвет дзяцей для вашага роду ў пары́, няпрызначанай для гэтага. Цяперака, для боскае нашчаднасьці існуе кругаварот, які зьмяшчае ў сабе дасканалы лік, але кругаварот людзкага нараджэньня агорнуты лікам, у якім, першым з усіх, узрастаньне ў квадратныя і кубічныя ступені, якія зьмяшчаюць у сабе тры інтэрвалы і чатыры міжмежнасьці падобнасьці і непадобнасьці, росту і страты, што творыць усё падлікавым і сузгодным адно з адным. З гэтых лікаў чатыры траціны, злучаныя зь лічбаю пяць, пасьля трох узбольшаньняў, створаць два гарманічныя спалучэньні: адно спалучэньне аднабочнае, гэта значыць, сто

разоў гэтак вялікае, а другое – з гэтакаю-ж даўжы-
нёю, але ўздоўжанае; інакш кажучы, лік дыямэтраў
пяці, што могуць быць выяўленымі, бярэцца сто ра-
зоў з вылічэньнем кажны раз адзінкі, з выяўленых
адлічваецца па двойцы і яны сто разоў бяруцца ку-
бам тройкі. Усё разам – гэта ґэомэтрычны лік, і ён
мае вырашальнае значэньне, хай сабе для лепшае ці
горшае якасьці народзінаў. Бо, калі нашыя старожы
знойдуцца нясьведамымі адносна правоў народзінаў,
і жаніхі зыйдуцца з маладымі не ў вадпаведным для
гэтага сэзоне, дык не народзяцца дзеці з добрымі
натуральнымі нахіламі і з шчасьліваю доляю. І хоць
толькі найлепшыя зь іх будуць назначаны на стано-
вішчы сваіх папярэднікаў, усё-ж яны ня знойдуцца
годнымі займаць месцы сваіх бацькоў, і пасьля,ка-
лі яны, як старожы, дойдуць да ўлады, хутка яны
знойдуцца бясьсільнымі, каб распасьцерці апеку над
намі. Музычных мастацтваў, гэтаксама як і ґімнас-
тычных яны не дацэняць, і з гэтае прычыны зь іх бу-
дзе меней адукаваных, а тымчасам зь іхнага асяро-
дзьдзя выйдуць гаспадарсьцьвеныя кіраўнікі, ня вель-
мі здольныя, каб сьцерагчы і выпрабоўваць Гэзіёда-
савыя пакаленьні, бо-ж і ў вас яны розныя, гэта зна-
547 чыць, і залатыя, і сярэбраныя, медныя і жалезныя.
У выніку гэтага,жалеза будзе зьмешвацца з серабром,
а медзь – з золатам, а згэтуль прыйдзе непадоб-
насьць, няроўнасьць і нарушэньне парадку, што заў-
сёды і на ўсіх мясцох спрычыняе закалот і вайну. І
тут, Музы кажыць нам, знаходзіцца пакаленьне, зь я-
кога родзіцца закалот, дзеколечы і калiколечы зда-
рыцца гэта; вось гэтакі ёсьць іхны адказ для нас.
– І зусім трапна, маглі-б мы сказаць, яны ад-
казваюць.
– І гэта, – сказаў я, – зусім натуральна, затым
бо яны і Музамі зьяўляюцца.
– І што далей кажуць Музы? – запытаў ён.
– Калі закалот узьняўся, – сказаў я, – дык гэта
азнакаю ёсьць, што два роды цягнулі ў свой розны
бок: жалезны і медны цягнуў у напрамку прагавіта-
сьці, да здабыцьця грошай і зямлі, дамоў, залата і
серабра; але залаты і сярэбраны род ня імкнуўся да
прагі грошай, але, маючы свае ўласныя натуральныя
багацьці, хіліўся ў бок мужнасьці і старавечнага
парадку ўладжаньня. Паміж імі ўзьнікла змаганьне,
пасьля чаго прыйшлі яны да сузгоднасьці распадзелу
іхнае зямлі і іхных дамоў паміж паасобнымі ўлась-
нікамі; і яны паняволілі сваіх сяброў і тых, каго
раней яны падтрымлівалі ў абставінах свабоды, і

ўчынілі зь іх падданых сабе і батракоў, і хатніх слугаў, а самыя-ж заняліся вайною і сторажаваю службаю.

- Так, сказаў ён, - гэта паказвае на тое, скуль зьіначаньне ўзяло свой пачатак.

- І гэтакі гаспадарсьцьвены лад, - сказаў я, - зьяўляецца нечым пасярэднім паміж арыстакрацыяю і аліґархіяю.

- Напэўна.

- Гэтак прыйшло да быцьця зьіначаньне. І пасьля таго, як зьіначаньне знайшло сабе месца, як-жаж будуць рэчы далей разьвівацца? Праўдападобна, часткава будзе гэта насьлядаўніцтва папярэдняга ладу, часткава аліґархіі, калі мае ўсё заняць прамежнае палажэньне, але нешта астанецца ў іх і сваё свомасьці, сваеасаблівае.

- Напэўна, - сказаў ён.

- У прадмеце праяўленьня пашаны кіраўнікам і ў тым, што абаронцы краю будуць паўстрымлівацца ад земляробскіх працаў, рамесьніцкіх і іншых хвормаў нажывы, у наладжваньні аднак сумесных спажываньняў ежы, у фізычных практыкаваньнях і ваеннай падрыхтове - у гэтым дачыненьні гаспадарства гэтае будзе насьлядаваць папярэдні лад.

- Так.

- Там будуць баяцца даваць гаспадарсьцьвеныя пасады мудрым людзям, затым, што там ужо ня будзе гэтакіх прастадушных і шчырых людзей, а толькі людзі зьмешанага нарову; там будзе наяўнаю схільнасьць у бок тых, што палáцімуць духам ненавісьці, як тых прастакоў, што роджаны бархджэй для вайны, чымся для супакою; там будуць у вялікай пашане хітрыкі і падступствы з падстаўляньнем нагі, зь вядзеньнем бязупынных войнаў. Вось якімі будуць шматлікія сваеасаблівасьці гэтага гаспадарства. 548

- Алé.

- Так, - сказаў я; - гэтакага роду людзі будуць прагавітымі на грошы, як гэта і маецца рэч пры аліґархічным ладзе; у зацьменьні свайго розуму, яны, як дзікуны, сьвятасьцю дораць золата і серабро, у іх уладжаны каморы і хітрыя хатнія схóвішчы, каб усё гэта хаваць, свае аселішчы яны абкружваюць агарожаю і тамака, проста такі быццам у сваім уласным логве, трацяць грошы, ня лічачыся з марнатраўнасьцю на жанчын і на ўсё іншае, што толькі яны захочуць.

- Гэта найболей трапна сказана, - дакінуў ён.

- І яны вельмі скупыя са сваімі грашыма, бо яны высака цэняць іх, хаваючы, і адначасна ласыя пажы-

віцца на чужы кошт. Яны радуюцца ў сваіх прыемнасьцях патайком, і ўцякаюць ад права, быццам тыя дзеці ад суворага бацькі: бо-ж узгадаваў іх ґвалт, а не ласкавае пераконваньне, а гэта затым, што яны пагардліва адносіліся да праўдзівае Музы, да тае, што зьяўляецца сяброўкаю розуму і філязофіі, а фізычныя практыкаваньні ўздымалі вышэй за музычнае мастацтва.

– Няма сумліву, – сказаў ён, – што ты гаворыш пра гаспадарсьцьвены лад, у якім зло зьмяшалася з дабром.

– Так, сумесь, – сказаў я, – і ў ёй усё зьмешана; адзіная толькі рэч, і яна адна кідаецца ў вочы – гэта грызьня і прагнасьць самапашаны, бо там пануе дух лютасьці.

– Гэта вельмі спасьцярожна, – сказаў ён.

– Гэтакім ёсьць выток, – сказаў я, – характару гаспадарства, якое абгаварылі мы ў вагульных абрысаваньнях; большае ахварменьне ня ёсьць патрэбным, бо-ж і так відавочным стаецца тып найболей дасканала справядлівага, як і найболей дасканала несправядлівага; а паддаваць пад аналіз усе гаспадарствы,як і характары ўсіх людзей, не абмінаючы аніводнага зь іх, была-б гэта бясконцая праца.

– Ты маеш рацыю, – сказаў ён.

– Цяперака, які чалавек адпавядаціме гэтакаму гаспадарсьцьвенаму ладу? Скуль ён узяўся? І якія будуць ягоныя характэрныя рысы?

– Я думаю, – сказаў Адэімантос, – што ён, паводля свайго імкненьня, абавязкава выразьніцца, будзе падобны да нашага сябры Ґляўкона.

– Магчыма, – адказаў я, – што на гэтым пункце ён зыходзіцца зь ім; але ў іншым дачыненьні ён вельмі розьніцца ад яго.

– У якім дачыненьні?

– Ён ёсьць болей самаўпэўненым і, хоць меней адукаваны, усё-ж зьяўляецца прыхільнікам культуры; ён можа быць добрым слухачом іншых, аднак сам у слове астаецца няздольным. Гэтакі чалавек схільным ёсьць жорстка абыходзіцца зь нявольнікамі, аднакжа, з прычыны свайго добрага ўзгадаваньня, ён ня грэбуе імі; і будзе ён далікатным у абыходжаньні з вольнымі людзьмі, а ўладам асабліва будзе паслухмя-
549 ны; ён зьяўляецца імклівым на высокія становішчы і любіць, калі праяўляюць адносна яго гонары; ён уважае, што падставаю да ўлады павінна быць ня здольнасьць гаварыць, або нешта падобнае, але факт, што ён зьяўляецца жаўнерам і мае заслугі на гэтым полі,

затым бо ён і любіць ґімнастыку і паляваньне.

– Так, – сказаў ён; – гэтакі характар якраз і разьвіваецца пры падобным гаспадарсьцьвеным ладзе.

– Гэтакі чалавек, – сказаў я, – у сваіх маладых гадох з абрыдласьцю адносіцца да грошай; але чым старэйшым ён стаецца, тым болей горнецца да іх, бо ён мае нейкую частку ненажэрлівасьці ў сабе ды яшчэ дадатак зьнеахвочаньня да мужнасьці, згубіўшы свайго найлепшага старожу.

– Што гэта за старожа? – запытаў Адэімантос.

– Філязофія, – сказаў я, – спалучаная з мўзыкаю; толькі прысутнасьць у чалавеку таго і гэтага зьяўляецца ратаўнікомягонае мужнасьці на працягу ўсенькага жыцьця.

– Прыгожа кажаш ты, – сказаў ён.

– Гэтакі малады чалавек, – сказаў я, – зьяўляецца тымакратычным юнаком і падобным ёсьць да тымакратычнага гаспадарства.

– І вельмі нават.

– Вось, – сказаў я, – ягоны першапачатак: – часта ёсьць ён сынам добрага бацькі, які жыве ўнядобра ўладжаным гаспадарсьцьве, перад гонарамі якога ён ухіляецца гэтаксама як і ад прыняцьця становішча, і ад судовых справаў, і ад усіх іншых падобных турботаў; пяршынства ён аддае супакойнаму жыцьцю, каб толькі ня мець клопатаў.

– І якое гэта мае ўзьдзеяньне на ягонага сына?- запытаў ён.

– Перад усім, – сказаў я, – ягоны характар разьвіваецца ў атмасфэры, калі ён чуе, як маці наракае, што яе муж ня мае становішча ў урадзе, у выніку чаго яна дазнае паніжэньне сярод жанчынаў. І далей, яна бачыць, што яе муж ня вельмі шманае пра грошы, не бароніцца перад крыўдзіцелямі ані ў судох, ані ў зграмаджэньнях, прыймаючы супакойна ўсё тое, што здарыцца зь ім; калі яна спасьцерагае, што ён турбуецца адно толькі пра сябе, а яе нявельміпаважае, хоць, што праўда, і ня крыўдзіць. Усё гэта яна адчувае цяжарам, і тады кажа сыну, што ягонаму бацьку не хапае адвагі, што ён ня мае ў сабе мужчынскасьці і ўсё ўспрыймае абыякасна і гэтак далей, інакш кажучы, усё тое, што ў падобных выпадках жанчыны любяць выгалошваць.

– Так, – сказаў Адэімантос, – яны заўсёды гэтакія, і нараканьні іхныя падобныя да іх самых.

– І ты ведаеш, – сказаў я, – што ў гэтых людзей іншы раз і слугі поўшэптам гавораць сыну падобныя рэчы; і калі яны бачаць каго-небудзь, хто вінаваты

ягонаму бацьку грошы, або крыўдзяць яго ў які-небудзь спосаб і, калі ён не падае на каго-небудзь
550 са сваіх крыўдзіцеляў у суд, тады яны падмаўляюць юнака, што, калі ён толькі падрасьце, ён мусіць адпомсьціць гэткім людзям, і стацца болей адважным, чымся ягоны бацька. Тады, чуючы і бачучы падобныя рэчы, юнак, з другога боку, прыслухваецца і да таго, што кажа ягоны бацька, выразна бачыць чым займаецца апошні наўсуперак свайму асяродзьдзю, і затым усё гэта ўзьдзейвае на яго. Гэткім спосабам пад уплывам бацькі, у ім разгортваецца і мацнее разумны пачатак душы, а пад уплывам іншых людзей дасьпевае супроцьлежнае пачуцьцё, і гэтак, з прычыны свае натуры, ён нядрэнны чалавек, адно толькі, апынуўся пад уплывам дрэннага асяродзьдзя; затым, уплывы гэтыя пхаюць яго на нейкі прамежны шлях, і ён паддаецца пад кіраўніцтва нечага сярэдняга – схільнасьці да супраціву і лютасьці. Тут ляжыць прычына, чаму ён стаецца ганарыстым і да ўлады імклівым.

– Як мне здаецца, – сказаў ён, – ты зусім добра вытлумачыў, як хвармуецца ягоны характар.

– Гэткім спосабам, – сказаў я, – мы маем другі з чаргі гаспадарсьцьвены лад і адпаведнага для яго чалавека.

– Так, маем, – сказаў ён.

– Далей, давай паглядзімо на іншага чалавека, пра якога Айсхілёс кажа: "Узьняўся іншы муж над іншым местам"; +/ або барджэй, паводля нашага разьмеркаваньня, разгледзім перш само гаспадарства.

– Гэтак ляпей будзе. – адказаў ён.

– Я думаю, што ў сваей чарговасьці павінна быць цяперака аліґархія.

– І якую-ж хворму ўладжаньня, – сказаў ён, – ты абазначаеш, як аліґархія?

– Гэта гаспадарсьцьвены лад, які абасноўваецца на ацэне маемасьці і ў якім сілу мае багаты чалавек, а бедны пазбаўлены яе.

– Цяпер я разумею, – сказаў ён.

– Ці маю я затрымацца над тым, як адбываецца пераход з цімакрацыі ў аліґархію?

– Калі ласка.

– Дый сьляпому відавочным ёсьць, – сказаў я, – як пераход знаходзіць сабе месца.

– Як?

– Награмаджэньне золата ў кладоўках прыватных людзей зьяўляецца згубаю для цімакрацыі; яны перад усім вынаходзяць нелегальныя спосабы ўжываньня яго;

+/Айсхілёс, "Сем супроць Тэбаў", 45I і 570.

бо калі яны што робяць або іхныя жанкі, ці-ж яны лічацца з правам?

– Якраз гэтак, – сказаў ён.

– Затым, чалавек, бачучы, як іншы багацее, сам ідзе на перагонкі зь ім, і гэтым шырокія масы грамадзян падсьцёбваюцца да любові да грошай.

– І гэта вельмі дакладна сказана.

– І гэтак яны што раз болей і болей багацеюць, і чым болей яны думаюць як узбагаціцца, тым меней думаюць яны пра мужнасьць; бо калі багацьце і мужнасьць ускладваюцца адначасна на дзьве шалі вагаў, заўсёды адна зь іх уздымаецца ўверх, а другая апускаецца ўніз.

– Зусім гэтак, – сказаў ён. 551

– І прапарцыянальна да таго, наколькі ў гаспадарсьцьве шануюць багацьці і багатых людзей, нагэтулькі не паважаюць мужнасьці і мужных людзей.

– Ясна.

– І тое, што́ шануецца, тое і падтрымліваецца, а тое, што́ не паважаецца, занядбоўваецца.

– Якраз гэтак рэч маецца.

– І ў выніку, замест таго, каб маральна ўзрастаць і стацца годным славы, разьвіваецца нахіл да зьдзірства ў гандлю і нажывы грошай; людзі кіруюць свой зрок у напрамку багатага чалавека і ўздымаюць яго да годнасьці кіраўніка ў гаспадарсьцьве, а беднага акрываюць няславаю.

– Так, яны чыняць гэта.

– Пасьля гэтага яны твораць права, якое вызначае суму грошай, як абумоўленасьць грамадзянства; паводля гэтае абумоўленасьці – сума можа быць вышэйшая на адным месцы і ніжэйшая – на іншым, у залежнасьці ад вылучнасьці аліґархіі; і яны нікому не дазваляюць прыймаць удзелу ў урадзе, каго ўласнасьць знаходзіцца ў вацэне ніжэйшаю за прадбачаны мінімум. Гэткага роду гаспадарсьцьвены лад падтрымліваецца пры помачы збройных сілаў, калі запалохваньне не займела яшчэ свайго ўзьдзеяньня. Ці-ж ня так гэта ёсьць?

– Якраз гэтак.

– Агульна кажучы, гэтак вось прыходзіць да быцьця аліґархія.

– Так, сказаў ён; – але якую лад гэты мае мэтанакіраванасьць і ў чым заключаецца тая заганнасьць, якая, як мы сказалі, свомаю ёсьць для яго? +/

– Перад усім, – сказаў я, – галоўная загана – гэта абумоўленасьць, на якой ён пабудаваны. Толькі

+/ Гл. Пол., ~~544~~, бб. 288 і 289.

падумай, што здарылася-б, калі-б стырнічых вадаплаваў выбіралі на падставе іхнае маемасьці, а беднага чалавека не дапусьцілі-б да стырнаваньня, нават тады, калі-б бедны быў болей дасьведчаны ў стырнаваньні?

– Маеш ты на ўвазе, – сказаў ён, – разьбіцьцё іхнага вадаплаву?

– Так; і ці-ж не адносіцца гэта да кажнае рэчы, якая вымагае кіраўніцтва?

– І я гэтак думаю.

– За выняткам гаспадарства? – а мо' і да гаспадарства гэта адносіцца?

– І перад усім да гаспадарства, – адказаў ён, – тым болей, што кіраваньне гаспадарствам зьяўляецца найбольшаю справаю за ўсе і найболей труднаю.

– Вось гэта, затым, было-б першым і найбольшым недахопам аліґархіі.

– Выглядае гэтак.

– А ці-ж далейшае, не зьяўляецца гэтаксама заганаю?

– Якая загана?

– Няўхільны распадзел: гэтакае гаспадарства ня будзе адным, але двума гаспадарствамі – адно будзе гаспадарствам бедных, а другое – багатых людзей; дый хоць яны і жывуць на адным і тым самым месцы, аднак-жа заўсёды будзе адно згаварвацца супроць другога.

– Запраўды, – сказаў ён, – і гэта ня будзе меншаю заганаю.

– Дый яшчэ і тое ў іх нядобрым ёсьць, што яны бадай што ня будуць здольнымі весьці якую-небудзь вайну, бо няўхільна ў такім выпадку атрымалася-б: калі яны ўзброяць масы людзей, яны будуць болей баяцца гэтых людзей, чымся ворага; калі, у іншым выпадку, яны не паклічуць гэтых людзей у гадзіну бітвы, тады яны стануцца праўдзівымі аліґархамі – нелікімі ў змаганьні, як яны зьяўляюцца некалькімі ў кіраўніцтве гаспадарствам. З другога боку, будучы прагавітымі на грошы, яны неахвочымі былі-б плаціць падаткі на вайну.

– Усё гэта няпрыгожым ёсьць!

– І гэтак, як казалі мы раней, пры падобным гаспадарсьцьвеным ладзе адны і тыя самыя людзі будуць
552 мець некалькі заняткаў – яны будуць і земляробамі, і гандлярамі, і жаўнерамі: усім у вадным. Ці ёсьць гэта добраю рэчаю?

– Ані ў якім выпадку.

– І яшчэ паўзірайся; ці-ж ня пры гэтакім якраз

ладзе дапушчаным будзе зло найбольшае з усіх існуючых?

– Якое зло?

– Адзін чалавек можа прадаць усё, што ён мае, а іншы – прыдбаць сабе ягоную ўласнасьць; а прадаўшы, ён можа жыць у тым-жа гаспадарсьцьве, не належучы да ніякага стану – ня будзе болей ані гандляром, ані рамесьнікам, ані коньнікам ці гоплітым, але адно бязрадным бедняком.

– Так, гэта і ёсьць тое зло, якое перш пачынаецца ў гэтакім гаспадарсьцьве.

– Тут нічога не стаіць на перашкодзе гэтакаму злу; бо якраз сярод алігархаў назіраем зьявішча супроцьлежнасьці: празьмерна багатых людзей і скрайнае галечы.

– Правільна.

– І зноў падумай: у днях ягонага багацьця, калі ён выдаваў свае грошы, ці прыносіў ён якую-небудзь карысьць гаспадарству ў тым сэнсе, як мы толькі што гаварылі? А мо' ён адно выдаваўся, быццам належыць да правячага кола, а ў грунце рэчы, ня быў ён ані кіраўніком, ані грамадзянінам, а проста марнатраўцам гатовага?

– Так, як і кажаш ты, ён толькі ўражаньне рабіў кіраўніка, а фактычна быў марнатраўцам.

– Тады, – сказаў я, – ці-ж ня можам мы зрабіць выснаву, што ён зьўляецца трутнем у хаце і прычынаю хваробы ў гаспадарсьцьве, падобна, як труцень на пчаліных сотах, што прыносіць хваробу для вульля?

– Дый як-жаж інакш, Сакратас? – сказаў ён.

– Усіх трутняў з крыламі, Адзімантос, Бог стварыў без джалаў; але некаторыя трутні, што ходзяць на двух нагах, маюць страшэнныя джалы, хоць ёсьць такія, што ня маюць іх. Тыя, што ня маюць джалаў, на працягу ўсяго свайго жыцьця – гэта беднякі, а з тых, што надзелены джаламі, выходзяць тыя, якія клясыфікуюцца, як праступнікі.

– Шчырая праўда, – сказаў ён.

– Тады, ясным ёсьць, – сказаў я, – што, дзекалечы ты бачыш беднякоў у гаспадарсьцьве, там заўсёды недзе хаваюцца зладзеі і тыя, што выкройваюць кішэні, апаганьваюць сьвятыні, і ўсякія іншыя праступнікі.

– Гэта ясна, – сказаў ён.

– Добра, – сказаў я, – а ў алігархічных гаспадарствах, ці-ж ты не спасьцерагаеш беднякаў?

– Так, – сказаў ён, – бадай што кажны чалавек

зьяўляецца бедняком, за выняткам урадоўцаў.

– Ці-ж будзем мы памыляцца, – сказаў я, – цьвердзячы, што сярод іх многа ёсьць і крыміналістых з джаламі, якія паўстрымліваюцца натугамі ўладаў?

– Не, мы ня будзем памыляцца, – сказаў ён.

– Прысутнасьць гэтакіх людзей трэба аднесьці да недахопу адукацыі, дрэннага ўзгадаваньня і дрэннага гаспадарсьцьвенага ладу.

– Так, з прычыны недахопу.

– Гэтакаю, тады, зьяляецца хворма і гэтакімі зьяўляюцца злыбеды аліґархіі, дый магчыма яшчэ болей.

– Вельмі праўдападобна, – сказаў ён.

553 – Тады, разгляд аліґархіі, – сказаў я, – або аліґархічнае канстытуцыі, на падставе якой выбіраюцца кіраўнікі з прычыны іхнага багацьця, хай будзе гэтым закончаны. Давайце цяперака пяройдзем да разважаньня адносна натуры і паходжаньня самога чалавека, які адказвае гэтакаму гаспадарству.

– Так, гэта трэба разгледзець, – сказаў ён.

– Ці-ж не зьіначваецца цімакратычны чалаек у аліґархічнага гэткім спосабам?...

– Якім?

– У прадстаўніка цімакратычнага ладу нарадзіўся сын: спачатку ён стараецца насьлядаваць бацьку і ісьці за ім крокам у крок, а пасьля спасьцерагае, што бацька, судырыўшыся раптам з гаспадарствам, быццам з падводнаю скалою, згубіў усё, што меў; падобная рэч можа здарыцца, калі бацька быў, напрыклад, стратэґам або займаў якое-небудзь іншае высокае становішча, а пасьля трапіў пад суд з прычыны паклёпнікаў і быў засуджаны на сьмерць або на выгнаньне, або на пазбаўленьне грамадзянства і канфіскату маемасьці.

– Зусім натуральна, – сказаў ён.

– І калі малады чалавек бачыць усё гэта, мой дружа, выпакутаваўшы і згубіўшы маемасьць, а нават і напалохаўшыся, каб ня згубіць жыцьцё, ён скідае з трону свае душы гонар і свомую для яго перад гэтым бунтарнасьць; уціхамірыўшыся з прычыны беднасьці, ён кідаецца ў жміндасьць і скрайнюю ашчаднасьць і з працы рук сваіх пакрысе пачынае зьбіраць грошы. І што-ж ты думаеш. ці-ж гэтакі чалавек ня ўздыме на апусьцелы трон сваю прагнасьць і шалёнасьць нажывы і ня створыць зь іх вялікага князя ў тыяры і каралях на шыі, і з акінакасам за поясам?

– Па-мойму, так, – сказаў ён.

– Разумнае і злоснае, як мне здаецца, ён рассадзіць проста на зямлі побач свае сувэрэннасьці ў я-

касьці паслухмяных нявольнікаў; і ўзгадуе іх у веданьні сваіх задачаў: ён змусіць аднаго, каб толькі думаў пра тое, як з мала грошай зрабіць многа грошай, і ён не дапусьціць другога, каб нічым іншым не захапляўся і нічому не аддаваў пашаны апрача багацьцю і багатым людзям, каб ягоная прагнасьць была накіравана на ніякую іншую на сьвеце рэч, як толькі на багацьці і ўсё тое, што вядзе да іх.

- О так, - сказаў ён, - з усіх зьінначаньняў нямашака аніводнага гэтак хуткага або гэтак пэўнага, як абярненьне юнака зь любові да пашаны ў прагнасьць да грошай.

- Ці-ж гэта не зьяўляецца прыкладам таго, наколькі прагавітым бывае чалавек пры аліґархічным ладзе?

- Так, - сказаў ён; - у кажным выпадку гэта прыклад скажэньня чалавека, які адказваў таму ладу, што папярэджваў аліґархію.

- Тады, варта разгледзець, ці існуе якое-небудзь падабенства між імі.

- Трэба разгледзець. 554

- Перад усім, падабенства тут у тым, што ён асаблівую вартасьць прыдае маемасьці.

- Напэўна.

- І ў сваей жміндасьці і працавітасьці; ён задавальняе адно свае штодзенныя неабходнасьці і не дапушчае іншых выдаткаў, здушваючы іх, як тыя, безь якіх можна абыйсьціся.

- Правільна.

- Выгляд ягоны сумны, - сказаў я, - і з кажнае рэчы робіць сабе ашчаднасьць, напіхаючы свой капшук; і гэта ёсьць той тып чалавека, якому натоўп аддае пашану. Ці-ж не зьяўляецца ён тою постацьцю гаспадарства, якое ён рэпрэзэнтуе?

- Ён выдаецца мне гэтакім, - сказаў ён; - у кажным выпадку грошы высака цэняцца гэтакім чалавекам, як і ягоным гаспадарствам.

- Ты бачыш, ён не зьяўляецца чалавекам адукацыі, - сказаў я.

- І я думаю гэтак, - адказаў той; - калі-б ён быў адукаваным, ніколі не паставіў-бы сьляпога бога кіраўнікам свайго хору або аддаваў-бы яму найвышэйшыя гонары.

- Добра, - сказаў я.- А цяперака паўзірайся: ці-ж ня прызнацімем мы, што, з прычыны адсутнасьці адукацыі, у яго родзяцца схільнасьці трутня - часткава жабрацкія, часткава праступніцкія, якія сілаю ён здушвае, выказваючы гэтым свой праяўасьцярожнасьці ў жыцьці.

– Ведама, – сказаў ён.
– А ці ведаеш ты, куды трэба глядзець, каб в
крыць шальмоўствы гэтакіх людзей?
– Куды? – запытаў ён.
– Ты мусіш глядзець туды, дзе адбываецца апе
над сіратамі, там ствараецца для іх поўная свабо
несправядлівага дзеяньня.
– Гэта праўда.
– Згэтуль, ясным ёсьць, што ў іншых справах
гонае дзейнасьці гэтакі чалавек, выкарыстоўваючы
добрую славу, паколькі яго ўважаюць за справядл
вага і пры помачы пасьледкаў свае прыстойнасьці,
сіламоцаю стрымлівае іншыя свае дрэнныя нахілы,
хоць і няпэўным ёсьць, што гэтак ляпей будзе; ён
пыняе іх не з прычыны разумнага меркаваньня, але
сілу неабходнасьці, са страху, затым, што трасец
з прычыны няпэўнае будучыні свае маемасьці.
– Ведама, – сказаў ён.
– Так, запраўды, дарагі мой дружа, – сказаў я
і ты хутка спасьцеражэш, што натуральныя схільнас
ці ў людзей, гэтак як і ў трутняў, праяўляюцца т
ды, калі рэч ідзе пра выдаткі, якія адбываюцца
кошт іншага.
– І вельмі сільныя, – сказаў ён.
– Чалавек, тады, знаходзіцца ў стане вайны з с
мым сабою, ягоная адзінасьць будзе раздвоеная, і
ня будзе ўжо адзін: ягоныя лепшыя жаданьні запан
юць над ягонымі горшымі.
– Але, гэтак здараецца.
– З гэтае прычыны падобны чалавек будзе бол
паважным сярод людзей; аднак запраўдная мужнасьц
сузгоднае і гарманійнае душы далёка адыйдзе і н
колі не наблізіцца да яго.
– І мне гэтак здаецца.
– І напэўна, гэтакі скупеньдзя будзе мізэрн
555 спаборнікам у гаспадарсьцьве, каб выступіць яму
свой кошт, калі грамадзяне будуць спаборнічаць
чым-небудзь дзеля перамогі або дзеля здаволень
сваіх шляхэтных пачуцьцяў; ён ня будзе хацець тр
ціць грошай дзеля спаборніцтва і славы, баючыся в
клікаць у сабе схільнасьць да марнатраўнасьці і ў
ніць сваім саюзьнікам шляхэтныя матывы; у праўдзі
аліґархічнай атмасфэры ён змагаецца пры ўжыцьці м
лое часткі свайго багацьця, затым, у вапошнім па
сумаваньні: ён дазнае паразу, але астаецца пры св
ім багацьці.
– Якраз гэтак рэч маецца, – сказаў ён.
– Тады, ці можам мы яшчэ сумнявацца, – сказаў я.

што паміж скупеньдзём, які хавае грошы і аліґархічным гаспадарствам існуе вялікае падабенства?

– Зусім не, – сказаў ён.

– Далей, прыходзіць дэмакрацыя; трэба, мусіць, даведацца, якім спосабам яна прыйшла да быцьця, а пасьля – якія яна мае характэрныя рысы, гэтаксама, як і запазнацца са свомасьцямі дэмакратычнага чалавека і выказаць пра яго нашую апінію.

– Што найменей будзе гэта манера нашага досьледу, – сказаў ён.

– Добра, – сказаў я; – як-жаж з аліґархіі ўзьнікае дэмакрацыя? Прычына тут ляжыць у гонцы за багацьцем, магчыма, як найбольшым – і прагнасьць тут стаецца ненажэрліваю.

– Як ты сабе гэта ўяўляеш?

– Кіраўнікі, будучы ўпэўненымі, што іхная сіла супачывае ў багацьці, адмаўляюцца абмежаваць на дарозе праўнай распушчанасьць маладых людзей і забараніць ім марнаваць сваю маемасьць, бо яны ўзбагачваюцца, калі тыя руйнуюцца; наадварот, кіраінікі будуць скупляць іхную маемасьць. Яны спадзяюцца пазычаць грошы пад заставу маемасьці, а затым выкупляць яе, і гэткім спосабам стаюцца болей багатымі і болей уплывовымі.

– Гэта ў іх – самае галоўнае.

– Ці-ж не зьяўляецца гэта спасьцярожным, што любоў да багацьця і дух памяркоўнасьці з разважнасьцю ня могуць суіснаваць у грамадзян таго самага гаспадарства. З прычынаў неабходнасьці яны мусяць адкінуць тое або /гэтае.

– Гэта зусім ясным ёсьць, – сказаў ён.

– Калі ў аліґархічных гаспадарствах павялося не зьвяртаць увагі на разбэшчанасьць, тады часта і шляхэтным людзям немагчыма ўхіліцца ад галечы.

– Ведама.

– У гэтакім гаспадарсьцьве, як я думаю, людзі сядзяць бязь ніякага занятку, але затое ў іх ёсьць джала, гэта значыць – аружжа; некаторыя зь іх па вушы ў даўгох, іншыя згубілі сваё грамадзянства, а а яшчэ іншыя – дазналі адно і другое; яны ненавідзяць тых, каторыя забралі іхную і іншых людзей уласнасьць, і яны сымпатызуюцца з думкаю перавароту.

– Гэтак бо рэч і маецца.

– З другога боку, людзі грошай, заглыбленыя ў свае справы, прыкідваюцца, быццам не спасьцерагаюць людзей, якіх яны ўжо зруйнавалі; яны аглядваюцца на іншых і сваімі грашавымі пазыкамі джаляць паддатлівых, атрымліваючы працэнты ў шмат разоў большыя ад пазычанае сумы: гэткім спосабам яны на- 556

паўняюць гаспадарства трутнямі і жабракамі.

– Дый яшчэ ў якой вялікай колькасьці, – сказаў ён.

– Тут зло ўгарэлася ў полымя, – сказаў я; – і яны не праявяць жаданьня патушыць яго ані забаронаю ўжываньня чалавекам свае ўласнае маемасьці як яму падабаецца, ані іншым правам.

– Якім гэта?

– Тое, якое ідзе ўжо за ўспомнутым і змушае грамадзян імкнуцца да мужнасьці. Бо, калі будзе загадана, каб кажны дабравольна далучыўся да ўмовы на сваю ўласную адказнасьць, тады імкненьне да нажывы ня будзе знаменавацца гэтакаю скандальнасьцю і злыбеды, пра якія мы гаварылі, паслабнуць у гаспадарсьцьве.

– І шмат нават паслабнуць, – сказаў ён.

– У нашых часох, – сказаў я, – кіраўнікі, з прычынаў мною ўспомнутых, дрэнна абыходзяцца з грамадзянамі; што да самых кіраўнікоў і іхнага навакольля, дык моладзь у іх расьпешчаная выгадным жыцьцём, паслабленая і духам і целам; яна бязьдзейная і не зьяўляецца здольнаю супроцьставіцца, гэтак цярпеньням, як і прыемнасьцям.

– Дый як-жаж інакш?

– Яны толькі думаюць пра тое, як нажыць грошай, а пра мужнасьць ані крышку не клапоцяцца болей, чымся бедныя.

– Ані крышку, запраўды.

– У гэткім стане знаходзяцца дзьве стораны. І часта здараецца, што пуцьцявіны тых, што правяць, як і іхных падуладных крыжуюцца між сабою, будзе гэта ў падарожжах ці пры іншых нагодах, на сьвятачных гульнях або ў бітве, як сябры на моры або ў паходзе, або гэтаксама ў часе небясьпекі, калі адзін аднаго на вачох мае, і тутака насілу ці можа дазнаць пагарду бедны з боку багатага; і нават часта бывае, што чалавек згалелы, высахлы і загарэлы на сонцы, знайшоўшыся ў часе бітвы побач багатага, што ўзгадаваўся ў цяністай прахалодзе і на чужы кошт аброс тлушчам – калі ён бачыць, як гэты цяжка дышачы, ня ведае што далей рабіць, як можа ён паўстрымацца, каб ня прыйсьці да выснаву, што падобныя людзі, як гэты, зьяўляюцца багатымі толькі затым, што не знайшоўся ніхто, хто меў-бы адвагу пазбавіць іх уласнасьці? І ці-ж пры сустрэчы на самоце з гэтакімі-ж беднымі, ня скажа ім: "Мы маем гэтых людзей у нашых рукох! Яны – нікчэмныя людзі!"

– Я ведаю, – сказаў ён, – што яны гэтак і паступаюць.

– І гэтак, як для ўваравітага цела хопіць малога штурханца звонку, каб яно расхварэлася; а іншы раз безладзьдзе ў ім здараецца бяз вонкавае прычыны – гэтак і гаспадарства, калі знаходзіцца ў гэткім стане, пачынае хварэць; калі адна партыя падтрымліваецца пры помачы якога-небудзь аліґархічнага гаспадарства, а іншая – дэмакратычнага, і з гэтае прычыны гаспадарства ўпадае ў хваробу, і знаходзіцца ў стане вайны з самым сабою; іншы раз забурэньні ўзьнікаюць і бяз вонкавых прычынаў.

– Так, напэўна, – сказаў ён. 557

– І дэмакрацыя, як я думаю, прыходзіць у стан быцьця пасьля таго, як бедныя перамогуць некаторых са сваіх апанэнтаў, забіваючы адных і выганяючы іншых, а рэшта, якая астаецца, атрымлівае роўную свабоду і роўнае права ўдзельнічаць у займаньні гаспадарсьцьвеных становішчаў, што пры дэмакратычным ладзе знаходзіць сваё выражэньне ў большасьці выпадкаў на дарозе кіданьня лёсаў.

– Так, – сказаў ён, – гэтак устаноўліваецца дэмакрацыя, знаходзіць гэта месца пры затасаваньні аружжа, ці проста з тае прычыны, што праціўнікі, спалохаўшыся, адступаюць.

– І цяперака, – сказаў я, – як людзям жывецца і якога роду урад яны маюць? Бо якім зьяўляецца ўрад, гэтакімі будуць і людзі.

– Ведама, – сказаў ён.

– Перад усім, ці-ж не зьяўляюцца гэта свабодныя людзі? і ці-ж не зьяўляецца гаспадарства поўнае свабоды і шчырасьці – і чалавек можа сказаць і рабіць што ён хоча?

– Так кажуць, – адказаў ён.

– Там, дзе дазвол існуе, ясным ёсьць, што кажны чалавек уладжвае сваё ўласнае жыцьцё гэтак, як яму падабаецца.

– Ясна.

– Тады, у гаспадарсьцьве з гэтакім ладам будуць людзі рознаякага характару?

– І чаму-б не?

– Выглядае, затым, – сказаў я, – што гэта найпрыгажэйшы з гаспадарсьцьвеных ладаў; быццам тая рознаколерная вопратка, навытыканая ўсялякімі кветкамі, гэтак і той лад, можа быць яскрава размалёваны living рознымі звычаямі. І магчыма, – казаў я далей, – шматлікія, падобна як дзеці і жанчыны, што захопліваюцца бачанаю рознаколернасьцю, вырашаць, што лад гэткі найпрыгажэйшым зьяўляецца за ўсе іншыя.

– Напэўна, – сказаў ён.

– Так, мой добраслаўлены, – сказаў я, – пры ім лёгка выбраць гаспадарсьцьвенае ўладжаньне.

– Чаму?

– Бо з прычыны свабоды рабіць што хочаш, ён заключае ўсабе рознавіднасьць гаспадарсьцьвеных ладаў; бо той, хто ўпаў на думку паклікаць да жыцьця гаспадарства, вось хоць-бы як мы з табою, мусіць ісьці да дэмакрацыі, быццам на рынак, на якім прадаюцца яны, і выбраць той, які найболей адказвае ягонаму смаку; і пасьля таго, як ён выбраў тое, што хацеў, можа абаснаваць сваё гаспадарства.

– І ён можа быць пэўным, – сказаў ён, – што знойдзецца там рознавіднасьць у наўзорах.

– І ня будзе там для цябе ніякае патрэбы, – сказаў я, – каб прыймаць удзел у ўрадзе гэтакага гаспадарства, нават тады, калі ты маеш здольнасьці да гэтага; і ня мецімеш ніякага абавязку падпарадкавацца, калі ты не жадаеш сабе гэтага, або ваяваць тады, калі іншыя ваююць, або перасьцерагаць, як гэта іншыя чыняць, умовы міру, калі ты ня хочаш мець мір. І зноў-жа, калі якое-небудзь права забараняе табе прыймаць удзел у ўрадзе або судзіць, ты ўсё-ж можаш займацца ўрадаваньнем і судзіць, калі толькі
558 прыйдзе табе гэта ў галаву. Ці-ж гэткі спосаб жыцьця ня крые ў сабе мамэнту вышэйшае раскошы?

– Вельмі магчыма, – сказаў ён, – але ненадоўга.

– І што? Ці-ж тамтэйшае часамі паміласаваньне некаторых засуджаных не зьяўляецца бліскучаю пышнасьцю? Ці-ж ты не спасьцярог, як пры гэтакім гаспадарсьцьвеным ладзе людзі засуджаныя на сьмерць або на выгнаньне, усё-ж проста астаюцца там, дзе яны знаходзяцца, і ходзяць навакол у сваей супольнасьці: і спацыруе гэтакі, як той герой, быццам ніхто ня мае ніякага дачыненьня да яго?

– Так, – сказаў ён; – гэтакіх выпадкаў здараецца шмат.

– Гэтакая паблажлівасьць, – сказаў я, – зусім не зьяўляецца малазначнаю рысаю дэмакратычнага ладу; наадварот, тут выступае пагарда да ўсіх тых прынцыпаў, якія мы клалі ў васнову нашага гаспадарства і казалі, што, калі чалавек – за выняткам рэдкіх выпадкаў – не адзначаецца выдатнасьцю свае натуры, ніколі ня станецца добрым; гэтаксама, калі чалавек з маленства – у гульні і сваіх занятках – не датыкаўся прыгожых рэчаў. А між тым, як пагардліва дэмакрацыя ўсе нашыя высокія паняцьці топча пад сваімі нагамі, ані крышку ня турбуючыся пра тое, зь якое дзейнасьці і хто пераходзіць да гаспадарсьць-

вену абавязкаў. I гэтакаму аказваецца пашана, калі ён толькі выкажацца, што зьяўляецца прыяцелем вялікага зборышча.

- Зусім шляхэтнаю, - сказаў ён, - зьўляецца гэтая паблажлівасьць.

- Затым, гэтыя, - сказаў я, - і іншыя характэрныя рысы астаюцца свомымі для дэмакрацыі, якая зьяўляецца цудоўнаю ўрадаваю хвормаю, перапоўненаю розна віднасьцямі і бязладзьдзем, надзяляючаю роўнасьцю ў ваднолькавай меры, гэтак роўных, як і няроўных.

- Мы добра ведаем пра што ты гаворыш,- сказаў ён.

- Вазьмі пад увагу і паўзірайся, - сказаў я,- як гэтыя свомасьці адаб'юцца на апрычонай людзкай адзінцы. А мо', барждзэй, трэба разгледзець, падобна як у выпадку гаспадарства, як гэтакая адзінка прыходзіць да быцьця?

- Добра, - сказаў ён.

- Ці-ж ня гэтак? - Ён зьяўляецца сынам таго ашчаднага і аліґархічнага бацькі, каторы ўзгадоўвае яго ў духу сваіх нароваў.

- Дык што?

- I падобна, як ягоны бацька, ён здушвае ў сабе ўсе пажаданьні прыемнасьці, што вядуць да марнатраўства, але ня тыя, што кіруюць яго да нажывы, якая, як гэта кажуць, не зьяўляецца неабходнасьцю.

- Ясна, - сказаў ён.

- Калі хочаш, - сказаў я, - дзеля яснасьці нашае дыскусыі, спачатку выясьнім, якія прыемнасьці зьяўляюцца патрэбнымі, і якія непатрэбнымі?

- Хачу, - сказаў ён.

- Тыя пажаданьні, ад якіх мы ня можам ухіліцца, справядліва маглі-б мы назваць неабходнымі, гэтаксама, як і тыя, здаволеньне якіх дае нам карысьць? Падпарадкавацца-ж, гэтак тым, як і другім, стаецца рэчаю няўхільнаю ўжо хоць-бы з прычыны нашае натуры. Ці ня так гэта?

- Ведама, што так.

- Ня будзем мы тады памыляцца, калі назавем іх няўхільнымі?

- Не, ня будзем. 559

- I як? Тыя пажаданьні, ад якіх чалаек можа ўхіліцца, калі будзе імкнуцца ад часу свайго юнацтва, і асабліва, калі яны ня прыносяць з сабою нічога добрага, а іншыя зь іх нават вядуць і да дрэннага? Ці-ж ня будзе правільным тады, калі мы скажам, што ўсе яны зьяўляюцца непатрэбнымі?

- Так, напэўна.

– Прымем, што мы выбралі прыклады аднаго і другога, каб мець агульны пагляд адносна іх?

– Добра.

– Жаданьне прыняцьця ежы, гэта значыць, звычайнае ежы з прыправаю, ці-ж не зьяўляецца неабходнасьцю дзеля падтрыманьня здароўя і добрага самапачуцьця?

– Думаю, што так.

– Прыемнасьць спажываньня ежы зьяўляецца неабходнасьцю ў двух выпадках; яна і карыснаю ёсьць для нас, і ня можа супыніцца, як доўга чалавек жыве.

– Так.

– Але прыправы зьяўляюцца толькі патрэбнымі для займеньня смакавага ўспрыйма.

– Ведама.

– Але жаданьне, якое ідзе за межы гэтага, гэта значыць, жаданьне займеньня болей раскошнае ежы, безь якое можна абыйсьціся, калі ўхіляцца ад яго і ўзгадоўвацца ў юнацкія гады, і якое зьяўляецца шкодным, гэтак для цела, як і для душы на шляху разьвіцьця мудрасьці і мужнасьці, можна з праўдзівасьцю назваць непатрэбным?

– Зусім правільна.

– Ці-ж не маглі-б мы гэтыя жаданьні назваць марнатраўнымі, а тыя – прыбытковымі, затым, што яны ўспамагаюць выдайнасьць нашае працы?

– І чаму не?

– І ці-ж ня гэтае самае можам мы сказаць і пра любоўныя і іншыя жаданьні?

– Гэтаксама.

– А таго, каго мы нядаўна назвалі трутнем, – усенькі перапоўнены прыемнасьцямі і падобнымі жаданьнямі, – быў нявольнікам непатрэбных жаданьняў, тады, як над чалавекам ашчадным, аліґархічнага пакрою, пануюць адно неабходныя пажаданьні?

– Ведама.

– І зноў-жа, давайце вернемся да дэмакратычнага чалавека і паглядзімо, як ён пачатак свой бярэ з аліґархічнага. Як мне здаецца, гэтакі выступае тут працэс.

– Які працэс?

– Калі юнак вырас, як толькі што казалі мы, без належнага ўзгадаваньня і ў вабставінах беднасьці і ашчаднасьці, прыпадак хацеў, што ён пакаштаваў мёду трутняў і папаў у сяброўства небясьпечных і лютых зьвераў, якія здольнымі былі ўвесьці яго ў самыя яскравыя і рознародныя прыемнасьці – і тады, як ты магчыма і ўяўляеш сабе, пачынаецца зьіначаньне

аліґархічнага прынцыпу ў ім у дэмакратычны?
- Працэс гэты няўхільны, - сказаў ён.
- Гэтак як у гаспадарсьцьцве зьначаньне прыходзіць, калі пэўнай ягонай частцы прыходзіць помач звонку, паводля падобнае падобнаму: гэтак і юнак зьмначваецца, калі аднаму віду жаданьняў, што ў ім знаходзяцца, памагаюць звонку тыя, каторыя сурод-ныя зь імі і падобныя ім.
- У гэтым няма сумліву.
- І калі, думаю я, знойдзецца які-небудзь саюзьнік, што памагае аліґархічнаму прынцыпу, які знаходзіцца ў ім, хай сабе будзе гэта ў хворме бацькі або сваякоў, радзячы яму або дакараючы яго, тады 560
ўзьнікае ў ім абурэньне і супроцьдзеяньне, і гэткім спосабам ён уваходзіць у змаганьне з самым сабою.
- Дый як-жаж інакш?
- І часамі, як я думаю, мусіць быць, калі дэмакратычны прынцып уступае і стварае магчымасьць для аліґархічнага, і некаторыя зь ягоных жаданьняў паміраюць, а іншыя выганяюцца; тады дух саромлівасьці ўступае ў душу маладога чалавека і ўнутраны супакой вяртаецца.
- Так, - сказаў ён, - гэтак часамі здараецца.
- І пасьля зноў, як мне здаецца, іншыя жаданьні, ссуродныя выгнаным, пачынаюць разьвівацца, і з прычыны адсутнасьці ў бацькі веданьня ўзгадаваньня, стаюцца шматлікімі і магутнымі.
- Звычайна гэтак і бывае, - сказаў ён.
- І яны цягнуць юнака ў васяродзьдзе старых сяброў, а дзякуючы падтрымліваньню пакрыёмых суадносінаў зь імі, родзіцца шматлікасьць іншых жаданьняў.
- Ведама.
- І нарэшце, як мне здаецца, яны, спасьцярогшы, што замчышча ягонае душы знаходзіцца ў стане паражнечы, захопліваюць яго, бо там нямашака ані ведаў, ані прыгожых асягненьняў, ані словаў, адлюстроўваючых праўду, якія зьяўляюцца найлепшымі старожамі і вартаўнічымі ў розумах людзей і якія зьяўляюцца найкаштаўнейшымі перад багамі.
- Нямашака лепшых, - сказаў ён.
- І замест гэтых, думаю я, наўлыньне даканаюць хлусьлівыя пераконаньні і самахвальскія мовы і захопяць у юнака ягонае замчышча.
- Гэта, дык яны ўжо ўчыняць, - сказаў ён.
- І ў выніку, юнак зноў вернецца да пажыральнікаў лётосу +/ і аселіцца сярод іх уваблічну ўсіх людзей. І калі ягоныя сябры вышлюць помач ягонай

+/ Λωτοφάγους

аліґархічнай частцы, дык ягоныя вышэй успомнутыя пустамельныя гутаркі запруць у ім вароты каралеўскае сьцяны і не дапусьцяць помачы, ані гэтаксама прыймуць яны дэлегацыю, ані выслухаюць разумныя довады бацькаўскае рады людзей дасьведчаных доўгавечным жыцьцём. У змаганьні з ашчадным пачаткам яны атрымаюць дзень перамогі; у сваей ганьбе яны выправяць на выганьне саромлівасьць, абазваўшы яе дурніцаю, а разважнасьць – адсутнасьцю мужчынскае паставы і выкінуць яе, абкінуўшы балотам; яны пераканацімуць людзей, што памяркоўнасьць і лад у выдаваньні сродкаў – гэта вясковая грубасьць і рыса нізкасьці, і яны, апіраючыся на шматлікасьць бескарысных навароў, высяляць іх па-за межы сваіх уладаньняў.

– Вельмі праўдападобна.

– Апаражніўшы і выпратаўшы дазваньня душу маладога чалавека, якая знаходзіцца цяперака ў іхнай сіламоцы і якая ўведзенаю ёсьць ўва ўсе іхныя вялікія тайніцы, яны ўздымуць там зь вялікаю пышнасьцю ў саправаджэньні лічнага хору нахабнасьць і марнатраўнасьць, бязладзьдзе і распусьніцтва, упрыгожваючы іх вянкамі і праслаўляючы мілагучнымі выражэньнямі; і нахабнасьць назавуцімуць яны ўзгадаванасьцю, а бязладзьдзе – свабодаю, распусьніцтва –
561 прыгожасьцю і марнатраўства – адвагаю. І гэткім спосабам малады чалавек, узгадованы ў межах неабходных жаданьняў – са свае першапачаткавае натуры – пераходзіць у вабшар разьвязнага падтакваньня жаданьням, і бескарысных і непатрэбных прыемнасьцяў.

– Так, – сказаў ён, – зьінача́ньне ў ім вельмі спасьцярожным стаецца.

– Пасьля гэтага, як мне здаецца, ён жыве, трацячы грошы, натугі і час на непатрэбныя прыемнасьці, гэтаксама, як і на патрэбныя. Але калі будзе ён даволі шчасьлівым і бакханская бязмыснасьць ня будзе ў яго празьмернаю, дый да гэтага яшчэ міна́ньне гадоў учыніць сваё з аднача́сным адыходам у нябыцьцё сумяціцы, ён вернецца часткава да сваіх прагнаных жаданьняў, і ня будзе суцэльна аддавацца тым, што ўварваліся, і ў жыцьці ягоным устабілізуецца да пэўнае ступені нейкая раўнавага жаданьняў – тады кажны раз ён будзе падпарадкоўвацца таму з гэтых жаданьняў, якое дасталося яму быццам паводле жэрабя, да тае пары, пакуль не здаволіць яго, а пасьля ўжо іншаму жаданьню; і ён ня будзе грэбаваць анiякім зь іх, але ў роўнай меры падпарадкуецца ўсім ім.

– Ведама.

- І ўсё-ж, ён не паслухаецца разумнага слова рады, не дапусьціць, каб яно пранікла ў ягонае замчышча; калі хто-небудзь скажа яму, што адны з прыемнасьцяў зьяўляюцца вынікам добрых, прыгожых жаданьняў, а іншыя - дрэнных і, што адны пажаданьні трэба разьвіваць у сабе і паважаць, а іншыя - сутыняць і падпарадкоўваць сабе, у вадказ ён будзе адмоўна ківаць галавою і казаць, што ўсе жаданьні зьяўляюцца аднолькавымі і, што кажнае адно зь іх гэтак добрым ёсьць, як і іншае.

- Так, - сказаў ён, - гэтак рэч маецца зь ім і гэтак ён паступае.

- І так жыве ён з дня на дзень, - сказаў я, - карыстючыся прыемнасьцямі дадзенае хвіліны; часамі пад гукі флейты і чары віна стаецца свавольным; іншым разам п'е ён толькі адну ваду, абясьсільваючы самога сябе, або зноў захопліваецца фізычнымі практыкаваньнямі; часамі здараецца зь ім і тое, што нападае на яго гультайства, і тады да нічога ня мае ахвоты. Часамі ён чыніць уражаньне чалавека, які праводзіць студыі ў філязофіі, то зноў хапаецца за справы палітычныя, ускокваючы пры гэтым зьнічэўку, пачынаючы гаварыць штоколечы ў дадзеную хвіліну прыйдзе яму ў галаву. Магчыма ўдырыць яго слова вайсковага чалавека, тады напаўняецца ён зайздрасьцю і прэцца ў гэтым напрамку, а калі захопліваецца людзьмі гандлю - тады ў гэтым кірунку. Наагул-жа, у ягоным жыцьці нямашака парадку, і не пануе ў ім неабходнасьць; і гэтак праяўленае існаваньне называе ён радасьцю, свабодаю і шчасьцем; гэтак і мінаюць ягоныя дні.

- У кажным выпадку, - сказаў ён, - ты добра вырысаваў чалавека, якому ўсё аднолькавым выдаецца.

- Так, - сказаў я, - паводля майго меркаваньня ён гэтаксама і рознаякім зьяўляецца, шматлікім, прыгожым і яскравым, падобна, як і гаспадарства ягонае; затым многія мужчыны і жанчыны, з прычыны ягонага спосабу жыцьця, зайздросьцяць яму, бо ён носіць у сабе ў большасьці выпадкаў наўзор настрояў і спосаб дыманьня.

- Так бо і маецца рэч, - сказаў ён.

- Дык што-ж? Ці можам мы прыняць, што падобнага 562
роду чалавек адказвае дэмакратычнаму ладу, і затым будзем мы апраўданымі, калі назавем яго дэмакратычным?

- Няхай гэта будзе месцам для яго, - сказаў ён.

- І напасьледак, - сказаў я, - прыходзіць найпрыгажэйшае з усіх - чалавек і гаспадарства, падоб-

ныя да сябе - гэта тыранія і тыран; цяперака і ім прыгледзімся.

- Варта, запраўды, - сказаў ён.

- Скажы, тады, дружа мой, якім спосабам узьнікае тыранія? - і, што яна мае дэмакратычнае паходжаньне, дык гэта ясна?

- Ясна.

- А ці-ж тыранія не ўзьнікае з дэмакрацыі, падобна, як дэмакрацыя з аліґархіі?

- Як?

- Дабро, якое аліґархія мае на ўвазе, - сказаў я, - і мэты, пры помачы якіх яна даходзіць да багацьця, ці-ж ня так гэта?

- Так.

- А ці-ж ненасытная прага да багацьця і занядбаньне ўсіх іншых рэчаў дзеля гонкі за грашыма, ня сталіся прычынаю заняпаду аліґархіі?

- Праўдзіва ты кажаш, - адказаў ён.

- А ці-ж дэмакрацыя ня мае свайго дабра, ненасытная прага да якога развальвае яе?

- Чым ёсьць тое, што́ яе развальвае?

- Вольнасьць, - адказаў я, - якая, як яны і кажуць табе, у дэмакрацыі зьяўляецца прыгожасьцю гаспадарства - і з гэтае прычыны ў гэткім гаспадарсьцьве могуць жыць людзі, якія, паводля свае натуры, чуюцца свабоднымі.

- Так, - сказаў ён, - падобная гутарка пераказваецца з вуснаў у вусны.

- Гэта якраз і ёсьць тым, што́ я хацеў толькі што сказаць - ненасытная прага да аднаго і занядбоўваньня ўсяго іншага, падрыхтоўвае зьмены ў дэмакрацыі і вядзе да тыраніі.

- Як гэта? - запытаў ён.

- Калі дэмакратычнае гаспадарства, якое мае смагу да свабоды, паставіць дрэнных віначэрпаў у ролі кіраўнікоў на банкеце, і за шмат нап'ецца неразьведзенага віна свабоды, тады, я думаю, - калі кіраўнікі не зьяўляюцца дастаткова паблажлівымі і ня дораць усіх поўнаю свабодаю, - дакарае іх і называе ганебнымі і праклятымі аліґархамі.

- Гэтак яно здараецца, - сказаў ён.

- Так, - працягваў я далей; - паслухмяных уладзе грамадзян зьмешваюць тамака з балотам як нічога ня вартасных нявольнікаў; затое кіраўнікі, падобныя да падуладных, а падуладныя - да кіраўнікоў: гэта людзі сваіх уласных нароваў, якіх там праслаўляюць і ганаруюць, гэтак прыватна, як і публічна. Цяперака, ці-ж у гэткім гаспадарсьцьве свабода

не распашырыцца на ўсё дазваньня?
- Дый як-жаж інакш?
- І гэтак, - сказаў я, - дружа мой, пракрадзецца яна і ў прыватныя дамы, і нарэшце агорне яна і жывёлу.
- Дый як-жаж можа быць інакш? - адказаў ён.
- Так, - сказаў я; - напрыклад, бацька зьніжаецца да ўзроўню дзяцей і баіцца сваіх сыноў, а сын стаецца раўнёю бацьку і ня мае пашаны для бацькоў і не баіцца іх; і гэта ёсьць свабода! Асяленец стаецца роўным запраўдным грамадзянінам і грамадзянін з
асяленцам: падобна рэч маецца і з чужынцамі. 563
- Так, - сказаў ён, - гэтак здараецца.
- Апрача гэтага, - сказаў я, - ёсьць шмат іншае дробязі. Вучыцель, напрыклад, баіцца сваіх вучняў і паддобрываецца перад імі, а вучні нізавошта ня маюць сваіх вучыцялёў і ўзгадаваўцаў. І наагул-жа, маладыя пачынаюць насьлядаваць дарослых і спаборнічаць зь імі, гэтак у слове, як і чыне, а старэйшыя, прытарноўваючыся да маладых і насьлядуючы іх, пачынаюць жартаваць і баўбатаць, каб не стварыць уражаньня, што яны няпрыемныя для асяродзьдзя і захаваць сваю павагу.
- Трапная спасьцярога, - сказаў ён.
- Трэба яшчэ і тое заўважыць, - сказаў я, - што скрайная свабода гэтакага гаспадарства ў тым заключаецца, што купленыя нявольнікі і нявольніцы ня меней свабодныя, чымся тыя, што набылі іх. Дый яшчэ, амаль што забылі мы сказаць, якія роўныя правы існуюць там у жанчын адносна мужчын і мужчын - адносна жанчын.
- Дый чаму не, - дадаў ён, - гэтак, як і Айсхілёс выражаецца, "скажам мы тое, што на нашых вуснах цяпер".
- Гэта якраз і ёсьць тое, што я кажу, - сказаў я; - і я мушу дадаць, што ніхто не паверыць, пакуль сам ня ўгледзіць, наколькі тут большаю ёсьць свабода, чымся на іншых мясцох, нават сярод жывёлы, падпарадкаванай чалавеку: бо і запраўды, нават сабакі, як выслоўе кажа, гэтак добрымі зьяўляюцца, як і іхныя панюсі, а коні і аслы прывыклі тут крочыць паважна і ў поўнай свабодзе, напіраючых на сустрэчных, калі тыя ня зыходзяць ім з дарогі. Гэтак і ўсё іншае напоўнена свабодаю.
- Ты быццам апавядаеш мне мой сон, - сказаў ён; - бо часта і мне гэтак прытрапляецца, калі я іду на вёску.
- Калі скласьці ўсё гэта разам, - сказаў я, - са-

мым галоўным будзе тое, я́к чулымі стаюцца грамадзяне; яны праяўляюць зьнецярпліўленьне пры нязначным тасаваньні да іх прымусу; як табе ведама, яны нават перастаюць дбаць пра правы, хай сабе пісаныя ці няпісаныя; яны ня хочуць мець ніякага права над сабою.

– Так, – сказаў ён, – я ведаю гэта вельмі добра.

– Гэтакім, мой дружа, – сказаў я, – ёсьць прыгожы і слаўны пачатак, зь якога, як мне здаецца, выток свой бярэ тыранія.

– Слаўны, запраўды, – сказаў ён. – І што-ж далей?

– Тая самая хвароба, – сказаў я, – што распашырылася ў аліґархіі і зьнішчыла яе, яшчэ з большаю сілаю разьвіваецца і тут – з прычыны сваволі – і агортвае сабою дэмакрацыю. І запраўды, усё, што ёсьць празьмерным, звычайна, выклікае вострую зьмену ў супроцьлежным кірунку, хай сабе будзе гэта стан пагоды, расьліны або цела, і перад усім ся-
564 род гаспадарсьцьвеных уладжаньняў.

– Вельмі праўдзіва, – сказаў ён.

– Празьмернасьць свабоды, будзе гэта сярод гаспадарстваў ці паасобных людзей, выліваецца ў хвормy празьмернага нявольніцтва.

– Зьява гэта натуральная.

– І гэтак натуральна з дэмакрацыі ўзьнікае тыранія; інакш кажучы – з празьмернае свабоды ўзьнікае найболей сібернае нявольніцтва.

– Гэта мае сваё абаснаваньне, – сказаў ён.

– Аднак-жа гэта ня было, як я думаю, тваім пытаньнем, – бо ты барджджэй хацеў ведаць, што гэта за хвароба, што разьвіваецца аднолькава ў аліґархіі і дэмакрацыі і стаецца іхнаю ўласнаю руінаю.

– Зусім гэтак, – сказаў ён.

– Тут меў я на ўвазе групу людзей гультаяватых і марнатраўных, зь якіх балей адважныя зьяўляюцца лідарамі, за якімі крочаць меней адважныя – гэта тыя самыя, якіх мы параўналі з трутнямі, некаторыя зь іх маюць джала, а іншыя ня маюць.

– Вельмі трапнае параўнаньне, – сказаў ён.

– Абедзьве гэтыя групы, – сказаў я, – зьяўляюцца хворасьцю ў кажным гаспадарсьцьве, дзе толькі яны праяўляцца, гэтак як запаленьне і жоўць у целе. Пры гэтым, добры лекар і правадаўца ў гаспадарсьцьве, падобна як мудры пчалавод, трымае іх на пэўнай адлегласьці, каб перашкодзіць ім распашырыцца, а калі ўжо і працісьнуцца, тады як найхутчэй выкраіць іх разам з сотамі.

– У кажным выпадку і абавязкава, – сказаў ён.

– Каб болей было спасьцярожным тое, што́ мы хочам зрабіць, – сказаў я, – учынім гэтакую рэч.

– Якую?

– Уявем сабе дэмакрацыю, распадзеленую, – што́, фактычна, адказвае рэчаіснасьці, – на тры часткі; у першую чаргу, свабода пакліквае да жыцьця, барждзэй, болей трутняў, чымся назіраем гэта ў аліґархічным гаспадарсьцьве.

– Так яно і ёсьць.

– І тут яны болей з'актывізаваныя.

– Чаму?

– Бо там яны ня цешацца вялікаю пашанаю і іх не дапушчаюць да ўрадавых становішчаў, затым без апоры, яны ня могуць узмоцніцца; тады, як пры дэмакрацыі яны твораць сабою бадай што суцэльную правячую сілу: найболей згрызьлівыя з трутняў праяўляюць сябе актыўнымі і выступаюць з прамовамі, а іншыя ўсаджваюцца бліжэй навакол падвышэньня, ушчынаюць гоман і не дапушчаюць, каб хто-небудзь выказаўся інакш. Згэтуль, сярод дэмакрацыяў бадай што кажная рэч плянуецца і праводзіцца гэтымі трутнямі.

– Ведама, – сказаў ён.

– Існуе другая частка, якая заўсёды выдзельваецца з натоўпу.

– Якая?

– Гэта, паводля свае натуры, упарадкаваныя людзі, якія рэпрэзэнтуюць гандаль у народзе і зьяўляюцца найболей багатымі.

– Вельмі праўдападобна.

– Зь іх, як мне здаецца, сьцякае для трутняў найболей мёду.

– Дый як-жаж выцісьнеш яго зь людзей, – сказаў ён, – якія маюць яго мала?

– Затым бо яны і завуцца багатаю часткаю і трутні зьбіраюць сваю пажыву зь іх.

– Бадай што, – сказаў ён. 565

– Трэйцяя частка, – гэта народ, які складаецца з тых, што працуюць сваімі ўласнымі рукамі; яны не зьяўляюцца палітыкамі, дый ня шмат яны маюць маемасьці. Гэтыя, калі зыйдуцца, прадстаўляюць сабою найбольшую і найболей сільную частку народу ў дэмакрацыі.

– Гэта праўда, – сказаў ён; – але маса рэдка праяўляе ахвоту зыйсьціся разам, хіба што яна бачыць у гэтым сваю частку мёду.

– Але́, яны атрымліваюць часамі крыху з гэтага мёду, – сказаў я, – у залежнасьці, колькі іхныя кіраўнікі праявяць здольнасьці ўзяць яго ад тых, што

маюць, і распадзяліць у народзе, а львіную частку захоўваючы для самых сябе.

– Так, у гэткім памеры народ атрымлівае сваю частку, – сказаў ён.

– А людзі, як я думаю, ад якіх забрана маемасьць, змушанымі бываюць бараніцца, выступаючы перад народам, і наагул праяўляюць сябе наколькі магчымым гэта ёсьць.

– Дый што-ж іншае могуць яны зрабіць?

– Але хоць яны і ня маюць на ўвазе ўвядзеньня нечага новага, а ўсё-ж іншыя абвінавацяць іх у згаворы супроць народу на карысьць аліґархіі.

– Дык што?

– І вынік гэтакі бывае, што, калі яны бачаць, што народ, не з прычыны свайго згавору, але ў рэзультаце свае нясьведамасьці і пад нашэптам злась лівых, гатоў расправіцца зь імі, тыды яны пад прымусам стаюцца праўдзівымі аліґархамі; фактычна, яны ня хочуць імі быць, але джала трутняў паліць, выклікваючы гэтым сярод іх нахіл да бунтарнасьці.

– Якраз гэтак рэч маецца.

– Тады пачынаюцца абвінавачваньні і суды, і судовыя змаганьні.

– Ведама.

– Народ заўсёды мае нейкага абаронцу, якога ён уздымае вышэй за сябе і падтрымлівае яго ў гэтай вышэйшасьці.

– Так, гэтак ён паступае.

– Гэта, і нічога іншага зьяўляецца тым карэньнем, зь якога выводзіцца тыран; і як толькі ён уздымаецца, народ апавяшчае яго як свайго абаронцу.

– Так, гэта вельмі відавочным стаецца.

– І як-жаж гэтакі абаронца пачынае зьіначвацца ў тырана? Ведамым ёсьць, што адбываецца гэта тады, калі ён пачынае рабіць тое самае, аб чым гаворыцца ў пераказе пра Лікійскага Зэуса ў Аркадыі.

– І аб чым гэта? – запытаў ён.

– Пераказ весьціць нам, што той, хто скаштаваў людзкіх нутраў, дробна пакроеных і зьмешаных разам з вантробамі зьвярыных ахвяраў, той няўхільна станецца ваўком. А мо' ты нічога ня чуў пра гэтакі пераказ?

– Чуў.

– І абаронца народу якраз гэткім зьяўляецца; маючы ў сваіх руках сваеасабліва паслухмяны натоўп, ён ня можа паўстрымацца ад праліцьця крыві сваіх суродзічаў. Наадварот, падтрымліваючы сыстэму хвальшывых абвінавачаньняў, ён цягне іх у суд і мардуе

іх, апаганьваючы гэтым са́мым самога сябе, і ганебнымі сваімі вуснамі і языком ён будзе смакаваць кроў сваіх грамадзян і суродзічаў. Адных ён забівае, а іншых выганяе за мяжу, і адначасна зносіць задоўжанасьць і пера- 566
распадзел зямлі. I пасьля ўсяго гэтага, якая-ж можа быць ягоная доля? Ці-ж не павінен ён пасьці з рукі ворага ці проста стаецца ваўком – гэта заначыць тыранам?

– Гэтакі лёс няўхільны, – сказаў ён.

– Гэтакім, – сказаў я, – зьяўляецца той, хто пачынае ўздымаць людзей супроць тых, што валодаюць багацьцем.

– Так, гэты самы.

– I пасьля непаводжаньня ён, наўсуперак сваім ворагам, зноў вяртаецца з выгнаньня, але ўжо як тыран – закончаны і дасьпелы.

– Ясна.

– I калі яны ня могуць яго выгнаць або засудзіць на сьмерць на шляху публічнага абвінавачаньня, дык яны згаворваюцца забіць яго патаймя.

– Што найменей гэтак часта здараецца, – сказаў ён.

– Згэтуль выводзіцца няўхільнае дамаганьне з боку тыранаў, як толькі займеюць яны ўладу, выстаўленьня ім целастарожаў, каб народнаму прадстаўніку не давялося дазнаць ніякае крыўды.

– Гэта дык абавязкава, – сказаў ён.

– Народ, ведама, дае іх яму, бо турбуецца пра яго, але пра сябе не шманае.

– Дый што казаць.

– Калі гэта бачыць багаты чалавек, які з прычыны свайго багацьця сьцягвае на сябе падозраньне, што ён зьяўляецца ворагам народу, тады ён, дружа мой, зараз-жа, як той аракул, што апавясьціў Кройзосу –

...да узьбярэжжа гранітнасных Гэрмаў
Без азіраньня бяжыць ён, згубіўшы свой сорам,
каб стацца

Млявым душою.

– I гэта правільна, – сказаў ён, – бо, каб гэта зь ім здарылася, ён ніколі ня згубіў-бы свой сорам.

– Але калі-б схапілі яго, – сказаў я, – ён зараз-бы памер.

– Ведама.

– I гэты народны абаронца, пра якога ідзе гутарка, ясна, ня трымаецца толькі як велічны ў велічнай пышнасьці, але, паваліўшы шматлікіх іншых, стаіць проста на калёсьніцы свайго гаспадарства і кіруе ім, ужо не як прадстаўнік народу, але як тыра́н абсалютны.

– Бяз сумліву, – сказаў ён.

– І цяперака, – сказаў я, – ці павінны мы разважыць, у чым заключаецца шчасьце гэтакага чалавека і таго гаспадарства, у якім гэткага роду сьмяротная крэатура знаходзіць свой пачатак?

– Абавязкава трэба разгледзець, – сказаў ён.

– І ці-ж ня будзе ён, наагул, у першых днях свае ўлады ветліва ўсьміхацца да ўсіх, каго-б колечы ён спаткаў і адносна сябе цьвердзіць, што ён тыранам не зьяўляецца, і робіць ім, паасобку і групам людзей, шматлікія прырачэньні ў тым сэнсе, што ён звольніць іх ад задоўжаньняў і надзеліць зямлёю іх і сваё навакольле, прыкідваючыся пры гэтым, штобудзе ён ласкавым і прыемным для кажнага чалавека на сьвеце?

567 – Ведама, – сказаў ён.

– Але калі ён управіцца са сваімі чужаземнымі ворагамі, на дарозе перамогі ці мірнае ўмовы, і цяперака ня трэба будзе яму баяцца нікога, тады, як мне здаецца, першаю ягонаю задачаю будзе стала ўцягваць грамадзян у нейкія войны, каб гэткім спосабам выклікаць сярод народу патрэбу ў правадырстве.

– Натуральна.

– Дый ці-ж не ўладзіць ён гэтак, каб людзі, з прычыны падаткаў, абяднелі і гэтым сваю ўвагу пераважна кіравалі на заспакаеньне сваіх штодзенных патрэбаў, і меней мелі нагоды згаварвацца супроць яго?

– Ведама.

– І калі хто-небудзь зь іх будзе западозраны ў волялюбных імкненьнях або ў супраціве ягонай уладзе, тады знойдзе ён добрую нагоду зьнішчыць іх, аддаючы іх на ласку і няласку ворагаў. З гэтае прычыны і іншых, тыран заўсёды мусіць ушчынаць войны.

– Мусіць.

– І калі гэтак ён будзе дзейнічаць, тады натуральным станецца, што грамадзяне што-раз болей будуць яго ненавідзець?

– І гэта няўхільнае наступства.

– Тады, некаторыя зь іх, што спрычыніліся да ягонага ўздыму і займелі ўплывовыя становішчы – найболей адважныя зь іх – пачнуць выказваць яму і адзін аднаму сваё нездаволеньне адносна таго, што творыцца.

– Вельмі праўдападобна.

– І тыран, калі ён мае астацца пры ўладзе, мусіць усіх іх вынішчыць да гэткае ступені, што ў яго ніхто не астанецца ані з прыяцеляў, ані з ворагаў, каб на што-небудзь яшчэ карысным быў.

– Ясна.

– Затым, ён мусіць азірацца навакол, каб знайсьці каго-небудзь, хто ёсьць харобрым, хто ёсьць чалавекам высокае думкі, хто ёсьць мудрым і хто багатым. І гэтак шчасьлівым стаецца той тыран, які зьяўляецца ворагам усіх іх, і хоча ён ці не, шукае адно нагоды, каб ачысьціць ад іх гаспадарства.

– Дый што казаць, – дакінуў ён, – добрая чыстка!

– Так, – сказаў я, – ня гэтакая чыстка, якую лекары выконваюць у целе; тыя-ж бо ачышчаюць цела з усяго найгоршага і пакідаюць тое, што астаецца найлепшым, а ён наадварот.

– Відаць, – сказаў ён, – калі тыран хоча астацца пры ўладзе, ён ня можа інакш паступіць.

– І што за альтэрнатыва, – сказаў я, – якая вяжа яго з шчасьліваю неабходнасьцю: або існаваць разам з натоўпам нягоднікаў, якія ненавідзяць яго, або зусім перастаць жыць.

– Так, – сказаў ён, – гэтакая ёсьць альтэрнатыва.

– І ці-ж ня гэтак, што, чым болей ён стаецца ненавісным для грамадзян з прычыны сваіх гэтых паступкаў, тым болей патрабуе ён верных целастарожаў?

– Дый як-жаж інакш яму?

– І каторыя-ж верныя яму? І скуль ён іх возьме?

– Дый яны самыя будуць зьлятацца да яго, – сказаў ён, – калі толькі ён заплоціць ім.

– На пса прысягаю, – сказаў я, – зноў нейкіх трутняў ты маеш на ўвазе – наймітаў з цэлага сьвету.

– Ты трапна зразумеў мяне, – сказаў ён.

– Дык што? Ці-ж тыран не захоча мець тых, што знойдзе навакол сябе?

– Як ён знойдзе?

– Ды проста, адбярэ ад грамадзян нявольнікаў, асвабодзіць іх і ўчыніць іх сваімі целаахоўнікамі.

– У грунце рэчы, яны будуць у яго самымі надзейнымі, – сказаў ён.

– Бачыш, – сказаў я, – запраўды, тыран зьяўляецца добраслаўленым існаваньнем, калі ён гэтакімі вернымі сябрамі пахваляецца, пасьля таго, як ён запраўдных сяброў вынішчыў дазваньня! 568

– Так, – сказаў ён, – яны ўсе падобныя да яго.

– Так, – працягваў я далей, – гэта праўдзіва новыя грамадзяне, якіх ён паклікаў да жыцьця, яны захопліваюцца ім і зьяўляюцца ягонымі сябрамі, тады, калі тыя будуць ненавідзець і абмінаць яго.

– Ведама.

– Нездарма-ж, – сказаў я, – трагэдыя зьяўляецца мудраю рэчаю, і Эўрыпідэс стаўся вялікім трагікам.

– Чаму?

– Таму, што ён мае глыбокае думкі выражэньне, калі кажа: "Тыраны мудрыя сумесна з мудрымі". І ён выразна маніцца сказаць, што тыя зьяўляюцца мудрымі, каторыя трымаюцца іх.

– Так, – сказаў ён, – і ён гэтаксама выхваляе тыранскую ўладу як богападобную; і пра шматлікія іншыя рэчы падобна гаворыць разам зь іншымі паэтамі.

– І затым, – сказаў я, – калі ўжо трагічныя паэты зьяўляюцца гэтакімі мудрацамі, дык няхай яны нам, і ўсім тым, каторыя маюць падобныя пагляды адносна грамадзкага ўладжаньня, даруюць, калі мы ня прыймем іх у нашае гаспадарства з тае простае прычыны, што яны праслаўляюць тыранскую ўладу.

– Я думаю, што яны выбачаць нам, – сказаў ён, – асабліва тыя зь іх, што зьяўляюцца болей кемнымі.

– Але яны будуць далей абыходзіць месты і сьцягваць да сябе натоўп і, падмацаваўшы выканаўцаў прыгожымі, моцнымі і платнымі галасамі, што пакідаюць па сабе незабыўнае ўражаньне, яны будуць здабываць месты для тыраніяў і дэмакрацыяў.

– І вельмі нават.

– І да гэтага, яны атрымаюць узнагароду і будуць дарыцца гонарамі – найбольшымі гонарамі, якіх можна толькі спадзявацца ад тыранаў, а на другім месцы і ад дэмакрацыі; але чым вышэй яны ўздымаюцца на ўзвышша нашае канстытуцыі, тым болей яны губяць са свае рэпутацыі, быццам ім у грудзях не хапае паветра прабівацца далей.

– Гэта правільна.

– Але мы адхіліліся ад прадмету нашых разважаньняў, – сказаў я. – Давайце, затым, вернемся і паглядзімо, як тыран утрымлівае гэтак прыгожае шматлікае і заўсёды зьменнае яскрава-ўпрыгожанае войска.

– Ясна, – сказаў ён, – тым да сьвятыняў прыналежным дабром, калі гэтакія знаходзяцца ў гаспадарсьцьве, і, пакуль дабром гэтым можна пакрываць расходы, ён будзе ў стане паменшыць накладзеныя на насельніцтва падаткі.

– А калі гэтыя сродкі супыняцца?

– Ясна, – сказаў ён, – тады самога сябе і сваіх верных удзельнікаў, як і іхных сяброваk, ён будзе ўтрымліваць на кошт свайго бацькі.

– Я разумею, – сказаў я, – ты маеш на ўвазе, што народ, які спарадзіў тырана, будзе ўтрымліваць яго і ягоных паплечнікаў?

– Так, – сказаў ён; – бо яны ня мецімуць магчы-

масьці інакш пастуліць.
- Як гэта ты кажаш? - запытаў я. - Хочаш ты ска-
заць, што калі народ зьнецярпліваіцца і проста ска-
жа, што дарослы сын ня можа быць утрымліваны баць-
кам, але наадварот, бацька павінен быць утрымліва-
ны сынам? Бацька не дзеля гэтага спарадзіў сына і 569
паставіў яго на ногі, каб, калі сын падрасьце, са-
мому бацьку стацца нявольнікам у васяродзьдзі сва-
іх уласных нявольнікаў і карміць сына, і нявольні-
каў і ўсякія іншыя падонкі, але каб ягоны сын, як а-
баронца, даглядаў яго і асвабадзіў яго ад багатых
і гэтак званых годных людзей. Затым, ён загадвае
яму і ягоным супрацоўнікам, каб яны выйшлі за межы
гаспадарства, гэтак, як кажны іншы бацька выганяе з
дому сына разам зь ягонаю п'янаю хэўраю.
- На нябёсы, - сказаў ён, - народ тады даведаец-
ца, што за пачвару ён спарадзіў, дый яшчэ гэтак пяш-
чотна ўзгадаваў такую велічнасьць; цяперака ён пе-
раканаецца, якімі магутнымі зьяўляюцца тыя, каторых
ён хоча выгнаць сваімі слабенькімі сіламі.
- Як гэта, - хутка запытаў я. - Ты думаеш, што
тыран пасьмее сілу тасаваць адносна свайго бацькі?
Як! пасьмее ён біць бацьку, калі апошні супроцьста-
віцца яму?
- Так, - сказаў ён; - перш ён адбярэ аружжа ад
яго.
- Тады ён забойцам ёсьць бацькі, - сказаў я, - і
бязьлітасным апякуном пажылага векам бацькі; і гэ-
та ёсьць праўдзівае адлюстраваньне тыраніі, што да
якое нямашака болей ніякіх сумліваў: гэтак як і вы-
слоўе кажа: "Уцякаючы ад дыму, пападзеш у вагонь" -
гэтак і народ, уцякаючы ад нявольніцтва, упадае ў
тыранію нявольнікаў. Падобна і свабода, выламаўшы-
ся з-пад парадку і разважнасьці, упадае ў самую жор-
сткую і горкую хворму з усіх панявольваньняў.
- Якраз гэтак і здараецца, - сказаў ён.
- Тады як? - сказаў я. - Ці ня можам прыстойна
сказаць, што мы дастаткова дасьледзілі натуру ты-
раніі і спосаб пераходу з дэмакрацыі ў тыранію?
- Так, зусім дастаткова, - сказаў ён.

571 – Цяперака, – сказаў я, – астаецца нам яшчэ разгледзець са́мага тыранскага чалавека, я́к ён увармаваўся з дэмакратычнага чалавека, якія ягоныя сваасьці і якім жыцьцём ён жыве – шчасьлівым ці, наадварот, мо' мізэрным?

– Так, – сказаў ён, – гэты нам яшчэ астаецца.

– Ведаеш ты, – сказаў я, – ёсьць яшчэ адно ранейшае пытаньне, якое мы да гэтага часу не разгледзелі?

– Якое?

– Мне здаецца, што мы недастаткова разгледзелі пытаньня пажадлівасьцяў – іхную натуру і колькі іх ёсьць; і пакуль не завяршым мы гэтага, наш досьлед заўсёды будзе будзі́ць няпэўнасьць.

– Дык што-ж, – сказаў ён, – яшчэ ня позна, каб заняцца гэтым цяперака.

– І запраўды; а цяпер паўзірайся, на што́ я хачу зьвярнуць увагу. І гэтым ёсьць наступнае: з тых неабходных прыемнасьцяў і пажаданьняў, некаторыя зь іх выяўляюцца мне як нясузгодныя з правамі; выглядае, што кажны чалавек мае іх, але ў некаторых людзей яны кантралююцца пра́вамі і розумам, і пераватгу бяруць лепшыя зь іх: або яны ўсе выжанутыя, або астаецца іх некалькі і паслабленых, тады як у іншых людзей, ёсьць іх шмат і яны зьяўляюцца сільнейшымі.

– Якія пажадлівасьці маеш ты на ўвазе? – запытаў ён.

– Я думаю тыя, – сказаў я, – якія знаходзяцца ў стане прабуджаным тады, калі ў чалавеку дрэмле разумны пачатак, чалавечнасьць і кіруючая сіла; тады дзікае быдлё, што знаходзіцца ў нас, пад уплывам адкормленасьці і хмелю ўздымаецца на дыбы і, атросшыся ад сну, рвецца, каб заспакоіць сваю пажадлівасьць. Ты ведаеш, што, будучы ў гэткім стане, яно здольным зьяўляецца на ўсё, адкінуўшы ўсякі сорам і розум. Калі толькі ўпадзе на думку, яно не паўстрымаецца перад ніякаю паганасьцю і прыйме кажнае кровазьмяшаньне або іншае ненатуральнае злучэньне

з поганю, уключна да спажыцьця забароненага плоду - каротка: у хвіліну свае бяссорамнасьці і безразважнасьці чалавек гатоў на ўсякую ганьбу.

- Шчырую праўду кажаш ты, - сказаў ён.

- Але, я думаю, калі пульс чалавека астаецца здаровым і паўстрыманым, і калі ён, перад тым, як ісьці спаць, прабуджвае сілу свае інтэлігэнцыі і жывіць яе шляхэтнымі думкамі і досьледамі, тады ён засяроджваецца ў самым сабе на дарозе разважаньня. Хоць пажадлівасьцяў сваіх ён і не заглушае зусім, але адначасна не дапушчае іх да перанасычанасьці,і зноў-жа да гэтакае ступені, каб уціхамірыць іх і прадухіліць судыраньне іхных радасьцяў і цярпеньняў з вышэйшым прынцыпам, які жыве ў адасобленасьці чыстае абстракцыі, у свабодзе разважаньня і ў імкненьні да пазнаньня няведамага, хай сабе мінуўшчыны, сучаснасьці ці будучыні, калі ён зноў паслабіць гвалтоўны элемэнт у сабе, з тым меркаваньнем, каб ня класьціся да сну, будучы ўсхвалаваным і разгневаным. Супакойшы гэткім чынам два ірацыянальныя прынцыпы і ўзьняўшы трэйці прынцып, прынцып разумнасьці, - чалавек тады ляжа на супачынак. Тады, як і ведама табе, ён падыйдзе найбліжэй да праўды, і вельмі магчыма найменей будзе схільным аддавацца лятуценьням і баспраўным вобразнасьцям. 572

- Я зусім падзяляю тваю думку, - сказаў ён.

- Выражаючы гэтак сваю думку, я вельмі адхіліўся на бок. Але тое галоўнае, якое я хацеў увыпукліць, зводзілася да таго, што ў кажным з нас, нават і ў добрым чалавеку тоіцца нейкая бясправўная дзікая натура зьвера, якая вызіраецца ў часе сну. Падумай сам і скажы, ці маю я рацыю і ці ты згаджаешся са мною?

- Ведама, згаджаюся.

- Тады прыпомні сабе, як мы вырысавалі характар чалавека, які стаўся дэмакратам. Змалку ён быў падпарадкаваны ўзгадаваньню пад даглядам ашчаднага бацькі, які прышчэпліваў яму пажадлівасьць жмінднасьці і ніякага пашанаваньня да тых жаданьняў, безь якіх, паводля ягонае думкі, можна абыйсьціся, і якія, як ён думаў, выступаюць толькі дзеля забавы і ўпрыгожаньня. Ці ня так гэта?

- Так.

- Падтрымліваючы супольнасьць з болей элеґантнымі людзьмі, абазнанымі з рознага роду пажадлівасьцямі, пра якія мы вось гаварылі, малады чалавек памалу ўцягваецца ў іхны спосаб жыцьця і ў рознародную разнузданасьць, а гэта затым, што ён чуе ў

сабе абрыдласьць да агіднае бацькаўскае ашчаднасьці, якая мяжуецца са жмінднасьцю. Паводле свае натуры ён, што найменей, лепшым зьяўляецца ад тых, што яго псуюць, затым, будучы пацягнутым у два напрамкі, ён падсьведама затрымліваецца пасярэдзіне паміж гэтымі двума падходамі да жыцьця. Дазнаючы смак, як яму здаецца, у ваднолькавай меры гэтых напрамкаў, ён ня жыве нізкасьцю жыцьця гэтаксама як і ня вырозьніваецца ягонаю беспраўнасьцю і паступова зьіначваецца з чалавека аліґархічнага ў дэмакрата.

– Так, – сказаў ён, – гэта быў наш пагляд адносна яго, і гэтакім ён усё яшчэ астаецца.

– Прымем цяперака, – сказаў я, – што гады мінаюць і ён займеў сына, каторы гэтаксама ўзгадоўваецца ў духу прынцыпаў свайго бацькі.

– Прымем.

– Прымем яшчэ, што зь ім здараецца тое самае,
што здарылася зь ягоным бацькам: яго пачне цягнуць
у даскалала бясправўнае жыцьцё, якое ягоныя спаку-
сьнікі называюць дасканалаю свабодаю. Ягоны бацька,
як і сябры, падтрымліваюць у ім нахіл трымацца ся-
рэдзіны, але ягоныя спакусьнікі супроцьдзейнічаюць
гэтаму. Калі-ж гэтыя спрытныя чараўнікі і стварáль-
нікі тыранаў губяць спадзею адносна сілы іхнага
ўплыву на юнака, тады яны кідаюцца на хітрыкі, каб
прысукаць яму якую-небудзь закаханасьць, якая ста-
нецца ягонаю паняю, што кіравацiме ўсімі ягонымі
573 пажадлівасьцямі, нічоганяробленьнем і растратамі
ашчаднасьцяў – будзе гэта проста нейкі акрылены тру-
цень. А мо' думаеш ты, што любоў у гэткіх людзей
ёсьць нечым іншым?

– Так, – адказаў ён, – гэта і будзе трапным вобразам падобнага чалавека.

– Навакол гэтае юрлівасьці зараз-жа грамадзяцца іншыя пажадлівасьці ў атмасфэры пахашчных курэньняў і духмяных алеяў, ґірляндаў і вінаў, і ўсіх іншых непаўстрыманых насалодзьдзяў, свомых для падобнага роду вядзеньня жыцьця. Да апошніх межаў раздуўшы і добра падкарміўшы джала юру, гэтыя пажадлівасьці ўзбройваюць ім трутня, і тады гэты абаронца душы, агорнуты шалёнасьцю, джаліць; і калі ён знойдзе ў самым сабе якую-небудзь думку ці жаданьне ў працэсе тварэньня, і калі ў ім ёсьць яшчэ якое-небудзь пачуцьцё сораму, дык ён забівае іх, або выганяе вон, аж пакуль зусім не ачысьціцца ад разважнасьці і не напоўніцца да ўзьверху шалёнасьцю.

– Так, – сказаў ён, – гэта тая атмасфэра, якая родзіць на сьвет тырана.

- Ці-ж ня тут ляжыць, - сказаў я, - апраўданьне старавечнага сказу, што старая любоў стаецца тыранам?
- Вельмі магчыма, - сказаў ён.
- І далей, дружа мой, - сказаў я; - ці-ж п'яны чалавек ня дзейнічае як тыран?
- Зусім гэтак.
- І ты ведаеш, што чалавек, які згубіць глузд і ня мае правільнага розуму, гэтакі ўпадзе ў мрою, што ён зьяўляецца здольным панаваць ня толькі над людзьмі, але гэтаксама і над багамі?
- І гэта праўда, - сказаў ён.
- Тыранскі чалавек, дружа мой,-сказаў я, - у праўдзівым значэньні гэтага слова, прыходзіць да быцьця або з прычыны свае натуры ці паводзінаў або, дзякуючы аднаму і другому разам, або калі ўпадае ён у шалёнасьць з прычыны разьліцьця чорнае жоўці.
- Зусім правільна.
- Гэтакім вось зьяўляецца гэты чалавек і гэткім ёсьць ягонае паходжаньне. Далей пытаньне: як ён жыве?
- Ты́ ляпей скажы мне́, - адказаў ён, - гэтак, як і кажацца ў жартаўлівым выслоўі.
- Гэта і ўчыню, - сказаў я. - Мне здаецца, што пасьля гэтага пойдуць у іх баляваньні, шэсьці поўным гуртам, гуляньні з гэтэрамі і з усім падобным, калі Эрос, як пануючы гаспадар у іхнай душы будзе кіраваць усім тым, што ў ёй знаходзіцца.
- Гэта дык ужо напэўна, - сказаў ён.
- Так; з кажным днём і з кажнаю ноччу ўзрастацімуць што-раз болей новыя пажадлівасьці з што-раз большымі дамаганьнямі.
- Запраўды, узрастацімуць, - сказаў ён.
- Гэтаксама і даходы, калі і былі якія-небудзь, хутка вычэрпаюцца.
- Ведама.
- А тады надыйдзе і задоўжаньне, і зьменшаньне ягонае ўласнасьці.
- Дык што?
- І калі нічога не астанецца, дык ці-ж не станецца неабходнасьцю, што ўсе пажадлівасьці, якія загнезьдзіліся ў гэтых людзях, і ў вапрычонасьці тыя, якімі, як тымі жаўнерамі,кіруе Эрос, пачнуць, быццам джаламі падштурхваныя, разглядацца навакол, хто што мае і што можна адабраць хай сабе пры помачы ашуканства ці гвалту? 574
- Але́, - сказаў ён, - гэтак можа стацца.
- І тады станецца ў іх упартаю неабходнасьцю зда-

бываньне сродкаў за кажную цану, а як не, дык давядзецца цярпець нязносныя пакуты і дазнаваць мучэньні.

– Няўхільна.

– І ён будзе паступаць гэтак, як паступалі ягоныя пажадлівасьці. Пажадлівасьці ўспыхнулі ў ім і перамаглі перастарэлыя ўжо і абрабавалі іх з таго, што тыя мелі. Гэтаксама і ён цяперака хоча займець тое найлепшае, што мае ягоны бацька і маці, ня гледзячы на тое, што ён маладзейшы за іх, і грабіць іх, забіраючы часткі маемасьці што належаць да іх, пасьля таго, як ён растраціў сваю долю.

– І што-ж далей? – запытаў ён.

– І калі бацькі не дазволяць узяць гэта, тады ён будзе імкнуцца перш ашукаць іх і падмануць.

– Абавязкава.

– І калі яму гэта ня ўдасца, тады ён тасавацімеі сілу з мэтаю аграбленьня іх?

– І я гэтак думаю, – сказаў ён.

– А калі старыя бацькі будуць бараніцца і пачнуць змагацца зь ім, дык думаеш ты, што ён праявіць спаўчуваньне да іх і паўстрымаецца ад чынаў своимых тыранам?

– Не, – сказаў ён, – я ня маю добрага прадчуцьця адносна бацькоў гэтакага чалавека.

– Але, на нябёсы, Адэімантос, няўжо-ж думаеш ты, што дзеля нейкае новае свае гэтэры, безь якое ён мог-бы абыйсьціся, пачне ён біць сваю маці, якая зьяўляецца найболей доўгатрывалкім сябрам і неабходным апякуном самога ягонага існаваньня і паставіць яе перад неабходнасьцю жыць пад адным дахам і пад даглядам нейкае дзеўкі? Або пры падобных абставінах будзе ён паступаць са сваім, хай сабе з азнакамі веку старым бацькам, найболей даўнейшым са сваіх сяброў, толькі дзеля новазнойдзенага квітнеючага юнака? Няўжа ты думаеш, што гэты чалавек аддасьць сваіх бацькоў ў няволю гэтакім людзям, уводзячы апошніх у свой дом?

– Так, запраўды, – сказаў ён.

– І запраўды, – сказаў я, – вялікае добраслаўленьне для бацькоў займець гэткага тыранскага сына!

– Дый што казаць.

– Перш ён забярэ іхную ўласнасьць, і калі гэтага ня хопіць, а пажадлівасьці пачынаюць роем уздымацца ў вульлі ягонае душы, тады ўломліваецца ён у дом па чужое дабро, або сярод цёмнае ночы зьдзірае плашч з плячэй праходзячага чалавека, а пазьней дочыста апарожнівае якую-небудзь сьвятыню. У

міжчасе ягоныя пагляды зь дзіцячых гадоў адносна дабра і зла перамагаюцца тымі іншымі, якія цяпераха даходзяць да свае сьпеласьці і якія кіруюцца Эросам і тымі, якіх ён ачольвае. Тыя жаданьні, якія падтрымліваліся ў ім яшчэ зь дзён дэмакрацыі, калі ён усё яшчэ быў падпарадкаваны правам і свайму бацьку, праяўляліся толькі ў снах. Але цяпераха, калі ён знайшоўся пад панаваньнем эротычнае любові, ён знаходзіцца стала ў прабуджанай рэчаіснасьці і стаецца гэтакім, якім раней быў адно ў сьне – цяпераха ён не адступіцца перад найболей агідным забойствам, ані гэтаксама перад пераднасычанасьцю, ані чуцца вінаватым у вабліччу найболей страшнага чыну. 575
Любоў зьяўляецца ягоным тыранам, які панам жыве ў ім і бяспраўным, а будучы сам каралём, вядзе яго наперад, падобна, як тыран вядзе гаспадарства, да завяршэньня кажнае подласьці, каб за кажную цану заспакоіць і самога сябе, і тую хэўру, якая таварышыць яму і складаецца з пажадлівасьцяў, што нахлынулі на чалавека часткава звонку зь ягонага сапсутага навакольля, часткава з сярэдзіны, з тых-жа жаданьняў, што ўкарэніліся ў ім самым, і каторыя ён цяпераха выпусьціў на волю. Ці-ж ня ёсьць гэта вобраз жыцьця, якім жыве падобны чалавек?

– Так, запраўды, – адказаў ён.

– Нават калі ў гаспадарсьцьве ёсьць толькі некалькі падобных людзей, а іншыя зьяўляюцца людзьмі добрадумаючымі, тады яны выходзяць у чужыя краіны і стаюцца або целаахоўнікамі або наймітамі ў войску якога-небудзь тырана, які патрабуе іх дзеля вядзеньня вайны; а калі гэткае ваеннае нагоды няма шака, тады яны астаюцца ў сваей бацькаўшчыне і спрычыняюць хоць і малое, але шматлікае зло.

– Пра якое зло гаворыш ты?

– Ды хоць-бы, для прыкладу, пра гэтакае, што яны крадуць, уломліваюцца ў дамы, выкройваюць кішэні, грабяць падарожных з вопраткі, прадаюць людзей у няволю, і калі яны зьяўляюцца беглымі ў мове, тады стаюцца даносчыкамі і хвальшывымі сьведкамі і бяруць хабары.

– Добра малое! – сказаў ён. – Але ўсё-ж зло, нават і тады, калі ня шмат гэтакіх людзей ёсьць?

– Так, – сказаў я; – малое і вялікае – гэта адносныя паняцьці, але ў сэнсе шкоды і няшчасьця, спрычыненага гаспадарству, у параўнаньні, як гэта кажацца, з тыранам, ня мае вялікага значэньня. Але калі гэтых шкодных людзей і іхных прыхільнікаў панасабіраецца вялікая колькасьць і стануцца сьведа-

мымі свае сілы, ды яшчэ ўспамогуцца сьляпым захопленьнем вуліцы, тады яны выбяруць з пасярод свайго гурту гэтакага, які найболей мае з тыранскасьці ў сваей душы, і гэтакага яны апавесьцяць сваім тыранам.

– Так, – сказаў ён, – і ён найболей будзе адказваць вымаганьням, каб быць тыранам.

– Калі яны паддадуцца, дык добра; калі-ж яны супроцьставяцца яму, тады, гэтак, як ён біў сваю маці і бацьку, цяперака, калі ён набраўся сілы, ён пачне біць іх і падпарадкуе сабе сваю бацькаўшчыну або, як жыхары Крэты кажуць, сваю маці-бацькаўшчыну і перакажа яе пад уладу сваім маладым прыхільнікам, якіх ён паставіць людзям як іхных кіраўнікоў і загадчыкаў. Вось мэта пажадлівасьцяў гэткага чалавека.

– Якраз гэтакаю ёсьць яна, – сказаў ён.

– Калі гэтакія людзі зьяўляюцца толькі прыватнымі адзінкамі, перад тым як здабудуць уладу, дык
гэтым і адзначаюцца яны; супольнасьць яны шукаюць
толькі са здольнымі да лісьлівасьці і падхалімства;
але калі яны самыя маюць у чым-небудзь патрэбу, тады бязь ніякага сораму хіляцца да чалавека, прыкідваючыся, быццам блізкія яму, але хай сабе хоць крыху
576 хy даб'юцца свайго – яны зараз-жа чужыя.

– Гэта дык трапна падгледжана.

– Яны заўсёды, або зьяўляюцца гаспадарамі, або служкамі і ніколі прыяцелямі каго-небудзь; тыранская натура ніколі не скаштавала запраўднае свабоды або праўдзівага сяброўства.

– Ведама.

– Ці-ж ня маем мы тады абаснаваньня назваць гэтакіх людзей ненадзейнымі?

– Дый як-жаж інакш?

– Яны зьяўляюцца да вышэйшае ступені несправядлівымі, калі толькі мы не памыляемся што да нашага разуменьня несправядлівасьці.

– Так, – сказаў ён, – і я думаю, што мы не памыляемся.

– Тады, – сказаў я, – давайце падсумуем коратка характар найгоршага чалавека: ён зьяўляецца прабуджанаю рэчаіснасьцю таго, што мы бачылі ў снах.

– Ведама.

– І гэтакім ёсьць той, каторы, будучы з натуры найболей тыранскім, трымае ў сваіх руках уладу; і чым даўжэй ён жыве, тым большым тыранам стаецца.

– Гэта дык напэўна, – сказаў Гляўкон, у сваю чаргу ўключаючыся ў дыскусыю.

- Дык ці-ж ня будзе, - сказаў я, - той найболей няшчасным, хто зьяўляецца найбольшым нягоднікам? І чым даўжэй і болей была-б у ягоных руках улада, тым болей і найдаўжэй быў-бы ён гэтакім у запраўднасьці, хоць большасьць людзей розна сабе гэта тлумачыць.

- Так, - сказаў ён, - і гэта няўхільным ёсьць.

- Гэтаксама рэч маецца і з падобнасьцю, - сказаў я, - калі тыранскі чалавек упадабняецца да тыранскага гаспадарства, а дэмакратычны чалавека - да дэмакратычнага гаспадарства. Падобна рэч маецца і ў іншых выпадках?

- Напэўна.

- І як гаспадарства маецца да гаспадарства ў сэнсе мужнасьці і шчасьця, гэтак і чалавек маецца да чалавека?

- Ведама.

- А як у сэнсе мужнасьці ўсуадношваецца гаспадарства з тыранскім ладам да гаспадарства, кіраванага каралём, пра якога мы перш гаварылі?

- Яны зусім супроцьлежныя сабе, - сказаў ён.- Бо адно зь іх зьяўляецца найлепшым, а другое - найгоршым.

- Я ня буду пытаць, - адказаў я, - якое зь іх ты ўважаеш якім, бо-ж гэта і бяз пытаньня ведамым ёсьць. Але ў сэнсе шчасьця або, наадварот, мізэрнасьці, ты-ж гэтаксама выражыш, ці мо' інакш? Мы не павінны паддавацца пад уплыў спазору тырана, у вапрычонасьці або абкружанага шматлікаю сьвітаю,але мы павінны разгледзець гаспадарства ў сваей суцэласьці, увайсьці ў яго, усяму добра прыглядзецца і ўнікнуць, і тады ўжо выказваць сваюдумку праяго.

- Тваё вымаганьне вельмі трапным ёсьць, - сказаў ён. - Аднак-жа кажны можа ясна бачыць, што няма болей жалю годнага гаспадарства, як тое, што кіруецца тыранам, і найболей шчасьлівым тое, у якім правіць кароль.

- А калі пры ацэне паасобных людзей я вымагаў-бы падобнага падыходу, дык ці-ж маё вымаганьне ня было-б правільным? Я ўважаю, што пра іх можа мер- 577
каваць толькі той, хто зьяўляецца здольным разглядваць чалавека, унікаючы ў ягоную натуру, а не ўзірацца, як дзіця адно на вонкавасьць і дзіву давацца з прычыны ўсяе тае пышнасьці і помпы, якая ўводзіцца дзеля выкліканьня ўражаньня на тых, што ўзіраюцца, - трэба быць кемным, каб разабрацца ўва ўсім гэтым. Мне здаецца, што нам трэба было-б прыслухацца да водклікаў таго, хто запраўды меў маг-

чымасьць урабіць сабе апінію, гэта значыць, хто жыў-бы ў вадным доме з тыранам, і меў-бы магчымасьць прыглядзецца ягонаму хатняму спосабу штодзеннага жыцьця і ягоным суадношаньням да найбліжэйшых у сям'і, дзе можна яго бачыць безь ягоных пышных адзежаў, барждзжэй свомых для сцэны ў трагэдыі, і зноў-жа, у гадзіне агульнае небясьпекі - і няхай скажа нам пра памыснасьць і няшчасьце тырана ў параўнаньні зь іншымі людзьмі.

- Прапазыка, - сказаў ён, - вельмі трапная.

- Калі хочаш, затым, - сказаў я, - прымем, што мы належым да таго ліку людзей, якія зьяўляюцца здольнымі судзіць, або што найменей мы ўжо спатыкаліся з гэткага роду людзьмі? Тады мы павінны мець сярод нас каго-небудзь, хто быў-бы здольнам адказаць на нашыя пытаньні.

- Ведама.

- Тады, хадзі, - сказаў я, - і паўзірайся на пытаньне гэтак: прыпомні сабе тое падабенства, якое існуе паміж гаспадарствам і паасобным чалавекам і ў чарговасьці сваей бяры тую або іншую характэрную рысу, паказваючы пры гэтым на стан таго і іншага.

- Што ты маеш на ўвазе? - запытаў ён.

- Перад усім, - сказаў я, - калі пачаць гутарку пра гаспадарства, ці скажаш ты, што места, якое кіруецца тыранам, зьяўляецца свабодным ці паняволеным?

- Паняволеным у найвышэйшай ступені,- сказаў ён.

- І ўсё-ж, тыназіраеш там гэтак гаспадароў, як і свабодных людзей?

- Так, - адказаў ён; - я бачу, але іх зусім мала, але людзі, кажучы агульна, і найлепшыя зь іх, знаходзяцца ў бяссорамным і мізэрным паняволеньні.

- Тады, - сказаў я, - калі чалавек упадабняецца да гаспадарства, дык і ў ім неабходна павінен быць той самы парадак: ягоная душа напоўнена паняволеньнем і ўпадкам, і зноў, тыя яе найлепшыя характэрныя рысы, знаходзяцца ў падпарадкаваньні, а пануе адно малая яе частка, самая заганная і лютая.

- Няўхільна гэтак, - сказаў ён.

- Тады, што? Скажаш ты, што душа гэтакага чалавека зьяўляецца душою свабоднага чалавека ці мо'нявольніка?

- Як я́ гэта бачу, ён мае душу нявольніка, - адказаў ён.

- А паняволенае тыранам гаспадарства, ці-ж не зьяўляецца няздольным паступаць гэтак, як яно хоча?

- Зусім няздольным.

- Гэтаксама і душа пад тыранскім кіраўніцтвам зусім ня будзе здольнаю чыніць тое, што яна хоча /будзем мець на ўвазе душу ў яе суцэльнасьці/. Тут знаходзіцца сьляпень, які падбадзёрвае яе, і яна знаходзіцца ў стане сумяціцы і дакору сумленьня.
- Напэўна.
- А гаспадарства пад панаваньнем тырана зьяўляецца багатым ці бедным?
- Бедным. 578
- І тыранская душа мусіць быць заўсёды беднаю і нездаволенаю?
- Так, - сказаў ён.
- І як? Ці-ж гэткае гаспадарства і гэтакі чалавек ня мусяць заўсёды быць перапоўненымі страхам?
- І вельмі нават.
- Ці існуе дзе-небудзь гэтакае гаспадарства, у якім знойдзеш ты яшчэ болей гора, стогнаў, плачу і цярпеньня?
- Нідзе.
- Ці існуе дзе-небудзь гэтакі чалавек, у якім ты знойдзеш большую мізэрнасьць ад тае, якую назіраем у тыранскага чалавека, перапоўненага лютасьцю сваіх пажадлівасьцяў і хцільнасьцяў?
- Ды дзе? - адказаў ён.
- Маючы на ўвазе ўсё гэта дый іншае зло, ці ня думаеш ты, што самае мізэрнае гаспадарства - гэта гаспадарства тыранскае?
- І думаць гэтак ёсьць правільнаю рэчаю? - запытаў ён.
- Нават вельмі правільнаю, - адказаў я. - І калі ты назіраеш гэтае зло ў тыранскім чалавеку, дык што-ж ты можаш сказаць пра гэта?
- Я магу сказаць, - адказаў ён, - што гэтакі чалавек зьяўляецца найболей нешчасьлівым сярод усіх людзей.
- Вось гэта, - сказаў я, - дык ты кажаш няправільна.
- Як гэта? - запытаў ён.
- Я думаю, - сказаў я, - што ён яшчэ не асягнуў кульмінацыйнага пункту свайго няшчасьця.
- Хто-ж ёсьць болей нешчасьлівым?
- Нехта, пра каго я вось манюся сказаць.
- Хто?
- Той, хто мае тыранскія хцільнасьці і каму не ўдаецца пражыць сваё жыцьцё як прыватнаму чалавеку, калі пры зьбегу абставінаў яго спаткае няшчасьце - стацца тыранам у грамадзкім жыцьці.
- На падставе таго, аб чым мы гаварылі раней, я

раблю выснаў, што гэтым разам ты кажаш правільна.
- Так, - сказаў я, - але пры падобнай высокай арґумэнтацыі, ты ня можаш кіравацца агульным здагадваньнем. Бо з усіх пытаньняў, гэтае, якое адносіцца да дабра і зла, зьяўляецца найбольшым.
- Вельмі трапна выражана, - сказаў ён.
- Паўзірайся ўважна, ці я гавару дарэчы. Пры разглядзе гэтага пытаньня можна мець на ўвазе наступную ілюстрацыю.
- Якую ілюстрацыю?
- Тую, якая кажа нам, што ў месьце ёсьць прыватныя багатыя адзінкі, якія маюць шматлікіх нявольнікаў; згэтуль ты можаш уявармаваць сабе паняцьце ў якіх абставінах знаходзіцца тыран - бо дзьве стораны маюць нявольнікаў: адзіная розьніцца паміж імі ёсьць тая, што тыран мае шмат болей нявольнікаў.
- Так, розьніца тут відавочная.
- Ты-ж гэтаксама і тое ведаеш, што гэтыя людзі жывуць спакойна і не баяцца сваіх слугаў.
- Дый чаму-ж яны маюць баяцца?
- Так сабе, - адказаў я. - Але ці спасьцерагаеш ты прычыну гэтага?
- Так; прычына тут знаходзіцца ў тым, што прыватнай адзінцы прыходзіць на помач цэлае гаспадарства.
- Ты прыгожа кажаш, - сказаў я. - Але ўяві сабе, што хто-небудзь з багоў возьме гэтакага багатага чалавека зь ягонымі пяцьцюдзесяцьцю, скажам, нявольнікамі, ды перанясе яго ў пустыню разам з жонкаю, дзяцьмі і рознымі слугамі і з усёю маемасьцю - туды, дзе нямашака свабоднанароджаных людзей, якія прыйшлі-б яму на помач у выпадку патрэбы - як ты думаеш, колькі-б яму давялося накаўтацца страху з прычыны небясьпекі для яго самога, ягонае жонкі і сваіх дзяцей на самую думку, што нявольнікі могуць усіх іх пазабіваць?
- Так, - сказаў ён, - ён заўсёды быў-бы ў най-
579 большым жаху.
- Ці-ж не пачаў-бы ён у гэткім выпадку сам падлабрывацца перад сваімі нявольнікамі, даваць ім розныя прырачэньні і пушчаць іх на волю бязь ніякае неабходнасьці? Ці-ж ня стаўся-б ён сам падлізьнікам перад сваімі нявольнікамі?
- Так, - адказаў ён, - гэта быў-бы адзіны спосаб ратунку для яго.
- І прымем цяперака, - сказаў я, - што гэты самы бог, які перанёс яго сюды, аселіць навакол яго суседзяў, але гэтакіх, што ня сьцерпяць пагляду,

каб адзін чалавек панявольваў іншага чалавека і, калі гэтакі праступнік пападзецца ім у рукі, ці не пакараюць яны яго найвышэйшаю караю?

– Ягонае палажэньне зусім станецца дрэнным, – сказаў ён, – калі пільнуюць яго навакол адны толькі ворагі.

– Гэта і ёсьць тою вязьніцаю, у якой тыран знойдзе самога сябе – які, паводля свае натуры, будучы гэтакім, як мы і апісалі яго, зьяўляецца перапоўнены рознага роду страхамі і пажадлівасьцямі? Са сваею прагавітаю душою толькі ён адзін ува ўсім гаспадарсьцьве не адважыцца выехаць куды-небудзь, ані пайсьці паўзірацца на тое, чым цешаць свой зрок усе свабоднанароджаныя людзі; пераважна жыве ён у сваей пячоры, быццам тая жанчына сукрытая ў сваім доме, зайздросьцячы усім іншым грамадзянам, калі хто-небудзь зь іх выяжджае ў іншыя краіны, каб пабачыць нешта прыгожае і духова будуючае.

– Вельмі дакладна выражана, – сказаў ён.

– І да гэтага яшчэ ў васяродзьдзі ўсіх гэтых злыбедаў, ці ня будзе ён, каторы кіруецца агіднасьцю ў самым сабе – тыранскі чалавек? – гэта значыць, той, якога ты вось толькі што азначыў як найболей няшчаснага з усіх людзей, – ці-ж гэты ня будзе яшчэ болей мізэрным, калі, замест таго, каб жыць прыватным жыцьцём, ён, з прычыны нейкіх там прыпадкавасьцяў змушаным аказаўся стацца тыранам і распасьціраць сваё панаваньне над іншымі людзьмі? Ён мае быць панам над іншымі ў тым самым часе, калі ён ня можа стацца гаспадаром над самым сабою: гэта падобным было-б да таго, калі-б чалавек хілкага здароўя, які не зьяўляецца ў стане ўправіцца са сваімі хворасьцямі і вядзе жыцьцё на самоце, раптам змушаным стаўся-б выйсьці са свайго ўкрыцьця і пачаць ходаньне і змаганьне з сільнымі і здаровымі людзьмі.

– Так, – сказаў ён, – усё гэта падобна да гэтага, і ты, Сакратас, маеш рацыю.

– Затым, – сказаў я, – ці-ж ня гэтак рэч маецца, мой дарагі Ґляўкон, што гэтакі стан – гэта няма сумліву, няшчасьце, а жыцьцё таго, хто стаўся тыранам, яшчэ горшым ёсьць за жыцьцё, якое ты прызнаў за самае цяжкое для чалавека?

– Напэўна, – сказаў ён.

– Затым, – хоць іншыя і ня згодзяцца з гэтым, – той, хто зьяўляецца праўдзівым тыранам, ёсьць праўдзівым нявольнікам, і змушаным зьяўляецца практыкаваць найбольшую пахіласьць да зямлі і служальчасьць і быць падлізаю перад найболей нізкімі зь лю-

дзей. Ён праяўляе пажадлівасьці, якіх ён ня можа заспакоіць, і мае болей жаданьняў, чымся хто-небудзь зь людзей і зьяўляецца праўдзіва бедным, калі толькі ведамымі табе стаюцца шляхі да пазнаньня ягонае душы: усё ягонае жыцьцё - гэта бесперапынны ланцуг страху ў атмасфэры канвульсыйных перажываньняў і паразаў - калі ўжо і падобным ён ёсьць да ладу краіны, якою кіруе. А падобнасьць між імі ўсё-ж ёсьць,
580 ці ня так гэта?

- Вельмі вялікая, запраўды, - сказаў ён.

- Апрача гэтага, мы адцемім у гэтага чалавека тыя характэрныя рысы, пра якія мы ўжо гаварылі раней: улада няўхільна ўчыніць яго болей завідным і бязьверным, болей несправядлівым, болей няпрыхільным да людзей і болей вераломным, чымся быў ён раней; ён жывіць і падтрымлівае ўсякае зло і кажную загану; і пасьлядоўна, ён у сваеасаблівай меры няшчасным ёсьць, і кажнага іншага чалавека ён чыніць гэтакім самым няшчасным.

- Кажны чалавек, - сказаў ён, - са здаровым розумам ня будзе гэтага аспрэчваць.

- Хадзі, тады, - сказаў я, - і як галоўны судзьдзя ў тэатральным спаборніцтве апавяшчае вырашэньне, гэтак і ты скажы, хто, паводля твае думкі, займае першае месца адносна шчасьця, хто - другое і гэтак далей: усіх іх ёсьць пяць прадстаўнікоў - княжы лад, цімократычны, аліґархічны, дэмакратычны і тыранскі.

- Пастанова тут можа быць лёгка прадпрынятаю, - сказаў ён; - яны павінны выступіць быццам тыя хоры ў тэатры і ў той самай чарговасьці, у якой яны выступалі перад намі, і я мушу вынесьці вырашэньне на падставе крытэрыяёну +/ мужнасьці і заганы, шчасьця і мізэрнасьці.

- Ці маем мы наняць апавяшчальніка, - сказаў я, - ці мо' я сам падам да ведама, што сын Арыстона вырашыў, што найлепшы і найболей справядлівы зьяўляецца гэтаксама і найболей шчасьлівым і, што гэты і ёсьць найболей княжы муж і гаспадар сам над сабою; але, што найгоршы і найболей несправядлівы чалавек ёсьць гэтаксама найболей мізэрным і, што гэты зьяўляецца тым, каторы, будучы тыранам сам у сабе, найболей тыранізуе сваё гаспадарства?

- Тады ўважацімем гэта за апавешчанае, - сказаў ён.

- І ці не дадаць мне яшчэ і тое, - запытаў я, - што, незалежна ад таго, будуць гэтыя іхныя свомась-

+/ Κριτήριον.

ці ведамымі ці ня ведамымі, гэтак багам як і лю-
дзям?
- Дадаць і гэтыя словы, - сказаў ён.
- I гэта, - сказаў я, - будзе нашым першым до-
вадам; існуе гэтаксама і іншы, які таксама мае сваё
значэньне.
- Які довад?
- Другі, - сказаў я, - выводзіцца з натуры ду-
шы; калі душа паасобнага чалавека, падобна як га-
спадарства, распадзелена намі на тры прынцыпы, та-
ды гэтакі распадзел, я думаю, можа выявіць нам но-
вы довад.
- Які?
- Гэты: мне выдаецца, што гэтыя тры прынцыпы ад-
казваюць тром прыемнасьцям. Падобна падразьдзель-
ваюцца і пажадлівасьці як і ўлада над імі?
- Што ты маеш на ўвазе? - запытаў ён.
- Мы гаварылі, што існуе першапачатак - гэта тое
нешта, пры помачы чаго чалавек вучыцца або пазнае,
другі - пры помачы якога ён запальваецца і ўпадае ў
злосьць; трэйці-ж, з прычыны множнасьці сваіх спэ-
цыфічных праяваў ня мае адумыснага назову, але мы
назвалі яго пажадлівым, а гэта затым, што праяўляе
ён сілу пажадлівасьці да яды і піцьця, да любоўных
уцехаў і да ўсяго таго, што вяжацца з гэтым; сюды
адносіцца і золаталюбнасьць, бо на заспакаеньня гэ-
такіх пажадлівасьцяў вельмі патрэбны грошы. 581
- I правільным ёсьць гэта, - сказаў ён.
- I, калі-б мы сказалі, што любоў і прыемнасьць
гэтага трэйцяга першапачатку маюць на ўвазе выгаду,
талы болей за ўсё выразілі-б мы гэткім спосабам ад-
ну зь ягоных галоўных характэрных рысаў, а гэтым
кажны раз было-б нам ясным, пра якую частку душы
ідзе гутарка; і калі-б мы назвалі гэта золаталюб-
насьцю і пагоняю за карыснасьцю, ці-ж гэтакае аба-
значэньне ня было-б правільным?
- Што найменей і мне гэтак выдаецца, - сказаў ён.
- I зноў-жа; ці ня скажам мы, што высока-злосны
дух заўсёды і з усёю ўвагаю імкнецца, каб асілець
каго-небудзь і перамагчы, і займець славу?
- Бязумоўна.
- Прымем, што мы называем гэта сваркавым і ам-
бітным - ці будзе гэта адпаведным?
- Вельмі адпаведным.
- З другога боку, кажны ведае, што прынцып веды
суцэльна накіраваны на пазнаньне праўды і яе сут-
насьці і найменей турбуецца пра грошы і славу.
- Нават зусім не клапоціцца.

– А калі назавецімем яго прыхільнікам пазнаньня і прыхільнікам мудрасьці, ці будзе гэтае абазначэньне адпаведным?

– І чаму не?

– Адзін прынцып у душы кіруе ў адных людзей, а іншы – у іншых; гэта як складзецца?

– Але́, – адказаў ён.

– Тады перад усім трэба сказаць, што існуюць тры групы людзей: першая – філёзафы, другая – прыхільнікі гонару, трэйцяя – золаталюбцы?

– Ведама.

– І гэтаксама ёсьць тры роды прыемнасьцяў, якія адказваюць тром групам людзей?

– У кажным выпадку.

– Цяперака, – сказаў я, – калі ты дасьледзіш з гэтых трох групаў людзей і запытаеш кажнага зь іх у сваей чарговасьці, якое жыцьцё найболей прыемным ёсьць, тады кажны зь іх будзе хваліць сваё ўласнае і ганіць іншае. Бізнэсмэн скажа, што ў параўнаньні з нажываю прыемнасьць ад гонару вельмі нязначная, хіба што з гэтага можна выціснуць прыход у хворме серабра і золата?

– Правільна, – сказаў ён.

– А прыхільнік гонару? – запытаў я. – Якім будзе ягоны адказ? Ці-ж ня будзе ён думаць, што прыемнасьць з багацьця ня вартаю ёсьць годнага чалавека, а прыемнасьць пазнаньня, калі яна ня прыносіць вывышэньня, ці-ж не зьяўляецца проста дымам і бязглузьдзіцаю?

– Але́, гэтак і скажа ён.

– Дык ці-ж маем мы прыняць, – сказаў я, – што філёзаф ня бачыць ніякае вартасьці ў іншых прыемнасьцях у параўнаньні з прыемнасьцю веданьня праўды і яе сутнасьці і, астаючыся верным у пазнаваньні, ці-ж не знаходзіць ён, што ўсё іншае вельмі далёка знаходзіцца ад прыемнасьці? Дый у іншых прыемнасьцях ён ня бачыць ніякае патрэбы, хіба што немагчыма ўхіліцца ад іх – затым бо і называе ён іх неабходнымі?

– У гэтым няма ніякага сумліву, – адказаў ён.

– І калі ўжо, – сказаў я, – прыемнасьці кажнае
з трох групаў людзей і кажны спосаб жыцьця падпадае
пад сумліў і ўзьнікае пытаньне, якое жыцьцё
зьяўляецца болей ці меней ганаровым або лепшым ці
горшым, а галоўна, якое зьяўляецца найболей прыемным
або вольным ад цярпеньня – тады, скуль мы веда-
582 цімем, хто праўду кажа?

– На гэта я не магу даць адказу, – сказаў ён.

- Добра, але дзе павінен знаходзіцца наш крытэрыён? ці ёсьць нешта лепшае, чымся дасьведчаньне і мудрасьць або розум?
- Нічога ня можа быць лепшым, - сказаў ён.
- Тады паўзірайся. З трох чалавек, каторы мае найбольшае дасьведчаньне з усіх успомнутых намі прыемнасьцяў? Бізнэсмэн, у справе пазнаньня праўды і яе сутнасьці, мае большае дасьведчаньне прыемнасьці веды, ці мо' філёзаф болей дасьведчаны ў прыемнасьці, што выцякае з нажывы?
- Філёзаф, - сказаў ён, - мае большую перавагу; бо-ж ён зь неабходнасьці мусіў пазнаць прыемнасьці зь дзіцячых гадоў, тады як для чалавека нажывы пры ўсім ягоным дасьведчаньні ніколі не ўзьнікала неабходнасьць спробы - або барждзэй можна сказаць, нават калі-б ён і жадаў сабе гэтага, насілу ці давялося-б яму - скаштаваць з насалоды пазнаньня і веданьня праўды.
- Тады, - сказаў я, - чалавек з любоўю да мудрасьці мае большую перавагу над бізнэсмэнам у прадмеце тае і другое прыемнасьці.
- Значна большую.
- І яшчэ: Мае ён большае дасьведчаньне ў прыемнасьцях гонару, ці мо' прыхільнік гонараў у прыемнасьцях мудрасьці?
- Не, - сказаў ён, - усе тры карыстаюцца пашанаю ў той прапорцыі, у якой яны асягваюць свае мэты. Бо-ж багаты чалавек і харобры, гэтаксама як і мудры аднолькава маюць натоўп сваіх пасьлядоўнікаў; і затым, што ўсе яны атрымліваюць гонары - усе яны дазнаюць прыемнасьць гонару; але тая асалода, якая дазнаецца ў пазнаньні запраўднага быцьця, зьяўляецца ведамаю толькі філёзафу.
- Тады дасьведчаньне ягонае ўчыніць яго болей здольным у выдаваньні суду, чымся каго-небудзь іншага?
- Дый як-жаж інакш?
- І ён зьяўляецца адзіным, каторы мае мудрасьць, як і дасьведчаньне.
- Напэўна.
- І далей; тая здольнасьць, што зьяўляецца прыладаю ў выдаваньні суду, належыць не да прагавітага і любіцеля гонараў, але толькі да філёзафа.
- Якая здольнасьць?
- Розум, пры помачы якога мы выдаем суд; ці ня так гэта?
- Так.
- Разважаньне - гэта і ёсьць пераважна прылада

філёзафа.
– Напэўна.
– Калі багацьце і нажыва зьяўляюцца мернікам, тады пахвала і папрок з боку прагавітага ў нажыве былі-б найболей давернымі суджэньнямі.
– Напэўна.
– Але калі судзіць на аснове гонару, перамогі або храбрасьці, тады ў падобных выпадках, правільнымі былі-б суджэньні амбітнага або проста задзіракі?
– Ясна.
– Але калі ўжо дасьведчаньне і розум зьяўляюцца судзьдзямі?...
– Тады адзіны магчымы выснаў ёсьць, – сказаў ён,– што прыемнасьці, успрынятыя чалавекам, які любіць
583 мудрасьць, павінны быць самымі трапнымі.
– І гэтым дайшлі мы да выснаву, што прыемнасьць разумнае часткі душы зьяўляецца найболей прыемнаю з трох відаў прыемнасьцяў і, што той з нас, у кім знаходзіцца гэты кіруючы прынцып, цешыцца жыцьцём найболей прыемна.
– Дый як можа быць інакш? – адказаў ён. – Нездарма-ж разумны чалавек выражаецца з гэтакім аўтарытэтам, калі ён паддае ацэне сваё ўласнае жыцьцё.
– А якому жыцьцю і якім прыемнасьцям вызначыць наш судзьдзя наступнае месца?
– Ясна, што ваяру і прыхільніку гонараў – яны бліжэй знаходзяцца да першага, чымся прыемнасьці здабыўцы грошай.
– З гэтага можна здадумацца, што на апошнім месцы знаходзяцца прыемнасьці нажыўцы.
– Дый як-жаж інакш? – сказаў ён.
– І гэтым прайшлі мы быццам два спаборніцтвы ў сваей чарговасьці і два разы выйшаў пераможнікам чалавек справядлівы, а несправядлівы – пераможаным. Цяпераka пачнецца трэйцяе спаборніцтва – олімпійскае, на чэсьць Олімпійскага Зэўса: заўваж пры гэтым, што ўва ўсіх, апрача чалавека інтэлігэнтнага, прыемнасьці выпалі ня зусім поўнымі, яны нагадваюць сабою барджджэй зарысаваньне ценяў; але, нешта падобнае чуў я аднойчы ад тых, што ведаюць, – а гэта-ж азначала-б ужо нішто іншае, як поўную паразу.
– Ведама, што поўную; але што ты маеш на ўвазе?
– Зараз увыпуклю вам, – сказаў я, – калі вы вашымі адказамі паможаце мне ў пошуках.
– Тады, пытай, – сказаў ён.
– Адкажы, затым, мне, – сказаў я, – ці ня кажам мы, што цярпеньне зьяўляецца супроцьлежнасьцю пры-

емнасьці?

- Ведама.

- Ёсьць гэтаксама прамежны стан, калі мы кажам, што ёсьць нешта, што́ ані радасным зьяўляецца, ані сумным?

- Ёсьць.

- Прамежны стан - гэта стан, у якім выступае нейкі супакой душы паміж тым і гэтым. А мо' называеш ты гэта як-небудзь інакш?

- Не, так, - адказаў ён.

- Ці прыпамінаеш ты сабе, - запытаў я, - як людзі выражаюцца, калі яны хварэюць?

- Што яны кажуць?

- Яны кажуць, што нічога няма болей прыемнага, як быць здаровым. Але да хваробы яны не спасьцерагалі, я́к гэта прыемна.

- Так, прыпамінаю сабе, - адказаў ён.

- І калі чалавек церпіць з прычыны вострага болю, ты чуў напэўна, як яны кажуць, што найболей прыемным ёсьць тое, калі болі супыняюцца?

- Чуў.

- Існуе цэлы рад іншых падобных выпадкаў, якія, я думаю, ты назіраў; калі гора наведае людзей, тады ня думаюць яны пра радасьць, як пра вышэйшую прыемнасьць, а толькі пра тое, каб пазбыцца гора і наступіла ціхамірнасьць?

- Так, - адказаў ён, - у падобных выпадках іхным жаданьнем, барждзэй, ёсьць цешыцца радасьцю ціхамірнасьці і супачынку.

- Зноў-жа, калі радасьць супыняецца, дык ці не стаецца гэтакі супачынак або ціхамірнасьць свайго роду сумам?

- Бадай-што, - сказаў ён.

- Затым, - сказаў я, - тое, што́ мы прамежным станам называем, пайменна супачынак -будзе адначасна і прыемнасьцю, і болем?

- Выглядае гэтак.

- Ці ёсьць тады магчымым, каб тое, што́ было ані тым, ані гэтым, магло стацца абодвума?

- Па-мойму, не.

- І прыемнасьць, што ўзьнікае ў душы, як і цярпеньне - абодва зьяўляюцца пэўным рухам. Ці ня так гэта?

- Так. 584

- А ці-ж тое, што́ ня было ані цярпеньнем, ані прыемнасьцю ня выявілася нам як супакой і як нешта, што́ знаходзіцца паміж гэтымі двума?

- Запраўды гэткім выявілася.

– Дык ці можа быць трапнаю думка, што адсутнасьць цярпеньня зьяўляецца прыемнасьцю, і прыемнасьць – цярпеньнем?

– Зусім не.

– Затым, гэта ёсьць толькі зьява, а не запраўднасьць, – сказаў я; – інакш кажучы, супачынак ёсьць прыемнасьцю ў дадзеную хвіліну і ў параўнаньні да таго, што ёсьць цярпеньнем, а цярпеньне цярпеньнем у параўнаньні да таго, што ёсьць прыемным. Але ўсе гэтыя праявы ў сьвятле запраўднае прыемнасьці зусім не зьяўляюцца рэчаіснасьцю і ў іх няма шака нічога здаровага, яны – гэта насланьне.

– Што найменей, – сказаў ён, – наша гутарка паказвае на гэта.

– І яшчэ, – сказаў я, – паўзірайся на прыемнасьці, якія не выцякаюць зь цярпеньня; бо ты можаш падумаць цяперака, што гэта зьяўляецца правам натуры ў тым сэнсе, што прыемнасьць – гэта спыненьне цярпеньня, а цярпеньне – спыненьне прыемнасьці.

– Што-ж гэта за прыемнасьці, – сказаў ён, – і дзе іх можна сустрэць?

– Ёсьць вялічэзная колькасьць іх, – сказаў я; – вазьмі для прыкладу хоць-бы прыемнасьці, зьвязаныя з пачуцьцём нюху: мы дазнаем іх хутка і бязь ніякага цярпеньня, якое папераджала-б іх; а калі гэтыя прыемнасьці спыняюцца, яны не пакідаюць па сабе ніякіх цярпеньняў.

– Шчырая праўда, – сказаў ён.

– Тады, не павінны мы дапушчаць думкі, быццам чыстая прыемнасьць – гэта спыненьне цярпеньня, або цярпеньне – прыемнасьці.

– Не, не павінны.

– І ўсё-ж, – сказаў я, – чысьленыя прыемнасьці, якія адчуваюцца душою праз цела, падпадаюць пераважна пад гэтую катэґорыю – і яны зьяўляюцца палёгкаю для цярпеньня.

– Гэтакімі яны зьяўляюцца.

– Ці-ж ня гэтак рэч маецца з прадчуцьцём надыходзячых прыемнасьцяў і цярпеньняў, якое папярэджвае іх?

– Якраз гэтак.

– Ці магу я тут выразіцца пры помачы ілюстрацыі?

– Калі ласка, – сказаў ён.

– Ты згодзішся, – сказаў я, – што ў натуры існуе верх, ніз і сярэдзіна?

– Згаджуся.

– Цяперак, калі каго-небудзь пераносяць зьнізу ў сярэдзіну, дык ці ня думае ён, што ён падымаецца

ўверх? А затрымаўшыся пасярэдзіне і аглядваючыся, скуль ён сюды папаў, дык ці ня будзе ён думаць, што знаходзіцца ўжо наверсе, а не дзе-небудзь на іншым месцы, - бо-ж пакуль-што ён ня бачыў яшчэ запраўднага верху?

- Дый запраўды, - сказаў ён, - як може думаць ён інакш?

- А што, - сказаў я, - калі-б ён паляцеў уніз назад, ці не ўважаў-бы ён, што ляціць назад, і правільна ўважаў-бы?

- Ведама.

- Усё гэта ўзьнікае ў яго з прычыны ягонае нясьведамасьці што да існаваньня запраўднага верху, сярэдзіны і нізу?

- Ясна.

- Ці-ж будзеш ты дзівіцца, калі людзі, недасьведчаныя ў праўдзе, - гэтак як і памылковыя ўяўленьні яны маюць адносна іншых рэчаў, - могуць гэтаксама мець памылковыя пагляды адносна прыемнасьці і цярпеньня і прамежнага стану? Падобна рэч маецца, калі яны, будучы перанесенымі ў кірунку болю, адчываюць боль і думаюць, што боль іхны запраўдным ёсьць; гэтаксама рэч маецца зь імі, калі яны 585 пераходзяць у прамежнае, яны непахісна вераць, што яны асягнулі стан здаволеньня і радасьці; яны, ня ведаючы прыемнага, памыляюцца, параўноўваючы яго з цярпеньнем, якое адсутнічае ў іх. Гэта падобна да таго, калі людзі глядзяць на шэрае, параўноўваюць яго з чорным, ня ведаючы белага - ці можаш ты, затым, дзівіцца з гэтага?

- Не, запраўды, - сказаў ён;-я барджджэй дзівіўся-б з супроцьлежнага.

- Паўзірайся на справу, - сказаў я, - яшчэ і гэтак вось: голад, смага і іншае - ці-ж не зьяўляюцца яны пачуцьцём пустэчы ў нашым целе?

- Дык што?

- А няведаньне і неразуменьне - ці-ж гэта не зьяўляецца станам пустэчы ў душы?

- І вялікае нават.

- Падобную пустэчу чалавек мог-бы запоўніць прыймаючы ежу або паразумнеўшы?

- Ведама.

- І якое-ж ёсьць праўдзівае запаўненьне: запаўненьне болей запраўдным ці мо' меней запраўдным быцьцём?

- Ясна, што болей запраўдным.

- Якія-ж групы рэчаў, у нашым меркаваньні, маюць больш ўдзел у чыстым быцьці? Ці гэтакія будуць рэ-

чы, як напрыклад, хлеб і піцьцё, стравы і іншае розлнае пажывеньне, ці мо' будзе гэта нейкая хворма праўдзівага пагляду і веданьня, розуму і ўсякае іншае мужнасьці? Або пастаўма гэтак пытаньне: – Што зьяўляецца болей чыстым быцьцём – ці тое, што займаецца нязьменным, несьмяротным і праўдзівым і выводзіцца з гэткае натуры, і можа быць знойдзеным у характары гэткіх паняцьцяў; або тое, што займаецца зьменным і ў ім можа быць знойдзеным, сьмяротным – тое, што самое ў сабе зьяўляецца зьменным і сьмяротным?

– У значна болей чыстым быцьці, – адказаў ён, – у гэтакім, якое займаецца нязьменным.

– Тады, ці зьменнае прыймае большы ўдзел у праўдзівым быцьці, чымся веданьне гэта чыніць?

– Зусім не.

– Дык што-ж? А ў праўдзе бярэ яна большы ўдзел?

– Гэтаксама не.

– Бо ў грунце рэчы, калі што-небудзь мае меней з праўды, тады яно мае меней з запраўднага быцьця?

– Абавязкава.

– Агульна, тады, кажучы, падобнага роду рэчы, якія знаходзяцца на службе цела, меншы прыймаюць удзел у праўдзе і ў быцьці, чымся стараньні прадушу?

– Шмат меней.

– Ці ня думаеш ты, што гэтае самае адносіцца і да самога цела ў параўнаньні з душою?

– Я думаю, што так.

– Згэтыль, тое, што запаўняецца болей запраўдным і само болей запраўдным ёсьць, у грунце рэчы, запаўняецца болей, чымся тое, што запаўняецца меней запраўдным і само меней запраўдным астаецца?

– Дый як-жаж інакш можа быць?

– І калі мае быць прыемнасьць у факце запаўненьня тым, што ёсьць у сузгоднасьці з натураю, – тым, што ёсьць болей запраўдным, – дык і запраўднае запаўненьне зьяўляецца нечым болей запраўдным і гэтым змушала-б болей запраўдна і рэчаісна цешыцца з прычыны запраўднае прыемнасьці, тады, як тое, што прыймае ўдзел у меней праўдзівым быцьці, будзе меней і рэчаісна здаволеным, як прыймаючае ўдзел у здадуманай і меней рэальнай прыемнасьці.

586 – Гэта зусім няўхільным ёсьць, – сказаў ён.

– Тыя, затым, каторыя ня ведаюць ані мудрасьці, ані мужнасьці і каторыя заўсёды занятыя абжорствам і юрлівасьцю, ляцяць уніз і ўверх да прамежжа; і ў гэтай абмежаванасьці наўздагад яны парушаюцца ўсё

сваё жыцьцё і ніколі не асягваюць вышэйшага сьвету; дый яны нават ня шукаюць, ані знаходзяць пуцьцявіны, што вядзе наўзьверх, і ніколі яны не запаўняюцца праўдзівым быцьцём, ані ведаюць яны смак чыстае і сталае прыемнасьці. Падобна таму быдлу, са сваімі ўтаропленымі ўніз вачыма і галовамі, пахіленымі ў зямлю, быццам у той абедзенны стол, за якім яны жырэюць і аб'ядаюцца, плодзяцца і, у сваёй празьмернай любові і ў пагоні за гэтакімі прыемнасьцямі, брыкаюцца і боруцца сваімі жалезнымі рагамі і гэтакімі-ж падковамі; і яны забіваюць адзін аднаго з прычыны свае прагавітае юрлівасьці. Бо яны разышліся гэтаксама з тым, каб заспакоіць самых сябе запраўднымі рэчамі, як і запоўніць тую судзіну, якая называецца іхным целам.

– Ну-ж і праўдзіва, Сакратас, – сказаў Ґлякон, – ты ўвыпукліў перад намі жыцьцё шматлікіх людзей, быццам той аракул.

– Іхныя прыемнасьці вяжуцца з цярпеньнямі – дый як можа быць гэта інакш? Бо яны зьяўляюцца адно ценямі і карцінкамі праўдзівага, захварбованымі супярэчнасьцямі, якія перабольшчваюць гэтак сьвятло, як і цені, і гэткім чынам яны зрастаюцца з мэнтальнасьцю глупцоў, агорнутых шалёнымі пажаданьнямі самых сябе: гэтак, – паводля таго, што кажа Стэсіхорос, – грэкі змагаліся пад Трояю адно за цень Галены, і толькі затым, што ня ведалі праўды.

– Няўхільна, – сказаў ён, – нешта падобнае мусіла здарыцца.

– Дык што-ж? Ці-ж ня можа быць нешта падобнае выклікана разьюшаным пачаткам людзкае душы? Ці-ж ня можа гэта здарыцца з палкім чалавекам, калі зьінчвае ён сваю палкасьць у чын, хай сабе з прычыны свае зайзднасьці, як і амбіцыі або гвалтоўнасьці ці задзірыстасьці, або злосьці ці нездаволеньня, калі ён узыйдзе на шлях шуканьня для сябе гонару і перамогі і здаволеньня свае злосьці, ня маючы ніякае прычыны да гэтага ані сэнсу?

– Так, – адказаў ён, – падобнае можа здарыцца з кажным разьюшаным духам.

– Дык што-ж? – сказаў я, – ці можам мы з пэўнасьцю сьцьвердзіць, што нават сярод аматараў нажывы і гонараў, калі яны шукаюць асалоды пад кіраўніцтвам і ў васяродзьдзі розуму і пазнаньня і асягваюць прыемнасьці, якія мудрасьць паказвае ім, дык адначасна маюць яны праўдзівыя прыемнасьці, якія ў высокай ступені даступнымі для іх зьяўляюцца ў той прапорцыі, у якой яны сьледуюць за праўдаю. І яны

мецімуць прыемнасьці, якія натуральнымі для іх зьяўляюцца, бо тое, што для каго-небудзь зьяўляецца найлепшым, зьяўляецца гэтаксама і найболей адпаведным для яго.

– Напэўна, – адказаў ён; – бо найлепшае зьяўляецца найболей натуральным.

– І калі ўся душа сьледуе за філязафічнымі прынцыпамі і нямашака ў ёй распадзелу, дык для кажнае ейнае часткі магчымым ёсьць ня толькі тварыць усё іншае паводля справядлівасьці, але і знаходзіць у гэтым сваеасаблівыя прыемнасьці – самыя найлепшыя,
587 і ў меру магчымасьцяў самыя праўдзівыя.

– Якраз гэтак.

– З другога боку, калі адзін з двух прынцыпаў возьме верх, дык не давядзецца яму знайсьці свому для яго прыемнасьць, а іншы змусіць імкнуцца адно да ценю, але не да праўдзівае прыемнасьці.

– Так, – сказаў ён.

– І цяперака, чым большая адлегласьць дзеліць іх ад філязофіі і розуму, тым болей чужою і зманьваючаю будзе прыемнасьць.

– Так.

– І ці-ж ня гэтак рэч маецца, што чым далей ад розуму, тым болей адхіляецца ад права і парадку?

– Ясна.

– А любоўныя і тыранскія пажадлівасьці знаходзяцца, як бачылі мы, на найбольшай адлегласьці?

– Найдалей.

– А на адлегласьці найбліжэйшай княжыя жаданьні і чалавека ўпарадкаванага?

– Так.

– Тады, тыран будзе жыць на адлегласьці найбольшай ад праўдзівае і натуральнае прыемнасьці, а князь на адлегласьці найменшай?

– Напэўна.

– Калі гэтак, дык тыран будзе весьці жыцьцё найболей няпрыемнае, а князь – найболей прыемнае?

– Няўхільна.

– Ці ведаеш ты, тады, – спытаў я, – наколькі няпрыемнае жыцьцё тырана будзе ў параўнаньні да княжага?

– Буду ведаць, калі ты скажаш мне, – адказаў ён.

– Як выглядае, існуюць тры прыемнасьці: адна зь іх зьяўляецца праўдзіваю, а дзьве – непраўдзівыя: цяперака, тыран пераступіў мяжу на бок непраўдзівае; ён далёка адыйшоў ад абшару права і розуму, і зыйшоўся зь некімі нявольніцкімі прыемнасьцямі, якія сталіся ягонымі целаахоўнікамі. Як далёка па-

меншыліся ягоныя прыемнасьці, ёсьць рэчаю трудпаю, каб адказаць, хіба што вось якім спосабам...
– Якім? – запытаў ён.
– Я мяркую, – адказаў я, – што тыран знаходзіцца на трэйцім месцы пасьля аліґархіі; дэмакрат знаходзіцца ў прамежжы.
– Так.
– У параўнаньні з праўдзівымі прыемнасьцямі ў тырана, лічачы ад аліґарха, атрымаецца ўжо трэйцяя прыемнасьць, падобная да здані, калі правільным астаецца ўсё тое, што сказалі мы раней.
– Гэтак рэч маецца.
– Пры тым, сам аліґархічны чалавек стаіць на трэйцім месцы ад княжага чалавека і валадарнага, калі мы будзем уважаць гэтага апошняга за князя і арыстакрата.
– Так, на трэйцім месцы.
– Тады, – сказаў я, – тыран знаходзіцца ад праўдзівае прыемнасьці на адлегласьць ліку, які выражаецца формулаю: тры разы тры.
– Выглядае гэтак.
– Тады, здань тыранскае прыемнасьці, выражаная памерам даўжыні, хай будзе звычайным лікам.
– Якраз гэтак.
– А калі ўзьняць да ступені другое і трэйцяе, тады ясным стане, якою будзе адлегласьць, што дзеліць тырана ад князя.
– Ясным стане што найменей таму, – сказаў ён, – хто умее вылічваць.
– Або, калі лічыць з супроцьлежнага канца і мерыць адлегласьць, наколькі князь адстае ад тырана ў прадмеце запраўднае прыемнасьці, дык, даводзячы множаньне да канца, можна даведацца, што князь жыве ў семсот і дваццаць дзевяць разоў болей прыемна, а тыран у гэтулькі-ж разоў горай.
– І якое-ж цудоўнае вылічэньне ты выканаў! – сказаў ён, – і якая-ж вялічэзная адлегласьць дзеліць 588
справядлівага чалавека ад чалавека несправядлівага што да прыемнасьці і цярпеньня.
– Аднак, вылічэньне гэтае правільным ёсьць, – сказаў я, – і лік датычыць людзкае жыцьцё, наколькі да людзей адносяцца дні і ночы, месяцы і гады.
– Так, – сказаў ён, – людзкае жыцьцё запраўды знаходзіцца ў суаднашэньні да гэтых рэчаў.
– Затым, калі добры і справядлівы чалавек зьяўляецца вышэйшым у прадмеце прыемнасьцяў за подлага і несправядлівага, дык наколькі-ж ягоная перавага будзе бязьмежна большаю ў правільнасьці жыцьця, пры-

гожасьці, як і мужнасьці?

– І запраўды, бязьмежна большаю, – сказаў ён.

– Добра, – сказаў я. – Цяперака, калі мы дайшлі да гэтага месца ў нашай дыскусыі, мы можам вярнуцца да словаў, якія прывялі нас сюды. Ці-ж не сказаў тады нехта, што чалавеку дасканала несправядлівому выгадна быць несправядлівым пад умоваю, што іншыя ўважацімуць яго за справядлівага. Ці ня гэтак было сказана?

– Але́, гэтак было сказана.

– Цяперака, затым, – сказаў я, – давайце зноў разьбярэм гэтае цьверджаньне разам зь ім, калі мы ўжо прыйшлі да сузгоднасьці адносна справядлівага і несправядлівага паступаваньня.

– І што-ж мы маем сказаць яму?

– Давайце ўчынім сабе нейкае ўяўленьне душы, каб той, хто выразіў гэтае цьверджаньне і цяперака будзе гаварыць, ведаў пра што ён гаворыць.

– Якое-ж мае быць гэтае ўяўленьне? – запытаў ён.

– Ідэальнае, – адказаў я, – на ўзор твораў антычнага пераказу, як напрыклад, Хімайра і Скільля, і Кербэрос, і іншыя, у якіх дзьве розныя натуры, а то і болей, як гэта кажацца, зрасьліся ў вадну.

– Так, кажуць пра гэта, – сказаў ён.

– Тады ствары сабе вобраз шматгаловага зьвера, навакол якога відны галовы абрахманеных і дзікіх зьвераў, які здольным ёсьць перарадзіцца і перайначыцца, як ён хоча.

– На гэта спатрэбіўся-б здольны артысты, – сказаў ён; – але паколькі лягчэй ляпіць нешта са словаў, чымся з воску ці зь іншага падобнага матэрыялу, тады няхай ужо будзе гэтакі вобраз, які ты прапануеш.

– Прымем цяперака, што ты творыш яшчэ другую постаць у хворме льва, і трэйцюю ў хворме чалавека; пры гэтым другі будзе меншым ад першага, а трэйці – меншы, чымся другі.

– Ну, гэта лягчэйшая задача, – сказаў ён; – і я ўчыніў ужо гэтак, як ты кажаш.

– А цяперака злучы іх і дазволь ім зрасьціся ў вадно цэлае.

– Яны ўжо злучаны, – адказаў ён.

– Цяперака, ухвармуй іхную знадворную старану ў вадну постаць – постаць, падобную да чалавека, гэтак, каб ён, які не зьяўляецца здольным бачыць, што знаходзіцца ў сярэдзіне і бачыць толькі абалону, мог паверыць, што зьвер – гэта людзкае існаваньне.

– І гэта я ўчыніў, – сказаў ён.

– А цяперака, таму, хто ўтрымлівае пагляд, што карысным ёсьць для чалавека быць несправядлівым, і нявыгадна быць справядлівым, адкажам, што, калі ён мае рацыю, дык выходзіць, што карысным ёсьць выкормліваць гэтага шматгаловага зьвера, чыніць магутным яго, і льва, і ўсё тое, што адносіцца да льва, 589 а чалавека марыць голадам і паслабляць, каб тыя маглі валакчы яго куды ім толькі захочацца, а ён, каб ня быў у стане прывучыць іх да супольнага сяброўства, і быў-бы змушаным барджэй пакінуць іх ім самым, грысьціся між сабою, змагацца і пажыраць адзін аднаго.

– Напэўна, – сказаў ён, – гэта якраз і ёсьць вобраз таго, што ўтрымлівае прыхільнік несправядлівасьці.

– З другога боку, той, хто ўтрымлівае карыснасьць справядлівасьці, гэтым самым цьвердзіць ён, што трэба паступаць гэтак і гаварыць усё тое, пры помачы чаго ўнутраны чалавек зможа ўправіцца з тым аснаўным чалавекам і, як гаспадар, прыймае на сябе ўсе стараньні адносна гэтага шматгаловага зьвера, гадуючы і ўзгадоўваючы ў ім тое, што ёсьць ласкавым, і адначасна перашкаджаючы ў разьвіцьці ягоных дзікіх свомасьцяў; ён створыць сяброўства са львом і сумесна зь ім распасьцярэ стараньне над усімі часткамі, каб усе яны добразычлівымі між сабою былі,як і зь ім, і гэтак узгадоўваў-бы ён іх.

– Так, – сказаў ён, – гэта якраз і ёсьць тым, што ўтрымлівае прыхільнік справядлівасьці.

– І як не падыйдзі да пытаньня, хай сабе з пункту гледжаньня прыемнасьці, гонару ці карыснасьці, прыхільнік справядлівасьці заўсёды мае рацыю і кажа праўду, а той, хто супярэчыць яму, астаецца няправільным, нясьведамым спрачальнікам і памыляецца.

– Так, з кажнага пункту гледжаньня, – сказаў ён.

– Давай цяперака пагутарым спакойна з несправядлівым, каторы незнарок-жа памыляецца. "Добраслаўлены, – скажам яму, – ці не павінны мы казаць,што, ня гледзячы на тое, якія нормы людзкага паступаваньня ўважаюцца агульнапрынятымі што да прыгожага і брыдкага, ці ня прынятыя яны з прычыны нейкае дамоўленасьці? Прыгожымі зьяўляюцца тыя, каторыя зьверападобную частку нашае натуры падпарадкоўваюць чалавеку, або барджэй, магчыма, боскасьці ў нас; брыдкімі зьяўляюцца тыя, што чалавечнасьць нашае натуры падпарадкоўваюць дзікаму нявольніцтву". Як ты думаеш, згодзіцца ён з гэтым ці не?

– Я думаю, што згодзіцца, – сказаў ён, – калі

паслухаецца мае рады.

– Калі ён ужо згадзіўся, – сказаў я, – цяпераках мы можам паставіць яму іншае пытаньне, пайменна: якую мецім чалавек карысьць, калі ён за золата і серабро найболей шляхэтную сваю частку аддасьць у няволю самай найгоршай? Ці магчыма ўявіць сабе, што
чалавек, які прадаў за грошы свайго сына або сваю
дачку ў няволю, і асабліва, калі ён прадаў у рукі
найболей ганебных і апаганеных людзей, ці меціме
гэтакі карысьць, хоць-бы сума грошай, якую ён атры-
маў, была няведама якою вялікаю? Ці-ж ня скажа кож-
ны чалавек пра яго, што ён зьяўляецца апошнім ня-
году́нікам, які бязьлітасна прадае сваю боскую іс-
насьць за тое, што ёсьць бязбожным і агідным? І ці
атрыманая ім плата не вядзе яго да яшчэ большае за-
590 губы, чымся Эрыфілю, якая здабыла дарагі ашыйнік за
цану сьмерці свайго мужа?

– Так, – сказаў Гляўкон, – і шмат горшае яшчэ, адкажу я за яго.

– Ці-ж не затым асуджалі з давен-даўна непаўстрыманасьць, што яна празьмерна дае волю ў непаўстрыманым чалавеку той жахлівай і шматтваравай жывёліне?

– Ведама, – сказаў ён.

– А ці-ж ня ганяць людзей з прычыны іхнае гордасьці і дрэннае памяркоўнасьці, калі львіная і гадзюкавая частка непрапарцыянальна расьце ў іх і набірае сілы?

– І выгаду ў жыцьці і вяласьць папракаюць затым, што нясуць яны з сабою зьняможаньне цела і разбэшчанасьць, і чыняць чалавека баязьлівым?

– У кажным выпадку.

– Гэтаксама падлыжніцтва і вульгарнасьць, калі чалавек падпарадкоўвае свой вышэйшы прынцып гэтаму брутальнаму страшыдлу, калі дзеля грошай і затым, каб здаволіць свой кіндзюк, ён змалку ўжо прызвычайваецца да свае нізасьці з абразаю для сябе, зьінакчваючыся зь ілва ў малпу.

– І якая-ж праўда ў гэтым! – сказаў ён.

– Як ты думаеш, чаму пагарджаюць рамесьніцкім заняткам чалавека або ягонаю фізычнаю працаю? Ці знойдзем мы тут якую іншую прычыну, як ня тую, ці мо' справа гэтак маецца, што, калі ў чалавеку лепшы ягоны прынцып паслаблены да гэткае ступені, што ён ужо ня мае сілы апанаваць тыя дрэнныя вобліхі, што знаходзяцца ў яго ўнутры, і астаецца ён адно здольным, каб пазнаць, як ім дагаджаць?

– Падобна ёсьць гэтак, – сказаў ён.

– Дзелягэтага, маючы жаданьне ўмясцовіць яго пад падобнае кіраўніцтва, пад якім знаходзіцца лепшы, мы кажам, што ён павінен быць слугою найлепшага, у якім валадарыць Боскасьць; але ня гэтак, як Трасімахос думаў,+/ на шкоду слузе; наадварот, кажны чалавек будзе ляпей кіраваным боскаю мудрасьцю, якая прабывае ў ім; або, калі гэта ёсьць немагчымым, тады няхай будзе кіраваным вонкаваю ўладаю, з мэтаю, каб мы ўсе, наколькі гэта магчымым ёсьць, знаходзіліся пад адным і тым-жа кіруючым пачаткам, як сябры і роўныя ім.

– Гэта правільна, – сказаў ён.

– І гэта ясна спасьцярожным ёсьць, – сказаў я, – што падобнае разьмеркаваньне мае на ўвазе і права, якое зьяўляецца саюзьнікам цэлага гаспадарства. Гэта спасьцярожным ёсьць і ў нашай уладзе, распасьцертай над дзяцьмі: мы не даем ім волі да тае пары, пакуль не ўгрунтуем у іх прынцыпаў, падобных да 591
тых, якія спаткаем у канстытуцыі гаспадарства, і шляхам разьвіцьця ў сабе лепшага пачатку, паставім у іхных сэрцах старожу і кіраўніка, падобнага да таго, якога мы маем у сабе, і толькі пасьля таго, як гэта завяршыцца, яны могуць ісьці сваімі пуцявінамі.

– Так, – сказаў ён, – мэта права ясна тут выступае.

– Тады якім спосабам, Ґляўкон, і на якім абаснаваньні можам мы падтрымліваць думку, быццам чалавек можа займець карысьць, паступаючы несправядліва, непаўстрымана і тварыць розныя паскудтвы, якія ўчыняць яго яшчэ горшым, нават тады, калі здабудзе ён шмат грошай і сілы на дарозе свае слабасьці?

– Нямашака гэтакага абаснаваньня, – сказаў ён.

– І якую-ж меціме карысьць чалавек, калі несправядлівасьць ягоная ня будзе выкрытаю і непакаранаю? Той, хто ня будзе выкрытым, будзе толькі ставацца горшым, тады як выкрыты і пакараны, уціхамірыць сваю ганебную частку натуры і ўчыніць яе болей гуманнаю; ласкавы пачатак у ім ёсьць вызвалены, і ягоная душа дасканаліцца, а пад уплывам справядлівасьці і паўстрыманасьці, і мудрасьці стаецца болей шляхэтнаю, чымся цела, якое хоць-бы і разьвівала свае натуральныя абдараваньні ў відзе прыгожасьці, сілы і здароўя, у той прапорцыі, у якой душа зьяўлаецца болей паважнаю, чымся цела.

– Тут нямашака ніякага сумліву, – адказаў ён.

– Дзеля гэтае шляхэтнае мэты чалавек зразумень-

+/ Гл. 66.17–21.

ня аддасьць усе сілы і энэрґію свайго жыцьця. І перад усім ён будзе цаніць тыя пазнаньні, якія ўгрунтуюць ягоную душу ў гэтых вартасьцях, а пра іншыя ня будзе шманаць.

– Ведама, – сказаў ён.

– І далей, – снуў я думку, – ён будзе кантраляваць навыкі і фізычныя практыкаваньні свайго цела, у выніку чаго ён будзе паўстрымліваецца ад брыдкіх і ірацыянальных прыемнасьцяў, ён нават здароўе будзе ўважаць як нешта другараднае. Першаю ягонаю мэтаю ня будзе тое, каб мог быць ён прыгожым або сільным ці здаровым, калі гэта ня будзе ўспамагаць разважнасьці. І ён выявіць у сабе здольнасьць наладзіць супружнасьць свайго цела з мэтаю асягненьня гармоніі душы.

– Абавязкава, – сказаў ён, – калі чалавек запраўды мае быць асьвечаным і сьведамым.

– І ў здабываньні багацьця, – сказаў я, – абавязвае прынцып парадку і гармоніі, які ён гэтаксама будзе перасьцерагаць; ён не павінен асьляпляць самога сябе глупым апляузам сьвету, і нагрмаджваць багацьці для свае ўласнае і бязьмежнае шкоды?

– Напэўна, не, – сказаў ён.

– Але будзе ён, – казаў я далей, – узірацца на места, якое знаходзіцца ў ім самым і засяродзіць сваю ўвагу на тое, каб не здарылася бязладзьдзе ў ім, якое можа ўзьнікнуць або з прычыны празьмернага багацьця, або зь недахопу яго. І кіруючыся гэтым прынцыпам, ён будзе рэгуляваць сваю ўласнасьць – здабываць і выдаваць у залежнасьці ад стану сродкаў.

592 – Вельмі правільна, – сказаў ён.

– І з гэтае самае прычыны ён радасна прыймае і будзе цешыцца з гэтакіх гонараў, якія, паводля ягонае думкі, учыняць яго лепшым чалавекам; але ад тых, хай сабе будзе гэта ў прыватным жыцьці ці грамадзкім, якія, магчыма, унясуць закалот у ягонае жыцьцё, ён будзе ўхіляцца.

– Затым, калі гэта ёсьць тое, чым ён кіруецца, – пасьледаваў адказ, – тады ніколі ён ня станецца дзяржаўным мужам.

– На пса, – сказаў я, – ён станецца! але толькі ў сваім гаспадарсьцьве, аднак у сваей бацькаўшчыне, дзе радзіўся, праўдападобна, не, хіба што боскае пакліканьне інакш захоча.

– Разумею, – сказаў ён, – ты маеш на ўвазе тое, што ён будзе кіраўніком гаспадарства, якога мы зьяўляемся заклатчыкамі і якое існуе толькі ў сфэ-

ры ідэі; бо я не ўяўляю сабе, каб яно мела быць дзе-небудзь на зямлі.

– Магчыма на небе, – сказаў я, – там існуе ягоны наўзор, я думаю, каторы, хто жадае сабе гэтага, можа бачыць і, назіраючы, можа прывесьці ў парадак свой уласны дом. Але ці існуе гэтакае гаспадарства або будзе існаваць – у грунце рэчы гэта ня ёсьць важным; бо ён будзе дзеяць паводля гэтых прынцыпаў, ня маючы нічога супольнага зь іншымі.

– І я гэтак думаю, – адказаў ён.

595 – Напэўна, – сказаў я, – са шматлікіх дадатніх
бакоў, якія я спасьцерагаю што да ўпарадкаваньня
нашага гаспадарства, ані водзен не здавальняе мяне
гэтак, як падыход да паэзыі.
– Што ты маеш на ўвазе? – запытаў ён.
– Я маю на ўвазе факт няпрыняцьця імітацыйнае
паэзыі, якая напэўна не павінна быць дапушчанаю. А-
сабліва я гэта цяперака выразна бачу, пасьля таго,
як часткі душы былі распазнаныя.
– Як ты гэта разумееш?
– Між намі кажучы, – я ня думаю, каб вы паўтара-
лі мае словы перад стваральнікамі трагэдыяў ані пе-
рад іншымі пераймальнікамі – але я нічога ня маю
супроць таго, каб сказаць вам, што ўся гэтая паэ-
тычная пераймальнасьць нішто іншае, як зьнішчэньне
для розумаў слухачоў, або, хіба што яны маюць уяў-
леньне, чым гэтыя рэчы фактычна зьяўляюцца.
– У якім сэнсе кажаш ты гэта? – запытаў ён.
– Я мушу выясьніць вам, – сказаў я, – што ўжо з
найранейшае пары майго юнацтва я меў поўны глыбо-
кае пашаны страх і любоў перад Гомэрам, што нават
і сяголньня стаецца перашкодаю для словаў маіх вус-
наў, бо ён зьяўляецца найбольшым вучыцелем і пера-
давым чалавекам для ўсіх гэтых першарадных трагіч-
ных паэтаў. І ўсё-ж, чалавек ня можа быць болей па-
важаным, чымся сама праўда, затым, я буду гаварыць
тое, што маю сказаць.
– Вельмі добра, – сказаў ён.
– Тады, слухай або, барждзэй, адказвай мне.
– Калі ласка, пытай толькі.
– Ці можаш ты мне сказаць, чым перайманьне зьяў-
ляецца? Бо я, фактычна, не разумею.
– Думаеш ты, што я маю разумець? – адказаў ён.
– І чаму-б не? Часта цьмянае вока бачыць рэч хут-
596 чэй, чымся зыркае.
– Здараецца, – сказаў ён, – але ў тваей прысут-
насьці, калі-б я нават і меў якое-небудзь уяўлень-
не, я ніколі не адважыўся-б выказаць яго. Гавары ты

ўжо сам хіба.

– Добра, тады приступім да досьледу пры помачы нашага звычайнага мэтаду: Калі пэўны лік адзінак мае тое самае імя, тады мы падцягваем іх пад адну нейкую ідэю або хворму. Ці ты разумееш мяне?

– Разумею.

– Вазьмем хоць-бы гэтакі выпадак; існуюць на сьвеце, напрыклад, сталы і ложакі – і шмат іх ёсьць; ці ня так?

– Так.

– Але ідэяў гэтых прадметаў існуе толькі дзьве – адна для ложка і адна для стала.

– Але.

– Звычайна мы кажам, што стваральнік прыводзіць да быцьця гэтакую або іншую рэч, маючы на ўвазе ідэю дадзенае рэчы: адзін робіць ложак, іншы робіць стол для нашага ўжываньня. І падобна рэч маецца ў іншых выпадках. Але ніхто са стваральнікаў ня творыць самое ідэі. Дый ці можа ён гэта ўчыніць?

– Гэта немагчыма.

– Існуе гэтаксама іншы стваральнік, і мне цікава даведацца, што ты скажаш пра яго.

– Пра якога?

– Пра таго, хто паклікаў да быцьця ўсе творы ўсіх стваральнікаў.

– Ты кажаш пра стваральніка сваеасаблівых здольнасьцяў!

– Пачакай крышку, і ты мецімеш болей абаснаваньняў, каб гэтак выражацца пра яго. Бо гэта ёсьць той, хто зьяўляецца здольным паклікаць да быцьця ня толькі рознаякія начыньні, але і расьліны і зьвераў, самога сябе і ўсе іншыя рэчы – зямлю і неба, і ўсе тыя рэчы, што знаходзяцца на небе і пад зямлёю. Ён гэтаксама творыць багоў.

– Няма сумліву, – сказаў ён, – што гэта мусіць быць мастак.

– Ня верыш? – сказаў я. – Ці ты сумняваешся, што можа існаваць гэтакі стваральнік ці стварыцель, або, што ў пэўным сэнсе павінен быць створца, які творыць у дадзены спосаб усе рэчы, і ні ў які іншы? Ці не спасьцерагаеш ты, што існуе спосаб, пры помачы якога ты сам усё гэта можаш зрабіць?

– Які спосаб? – запытаў ён.

– Даволі лёгкі, – сказаў я; – або барджджэй, некалькікратны і з хуткасьцю можа быць затасаваны і выкананы. Калі ты хочаш, можаш узяць люстэрка і пачаць вадзіць ім на ўсе бакі – і будзеш зьдзіўленым, як хутка ты зробіш сонца і нябёсы, зямлю і сябе са-

мога, зьвераў і расьліны, і ўсе іншыя рэчы, пра якія толькі што гаварылі мы.

– Так, – сказаў ён, – але гэта ўсё будуць толькі зьявы.

– Вельмі добра, – сказаў я; – гэтым ты якраз прыходзіш да найгалаўнейшага. Бо-ж мастак-маляр, як я думаю, зьяўляецца іншым гэтакім – ствральнікам зьяваў. Ці-ж ня гэтак?

– Дый чаму-ж не?

– Але ты, магчыма, скажаш, што тое, што ён творыць, не зьяўляецца запраўдным. Аднак у вобразе ложка, намаляванага мастаком, ёсьць пэўны сэнс. Ці так гэта?

– Так, – сказаў ён, – але гэта не запраўдны ложак.

597 – А што ты думаеш адносна сталяра? Ці-ж ня скажаш ты, што ён гэтаксама робіць, – ня ідэю, якая, паводля таго, што ты ўжо сказаў, зьяўляецца існасьцю ложка, – але нейкі апрычоны ложак?

– Так, я сказаў гэта.

– Цяперака, калі ён ня робіць тое, што існуе, тады ён ня можа зрабіць запраўднага існаваеьня; і, калі-б хто-небудзь сказаў, што твор сталяра або якога-небудзь іншага рамесьніка, мае запраўдную сутнасьць, насілу ўважаўся-б ён, як чалавек, які мае рацыю?

– У кажным выпадку, – адказаў ён, – тыя, што займаюцца гэткага роду разважаньнямі, сказалі-б, што ён не гаворыць праўды.

– І ня дзіва, бо-ж ягоны твор гэтаксама зьяўляецца толькі нейкім цьмяным адлюстраваньнем праўды.

– Ня дзіва.

– Ці не захацеў-бы ты, каб у сьвятле прыведзеных намі прыкладаў, заняліся мы разглядам пытаньня, хто зьяўляецца гэтым перамальнікам?

– Калі ласка, – адказаў ён.

– Прымем, што тут мы маем тры ложакі: адзін існуе ў натуры, які, як я думаю, скажам мы, учыніў Бог – бо ніхто іншы ня мог быць ягоным стварыцелем?

– Не, я думаю, толькі ён.

– А тут іншы – гэта твор сталяра.

– Так, сказаў ён.

– А трэйці – гэта твор маляра; ці ня так?

– Але.

– Маляр, сталяр, Бог – гэта тры ствральнікі трох відаў ложакаў?

– Так, тры.

– Бог, ці гэта хацеў ён, ці з прычыны неабход-

насьці, стварыў адзін ложак у натуры і толькі адзін – і ён, як гэтакі, ложак існуе і ніколі два падобныя ня былі створанымі і ня будуць створаны Богам.

– Чаму? – запытаў ён.

– Затым, – сказаў я, – што, калі-б ён і зрабіў два, дык трэйці зараз-жа выявіўся-б за імі, і гэты адзін, якраз і ёсьць той, падобнасьць якога мелі-б тыя абодва: і гэта быў-бы той адзіны ложак, ложак, як гэтакі – абсалютны, а двух ложкаў ніколі-б ня было.

– Гэта правільна, – адаказаў ён.

– Ведаючы гэта, як мне здаецца, Бог хацеў быць запраўдным стварыцелем запраўднага ложка, а не якога-небудзь ложка якім-небудзь сталяром. Затым ён стварыў адзін ложак, які зьяўляецца прататыпам усіх іншых і адзіным у натуры.

– Выглядае, што гэта так.

– Ці не павінны мы, затым, гаварыць пра яго, як пра стварыцеля ўсяго існуючага /φῦτουργός/ або, як пра нешта падобнае?

– Гэта было-б справядліва, – адказаў ён, – затым што і гэтую рэч у сузгоднасьці з натураю, і ўсе іншыя ён стварыў.

– А як маем назваць сталяра? Ці-ж не зьяўляецца ён стваральнікам ложакаў?

– Так.

– А ці маляра – гэтаксама назавем мастаком і стваральнікам падобных рэчаў?

– Ані ў якім выпадку.

– А што ты думаеш, калі ён не зьяўляецца стваральнікам ложка, у якім, тады, дачыненьні ён астаецца да ложка?

– Я думаю, – адказаў ён, – што найлепшым абазначэньнем тут для яго ёсьць – ён пераймальнік таго, што іншыя твораць.

– Хай будзе гэтак, – сказаў я; – затым, пераймальнікам ты называеш таго, хто выдае на сьвет творы, што стаяць на трэйцім месцы ад існага?

– Ведама, – сказаў ён.

– Згэтага, трагічны паэта зьяўляецца пераймальнікам, затым, падобна як усе іншыя пераймальнікі, ён на трэйцім месцы знаходзіцца ад князя і ад праўды?

– Бадай-што.

– Што да пераймальніка мы з табою згадзіліся. А што ты скажаш мне адносна маляра? Як табе здаецца, 598
ці ня імкнецца ён адтварыць усё тое, што зьмяшчае ў сабе натура, а мо' пераймае творы мастакоў?

– Творы мастакоў, – сказаў ён.

– Такімі, якімі яны зьяўляюцца, ці якімі яны выдаюцца? Бо-ж і тут ты мусіш правесьці лінію разьмежаваньня.

– Што ты маеш на ўвазе? – запытаў ён.

– Я маю на ўвазе тое, што на ложак ты можаш паўзірацца з розных пунктаў гледжаньня: збоку, проста або зь іншага пункту, і ў залежнасьці ад гэтага ложак будзе здавацца іншым. Але ў запраўднасьці гэтакая іншасьць ня існуе, і падобна рэч маецца з усімі іншымі аб'ектамі.

– Так, – сказаў ён, – іншасьць толькі здаецца.

– А цяперака скажы мне: Што мае на ўвазе мастацтва малярства: ці мае яно перайманьне рэчаў гэтакімі, якімі яны зьяўляюцца, ці гэтакімі, якімі яны здаюцца; інакш кажучы, гэта – здань ці запраўднасьць?

– Здань, – адказаў ён.

– Тады, пераймальнік, – сказаў я, – знаходзіцца вельмі далёка ад праўды і, калі ён і можа выканаць творы, дык толькі затым, што ён зьлёгка датыкаецца да іх, дый астаецца ў сфэры іхнае зьявы. Напрыклад, мастак нарысуе нам шаўца, сталяра і іншых майстраў, хоць сам ён нічога не разумее ў іхных мастацтвах. І калі ён зьяўляецца добрым маляром-мастаком, ён можа зманіць дзяцей або недалёка-зыркіх дарослых людзей, калі ён пакажа ім вобраз сталяра на адлегласьць, бо яны аставацімуцца пад уражаньнем, што бачаць запраўднага сталяра.

– Ведама.

– Тады, я ўважаю, дружа мой, што гэтакі пагляд трэба падтрымліваць адносна ўсіх падобных рэчаў. І калі-б хто-небудзь пачаў нам расказваць, што яму прытрапіўся нейкі чалавек, які быццам ведае як рабіць усё дазваньня ляпей за кажнага іншага, і які зьяўляецца сьведамым ўва ўсіх іншых рэчых, хто-б чаго ў вапрычонасьці ня ведаў, тады гэтакаму баю трэба адказаць, што ён сам, відаць, чалавек праставаты, калі дазволіў ашукаць сябе нейкаму шарлатану і пераймальніку, якога пры спатканьні прыняў за вялікага мудраца, а гэта затым, што ён сам ня быў здольным правесьці мяжы паміж веданьнем і цемраю з аднаго боку, і перайманьнем – з другога.

– Вельмі правільна, – сказаў ён.

– Затым, – сказаў я, – калі мы чуем людзей, кажучых нам, што стваральнікі трагэдыі і Гомэр, – чаловая асабістасьць іх, – ведаюць усе мастацтвы і ўсе людзкія рэчы – гэтак мужнасьць, як і заганы, гэтаксама і боскія рэчы і, што добры паэта ня можа тварыць, калі ён ня ведае свайго прадмету і, што

той, хто не ўзброенны гэтакім веданьнем, ня можа быць паэтам, тады мы мусім тут затрымацца і запытаць самых сябе, ці нямашака часамі і тутака гэтае самае зманьваючае іншасьці. Магчыма і яны прайшлі праз поле пераймальнікаў і паддаліся зману; магчыма яны ня памятаюць дзе і калі яны бачылі іхныя творы, якія былі нічым іншым, як толькі пераймань-
нем тройчы аддаленымі ад запраўднасьці і былі лёг- 599
ка выкананымі бяз веданьня якое-небудзь праўды, бо яны зьяўляюцца адно зданьню і ніколі рэчаіснасьцю. А мо́, урэшце, людзі маюць рацыю, і добрыя паэты, фактычна, ведаюць тое, аб чым, паводля думкі большасьці, яны так прыгожа гавораць.

– У кажным выпадку, – сказаў ён, – мы мусім гэта разгле́дзець.

– Цяперака, ці думаеш ты, што калі-б які-небудзь чалавек, які зьяўляецца ў стане тварыць арыгінал і ягонае падабенства, аддаў-бы самога сябе справе тварэньня падабенстваў, – ці думаеш ты, што гэтакі чалавек пачаў-бы старанна выконваць толькі адны падабенствы і гэта ўважаў-бы лепшым і самым галоўным прынцыпам свайго жыцьця?

– Я сказаў-бы барждзэй, што не.

– Запраўдны мастак, як я думаю, які ведае што ён пераймае, накіраваў-бы ўсе свае натугі ў напрамку рэчаіснасьці, а не на пераймальне. І ён імкнуўся-б пакінуць па сабе ў хворме помніку шматлікія прыгожыя творы, і барждзэй пяршынства аддаў-бы думцы, каб яго праслаўлялі, чымся праслаўляць іншых.

– Напэўна, – сказаў ён, – і гэта было-б крыніцаю вялікіх гонараў для яго, як і карысьці.

– Калі гэтак, – сказаў я, – дык мы мусім паставіць Гомэру пытаньне; але не адносна мэдыцыны або якога-небудзь іншага з мастацтваў, што да якіх ягоныя паэмы толькі між іншым успамінаюць. Мы ня будзем пытаць яго ані каго-небудзь зь іншых паэтаў, ці вяртаў ён каму-небудзь здароўе, падобна, як чыніў гэта Асклепіёс, каторы пакінуў па сабе школу на ўзор школы асклепіядаў, – ці мо' ён толькі перапаўтарае словы лекараў. Не, ня пытайма яго толькі пра гэта і ня пытайма пра ніякія іншыя мастацтвы. Але мы маем права ведаць, і папытаемся яго пра тое, аб чым ён гаворыць, пайменна, адносна ваеннае тактыкі, палітыкі, адукацыі, што́ зьяўляецца галоўнаю і шляхэтнаю тэмаю ягоных паэмаў, і будзе зусім на месцы, калі мы будзем пытаць яго адносна гэтых рэчаў: "Паважаны Гомэр", скажам мы яму, "калі ты знаходзішся толькі ў другой адлегласьці ад праўды ў тым, што́ ты кажаш

пра мужнасьць, а ня ў трэйцяй,+/ і калі ты зьяўляешся здольным распазнаць, якія паводзіны чыняць чалавека лепшым або горшым, гэтак у прыватным жыцьці, як і ў грамадзкім, тады скажы нам, якое гаспадарства ляпей упраўлялася, дзякуючы тваей дапамозе? Добрае ўладжаньне ў Лякедаймоне знайшло сваё месца, дзякуючы Лікурґосу, і шматлікія іншыя малыя гаспадарствы заўдзячваюць свой парадак іншым людзям; але ці кажуць якія-небудзь людзі, што ты быў добрым правадаўцам і гэтым спрычыніў ім якое-небудзь дабро? Італія і Сыцылія пахваляюцца Харондасам, мы маем Солёна, якога ўсе праслаўляюць; але ці ёсьць якое-небудзь гаспадарства, якое што-небудзь кажа пра цябе?" Ці можа ён назваць якое-небудзь гаспадарства?

– Я думаю, што не, – адказаў Ґляўкон; – пра гэта нават Гомэрыды нічога ня кажуць.

600 – Ну добра, але ці ёсьць запіс аб тым, што нейкая вайна ў часох Гомэра, была памысна праведзеная, дзякуючы таму, што ён быў ваенным камандзірам і райцам?

– Не, нямашака.

– Або, ці існуюць якія-небудзь ягоныя вынахады, тарнаваныя ў мастацтвах або ў жыцьці чалавека, роўназначныя тым, да якіх дайшлі, як кажуць, Талес зь Мілетосу або Анахарсіс Скіт?

– Не, ніякаю падобнаю рэчаю ня вы́разьніўся ён.

– Добра, калі Гомэр ніколі ня выконваў ніякага грамадзкага абавязку, дык ці ня быў ён, магчыма, якім-небудзь кіраўніком або вучыцелем? Ці меў ён пры сваім жыцьці людзей, каторыя высака сабе цанілі супольнасьць зь ім, а пасьля пераказалі нашчадкам нейкі гомэраўскі шлях жыцьця, падобна як сталася гэта з Пітаґорасам, каторы, з прычыны ягонае мудрасьці, быў гэтак шанаваны людзьмі, што ягоныя пасьлядоўнікі нават да гэтае пары называюць свой спосаб жыцьця пітаґорэйскім і гэтак яўна вырозьніваюцца сярод рэшты людзей?

– Нічога падобнага пераказ пра Гомэра ня кажа нам, Сакратас. Бо-ж Крэофі́лёс, блізкі да Гомэра чалавек, паводля свайго ўзгадаваньня выдасца яшчэ болей сьмешным, чымся ягонае імя, калі праўдаю ёсьць тое, што кажуць пра Гомэра: Бо-ж кажуць, што да Гомэра, калі ён яшчэ быў жывым, адносіліся абыякасна.

– Так, – сказаў я, – гэтакім ёсьць пераказ. Але ці можаш ты ўявіць сабе, Ґляўкон, што, калі-б Гомэр

+/ Гэта значыць, не ў тварэньні арыгіналу або падабенства.

быў у стане ўзгадоўваць або палепшваць людзей, гэта значыць, калі-б ён меў веданьне, а ня толькі здольнасьць пераймaньня, тады, ці можаш ты ўявіць сабе, кажу я, што ён ня меў-бы ніякіх пасьлядоўнікаў і ня быў-бы шанаваны і паважаны імі? Протаґорас з Абдэры і Продікос з Кеосу і шматлікія іншыя вялі людзей іхнага часу да пераканaньня, што яны ня змогуць управіцца са сваімі хатнімі справамі, ані гэтаксама з гаспадарсьцьвенымі, калі яны ня пойдуць вучыцца да іх. І за гэтую мудрасьць іхныя вучні гэтак любяць іх, што яны бадай-што носяць іх на сваіх плячох. І зразумелым ёсьць, што сучасьнікі Гомэра або Гэзіёдоса не дазвалялі-б ім вандраваць як рапсодам, калі-б яны фактычна былі здольнымі ўзьдзейваць на людзей у кірунку мужнасьці? Ці-ж не цанілі-б яны іх болей, чымся яны цэняць золата, і ня змусілі-б іх асесьці на сталае жыцьцё сярод іх? Або, у выпадку, калі-б вучыцялі не згадзіліся астацца, ці-ж яны не пайшлі-б за імі ўсюды куды-колечы тыя ідуць, адно толькі каб займець ад іх поўную навуку?

– Так, Сакратас, – сказаў ён, – мне здаецца, што ты кажаш шчырую праўду.

– Тады, ці ня можам мы прыйсьці да выснаву, што ўсе паэты, пачынаючы ад Гомэра, зьяўляюцца толькі пераймальнікамі; яны пераймаюць адно мужнасьць і ўсё, што вяжацца зь ёю, але да праўды не даходзяць? 601
Паэта, падобна, як маляр, якога мы бачылі ўжо ў нашым прыкладзе, будзе маляваць шаўца, нічога ня ведаючы пра тое, чым шавецтва зьяўляецца; дый гледачы ягонага вобразу будуць судзіць адно паводля колераў хварбы і абрысаваньняў.

– Якраз гэтак.

– Тое самае, я думаю, мы можам сказаць і пра паэта, каторы пры помачы словаў і дабраных выражэньняў пераказвае водцені тых або іншых мастацтваў, а сам разумее тут гэтулькі, колькі неабходна ёсьць для пераймaньня іх; а іншыя людзі, будучы нясьведамымі як і ён, судзяць выключна на падставе ягоных словаў, уяўляючы сабе, што калі ён гаворыць пра шавецтва або пра ваенныя выправы, дый да гэтага ў вершаванай хворме, гармоніі і ў рытме, дык ён кажа вельмі прыгожа – гэтакім ёсьць прынадны ўплыў, які тояць у сабе, паводля свае натуры, мэлёдыя і рытм. І я спадзяюся, што ты неаднакратна спасьцерагаў, якою аграмаднасьцю выступае беднасьць у іхных апавяданьнях, калі толькі зьдзерці зь іх тыя колеры, якімі музыка ахарошвае іх, і пераказаць словамі звычайнае

прозы.

– Так, я спасьцерагаў, – адказаў ён.

– Яны зьяўляюцца, – сказаў я, – быццам тыя тва-ры, хоць і маладыя, але няпрыгожыя; і цяперака цьвет маладосьці адыйшоў ад іх.

– Вельмі падобна да гэтага, – сказаў ён.

– І яшчэ адно тут выступае: той, хто пераймае а-бо творыць уяўленьні, нічога ня ведае пра праўдзі-вае быцьцё, але ведае толькі вонкавасьць. Ці ня маю я рацыі?

– Так.

– Няхай тое, што́ мы сказалі, не застанецца ў нас сказаным толькі напалавіну; давайце асягнем, тады, поўнае зразуменьне.

– Калі ласка, кажы, – сказаў ён.

– Адносна маляра, мы казалі, што ён здольным зьяўляецца намаляваць павады і аброць.

– Але́.

– А вы́канаюць іх рымар і каваль?

– Ведама.

– Але ці маляр ведае дакладныя хвормы павадоў і аброці? Не, нават ня ведаюць і тыя, што выконваюць іх, гэта значыць, рымар і каваль, але толькі тыя, што ведаюць я́к карыстацца імі, гэта значыць, конь-нікі.

– Зусім правільна.

– Ці-ж ня гэтак, скажам мы, рэч маецца з усім ін-шым?

– Як?

– Што існуюць тры мастацтвы, якія займаюцца ўсі-мі рэчамі: адно, якое ўжывае, іншае, якое вырабляе і трэйцяе, якое пераймае іх.

– Так.

– А дасканаласьць /ἀρετή/ і прыгожасьць, і пра-вільнасьць кажнае рэчы, хай сабе жывога існаваньня або чыну чалавека, усуадношваюцца ні з чым іншым, як толькі з тым ужыцьцем, дзеля якога кажная рэч учынена або прыйшла да быцьця, дзякуючы натуры.

– Ведама.

– Затым, ужывальнік кажнае рэчы мецíме найболь-шае дасьведчаньне ў іх, і гэта ягоным абавязкам стаецца, зьвярнуць увагу стваральніка на тое, што́ ёсьць добрым у дадзенай рэчы пры ўжыцьці яе. Напры-клад, флейцісты перказвае майстру флейтаў зьвест-кі адносна таго, каторыя зь ягоных флейтаў найбо-лей адпаведнымі зьяўляюцца для ігры і кажа, якія флейты трэба вырабляць, і той узгадняе сваю працу зь ягонаю радаю.

– Як і павінна быць.

– Той, хто ведае, будзе аўтарытэтыўна адцемліваць тое, што добрае або дрэннае ў флейтах, а стваральнік, які мае даверра да яго, будзе паступаць гэтак, як той казаў яму.

– Але.

– Згэтуль, інструмэнт астаецца той самы, але што
да дасканаласьці ягонае або заганаў, стваральнік
здабывае правільнае перакананьне на дарозе падтры-
маньня сувязі з чалавекам, які ведае і, хоча ён ці
не, выслухваючы ягоныя рады; але веданьне будзе 602
мець той, хто карыстаецца дадзеным інструмэнтам.

– Якраз гэтак.

– А пераймальнік? Ці з дасьведчаньня здабудзе ён веданьне адносна прадметаў, якія ён рысуе – ці зьяўляюцца яны прыгожымі і правільнымі? А мо' ў яго складзецца правільнае перакананьне адносна іх, дзякуючы неабходнасьці падтрымліваць сувязь з чалавекам сьведамым і выконваць ягоныя рады адносна таго, як трэба рысаваць.

– Ня будзе ён мець ані таго, ані гэтага.

– Затым, ён ня будзе мець ані болей правільнае думкі, ані веданьня адносна выдатнасьцяў як і заганнасьцяў свайго перайманьня.

– Як відаць, не.

– Тады пераймальнік праявіць цудоўную інтэлігэнцыю адносна свайго ўласнага твору!

– Ня вельмі гэта вялікая інтэлігэнцыя!

– І ўсё-ж, ён будзе і далей пераймаць бязь веданьня таго, што творыць рэч добраю або дрэннаю, і будзе старацца пераймаць толькі тое, што выдасца добрым для нясьведамага зборышча.

– Дый што-ж іншае мог-бы ён рабіць?

– Што да гэтага, дык мы з табою, як здаецца, прыйшлі да поўнае сузгоднасьці думкі, у тым сэнсе, што пераймальнік ня мае веданьня, вартага ўспаміну таго, што ён пераймае. Перайманьне зьяўляецца свайго роду нейкаю забаваю або спортам, а трагічныя паэты, ці пішуць яны ў ямбічным вершу або эпічным – зьяўляюцца ў найвышэйшай ступені пераймальнікамі.

– У кажным выпадку.

– А цяперака, я прашу і малю цябе, скажы мне, ці перайманьне не выяўляецца з нашага досьледу, як нешта, што стаіць на трэйцім месцы ад праўды? Ці ня так гэта?

– Так.

– І ўзьдзеяньне, якое перайманьне распасьцірае, накіравана на што ў чалавеку?

– Што ты маеш на ўвазе?

– Я паясьню зараз: прадмет выдаецца большым, калі глядзімо на яго зблізка, і меншым – калі глядзімо здалёк?

– Але́.

– Адзін і той самы прадмет выдаецца простым, калі глядзімо на яго над вадою, і выгнутым, калі бачым яго ў вадзе; выгнутасьць тут стаецца простасьцю з прычыны ілюзыі, абумоўленае колерамі, якім зрок падпарадкаваны. Згэтуль, кажнае зьбянтэжаньне праяўляецца ў васяродзьдзі чалавека; і гэта ёсьць тая слабасьць людзкага змыслу, на якую абапіраецца мастацтва малярства з усімі ягонымі зманамі пры помачы сьвятла і ценю і іншых штучных хітрыкаў, распасьціраючы чароўнае ўзьдзеяньне на нас.

– Правільна.

– Затое мастацтвы вымерваньня, рахаваньня і ўзважваньня былі вынайдзенымі на ратунак людзкаму разуменьню – і тут ляжыць іхная прыгожасьць – і тое, што́ нам выдаецца большым або меншым, шматлікім або цяжкім, не пануе ўжо болей над намі, але расчыняе дзьверы для калькуляцыі, мераньня і ўзважваньня.

– Ведама.

– І гэта, можна быць пэўным, мусіць быць дзеяньне калькуляцыі і рацыянальнага прынцыпу ў душы.

– Будзь пэўны.

– І калі гэты прынцып мерыць і пацьвярджае, што некаторыя рэчы зьяўляюцца роўнымі, іншыя – большымі, а яшчэ іншыя – меншымі, тады выступае зманьваючая супярэчнасьць.

– Так.

– Але мы і не казалі, што гэтакая супярэчнасьць немагчымаю ёсьць, бо – тая самая здольнасьць рацыянальная ня можа мець супярэчных думак у тым самым часе адносна тае самае рэчы.

603 – І гэта трапным ёсьць.

– Затым, тая частка нашае душы, якая ўтрымлівае думку наўсуперак вымерваньням, не зьяўляецца тою самаю, якая падтрымлівае думку ў сузгоднасьці з вымерваньнем.

– Але́, не зьяўляецца.

– Згэтуль, тая частка душы, якая дорыць даверрам вымерваньне і разважаньне, была-б найлепшаю.

– Напэўна.

– А тое, што супроцьставіцца ўсяму гэтаму, зьяўляецца горшым прынцыпам нашае душы.

– Гэта няўхільна.

– Гэткім быў выснаў, да якога я імкнуўся, калі

я сказаў, што маляваньне - і наагул пераймальнае мастацтва - калі яно выконвае і свомую для сябе працу, усё-ж астаецца далёкім ад праўды і мае дачыненьне з пачаткам нашае душы, які гэтаксама знаходзіцца далёка ад разумнасьці; затым гэтакае мастацтва ня мае ў сабе праўдзівае або здаровае мэты.

- Напэўна, - сказаў ён.

- Пераймальнае мастацтва, будучы горшым, лучыцца з горшым і родзіць горшых нашчадкаў.

- І гэта натуральным ёсьць.

- І ці гэта тое, што абмежоўваецца да зроку, або гэтаксама распасьціраецца і на слух, знаходзіцца ў сувязі з тым, што мы называем паэзыяю?

- Вельмі магчыма, што і з гэтым, - сказаў ён.

- Ня будзем абапірацца, - сказаў я, - на праўдападобнасьці, пачэрпнутае з аналёгіі твору малярства, але давайце дасьледзім далей і паглядзімо,ці здольнасьць, якая займаецца паэтычнаю пераймальнасьцю, зьяўляецца добраю ці дрэннаю.

- Так, трэба гэта дасьледзіць.

- Мы можам гэтак паставіць пытаньне: - гэтае перайманьне пераймае дзеяньні людзей, дзеючых добраахвотна або супроць іхнае волі, пры гэтым людзі ўважаюць, што паступаюць добра або дрэнна і ў залежнасьці ад выніку радуюцца або сумуюць. Ці адлюстроўвае яно яшчэ што-небудзь?

- Не, нічога нямашака болей.

- І пры ўсіх гэтых рознавідных абставінах, ці зьяўляецца чалавек у сузгоднасьці з самым сабаю?Або барджжэй, як у выпадку зраковага ўспрыйма прадметаў, калі ён упадаў у зьбянтэжанасьць і супярэчнасьць выступала адносна тае самае рэчы, і гэтым спасьцярожным стаецца, што ў жыцьці ён знаходзіцца ў спрэчцы і нясталасьці? І гэтым я не патрабую ўзнімаць зноў пытаньня, бо я памятаю, што адносна ўсяго гэтага мы дайшлі да сузгоднасьці, у тым сэнсе, што душа чалавека перапоўнена тысячамі супярэчнасьцяў у тым самым часе.

- І мы не памыляліся, - сказаў ён.

- Так, - сказаў я, - як да гэтага часу мы мелі рацыю; але ёсьць яшчэ нешта, чаго мы не дагледзелі.

- І што гэтым ёсьць? - запытаў ён.

- Ці не казалі мы ўжо, што добры чалавек, якому прытрапілася згубіць, скажам, сына або якую-небудзь дарагую рэч для яго, будзе зносіць страту лягчэй, чымся іншыя людзі?

- Ведама.

- А цяперака мы разгледзім вось што: ці-ж гэтакі

чалавек зусім ня будзе бедаваць, або барждзэй скажам, што, калі ён і ня можа паўстрымацца ад бедаваньня, дык праявіць нейкую памяркоўнасьць у сваей тузе?

604 – Гэтае апошняе найболей трапным ёсьць, – сказаў ён.

– Скажы мне пра яго вось яшчэ што: змагацца са сваею тугою і супроцьставіцца ёй будзе ён болей тады, калі бачаць яго іншыя людзі, падобныя яму, або калі ён знойдзецца на самоце з самым сабою?

– Творыць гэта вялікую розьніцу – быць або ня быць бачаным, – сказаў ён.

– Будучы на самоце з самым сабою, ён ня будзе саромецца сказаць або зрабіць нешта такое, адносна чаго ён быў-бы засаромленым, калі-б іншыя чулі або бачылі яго.

– Гэтак і ёсьць, – сказаў ён.

– Тое, што ўздымае ў ім сілу супроцьставіцца бядзе, – гэта розум і права, а тое, што цягне яго да тугі, – гэта сум.

– Правільна.

– Але калі чалавека цягне ў два супроцьлежныя кірункі, да і ад таго самага аб'екту, тады няўхільна трэба сказаць, што ў чалавеку знаходзяцца два розныя прынцыпы.

– Напэўна.

– Адзін зь іх гатовы падпарадкавацца праву?

– Як гэта разумець?

– Права кажа, што ў часе гора найляпей – гэта астацца супакойным і не хвалявацца, хоць-бы ўжо з тае прычыны, што ня ведамымі астаюцца добрыя і дрэнныя ягоныя бакі, дый апрача гэтага, колькі не бядуй, нічога гэта табе не паможа; і яшчэ адна рэч: няма ў чалавека гэтакіх важных справаў, якія вартымі былі-б, каб асабліва бедаваць над імі, а туга станецца завалаю на дарозе да таго, што найболей ёсьць важным у падобных абставінах.

– І што-ж найболей важным ёсьць? – запытаў ён.

– Тое, каб затрымацца над тым, што здарылася, – сказаў я; – і калі ўжо гэта – быццам у той гульні ў косьці – выпала нам на долю, тады трэба як найляпей упарадкаваць нашыя справы ў сузгоднасьці з розумам, і не ўпадабняцца да дзяцей, якія, калі ўдырацца, трымаюцца за ўдыранае месца і, губячы час, пачынаюць раўці на ўсё горла. Не, мы павінны прывучаць душу як найхутчэй тасаваць лекі і вяртаць згубленае і хворае, выціскаючы плач суму гоячым мастацтвам.

– Найболей трапным, – сказаў ён, – было-б гэтак адносіцца да няшчасьцяў.

– Так, мы можам сказаць, і найвышэйшы прынцып будзе сьледаваць разумнай радзе.

– Ясна.

– А той іншы прынцып, які чыніць нас схільнымі да прыпамінаньня нашых клопатаў і нараканьняў і ніколі гэтым не здавальняецца, мы можам назваць неразумным, бескарысным і пужлівым?

– Так, з гэтае прычыны назавецімем.

– І гэты, поўны абурэньня прынцып пастарчае рознавідны матэрыял для перайманьня. З другога боку, мудры і супакойны характар чалавека, які ніколі ня губіць духовае роўнавагі, ня вельмі лёгка пераймае або здавальняецца перанятым, дый людзям бывае цяжка спасьцерагчы гэта і зразумець, асабліва на агульных урачыстасьцях або ў тэатрах, куды зыходзяцца рознавідныя людзі, для якіх падобнага роду творчасьць зьяўляецца чужою.

– Напэўна. 605

– Тады ясным стаецца, што пераймальны паэта, які мае на ўвазе асабістую папулярнасьць, знаходзіцца ў ніякіх суадносінах да разумнага прынцыпу, ані гэтаксама ягонае мастацтва ня мае на ўвазе, каб здаволіць або распасьціраць уплыў на рацыянальны прынцып душы. І згэтуль, ён схільным барджджэй ёсьць зьвяртацца да матываў перапоўненых абурэньнем і скамплікаваных характараў, якія найлягчэй паддаюцца пад перайманьне.

– Гэта ясна.

– І цяперака, ці-ж ня маем мы абаснаваньня, узяць гэтакага паэта і ўмясцовіць побач мастака-маляра, да якога ён падобны: па-першае, затым, што ягоная творчасьць зьяўляецца нягоднаю з пункту гледжаньня праўды – і ў гэтым, я кажу, ён падобны да яго; ён гэтаксама і ў тым падобны да яго, што займаецца нізкаю часткаю душы. Дзеля гэтага, мы маем права ня прыняць яго ў добра ўпарадкаванае гаспадарства, бо ён будзіць, жывіць і ўмацоўвае горшы бок душы і гэтым губіць разумны яе пачатак: гэта ўсё роўна, быццам пераказаць гаспадарства пад уладу людзей нягодных, а добрых – вынішчыць дазваньня; падобнае, скажам мы, робіць і пераймальны паэта – ён укараняе ў душу кажнага паасобнага чалавека дрэнны гаспадарсьцьвены лад, падтакваючы ірацыянальнаму пачатку душы, які ня бачыць розьніцы паміж вялікім і тым, што малым ёсьць, і адно і тое самае часамі ўважае за вялікае, а часамі лічыць малым,

ствараючы гэткім спосабам уяўленьні, што знаходзяцца далёка ад праўды.

– Бяз сумліву.

– Але мы яшчэ не дайшлі да нашага найболей сільнага абвінавачаньня супроць пераймальнае паэзыі – гэта сіла, якую паэзыя мае да свае дыспазыцыі: яна псуе нават і добрых людзей, хіба што не шматлікія будуць тут выняткам; вось якою жахлівак рэчаю зьяўляецца яна.

– Страшнаю запраўды, калі мае яна гэтакае ўзьдзеяньне.

– Тады паслухай і вазьмі пад увагу: нават найлепшыя з нас, як я думаю, калі чуюць рэцытаваны пасус з твору Гомэра або каго іншага з стваральнікаў трагэдыяў, у якім ён выводзіць перад намі якога-небудзь з герояў, агорнутага тугою і які ў павольнай прамове вылівае свае нараканьні, а іншых у тым часе змушае пяяць і, будучы ў поўным адчаю, б'е сябе ў грудзі – тады, як табе ведама, найлепшыя з нас дазнаюць здаваленьне, паддаючыся гэткаму настрою, сьледам за перажываньнямі героя, церпячы разам зь ім і прыймаючы ўсё паважна. Мы хвалім і ўважаем за добрага гэтакага паэта, каторы прывёў нас да падобных перажываньняў.

– Гэта я ведаю, дый як-жа можа быць інакш?

– Але, калі каго-небудзь з нас наведае нашае ўласнае гора, дык ты, праўдападобна, заўважыў, што мы ў супроцьлежных вартасьцях нашую гордасьць бачым – мы баржджэй спакойнымі і цярплівымі астаемося; і гэта ёсьць частка мужчынская, але іншая, якую мы нядаўна пахвалялі – гэта жаночая частка.

– Так, я спасьцерагаў гэта, – сказаў ён.

– Ці-ж гэта зьяўляецца правільным і адпаведным, – сказаў я, – назіраць гэтакага чалавека, якім не хацелася-б быць і якім быць уважалася-б нават сорамным, і ўсё-ж, зь нейкае там прычыны гэта ня выклікае агіды і спрычыняе прыемнасьць, і пахваляецца?

– Не, – сказаў ён, – напэўна гэта не зьяўляецца
606 разумным.

– Не, – сказаў я, – зусім разумным з пэўнага пункту гледжаньня.

– Зь якога?

– Калі мецімеш ты на ўвазе, што пад уплывам гора мы адчуваем голад і патрэбу аблягчэньні нашага суму на дарозе плачу і лямэнтаваньня і, што тое пачуцьцё, якое знаходзіцца здушаным у нашай уласнай зьбянтэжанасьці, знаходзіць вялікую радасьць і зда-

воленьне ў паэтаў – бо лепшая частка натуры ў нас, ня будучы дастаткова ўзгадованаю розумам або звычаем, дае волю спагаднай частцы выбухнуць плачам на спазор чужых цярпеньняў; і глядач уважае, што ў гэтым ня будзе ганьбаю для яго з прычыны выхваляньня і выражэньня спагады для іншага чалавека, які самога сябе называе добрым чалавекам, плача і непатрэбна лямэнтуе; ён уважае, што прыемнасьць зьяўляецца чыстаю карысьцю і ніколі ня згодзіцца, каб згубіць яе для сябе, як і для паэмы. І запраўды, вельмі нешматлікія, як я думаю, зьяўляюцца здольнымі ўявіць сабе, што чужыя перажываньні няўхільна пераказваюцца нам; бо, калі чалавек перапоўніцца сільнаю спагадаю да цярпеньняў іншых людзей, тады ня можа ён паўстрымацца ад спагады пры сваіх уласных няшчасьцях.

– Шчырая праўда, – сказаў ён.

– І ці-ж ня ўтрымліваем мы гэты самы пагляд адносна сьмешнага? Існуюць жарты, якіх ты сам будзеш саромецца, каб пераказваць іншым, аднак, калі ты чуеш іх са сцэны камэдыі або проста дома, ты ахвотна слухаеш, і зусім не абурешся з прычыны няпрыстойнасьці іх – тут паўтараецца выпадак са спагаднасьцю – бо ў людзкай натуры ў васнове ляжыць прынцып, які накіраваны на ўзьняцьце сьмеху, а схільнасьць да жарту, якую ты паўстрымліваеш пры помачы розуму, баючыся, каб самому не паказацца перад людзьмі блазнам, цяпераka атрымлівае волю, і гэтым самым праяўляецца ў цябе заўзятасьць; затым, часта здараецца, што, не спасьцерагаючы нават таго, ты для самога сябе, як і для хатніх, стаешся стваральнікам камэдыі.

– Рэч бо і маецца гэтак, – сказаў ён.

– І падобнае можа быць сказаным адносна злосьці і ўсіх іншых схільнасьцяў людзкае душы, як напрыклад, жаданьняў і цярпеньняў, і прыемнасьцяў, якія – і гэта агульны пагляд – зьяўляюцца непадзельнаю часткаю кажнага чыну чалавека: і ўва ўсіх падобных выпадках паэтычнае перайманьне корміць гэта і падлівае вадою, замест таго, каб высушыць дазваньня; яно дазваляе ім панаваць, тады, калі яны павінны быць пад кантролям, калі людзкасьць мае калі-небудзь асягнуць шчасьце і мужнасьць.

– Цяжка мне запярэчыць гэта, – сказаў ён.

– Затым, Ґляўкон, – сказаў я, – калі-колечы ты спаткаеш людзей, якія праслаўляюць Гомэра і ўтрымліваюць пагляд, што гэты паэта ўзгадаваў Гэльяду і дзеля памыснага кіраваньня людзкімі справамі і а-

сьветы,яго трэба старанна вывучаць і, у сузгоднасьці зь ім, будаваць усё сваё жыцьцё, ты павінен аднесьціся да іх прыхільна і з любоўю - гэта выдатныя людзі, якія ўносяць сваю лепшую частку; і мы павінны быць гатовымі прызнаць, што Гомэр зьяўляецца найбольшым з-пасярод паэтаў і першым сярод аў-
607 тараў трагэдыяў; але мы павінны гэтаксама астацца стойкімі ў перакананьні, што гымны на чэсьць багоў і хвала людзям мужнасьці - гэта адзіная паэзыя, якая мае быць дапушчанаю ў нашае гаспадарства. Бо калі ты дапусьціш мёдам ахарошаную Музу, хай сабе эпічную ці лірычную, тады ў гэткім гаспадарсьцьве запануе прыемнасьць і цярпеньне замест права і разуменьня лепшае рэчы ў супольнасьці, якія, паводля прынятага пагляду, заўсёды ўзнаваліся за як найлепшыя.

- Шчырая праўда, - сказаў ён.

- Цяперака, калі нашая ўвага зьвернута на прадмет паэзыі, няхай тады гэтая абарона выявіць разважнасьць нашага ранейшага вырашэньня адносна высланьня з нашага гаспадарства мастацтва,якога тэндэнцыі ахарактэрызавалі мы раней. Бо прычыною гэтага сталася разумнае абаснаваньне. Але, каб яно не ўчыніла закіду нам, што мы былі бязьлітаснымі або адсутнічала ў нас далікатнасьць, няхай нам дазволеным будзе сказаць яму, што ўжо з найболей старажытных часоў існавала разладзьдзе паміж філязофіяю і паэзыяю, адносна чаго перахаваліся лічныя довады, хоць-бы ў хворме выслоўяў, як напрыклад, "гэта той піскліві сабака, што брэша на свайго гаспадара", або "магутны ён у пустаслоўі неразумных", або "натоўп мудрацоў асіліць і Зэўса", або "асьцярожныя астаюцца жабракамі" і безьлічная колькасьць іншых выказваньняў сьведчыць пра трываньне задаўненае варожасьці паміж імі. Тым ня меней трэба сказаць нашай асалоджанай сяброўцы і спакрэўненаму зь ёю мастацтву пераймаьня, калі яна +/ толькі давядзе права свайго існаваньня ў добра ўпарадкаваным гаспадарсьцьве, мы будзем рады прыняць яе - мы вельмі глыбака адчуваем ейную чароўнасьць; але з гэтае прычыны мы не зьяўляемся гатовымі здрадзіць праўды. І я дазволю сабе сказаць, Ґляўкон, што ты вельмі ачараваны ёю, гэтаксама, як і я, асабліва, калі яна прамаўляе да нас вуснамі Гомэра?

- І запраўды, я ачараваны ёю.

- Тады, я запрапанаваў-бы, што яна можа вярнуцца з выгнаньня, аднак-жа пад гэтакаю ўмоваю толькі

+/ Паэзыя.

- што яна абароніць самую сябе ў лірычным або ў я-
кім-небудзь іншым памеры.
- У кажным выпадку.
- І мы гэтаксама можам дазволіць тым яе прыхіль-
нікам, каторыя любяць паэзыю, але не зьяўляюцца па-
этамі, бараніць яе ў прозе і сказаць, што яна ня
толькі прыемнаю ёсьць, але гэтаксама і карыснаю для
гаспадарсьцьвенага ладу, як і для людзкага жыцьця,
і мы з прыхільнасьцю будзем слухаць іх. Бо калі-б
гэта магло быць даведзеным, тады-б мы шмат выйгра-
лі на гэтым - гэта значыць, калі-б прыдатнасьць
знайшлася ў ёй, гэтаксама як і прыемнасьць.
- Напэўна выйгралі-б,-адказаў ён.
- Але калі ня ўдасца абараніць яе, тады, мой па-
важыны дружа, астанецца паступіць нам як тыя, што
калісьці ў кагосьці закахаліся, а пасьля вымеркa-
валі, што каханьне некарысным будзе, і затым хоць
і зь вялікімі натугамі, але ўсё-ж паўстрымаліся ад
яго. Гэтак і мы ўчынім: з прычыны дзіўнага ўладжань- 608
ня сучасных гаспадарстваў у нас разьвілася любоў да
падобнага роду паэзыі, і мы жадаем ёй усякае памыс-
насьці, гэта значыць, каб яна аказалася і выдатнаю
і праўдзіваю. Але да тае пары пакуль яна не правя-
дзе належнае самаабароны, мы, калі давядзецца яе
слухаць, будзем прыпамінаць сабе, як гоючую чароў-
насьць, тое самае развaжаньне, якое толькі што ўс-
памінaлі мы, і асьцеражамося, каб не папасьці нам
зноў у гэтую юнацкую любоў, свомую для большасьці
людзей. У кажным выпадку, мы здаемо сабе справу,
што паэзыя, калі і зьяўляецца гэтакаю, якою мы а-
пісалі яе, усё-ж ня можа быць павaжна ўважанаю, як
тая, што асягнула праўду. А той, хто слухае яе і
мае на ўвазе бясьпеку свайго гаспадарства,што зна-
ходзіцца ў ім, павінен трымаць сябе на стражы пе-
рад ейнаю спакусаю і ўчыніць нашыя словы сваім пра-
вам.
- Так, - сказаў ён, - я зусім згаджаюся з табою.
- Так, мой паважаны Гляўкон, - сказаў я, - вя-
лікаю справаю мы займаемся, большаю, чымся каму-
небудзь яна можа выдасца, бо ідзе пра тое - мае ча-
лавек быць добрым ці дрэнным. Затым, ані пашана,а-
ні грошы, ані ўлада, ані нават паэзыя ня вартымі
зьяўляюцца таго, каб дзеля іх пагарджаць справяд-
лівасьцю і мужнасьцю.
- Так, - сказаў ён, - твая арґумэнтацыя перакон-
вае мяне гэтаксама, я думаю, як і кажнага іншага
чалавека.
- І ўсё-ж, - сказаў я, - мы яшчэ не разглядалі

ўдзячнасьці за мужнасьць і тых узнагародаў, якія чакаюць за яе.

– Калі існуюць яшчэ іншыя ўзнагароды, апрача ўспомнутых, дык, як відаць, ты кажаш пра асабліва вялікія.

– Чаму? – сказаў я, – што было калі-небудзь вялікае ў кароткім часе? Бо-ж у параўнаньні зь вечнасьцю, прамежжа часу ад нашых дзіцячых галоў да старасьці вельмі кароткім ёсьць.

– Можна сказаць што й нічога, – адказаў ён.

– Дык што? Думаеш ты, што несьмяротнае існаваньне мае барджджэй турбавацца пра маленькае прамежжа, а не пра вечнасьць?

– Пэўна, што пра вечнасьць, – сказаў ён, – але аб чым ты гаворыш?

– Ці-ж ты нясьведамы таго, – сказаў я, – што душа чалавека зьяўляецца несьмяротнаю і нязьнішчальнаю?

Ґляўкон паўзіраўся на мяне са зьдзіўленьнем і сказаў:

– На нябёсы, не. А ты можаш гэта сказаць?

– Калі-б я ня мог, ня меў-бы рацыі. Дый я думаю, што і ты можаш – нічога няма труднага ў гэтым.

– Але я бачу ў гэтым вялікую труднасьць; з гэтае прычыны я рад пачуць цябе адносна гэтае нятруднае рэчы.

– Калі ласка, паслухай, – сказаў я.

– Слухаю, – сказаў ён.

– Ты прызнацімеш, што існуе гэтакая рэч, якую ты называеш добраю і іншая, якую ты называеш дрэннаю?

– Але, – адказаў ён.

– І што зло ёсьць тым, што псуе і нішчыць, а дабро – тым, што адобраслаўлівае і ратуе?

– Так, – сказаў ён.

– Дык што? Дапушчаеш ты, што кажная рэч мае даб-
609 ро, гэтаксама, як і зло? Напрыклад, для вачэй злом зьяўляецца запаленьне вачэй і хваробаю для ўсяго цела; як для збожжа – спарыня, для драўніны – парахненьне, як іржа для медзі і жалеза: бадай што для кажнае рычы існуе апрычонае і свомае для яе зло і хвароба?

– Так, – сказаў ён.

– Калі што-небудзь гэтакае ўвойдзе ў якую-небудзь рэч, дык яно чыніць няпрыдатным тое, да чаго яно прычапілася, аж пакуль не разваліць і загубіць усенькую рэч дазваньня.

– Ведама.

– Загана і зло, якія свомымі зьяўляюцца для каж-

нае рэчы, нішчаць яе; але калі гэтыя ня згубяць яе, дык яе нічога іншага ўжо ня зьнішчыць. Дабро, ведама, ніколі нічога ня нішчыць, гэтаксама ня можа быць згубным тое, што не зьяўляецца злом ані дабром.

- Напэўна не, - сказаў ён.

- Згэтуль, калі сярод таго, што існуе, мы знойдзем нешта са сваім для яго злом, якое псуе яго, але не зьяўлецца ў стане зьнішчыць зусім, тады мы будзем ведаць, што гэтае нешта, паводля свае натуры, незьнішчальным ёсьць.

- Гэтак выглядае, - сказаў ён.

- Дык як? - запытаў я, - ці-ж душа ня мае нечага такога, што псуе яе?

- Ведама, што мае, - адказаў ён: - гэта ўсё тое, пра што мы нядаўна ў сваім разважаньні ўспаміналі - несправядлівасьць, непаўстрыманасьць, баязьлівасьць, беспрасьветнасьць.

- Але ці можа што-небудзь з гэтага загубіць і зьнішчыць яе? - аднак асьцярожна, каб няўпасьці нам у памылку пры разважаньні, быццам несправядлівы чалавек і нясьведамы, калі яго выкрыюць, гіне, дзякуючы ягонай уласнай несправядлівасьці, што і будзе злом у ягонай душы. Вазьмі прыклад з цела: зло цела зьяўляецца хваробаю, якая псуе, паменшвае і нішчыць цела дазваньня; і ўсе гэтыя рэчы, пра якія мы толькі што гаварылі, прыходзяць да нябыцьця, дзякуючы сваей уласнай заганнасьці, якая сваею дакучлівою прысутнасьцю губіць усё знутра. Ці-ж ня гэтак рэч маецца?

- Так.

- Дык вось з гэтага пункту гледжаньня паўзірайся і на душу. Ці можа прысутная ў ёй несправядлівасьць і іншая заганнасьць зьвесьці яе да нічога і зьнішчыць сваею прысутнасьцю да гэтакае ступені, каб давесьці яе да сьмерці і аддзяліць душу ад цела?

- Не, гэтага зусім ня можа, - адказаў ён.

- І ўсё-ж, - сказаў я, - гэта ня было-б мудра, дапусьціць, каб нешта гінула з прычыны пабочнага псуцьця, а ад свайго ўласнага ня зьнішчылася-б?

- Так, гэта ня было-б мудра.

- Падумай, Ґляўкон, - сказаў я, - што мы гэтаксама не ўважаем, быццам цела павінна гінуць пад беспасрэднім узьдзеяньнем сапсутасьці ежы, у чымколечы сапсутасьць гэтая выражалася-б, напрыкалд, ядда нясьвежая, прытухлая і гэтак далей. Аднак-жа, калі сапсутая ежа выкліквае ў целе фізычнае занядужаньне, тады мы кажам, што цела нішчыцца хоць і

з прычыны ежы, а ўсё-ж з прычыны свае ўласнае са-
610 псутасьці, што зьяўляецца хваробаю, унесенаю гэтым;
але што цела, будучы адным элемэнтам, можа быць
зьнішчана дрэннасьцю яды, якая зьяўляецца іншым э-
лемэнтам, і які ня выклікавае ніякага натуральнага
ўзьдзеяньня - гэтаму мы павінны рашуча пярэчыць.

- Ты вельмі трапна кажаш, - адказаў ён.

- І паводля гэтага самага прынцыпу, - калі са-
псутасьць цела ня выклікавае сапсутасьці душы, - мы
не павінны думаць, што душа, якая зьяўляецца адною
рэчаю, можа згінуць проста з прычыны вонкавага зла,
якое належыць да іншае рэчы.

- Так, - сказаў ён, - гэта мае сваё абаснаваньне.

- Затым, або мы запярэчым гэты выснаў, або, як
доўга ён астаецца незапярэчаным, мы ніколі ня бу-
дзем казаць, што гарачка або якая-небудзь іншая хва-
роба, або нож, прыложаны да горла, або хоць-бы на-
ват цэлае цела мела быць пасечана на найменшыя ка-
валкі - усё гэта ані крышку не пабольшвае магчы-
масьці зьнішчэньня душы, пакуль нам не давядуць,
што, з прычыны цярпеньняў цела, яна сама стаецца
меней справядліваю і болей непабожнаю. Калі звон-
ку зло ўзьнікае ў нечым вонкавым, а ўласнае зло ня
родзіцца, тады мы не дазволім цьвердзіць, быццам
душа ці што-небудзь іншае гіне.

- І напэўна, - сказаў ён, - ніхто ніколі не да-
вядзе, што душы людзей, з прычыны іхнае сьмерці,
стаюцца болей несправядлівымі.

- Але, калі хто-небудзь, - сказаў я, - хто бар-
джэй ня прызнае несьмяротнасьці душы і нахабна пя-
рэчыць гэтаму, і кажа, што той, хто памірае, фактыч-
на, стаецца болей дрэнным і несправядлівым, дык та-
ды, калі ён мае рацыю, я думаю, што несправядлі-
васьць, як хвароба, зьяўляецца сьмяротнаю і, што
тыя, што займелі гэтую хваробу, паміраюць з прычы-
ны ейнае натуральнае сілы зьнішчэньня, што зьяўля-
ецца злом і якая раней ці пазьней усяроўна заб'е
іх, але на шляху іншым ад таго, на якім, цяперака,
найболей слабыя атрымліваюць сьмерць з рук іншых,
як пакараньне за іхныя чыны.

- О не, - сказаў ён, - у выпадку несправядліва-
сьці, калі яна сьмяротнаю ёсьць для несправядліва-
га, дык яна ня была-б вельмі страшнаю для яго, бо
гэткім спосабам - праз сьмерць - ён ухіліцца ад
зла. Але тое, што я спадзяюся - праўдаю мае быць
супроцьлежнае і, што несправядлівасьць - калі мае
яна сілу - будзе забойчаю для іншых, але свайго нось-
біта чыніць яна жывучым - і мала таго, што жывучым,

яшчэ і нястомным. У падобных выпадках месца ейнага прабываньня знаходзіцца недзе далёка ад дому сьмерці.

– Прыгожа ты кажаш, – сказаў я; – калі ўжо натуральная ўласная заганнасьць і зло не зьяўляюцца ў стане загубіць душы, дык ад зла, прызначэньне якога ёсьць нішчыць іншыя рэчы, насілу ці загіне яна або што-небудзь іншае, апрача таго, дзеля чаго гэтае зло прадназначана.

– Насілу, – сказаў ён, – дый немагчымым гэта ёсьць.

– Тады, калі душа ня можа быць зьнішчанаю злом, хай сабе прыроджаным ці вонкавым, дык мусіць жыць заўсёды, і, калі існуе заўсёды, – мусіць быць несьмяротнаю? 611

– Напэўна, – адказаў ён.

– Гэтакім ёсьць высноў, – сказаў я; – і, калі наш высноў ёсьць трапным, тады душы павінны аставацца заўсёды тымі самымі, бо калі яны ня гінуць, дык і лік іхны не паменшыцца. Гэтаксама лік іхны і не пабольшыцца, бо ўзбольшаньне несьмяротных натураў, мусіць адбывацца на кошт нечага сьмяротнага, і ў выніку чаго ўсё кончылася-б несьмяротнасьцю.

– Ты праўду кажаш.

– Аднак-жа, – сказаў я, – ня можам мы прызнаць ані гэтага – бо нашае разважаньне не дазваляе нам, – ані таго зноў, быццам душа, паводля яе запраўднае натуры, мае быць поўнаю рознароднасьці, рознасьці і непадобнасьці.

– Што ты маеш на ўвазе? – запытаў ён.

– Душа, – сказаў я, – будучы, як гэта і даведзена цяперака, несьмяротнаю, мусіць быць найпрыгажэйшаю што да яе асноўных чыньнікаў і ня можа складацца са шматлікіх элемэнтаў.

– Напэўна не.

– Яе несьмяротнасьць неабходна выяўлаецца, гэтак з нашага нядаўнага разважаньня, як і з шматлікіх іншых. Але каб ведаць, якою яна фактычна зьяўляецца, трэба яе бачыць не такою, якою мы яе цяперака назіраем – занечышчанаю супольнасьцю зь целам і іншым розным злом, але ты мусіш сузіраць яе вачыма розуму ў ейнай першабытнай чысьціні. Тады выявіцца яе прыгожасьць і справядлівасьць, і несправядлівасьць, і ўсе тыя рэчы, якія мы ўжо ўспаміналі і выявяцца ўва ўсім сваім зіяньні. Як дагэтуль мы правільна гаварылі пра душу –пра тое, якой яна здаецца нам у цяперашнім часе, але мы гэтаксама мусім памятаць, што мы бачылі яе толькі ў вабставінах, якія могуць быць параўнаныя да тых, у якіх знаходзіц-

ца морскі бог Ґляўкос: першабытную постаць якога
насілу ці можна разглядзець, а гэта затым, што кан-
цавіны ягонага цела адломаны або сьцерліся ці па-
шкоджаны хвалямі, дый да гэтага ён пакрыўся ра́каві-
намі, морскім зельлем, мальлюскамі і каменчыкамі,
затым ён болей падобны да нейкага страшыдла, чымся
на тое, чым ён быў паводля свае натуральнае хвормы.
Гэтак і душа, якую мы бачым, з прычыны безьліччу а-
гіднасьцяў, знаходзіцца ў падобным стане. Але і гэ-
та яшчэ ня тое, Ґляўкон, на што мы маем зьвярнуць
наш зрок.

– На што́, тады? – запытаў ён.

– На яе любоў да мудрасьці. Мы мусім паўзірацца,
куды яна праяўляе сваю схільнасьць і чые супольнась-
ці душа шукае, калі яна ўжо ссуроднена з тым, што
ёсьць боскім, несьмяротным і вечна-існуючым; і паў-
зірацца, якою іншаю яна сталася-б, калі-б яна суцэль-
на сьледавала за гэтым вышэйшым прынцыпам і, зра-
дзіўшыся моцаю боскага імпульсу з акіяну, у якім
яна сягоньня прабывае, і вызваліўшыся з каменьняў
і морскага шалупеньня і рэчаў, што вяжуцца з зям-
лёю і каменьнем, якія ў дзікім і рознавідным імк-
неньні скокі выпраўляюць навакол яе, бо яна жывіц-
612 ца зямным, і абрасла, як гэта кажацца, добрымі рэ-
чамі гэтага жыцьця: – тады пабачыў-бы ты яе такою,
якою яна зьяўляецца, і даведаўся-б, ці мае яна ад-
ну постаць толькі ці шмат іх, гэтаксама, як і чым
ёсьць яе натура. Я думаю, што адносна таго, куды я-
на праяўляе сваю схільнасьць і адносна хвормы, я-
кую яна прыймае ў сучасным жыцьці, сказалі мы цяпе-
рака даволі шмат.

– Так, – сказаў ён, – разгледзелі даволі.

– І гэтым, – сказаў я, – мы выпаўнілі прадумовы
адносна іншых рэчаў у нашай дыскусыі; мы не ўвялі
ўзнагародаў і праслаўленьняў за справядлівасьць, што́,
як вам ведама, чыняць Гомэр і Гэзіёдос; бо супрось-
лежнасьць гэтага ёсьць такая, што справядлівасьць у
сваей уласнай натуры, – як і ўвага нашая зьвярталa-
ся на гэта, – зьяўляецца нечым найлепшым для душы ў
яе ўласнай натуры. Няхай дазволеным будзе чалавеку
тварыць справядлівасьць, ня гледзячы на тое, атры-
маў ён як узнагароду персьцень Ґіґэса ці не, ды на-
ват і тады, калі ён у дадатку да гэтага персьценя,
можа ўскласьці шлем Гадэсу.

– Ты маеш рацыю, – адказаў ён.

– Вельмі добра, дарагі мой Ґляўкон, – сказаў я,–
цяперака не дазнацімем мы ўжо папроку з прычыны да-
лейшага колькаснага пераліку і высокасьці ўзнагаро-

даў, якія справядлівасьць і іншыя мужнасьці абясьпечваюць душу з боку багоў як і людзей, гэтак у часе жыцьця, як і пасьля сьмерці.

– Не, не дазнацімем, – адказаў ён.

– Затым, ці сплоціце вы мне ўсё тое, што́ пазычылі вы ў часе развcovажаньня?

– І што-ж ты пазычыў?

– Дапушчэньне, што справядлівы чалавек можа здавацца несправядлівым, і несправядлівы – справядлівым. Хоць і немагчыма, каб гэта асталося сукрытым ад багоў і людзей, тым ня меней вы знаходзілі патрэбным, дзеля самога развcovажаньня, дапусьціць гэта з мэтаю супроцьпастаўленьня справядлівасьці, як гэткае і як гэткае-ж несправядлівасьці. Ці памятаеш ты гэта?

– Я-б астаўся пад папрокам несправядлівасьці, калі-б забыў я гэта, – сказаў ён.

– Цяперака, калі ўжо гэтакае супроцьпастаўленьне было выканана, тады я, у імя справядлівасьці, прашу вас вярнуць мне яе пашану, у якой яна маецца сярод багоў і людзей, і якую, як і згадзіліся мы, павінны мы ўвесьці ў нашае асяродзьдзе. Тыя, каторыя справядлівымі зьяўляюцца, тых яна узнагароджвае ўжо хоць-бы тым, што яна ў гэткай пашане знаходзіцца; а тое, што яна фактычна належным дабром зьяўляецца для таго, хто яе запраўды прытрымліваецца, дык гэта ўжо было намі выясьнена.

– Вымаганьне тваё справядлівым ёсьць, – сказаў ён.

– Затым, – працягваў я далей, – у першую чаргу вярнеце мне дапушчэньне, быццам багі не разрозьніваюць натураў гэтых двух, пайменна – справядлівага і несправядлівага чалавека.

– Гэта ахвотна аддаем назад, – сказаў ён.

– І калі яны зьяўляюцца ведамымі багам, тады адзін мусіць быць прыяцелем, а другі – ворагам багоў, гэтак, як і згадзіліся мы спачатку.

– Гэтак ёсьць.

– Ці-ж ня прызнацімем мы, што прыяцель багоў атрымае ад іх усё, што́ толькі яны ў стане даць яму, 613
за выняткам аднаго таго зла, як няўхільнае наступства папярэдняга грэху?

– Ведама, прызнацімем.

– Затым, гэта ёсьць тое, што́ адносна справядлівага чалавека мы мусім думаць, і ўсё роўна, знойдзецца ён у беднасьці або хворасьці ці ў якім-небудзь іншым падобным няшчасьці, усе гэтыя рэчы абернуцца на дабро для яго ў жыцьці і ў часе сьмер-

ці, бо багі апякуюцца кажным чалавекам, жаданьнем якога ёсьць, быць справядлівым і стацца падобным Богу, як далёка гэта чалавеку магчымым ёсьць на дарозе мужнасьці.

– Так, – сказаў ён, – трэба спадзявацца, што, калі чалавек зьяўляецца падобным Богу, ён ня будзе занядбаны ім.

– А ўдзелам несправядлівага чалавека, трэба думаць, ёсьць супроцьлежнае.

– Напэўна.

– Гэтакімі зьяўляюцца ад багоў пальмы перамогі для справядлівага чалавека.

– Што найменей, паводля майго меркаваньня,–сказаў ён.

– А як рэч маецца, – казаў я далей, – са стараны людзей? Паўзірайся на рэчаіснасьць, і ты будзеш бачыць, што несправядлівыя людзі, пры ўсім іхным спрыце, паступаюць падобна, як тыя ўдзельнікі падвойнага прабегу, якія ў вадзін канец бягуць добра, а на другую палову бегу ў іх ужо нямашака сілы; перш яны імчацца з усеньке моцы, але не да апошняе мэты, і ў выніку гэтага стаюцца пасьмешышчам для людзей і, не асягнуўшы свае мэты, адыходзяць з пахілымі галовамі і абвіслымі вушамі. Але запраўдныя бягуны даходзяць да фінішу, атрымліваюць узнагароды і ўвенчваюцца вянкамі. І гэта ёсьць тое, што паказвае нам як рэч маецца са справядлівымі: той, хто трывае да канца пры кажным дзеяньні і пры кажнай нагодзе на працягу ўсенькага жыцьця, мае добрыя асягненьні і атрымлівае ўзнагароду, якою людзі дораць яго.

– Якраз гэтак.

– І цяперака ты мусіш дазволіць мне паўтарыць пра справядлівых людзей тое, што ты сам гаварыў пра несправядлівых. Я кажу, што ўсе справядлівыя людзі з часам стаюцца кіраўнікамі ў сваіх местах, калі яны жадаюць сабе гэтага; і выбіраюць сабе жанок, якіх толькі хочуць, і дачок сваіх выдаюць замуж за каго хочуць; інакш кажучы, усё, што аднойчы казаў ты пра людзей несправядлівых, цяперака я адношу да справядлівых. І з другога боку, пра несправядлівых людзей я кажу, што большасьць зь іх, калі ім у юнацкіх гадох і ўдалося прытаіцца, пад канец жыцьця ўсё роўна выкрыюць іх, і яны стануцца агульным пасьмешышчам для людзей, а пад старасьць чакае іх мізэрная доля; іх будуць трымаць у паняверцы, гэтак свае грамадзяне, як і чужынцы, дый без пабояў не абыдзецца, як ты і ўтрымліваў праўдзіва – іх будуць мучыць рась·

цягнутых на лаве катаваньня з распаленым жалезам. І ты можаш уважаць, што пра ўсе гэтыя страшэнныя рэчы гаварыў тады я, а ня ты. Але ці дазволіш ты мне запэўніць цябе, што ўсе гэтыя рэчы праўдзівымі зьяўляюцца?

– Ведама, – адказаў ён, – бо-ж тое, што ты кажаш, праўдзівым ёсьць.

– Гэтакімі, затым, – сказаў я, – зьяўляюцца ўзнагароды, узнаньні і гасьцінцы, якімі дораць багі і людзі 614
справядлівага чалавека ў сучасным жыцьці ў дадатак да дабра, якое спрычыняе яму яшчэ і сама справядлівасьць.

– Так, – сказаў ён, – і прыгожымі яны зьяўляюцца, і доўгатрывалкімі.

– Аднак-жа, – сказаў я, – усё гэта ўзятае разам, нават з увагі на сваю колькасьць, як і велічнасьць, зьяўляюцца нічым у параўнаньні з тою ўзнагародаю, якая чакае гэтак справядлівага, як і несправядлівага пасьля сьмерці. І пра гэта павінны мы паслухаць, і тады абодва гэтыя – справядлівы і несправядлівы– атрымаюць ад нас поўную сплату задоўжаньня, якую арґумэнт наш вінаваты ім, як належнае.

– Калі ласка, – сказаў ён, – гавары далей, бо насілу ці ёсьць што іншае, каб можна было слухаць яшчэ з большым зацікаўленьнем.

– У грунце рэчы, я ня маю доўгага Алькіноўсавага апавяданьня пераказваць табе, – сказаў я, – але апавяданьне пра магутнага мужа, Эра, сына Армэніёса, народжанага ў Памфіліі. Здарылася, што ён быў забіты на вайне; калі пасьля дзесяці дзён пачалі зьбіраць целы, якія знаходзіліся ўжо ў стане раскладу, ягонае цела знайшлі яшчэ недаткнутым гэтым працэсам і прывезьлі дамоў. На дзьвянаццаты дзень у часе паховінаў, калі ён ляжаў на хаўтурным вогнішчавым узвыме, ён аджыў і расказаў, што ён бачыў там у іншым сьвеце. Ён казаў, што калі ягоная душа выйшла зь цела, ён з шматлікімі іншымі накіраваўся ў нейкае цудоўнае месца, на якім знаходзіліся дзьве растуліны ў зямлі, і яны знаходзіліся блізка побач сябе, а над імі дзьве іншыя растуліны высака на небе. Пасярэдзіне між імі сядзелі судзьдзі. Пасьля правядзеньня суду, судзьдзі загадвалі справядлівым людзям ісьці па дарозе направа ўверх праз нябёсы, і прывешвалі ім сьпераду знак судовае пастановы; і падобна паступалі яны з несправядлівымі – ісьці па дарозе налева ўніз; і яны мелі прымацаваны знак сваіх чынаў, але з-заду. Калі ў чарговасьці ён сам падыйшоў, судзьдзі сказалі яму, што ён павінен стацца для людзей апавяшчальнікам усяго таго, што ён тут

бачыў, затым яны запрапанавалі яму, каб ён слухаў у-
важна і бачыў усё, што робіцца тут на гэтым месцы.
Затым, ён пачаў прыглядацца і бачыў, як душы, пась-
ля суду над імі, адыходзілі па дзьвюх адтулінах -
неба і зямлі, а па дзьвюх іншых душы вярталіся, і
гэтым: па адной душы падымаліся зь зямлі, пакрытыя
балотам і пылам, а па другой - зыходзілі зь неба
чыстыя душы. І ўсе душы, якія час ад часу прыходзі-
лі, рабілі ўражаньне, што вярталіся з доўгага пада-
рожжа: яны ахвотна раскладваліся на лузе, гэтак,як
робяць людзі пры ўрачыстых спатканьнях; а тыя, ка-
торыя ведаліся ўжо раней,пры спатканьні абдымаліся,
вітаючыся, і з цікавасьцю распытваліся: тыя душы, што
прыйшлі зь зямлі,пыталіся, як там жывецца,і наадварот
615 - тыя, што зыйшлі зь неба,цікавіліся, як рэчы маюцца на
зямлі. І ўсе яны, успамінаючы, расказвалі адзін адна-
му: адны з прыгнобленасьцю і сьлязьмі,колькі і чаго яны
нацярпеліся пад зямлёю на працягу тысячалецьця, а ін-
шыя, тыя, што зыйшлі зь неба, апавядалі пра шчасьце і
пра нячуваную прыгожасьць бачанага. Але, каб расказаць
пра ўсё дакладна, спатрэбілася-б,Гляўкон, шмат часу.
Галоўнае, аднак-жа, паводля словаў Эра, заключалася
вось у чым: за кажную, спрычыненую каму-небудзь крыўду
і за кажнага пакрыўджанага ўсе крыўдзіцялі паддаюцца
пакараньню ў памеры дзесяцікратным да спрычыненых крыў-
даў, з разьлікам на сто гадоў, бо гэтакая даўжыня людска-
га жыцьця. Напрыклад, калі хто-небудзь стаўся пры-
чынаю сьмерці шматлікіх людзей або здрадзіў гаспа-
дарства або армію, ці спрычыніўся да няволі іншых
або прыймаў удзел у якім-небудзь іншым злачынстве,
за ўсё гэта, гэта значыць за кажны праступак, ён па-
вінен адпакутаваць дзесяцікратна большыя цярпеньні;
з другога боку, той, хто праяўляў добрадзеяньні,
быў справядлівым і пабожным, гэтакі ўзнагароджваец-
ца прапарцыянальна да сваіх заслугаў.
Насілу ці я павінен паўтараць тое, што ён казаў
адносна малых дзяцей, што паміраюць, зараз пасьля
нараджэньня. Адносна пабожнасьці, як і адсутнасьці
яе перад багамі, гэтаксама паслухмянасьці, як і не-
паслухмянасьці перад бацькамі і адносна самагубцаў
сьледуюць узнагароды і пакараньні большыя ад тых,
якія ён ужо ўспамінаў.
Ён успамінае гэтаксама, што ён быў прысутным,ка-
лі адзін дух пытаў іншага: "Дзе падзеўся Ардзіайёс
Вялікі?" /Гэты Ардзіайёс жыў тысячу гадоў таму, і
быў тыранам у вадным зь местаў Памфіліі. Расказва-
юць, што ён замардаваў свайго старога бацьку і стар-
шага брата і даканаў шмат іншых праступстваў/. На

гэта запытаны адказаў: "Ён ня прыйшоў і ня прыйдзе
сюды. І тут", сказаў ён, "наступіла адна з найболей
агідных сцэнаў, якіх мы былі сьведкамі. Мы знахо-
дзіліся ля вусьця і мелі ўжо выйсьці, як раптам заў-
важылі Ардзіайёса і некалькі іншых зь ім, большасьць
якіх - гэта пераважна тыраны, дый простыя людзі зь
імі былі ў сваей лікавай перавазе вялікія праступ-
нікі. Яны маніліся выйсьці, але вусьце ня прыймала
іх і пачынала раўці, калі хто-небудзь зь непапраў-
ных у сваей дрэннасьці або яшчэ не адпакутаваў у-
сяго свайго пакараньня, рабіў спробу выйсьці. Побач
іх," казаў ён, "стаялі напагатове дзікія людзі, з
вогненымі абліччамі. Разумеючы гэты роў, яны схапі- 616
лі некаторых і павялі, а Ардзіайёсу ды іншым зь іх
зьвязалі рукі і ногі, накінулі ім петлі на шыі і па-
валілі іх на зямлю, пасьля зьдзерлі зь іх шкуру і па-
валаклі ўздоўж бездарожжа, панатыканага вострым су-
пшыньнем, апавяшчаючы пры гэтым усім напатканым лю-
дзям прычыны іхнага пакараньня, кажучы, што яны кі-
нуць іх у Тартар". Хоць мы і напалохаліся і нацяр-
пеліся з прычыны розных страхаў, - сказаў Эр, - а-
ле болей за ўсё быў той страх, каб хаця не давяло-
ся чуць гэтага рову, каму-небудзь з нас, калі знoй-
дзецца каля гэтага вусьця; затым, найбольшаю радась-
цю для кажнага з нас было тое, што роў гэты пасту
пова сьціхаў, калі мы выходзілі. Гэтакімі, - ска-
заў Эр, - былі выпрашэньні суду і кары, або, з дру-
гога боку, у вадпаведнасьці добраслаўленьні, якія
яны атрымалі.

Цяперака, тыя, што прабылі на лузе сем дзён, на
восьмы дзень павінны былі ўстаць і выйсьці ў пада-
рожжа, каб за чатыры дні прыйсьці на гэтакае месца,
скуль зьверху відзён быў прамень сьвятла, што пра-
ходзіў праз усе нябёсы і праз усю зямлю, падобны да
вясёлкі, толькі болей сьвятлейшы і значна чысьцейшы.
На гэтае месца яны прыбылі пасьля яшчэ аднаго дня
падарожжа, і там у высяродзьдзі сьвятла ўбачылі
зьвісаючыя канцы павязаньняў нябёсаў: бо гэтае сьвят-
ло - гэта павязаньне нябёсаў, якое вяжа ў вадну цэ-
ласьць кола сусьвету, падобна як падвязаньні ў тры-
еры. З гэтых канцоў выступае Верацяно Неабходнась-
ці, на якім адбываюцца ўсе рухі. Верацяно мае вось
і крук з цьвярдое сталі, а вал выкананы часткава са
сталі, а часткава зь іншых матэрыялаў. Сам вал гэ-
так ён апісвае: ягоная хворма падобна да хвормы на-
шае зямлі; трэба ўявіць сабе вялікі пусты вал і ў
яго ўпраўлены меншы вал, а тады яшчэ меншы і яшчэ
меншы і разам з чатырма іншымі яны твораць усіх ра-

зам восем, падобна, як маглі-б устаўляцца адна ў
вадну скрыні, і іхныя скрайнасьці маюць спазор ко-
лаў на агульнай восі, затым звонку яны чыняць у-
ражаньне бесперапыннае вонкавае плошчы аднаго валу,
а сама́ вось прынізана праз сярэдзіну восьмага валу.
Першы,вонкавы вал мае найбольшую знадворную плошчу
кола; шосты вал - другую паводля вялічыні; чацьвер-
ты - трэйцюю; восьмы - чацьвертую; сёмы - пятую;
пяты - шосьтую; трэйці - сёмую; другі - восьмую па-
водля вялічыні. Кола найбольшага валу рознаколернае;
кола сёмага валу - самае зіхацістае; кола восьмага
атрымлівае свой калярыт ад сьвятла адбітага ад ва-
617 лу сёмага; колы другога і пятага валаў нагадваюць
сабою паводля водцені адзін аднаго і зьяўляюцца бо-
лей жоўтымі, чымся папярэднія; трэйцяе кола - най-
болей белага колеру; чацьвертае - чырвонага, а шос-
тае кола займае другое месца паводля свае беласьці.
Цяперака, верацяно мае тое самае абяртаньне; але ў
тым часе, калі цэласьць абяртаецца ў вадным напрам-
ку, сем іншых унутраных кругоў памалу абяртаюцца ў
супроцьлежным кірунку і з усіх кругоў восьмы круг
парушаецца найхутчэй; паводля свае хуткасьці кругі
займаюць гэтакую чарговасьць: сёмы, шосты і пяты
парушаюцца аднолькава; трэйці што да свае хуткась-
ці, як ён заўважыў, абяртаецца паводля права руху
чацьвертага круга; на чацьвертым месцы знаходзіцца
трэйці круг, а на пятым - другі. А само верацяно
круціцца на каленях Неабходнасьці.
Зьверху на кажным крузе верацяна знаходзіцца Сы-
рэна, якая адбывае той самы рух з кругам, і якая
выдае адзін толькі гук і заўсёды тае самае высо-
касьці. Усе гукі разам - а іх ёсьць восем - тво-
раць адну сымфонію або музычную гармонію. Навакол
Сырэны, на той самай адлегласьці знаходзіцца група
трох іншых існаваньняў, зь якіх кажнае сядзіць на
сваім троне: гэта тры Долі або Мойры - дочкі Неаб-
ходнасьці: Ля́хэсіс, Клёто́ і А́тропос - у белым ары-
зеньні і зь вянкамі на галавах. Пад гукі Сырэнаў
Ляхэсіс праслаўляе мінуўшчыну, Клёто - сучаснасьць
і Атропос - будучыню. Час ад часу Клёто памагае ру-
ху верацяна, дакранаючыся сваею праваю рукою да я-
гонага вобаду, тады як Атропос сваею леваю рукою
чыніць тое самае, а Ляхэсіс па чарзе дакранаецца
раз леваю а раз праваю рукою.
Дык вось, як толькі яны прыйшлі, зараз-жа павін-
ны былі падыйсьці да Ляхэсіс; але перад усім зья-
віўся прарок, які паставіў іх у парадак. Пасьля гэ-
тага ён узяў з каленяў Ляхэсіс долі і прыклады жыць-

цяў, узышоў на падвышшэньне і сказаў:
"Слухайце словы дзевы Ляхэсіс, дачкі Неабходнась-
ці. Душы мінаючага дня, тут пачынаецца іншы круга-
варот сьмяротнага жыцьця, што вядзе ў сьмерць. Ваш
гэні ня будзе распадзелены між вамі, але вы самыя
выбераце сабе свайго гэнія; няхай, затым, той, хто пер-
шы выцягне жэраб, першы выбярэ сабе жыцьцё, і жыць-
цё, якое ён сабе выбярэ, будзе ягонаю доляю. Муж-
насьць зьяўляецца свабодна даступнаю для кажнага і,
у залежнасьці ад таго, колькі чалавек шануе або не
шануе яе, гэтулькі сама ён будзе мець яе; адказ-
насьць супачывае на тым, хто выбірае - Бог астаец-
ца бязь віны".
Сказаўшы гэта, прарок кінуў жэрабі сузграмаджа-
ным, і кажны падняў тое жэрабя, якое ўпала найблі-
жэй да яго: але Эр не падняў, бо яму не дазволена
было гэта. Цяперака ўсім, што паднялі жэрабі, стала 618
ведама, які нумар выпаў на кажнага зь іх. Пасьля гэ-
тага прарок расклаў на зямлі перад імі розныя пры-
клады жыцьцяў у колькасьці значна большай, чымся
лік прысутных. Былі там прыклады жыцьця розных
зьвераў і людзей у розных абставінах. Былі там ся-
род іх і тыраніі дажывотныя або часовыя з упадкам
сярод жыцьця зь беднасьцю на канцы, выгнаньнем і
жабрацтвам; былі там і жыцьці слаўных людзей, няка-
торыя зь іх ведамымі былі з прычыны іхнага прыгожа-
га вонкавага выгляду; яшчэ іншыя - з прычыны свае
фізычнае сілы і перамогаў на гульнях або, гэтакса-
ма, з прычыны іхнага паходжаньня або духовае вар-
тасьці іхных продкаў; былі і гэтакія, што ведамымі
былі з прычыны іхных супроцьлежных якасьцяў: былі
гэтаксама і жыцьці жанчын. Аднак абазначэньні ха-
рактару сярод іх адсутнічалі, а гэта затым, што ду-
ша, калі выбярэ сабе новае жыцьцё, у сілу неабход-
насьці, стаецца іншаю. Але відавочнымі былі ўсе ін-
шыя якасьці, і ўсе яны былі зьмешанымі між сабою -
багацьце і галеча, хвароба і здароўе, гэтаксама як
і станы пераходнага характару. І тутака, мой пава-
жаны Ґляўкон, якраз і знаходзіцца небясьпека для
чалавека; і дзеля гэтага на гэтым месцы ма́е быць
прадузята найдалей сягаючае стараньне. Няхай каж-
ны з нас пакіне іншае пазнаньне і азіраецца, і сьле-
дуе толькі за адною рэчаю, калі ў прысутнасьці ня-
ведамага ён можа займець магчымасьць і зможа су-
стрэць некага, хто ўчыніць яго здольным пазнаваць і
бачыць розьніцу паміж дабром і злом, і быць здоль-
ным заўсёды і ўсюды выбіраць лепшае жыцьцё як толь-
кі нагода да гэтага надыйдзе. Ён павінен браць пад

увагу суадношаньне мужнага жыцьця да ўсіх рэчаў,
пра якія ішла цяперака між намі гутарка; ён павінен
ведаць якое ўзьдзеяньне мае на дадзеную душу прыго-
жасьць, калі яна спалучаецца зь беднасьцю або бага-
цьцем і якія наступствы маюць дабро і зло на чала-
века шляхэтна ўроджанага і на звычайнага; ён паві-
нен ведаць, што гэта такое прыватнае жыцьцё, зай-
маныя пазыцыі ў гаспадарсьцьвеным жыцьці, уплыў,
сіла і слабасьць, успрыйманьне і адсутнасьць здоль-
насьці да навукі; ён павінен зрабіць добры ўгляд у
натуру душы і, беручы пад увагу ўсе гэтыя якасьці,
стацца здольным вырашыць, якая душа ёсьць лепшаю і
якая - горшаю. Гэткім спосабам ён выбярэ і назаве
дрэнным тое жыцьцё, якое душа ягоная ўчыніць болей
несправядлівым, і добрае тое жыцьцё, якое ўчыніць
сваю душу болей справядліваю; усё іншае адхіліць
ён на бок. Бо мы спасьцераглі ўжо і ведаем, што гэ-
619 та ёсьць лепшым выбарам у жыцьці, і пасьля сьмерці.
І астаючыся цьвярдым, як адамант, у гэтым пера-
кананьні, чалавек мусіць перайсьці ў сьвет падзя-
мельны, каб і тамака стацца сьведамым і ня дасца
ашаламіць сябе багацьцем ці іншымі прынадамі зла,і
каб ён ня стаўся тыранам або слугою падобных нягод-
ных дзейнасьцяў і ня спрычыніў шмат няўхільнага зла,
дый каб сам не дазнаў яшчэ большага. Але той, хто
даконвае выбар, няхай ведае як выбраць сярэдзіну і
ўхіліцца, наколькі гэта магчыма, ад скрайнасьцяў,
што знаходзяцца на абодвух баках, і ня толькі ў гэ-
тым жыцьці, але ў кажным іншым, што надыйдзе пазь-
ней. У гэтым бо - вышэйшае шчасьце для чалавека.

Паводля пераказу апавяшчальніка з там-тага сьве-
ту, вось тое, што прарок далей казаў: "Нават для
таго, хто падыйдзе апошнім да выбару, маецца тут
жыцьцё, якое не зьяўляецца дрэнным, але барджджэй
пажаданым, калі выбярэ ён без упярэджаньня і будзе
весьці стараннае жыцьцё. Тыя, што падыйдуць першы-
мі, няхай ня будуць бязуважнымі, і апошнія ў выба-
ры няхай не паддаюцца адчаю".

Калі ён кончыў гаварыць, той, хто меў першы ну-
мар, падыйшоў і зараз-жа выбраў найбольшую тыранію;
ці то з прычыны безразважнасьці, ці з прычыны свае
пачуцьцёвасьці, ён не перадумаў усяе справы перад
выбарам і з пачатку не здаваў сабе справы, што яго-
ным наканаваньнем сталася, сярод іншых агіднасьцяў,
пажыраньне сваіх уласных дзяцей. Але, калі ён хут-
ка апамятаўся, ён пачаў біць сябе ў грудзі і голас-
на лямэнтаваць, наракаючы на свой выбар, забываючы
пра тое, што да ведама падаваў прадказальнік. За-

тым, замест таго, каб з прычыны свайго выбару нара-
каць на самога сябе, ён пачаў абвінавачваць долю і
багоў і ўсё іншае барждзэй, чымся самога сябе. Між
іншым ён быў адным з тых, што прыйшлі зь нябёсаў і
пражыў сваё папярэдняе жыцьцё ў добра ўпарадкаваным
гаспадарсьцьве; што-праўда, ягоная мужнасьць была
барждзэй справаю прывычкі, чымся вынікам філязафіч-
ных разважаньняў. І падобнае можна сказаць што най-
меней пра палову тых, што прыйшлі зь неба і дазна-
лі гэтакае расчараваньне, бо яны ня мелі дасьвед-
чаньня і ня былі дастаткова загартаванымі ў труд-
насьцях. Але тыя, што прыходзілі зь зямлі, мелі за
сабою цярпеньні і бачылі церпячых, і яны не сьпя-
шаліся з выбарам. Затым, ці гэта дзякуючы адсут-
насьці дазнаньня, ці затым, што ўсё адбывалася на
шляху прыпадкавасьці, шматлікія душы заменьвалі доб-
рую долю на горшую, і горшую на добрую. Бо, калі
чалавек, прыходзячы ў гэтае жыцьцё, адразу прысьвя-
чаў сябе здаровай філязофіі, і пры выбары жэрабя
быў адносна шчасьлівым, тады, паводля словаў апа-
вяшчальніка, ён барждзэй будзе шчасьлівым тут, але
і ягонае падарожжа ў іншае жыцьцё і назад сюды, бу-
дзе не падзямельным і камяністым, але гладкім і ня-
бесным.

Найболей цікавым, казаў далей Эр, быў сам спазор
таго, што адбывалася – сумны, сьмешны і дзіўны. Бо 620
выбар, чынены душамі, у большасьці выпадкаў, адбы-
ваўся на падставе дазнаньня папярэдняга жыцьця. На-
прыклад, ён бачыў там душу, якая была калісьці Ор-
фэушам і цяперака выбрала сабе жыцьцё лебедзя, а гэ-
та з прычыны ненавісьці да жаночага роду, бо жанчы-
ны забілі яго, і з боязі, каб зноў не радзіцца з
жанчыны. Ён бачыў душу Тамірысы, якая выбрала жыць-
цё салаўя. З другога боку, птушкі, як лебедзь, і ін-
шыя пяюны, выбіралі сабе жыцьцё людзей. Душа, якая
мела дваццатае жэрабя, выбрала жыцьцё ільва: гэта
была душа Айаса, сына Тэлямона, каторы не хацеў быць
чалавекам, памятаючы несправядлівасьць прысуду ў су-
вязку са справаю ўзнагароды аружжам. Наступным быў
Аґамэмнон, які ўзяў жыцьцё арла, бо, падобна, як
Айас з прычыны цярпеньняў, ён гэтаксама няпрыхіль-
на ўсуадношваўся да людзкае натуры. У міжчасе вы-
паў лёс для Аталянты; спасьцярогшы, якою вялікаю
славаю цешыцца пераможнік на спаборніцтвах, яна не
ўстаяла перад спакусаю і выбрала сабе жыцьцё атле-
ты. Пасьля яе ён бачыў, як душа Эпэйёса, сына Па-
нопэуса ўваходзіла ў натуру жанчыны, здольнай у мас-
тацтвах. Недзе далёка, сярод самых апошніх, ён спа-

сьцярог душу блазна Тэрзітэса, якая ўваходзіла ў
налпу. Тады падыйшла душа Одыссэуша, каб даканаць
выбар, і здарылася, што ягонае жэрабя было апошнім
з усіх. Яна прыпамінала ранейшыя цяжкія працы і гэ-
та асвабадзіла яе ад усякага куражу, доўга вандра-
вала з мэтаю знойдзеньня жыцьця звычайнага чалаве-
ка, здаля ад людзкага гоману; нарэшце, пасьля доў-
гіх натугаў яна знайшла яго – бо-ж ім пагарджалі
ўсе – але душа Одыссэуша, як толькі пабачыла яго,
зараз-жа выбрала сабе, сказаўшы пры гэтым, што гэтае
самае яна ўчыніла-б і ў тым выпадку, калі-б ёй за-
мест апошняга, выпала першае жэрабя. I ня толькі
людзі пераходзілі ў зьвераў, але, я мушу ўспомніць,
што былі там рахманыя і дзікія зьверы, якія зьінач-
валіся адзін у ваднага і, у вадказваючую іхнай на-
туры, у людзкую постаць: несправядлівыя – у дзікіх,
а справядлівыя – у ласкавых; коратка, адбываліся ў
вялікай ступені рознаякія зьмешваньні.
I напасьледак, калі ўсе душы выбралі сабе тое ці
іншае жыцьцё, яны ў чарговасьці жэрабя пачалі па-
дыходзіць да Ляхэсіс. Якога хто выбраў сабе гэнія,
гэтакага яна зь ім і пасылае, як старожу жыцьця і
завяршальнікам дакананага выбару. Перад усім, гэты
старожа вядзе душу да Клёто, пад яе руку і пад ко-
лаабароты верацяна, якое знаходзіцца ў абяртаньні,
і гэтым ён урачыста зацьвярджае долю, якую хто вы-
браў сабе паводля жэрабя. Пасьля дотыку да Клёто,
ён вядзе да пражы Атропос, чым чыніць ніці жыцьця
62I ўжо назаўсяёды няўхільнымі. Згэтуль душа, не агляд-
ваючыся назад, набліжаецца да трону Неабходнасьці
і праходзіць пад ім; і калі яны ўсё гэта мінаюць,
яны далей разам ідуць у страшэнай гарачыні і сьпяко-
це, і накіроўваюцца на раўніну Забыцьця, якая са-
бою прадстаўляла голую пустыню, бяз дрэваў і рась-
ліннасьці. I толькі падвечар яны расклаліся пры ра-
цэ Бястурботнасьць, вада якое ня можа ўтрымацца а-
ні ў я́кім зьмяшчальніку; з гэтае вады яны павінны
былі выпіць пэўную колькасьць, і тыя, каторыя ня кі-
раваліся мудрасьцю, пілі болей, чымся патрэбным бы-
ло; і кажны, хто піў, забываўся пра ўсё. Цяперака,
калі яны ляглі спаць, зараз апоўначы расхадзілася
бура з грымотамі і землятрусам, і раптам усе яны
былі падкінутымі ўверх і панесьліся быццам тыя зо-
ры на небе, на розныя месцы іхнага нараджэньня. Але
Эру не дазволена было адведаць гэтае вады. Зноў-жа,
я́к або якім спосабам ён вярнуўся ў цела, ён ня ве-
дае. Адно толькі ведае, што прачхнуўшыся аднойчы
раніцаю, ён убачыў самога сябе, лежачага на вогні-

шчавым уздыме.

Гэтакім вось спосабам, Ґляўкон, пераказ гэты ўратаваўся і не загінуў; ён і нас уратуе, калі астанемся вернымі ягоным словам; тады гэтаксама і мы шчасьліва пяройдзем раку Бястурботнасьці, і не апаганім душы свае. І пры кажнай нагодзе, хай рада мая будзе, што мы павінны заўсёды натужна трымацца нябеснага шляху, ідучы за голасам справядлівасьці і мужнасьці ў кажным выпадку, маючы на ўвазе, што душа наша зьяўляецца несьмяротнаю і здольнаю ператрываць гэтак любое зло, як і дабро. Затым, будзем жыць, дорачы сяброўствам адзін аднаго, гэтак, як і глыбокаю пашанаю багоў падчас нашага жыцьця тутака, як і ў часе, калі, як пераможнікі ў спаборніцтвах, якія зусюль зьбіраюць дары, гэтак і мы зьбярэм нашыя ўзнагароды; і адначасна тут і ў тым тысячалетнім вандраваньні, пра якое мы разважалі, добра будзе нам.

ЗАЎВАГА А:

На бачыне I2I апошні абзац павінен чытацца:
- Я адкажу табе, - сказаў я. - Пераконаньне можа выпасьці са сьведамасьці чалавека або ў сузгоднасьці зь ягонаю воляю, або наўсуперак ёй; у сузгоднасьці зь ягонаю воляю - тады, калі ён, разважыўшы ў сабе, адкідае хвальшывы пагляд і пазнаé нешта лепшае, /4I3/ а супроць ягонае волі - калі ён, пад узьдзеяньнем вонкавых чыньнікаў, пазбаўляецца веданьня праўды.

ЗАЎВАГА

На бачыне 96 апошні абзац павінен чытацца:
- Гэтаксама не пераймаць манераў дрэнных людзей, будуць гэта баязьлівыя ці якія-небудзь іншыя, якія вырозьніваюць сябе супроцьлежнасьцямі таго, штó мы толькі-што ўзналі за годнае для чалавека - якія лаюцца, высьмейваюць іг.д.

На бач. 97, 2I-шы радок зьнізу павінен чытацца: небудзь перакazваньня і г. д.

На бач 97, з I8-га радка тэкст павінен чытацца: пераймаиньня: ён будзе найляпей адтвараць ролю добрага чалавека, калі дзейнічае ён рашуча і мудра; і ў меншай ступені, калі... іг.д.

На бач. I05, трэйці радок зьнізу павінен чытацца: дыйдзе разумовая здольнасьць... і г.д.

ІНДЭКС